# ІВАН МЕЛЕЖ

## ЗБОР ТВОРАЎ У ДЗЕСЯЦІ ТАМАХ

Рэдакцыйная калегія:

АДАМОВІЧ А. М., БРЫЛЬ І. А., АНДРАЮК С. А.,
ДЗЮБАЙЛА П. К., КАВАЛЕНКА В. А., МУШЫНСКІ М. І.,
НАВУМЕНКА І. Я., ПШЫРКОЎ Ю. С.,
ПЯТРОВА-МЕЛЕЖ Л. Я., САЧАНКА Б. І.

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1980

# ІВАН МЕЛЕЖ

## ТОМ 3

## МІНСКІ НАПРАМАК

Раман у трох кнігах

*Кніга першая*

ХМАРЫ НА СВІТАННІ

РЭДАКТАР ТОМА
С. А. АНДРАЮК

ПАДРЫХТОЎКА ТЭКСТУ,
ТЭКСТАЛАГІЧНЫ І ГІСТОРЫКА-ЛІТАРАТУРНЫ
КАМЕНТАРЫЙ
Л. М. МАЗАНІК

**Мінск**
**«Мастацкая літаратура»**
**1980**

*Зямля наша. Белапенныя бярозавыя гаі, сінявата-асмужаныя хвойнікі на ўзгорчатых прасцягах. Нясціхны шэпт чаратоў на Пінскіх балотах. Старадаўнія сцены Віцебска і Турава, новая, велічная краса мінскіх і гомельскіх вуліц...*

*Спакойна, мірна веюць вятры над тваімі палямі, над рэкамі тваімі. Харошая, цудоўная ты пад гарачым паўдзённым сонцам — уся ў ззянні, уся ў буйным цвеце. Але прайдзі па сцежках, па траве тваёй — і ўбачыш: па ўсёй зямлі яшчэ — з краю ў край — іржа асколкаў, раны-рубцы незарослых акопаў. Яшчэ нібы патыхае з лесу дымам партызанскага вогнішча... Яшчэ, здаецца, не заціх стогн пачарнелай ад гора ўдавы...*

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## РАЗДЗЕЛ I

### 1

Шабуніха стала. Грэбелька раптам абрывалася, далей была твань.

Жанчына зморана паглядзела наперад: сухі беражок віднеўся не бліжэй як за сотню крокаў. Людзі, што ішлі туды, грузлі ў твані ледзь не да пояса. Аўдоцця з жалем зірнула на дачку, як бы для таго, каб пераканацца, ці пройдзе тая. Загадала хлопцу, старэйшаму свайму:

— Андрэй, стань з таго боку. Вазьмі Вольку за руку. Памагаць будзеш ёй... Цыц ужо ты! — строга сказала малому, што нясціхна вёў за спіною: ны-ы, ны-ы.

Аўдоцця мацней сціснула тонкую руку дзяўчынкі, перасільваючы стому ў нагах, ва ўсім целе, маўкліва ступіла следам за ўсімі. Ногі адразу ўехалі вышэй каленяў у мяккую цеплаватую гушчу. Неўзабаве яна адчула галлё — гэта былі, відаць, рэшткі разбітай ці размытай грэбелькі.

Лезлі па твані марудна. Твань абхоплівала Вольку амаль да грудзей. Дзяўчынка, змучаная, знясіленая, раз-пораз спынялася, крывілася, хацела заплакаць. Ледзь стрымлівалася. Андрэй падбадзёрваў яе:

— Хіба гэта балота! От мы на тым тыдні лавілі рыбу, дык заходзілі па шыю — і то нічога...

Выбраўшыся на сухі грудок, Шабуніха, не спяшаючыся, выцерла пот з ілба, павярнулася назад. Глядзела нерухома ўдалеч. На твары з рэзкімі, амаль мужчынскімі рысамі, з плямамі засохлай крыві і гразі быў адзін застылы выраз трывогі і зморанасці.

У тым баку, куды глядзела Аўдоцця, над лесам клубілася чорная хмара дыму. Яна паднялася высока, шырока. Цёмна-шэрыя, панурыя воблакі абапал яе былі падобныя да дыму. Здавалася, што гэта не воблакі, а таксама дым. Усё неба зацягнута дымам.

Хоць адышла ўжо Аўдоцця ад лесу, дзе была цяпер бяда, нямала гнялі яе трывога і разуменне няпэўнасці жыцця. Мацнела неспакойная думка:

«Што там?»

Там, дзе засталіся партызаны, дзе яе Змітро.

Каля Шабуніхі праходзілі, не спыняючыся, людзі, такія ж, як і яна, Аўдоцця, стомленыя, устрывожаныя, маўклівыя. Старыя, маладыя, жанчыны, дзеці, з клункамі, без клункаў. Часам між людзей паслухмяна брылі каровы і коні, і здавалася, яны таксама разумеюць усё, што дзеецца навокал.

Балота хлюпала, чвякала, уздыхала.

Зноў, ужо нібы збоку, бачыла: людзі ішлі і ішлі. Там і тут на грэблі былі відаць забітыя — людзі, коні, каровы. Забітыя з самалётаў. Горбіліся кінутыя калёсы. Непадалёк гінулі конь і карова, загрузлыя ў твані збоч грэблі. Знясілена тузаліся, хацелі выбрацца...

Шабуніха адвярнулася, папраўліла на сабе хустку, узяла за руку дачку і рушыла далей.

— Божа мой... Божа мой...— пачула поруч з сабой Шабуніха.

Яна азірнулася на голас, убачыла старую жанчыну са схуднелым, знямоžаным тварам. За плячыма ў старой вісеў клунак, напэўна, з дамашнім скарбам.

— Божа мой... І — куды? Куды,— каб ведалі!..— пыталася яна, ні да каго не звяртаючыся.

Аўдоцця ішла маўкліва. Не было ніякіх думак, хацела аднаго — дайсці б хутчэй. Легчы на траву, выпрастаць здзервянелую спіну, даць спачын натруджаным нагам.

— Любка! Люба-а! — клікаў нечы сіплы голас.— Люба-а! А-а-а...

Аўдоцця ўбачыла непадалёк дзяўчынку, што ішла адна. Сукенка малой на плячы была парвана, тонкія ножкі залеплены граззю. Шабуніха пацягнула яе за вострае плячо.

— Гэта не цябе клічуць?

— Не...— абыякава адгукнулася тая, нават не зірнуўшы на Аўдоццю.

— А як цябе зваць?

— Воля Рыгорава... З Забалоцця я...

Старая, што скардзілася богу, ужо ўвесь час брыла побач. Было відаць, старалася трымацца бліжэй, быц-

цам знайшла надзейную таварышку. Аўдоцця моўчкі прыняла яе ў таварышкі: цяжка ступаючы, увесь час чула поруч старую; і калі жанчыны раптам не аказалася побач, Аўдоцця мімаволі азірнулася.

Старая памутнелымі вачыма пазірала на траву, збіралася сесці.

— Што ты? — з непакоем вярнулася да яе Шабуніха.— Не трэба адставаць!

Старая дыхала зморана, з хрыпам. Нейкі час маўчала, нібы не разумела, што ёй кажуць, потым абыякава кіўнула галавою:

— Усё роўна... Не магу больш.

Аўдоцця ўзяла яе пад паху, падтрымала. Старая, адчуўшы падмогу, абаперлася і выпрасталася крыху.

— Пойдзем,— сказала сурова, але спагадліва Шабуніха.— Так лягчэй?

— Лягчэй,— кіўнула жанчына.

Яны разам пабрылі па грэблі. Потым грэбля кончылася, і яны пайшлі па куп'і. Пачаўся дробны забалочаны лясок, у якім худыя алешынкі-недаросткі мяшаліся з рэдкімі бярозкамі. Абмінулі моўчкі вялікую варонку ад бомбы, напоўненую да паловы рудой балотнай вадою. На вывернутай зямлі пры дарозе ляжалі забітыя з пачарнелымі тварамі. Над імі ніхто не плакаў, не жахаўся. У кожнага сваё гора.

Час ад часу Аўдоцця ўстрывожана пазірала ў хмарнае неба, недаверліва прыслухоўвалася, ці не набліжаецца няроўнае перарывістае завыванне. І разам з тым нязменна слухала зацятую спрэчку кулямётаў, у якую раз-пораз убіваліся цяжкія выбухі гармат.

Яна зноў спынілася і паглядзела назад. Там муж, Змітро,— там многа знаёмых партызан б'юцца насмерць з карнікамі.

Ці ўтрымаюцца? Ці выжывуць?.. Грудзі Шабунісі сціснулі страх, туга. «Змітро, беражыся, глядзі!» — нема падумала, папрасіла яна.

## 2

Дзве ці тры гадзіны пазней рота Змітра Шабуні ў ляску ўскрай балота вяла цяжкі бой. Яна прыкрывала адыход брыгады.

Здагадаўшыся, што галоўныя сілы партызан стараюцца адысці, уратавацца, немцы люта навалілся на

роту. На стомленых, лічаных людзей, прыціснутых да балота.

Адна за адной ішлі моцныя атакі.

Снарады і міны лажыліся спераду, ззаду, збоку. Здрыгалася зямля. Шыбалі ўгару цёмныя стаўбуры дыму, востра бліскала полымя. То ў адным месцы, то ў другім узляталі маладыя сасонкі, вырваныя з карэннем, кружачыся, падалі ў хмарах пяску; сыпаліся ссечаныя асколкамі галінкі.

Адна міна ўцэліла ў ствол сасны. Коратка бліснула полымя, і дрэва пераламалася. Тонкая стромкая вяршыня, акрэсліўшы лапчастаю макаўкаю дугу, моўчкі апусцілася на зямлю. Застаўся цяпер тырчаць толькі камель з вострым белым верхам.

Калі раптам сціхла, Туравец не адразу пачуў, што настала цішыня, у вушах яшчэ звінела. Ён атрос пясок, які насыпаўся за каўнер, прачысціў вушы... Было так ціха, што ламала скроні.

Ад чалавека да чалавека пайшло: сястру на правы фланг. Туравец праз хвіліну заўважыў, як Ніна — сястра — прыгінаючыся, ад дрэва да дрэва прабегла паўз яго.

Па пясчаным адхоне поўз, растаючы, горкі белаваты дым. Ад яго душыла ў грудзях і шчымела ў горле.

— Зараз пойдуць...— сказаў поруч з Тураўцом Шабуня, поўны, з абвіслымі вусамі, немалады чалавек.

У голасе камандзіра роты Туравец пачуў непрыхаваную трывогу. Ён міжволі зірнуў на Шабуню — той глядзеў наперад, дзе былі немцы. На яго віслых вусах — чамусьці кінулася ў вочы камісару — ліпелі камячкі пяску.

Шабуня, не адрываючы позірку ад гітлераўцаў, гаварыў:

— Пратрымацца б — пакуль сцямнее... Знімемся, як толькі пачне цямнець. Я выведу, я тут ведаю кожную сцежку...— Ён запыніўся і раптам вылаяўся.— Пайшлі... От, сволата!

Туравец, які сачыў за полем, убачыў наводдалек постаці. Яны былі ледзь прыкметны на цёмнай сцяне ельнічку.

Немцы ішлі павольна, нястройным ланцугом, то сціскаючыся ў купкі, то разыходзячыся. Каб не гэты рух, адсюль здавалася б, што яны стаяць на месцы.

На полі там і тут — асабліва бліжэй да лесу — былі відаць трупы ў шэра-зялёнай вопратцы, нямала трупаў, а гітлераўцы зноў ішлі. Пазіраючы на постаці, што набліжаліся, Туравец адчуў, як цела цяжэе ад напружанага чакання.

— Упартыя!.. чортавае племя! — вылаяўся Шабуня.

Гэта было трэці раз. Трэцяя атака. Амаль не зводзячы позірку з немцаў, Туравец заўважыў вялікую рудую мурашку, што спакойна і дзелавіта паўзла з паклажаю па пясчанай лысінцы між рэдкіх кусточкаў травы. «Бач ты! — здзівіўся мелькам камісар.— Тут, здаецца, канец свету, а яна і не шманае. Маўляў, што мне да вас, да ўсяго, у мяне свой клопат!..»

Раптам з ельнічку, адкуль выйшлі салдаты, вынырнула прыземістая, падобная да чарапахі, машына і, пакалыхваючыся з боку на бок, пераганяючы пехацінцаў, рушыла ў поле. Следам за ёй паказалася другая.

— Танкі! — крыкнуў нехта.

Шабуня кінуў на Тураўца быстры позірк, у якім былі відаць неспакой і трывога. Ён нібы шукаў падтрымкі ў Тураўца. У наступную хвіліну Шабуня ўжо камандаваў:

— Бранябойшчыкі-і-і... па танках! Падрыхтаваць гранаты!..

Спераду адной машыны бліснуў агеньчык, і на ўзлессі нізка, са свістам ірвучы паветра, шугануў снарад.

Туравец, схапіўшы дзве гранаты, што ляжалі ў ямцы між карнявішча, крыкнуў на хаду Шабуні: «Я ў першы ўзвод!» Ён, нагінаючыся, хутка пабег між дрэваў. Чуў: над галавой шуганула яшчэ некалькі снарадаў, але Туравец не кінуўся на зямлю. Ужо калі ўпаў ля партызана першага ўзвода, пачуў поруч стрэл бранябойкі. Бранябойшчык, з мокрай ад поту скронню, дрыготкімі, хапатлівымі рукамі зарадзіў ружжо зноў і нібы прырос да яго, не зводзячы вачэй з цэлі, не заўважаючы нічога іншага.

Забітага камандзіра ўзвода замяніў Васіль Крайко, бялявы, з блакітнымі вачыма хлопец у нямецкім афіцэрскім мундзіры і пілотцы з зоркаю.

— Ну што, салдаты,— горача? — знарок весела прамовіў Туравец.

Васіль нічога не сказаў. Камісар брыгады асцярожна выглянуў з-за камля сасны — танкі, прыземістыя, злавесныя, упарта набліжаліся. Яны рушылі паволі, напэўна, таму, што баяліся адарвацца ад пехацінцаў, якія, хаваючыся за бранёй, ішлі ўслед за танкамі.

— Дай наперад чалавека з гранатамі,— сказаў камісар.

Па твары Васіля Туравец бачыў, што ён разумее, які чалавек патрэбны. Значыцца, не трэба гаварыць, што гэты чалавек можа і не вярнуцца адтуль, але паслаць яго неабходна. Ён павінен затрымаць машыну, не дапусціць сюды.

У тую ж хвіліну Туравец заўважыў, што паблізу хтосьці ўскочыў і рынуўся да зараснікаў, якія былі ззаду. Ён кінуў позіркам туды: партызан бег, утуліўшы галаву ў плечы. Трусліва ратаваўся.

Туравец, хуткі і рашучы, ускінуў аўтамат,— у чорных вачах бліснулі жорсткія агеньчыкі.

— Куды? Стой! — гнеўна крыкнуў ён і даў чаргу. Папярэдзіў: калі той не паслухаецца — застрэліць. Не вагаючыся.

Уцякач прысеў нерашуча.

— Назад!

Той неахвотна паслухаўся, згорбіўшыся, баязліва зіркаючы, падаўся да свайго месца.

— Эх ты, ваяка! — насмешліва, голасна сказаў Туравец.— Танкаў напалохаўся! Не бачыў іх ніколі?

У гэты час ён пачуў радасны вокліч Васіля. Не разумеючы яшчэ, што здарылася, павярнуўся да яго. Хлопец, не зводзячы вачэй з поля, радасна, ашалела крыкнуў:

— Гарыць!

Адзін танк стаяў нерухома і густа дымеў. У радах, што ішлі за ім, было замяшанне. Некаторыя пападалі на зямлю, бязладна адстрэльваліся, аглядваліся назад.

Другі танк таксама прыпыніўся. Але адразу ж адкрыў па ўзлессі лютую, няспынную страляніну. Потым, зароўшы, ірвануўся з месца і, як раз'юшаны звер, памчаў на ўзлессе, на партызан. Насустрач яму, спяшаючыся, загрукалі бранябойкі.

Схапіўшы гранаты, Крайко выглянуў з-за дрэва, выбраў зручную хвіліну і ўюном хутка папоўз наперад.

— Чаму сам? — хапіўся Туравец.

Васіль ужо нічога не чуў. Ён поўз, тулячыся да пасечаных кустоў, прыхоўваючыся вывернутай выбухамі зямлёй.

— Гра-на-а-а-ты! — крыкнуў Туравец, але ў грукаце страляніны словы яго мала хто пачуў. Ён паспешна ўставіў у гранату запал, сціснуўшы яе, падняў, паказаў усім.

Трывожна акінуў вачыма партызан, як бы правяраючы, ці не падвядуць.

Ён пачуў у перапынку між чэргаў натужны шум матора. Зямля дрыжала. Туравец выглянуў — танк ішоў не на яго пазіцыю, а збочыў, кіраваў прыкладна туды, дзе знаходзіўся камандны пункт Шабуні. За танкам пыхкаў струменем дым і валаклася хмарка пяску.

Мала хто бачыў, як з варонкі, ля зрэзанага амаль да зямлі куста, з боку ад танка, мільганула жвавая бялявая галава, хутка ўскінулася рука. Яны адразу зніклі з вачэй, і амаль тады ж з-пад гусеніцы танка кораткa блiснуў агонь. Ледзь чутна грукнуў выбух. Але танк раптам дзіўна і рэзка хіснуўся, парнуў перадам, нібы спаткнуўшыся, асеў на адзін бок. З разлёту ён зрабіў круты круг і павярнуўся да ўзлесся задам. Нібы сабраўся вярнуцца.

Ухапіўшы вострым слыхам, што кулямёт б'е не ў яго бок, Туравец выглянуў. Танк стаяў як укапаны, нахіліўшыся, ахутаны пылам і дымам. Вежа яго хутка паварочвалася, неўзабаве з яе зноў забіў кулямёт. Танк абараняўся, чакаў, пакуль падыдуць пехацінцы. Але партызаны перад ім займалі даволі шырокі прасцяг, з імі цяжка было ўправіцца. Вежа танка безупынна круцілася. Ён нагадваў параненага звера, які не можа ўжо кінуцца наперад, але яшчэ мае сілы агрызацца.

У яго то адсюль, то адтуль кідалі гранаты, большая частка якіх не далятала. Узрадавана білі з бранябоек і вінтовак.

Танк пачаў дыміцца. Дымок цягнуўся спачатку нaскупымі струменямі. Потым на вежы паднялася накрыўка люка, і разам з клубамі дыму, што густа вырвалася ўгару, на зямлю вываліўся танкіст.

Тады ўвесь агонь быў скіраваны на пехацінцаў, якія набліжаліся да сваёй машыны. Салдаты не спыніліся, не залеглі, а яшчэ напорней кінуліся наперад.

Вось яны ўжо абышлі машыну. Яны ўсё бліжэй, бліжэй. Ужо добра відны іх злосныя, потныя, распаленыя твары, мокрыя, зліплыя валасы...

Яны ўжо каля самага ўзлесся!..

Тое, што было далей, Тураўцу запомнілася не звязанымі, зблытанымі ўрыўкамі. Кароткай чаргой ён ва ўпор забіў аднаго салдата і раптам заўважыў, што дыск апусцеў. Збоку на яго наляцеў карнік, нацэліўся аўтаматам, і, мусіць, Туравец не ўправіўся б абараніцца, але нехта з партызан у той міг ударыў аўтаматчыка прыкладам па галаве.

...Ледзь толькі немцы пачалі адступацца, Туравец, як падхоплены хваляй, выскачыў з лесу. Ён чуў сябе дужым і лёгкім.

— Першы ўзвод! За мной!

Не азіраючыся, ён кінуўся за ўцекачамі, адчуваючы, што партызаны рушылі следам...

Толькі пасля таго, як, задыханыя, радуючыся перамозе, сталі вяртацца, Туравец заўважыў, што левая рука яго ные і рукаў намок ад крыві. Кроў запырскала гімнасцёрку і штаны. Калі яго параніла?.. Ён адчуў, што рука дзіўна пацяжэла. Падтрымліваючы яе здаровай рукой, зацісну́ўшы пальцам артэрыю, Туравец пайшоў да акопа.

— Дайце я перавяжу, таварыш камісар,— пачуў ён раптам голас Васіля Крайко.

Туравец мігам павярнуўся да хлопца, узрадаваўся: жывы і нават не паранены!

Васіль узяўся перавязваць Тураўцу рану. Хлопец яшчэ гарэў ад нядаўняга запалу, і рукі яго непаслухмяна дрыжалі.

— Далі мы ім, таварыш камісар! Відаць, больш не сунуцца.

— Не сунуцца, кажаш? Чорт іх ведае, сунуцца ці не,— адказаў камісар.— А што далі, то далі! Па-сапраўднаму адсыпалі.

— Поўнаю меркай!

Туравец агледзеўся. Усюды былі сляды нядаўняй бойкі. Поблізу ляжаў забіты салдат, другі, крыху далей, курчыўся ў перадсмяротнай агоніі. Побач з немцам, закінуўшы галаву, шырока адкрыўшы ў страшным крыку рот, знерухомеў назаўсёды забіты пар-

тызан. Мёртвы, ён яшчэ нібы крычаў пра боль, пра перадсмяротную пакуту. Зусім яшчэ малады, амаль хлапчук. Калі Туравец убачыў гэта, твар яго спахмурнеў і радасць сцішылася. Адразу больш заныла рана,— не ў тым месцы, дзе яна была, а вышэй, у локці.

У тую ж хвіліну ён улавіў, як нехта сказаў:

— Камандзіра роты забілі...

— Каго? — трывожна ўскінуўся ён.— Шабуню?..

Туравец, прытрымліваючы параненую руку, пабег да Шабуні.

Змітро ляжаў на траве, гімнасцёрка яго была задрана, і страшна бялеў жывот з танюсенькай істужкай крыві. Тураўцу кінулася ў вочы: Змітро стаў дзіўна непадобны на сябе. Твар быў бледны, бяскроўны, як у мёртвага; віслыя рудаватыя вусы здаваліся рэдкімі, на іх усё яшчэ ліпелі пясчынкі. Вочы былі заплюшчаны.

Каля яго наўколенцах, спалохана аглядаючы голы яго жывот, маленькую, амаль нявідную ранку, стаяла Ніна.

— Што ў яго?

— Кулявая. У жывот...— адказала шэптам яна.

Камісар хутка нахіліўся да Шабуні, узяў руку і адчуў ціхі, кволы адлік пульса.

Шабуня стомлена, з намаганнем расплюшчыў вочы, але позірк яго быў чужы і невідучы. На міг вочы затрымаліся на гімнасцёрцы камісара, потым абыякава глянулі некуды ў неба і заплюшчыліся.

Ніна выняла бінт, пачала рабіць павязку. Перавязвала яна ціха, асцярожна, баючыся зрабіць балюча, твар яе пры гэтым перасмыкаўся ад болю, нібы раненай была яна сама.

Туравец адной рукой дапамог ёй павярнуць Шабуню на бок.

Шабуня застагнаў ад болю і апрытомнеў. У цьмяным позірку мільганула занепакоенасць. Туравец нахіліўся да яго.

— Ну, што... фрыцы?..

— Адбілі, Змітро. Адагналі фрыцаў. Ледзь уцяклі, гады. Паказалі пяты. А многа палажылі тут. Назаўсёды. Абодва танкі спалілі.

— Адбілі,— паўтарыў Шабуня і, памаўчаўшы, як бы збіраючыся з думкаю, прамовіў ціха: — Шкада...

— Чаго шкада? — не зразумеў Туравец.
— Не ў час... Шкада...
Шабуня зноў заплюшчыў вочы. Туравец падклаў яму пад галаву згорнуты пінжак, каб зручней было ляжаць, і загадаў хлопцам вынесці Змітра за лясок, да балота, дзе былі ўсе раненыя. Ніне сказаў:
— І ты ідзі туды, глядзі за ім. Зрабі ўсё, што можна...
Пaглядзеўшы сумна ўслед Шабуні, Туравец паклікаў Дразда, дробнага, з чырвоным тварам чалавека, камандзіра другога ўзвода, і загадаў прыняць роту.
Прысеўшы потым каля дрэва, абапёршыся спіною аб шурпаты паранены ствол, каб перадыхнуць, ён неўспадзеўкі пачуў, як у перапынкі між рэдкіх стрэлаў мірна шумяць-гамоняць вяршыні сосен ды дзяўбе недзе сухадрэвіну дзяцел: дук-дук-дук-дук.
Сонца хавалася за поле. Здавалася, вось-вось магло падпаліць усё. Поле нібы бралася полымем.
Туравец заклапочана думаў аб тым, як ён будзе з партызанамі выбірацца адсюль, з гэтага лапіка зямлі. Ім цяпер застаўся адзін шлях — па балоце, па незнаёмых гнілых сцежках. Карта тут мала чым можа дапамагчы, на ёй толькі відаць вялізная, з блакітнымі рыскамі пляма. Яна не гаворыць аб тым, дзе і як можна прабіцца змораным людзям, якім трэба несці на сабе раненых і зброю.
«Тут жа недзе Дрозд працаваў да вайны! Недалёка адсюль!» — успомніў ён. Туравец загадаў паклікаць Дразда. Калі той падышоў, запытаўся, ці добра ведае балоты, ці зможа ўночы правесці цераз іх.
— Цяжкавата, Нічыпар: разліліся вельмі яны, балоты...
— Разліліся...
— Але нічога,— супакоіў Дрозд Тураўца,— думаю, што выведу...

3

Як толькі павечарэла, Туравец даў загад адыходзіць. Людзі між сосен адразу заварушыліся, пачалі вылазіць з ямак, з-за дрэваў, пацягнуліся з узлесся да ратоўнага балота.
Па ціхіх галасах, што адразу пажвавелі, Ніна Лагу-

новіч адчувала, як узрадаваліся людзі загаду. Іх мала непакоіла тое, што будзе заўтра, гэта, здавалася, было дзесьці далёка, да гэтага трэба было яшчэ дажыць. Іх больш хвалявала блізкае: вось пойдуць — і не будзе зараз трывогі такой і смерці.

Вечар быў ціхі і цёплы. Карнікі адпачывалі. З-за ельнічку даносілася чужая п'яная песня з выкрыкамі ды час ад часу кулямётныя чэргі дазорных, якія, мусіць, нудзіліся ў адзіноце...

«Ну вось, Аляксей, мы і скончылі дзень! Нялёгкі быў гэта дзень»,— праплыло ў Ніінай галаве. Ён даўно быў далёка, яе Аляксей, яе друг, яе муж, але яна ўвесь час адчувала яго поруч і часта, ці ў горы, ці ў радасці, нібы гаварыла з ім.

Даўно не бачыліся Ніна і Аляксей. Ён пайшоў у армію яшчэ да вайны, зімою, калі Ніна вучылася ва універсітэце, на апошнім курсе. Толькі паўгода яны і пражылі разам. Затое якія гэта былі паўгода: іншыя, напэўна, пражыўшы ўсё жыццё, не маюць столькі шчасця, колькі яны за тыя хуткія месяцы.

З першага ваеннага лета ад яго не было ніякіх вестак. І тады, калі кожны дзень і кожная гадзіна ў акупіраваным горадзе таілі небяспеку, і пазней, калі яна жыла ў атрадзе, усе гэтыя тры доўгія гады разлукі, Аляксей быў заўсёды з ёю. Падтрымліваў, абнадзейваў, даваў дужасці.

Робячы што-небудзь, Ніна звычайна думала, як бы на гэта паглядзеў Аляксей. І калі здавалася, што ён быў бы задаволены, радавалася.

Дзе ж ты цяпер, Аляксей?!

...Яна ўсё далей заходзіла ў лес, у якім яшчэ нямала траплялася варонак. Ногі і тут чаплялі ссечанае галлё.

Стала спускацца з пагорка ўніз і неўзабаве апынулася на куп'істай мяккай сенажаці. Шум крокаў, заўважыла Ніна, адразу змяніўся: не было чуваць больш трэску сухіх галінак, ногі аднастайна шорхалі ў высокай някошанай траве. У твар патыхнула халоднай балотнай вільгаццю.

Цемра хутка гусцела — закрывала не толькі кусты наводдаль, але і траву пад нагамі. «Як яны вядуць у такой цемры?» — мелькам падумала Ніна пра Тураўца і Дразда, якія ішлі ўперадзе.

Усе брылі моўчкі,— адчувалася, што людзі вельмі стаміліся. Было толькі чуваць, як шорхае трава пад нагамі ды часам рэзка бразгае жалеза.

Хутка мясціна, па якой ішлі, пагоршылася — зямля пад нагамі ўгіналася, пахіствалася. Усё часцей пачалі правальвацца нагамі, чвякаць тванню. Пачалася дрыгва.

У адным месцы пад тванню Ніна адчула слізкі, цвёрды пласт. «Лёд яшчэ...»

Партызаны, якія неслі Шабуню, часта спыняліся перадыхнуць: Шабуня быў поўны целам, важкі.

Напэўна, ад начной прахалоды ён зноў апрытомнеў.

— Хто вядзе роту? — перамагаючы боль, запытаў ён.

— Дрозд...

— Дрозд?..— Ён памаўчаў, папрасіў, каб паклікалі Тураўца.

Туравец неўзабаве падышоў.

— Нічыпар, ты?.. Прашу...— Шабуня гаварыў нязвычна, перарывіста, з прыдыханнем.— Паклапаціся, Нічыпар, пра маіх... малых... Перадай жонцы...— Ён памаўчаў, ці то думаючы, ці то збіраючы сілу, але так і не дагаварыўшы, што перадаць, запытаўся:— Ты чуеш?

— Чую, Змітро,— чую!

— Нічыпар...

— Што?

Ён раптам ціха, рашуча прамовіў:

— Пакінь мяне...

— Чаму гэта — пакінуць?

— Хопіць, Нічыпар... мучыць людзей...

Шабуня спакойна скончыў:

— Мне ўсё роўна мала засталося...

Ніна ведала, што Шабуня пражыве нядоўга. Ведала яна і тое, як пакутаваў ён ад болю, і з павагай адзначала, што, калі быў прытомны, ён не стагнаў. Толькі калі было вельмі балюча, лаяўся.

Ніна чакала: што Туравец адкажа на просьбу камандзіра роты. Паспрабуе давесці, заспакоіць, што ён выжыве? Скажа няпраўду, якой падтрымліваюць слабых і даверлівых?

— Не кажы глупства, Змітро! — знарок няласкава, строга, быццам загадваючы, прамовіў Туравец.

Ніне спадабаўся тон гаворкі Тураўца. З Шабуняй інакш нельга.

Нібы падмацоўваючы свае словы, Туравец здароваю рукою ўзяўся за біла насілак, Шабуня паспрабаваў пярэчыць, але нечакана замармытаў штосьці незразумелае: пачалося трызненне.

Наперадзе цьмяна зашарэла шырокая паласа вады. «Што гэта? — стала ўзірацца Ніна.— Разліва якая ад балота? Ці, можа, рэчка?» Пабачыўшы, што Дрозд паслаў двух чалавек у разведку, Ніна намацала купіну і апусцілася на яе. Карыстаючыся прыпынкам, іншыя партызаны таксама сядалі, дзе трапілася, ціха перагаворваліся.

— Давайце сюды! — вынырнула з цемры постаць.

Усе заварушыліся, група выцягнулася ўсцяж вадзяной паласы. Гэта, аказалася, была рэчка. «Відаць, Турэйка»,— падумала Ніна.

Перш за ўсё пачалі перапраўляць раненых. Рэчка была даволі глыбокая, і насілкі з раненымі прыходзілася трымаць на плячах. Калі першыя перабраліся на той бок, Ніна, паклаўшы камсамольскі білет і іншыя дакументы пад хустку, каб не замачыць, пайшла таксама ў ваду.

З кожным крокам Ніна апускалася ўсё глыбей.

Вада ўжо даходзіла да грудзей, а дно ўсё зніжалася. Вада была такая халодная, што ў Ніны зацяло дыханне.

«І як гэта ніякая хвароба не адужае мяне?» — мімаволі падумала яна.

Калі выйшла на бераг, здавалася, што ўся заледзянела. Усю трэсла ад холаду. Адзенне хлюпала і ліпла да цела.

Адразу хутка рушылі далей, стараючыся ў хадзе сагрэць сябе.

## 4

Павеяў жвавы ветрык: пачынала світаць. Халодная красавіцкая ноч канчалася, але неба на ўсходнім баку, зацягнутае хмарамі, было цёмнае, панурае.

Туравец дазволіў спыніцца. Людзі, стомленыя, знясіленыя ад бяссоння і цяжкай дарогі, адразу валіліся на зямлю і засыналі,— адно чуліся глухія стогны ра-

неных ды часам моцнае слова, якім хто-небудзь суцішаў свой боль.

Людзі спалі непрабудна, хоць неўзабаве паліў моцны дождж і рэдкія, з кволым лісцем галіны дрэў, што былі над імі, амаль не ахоўвалі ад вады.

Прысеўшы каля куста, Туравец таксама паспрабаваў заснуць, але ў яго так балела галава і гарэлі вочы, што сон не прыходзіў.

Праз нейкі час вецер разагнаў хмары ў вышыні і дождж сціх. Адразу пасвятлела. Відаць, ужо ўзышло сонца, але яно не магло прабіцца праз хмары, што аблажылі небасхіл.

Цяпер, калі непакой сцішыўся, Туравец стаў больш адчуваць, як ные параненая рука.

Павязка за ноч аб'ехала, намокла на дажджы, бінты скруціліся, як жгуты. Туравец паправіў іх другой рукой, рассунуў так, каб яны лепш прыкрывалі рану: «Хоць бы не было гангрэны. Гэтыя эскулапы, не задумваючыся, адрэжуць руку».

Туравец сеў на траву і, стараючыся не вярэдзіць раненую руку, зняў боты, выліў ваду. Выкруціў мокрыя анучы,— прыціскаючы адзін іх канец нагамі да травы. Аж змарыўся з непрывычкі, пакуль пераабуўся...

Ён крыху адышоў ад мясцінкі, дзе спалі ўсе, адшукаў маленькую лужыну. Яе акружалі з трох бакоў раскідзістыя кусты. На галлі алешын з пупышак, якія толькі палопаліся, выглядвалі вострыя згорнутыя лісточкі, акропленыя ранішняю расою. Вада была такая празрыстая, якая можа быць толькі ў лесе і ўвесну, у ёй, як у лепшым люстры, адбіваліся кусты і цьмянае неба.

Туравец спыніўся на самым беражку, сярод светлазялёнай мокрай травы, што мякка слалася пад нагамі. Нахіліўся над вадою, убачыў сябе: схуднелы абраслы твар, смаляныя калматыя валасы. Не было калі і пагаліцца! Нахіліўся і, стараючыся не патрывожыць раненую руку, зачарпнуў жменяй вады і пырснуў у твар. Калі, скінуўшы кроплі з твару, ён адступіўся ад берага і выцерся краем вільготнай сподняй сарочкі,— стаў адчуваць сябе больш бадзёра і свяжэй.

З-за блізкіх кустоў вырвалася і прашумела чарада качак: фр-фр-фр. Ён правёў іх вачыма, мімаволі пры-

вычна разлічваючы, колькі трэба б «выносіць» ствол стрэльбы.

«Крыжакі. Качак у гэтым годзе процьма».

Ён быў заядлым паляўнічым, але думкі пра качак адразу адышлі: не да таго, не да іх. Заныла ў грудзях: эх, Змітро, Змітро...

На нейкую хвіліну хмары на небасхіле разарваліся, і з іх цікаўна глянула сонца. На мокрых ад расы кустах, траве зазіхацелі ранішнія праменні. Сонечны прамень нібы пранік у сэрца Тураўца, у якім стаяў змрок мінулай ночы.

Туравец адчуў, што вельмі галодны.

Ён пашукаў у кішэнях — нідзе не было ніводнай хлебнай крошкі. Стаў успамінаць, калі еў апошні раз,— ён спехам, сяк-так падсілкаваўся ўчора ўранку, а потым усё — бой, бой, клопат, не было калі пра яду нават падумаць...

Ці бедаваў пра Шабуню, ці адганяў боль у руцэ, увесь час трывожыла адно, галоўнае: «Што з брыгадай? Што з іншымі атрадамі?»

Брыгада павінна пераправіцца цераз балота і сабрацца ў Загальскім лесе, так яны дамовіліся з Ермаковым. Але ці ўсе ў парадку пераправіліся, у якім стане атрады, ці гатовы яны да бою, які настрой у людзей пасля ўчарашняга дня — пра гэта ён мог толькі гадаць. Ён нічога не ведаў цяпер пра брыгаду, у такім стане вымушан быў сядзець у нейкім балоце, трывожыцца ад невядомасці!

Да яго з дзіўным, вінаватым тварам падышла Ніна і, не гледзячы ў вочы, сказала:

— Шабуня... памёр.

Хоць вестку, якую Ніна прынесла, Туравец са страхам чакаў, яна ўзняла адчуванне горычы і бездапаможнасці. Нічога не гаворачы, Туравец устаў, пайшоў за Нінай.

Шабуня ляжаў выцягнуўшыся, нерухомы і непрывычна спакойны. За ноч ён так схуднеў, што цяжка было пазнаць; вусы звіслі ніжэй, рабілі твар вузейшым і доўгім.

«Не ў час... шкада»,— згадалася раптам Тураўцу. Згадалася, што зусім нядаўна Шабуня непакоіўся, як будзе дабірацца да сваіх..,

— Ідзі, адпачні,— зірнуў Туравец на Ніну,— хутка пойдзем.

Нахіліўся, пацалаваў таварыша, адчуў на шчацэ мяккі дотык вусоў. Выняў з яго кішэні партбілет, усе дакументы. Асцярожна, быццам баючыся разбудзіць, накрыў палаткаю.

Неяк не верылася, што Шабуня памёр. Змітро быў адным з тых, хто разам з Тураўцом ствараў брыгаду. Тураўцу здавалася, што Шабуня заўсёды, век будзе з ёю.

І вось Шабуні ўжо няма...

Горкая туга сціснула горла Тураўца, напоўніла яго сэрца, і ад гэтага ўсё навокал зноў пацямнела. Апанаваны горам, разгублены, ён пайшоў, не выбіраючы дарогі, абы-куды, усё не мог суцішыцца.

Ён натрапіў на вартавога. На варце быў юны парыўісты Крайко, што падарваў танк. Ён стаяў, прытуліўшыся спіною да невысокай балотнай бярозкі.

— Не спіцца, таварыш камісар? — вывеў хлопец з забыцця Тураўца.— І мне таксама — ну, праўда,— не хочацца спаць. Хоць і аўтамат проста з рук валіцца.

Ён, было відаць, узрадаваўся, што ёсць з кім пагаварыць, што можна парушыць нудную, цягучую маўклівасць, якая акружала яго.

— Камандзір памёр,— сказаў Туравец.

— Памёр...— адгукнуўся Крайко.— Эх!

У гэтым «эх» Туравец адчуў няўцешную крыўду і боль.

— Добры камандзір і чалавек быў... незаменны.

— Незаменны.

Васіль некалькі хвілін маўчаў.

— Таварыш камісар,— парывіста сказаў ён,— а калі я... падам у партыю, могуць прыняць?

— Прыняць? Думаю, могуць...

— Вы ведаеце,— загаварыў даверліва Васіль,— я даўно хацеў сказаць вам аб гэтым, ды неяк не асмельваўся. У партыю ж людзей асобых прымаюць. Не то што сумленных, бо і я таксама сумленны, а асобых — самую гвардыю. А цяпер — падам...

— Падавай.

— Не можа быць, каб не прынялі, а? Я гэту свалату буду так біць, так біць!..

## 5

Пабудзіўшы некалькі партызан, Туравец папрасіў іх выкапаць на невялічкім узгорку, паблізу блізнят-бярозак, магілу для Шабуні. Паспрабаваў і сам капаць, але рабіць гэта адной рукой не здолеў, і ён аддаў рыдлёўку. Адышоўшы крыху ўбок, Туравец зняў гімнасцёрку, разаслаў на кусточку, каб высахла.

Сонца ўзнялося над хмарнай аблогай, і ўсё навокал урачыста зіхацела. Было на дзіва свежа і чыста. Такія раніцы, ведаў Туравец, бываюць толькі вясною; яны падымаюць і бадзёрацъ чалавека,— само паветра такое, што лье ўсярэдзіну сілу.

У гэты час Туравец заўважыў, што прачнуўся Грэчка. З учарашняга дня камісар з асаблівай увагаю прыглядваўся да Грэчкі: усё помнілася, як той у цяжкую хвіліну рынуўся ў кусты, кінуў усіх. Заўважыў Туравец і тое, што Грэчка ўвесь час спаў трывожна, стагнаў у сне і прасіў аб нечым.

Грэчка сеў, пачухаў галаву, агледзеўся вакол соннымі вачыма. Як толькі вочы яго ажылі, на твар лёг пакутны цень. Грэчка занепакоена ўлавіў на сабе позірк і зірнуў на Тураўца,— камісару здалося, што ён хоча аб нечым запытацца, але не асмельваецца. Калі Грэчка азірнуўся, Тураўцу раптам успомнілася, як ён глядзеў учора, калі чарга аўтамата спыніла яго.

Грэчка ўстаў, адышоў крыху і ўбачыў раптам Шабуню. Ён хутка, амаль спалохана адвярнуўся ад нябожчыка, падаўся прэч. Вярнуўшыся да лужы, Грэчка стаяў некалькі хвілін як бы ў глыбокім роздуме. Туравец бачыў толькі яго калматую галаву і плячо, што віднеліся між лазовых кустоў. Вярнуўся ён не памыўшыся, з чорнымі тарфянымі плямамі на твары.

Грэчка лёг, але не заснуў і хутка зноў падняўся. Дастаў з кішэні кавалак хлеба, стаў цяжка жаваць. І ўсё панура маўчаў, паглыблены ў нейкія свае думкі. Пра што ён думаў?

Туравец неўзабаве загадаў яму будзіць усіх.

Ніна доўга не магла адолець сну.

— А-а? Устаць? Добра, зараз,— мармытала яна, не расплюшчваючы вачэй, але, калі Грэчка адышоў, зноў заснула.

У другі раз Грэчка быў больш настойлівым, не ад-

ступіў датуль, пакуль яна не ўстала. Цяжка было Ніне расплюшчваць непаслухмяныя павекі, ранішняе зіхатлівае святло рэзала невідушчыя, хмурныя вочы. Можа, лепш было б, каб яна не лажылася зусім.

Ужо амаль усе сабраліся, і Ніна, як толькі адужала сон, заспяшалася, каб не адстаць ад іншых. Спехам памылася, выцерла твар і рукі ручніком і хуценька прычасала скалмачаныя, крыху кучаравыя валасы.

Шабуню хавалі маўкліва і проста. Развітальнага залпу не было, недзе блізка маглі таіцца немцы. Не было слёз, усіх трывожыла няпэўнасць становішча.

— Шукаць трэба сваіх хутчэй,— сказаў Крывец, пажылы кулямётчык, калі на свежым шэрым капцы Дрозд паставіў тонкі слупок.— А то як пчолы, што адбіліся ад вулля.

Грэчка панура адгукнуўся:

— А што там!.. Можа — рожкі ды ножкі...

Туравец, што ўжо чакаў каманды Дразда ісці, павярнуўся з іроніяй да Грэчкі:

— Адкуль у цябе, прыяцель, весткі такія?

Грэчка, прыладжваючы мяшок за плечы, падняў позірк на камісара, панура зіркнуў:

— Дзе ж брыгада?

Туравец адчуў, як усе сціхлі, чакаючы адказу.

— Брыгада там, дзе ёй трэба! — сказаў ён спакойна і цвёрда.— А цябе, прыяцель, прашу язык за зубамі трымаць, каб не матляўся лішне. Думаць трэба лепш.

— Сыдземся са сваімі — лягчэй будзе... Адным роем...— адгукнуўся Крывец.

— І другія так жа... драпаюць,— не ўтрымаўся Грэчка. Ён, ні на каго не пазіраючы, паварушыў плячыма, праверыў, як сядзіць мяшок, узяў у рукі вінтоўку.

Але тут да яго парывіста ступіў Васіль. Сціснуўшы аўтамат, Васіль змераў Грэчку бязлітаснымі блакітнымі вачыма, што гарэлі ад гневу і абуранасці.

— Што? М-мы драпаем? — спытаў заікаючыся, з пагрозай. Гатовы быў, здавалася, зараз жа ўхапіцца загрудкі.— М-мы драпаем?

Ніжняя, па-юнацку пухлая губа яго дрыжала. Грэчка неспакойна азірнуўся вакол, шукаючы падтрымкі, але сустрэўся з насцярожанымі, непрыхільнымі позіркамі.

— Ну, не драпаем, не драпаем... Ваюем!.. Прывязаўся!..

— Сам — драпаеш, дык і кажы на сябе!

Туравец, што сачыў за гэтай сцэнай, загадаў выступаць. Лепшага адказу на словы Грэчкі і не трэба было. «Раскіс сам ды яшчэ над другімі каркае!» — падумаў Туравец непрыязна, рашыў, што трэба будзе наглядаць за Грэчкам.

Крайко неахвотна адступіўся ад Грэчкі, з сілай кінуў аўтамат за плячо.

— Драпаюць! Бач ты, зараза...

Ён доўга не мог супакоіцца.

Прыкры ўспамін аб размове з Грэчкам не пакідаў і Тураўца.

Прайшоўшы крыху, ён, нібы правяраючы настрой людзей, азірнуўся назад і ўбачыў непадалёк Ніну. Туравец заўважыў: светлы, з дзявочымі рысамі твар, на які выбіваліся з-пад хусткі пасмамі жытнія валасы, за гэтую ноч асунуўся і пашарэў. Яна ступала за ім, гледзячы на сляды, як бы баялася згубіць сцежку.

Ступіўшы ўбок, ён прапусціў некалькі чалавек паўз сябе. Гледзячы дапытліва на іх, Туравец сустрэўся позіркам з Васілём. Ад чыстых даверлівых вачэй хлопца вярнулася адчуванне таго, што гэтыя людзі гатовы на ўсё, непрыемны недавер згас.

Раптам наперадзе, там, дзе ішоў пярэдні дазор, прагучалі аўтаматная чарга і некалькі асобных стрэлаў.

Усе адразу спыніліся. Іх абступаў вакол часты хмызняк, над якім дзе-нідзе ўзносіліся рослыя асіны і вольхі.

Туравец паслаў Васю Крайко даведацца, што здарылася.

Там перастрэлка памацнела, і Туравец, не чакаючы Крайко, стаў прабірацца між кустоў наперад, трымаючы аўтамат напагатове. Па дарозе ён спаткаўся з Васілём, які вяртаўся назад. Хлопец сказаў, што партызаны наткнуліся на групу немцаў.

— Колькі іх?

— Цяжка сказаць. Не відаць іх. Хаваюцца ў зарасніку... Але калі меркаваць па страляніне, іх небагата.

— Калі меркаваць па страляніне? — У Тураўца была звычка перапытваць. Перапытваючы, ён пазіраў

на таго, хто казаў, як бы хочучы яшчэ штосьці давецца.— Ну, брат,— гэта рызыка. Або, або...

Магчыма, гэта была ўсяго адна з невялікіх вандроўных дэсантных групак, якія гітлераўцы часта пасылалі ў раёны блакады, каб нарабіць больш панікі. Але верыць вельмі ў гэта не прыходзілася, бо частка карнікаў магла да часу сядзець ціха або таіцца дзенебудзь непадалёк. Немцы, мусіць, таксама не ведалі пра сілы партызан,— атрымаўшы адпор, яны не высоўваліся, абмяжоўваліся стралянінаю.

Туравец і Дрозд рашылі не завязваць бою, ён не абяцаў нічога добрага. Людзі стаміліся, патронаў і гранат мала,— а самае галоўнае,— трэба хутчэй дабірацца да сваіх.

Не чакаючы, пакуль карнікі апамятаюцца, Туравец загадаў адыходзіць,— трэба абысці засаду.

Перабягаючы ад куста да куста, прыкрываючыся невялікай заслонай, партызаны пачалі паспешліва аддаляцца ад месца сутычкі. Неўзабаве стрэлы сталі чуваць справа, пасоўваючыся назад, потым зусім сціхлі. Немцы не адважыліся ісці за імі ці, можа, страцілі след.

Як бы там ні было, адышлі добра. Але калі праз некалькі кіламетраў, прадраўшыся цераз хмызняк, выбраліся ў сасновы лес і на прывале праверылі людзей, аказалася, што прапаў Грэчка.

— Хто ведае, што з ім? — запытаўся Туравец, акідваючы позіркам людзей, што сядзелі і ляжалі навокал.— Ён не быў ранены?

— Здароў быў... Ды яго каля немцаў і блізка не было. Я бачыў, ён спыніўся пераабуць бот.

— Уцёк, з-зараза,— сказаў з упэўненасцю Вася,— ручаюся, у-уцёк.

Добры, жаласлівы кулямётчык Крывец, пыхнуўшы папяросаю з лісця, запярэчыў:

— Сказаў! Пэўна, адстаў дзе-небудзь ці заблудзіўся.

## 6

Грэчка ў гэты час быў далёка.

Калі завязалася перастрэлка, ён адчуў, што ў гэтую хвіліну можа рашыцца лёс, што, калі не крутнуць

куды-небудзь убок, усё можа кончыцца кепска. Да таго, бачыў ён, вяло ўсё ў апошнія дні, у блакаду.

Ён бачыў гэта не першы дзень, але ўчора ён скеміў гэта асабліва ясна. Дурнем трэба было быць, каб не скеміць гэтага. Ён скеміў. І з учарашняга дня толькі і думаў пра тое, як бы крутнуць убок, выратавацца, пакуль не позна.

Пра гэта ён думаў увесь час, але ўсё не адважваўся, ды і не было належнага выпадку. Цяпер жа небяспека прыдала яму рашучасці. Ён бачыў, што трэба дзейнічаць неадкладна, трывожна і нецярпліва чакаў зручнага моманту.

Як толькі добра адышлі ад немцаў і кулі перасталі свістаць над галавою, Грэчка прыпыніўся.

— Пераабуцца трэба! — мармытаў ён больш сам сабе, бо яго ніхто не слухаў, ніхто не пытаўся ў яго.— Эх, чорт, усю нагу сцёр рубец!..

Застаўшыся адзін, крыху перачакаўшы, ён з недавер'ем прыслухаўся, асцярожліва азірнуўся, ці не сочаць за ім. Пераканаўшыся, што не сочаць, што ён адзін, Грэчка пачаў амаль наўколенцах ад куста да куста адступаць ад сцежкі, па якой пайшлі іншыя. Потым выпрастаўся і, ужо не стрымліваючыся, не тоячыся, пабег на ўсю моц, як дзік ад пагоні. Ён не шукаў дарогі, абдзіраючы твар, ламаўся напрасткі, праз густое вецце лазняку, алешніку.

Толькі выбіўшыся з сілы, задыханы, спыніўся і азірнуўся навокал.

Ззаду наводдалек яшчэ чуліся стрэлы, але тут было ціха. Спакойна, мірна.

Хоць лісце толькі распускалася, вакол абступаў прыцемак. Летам у гэтым месцы, мусіць, зусім цёмна. Гушчар.

Ён пайшоў павольней. Сэрца яго ад нядаўняга бегу, ад перажытага непакою яшчэ шалёна білася.

Грэчка палез цераз гнілое, асклізлае ламачча глыбей у зараснік.

Баяцца цяпер, здаецца, не трэба...

На зламаным, напалову струхлелым дрэве, з якога ўжо лапінамі адвалілася кара, прысеў адпачыць.

Тут, калі да яго з адпачынкам прыйшло адчуванне лёгкасці, волі, ён убачыў у сваіх руках вінтоўку, якую дасюль немаведама чаму трымаў. Грэчка здзіў-

лена пакруціў яе, нібы разглядаў упершыню. У ім раптам ускінулася злосць на яе, з якой было столькі цяжкіх часін, якой ён павінен быў служыць, якую даглядаў, цягаў на сабе, намульваючы плечы. Ён з усяе сілы стукнуў яе ложам аб пень. Тады размахнуўся і шпурнуў за куст.

Неспакойны позірк яго перабег на палатняную сумку. Калі Грэчка раскрыў яе, у вочы весела бліснулі патроны — іх было дзесятка паўтара. Ён з той жа злараднасцю, з якой кідаў вінтоўку, выбраў іх па аднаму і падэшвай ботаў моцна ўтаптаў у чорнае гнілое лісце, якое тут мокла ўсюды.

Калі ўбачыў, што сумка апусцела, яго недарэчна крануў запознены жаль: ён яшчэ нядаўна трывожыўся, што ў ёй было мала патронаў.

«Няма дурных лезці ў пельку»,— падумаў Грэчка, адчуваючы ў сабе прыліў упартасці, злосці. Ісці на згубу сваю, на пагібель?.. Не, няма дурных!..

«Няхай ідуць тыя, у каго няма галавы, каму не хочацца жыць».

А ён не пойдзе.

Ён хоча жыць.

Аднаму, як-ніяк, лягчэй уратавацца. Любая нара, любы вываранень табе схова, ніякі чорт цябе не знойдзе, калі ты адзін. А то паўзе гэтакі хвост, столькі народу — увесь час на віду, як які-небудзь табун...

Ну, вось і абышлося ўсё, дзякуй богу. Выкруціўся так, што не заўважылі, здаецца. Не заўважылі. А калі і заўважылі, невялікі страх, не да яго ім цяпер, сваю шкуру выратаваць бы, не да яго, канечне...

Аднак, нягледзячы на гэтыя, такія цвярозыя, надзейныя развагі, неспакой з сэрца чамусьці не ападаў.

Раптам ён здрыгануўся: здалося — што з паўзмроку з-за плеціва галля хтосьці цікуе.

Ён трывожна азірнуўся. На крывой галіне, узмахваючы крыламі, каб утрымаць раўнавагу, сядзела чорная глюгастая птушка, сачыла за ім вострым драпежным вокам.

Грэчка дрыжачымі рукамі схапіў асклізлы сук і люта шпурнуў у яе. Груган неахвотна ўзляцеў. «Чорт цябе прыцёг сюды, пачвара!»

Грэчка пачаў абдумваць, як быць далей.

Тут недалёка яго вёска, яго хата. Ён зойдзе да жонкі, набярэ хлеба, сала і перасядзіць навалу. А там, там будзе відаць.

Нейк трэба перачакаць ліхі час.

Ён падняўся і, прыслухоўваючыся да наваколля, рушыў туды, дзе, меркаваў, была яго вёска.

## РАЗДЗЕЛ II

### 1

Дарога была несамавітая: то грузлі ў балоце, то прадзіраліся праз гушчары, то ўброд цягнуліся цераз нейкія рэчкі, зарослыя аерам ды асакою. Не толькі раненыя, але і здаровыя партызаны знемагліся. А самае прыкрае, напэўна, было тое, што пачалі адчуваць голад. Больш за суткі нічога не елі.

У розных баках раз-пораз бухалі гарматы. Над галавою, з натужным ровам, ад якога стагнала зямля, сунуліся важкія бамбардзіроўшчыкі. Выразна былі відаць тупарылыя шкляныя насы, жоўтыя наканечнікі на крылах з чорнымі крыжамі. Самалёты ляцелі па аднаму, групамі, неслі смертаносны груз; неўзабаве там, куды яны кіравалі, было чуваць нутраное, важкае: гух, гух, гу-гух. Назад яны вярталіся лягчэйшыя, раўлі спакайней, нібы спатоліўшы сваю прагу да крыві.

Часта, вышукваючы здабычу, з уедлівым звонам праносіліся вёрткія і быстрыя «месершміты».

Заўважыўшы самалёт, усе спяшаліся дзе-небудзь схавацца.

Калі прабіраліся праз зараснік, то натрапілі на некалькі чалавек, насцярожаных, трывожных. Гэта былі людзі з блізкай вёскі, што ратаваліся ад карнікаў. Пажылая жанчына з сумнымі чорнымі вачыма, каля якой маўкліва ціснуліся двое дзяцей, запыталася ў Васіля:

— Няўжо могуць яны сюды дайсці? Ці, можа, партызаны не прапусцяць?

У яе вачах быў страх. Толькі сёння ўранні яна выратавалася ад смерці: выскачыла з сяла, што ўжо акружылі карнікі.

Тут хавалася некалькі сем'яў: жанчыны, старыя і дзеці. Поблізу, прывязаная да бярозкі, звешвала галаву рабая, з белай лысінкай карова, мыза яе была абвязана хусткай.

Людзі згаварыліся перасядзець разам у лазняку, пакуль не сціхне блакада, калі можна будзе вярнуцца ў сяло.

Неўзабаве партызаны наткнуліся на дзяцей, што сядзелі купкаю пад арэхавым кустом, на якім толькі што пачыналі распускацца жоўтыя лісточкі.

Убачыўшы ўзброеных людзей, дзеці спалохана ўскочылі. Іх было чацвёра. Большая з іх, хваравітая, з доўгімі, абадранымі ножкамі дзяўчынка, схапіла хлопчыка, прыціснула да худых грудзей, як бы абараняючы. Вочы яе з-пад крутога лба глядзелі непадступна. Было відаць, што хоць яна і бяссільная, але ўсё-такі не дасца ў рукі без бою.

Дзяўчынка з круглымі вачыма, у зрэбнай кашулі, разадранай да пояса, загаласіла:

— Мама-а! Мама-а! А-а-а!

Яна раптам упала ніцма, затрэслася, стала біць маленькімі бруднымі кулачкамі па зямлі.

— Дурныя, чаго ж вы баіцеся? Мы ж партызаны,— сказаў Васіль.

— Гэта ж партызаны! — адгукнуўся большы хлопчык такім голасам, нібы зрабіў сам важнае адкрыццё. Ён паказаў на ордэн Чырвонай Зоркі на гімнасцёрцы камісара. Хлопчык быў, можа, равеснікам старэйшай дзяўчынкі. Твар яго да самых вачэй закрывала вялікая шапка з паламаным шырокім казырком.

Ніна паспрабавала падняць дзяўчынку, але тая тузалася, ірвалася з рук, драпалася пазногцямі. Мармытала пасінелымі губамі: «У-у-у... ма...»

Дзіця не слухалася ўгавору.

— Замоўкні, зараз жа! — неспадзявана строга, нібы загадваючы, крыкнула Ніна.

Васіля здзівіла, што яна, заўсёды ласкавая і добрая, так сурова абыходзіцца з малою, але ён не сказаў нічога, верыў Ніне. Калі яна так гаворыць, напэўна, гэтак і трэба.

І праўда, малая адразу сціхла, спалохана скурчылася і з асцярогаю паглядзела на цёцю. Ніна лагодна пахваліла:

— Вось так!

— Яна ў нас гэтак ужо трэці раз,— загаварыла старэйшая дзяўчынка, усё яшчэ не выпускаючы з сваіх рук хлопчыка.— Як толькі напалохаецца, дык і пачне лямантаваць: «Мама». На ўвесь лес. Мы ёй сказалі, што кінем, калі яна будзе крычаць. Тады яна сказала, што больш не будзе.

— Дзе ж вашы бацькі? Чаму вы адны? — запытаўся Туравец.

Аказалася, што дзеці ўжо другі дзень ходзяць па лесе адны, не могуць ніяк знайсці сваіх людзей. Яны не баяліся цемры і адзіноты ў вялікім лесе, у іх маленькіх сэрцах жыў страх перад гітлераўцамі. Толькі б не спаткаць іх!

Старэйшая дзяўчынка, якая трымала на руках брата, паскардзілася, як сталая:

— Гора мне з ім, ён жа яшчэ дзіця. А ў нас мамы няма... Спалілі...

Хлопчык у вялікай шапцы, аказалася, быў сынам камандзіра ўзвода ў атрадзе імя Кутузава.

Другая дзяўчынка Галя,— якая плакала,— згубіла маці, калі наляцелі самалёты. Напалоханая, сярод страшнага грукату, яна ўскочыла і, не цямячы нічога ад жаху, пабегла, а калі апамяталася і пачала шукаць маці, той нідзе не было. Невядома дзе падзелася. Пад вечар дзяўчынка напаткала другіх дзяцей, такіх, як сама, яе ўзялі ў гурт і падбадзёрылі.

Яны згаварыліся шукаць партызан, а каб смялей было, хадзілі ўсюды разам.

Туравец загадаў забраць дзяцей.

— Пойдзем з намі,— сказала Ніна Гальцы,— да партызан, да тваёй мамы.

Дзяўчынка яшчэ хліпала, размазвала кулачком па твары слёзы, але, было відаць, паспакайнела. Хліпала, мусіць, больш таму, што не магла яшчэ суняцца.

Яна падала Ніне руку і сказала даверліва:

— Пойдзем. А я думала, што вы паліцаі і заб'еце нас.

Стараючыся ісці поруч, не адставаць, зірнула васільковымі вачыма знізу:

— Цёця, а... у вас хлеба няма? Мне дужа есці хочацца...

## 2

Перад вечарам прыйшлося спыніцца: людзі змагліся.

Набліжалася навальніца. Хоць быў яшчэ дзень і сонца не заходзіла, вакол пацямнела, нібы вечарам. Дрэвы, што абступалі з усіх бакоў, гулі неспакойна, нядобра. Ад іх гулу на сэрцы Ніны стала трывожней. Вецер хутка гнаў цёмна-сінія дымныя хмары, засцілаў імі ватныя клубістыя воблакі, што дасюль былі на небе.

Воддаль час ад часу гуркатала, нібы ад выбухаў гармат. Потым загрымела бліжэй, непаспешліва, перакатам, басіста.

— Гром?! — не паверылася Ніне.

— Гром!..

— Першы! Яшчэ не грымела...

Не прайшло і паўгадзіны, як хмары закрылі ўсё неба. Яны паўзлі так нізка, што, здавалася, чапляліся за вяршыні дрэваў,— спод іх быў увесь пашматаны і вісеў клоччам.

Дрозд загадаў зрабіць будан для начлегу. Людзі, адольваючы стому, з ахвотай узяліся за працу. Застукалі, як бы спрачаючыся, цесакі і нажы, затрашчала галлё, лес напоўніўся жвавым гоманам.

Ніна завіхалася разам з усімі, стараючыся ўправіцца да таго, як пачнецца дождж. У яе былі памочнікі — дзеці, яны памагалі заўзята, з радасным галасам.

Раптам вецер сціх. Усё насцеражылася і замерла. Толькі, не спыняючыся, рушылі і рушылі хмары.

Калі пачаў крапаць дождж, Васіль накрыў будан палаткай і скамандаваў дзецям забірацца ўсярэдзіну. Хлопчыкі паслухмяна палезлі. Галька ж, зазірнуўшы ў цемру будана, адсунулася назад, баязліва аб'явіла:

— Не відна нічога!

— Не бойся, дурненькая!

Ніна забралася следам за ёю, прытуліла малую да грудзей.

Над галавою моцна трэснула, змрок будана працяла кідкім полымем.

— Ма-ама!..

— Ціха ты — гэта гром!

Ёй было чуваць, як у дзяўчынкі часта калоціцца

сэрца,— Ніну ўсю напоўніла мацярынская пяшчота. Яна чула прытуліла дзіця.

— Якая ты смелая,— сказала дзяўчынка.— І цёплая,— дадала яна, памаўчаўшы.

Ніна ўсміхнулася.

Пасля іх запаўзлі Дрозд, Васіль і два партызаны — раненыя. Дзецям стала зусім нястрашна, хоць знадворку гулі сосны і тут, у будане, нічога не было відаць. Палатка ўгары ад дажджу лапатала.

— Дожджык добры,— для азіміны акурат,— раптам пачууся ў цемры голас Дразда.

Хтосьці працягнуў задуменна, прытоена:

— Та-ак, для азіміны акурат...

— Залаты! — ахвотна, задаволена адгукнуўся Дрозд.

Ніну не здзівіла гэта ўцеха Дразда, натуральна было чуць такое ад яго. Навек цывільны быў гэты чалавек. Столькі ўжо ваяваў, а ўсё мала было вайсковага і ў вобліку, і ў паводзінах. Нават даваць каманды павайсковаму дагэтуль не навучыўся: «Зрабі, Сяргей, тое»; «Пайдзі паглядзі, Іван, ці не немцы там». Яго ў вочы называлі камандзірам, а за вочы, жартам,— «старшынёй», старшынёй калгаса, лічылі, што апошняе больш адпавядала. Жартавалі, што ён вёў дакладны ўлік працадзён: за падарваны эшалон — тры, за разбіты гарнізон — па паўтара на кожнага...

— Добры дождж... Толькі не ў час,— пашкадаваў той, прытоены, голас.

— Чаму гэта не ў час?..

— Не ў час,— заявіў голас.

— Э, кажаш... Дзе цяпер нашы? Ля Жлобіна ды пад Магілёвам, так?.. Не ўсё ж лета будзем тут сядзець...

Дрозд, сапучы, стараючыся ямчэй уладзіцца, ціха, разважліва меркаваў:

— Хутка ўжо і за касу, за сярпок трэба будзе ўзяцца. Хутка... Жыта-то, відаць, будзем прыбіраць мы... Вось і добра, што дожджык.

— Каб жа так было,— уздыхнуў адзін з раненых.

— Будзе. Чуе маё сэрца, будзе,— прароча паабяцаў Дрозд.

Пасля гэтых слоў усе дарослыя маўчалі. Думалі кожны пра штосьці сваё. Ніне здавалася, што калі не

ўсе, то большасць, мусіць, думаюць пра адно. Пра тое, што зачапіў Дрозд. І тое, што людзі гавораць і думаюць не аб прыкрым, што трывожыла ўдзень і што чакае заўтра, а пра далёкае, дарагое, як бы абнадзейвала яе. Яна думала, як дзіўна гучыць гэта гаворка тут, перад невядомасцю, што чакае іх заўтра і потым. «Нібы заўтра трэба будзе ісці ў поле...» І ўсё ж адчувала ў гэтым штосьці вельмі добрае, вельмі патрэбнае ёй, усім...

Па палатцы, не сціхаючы, сек дождж.

## 3

Яны начавалі блізка ад брыгады. Уранні Туравец са сваёй групай быў ужо ў атрадзе «За Радзіму». Там ён даведаўся, што штаб брыгады стаў непадалёк, у гэтым жа лесе, на паўночнай ускраіне.

— Вось мы і дома! — задаволена сказаў камісар.— Цяпер мы жывем!

Усе, хто ішоў з ім, таксама адчулі сябе «дома», пажвавелі, падужэлі. Яны былі не адны, тут з імі ўся партызанская сям'я. І хоць у гэтай сям'і нельга было разжыцца на тытунь, ды і з хлебам было скупа, радасць людзей ад гэтага не спахмурнела. Самае галоўнае, што скончыліся бадзянні, невядомасць і трывога.

Бачачы, як павесялелі дарослыя, сталі радавацца і дзеці.

— Дома! Дома! — шчабятала Галька.— Тут мая мама! Праўда, цёця Ніна?

Радасць сустрэчы рабіла людзей нячулымі да ўсяго іншага, а між тым становішча атрада было, відаць, нялёгкае. Толькі Туравец, Дрозд ды яшчэ некалькі чалавек адчулі адразу трывожны, напружаны лад цяперашняга жыцця ў атрадзе.

Развітаўшыся з Драздом, які ішоў у свой атрад, камісар з Нінаю, дзецьмі і двума хлопцамі заспяшаліся да штаба.

Калі партызаны пачалі разыходзіцца, Васіль далучыўся да групы, якая несла ў шпіталь раненых.

Ён заўважыў, што, ледзь Валя ўбачыла між іншых яго, твар «сястрычкі» — мілы, з яркімі вуснамі — заззяў добрай усмешкай.

Васіль адчуў сябе самым шчаслівым чалавекам. Скораны гэтай усмешкай, ён не адводзіў вачэй ад дзяў-

чыны, сачыў за кожным яе рухам, калі Марыя Андрэеўна — старшы «доктар», Валя і іншыя прымалі раненых.

Пры ўсёй радасці ён адчуваў і няёмкасць ад таго, што стаіць тут, што ўсе, здавалася, бачаць яго навылёт. Разумеў: гэта нядобра — стаяць так, перад усімі чакаць дзяўчыну і ўсё ж не кранаўся з месца, чакаў.

Валя нарэшце папрасіла ў Марыі Андрэеўны дазволу адлучыцца.

Стрымліваючыся, каб не пабегчы, з сур'ёзным выразам на твары, дзяўчына павяла Васіля спачатку па дарозе, потым у бок ад яе, у гушчар. Далей ад шпіталя, ад людскіх вачэй. За парасонікам асінніку яна спынілася, зірнула ў Васілёў твар, трывожна, спачувальна:

— Цяжка табе там было, праўда?

— Горача. Але нічога, бывае і горш...

— Сказаў: бывае!..

— Ты ведаеш,— проста, як бы здзіўлена прамовіў раптам ён,— я танк падбіў.

— Танк! Адзін! Як жа ты адзін на яго пайшоў?

— Ну, так... Пайшоў... Папоўз!..

— Вось! За цябе толькі і бойся! Ледзь сышоў з вачэй, то і трывожся.

— Чаго за мяне трывожыцца, ну, праўда? Што я — малы?

— Канечне, не малы,— згадзілася Валя тонам, якім гавораць старэйшыя, больш вопытныя.— Але трэба берагчыся. Ты думай не толькі пра сябе, а і пра... іншых...— Зазіраючы ў блакітныя, як неба, вочы, зажурчала дакорліва: — Ну што я буду рабіць, калі з табой што-небудзь здарыцца?

— Нічога са мной не здарыцца, Валя,— перакапана адказаў ён.— Ты не трывожся ніколі, добра?

— Як жа не трывожыцца? — Яна зноў узяла на сябе роль старэйшай.— Ты часам нібы разважлівы, сталы. А потым раптам надыдзе на цябе такое, што ты нічога не асцерагаешся. Забываеш на ўсё! Як жа за цябе не баяцца?

— А што ж з гэтым танкам? Трэба ж было, ну, праўда, каму-небудзь. Не я, дык хто-небудзь іншы...

І такія шчырасць, яснасць былі ў яго чыстых, любых вачах, што яна памякчэла, сказала замілавана:

— Адчайны ты мой!

Ён няёмка ступіў з нагі на нагу, адвёў вочы ўбок:

— Цябе тут ніхто не крыўдзіў?

— Ніхто, Вась.

— А гэты...— ён цяжка выціснуў: — Ермакоў гэты не быў?

— Не, не быў,— паспешліва, крыху ніякавата сказала Валя.— Ну чаго ты ўспомніў яго? Чаго ён табе так убіўся? — прамовіла па-сяброўску, паклялася: — Ён мне — нішто... Раўнівы ты які!

У голасе яе ўжо чуўся ласкавы дакор. Але Васіля не прылагодзіла яе ласкавасць.

— Чаму ён усё ходзіць да цябе?

Ён гаварыў так настойліва, непрымірліва, што яна звяла, адказала вінавата:

— Хіба ён да мяне адной? Ён да ўсіх. Заходзіць проста...

— Проста... Чаго ж ён да другіх не ліпне. А ўсё — да ц-цябе? — нібы не чуў, наступаў Васіль.

— Ну што я зраблю,— сказала яна амаль з адчаем.

Яна бачыла, што ён па-ранейшаму непрымірліва строгі, не разумее яе, не хоча разумець. І ў ёй ускінулася злосць.

— Чаму да мяне... А ты... спытай у яго,— рэзка адказала яна.

— Я і спытаю калі-небудзь! — паабяцаў ён рашуча.— Не пагляджу, што к-камбрыг!

— Спытай!.. Ну, я пайду,— прамовіла яна холадна.— Марыя Андрэеўна, мабыць, чакае...

Яна крутнулася, хутка і лёгка пайшла між дрэваў. Ён паглядзеў услед ёй, яе мілай, ганарлівай постаці і пачуў, як у гнеў яго пачало дамешвацца шкадаванне. «Ну чаго яна не адвучыла гэтага... Ермакова!..» — падумаў ён, гневаючыся чамусьці больш не на яе, а на Ермакова.

Звыкла паправіўшы аўтамат за плячом, Васіль стомлена, нявесела пацягнуўся ў бок узвода.

## 4

Пад згорбленым дубам, што шырока раскінуў кручкаватае галлё, стаяў нізкі, падобны на капу сена будан, накрыты брызентам і прывялаю травою. Поблі-

зу Туравец убачыў начштаба Габдуліна, які, седзячы на траве, нешта пісаў на скрынцы ад мін, што замяняла стол.

— Наш летапісец па-ранейшаму карпее над гісторыяй! — замест прывітання радасна сказаў Туравец, падышоўшы да начштаба.

Габдулін ускочыў. Гэта быў жылаваты, смуглявы чалавек з вельмі жвавымі вачыма. Перад вайной ён вучыўся ў Ленінградзе ў інстытуце, адтуль яго паслалі на практыку ў Беларусь. Вайна затрымала яго тут, прадоўжыла «практыку» на цэлыя гады.

— Нічыпар Паўлавіч?!.— Габдулін пазіраў на Тураўца так, нібы не верыў, што чалавек, які стаіць перад ім, і праўда той, каго ён бачыць.

— Ты што гэта такі дзіўны, летапісец Пімен? — заўважыў Туравец.

Габдулін схамянуўся.

— Калі ты вярнуўся?

— Толькі што.

— Тут пусціў нехта пагалоску,— ніякавата сказаў начштаба,— што цябе жывога няма... нібы з кулямёта рэзнулі... Аж, бачу, жывы!

— І паміраць не збіраюся ў дадатак... Ты пра мяне некралога яшчэ не напісаў?

— Не...— Габдулін засмяяўся. Узяў са скрынкі тоўсты ў чорнай скуранай вокладцы сшытак, згарнуў. Позірк яго жвавых вачэй ухапіў павязку на руцэ камісара, трывожна ўскінуўся:

— Што з рукой?

— Ат, глупства. Нейкая дурная куля драпнула. Не паглядзела, што камісар.

Да іх, даведаўшыся, што вярнуўся камісар, збегліся ўсе штабныя работнікі, радаваліся, распытвалі аб падзеях апошніх двух дзён. Туравец адказваў скупа, але ахвотна. Яму радасцю было бачыць зноў — як пасля доўгай ростані — родныя твары.

Некалькі жанчын акружылі дзяцей, што цісуліся бліжэй да Ніны. Дзеці, было відаць, бянтэжыліся перад незнаёмымі людзьмі. Партызанкі распытвалі, хто яны, адкуль, словам і жаночай пяшчотай стараліся суцешыць.

— Габдулін, бач, у нас новыя салдаты,— весела прамовіў Туравец.— Прымаеш? Вось і добра. А калі

прымаеш, то і накарміць павінен, бо мы есці хочам. Праўда, ваякі?

Дзеці адказалі дружным гоманам:

— Праўда, праўда!

Уладзіўшы іх пакуль поблізу, каля радыста, Туравец уціснуўся ў штабны будан.

Уся стома, якую ён стрымліваў гэтыя дні, раптам адразу навалілася, абцяжарыла рукі і ногі. Прывабліва кінулася ў вочы пасцель — змятая трава каля нахіленай сценкі-страхі, разасланая рабая даматканая коўдра. Самі сабой падгіналіся ногі.

Ён апусціўся на скрынку са штабнымі паперамі, расшпіліў каўнер, зняў фуражку,— на галаве кучаравіліся чорныя непакорныя валасы. Цыганскія ўпартыя вочы пазіралі стомлена.

— Ціха ў нас чамусьці,— сказаў Туравец.

— Так, ціха! — іранічна прамовіў Габдулін.— Зманлівая цішыня... Сёння мы збіраемся зняцца адсюль. Фрыцы канцэнтруюць сілы, сціскаюць круг.

— А што са штаба злучэння?

— Штаб злучэння загадвае зараз жа прабівацца з блакады. Сёння ж, пакуль фрыцы яшчэ рыхтуюцца, трэба перамяшаць ім карты.

Габдулін сказаў, што брыгада адрэзана ад штаба злучэння і іншых брыгад і цяпер дзейнічае адна. Камбрыг Ермакоў звязаўся па рацыі са штабам, адтуль перадалі, што там усе гэтыя дні таксама ідуць безупынна бai і што карнікі захапілі многа сёл. Штаб загадаў прарывацца ў раён Сасноўкі.

— Дзе Ермакоў? — Туравец падняўся.

— У кутузаўцаў.

— Калі вернецца?

Габдулін выняў з кішэні гадзіннік на ланцужку.

— Хутка павінен быць.

Туравец памаўчаў, потым з дзіўнай ноткай у голасе запытаў:

— Што з Машай, не ведаеш?

— Як не ведаю, жывая, здаровая! Сёння бачыў яе, пра цябе пыталася. Вельмі непакоілася.

— Ну, кажы — так і непакоілася! — нібы не паверыў Туравец. Ён хітраваў, бо на самай справе паверыў адразу.

У грудзях Тураўца прайшла цёплая хваля.

— Відаць, да яе таксама дайшлі чуткі. Ну, нічога, цяпер можа быць спакойнай,— бліснуўшы чорнымі вачыма, усміхнуўся начштаба.— Чым менш было надзеі бачыць жывога, тым больш радасці будзе пры сустрэчы.

Туравец падумаў, што яны з Машай не бачыліся цэлы тыдзень. Ён ужо даўно мімаволі лічыў дні ад сустрэчы да сустрэчы, шкадаваў, што прамежкі між спатканняў звычайна вялікія. Ён стараўся не думаць пра яе, але ўсё ж адчуваў, што яе не хапае, чакаў сустрэчы з ёю. Не зважаючы ні на што, памяць увесь час адлічвала: яшчэ дзень, яшчэ. Цяпер чакаў ён сустрэчы як ніколі нецярпліва: так многа давялося перажыць за гэтыя горкія дні.

«Трэба б абавязкова пабачыцца да выступлення».

— Што з Вялікай зямлі чуваць? Якія зводкі?

— Не ведаю... прыёмнік пабіўся, а ў рацыі энергіі мала.

Тураўцу вельмі хацелася ведаць навіны з Вялікай зямлі. У яго было проста патрэбай кожны дзень адчуваць жыццё Вялікай зямлі, а цяпер патрэба гэтая стала неабходнасцю. Ён пашкадаваў, што не зберaглі прыёмнік. Да ўсяго гэта была брыгадная рэліквія: два гады назад, рызыкуючы жыццём, прынесла яго з горада студэнтка-падпольшчыца.

На двары раптам пачулася залівістае конскае ржанне. Туравец па ржанні пазнаў каня камбрыга.

— Вось і Ермакоў!

Абодва выйшлі з будана. Камбрыг лёгка саскочыў з сядла, аддаў каня ардынарцу і, стройны, па-вайсковаму падцягнуты, пругка пайшоў да камісара і начштаба.

У Ермакова была асаблівая пастава галавы, праз меру прамая, якая прыдавала яму арліны і ганарлівы выгляд; адно плячо ён трымаў ледзь прыкметна вышэй,— гэта было ад даўняй кантузіі і ранення ў лапатку.

— Вось добра, што ты вярнуўся,— сказаў ён так, нібы ніколі не сумняваўся, што Туравец вернецца абавязкова.— А то аднаму цяжка.

Ермакоў амаль не змяніўся за гэтыя дні. Хоць пад цвёрдымі, рашучымі вачыма апошнія трывогі паклалі нездаровую сіняватасць, у іх Туравец не заўважыў сто-

мы ці прыгнечанасці. Як і раней, Ермакоў быў чыста паголены. Галіўся ён, відаць, сам, спяшаючыся, бо на твары былі парэзы. Шарсцяная армейская гімнасцёрка і брыджы, пашытыя па яго заказу, як заўсёды, добра аблягалі ладную постаць. Тураўцу было прыемна ад таго, што ён такі сабраны.

Ермакоў кінуў вачыма вакол, сцішыў голас.

— Эх, камісар, задача! Трэба прарывацца, а патронаў няма. Гарматы сёння загадаў закапаць: няма снарадаў. Вось як — ні аднаго снарада! — Ён тут жа адагнаў адчай, што прарваўся, заявіў напорліва: — Паўсотні снарадаў бы! Я так лупануў бы, што яны пакаціліся б без аглядкі!

Па тым, як сказаў ён, было відаць, што камбрыг ніколькі не сумняваўся: усё было б, як ён думае.

— Так! Паўсотні снарадаў — і канцы з канцамі! — паўтарыў Ермакоў.

— Паўсотні снарадаў?

Туравец спасцярожліва, дапытлівымі вачыма зірнуў на Ермакова.

У такіх выпадках раней у вачах гэтых Ермакоў мог бачыць хітрынку і як бы ўсмешку, але цяпер было ў іх іншае.

— А без гармат і снарадаў?

— Выбіраць няма чаго. Трэба прабіцца!

Ён сеў на скрынку ад мін, даў месца Тураўцу.

— Паслухай, што я надумаў тут. Сёння будзем прарывацца. Марудзіць нельга!.. Час цяпер стараецца на іх... Кутузаўцы і «Радзіма» пойдуць у галаве. Я ім аддаў усе патроны, што былі, сам пайду з імі. Прарыў я намеціў...

Ён выхапіў з палявой афіцэрскай сумкі працёртую па кутках карту, разгарнуў на каленях:

— Вось тут!.. Разведчыкі кажуць — тут два кулямётныя гнязды і роты дзве ў акопах. Але гэта нічога. Ярок тут добры, скрытны, хмызняк. Можна непрыкметна падабрацца. Вось тут... Давай абдумаем усё.

— Габдулін, сюды! — гукнуў ён.

Утраіх сталі абмяркоўваць план бою: дзе сабрацца для прарыву, як і калі якому атраду атакаваць, калі правесці жанчын і дзяцей. Дамовіліся пра сігналы.

— Пішы загад! — сказаў Ермакоў начштабу.

Габдулін напісаў толькі першыя словы, як поблізу пачуўся жаночы голас:

— Можна?

Да іх падыходзіла Маша — Марыя Андрэеўна, невысокая, чарнявая жанчына ў сіняй касынцы, з-пад якой спераду выбіваліся расчасаныя на два бакі валасы.

— А, доктар! Доктару можна заўсёды,— адгукнуўся начштаба.

— Дзе тут у вас раненыя? — запыталася яна знарок весела, каб прыхаваць няёмкасць.— Мяне прасілі зрабіць перавязку.

Туравец, убачыўшы Марыю Андрэеўну, адразу ўстаў, не зводзіў з яе шчаслівых вачэй.

«Вось яна! Як добра, што прыйшла».

Услед за гэтым з'явілася здзіўленне: «Хто яе прасіў?» Дапытліва, пільна зірнуў на Габдуліна, але той не падаў і знаку. Схіліўшыся над скрынкай, старанна пісаў загад. Ермакоў, над нечым вельмі думаючы, складваў карту.

Марыя Андрэеўна палажыла сумку, запыталася ўсмешліва, афіцыйна:

— Ну, што ў вас, таварыш камісар?

— Хадзем, начштаба, нельга замінаць... доктару.

— А вы і не замінаеце! Пацыент у мяне, бачу, не цяжка ранены...

— Не, не!

Габдулін і Ермакоў пайшлі. Яна пачала развязваць вузел павязкі, але ад таго, што яна спяшалася і рукі дрыжалі, вузельчык не даваўся. Яна разрэзала бінт нажніцамі і стала похапкам раскручваць павязку. За той час, калі рабіла гэта, ні разу не падняла вачэй на Тураўца, але па яе руках, нецярплівых і дрыготкіх, было відаць, як яна хвалюецца.

Павязка прысохла да раны. Марыя Андрэеўна аддзірала яе так беражліва, што Туравец амаль не чуў болю. Моўчкі агледзеўшы крывавую пляму на руцэ, Марыя Андрэеўна прыціснула да грудзей далоні сваіх ласкавых мяккіх рук, нібы суцішаючы ўстрывожанае дыханне, і глыбока, з палёгкай уздыхнула.

— Я думала, тут бог ведае што...— прызналася яна, скончыўшы перавязку.— А тут... дробязь, дзіцячая рана. Дарэмна хвалявалася...

Марыя Андрэеўна апошнія словы прамовіла, як бы іранізуючы з сябе, але іронія ёй не ўдалася. Вельмі ж вялікая радасць свяцілася ў вачах, каб можна было схаваць яе, прыкрыць кпінкай.

Туравец адказаў ёй у тон:

— І зусім не дарэмна. Добра рану перавязалі.

— Як зрабіў бы кожны іншы.

— Кожны? Так, як вы сёння,— ніхто!

Яна ўважліва, ужо без усмешкі, паглядзела на Тураўца.

Неспадзявана, хутка адвярнуўшыся, Марыя Андрэеўна пачала ўкладваць у сумку пінцэт, флакон з рыванолем, чысты бінт,— чамусьці вельмі заспяшалася.

— Трэба ў шпіталь, там новых раненых прынеслі...— надзяваючы на плячо сумку і па-ранейшаму ўнікаючы яго позірку, нібы апраўдваючыся, сказала яна.

Туравец не стаў яе затрымліваць.

Пасля яе ў Тураўца было на душы светла і трохі сумна. Ён падумаў пра іх адносіны. «Дзіўна, мы адчуваем сябе блізкімі, і некаторыя з таварышаў здагадваюцца пра наша пачуццё, а мы гуляем у схованку, як дзеці...»

Яна чагосьці ўвесь час старанілася, і ён таксама ашукваў сябе. Толькі сёння... Як яна аддзірала павязку! Маша, Маша, што ж гэта будзе далей?..

## 5

Туравец рашыў з дзецьмі і Нінаю зайсці ў сямейны лагер. Хацелася паглядзець, як людзі ўладзіліся, і папярэдзіць пра начны бой.

Лагер размяшчаўся ў сасновым гушчары. Яшчэ зводдаль, падыходзячы, Туравец пачуў тужлівае дамавітае рыканне, якое здалося дзіўна мірным і спакойным.

Прыгадалася: аднойчы ў дзяцінстве ён — пастушок — шукаў у лесе карову, якая адбілася ад гурту. Нічыпар блукаў басанож па бясконцым, здавалася, лесе і ахрыплы, то са злосцю, то з пяшчотай, гукаў: «Манька-а, Манька-а». Тады, аблазіўшы мо паўлесу, ён пачуў сярод ляснога шуму такое ж самотнае рыканне і ўзрадавана заспяшаўся ў той бок.

Увайшоўшы ў лагер, Туравец пачуў дзіцячы плач, жаночы голас, які заспакойваў дзіця, потым убачыў з-за жоўта-сіняватых ствалоў сосен людзей, павольных і маўклівых, бязладна раскіданыя клункі і лазовыя каробкі з дамашнім скарбам.

— Нічыпар прыйшоў! — узрадавалася нейкая жанчына.

Лагер ажыў, заварушыўся, і да Тураўца з усіх бакоў пацягнуліся жанчыны з дзецьмі і без дзяцей, старыя і падлеткі.

Між іх крыху наводдаль Туравец з болем убачыў знаёмы строгі твар Шабуніхі. Яна яшчэ не ведае пра смерць мужа, яму, Тураўцу, трэба будзе перадаць ёй страшную вестку.

«Як жа я скажу ёй гэта цяпер! Яна і без гэтага столькі перажыла за апошнія дні».

— Васілёк! — закрычала адна жанчына.

Яна кінулася да старэйшага хлопчыка, падхапіла на рукі, прыціснула да сябе.

— Сыночак мой! Дзе ж ты прападаў? Я ўся збалелася па табе. Дзяцінка мая!

Трое іншых дзяцей азіраліся навокал. Жанчыны спачувальна ахалі ды ўздыхалі. Дзе ж вашы маткі, бесхацінцы?

Натоўп, што акружыў Тураўца, трывожна пытаўся пра мужоў, пра знаёмых, пра становішча.

— Ці праўда, кажуць, партызаны хочуць нас пакінуць? — насцярожана заглянула ў вочы камісара пажылая, з васпаватым тварам жанчына.

Усе пазіралі на яго з трывогай і надзеяй. Туравец бачыў, што на яго глядзяць так, нібы ён усё можа зрабіць. Што ж, ім патрэбна была надзея. А на каго яшчэ яны маглі спадзявацца тут, у лесе, як не на яго, якога добра ведалі і да якога часта звярталіся раней.

Але чым ён мог адказаць на гэту надзею? Нядобра было ў яго на душы: рэдка калі так хацелася яму дапамагчы людзям і рэдка калі ён так мала мог зрабіць для іх... Як ні цяжка было, ён не абяцаў нічога добрага. Сказаў, што будзе бой, і бой нялёгкі. Таму трэба быць гатовымі да ўсяго. Быць дысцыплінаванымі і захоўваць маскіроўку. Выконваць загады камандавання.

Акружыўшы яго, жанчыны ўважліва слухалі, перапытвалі, паўтаралі адна другой, што ён казаў.

Бачачы перад сабой людзей, заклапочаныя твары, што глядзелі з надзеяй на яго, Туравец нібы мацней, вастрэй разумеў абавязак перад імі, маткамі і дзецьмі, адказнасць за ўсіх іх. І трывога і надзея, бездапаможнасць іх вярэдзілі яго, уздымалі ў ім нялёгкія пачуцці. Ён стараўся адолець апаску, што тачыла яго: апаску за іх заўтрашняе. Не, недарэмна яму верацъ, ён зробіць для іх усё, што магчыма...

Размаўляючы з жанчынамі, Туравец заўважыў, што да яго праз натоўп прабіраецца Шабуніха. Твар у яе быў сурова-сцяты, насцярожаны, нібы яна ведала пра бяду.

— Як там мой Змітро? Дужы?

Хоць Туравец быў чалавекам праўдзівым, не любіў маны, ён рашыў не гаварыць жанчыне цяпер страшную праўду.

— Змітро? Не ведаю,— адказаў Туравец, намагаючыся пазіраць спакойна ў яе насцярожана-пільныя вочы.

Пазней, калі-небудзь пазней.

Толькі не цяпер.

Ён бачыў, што Аўдоцця пачула ў яго голасе нядобрае, і, каб запэўніць яе, зноў сказаў няпраўду:

— Учора бачыў, быў дужы. А пасля таго сустрэцца не даводзілася...

Угары, дзе на яркім блакіце неба ціха пагойдваліся іглістыя кроны, нябачны за галлём, шалёна страляючы па невядомай цэлі, шугануў «месершміт».

Жанчыны з крыкам кінуліся хто куды. А Шабуніха стаяла нерухома, сурова пазірала ў неба сухімі строгімі вачыма, прыціскаючы да грудзей дзіця.

Калі самалёт праляцеў і людзі пачалі зноў сыходзіцца, Туравец развітаўся з усімі. Павярнуўся да Ніны, што супакойвала напалоханую дзяўчынку.

— Заставайся тут. Рыхтуй усіх да паходу. Тут тваё баявое месца, ты за яго адказваеш галавою...

— А што з сіротамі рабіць?

— З сіротамі? Што ж, будзеш пакуль ім маткаю.

Ён заспяшаўся ў атрад імя Кутузава.

На душы ў Тураўца ад усяго, што ён цяпер бачыў, было сумна. Ён думаў пра тое, што ніхто, мусіць, так не пакутуе на вайне, як маці і дзеці.

Успомнілася іх трывога: «Ці праўда, што партызаны хочуць пакінуць нас?» Хто мог сказаць ім такое? Яны, праўда, заміналі атрадам цяпер, у блакадзе, але хіба прыходзіла каму думка пакінуць іх? Пакінуць на расправу, на здзек?

Калі Туравец падыходзіў да атрада, над дрэвамі зноў нізка пранёсся знішчальнік. Там і тут прагучала некалькі стрэлаў. Непадалёк у прагаліне між соснаў ён убачыў высокага, у клятчастым пінжаку хлопца, які цэліўся з вінтоўкі ўслед самалёту.

Камісар падбег да яго, схапіў за плячо, але ў той жа час бахнуў стрэл.

— Хто дазволіў?! Куды паліш?

Баец апусціў вінтоўку, павярнуў да Тураўца зямлісты, здзіўлены твар.

— Па самалёту,— адказаў ён не зусім упэўнена.

— У белы свет, а не па самалёту! Патроны трэба берагчы...

## РАЗДЗЕЛ III

### 1

Уранку старшага лейтэнанта Аляксея Лагуновіча выклікалі ў штаб брыгады.

Старшы лейтэнант праводзіў тады ў хаце нараду з камандзірамі экіпажаў.

— Іду,— кінуў Лагуновіч пасыльнаму, што прынёс загад. Пацікавіўся:— Аднаго мяне ці яшчэ каго?

Пасыльны адказаў, што выклікаюць таксама камандзіра батальёна і камандзіраў іншых рот.

Старшы лейтэнант спыніў нараду, дазволіў танкістам разысціся. Аддаўшы загады ўзводным, што рабіць, хутка апрануўся, выйшаў праз цёмныя, з прагнілай падлогаю сенцы на двор, на якім каля хлеўчука стаяў танк, прыкрыты леташняю саломаю і галлём.

На ганку Лагуновіч прыпыніўся, прыжмурыў вочы ад негарачага, але бліскучага красавіцкага сонца. Недалёка за сялом некалькі разоў ударылі нашы цяжкія гарматы, рэха перакатамі пакацілася па сяле, па лесе, па полі. Наводдаль, у баку пярэдняга краю, раз-пораз была чуваць кулямётная страляніна.

Лагуновіч ішоў важка, крыху выварочваючы ногі, абутыя ў паношаныя кірзавыя боты.

Старшы лейтэнант быў сярэдняга росту. Плечы меў ён нешырокія, рукі — невялікія, нямоцныя, быў даволі шчуплы, і наогул рабіў уражанне нямоцнага чалавека. Твар яго ўдаваў хударлявым,— гэтую хударлявасць пабольшвалі вуглаватыя абрысы сківіц.

Скура на яго твары была цемнаватай, авеянай зімнімі вятрамі і сцюжамі, на ёй яшчэ не ляжаў знак вясновага загару. Вочы цёмна-шэрыя, не кідкія, здаваліся добрымі, нават нібы нясмелымі, падбародак па-юнацку мяккім. На носе з маленькай гарбінкай значыліся кропачкі, нібы воспінкі, след апёку. Лагуновіч гарэў у танку.

Ідучы, старшы лейтэнант думаў, чаго выклікае камандзір брыгады. Думаў амаль без цікавасці, нават нядобра: мусіць, зноў нудная, непатрэбная нарада. З прыдзіркамі.

«А можа, што-небудзь важнае?» — варухнулася прываблівая надзея. Можа, зараз, сабраўшы ўсіх, палкоўнік загадае ехаць па танкі і папаўненне, брыгада хутка ўкамплектуецца — і ў бой. Ужо і так доўга яны топчуцца тут, упускаюць дзень за днём, даюць немцам час укапацца, сабрацца з сіламі.

Цяжкія гарматы, што стаялі недалёка за сялом, зноў загрукаталі. І зноў рэха перакатамі, як гром, пакацілася па наваколлі.

Старшы лейтэнант увайшоў у штаб. Гэта была прасторная хата на два пакоі з вялікімі, раней, напэўна, светлымі вокнамі. Цяпер амаль усе шыбкі былі выбіты, застаўлены фанераю, ад якой хата здавалася цемнаватаю. У першым пакоі на лаўцы, каля шырокай рускай печы, маленькі кірпаты тэлефаніст хрыпатым, сарваным голасам гукаў у трубку: «Дняпро, Дняпро».

— Зайдзіце,— сказаў ад'ютант камбрыга.— Палкоўнік там.

Старшы лейтэнант увайшоў. У пакоі былі палкоўнік Бяссонаў, камандзір брыгады, прысадзісты, русявы, некалькі штабных работнікаў ды камандзіраў батальёнаў і рот. Палкоўнік размаўляў з маёрам са штаба. Старшы лейтэнант прывітаў камандзіра брыгады, далажыў, што прыбыў. Азірнуўся, шукаючы вачыма, дзе прысесці лепш, і пайшоў у куток.

— Што, можа, за папаўненнем? — запытаўся ён ціха ў суседа — капітана.

Той бліснуў чорнымі халоднымі вачыма.

— Тут, здаецца, тое, што ёсць, аддадзім і пеша патанкісцку запылім.

— Смяешся? — не павeрыў Аляксей.

— Не... На фарміроўку пойдзем, мусіць.

Палкоўнік скончыў размову з маёрам, павёў позіркам па хаце, правяраючы, ці ўсе прыйшлі, і, як заўсёды, пачаў без уступаў, адразу з галоўнага:

— Атрыманы загад: здаць машыны і адвесці брыгаду на адпачынак і перафарміраванне. Што трэба зрабіць? Перш за ўсё — падрыхтаваць матчасць для здачы...

Праз хвілін дзесяць усе ўжо выходзілі са штаба, кіравалі да сваіх падраздзяленняў.

На другі дзень батальёны пачалі па адным выпраўляцца ў тыл.

Гэта быў заслужаны адпачынак: больш за паўгода, з самай восені, танкісты вялі баі на поўдні ад Віцебска...

Вылезшы з люкаў, танкісты, у чорных камбінезонах, у шлемах, сядзелі на машынах, падставіўшы твары лагоднаму ветру. Абапал ішлі пералескі, што ўбіраліся ў першую светлую дымчатую зеляніну, ад якой усё навокал выглядала вясёлым, прывабным. Кружылі ся палі, то зялёныя ад руні, то яшчэ паныла-шэрыя голыя.

На машыне з лічбаю «271», выпісанаю на вежы белаю фарбай, сядзелі старшы лейтэнант Лагуновіч і камлюкаваты, крыху пануры сяржант Быстроў, камандзір гарматы. У адкрытым люку вадзіцеля віднелася галава трэцяга з экіпажа, Сонцава. Круглы шырокі твар яго быў засеяны рабаціннем.

Старшы лейтэнант недаверліва прыслухоўваўся да цішыні, што панавала ў прыродзе. Быстроў сядзеў неспакойна ад таго, што хацелася пакурыць і пагаварыць, але і першае і другое было немагчыма. Сонцаў, мяркуючы па светла-карых вачах, у адрозненне ад таварышаў быў цалкам задаволены ўсім: і тым, што бачыў у квадратнае акенца з паднятай, як казырок, важкай плітой, і ветрам, які хвалямі плыў насустрач,

прыемна халодзячы твар і шыю, забіраючыся пад каўнер на грудзі.

На ўездзе ў невялікую вёску танкам давялося праходзіць па мосце. Мост быў стары, і, агледзеўшы падгнілыя чорныя бярвенні, Лагуновіч занепакоіўся, што яны не вытрымаюць машыны.

Аб'езд быў далёка, і таму рашылі паспрабаваць прайсці па мосце.

Першую машыну мост вытрымаў, перабралася і другая. Пад танкам жа «271» насціл затрашчаў, і некалькі бярвенняў з аднаго боку надламаліся, гатовыя абваліцца. Машына нахілілася. Вадзіцель асцярожна крануў машыну, паспрабаваў выйсці на бераг, але мост падаўся яшчэ, і танк нахіліўся болей.

Унізе была рэчка з гразкім дном і балоцістым берагам.

Лагуновіч, які каля мастка сачыў за ўсім, загадаў экіпажу пярэдняга танка ўзяць машыну на буксір. Калі танк паволі падпоўз задам да берага, Быстроў і зараджаючы пачалі мацаваць машыны пругкім стальным тросам.

У гэты час насустрач танкам з вёскі падкаціла калона грузавых машын. Не даехаўшы да моста, пярэдні грузавік, а за ім і іншыя затармазілі. З кабіны пярэдняга грузавіка выбраўся плячысты, высокі пяхотны маёр, хутка падышоў да моста. Афіцэр скрыпеў новымі бліскучымі рамянямі, на яго грудзях на двух вузкіх пасках вісеў бінокль у такой жа новай аправе.

— Што тут такое? — запытаўся ён начальніцкім тонам.

— Тое, што бачыце...— адказаў Лагуновіч заклапочана.

Пяхотны маёр быў незадаволены. Затрымліваюць. У яго твары, здалося Аляксею, было нешта высакамернае, нядобрае.

З кузаваў грузавікоў, адчуваючы, што выпала пастаяць, высыпалі байцы, некалькі падышло да танкістаў. Адзін з іх раптам усклікнуў узрадавана:

— Таварыш старшы лейтэнант!

Аляксей азірнуўся: перад ім стаяў пяхотны старшына з загарэлым вясёлым тварам. Карыя вочы па-сяброўску, радасна ўсміхаліся. Твар гэты, асабліва вочы, здаўся страшэнна знаёмым. «Дзе мы з ім сустракалі-

ся?» А старшына моўчкі пазіраў на яго, усміхаючыся ўжо ад таго, што Аляксей намагаецца ўспомніць, але не можа.

— Не помніце? — сказаў пехацінец з дакорам.

— Не прыпамінаю...

— Вядома, дзе вам помніць! Ці мала сустракаецца людзей на фронце? А ці не ўспомніце, як вы ляжалі... пад Прохараўкай?

Аляксею мігам прыгадалася дажджлівае поле на Куршчыне. Ён ляжыць ранены ў шыю, а непадалёк лопаюцца снарады і патроны. Страшным дымным вогнішчам палае некалькі танкаў. У адным з іх засталіся яго мёртвыя таварышы, ён адзін выратаваўся. Ці выратаваўся? Ён ляжыць перад варожымі акопамі і не можа варухнуцца...

— Помню! Ты той сержант, што мяне з поля вынес. Растаропаў? — згадаў прозвішча.

— Праворны,— паправіў паблажліва старшына.

— Праворны! Ты!..

Лагуновіч абхапіў старшыну, сціснуў у абдымку. Адпусціўшы, сказаў удзячна і чамусьці з вінаватасцю:

— Д-да! Без цябе мне тады апошнюю песеньку праспяваць давялося б.

— Помніце, як пад сціртаю ляжалі?..

— А як жа!.. Упарыўся ты тады, такі груз цягнучы на спіне!..

— Мокра, слізка вельмі было...

— Я, дружа, пасля таго здарэння як заварожаны, ні адна куля не бярэ!

— А я ўжо другі раз на фронт ад таго часу. Толькі шанцуе, усё лёгка. Месяц-другі паляжу і зноў спраўны.

— Вось дзе давялося спаткацца! — сказаў Аляксей.— Я пасля таго не раз добрым словам успамінаў цябе. Аддзякаваць бы, думаў. Ды вось, нязручна спаткаліся. Вы куды?

— Куды ж, акрамя... А вы на адпачынак? — Старшына пасміхнуўся:— Не ў час!.. Самая пара пачынаць вайну, а вы...

Старшына не скончыў. Пярэдняя машына заварочвалася, пехацінцы кіраваліся, мусіць, туды, дзе быў аб'езд. З грузавіка паклікалі: «Праворны!», і ён, спехам паціснуўшы Лагуновічу руку, пабег да машыны, падтрымліваючы сумку, што матлялася на баку.

## 2

Праз некалькі гадзін рота перадавала танкі ў другую брыгаду.

На вялікім, перакапаным гусеніцамі двары, каля хлява і ў садку між вішняку і ігруш стаялі тры танкі — усё, што засталося ў роце пасля паўгода баёў пад Віцебскам.

Калі ўсе фармальнасці перадачы былі скончаны, Лагуновіч з маўклівым капітанам, які прымаў машыны, абышоў свае экіпажы ў апошні раз.

— Людзей залатых атрымалі вы! Шкада аддаваць проста. Баявыя дасталіся вам хлопцы, вопытныя — першы клас! Яны такія справы рабілі! Хоць, чаго я хвалю іх — самі хутка пазнаёміцеся. Адно скажу...— Старшы лейтэнант зірнуў на капітана і прамовіў: — Пашанцавала вам, капітан.

Твар капітана ажывіла стрыманая ўсмешка.

Большасць сержантаў, старшын і некаторыя афіцэры пераходзілі ў новую часць. Танкі былі перададзены разам з поўнымі экіпажамі.

Быстрова, Сонцава і некалькі другіх малодшых камандзіраў Бяссонаў, дамовіўшыся з камандзірам брыгады, браў з сабою. Палкоўнік Бяссонаў асабліва цаніў Быстрова: сяржант біў з гарматы па-снайперску.

Быстроў паволі абышоў свой танк, пагладзіў рукою па шурпатай крутой лабавой брані, сказаў, усміхаючыся, як звычайна, ні то іранічна, ні то кпліва:

— Ну, бывай, дружышча! Не крыўдуй, так сказаць, служба абавязак! Загадалі — нічога не зробіш, прыходзіцца расстацца.

Ён са здзіўленнем заўважыў, што на сэрцы стала сумна, як пры развітанні з таварышам. Танк стаяў, вялікі, маўклівы, хаваў канец доўгага хобата-ствала ў галлі старой паўзасохлай вішні. Сонцаў, пачуўшы ў словах Быстрова ноткі засмучанасці, адазваўся шчыра:

— А шкада ўсё-ткі, праўда?

Быстроў ускінуў на плечы мяшок, іранічна, з-пад шырокага лба глянуў на таварыша:

— Шкада, шкада! Сам ледзь не загубіў яго, а таксама — шкада. І што гэта з табой? Усе праехалі, і хоць бы што, а ты не здолеў нават па гатовай сцежцы. Зганьбіў сябе да рэшты! Табе б не шкадаваць, а радавацца,

што ганьбу сваю жывую пакідаеш тут. Зноў жа без машыны табе спакайней, цяпер не трэба баяцца, што правалішся на мосце... пасажырам будзеш... Пасля таго сораму нават грузавік табе, безумоўна, ніхто не даверыць.

— Хопіць крыўляцца... Я ад душы гавару.

— І я таксама. Але даволі! Бяры мяшок, вунь нас чакаюць.

— Ну, Саша, пацалуемся на развітанне,— сказаў Быстроў маленькаму хмурнаму зараджаючаму, што стаяў поруч і нявесела слухаў яго жарты.— Не крыўдуй, што пакідаю. Каб быў я камбрыгам, забраў бы з сабой абавязкова.

Абняўся так, што ў хлопца косці затрашчалі. Развітаўшыся з другімі, Быстроў накіраваўся да грузавіка. Ён падаў таварышам мяшок і, паставіўшы нагу на шыну, лёгка ўзняў на дужых руках сваё моцнае цела. З кузава ён перагнуўся і падаў руку Сонцаву:

— Дай руку, хлапчына, падмагу.

Танкісты, што засталіся ў ранейшай брыгадзе,— большасцю афіцэры,— усеўшыся ў кузаве, перагаворваліся з сержантамі і старшынамі, якія пераходзілі ў новую часць. Апошнія былі незадаволены.

Эх, як не хацелася развітвацца са сваімі таварышамі, камандзірамі, але, што ты зробіш — загад! На лёс, аднак, ніхто не скардзіўся — смутак развітання і крыўду хавалі за жартаўлівымі, таварыскімі воклічамі:

— Быстроў, дружок, пішы! Не забывай.

— Сярожка! Прывітанне гераічнаму тылу.

— Прывітанне франтавікам!

— Глядзі, каб удовы не крыўдзіліся!

— Сонца, не раз'ядайся на тылавых харчах. І так распух — глядзець страшна!

— Давай падымім на развітанне! У апошні раз.

— Чаму апошні? Убачымся хутка.

— Калі? У шэсць гадзін вечара пасля вайны?

Жартавалі, паказвалі бестурботнымі сябе, а на душы было нявесела.

Аляксей абышоў грузавікі, што засталіся з ім, нібы правяраючы, ці ўсё гатова да выезду. Правяраць, праўда, не было чаго, але такая ўжо ў яго ўкаранілася звычка — прайсціся па роце перад маршам. Цяпер, калі танкісты былі падзелены, цііснуліся купкамі, больш чым калі-небудзь кідалася ў вочы, як іх мала.

«І з гэтай жменькай мы рабілі столькі,— акінуўшы іх з нейкай новай, асаблівай пашанай, падумаў мімаволі Аляксей.— Тут кожны пяцярых варты».

Ён падышоў да машыны, дзе сядзела некалькі сержантаў.

— Выгляд ваш не падабаецца мне, хлопцы,—сказаў ён.— У кузаве драўляным, з мяшочкамі, як шафёры. Гвардыя мы ці не гвардыя? — запытаў Аляксей усміхаючыся. Гэта былі любімыя словы камандзіра брыгады, якія часта паўтаралі салдаты. Словы гэтыя сталі брыгаднай прымаўкай.

Сонцаў, не задумваючыся, шчыра адказаў:

— Гвардыя, таварыш старшы лейтэнант!

— Пасажыры бясплатныя,— з кпінкай адгукнуўся Быстроў.

— Ну, гэта часова. Ездзіць пасажырамі нам, Быстроў, відаць, не дадуць,— адказаў Аляксей.

Ён не скончыў. Пярэдняя машына батальёна кранулася. Старшы лейтэнант, спяшаючыся, развітаўся з экіпажамі, што заставаліся, падаўся да свайго грузавіка, сеў у кабіну.

— Бывайце, хлопцы! Шчасліва ваяваць! — крыкнуў ён напаследак, махаючы рукою.

Грузавік крануўся. Ветравое шкло з боку Аляксея было прабіта куляю; ад маленькага кружка ва ўсе бакі на паўшыбы веерам разбягаліся праменні. Машыны хутка мінулі хаты маўклівай вёскі і выехалі ў поле. У Аляксея на душы пасля расставання было сумна і неяк пуста. «Без танкаў і без салдат... Так зжыліся, і вось прыйшлося разысціся!»

...Кіламетраў праз семдзесят машыны звярнулі з дарогі і пайшлі, гайдаючыся і падскакваючы, па цаліку ўсцяж лесу, у якім стаялі ўперамежку дубы і клёны. Неўзабаве грузавікі спыніліся. Справа непадалёк віднелася вёска, купкі дрэваў між хат, да вёскі — нядаўна ўзаранае рудаватае поле.

Аляксею была знаёма гэтая мясціна.

— Цю! Та мы ж отутэчкі былі ўвосень! — здзівіўся прыгожы, як дзяўчына, чарнабровы ўзводны, лейтэнант Якавенка.— Чы мэні, можа, толькі прыкінулася?

Палкоўнік Бяссонаў, што ўжо стаяў на ўзлессі каля «газіка», чакаючы, паклікаў камандзіраў батальёнаў і рот і з імі пакіраваў у лес. Маладая яркая трава, на

якой, прабіўшыся між лісця, сонечныя плямы чаргаваліся з ценем, была рабой, як маскіроўка. Пасля поля тут вельмі востра білі густыя лясныя пахі.

За ротнымі камандзірамі ў лес павалілі групкамі іншыя танкісты. Непадалёк яны ўбачылі старыя, паўзарослыя, паўразбураныя зямлянкі.

— Наша!..— пазнаў Сонцаў.

Ён зазірнуў усярэдзіну, адкуль тхнула на яго пахам сапрэлага сена. У зямлянцы было ўсё раскідана, нары напалову разламаны; у праходзе валяліся гнілыя, з вапнавымі плямамі плесені, зляжалыя шматкі сена.

Сонцаву цяпер дасталася другая зямлянка, непадалёк. Ён пастаяў перад ёю, скінуў мех і неўзабаве ўжо гаспадарыў там, выграбаючы рыдлёўкаю засохлую веснавую гразь.

— Ці доўга мы будзем кружыцца вакол гэтых лясоў? — запытаўся Быстроў у Аляксея, калі той падышоў да іх.

Старшы лейтэнант адказаў:

— Думаю, што столькі, колькі спатрэбіцца... Але, калі ўжо даводзіцца зноў тут жыць,— трэба рабіць жыллё.

## 3

Калі пачалася вайна, Аляксей Лагуновіч быў камандзірам гарматы.

У чэрвені іх полк стаяў у лагеры непадалёк ад Брэста. У ясную сонечную раніцу ціхія палаткі неспадзявана абстралялі фашысцкія самалёты.

Ля белай палатнянай вулічкі, куды, пачуўшы страляніну, выбеглі збянтэжаныя сонныя танкісты, упалі дзве бомбы. Моцная хваля ўдарыла Аляксея, кінула на зямлю. Калі ён прыйшоў у прытомнасць, то ўбачыў поруч у лужы крыві вадзіцеля і кулямётчыка са свайго экіпажа.

Гэта былі першыя забітыя, якіх бачыў сяржант Лагуновіч.

Падняўшыся, адчуваючы дзіўную знямогу ў целе, ён падышоў да таварышаў, якія ўзрушана абмяркоўвалі страшную падзею. Некаторыя яшчэ думалі, што здарылася нейкая памылка.

Ён добра памятае ўсё, да драбніцы, што было ў той дзень. Праз гадзіну прыйшоў загад па батальёнах выступаць у кірунку пагранічнага гарадка. На дарозе, ціхім палявым шляху, абапал якога расло жыта, яны зноў папалі пад бамбёжку. Хутка разасяродзілі машыны і без перапынку рушылі далей. Тады з аднаго танка блізкім выбухам сарвала вежу.

Надвечар у першы дзень Аляксей ужо быў у баі.

Першым прыцемкам немцы спыніліся на адпачынак. Аляксей усю тую ноч не заплюшчыў вачэй, усё думаў і ўспамінаў. Ён зноў бачыў разарваныя малюнкі гэтага неймавернага дня, страшны твар Міколы, вадзіцеля. Памяць усё нагадвала вадзіцеля. Згадваў забітых таварышаў, з якімі яшчэ ціхай мінулай ноччу спакойна спаў. Было трывожна, калі думаў, што толькі выпадкова смерць прайшла міма. Ён адчуваў, што жыццё яго ў небывалай, бязлітаснай небяспецы.

Потым былі баі, акружэнні, устрывожаныя гарады, на вуліцах якіх душыў горкі дым і пад нагамі хрупасцела шкло,— былі нязжатыя, патаптаныя палі. У тое лета, адыходзячы і адыходзячы, ён вастрэй, чым калі-небудзь раней, адчуў, як бязмерна моцна любіць родны край, як дорага яму ўсё, што ён пабачыў за сваё нескладанае датуль, светлае жыццё.

Дайшоў так Аляксей да родных мясцін, дзе ведаў кожны, здаецца, куток. Пад'ехаў проста з танкам да таго двара, дзе некалі бегаў басанож. Збочыў толькі на хвіліну: блізка былі немцы. Перадавыя атрады іх былі ўжо нават недзе наперадзе.

З ціхай старой хаты выбегла ўстрывожаная і напалоханая маці.

Ён, як быў задымлены, зашмальцаваны, скочыў на зямлю і абняў, пяшчотна прытуліў маці да сябе.

— Сынку,— радасна, без меры ўзрушаная сказала старая,— адкуль ты прыляцеў, галубок?

— Адтуль, адкуль усе ідуць, мама.

— Я тут дзень і ноч усё пра цябе балела. Жывы, дзякуй богу!.. Заходзь, сынку, у хату, спачні. Ды таварышаў сваіх пакліч.

Зайшлі ў хату, селі за стол. Аляксей запытаўся, ці не прыносілі лістоў ад Ніны. Нічога не было.

Маці захадзілася: трэба пачаставаць дарагога госця! Прынесла хлеба, малака, сыру. Таварышы, якія

прагаладаліся ў дарозе, з ахвотаю накінуліся на ежу. А Аляксею нішто не ішло, туга такая на душы была, што слоў для гаворкі не знаходзіў.

Маці таксама слова, здаецца, больш не прамовіла, глядзела, не зводзіла вачэй.

Напакавала торбу харчамі, як некалі, выпраўляючы ў Мінск на вучобу. Правяла маўкліва на вуліцу. Ні плачу, ні скаргі.

Удваіх з маці ішлі пешшу следам за машынай. Каля крайняй хаты абняў яе:

— Даруй, мама... што пакідаю... адну...

— Беражы сябе, сынку.

Ён, не азіраючыся, пабег да машыны, узняўся на вежу...

Усе дні жыла ў Аляксея трывога пра Ніну. За чуткамі пра бамбёжкі роднага горада прыйшла жахлівая вестка: у Мінску немцы. Управілася ці не ўправілася яна з маткаю сваёю выехаць? Няўжо не ўправілася, не здолела? Не, яна не засталася, у крайнім разе — сышла пешкі. Але як ёй было ісці, у яе стане, цяжарнай?

А можа, яна ўжо дзе-небудзь на дарозе ляжыць мёртвая? Сярод многіх іншых, сарваных вайною з родных месц? Падобна да тых, якіх ён столькі набачыўся...

Нічога невядома...

Тое, што здавалася раней непарушным, усталяваным назаўсёды, цяпер паліў, руйнаваў, захопліваў вораг. Упершыню Аляксей зазнаў, што шчасце, якое ён ведаў з маленства і якое прымаў, як належнае, могуць адабраць, растаптаць, што над усім дарагім яму навісла смяротная пагроза, пра якую раней ён не раз чуў і нават гаварыў сам і якая неяк здавалася далёкай і нерэальнай.

Яму было цяжка, горка. Ад прыроды ён быў нецярплівы, звык лічыць, што ў жыцці ўсяго можна дабіцца. Варта адно вельмі хацець. Тут жа ўсё ішло насуперак яго жаданню, і ён нічога не мог зрабіць. Кожны дзень чакаў ён, што адступленне скончыцца, а даводзілася ўсё адыходзіць і адыходзіць.

Пад Рагачовам у іх палку заставалася не больш трэці байцоў і каля дзесятка танкаў. Тут далі ім некалькі машын з другога палка, і Аляксей упершыню пайшоў на захад. Як ён ажыў, устрапянуўся! Яны адбілі ў той дзень чатыры вёскі, а яму здавалася, што наступіў пе-

ралом, што цяпер пачне ісці ўсё па-новаму. Тыя чатыры вёскі помніліся яму ўсю вайну.

На нейкім бульбяным полі, у мокры восеньскі надвячорак, яго танк падбілі, а самога Аляксея ранілі ў грудзі. Са шпіталя яго накіравалі на курсы афіцэраў у ціхі, запалонены садамі гарадок. Калі пачалася бяда на паўднёвым фронце, Аляксея і некаторых іншых курсантаў да тэрміну выпусцілі. У тое гарачае лета давялося яму з баямі, трацячы людзей і машыны, адыходзіць з узводам у данскія стэпы.

На беразе Дона Аляксея зноў ранілі.

Пазней ён бачыў сіберную, віхурную зіму пад Калачом на Доне, у танкавай брыгадзе, якая яшчэ не была ў баях. З ёй, ведучы «трыццацьчацвёрку» праз мяцеліцы, Аляксей акружаў немцаў пад Сталінградам, потым ішоў па заснежаных данскіх стэпах на захад.

Было, па цэлых сутках праседжваў ён у сцюдзёным бранявым каўпаку. Здароўе было не моцнае, ён вельмі стамляўся,—відаць, хвароба, якую ён перанёс у інстытуце некалькі год назад, ды рана ўсё давалі знак, але Аляксей браў вынослівасцю.

Ранняй вясною давялося яму вярнуцца ў тыя месцы, адкуль пачыналася летась адступленне.

На Курскай дузе на Аляксееву роту навалілася больш за трыццаць варожых танкаў. Ён цэлы дзень вёў няроўны бой, хоць было страшэнна цяжка, не прапусціў іх танкі.

Пад вечар машыну Аляксея спалілі, а яго самога ранілі, і, каб не пяхотны сяржант Праворны, тут бы і скончылася, напэўна, яго жыццё.

У шпіталі выявілі, што ён хварэў на туберкулёз, улічылі яго раны і рашылі на паўгода паслаць у тыл адпачыць, паправіцца, але ён папрасіўся ў дзеючую армію.

— Няма ў мяне тылу. Па той бок мой тыл. За фронтам. Пішыце ўжо — годзен...

Вярнуўся Аляксей пад Віцебск, дзе з самай восені быў у тых непрыкметных баях, якія вёў яго батальён...

4

Абсталявалі зямлянкі. У кожнай былі нары з жэрдак, пасцелі з зялёнай травы, засланыя шорсткімі плашч-палаткамі.

Расцерабілі, падрыхтавалі палянку для танкавага парка.

На роўнай, прысыпанай жоўтым пяском лінейцы, што цягнулася ўсцяж зямлянак, ранкам і ўвечары, як да вайны, рабілі пераклічкі і паверкі. Камбат прымаў даклады дзяжурных па батальёну, даваў наганяй за кепска прыбраныя нары ці абы-як кінуты камбінезон, старшына аб'яўляў, хто ідзе назаўтра ў нарад. Нарадаў было многа, асабліва сержантам. Сонцаў з Быстровым хадзілі ў нарады амаль праз дзень.

Сонцаў прымаў назначэнні ў нарад не толькі без нараканняў, а нават з ахвотай. Любіў сержант ездзіць па ваду ў вёску, калоць дровы, з задавальненнем мыў кацёл.

— Трэба папрасіць, каб цябе на кухню на ўвесь час назначылі,— кпіў Быстроў над таварышам,— памочнікам повара ці катламыем: вельмі ж ты тут на месцы. Не тое што ў «трыццацьчацвёрцы»...

Вольныя ад нарадаў танкісты — большасць з іх афіцэры — цэлымі днямі займаліся «пеша па-танкаваму» і страявой падрыхтоўкай. На полі, ускрай лесу, на вясёла-зялёных палянках у розных месцах амаль да цямна чулася:

— Раз, два! Цвярдзей!

— Напра-а-ва!.. Нале-е-ва!

Сонцаву ў першы ж дзень страявая апрыкрала. Ён займаўся ёю так, нібы выконваў нудны абавязак, прыдуманы невядома для якой патрэбы. Быстроў не вешаў галавы, пасмейваўся сабе, сыпаў жартачкамі; здавалася, быў зусім задаволены сваім лёсам.

— Ты што блішчыш, як медны грош? — сказаў аднойчы з непрыхільнасцю Сонцаў.

— Таму, што Сонцаў не свеціць,— і раптам загаварыў сур'ёзна, па-змоўніцку:— Свята сёння ў мяне.

— Якое?

— Першая ў гэтым тыдні... пятніца!

І, кпліва пасміхваючыся, ляпнуў таварыша па плячы.

Каму прыйшлася даспадобы страявая, дык гэта лейтэнанту Гогабярыдзе. Лейтэнант кіраваў страявымі заняткамі ў роце. Ён быў добрым, можна сказаць, прыроджаным страевіком.

Да вайны Гогабярыдзе, які быў тады сержантам, сваімі здольнасцямі і поспехамі на гэтай ніве славіўся на ўвесь полк. Ніхто не ўмеў, напэўна, так прыгожа і лёгка рабіць усё, што належала па страявому кодэксу, як гэты стройны фарсісты танкіст. У вайне яму прыйшлося развітацца са сваім палком, а ў новых часцях аб яго здольнасцях мала хто ведаў.

Цяпер Гогабярыдзе зноў захапіўся любімай справай...

Над усім гэтым было галоўнае, што непакоіла кожнага — ці хутка дадуць машыны?

На перапынках, разлёгшыся на траве, сабраўшыся ў кружок, ці перад вячэрняй паверкай часта заводзілі размовы пра іх, успаміналі, нібы сяброў. Многа каму здавалася тое, што яны робяць цяпер, няважным, амаль непатрэбным, сапраўднае, вартае ўвагі, лічылі, пачнецца тады, калі прыйдуць танкі, калі ўсе сядуць зноў у «трыццацьчацвёркі».

Нязвыклым, нібы няпраўдзівым было пасля фронту танкістам гэтае мірнае жыццё. Ненадзейнымі і зманлівымі здаваліся і цішыня, і бяспечны спакой, ад якіх адвыклі даўно. Насцярожана слухалі паўзабытыя гукі ціхага ляснога жыцця, чакалі недаверліва, што цудоўную веснавую казку лесу вось-вось зменіць трывожная ява.

Гэты настрой быў і ў Аляксея, які рабіў свае ротныя справы з няведамай раней абыякавасцю, без цікавасці кіраваў заняткамі.

Разы два камбат гаварыў пра яго роту, як пра горшую, але Аляксей адносіўся да гэтага больш як калі спакойна. Ён жыў адным — чаканнем, чаканнем, калі мінуць недарэчныя, пуставатыя дні і настане сапраўднае, жаданае.

У канцы першага тыдня сабраўся партыйны сход брыгады. Сышліся ў клубе — на палянцы, дзе ўжо былі ўкапаны радамі лавачкі, размясціліся на першых трох радах.

Палкоўнік Бяссонаў рабіў даклад пра становішча брыгады і пра задачы. Ён амаль не гаварыў пра агульную абстаноўку, а стаў расказваць пра роты, пра дзейнасць камандзіраў, і ў радах адразу наступіла цішыня.

— Чакаць папаўнення — не значыць, што можна сядзець склаўшы рукі ды хадзіць на вёску да баб. Тут

у нас — ядро: толькі тады, калі яно будзе моцным, мы зможам з'яднаць папаўненне і зрабіць баяздольнай брыгаду... А ў нас ёсць дзеячы, у тым ліку, не сакрэт, і камуністы, якія рашылі жыць на першай перадачы! Рашылі адпачыць, паправіць здароўе! Курорта захацелі!

Аляксей пры гэтых словах адчуў, што ў грудзях паявіўся халадок, сядзець стала нязручна. Ён неспакойна варухнуўся: «Зараз пра мяне скажа...»

Але Бяссонаў загаварыў пра камандзіра трэцяга батальёна.

«Можа, абміне...» Аднак Аляксей прадчуваў, што Бяссонаў не абміне яго. І, праўда, палкоўнік не забыў пра Аляксея.

— Лагуновічу таксама курорта захацелася. Стаміўся і Лагуновіч! Адпачыць трэба Лагуновічу!..

Аляксею вельмі не падабалася, дапякала яму гэта злая бяссонаўская з'едлівасць. Знарок не глядзеў на камандзіра брыгады, а адчуваў яго позірк. Адчуваў, як стала брыдка-горача, як твар пачала заліваць хлапечая чырвань. Хацелася ўскочыць, кінуць у адказ: «Няпраўда! Лухта гэта ўсё — пра курорт!» Але трэба было стрымлівацца.

Палкоўнік дапякаў за беспарадак у зямлянках, за кепскую падрыхтоўку заняткаў, дапякаў бязлітасна, але горш за ўсё было крыўднае: «таксама курорта захацеў!»

Дасталося Аляксею яшчэ і ад камбата.

— Ну, навaліліся!..— стараючыся схаваць крыўду, паспрабаваў пажартаваць старшы лейтэнант.— Што гэта сёння ўсе на мяне — усе шышкі.

Лейтэнант Якавенка поруч адгукнуўся:

— Знаюць, на каго ім сыпацца!

— Хоць ты ўжо не вучы!

Якавенка не адказаў. Старшы лейтэнант, заўважыўшы, якую сур'ёзную міну нагнаў на свой твар таварыш, глянуў на прэзідыум: на іх пазіраў Бяссонаў.

Пасля сходу, калі вярнуліся ў зямлянку, Аляксей зноў пачаў перапыненую размову:

— Значыцца, ты лічыш, што правільна?

— З адною папраўкай. Здаецца, мала далі.

— Ты жартуеш... А мне, чорт пабяры, прыкра: перад усёй брыгадай аславілі. За нішто.

— Е за што. Сутнасць правільная.

— Сутнасць? У чым яна, сутнасць, правільная? Ну, ёсць такое, аслабіў пояс. А чаму? Таму, што курорта захацеў?

— А вынікі — адны?

— Вынікі!.. Гуляем у хованкі, як дзеці! Дарослыя дзядзі! Усе вынікі нашы!

Старшы лейтэнант ледзь не вылаяўся.

— Назалела ўсё да чорта!

5

Аляксей, хоць вельмі стамляўся за дзень, уночы часта пакутаваў ад бяссоння. Звечара хацелася спаць, але пазней, калі ён, распрануўшыся, ляжаў на нарах у зямлянцы, сон чамусьці паступова адыходзіў. То нібы ў зямлянцы душна, то як бы пад бокам муляе рубец, то камар над вухам звініць... Як назойлівыя авадні, адна за адной круціліся, лезлі думкі. Ён спрабаваў адагнаць іх, расказваў сам сабе паўзабытыя вершы, хаваў галаву пад коўдру, але нішто не дапамагала.

Аляксей спазнаў гэтую бяду ўпершыню. На фронце ён засынаў лёгка і хутка, ніколі не бачыў сноў, прачынаўся заўсёды цяжка, неахвотна, здаралася, не адразу маглі разбудзіць.

Чалавек цярплівы, прызвычаены да розных франтавых нягод, ён мог спаць на марозе, седзячы ў танку, сагнуўшыся ў крук. Прытым не драмаў, як другія, а спаў. І пасля гэтага сну заўсёды адчуваў сябе лёгка, бадзёра, ніколі не чуў болю ў галаве.

Думаў не раз: пойдуць у тыл, з якой асалодаю адаспіцца, і раптам — такая неспадзяванасць!

...Сёння яму таксама не спалася. Ніяк не ішло забыццё. Ён чуў, як поруч бесклапотна храпе Якавенка, які жыў у адной з ім зямлянцы. Той звычайна засынаў адразу, як паваліцца на ложак.

Аляксей пазайздросціў яму.

Старшы лейтэнант мімаволі ўспамінаў сход, прыгадваў слова за словам, што гаварыў пра яго палкоўнік Бяссонаў. У грудзях пякло зноў крыўднае — «курорта захацеў». Ён пярэчыў камбрыгу, спрачаўся з той рэзкасцю, якая магла быць толькі ў думках, вінаваціў яго ў грубасці, неразуменні элементарных рэчаў. Але, спа-

кайнеючы, цвяроза ацэньваючы ўсё, вымушан быў прызнаваць з прыкрасцю, што вінаваты сам, што ў галоўным рацыю мае не ён.

«Размяк. Паддаўся настрою... Зноў»,— дакараў ён сябе.

У Аляксея — ён сам ведаў гэта — настрой, здаралася ўжо, глушыў развагу. Гэта была адна з асаблівасцей яго характару, ад якой ён не раз бедаваў і да якой адносіўся насцярожана. Ён лічыў, што ў яго недастаткова волі, калі ён не можа не паддавацца непатрэбным настроям. Аляксей стараўся стрымліваць гэтыя настроі, але яны ўсё ж час ад часу вадзілі яго. Ад гэтага ён быў няроўны ў паводзінах: то вясёлы, працавіты, энергічны, то — раптам маўклівы, як бы абыякавы.

Праляжаўшы гадзіну-дзве бяссонна, старшы лейтэнант апрануўся, нацягнуў на босыя ногі боты і выйшаў на двор.

Ён заўважыў, што не толькі ён адзін, а і яшчэ той-сёй не спіць. Праходзячы паўз зямлянкі, ён ледзь не наступіў на салдата, што ляжаў на зямлі.

— Хто тут?

— Я, таварыш гвардыі старшы лейтэнант,— адазваўся Сонцаў,— не магу ў зямлянцы, хоць што... душна.

Аляксей, прайшоўшыся, сеў на бярозавую калодку перад сваёй зямлянкай, закурыў.

У гэтую ноч старшы лейтэнант курыў многа...

## 6

Перад вечарам палкоўнік Бяссонаў загадаў паклікаць да яго механікаў.

Яшчэ да таго, як Бяссонаў пачаў гаварыць, усе ўжо здагадваліся, для чаго іх збіраюць. Яны не памыліліся. Неўзабаве стары, але чысценькі грузавік з механікамі і тэхнікам, пагойдваючыся, выбіраўся на роўную шасэйку, што кіравала на станцыю.

У кузаве каля кабіны сядзелі поруч Лагуновіч і Сонцаў.

На станцыі ішла ўжо выгрузка танкаў. З боку дарогі, пад невысокімі маладымі таполямі, весела выглядвалі свежаю жоўта-зялёнаю фарбаю новенькія

«трыццацьчацвёркі», здаецца, толькі што выпушчаныя з заводскага двара. Каля іх стаяла некалькі танкістаў у сініх камбінезонах.

Станцыя была разбіта. Ад вакзальных пабудоў засталіся толькі чырвоныя каменныя падмуркі ды памяты, з вырваным бокам іржавы бак воданапорнай вежы, што ляжаў на зямлі. Небагата ўцалела і хацін, якія чарнелі недалёка ад вакзала.

Каля разгрузачнай пляцоўкі расцягнуўся эшалон: чарада платформ і расчынены пульманаўскі вагон-цяплушка. На платформах узвышаліся адна за адной, нібы ў паходнай калоне, круталобыя, дужыя машыны. Брызенты з іх былі зняты, танкісты раскручвалі драты, якімі машыны мацаваліся да платформ, заводзілі маторы.

Стаяў шум, скрыгат. Танк, які толькі што важка сышоў з платформы, дзе-нідзе пашчапаў і зрушыў намошчаныя шпалы. Праз апусцелую платформу пасоўвалася павольна наступная машына, пад яе тракамі трашчала дрэва.

На пляцоўцы камандаваў Бяссонаў, каля яго завіхалася некалькі афіцэраў. Ён і сам не любіў стаяць без справы і не даваў другім. Важкі з выгляду, палкоўнік быў увесь час у руху, неадступна кіраваў выгрузкаю, трымаў усё пад пільным сваім прыглядам. Ён рабіў усё шумліва, з захапленнем,— загадваў, адчытваў, знакамі паказваў механікам, дзе весці машыны. Пад яго вострым патрабавальным позіркам усе рабілі сваю справу старанна і хутка.

На адной з бліжніх платформ дапамагаў рыхтаваць машыну да выгрузкі Сонцаў. Вадзіцелем танка быў сержант Рыбакоў. Пагаварыць амаль не давялося, бо хутка надышла чарга выводзіць танк. Паравоз рыўком скрануў эшалон з месца і падцягнуў платформу да пляцоўкі.

Сонцаў сеў на месца вадзіцеля, звыкла ўзяў у рукі рычагі. Важкая машына, паслухмяная рычагам, падмінаючы і крышачы намошчаныя дошкі і чорныя шпалы, асцярожна разварочваючыся, стала паволі сыходзіць з платформы. Сонцаў убачыў наперадзе постаць палкоўніка, той, падбегшы да машыны, рукой паказваў узяць правей. Танк збочыў управа.

Бяссонаў адступіўся, прапусціў машыну паўз сябе.

Пакуль Сонцаў вёў машыну па платформе, яму здавалася, нібы ён ідзе па хісткай кладцы над вадой, таму, калі танк сеў на трывалы непадатны грунт, на душы адразу палягчэла.

Машына адышла ад пляцоўкі. Як толькі спыніў яе, Сонцаў заглушыў матор, вылез з люка. Адразу ж яго абступілі новыя, пачалі засыпаць пытаннямі. Найбольш іх цікавіла брыгада, у якую трапілі,— ці даўно на фронце, дзе ваявала, дзе стаіць цяпер, хто камандуе, што за чалавек камандзір брыгады. Распытвалі таксама і яго, ці даўно ваюе, адкуль родам. Рыбакоў яму працягнуў каробку «Казбека», невядома дзе здабытую, і адразу па-сяброўску перайшоў на «ты». Камандзір машыны быў малады, чырванашчокі лейтэнант, ён пытаўся мала, але ўсё пільна слухаў.

Акружаны ўвагаю і цікаўнымі позіркамі, Сонцаў бянтэжыўся. Але стараўся трымацца ўпэўнена, як і трэба было, на яго думку, прадстаўніку брыгады. Ён стараўся адразу належным чынам паказаць брыгаду тым, хто яго акружаў: другой такой брыгады, як бяссонаўская, заявіў ён, няма на ўсім фронце. Гэта ўсе ведаюць. Хлопцы ў ёй усе — і сержанты і афіцэры — ясна — гераічныя. Гвардзейцы. Ён гаварыў шчыра і горача, ён перакананы быў у тым, што расказваў. Але пры ўсім тым ён з прыкрасцю адчуваў, што словы ў яго выходзяць нейкія слабыя, неналежныя.

«Эх, Быстрова няма, той бы распісаў!» — пашкадаваў ад душы ён і нездаволена змоўк.

— Адным словам, хутка пабачыце самі!

## РАЗДЗЕЛ IV

### 1

На нядаўна ціхай палянцы, падрыхтаванай для парка, было шумна. Лагуновіч, папярэдне паказаўшы месца для кожнай машыны, цяпер сачыў, як яны адна пры адной выраўноўваюцца ў рад. Перад кожнай з іх наперадзе быў камандзір, рукамі даваў механіку знак: правей, лявей, стой. Рэха на многа ладоў разносіла па лесе гурчэнне танкаў — то дабрадушна-мірнае, як мармытанне, то моцнае, пагрознае.

Апошнім паставіў сваю «трыццацьчацвёрку» чырванашчокі бялявы лейтэнант. Танк раўнуў напаследак на ўсю сілу маторам, кінуў хмару сіне-рудога дыму і замёр побач з іншымі. Аляксей ужо ведаў, што прозвішча лейтэнанта — Колышаў. Ледзь вадзіцель марудна, як мядзведзь, выпаўз з люка, Колышаў паставіў яго ў струнку, сказаў ад сэрца некалькі сярдзітых слоў, потым павярнуўся і подбегам, лёгкім юначым крокам, папраўляючы на хаду пояс і абцягваючы складкі на камбінезоне, пакіраваў напрасткі да Аляксея.

— Позніцся, лейтэнант,— хмурачы на пераноссі бровы, пад якімі былі добрыя, нібы нясмелыя вочы, сказаў Аляксей, калі Колышаў далажыў.

Лейтэнант не апраўдваўся, не спасылаўся на вадзіцеля, і Аляксею, які не любіў адгаворак, спадабалася гэта. У Колышава былі ўважлівыя, даверлівыя вочы, далікатныя, з кволым пушком шчокі. Новы камбінезон амаль не меў масляных плям, бліскучы пояс з зоркаю туга перацiскаў танклявы стан. Па тым, як Колышаў трымаўся статутных правіл, старшы лейтэнант здагадаўся, што ён прыйшоў сюды проста з вучылішча.

— Чаму не навучылі вадзіцеля паварочвацца жвавей?

— Мне яго далі толькі перад адпраўкай, таварыш гвардыі старшы лейтэнант,— адказаў Колышаў, пазіраючы сваімі яснымі вачыма на Аляксея.— Не было часу.

— Глядзі, лейтэнант! Не пазніся. У другі раз не дарую,— пагразіў Аляксей.

Новыя танкі стаялі роўным радам. Каля іх паўкругам высіліся каржакаватыя дубы, раскінуўшы ўгары крывое вузлаватае галлё. Бывалыя танкісты падыходзілі да машын, аглядалі іх уважліва, нібы прыцэньваліся. Дзіўна было бачыць, што на шурпатай бранi няма ні адной шкрабіны. На важкіх літых вежах не было ні нумароў, ні славутых знакаў гвардзейскай брыгады: угары літара «Б», пад ёй вострая імклівая страла, нацэленая наперад.

Быстроў, адчыніўшы люк, забраўся ў машыну. Карцела паглядзець, што змянілі ў ёй за гэты час.

Дзяжурны па роце, рухавы фарсісты лейтэнант Гогабярыдзе, загадаў строіцца.

Афіцэры, сержанты з усіх бакоў пачалі збягацца да дзяжурнага. Рота выцягвалася ўсцяж лінейкі.

— Хутчэй, хутчэй,— падганяў Гогабярыдзе.

Людзі строіліся, здавалася яму, вельмі марудна. Ён прайшоў паўз рады, раўняючы іх у шнурок, некалькі разоў паўтарыў «смірна», «адставіць», не забыўся заўважыць пры гэтым, што трэба будзе заняцца страявой.

Старшы лейтэнант убаку чакаў, калі Гогабярыдзе ўладуе строй. Гледзячы на роту, якая вырасла больш як утрая, ён думаў, што зараз павінен сказаць. Нарэшце Гогабярыдзе зычна скамандаваў апошняе «смірна». Ён дакладваў з такім выглядам, нібы перад ім быў не камандзір роты, яго таварыш, а камандзір брыгады ці корпуса.

— Доўга строіцеся,— сказаў Аляксей незадаволена.

У душы, аднак, старшы лейтэнант радаваўся. Ён заўсёды быў рады новым людзям, любіў з імі сыходзіцца. Сёння ж для радасці былі такія добрыя прычыны: з гэтымі людзьмі рота, якая не перавышала ўзвода, адразу вырасла. Танкаў было ў ёй, колькі належала. Гэта была сапраўдная рота.

Ён прывітаўся. Танкісты адказалі голасна, але нядружна.

Аляксей акінуў знарок строгім позіркам прыціхлы строй. Адчуў на сабе дзесяткі ўважлівых вачэй.

— Таварышы,— пачаў ён, чуючы сябе ніякавата перад позіркамі, хаваючы ніякавасць.— Наша рота сёння павялічылася. Прыйшлі да нас новыя людзі... Як камандзір ад душы вітаю вас, таварышы навічкі... вітаю... і хачу, каб вы былі на ўзроўні тых, каго прыйшлі замяніць. Каб вы ніколі не забывалі, для чаго вас паслалі сюды... Скора мы — вядома — пойдзем на фронт. Пойдзем у бой. Гнаць ворага далей з нашай зямлі... У любую хвіліну нас могуць падняць «па трывозе». Трэба, не трацячы часу, рыхтавацца. Рыхтавацца і рыхтавацца! Не шкадуючы сілы...

Ён скамандаваў «вольна» і пачаў знаёміцца з людзьмі.

Першым, да каго Аляксей падышоў, быў сержант Рыбакоў.

— Вы, сержант, не з стараабрадцаў? — Рыбакоў здзіўлена ўставіўся на камандзіра роты, не адказаў.— Чаму бараду адпусцілі?

Рыбакоў пачаў апраўдвацца — часу не было, але Лагуновіч не стаў слухаць, хаваючы пад бровамі добрыя вочы, абарваў:

— Пагаліць! У другі раз са строю выведу.

Ён запытаўся, дзе Рыбакоў ваяваў раней і дзе быў паранены.

— Пад Гомелем дзеўбанула, таварыш старшы лейтэнант... Два дні толькі і пабыў на фронце...

— Які кліранс у «Т-34»? — перабіў яго старшы лейтэнант.

Рыбакоў адказаў хутка і дакладна. Старшы лейтэнант, ажывіўшыся, задаў яшчэ некалькі тэхнічных пытанняў, і на ўсе Рыбакоў адказваў правільна, хоць між іх былі і не лёгкія.

Аляксей, які вельмі любіў тэхніку і з павагай ставіўся да людзей, што яе ведаюць, адышоў ад Рыбакова задаволены.

Нямала з тых, каго прыслалі, былі толькі ў брыгадзе новымі. Некалькі чалавек, як і старшы лейтэнант, пачыналі вайну ў першы дзень, пад Пярэмышлем, Брэстам і Беластокам, пакідалі фронт, параненыя, абгарэлыя, на некалькі месяцаў.

Аляксею падабалася, што не адзін з новых людзей яго пахадзіў ужо ў «агні».

Усё ж большасць з новага папаўнення не былі яшчэ на фронце. Але і яны здаліся Аляксею людзьмі надзейнымі. Асабліва запомніўся яму малодшы сяржант Архіпаў.

— Не ваявалі? — запытаў Аляксей у Архіпава, ведаючы гэта са спісу, які ён чытаў перад тым.

— Ваяваў, таварыш гвардыі старшы лейтэнант,— запярэчыў той. Аляксей заўважыў: запярэчыў з крыўдай, як бы ні за што прынізілі яго.

— Дзе?

— На Урале. На танкавым... Машыны вось гэтыя рабіў.

Байцы засмяяліся, Архіпаў з папрокам азірнуўся на таварышаў. Быў ён старэйшы за многіх, паважны, дужы, відаць, нямала парабіў на вяку сваім. Аляксей з павагай паглядзеў на сяржанта, чамусьці паверыў, што гэты не падвядзе.

У сяржанта Касцючэнкі, васпаватага, з карымі вузкімі вачыма, на гімнасцёрцы бялеў сярэбраны парты-

занскі медаль. Аляксей ведаў са спісу толькі, што ён да ранення быў у нейкай брыгадзе імя Сталіна. Старшы лейтэнант запытаўся, дзе размяшчалася гэта брыгада, і калі сержант сказаў, што ў Беларусі, не стрымаў цікавасці. Аказалася, што брыгада стаяла на поўдзень ад Мінска, у мясцінах, у якіх старшы лейтэнант некалі быў!

Аляксей аднойчы ездзіў туды з таварышам. Чыгункі там не было, і яны дабіраліся на выпадковай машыне, якую «падстрэлілі» на ўскраіне Мінска. Была восень, абодва ў трасучым кузаве намерзліся так, што пасля маці таварыша ніяк не магла адагрэць іх чаем з малінаю. Аляксей адразу ўспомніў невялікае мястэчка. Асабліва выразна чамусьці прыгадалася брукаваная плошча з новым каменным будынкам школы і паўразбураным касцёлам.

На гэтым іх размова ў першы раз скончылася. Аляксей стаў гутарыць і знаёміцца з іншымі.

Калі танкісты разышліся чысціць машыны пасля дарогі, Аляксей выклікаў Касцючэнку ў зямлянку. Ён спадзяваўся, што Касцючэнка, можа, што ведае пра Мінск, пра яго знаёмых. Было яшчэ адно прытоенае жаданне, якое Аляксей стрымліваў, бо амаль не верыў, што яно тут споўніцца. Хацелася запытацца, ці не сустракаў дзе Касцючэнка Ніну. Ён, вядома, разумеў, што гэта амаль безнадзейна. Хіба знойдзеш пясчынку ў моры! Але спадзяванне, хоць і кволае, усё-ткі жыло ў ім, не давала супакою. Сержант, увайшоўшы, далажыў, што прыбыў па загаду.

— На гэты раз не па загаду, а па просьбе. Сядай, сержант.

Касцючэнка прысеў на край услона, у вачах мільганула цікаўнасць: аб чым старшы лейтэнант будзе прасіць.

— Раскажы, як там землякі мае ваююць?.. Ты, здаецца, не з Беларусі? Як ты трапіў туды?

Сержант сказаў, што да вайны служыў у Брэсце, што пад Баранавічамі, калі дывізія білася ў акружэнні, яго раніла ў нагу. Дывізія была разбіта, і байцы асобнымі групкамі прабіваліся на ўсход самі. У адной групе быў і Касцючэнка. Ісці яму было цяжка, з кожным днём рана даймала ўсё больш, і прыйшлося спыніцца ў адной вёсцы. Яго ўзяла да сябе адзінокая бабулька, якой

ён потым дапамагаў у гаспадарцы. У вёсцы сабралася чацвёра салдат. Агледзеўшыся, падмацаваўшыся, яны згаварыліся пайсці ў лес, да партызан. Нага яго да таго часу направілася. Звязацца з атрадам удалося не адразу — толькі зімою, у студзені, перабраліся ў лес.

— Хто ў вас быў камандзірам?

— Ермакоў.

— Ермакоў? Не ведаю. А з Мінска нікога не было?

— Як жа, былі і з Мінска. Многа было. Гарбуз з Мінска, Ліпніцкі. Камісар наш Туравец таксама...

— Нічыпар Паўлавіч?! — узрадаваўся Аляксей.— Гэтага — ведаю! Ён мне партыйны білет уручаў. І на заводзе не адзін раз сустракаліся. Ён быў сакратаром райкома.

Старшы лейтэнант неспакойнымі рукамі скруціў папяросу, уставіў у муштучок з плексігласу, глыбока зацягнуўся.

Стаіўшы дыханне, з намаганнем выціснуў:

— А Лагуновіч... не чуў такіх?

— Лагуновіч?.. Была жанчына адна маладая,— сказаў Касцючэнка.

— Зваць як?

— Па бацьку не ведаю, а так — Нінаю зваць.

— Ніна?! — старшы лейтэнант мімаволі, узрушана падняўся. Хударлявы, абветраны твар яго пабялеў. Губы раптам дробна задрыжалі.

— Ніна,— паўтарыў сяржант, крыху разгублены тым, што старшы лейтэнант так хвалюецца.— Яе па прозвішчу мала хто і зваў, усе Ніна ды Ніна...

— Якая... яна з сябе?

— Русявая такая, невысокая... Камісар яе аднойчы пасылаў у разведку ў горад, дык мы з Васем Крайко праводзілі... Па-нямецку добра гаворыць. Яна ў нас часта хадзіла на сувязь, у разведку... Голас у яе такі глыбокі, нібы знутры ідзе...

— Яна! Ніна!

Аляксей няцямна выняў папяросу з муштука, высыпаў попел на руку — апёкся. Але замест выразу болю на губах заззяла ўсмешка. Праз хвіліну яна раптам пагасла.

— А ты не памыліўся, сяржант? Лагуновіч, цвёрда?

— Ну што вы!.. А вы хто ёй, выбачайце, таварыш старшы лейтэнант? Брат ці знаёмы?

— Добры знаёмы! Жонка мая, мусіць!..— Ён быў цяпер не падобны на таго стрыманага, нават нібы жорсткага камандзіра, якім здаўся ён раней Касцючэнку.— Даўно вы бачыліся?

— У студзені прыкладна было, калі мы праводзілі яе ў горад. Ну, і пасля, вядома, бачыў...

— А пра сына нічога не чуў? У мяне сын павінен быць.

Сяржант сказаў, што не чуў.

— Шкада! Там, можа, мужчына вялізны вырас. А можа, і жанчына, хто ведае. Чакаў хутка, а тут вайна пачалася, усё пераблыталася... Тры гады, сяржант, ні адной весткі. Ты да мяне як з неба зваліўся! Раскажы, як яна там? Якая яна цяпер? Не магу я ўявіць яе разведчыкам.— На хвіліну ў вачах прайшоў цень трывогі.— Цяжка ёй і небяспечна, відаць?..

— Небяспечна. Не без гэтага, самі ведаеце. Але нам памагаюць людзі. Яна больш ходзіць у гарнізоны...

Касцючэнка спыніўся. Што б яшчэ расказаць?

— Ну, пасля той разведкі я, вядома, сустракаў яе некалькі разоў. Але так, павітаюся і прайду староною. А каб гаварыць, скажам, то не прыходзілася.

— Эх ты,— ні то шкадуючы, ні то з дакорам сказаў старшы лейтэнант.

Толькі пазней, калі Касцючэнка пайшоў і Аляксей застаўся адзін, ён адчуў усю глыбіню шчасця. «Знайшоў!» — радаваўся ён. Гэтае простае слова мела для яго багатае, разнастайнае значэнне. Скончылася трохгадовае няведанне. Яна жыве! Яна там, куды ён пойдзе. Можна напісаць пісьмо, спадзеючыся, што яно дойдзе да яе і што прыйдзе адказ. І яшчэ многае значыла гэтае слова «знайшоў».

«Ліха пабяры,— падумаў ён,— як у жыцці стаецца: шукаў усюды, дзе толькі магла яна быць, а знайшоў там, дзе амаль не спадзяваўся».

Шчасце яго было такое вялікае, што затапіла ўсе іншыя пачуцці і заглушыла нават трывогу за Ніну. Увесь дзень Аляксей жыў думкамі пра яе.

У той дзень ён напісаў ліст. Згарнуўшы трохкутнік, ён паклікаў ардынарца і адразу паслаў на пошту. Яму хацелася, каб ліст ляцеў да Ніны, як тэлеграма.

Што б ні рабіў ён,— не-не ды і вяртаўся думкамі да Ніны. Адчуванне радасці ні на хвіліну не пакідала яго.

## 2

Напярэдадні сержант упарта адмаўляўся выступаць з лекцыяй: не ўмее ён гаварыць, няхай лепш хто іншы.

— Я яшчэ, таварыш гвардыі старшы лейтэнант, ніколі не выступаў...

— Ну дык што? Не выступаў, а вось — выступіш! Трэба ж калі-небудзь пачынаць.

— Не ўмею я. Выдумкі ў мяне няма...

— Вось і добра,— нібы нават узрадаваўся ротны.— Нічога выдумваць і не трэба. Трэба расказваць усё, як было. Як прыходзілася рабіць у баі, якія выпадкі былі. Як выходзіў, калі туга было.

— Каб паказваць, таварыш гвардыі старшы лейтэнант,— іншая рэч... а гаварыць...

— Камбрыг таксама лічыць, што ты павінен выступіць,— падтрымаў старшага лейтэнанта Быстроў.

Спасылка на камбрыга зламала ваганні Сонцава.

— Значыцца, будзь гатоў.

Быстроў за Сонцава адказаў:

— Усё будзе чын чынам, таварыш гвардыі старшы лейтэнант.

Камандзір гарматы і вадзіцель былі людзьмі рознага складу. Павольны звычайна і, здавалася, ляны Сонцаў быў разам з тым вельмі дабрадушны і згаворлівы, у адрозненне ад Быстрова.

Збліжала яго з Быстровым спакойнасць і вытрымка ў баі. У самую крутую хвіліну вадзіцель не губляў развагі.

Ён быў адным з лепшых, найбольш вопытных вадзіцеляў. Многа пабачыўшы за вайну, ён амаль ніколі не расказваў пра сябе, любіў слухаць іншых,— больш за ўсё, напэўна, вострага на язык Быстрова. Калі і паяўлялася ахвота пагаварыць, то звычайна чулі ад яго пра Старадубскі раён на Браншчыне, дзе ён быў да вайны трактарыстам і які здаваўся яму лепшым кутком на зямлі.

Быстроў рос і жыў далёка ад яго, у сібірскай вёсцы, акружанай з усіх бакоў дрымучаю тайгою. Ад вёскі было кіламетраў шэсцьсот да Іркуцка і мала менш да бліжэйшай чыгункі. Суровая прырода загартавала моцную натуру. З маленства ён цэлымі днямі бадзяўся з

ружжом па тайзе, адзін ці з аднавяскоўцамі, прыносіў дадому лісіц, глушцоў, рабчыкаў, а часам, здаралася, прывозіў і дзікага аленя. І пазней, калі вучыўся ў школе, калі працаваў брыгадзірам трактарнай брыгады на лесараспрацоўках, ён часта хадзіў са стрэльбай па тайзе.

Рос Быстроў дужым, вынослівым і ўпэўненым у сабе. Мусіць, цераз гэтую ўпэўненасць ён глядзеў на ўсё смелымі вачыма паляўнічага з паблажлівай усмешкай.

Яшчэ напярэдадні Быстроў запэўніў Сонцава, што самае цяжкае — пачаць лекцыю, а далей усё пойдзе «як па маслу», і Сонцаў для пачатку перапісаў заметку пра сябе з карпусной газеты.

Сонцаў загадзя некалькі разоў прачытаў яе, але, калі цяпер выйшаў да століка і ўбачыў перад сабой танкістаў, што падрыхтаваліся слухаць усё, што ён амаль завучыў, забылася раптам. Пакашліваючы, ён разгублена, з такім стараннем, што на твары выступіў пот, намагаўся ўспомніць, намагаўся знайсці апору, выхад. Што ж рабіць? Прачытаць, можа? Але чытаць, здавалася яму, было нядобра. Ганебна.

— Раскажы народу, як на адной гусеніцы катаўся. Пад Барком,— прыйшоў у час на падмогу Быстроў.

Добры хлопец Быстроў, хоць часам і злы на язык.

— Гэта можна, магу расказаць... Там — Быстроў тады таксама быў...

— Была справа! — пацвердзіў Быстроў.

— Ледзь не папаліся фрыцам!.. Падбілі два іх танкі, але і нам хапіла на арэхі. Гусеніцу разарвала. Заселі мы. Сядзім, ні з месца!.. Што рабіць? Трэба машыну ратаваць. А на адной гусеніцы як ты паедзеш?

— На адной — хто ж кажа! — тонам знаўцы адгукнуўся нехта з танкістаў.

— А выходзіць — можна! — Сонцаў адчуў, як слухачы яго зацікавіліся адразу. Скептычныя, спасцярожлівыя ўсмешкі, што бянтэжылі яго, згаслі, і, убачыўшы гэта, Сонцаў падбадзёрыўся, забыў пра свае страхі.— Тэарэтычна нельга, а на справе — можна.

— Можна? Ну, ты гэта, брат...

— Асцярожней, друг... Чулі ўжо аднойчы такое...

— Цікава, як гэта?

— А вось так. Уключыў я, значыцца, тады заднюю хуткасць, развярнуў машыну на дзевяноста градусаў

у бок немцаў кармой. Потым уключыў пярэднюю... вы- ціснуў поўны газ. Машына рванулася наперад... Пра- цую левым бартавым фрыкцыёнам.— Сонцаў дапаў- няў свой расказ звыклымі жэстамі, яўна не верачы ў сілу слова.— Пасля рыўка машына, вядома, зноў па- вярнулася перадам да немцаў, але мне ўсё-такі ўдалося праскочыць трохі. Тады разварочваю машыну зноў кармой да немцаў і даю поўны газ... Праскочыў яшчэ некалькі метраў.

Ён вёў апавяданне таксама і далей, старанна, пад- рабязна, хоць усё, што ён рабіў потым, было паўтарэн- нем аднаго прыёму.

— Колькі ж вы... паўзлі? — зацікавіўся лейтэнант Якавенка, нібы не ведаў. Ён сядзеў між танкістаў у ад- ным з дальніх радоў.

— Метраў... чатырыста — не інакш.

— Здорава! — не стрымаў захаплення Касцю- чэнка.

— Пакуль я «манеўраваў», Быстроў біў з гарматы і кулямёта па аўтаматчыках. Завялі «трыццацьчацвёр- ку» ў лагчыну. Шчарбіна пабег за цягачом, а мы з Бы- стровым і лейтэнантам засталіся пры машыне... А по- тым Шчарбіна прывёў цягач, нас узялі на буксір і вы- везлі на рамонтную базу.

— Не вас, а танк. На рамонтную базу! — заўважыў нейкі жартаўнік.

Слухачы засмяяліся, але іх смех быў прыязны.

Падбадзёраны першым поспехам, Сонцаў пачаў га- варыць вальней і цікавей. Ён не хутка і спыніўся б, каб Аляксей не напомніў, што пара канчаць.

— Ну як, таварыш гвардыі старшы лейтэнант, лек- цыя... нішто сабе? — не ўтрываў ён, калі танкісты, пе- рагаварваючыся, перакідваючыся жартамі, пачалі ра- зыходзіцца. Яго расчырванелы, у рабацінні твар зада- волена ззяў.

— Вельмі добра, Сонцаў. Прафесар пазайздрос- ціў бы!

Пашукаўшы позіркам між танкістаў, Аляксей па- даўся да Якавенкі, які таксама сабраўся ісці адсюль. Яны пайшлі разам.

— Як табе падабаецца, друг мой строгі, наша пер- шая спроба? Удалася?

— У асноўному ўдалася...

— Так што, думка такая, што можам і сваю акадэмію адкрываць?

— Ну, вжэ і акадэмію... Пакуль што хоць курсы по повышэнню кваліфікацыі. Нэ трэба одразу так высоко сягаць.

Калі ішлі па лясной утаптанай сцежцы, строгі друг, што найбольш маўчаў з нейкімі думкамі сваімі, сказаў:

— Дарэчы, одна практычна заўвага, товарышу ротны. Я непакоюся, чы нэ будуць лекцыі однабокімі.

Аляксей жартаўліва, па-вучнёўску паслухмяна зірнуў на Якавенку. Позірк Якавенкі быў сур'ёзны.

— Трэба показваць нэ тількі лепшае, алэ і помылкі, якія былі ў баях. На помылках, товарышу ротны, таксамо можно вучыць.

## 3

Надвячоркам, ледзь наступіла вольная хвіліна, па ўзлессю рассыпаліся частыя пералівістыя гукі. Старшы лейтэнант падышоў да гуртка, што акружыў гарманіста: усярэдзіне сядзеў Касцючэнка, сядзеў амаль заплюшчыўшы вочы, пасміхваючыся, угінаў плечы, нібы дапамагаючы рукам. Прайграў адну песню, другую. «Три танкиста», «На позицию девушка провожала бойца»... Яму так памагалі галасамі, што гармоніка часам і не было чуваць.

Спявалі голасна, не надта зладжана.

— Давай тую, партызанскую! — папрасіў маўклівы Архіпаў, калі песня сціхла.

Пальцы Касцючэнкі, не спяшаючыся, прайшліся па белых гузіках. Узнікла незнаёмая Аляксею, шчымлівая мелодыя. Заплюшчыўшы вочы, нібы перажываючы душою, Касцючэнка глуха, болесна пачаў:

На опушке леса старый дуб стоит,
А под тем под дубом партизан лежит.
Он лежит, не дышит, он как будто спит,
Золотые кудри ветер шевелит.

На Аляксея ад гэтых слоў, ад мелодыі дыхнула бядою, незвычайна зразумелаю, блізкаю. Але дзіўна, ён амаль не адгукнуўся на бяду, у ім, не зважаючы на нечы, вельмі блізкі боль, жыла радасць.

Аляксей паспрабаваў уявіць цяперашні воблік Ніны, але не змог, яна бачылася такой, якой была да вайны.

Яму захацелася адысці ад усіх, застацца аднаму са сваёй радасцю. Ён пайшоў у поле. З лесу ўслед яму данасілася:

Ты скажи хоть слово матери своей.
Ой, болит сердечко по тебе, Андрей.

Думкі перанеслі Аляксея туды, дзе была Ніна. У памяці ўзнік той гарадок, дзе быў некалі з таварышам.

Найшлі ўспаміны. Малюнкі далёкага былога набліжаліся, ажывалі, паўставалі з незвычайнай яснасцю. Асабліва ясна яму прыгадаліся дні, калі ён працаваў інжынерам. «Я сумавала, цябе не было цэлы дзень»,— здавалася, пачуў ён голас Ніны... Калі яна казала гэта?.. Нібы зноў бачыў чырвоныя, шырокія карпусы ў сасняку за горадам... Клопату было багата: цэлымі днямі не выходзіў з цэха. Развітваўся з Нінай ранкам, а вяртаўся позна ўвечары. Працаваў з задавальненнем, але ўсё ж чакаў вечара, сустрэчы з Нінаю; дабіраючыся дамоў — дарога была няблізкая — кожны раз спяшаўся.

Ніна звычайна выходзіла насустрач...

«Цэлы дзень не было!.. Мы тады ростань мералі днямі, нават не днямі — гадзінамі».

Яму прыгадаўся той вечар, калі яны пазнаёміліся. Аляксей тады вучыўся ў політэхнічным інстытуце, на апошнім курсе. Таварышаў па пакоі запрасілі ў госці знаёмыя дзяўчаты з універсітэта, і хлопцы разам з сабою пацягнулі і яго. Аляксей спачатку і слухаць не хацеў: якраз пачаў пісаць дыпломны праект, не давалася адна задача, над якой ён біўся і якая не выходзіла з галавы. Хлопцы пацягнулі сілком.

Там Аляксей і ўбачыў яе.

Іх пазнаёміў Косцік Зубец, Аляксееў таварыш. Пазнаёміў так, нібы даўно сябраваў з Нінаю, хоць, аказалася, ведаў усяго дні тры. Пагаварыў Аляксей трохі з ёю і нспадзявана захапіўся размоваю, забыўся і пра свой праект, і пра таварышаў. Косцік жа, раўнівец, чамусьці пакрыўдзіўся на Ніну! Знарок увесь вечар абыходзіў яе, танцаваў з другою. Не падышоў ён і тады, калі сталі разыходзіцца, і Аляксей павінен быў право-

дзіць Ніну дадому. Увесь час, пакуль ішлі ціхім і нібы апусцелым горадам на вуліцу, дзе жыла Ніна, таксама гаманілі. Пра што давялося, чамусьці ўсё ў тую ноч здавалася цікавым абаім. Такім цікавым, што і не заўважылі, як падышлі да яе дома. Ім было так лёгка, добра ўдваіх, што не хацелася развітвацца.

«А мне адразу здалося, што вы — маўчун!» — сказала яна са здзіўленнем. «А хіба — не?» — запытаў Аляксей у тон ёй. Яны засмяяліся...

Успаміны ішлі ўрыўкамі, без усякай паслядоўнасці. Адны паўставалі ясна, іншыя праплывалі няўлоўнымі прывідамі.

На зялёным полі апошнія хвіліны палымнелі чырвоныя праменні сонца, працягнуліся дзіўныя доўгія цені. Нейкі час праменні вогненна палалі на воблаку, падпаліўшы берагі яго, нарэшце і яно згасла. Маладое жыта пакрылася расою. Паступова сціхала жыццё. Толькі там, дзе была рота, чуўся неўтаймаваны шум.

Аляксей схамянуўся — зайшоў далёка — і павярнуў назад. Ішоў ён хутка. Прыпыленыя днём хромавыя боты чапляліся за сцяблінкі, што раслі на самым краі сцежкі, атрасалі расу. Угары халявы былі шэрыя ад пылу, а ніжэй намоклі ад расы.

— Дзе ты прападаў? — запытаў Аляксея лейтэнант Гогабярыдзе, які спаткаў яго на ўваходзе ў лес.

— Сакрэтнічаў з Нінаю.

Смуглявы, з тонкім носам і прыгожымі вусікамі твар лейтэнанта ажывіўся, у вачах бліснула цікаўнасць.

— З якою Нінаю? Пазнаёміўся?

— З Нінаю, з жонкаю.

— Ну-ну, не выдумляй! Я даведаюся! — не паверыў, пастрашыў Гогабярыдзе.

4

Праходзячы каля зямлянкі Сонцава, старшы лейтэнант стаў, каб прыкурыць. Непадалёк ішла гаворка. Аляксей пазнаў непаспешлівы, басавіты голас Быстрова.

— Ты кеміш, куды папаў? — пытаў у кагосьці Быстроў.— Да сталінградцаў. Пад Сталінградам пачалі. Адтуль і рванулі на Дон. У самай сярэдзінцы. На га-

лоўным напрамку. Пад Курскам зноў жа на галоўным напрамку паставілі.— Быстроў асабліва вылучыў: на «галоўным напрамку».— І не зганьбілі сябе. Потым пад Ельняй біліся. Да Віцебска дайшлі.

— Ведаю... Ужо чуў...— мірна, падобна было паблажліва, адказаў нехта, відаць, з новых. Голас Аляксею здаўся знаёмы, але ён не мог пазнаць, хто гаварыў.

— Ведаеш! Мала ты ведаеш.

— Слухай, калі гавораць табе,— убіўся трэці: Аляксей пазнаў голас Сонцава.

Новы не адазваўся.

— Варушы мазгамі, пранікай усярэдзіну! — зноў загаварыў Быстроў.— Прынялі да нас — павінен дзейнічаць па-асобаму. Мерка ў нас асобая! Пойдзем, пабачыш — задачу першы нумар дадуць. Папомні маё слова — самы важны напрамак дадуць. Дзе важней ды цяжэй!

Гаварыў Быстроў як бы падсмейваючыся, як бы знарок стараючыся зачапіць, і разам з тым вельмі сур'ёзна.

Лагуновіч выняў запальнічку, але так і не запаліў, прыслухоўваючыся да гаворкі. «Бач ты, агітатар!»

— Гэта, сусед, не так сабе, не «цьфу» — гвардзеец-сталінградзец! У цябе — чэсць твая і ўсёй роты. У чарадзе адна авечка і то ўвесь гурт можа зняславіць, а тут, у нашай баявой танкавай роце...

— Хто цябе прасіў вучыць? — нецярпліва адгукнуўся — Аляксей пазнаў: Рыбакоў.— Зампаліт табе даручыў? Ён?

— А калі і ніхто не даручыў?

— Ну, дык і маўчы, зампаліт і без цябе абыдзецца.

— Гэта яшчэ як сказаць! Я, можа, таксама адказваю за брыгаду.

— Ге-не-рал мне знайшоўся! — У голасе Рыбакова Аляксей пачуў насмешку.

— А як ты думаеш? Адказваю! Па-першае, няма ніякіх падстаў сумнявацца, што я магу стаць да канца вайны генералам. Чалавек я відны, смелы і да ўсяго разумны, не табе пара,— адкрыта перайшоў на жарт Быстроў.— А па-другое, хоць я, скажам, і аднаго амаль чыну з табой, а ўсё-ткі не раўня табе. Ты тут без году тыдзень, ты... накшталт худога цяляткі, што падсуну-

лі да добрай маткі, а я ад Сталінграда іду,— зноў вельмі сур'ёзна загаварыў ён.— Я, друг, з самага нараджэння брыгады выводзіў яе ў людзі. Яна мне як сястра родная ці маці. І я маю права патрабаваць, каб салдаты ў ёй былі дастойныя, а не шмендрыкі якія-небудзь...

— Точ-чна, Быстроў,— падтрымаў яго Сонцаў.— Уцэліў!

Рыбакоў прамаўчаў, і размову перавялі на другое. Аляксей, прыкурыўшы, зацягнуўся горкім дымком і пайшоў далей.

«Агітатар!» — падумаў ён, усміхаючыся, пра Быстрова. Падумаў: талент нейкі ў Быстрова асаблівы: даводзіць, падпарадкоўваць сабе. Нібы пакеплівае, гарэзнічае, а за гэтым — напорлівасць, дужасць, якую адчуваюць усе. Дзіўная дужасць, упэўненасць, што падпарадкоўвае іншых.

«Што з імі будзе потым? — падумаў ён, успамінаючы Рыбакова, Касцючэнку, Колышава і другіх навічкоў, з якімі яму належала хутка ісці ў наступленне.— З Касцючэнкам больш-менш ясна. Гэты ўжо апалены агнём... А як Колышаў? Хлопчык ад мамкі, напэўна, яшчэ не адвык...»

Пасля паверкі лагер стаў сціхаць. Натомленыя за дзень, людзі хутка засыналі. Толькі вартавыя хадзілі павольна, мерна ўсцяж зямлянак, вакол парка, дзе сталі маўклівыя здані машын пад шэрымі пакрываламі. У цішыні было чуваць, як шэпча ўгары на дубах лісце. Недзе ў лесе спалохана крыкнула птушка і сціхла.

Спакоем і цішынёю дыхала ноч. І ад таго, што гэта ноч была падобна на тыя, якія ён некалі ведаў, ходзячы з Нінаю да раніцы па маўклівых вуліцах, успаміны нязвыкла набліжалі, нібы падводзілі ўсутыч да яго нядаўна далёкае, амаль недасяжнае... Вось і скончаны доўгія гады ростані. Яшчэ трохі — і ён прыйдзе да яе! Толькі б хутчэй праляцелі гэтыя спакойныя дні, хутчэй на перадавую, у наступленне!..

У гэты вечар Ніна бачылася такою блізкаю, што, здавалася, ён чуў яе дыханне, яе шэпт.

Увесь вечар ён сядзеў з Якавенкам, які дзяжурыў, і ўсё гаварыў і гаварыў пра сваё жыццё, пра Ніну. Яму многае хацелася выказаць. Апавядаючы, ён курыў папяросу за папяросаю.

У позні вечар над лесам узышоў месяц, але яго неўзабаве пачалі зацягваць хмары. На небасхіле ўспыхвалі зарніцы.

Апоўначы паліў дружны дождж, і Аляксей вярнуўся ў зямлянку.

## РАЗДЗЕЛ V

### 1

Туравец ішоў апанаваны невясёлымі думкамі.

Спроба вырвацца з блакады скончылася няўдала,— на золаку брыгада вымушана была вярнуцца назад, заняць свае ранейшыя пазіцыі. Настрой у людзей, заўважыў Туравец, быў прыгнечаны, усіх непакоіла няўдача.

«Як гэта магло здарыцца?» — стараўся сабраць ён думкі да ладу. Але яны былі непаслухмяныя, даваліся ў знакі змора і перажытае ўтрапенне.

Урыўкамі ў памяці жыло нядаўняе: міны, завываючы, праносяцца ўгары і выбухваюць то там, то тут. У іх імпэтным, прагным святле вогненна ўспыхваюць дрэвы. «А-а-ай!» — крычыць-лямантуе нехта паранены. Хто гэта?..

На ўспамін хутка надыходзіць новае — гэтыя два чортавы кулямётныя гнёзды! З іх так сякуць, што галавы падняць нельга.

«Эх, мін няма!» — мімаволі пашкадаваў камісар зноў, ідучы ў штаб, нібы тыя кулямёты перашкаджалі і цяпер.

«...Таварыш камісар! Скажыце, я... я яго гранатаю».— Гэта быў Коля Малік, камсорг атрада. Ён узяў гранаты, хутка ўставіў запалы і папоўз. Знік у цемры. Потым Туравец пачуў у тым баку два выбухі. Адзін кулямёт адразу сціх. Але другі, што быў правей, сек параненшаму, нават злосней...

Сумны, змарнелы, падышоў ён да штаба, які размяшчаўся на той самай палянцы, што і ўчора. Тут сёння было бязладдзе, якое гаварыла, што людзі сюды вярнуліся нядаўна і вельмі знябытыя. Паўразбураны ўчора будан выстаўляў угару жэрдкі. Скрынкі са штабной маёмасцю ляжалі абы-як на траве. Не было калі ўладаваць.

Ля будана быў шчуплы чарнавокі Габдулін. Ён сказаў, што Ермакоў у радыста, гаворыць са штабам злучэння.

Хутка прыйшоў і Ермакоў.

— Ну што, Мікалай? — запытаўся Туравец.— Чым парадуеш?

— Штаб фронта абяцае прыслаць самалёт. Як там у «Радзіме»?

Ермакоў, слухаючы Тураўца, неспакойна хадзіў. Ступаў ён важка, шырока і роўна, нібы мераў зямлю; прайшоўшы некалькі крокаў, рэзка на абцасах павяртаўся і па сваіх слядах ішоў назад. Ён быў пануры і ўзрушаны.

Блізка пачулася кулямётная страляніна.

— Кутузаўцы б'юцца,— перапыніў камісара Ермакоў, потым, даўшы знак працягваць, зноў захадзіў.

Ён мімаволі моцна прыціскаў абцасамі траву.

Туравец скончыў расказваць, а камбрыг усё крочыў маўкліва. Ермакоў не ўмеў утойваць свайго настрою, усё, што ён адчуваў, адбівалася на яго рухавым, неспакойным твары. Ён думаў аб нечым непрыемным, куткі яго тонкіх губ незадаволена крывіліся.

— Як гэта магло здарыцца? — сказаў, нібы разважаючы з сабою, Туравец.— Недаацанілі сілу іх? Памыліліся ў нечым?

Ермакоў рэзка спыніўся, хуткімі зеленаватымі вачыма здзіўлена зірнуў на камісара, уражаны тым, што той адгадаў яго думкі.

— Ясна «як»! — прамовіў ён неахвотна.— Прашляпілі — вось як! — і закрочыў зноў.

— Прашляпілі? У чым? Месца выбралі няўдала? Не можа быць, каб усюды столькі іх сядзела.

— На ражон самі палезлі!

Габдулін паведаміў, што пасля таго, як партызаны разведалі ўчастак, немцы падкінулі туды ў падмацаванне пяхоту з мінамётамі і некалькі танкаў.

Ермакоў раптам спыніўся і заклапочана, рашуча кінуў:

— Я паеду да кутузаўцаў, потым у «Радзіме» буду. Вярнуся праз дзве гадзіны.

Ён лёгка крутнуўся, гукнуў на хаду ардынарца і імкліва схаваўся за дрэвамі. Праз хвіліну пачулася нецярплівае наравістае фыркание каня.

— Вось табе і Першамай! — загаварыў Габдулін.— Не пашанцавала, можна сказаць. Святочны сход і ўсякія там урачыстасці адмяняюцца з прычыны неспрыяльных умоў. Або пераносяцца на наступны год. Тое ж, што было пазалетась.

Азірнуўшыся навокал, ён усміхнуўся зачаравана бліскучымі, з касымі разрэзамі вачыма.

— А сонца майскае, святочнае! І такое хараство ўсюды, чорт пабяры, што пра смерць і думаць не хочацца. Хоць, кажуць, ніколі паміраць неахвота: увосень — зямля мокрая, зімой — холадна, ну, а ў такі дзень, як сёння, хочацца жыць, жыць і жыць!..

Туравец глянуў на гадзіннік.

— Хутка павінны перадаваць агляд сённяшніх маскоўскіх газет... Я іду да рацыі. Трэба паслухаць, як там жывуць нашы, сёння, у такі дзень...

— Я з табою іду, камісар.

## 2

Туравец і Габдулін адразу пайшлі праз палянку да ледзь зазелянелай бярозкі, пад якой прыладзіўся са сваёй рацыяй радыст.

У батарэях рацыі засталіся мізэрныя рэшткі энергіі, і ёю карысталіся цяпер толькі для самых важных баявых спраў.

Радыст, маленькі светлавалосы хлопец, стоячы на каленях, корпаўся каля рэчавага мяшочка. Туравец яшчэ на хаду папрасіў:

— Настрой, Валодзя, на Маскву! Сталіцу будзем слухаць!

Даведаўшыся пра тое, што зараз будуць слухаць перадачу з Вялікай зямлі, з Масквы, да рацыі хутка пачалі збірацца ўсе, хто быў пры штабе. Праз некалькі хвілін пад бярозаю, навокал Тураўца, Габдуліна і радыста, ціснуўся ўжо невялікі гурток. Радыст, прыладзіўшы перад сабою скрынку, паклаў на яе лісток чыстай паперы, хутка завастрыў тры алоўкі.

Туравец час ад часу вымаў з кішэні кіраўскі гадзіннік, з тоўстым жаўтаватым слюдзяным шклом над цыферблатам, і пазіраў, ці не час уключыць. Гадзіннік у камісара захаваўся яшчэ з даваеннага часу і верна служыў усю вайну. Яму давалі ў замену розныя трафей-

ныя, адзін раз падаравалі прыгожы флоцкі гадзіннік, але камісар не расставаўся са сваім, а падарунак перадаў аднаму разведчыку.

Мінутная стрэлка марудна набліжалася да дванаццаці. Калі засталося тры хвіліны, Туравец даў знак радысту — час уключаць. Ён узяў адзін навушнік, другі працягнуў радысту.

Радыст павярнуў уключальнік,— у навушніках пачуліся спачатку бязладны трэск і шыпенне, потым, паступова ўзмацняючыся, выплылі першыя словы:

«...Паведамляе, што саўгасы Краснадарскага краю завяршылі сяўбу ранніх каласавых культур на пятнаццаць дзён раней, чым у мінулым годзе...»

«Што гэта? Няўжо спазніліся? — мільганула трывожна ў галаве.— Як жа гэта? Няўжо гадзіннік падвёў?»

«Сотні калгасаў Азербайджана сустракаюць Першамайскае свята поўным заканчэннем пасяўных работ... У Туркменіі пачалася ўборка ячменю... Калгасы прыступілі да выбарачнай уборкі азімага ячменю на дваццаць дзён раней тэрміну мінулага года...»

Не дыхаючы, услухоўваўся Туравец у гэтыя простыя, цяпер такія важныя, хвалюючыя весткі, стараючыся ўсё запомніць, баючыся што-небудзь прапусціць.

Разам з ім змоўклі і замерлі ўсе, хто быў каля рацыі; хоць яны і не чулі перадачы, дапытліва сачылі за Тураўцом і радыстам і па іх тварах стараліся ўгадаць, што тыя чуюць, добрае ці паганае. І калі чорныя цыганскія вочы камісара заіскрыліся радасцю, людзі заўсміхаліся. Калі ж яго твар зрабіўся сур'ёзным і круты смуглявы лоб ад скроні да скроні перарэзалі раўчакі маршчын, яго клопатнасць мімаволі перадалася і людзям. Некалькі партызан усё заглядвалі з-за пляча радыста на белы лінаваны лісток з нейкага нямецкага «гросбуха», які хлопец хутка запаўняў неразборлівымі завітушкамі.

«У тэлеграме з горада Н. паведамляецца, што трыццатага красавіка калектыў Кіраўскага завода поўнасцю выканаў павышаную красавіцкую праграму вытворчасці танкаў і матораў...

Трыццатага красавіка, паведамляе карэспандэнт «Праўды», кузнецкія металургі да тэрміну выканалі свае перадмайскія абавязацельствы...»

Як разганялі трывогу, радавалі Тураўца гэтыя словы, спакойны голас дыктара! У гэты час ён забыўся на стому, якая нядаўна валіла з ног, на прыгнечанасць ад няўдалай спробы вырвацца з блакады.

— Што перадаюць? — не ўтрываў шыракаплечы рудабароды партызан з марлевай павязкай на вялікай стрыжанай галаве.

Туравец матнуў галавою, каб не перашкаджалі, баючыся прапусціць што-небудзь. А далёкі спакойны голас з Масквы працягваў:

«Вялікае месца сённяшнія газеты аддаюць заяве таварыша Вышынскага на прэс-канферэнцыі ў Наркамаце замежных спраў СССР аб савецка-чэхаславацкім пагадненні на выпадак, калі савецкія войскі ўступяць на тэрыторыю Чэхаславакіі...»

«На выпадак, калі савецкія войскі прыйдуць у Чэхаславакію! Вось аб чым ужо думаюць у Маскве, на фронце!.. Наша чарга настае! Наша свята надыходзіць!» — заспявала ў сэрцы Тураўца.

Здавалася, усё навокал раптам пасвятлела. Даўно ён не ведаў такой радасці. Першы дзень мая прынёс яе нібы ўзнагароду за ўсе апошнія трывожныя ночы і дні.

Хутка загучаў марш, але гукі яго раптам абарваліся,— радыст, зберагаючы энергію, выключыў рацыю. Туравец загадаў зноў уключыць яе.

Па радыё чыталі вершы:

Бойцам отваги беззаветной,
Покрытым славою всесветной,
Которым равных в мире нет,
Семьей народной всей — несметной,
Мы первомайский шлем привет!

Тураўцу здалося, што гэта ўся неабсяжная вольная Радзіма, што ляжала па той бок фронту, вітала іх і зычыла ім поспеху ў барацьбе.

— Пісаць? — запытаўся вачыма радыст.

— Абавязкова!

3

Туравец паклаў навушнікі і, падняўшыся, павярнуўся да людзей, якія чакалі яго слоў.

— Радзіма святкуе май, сябры, у працы...— прамовіў Туравец усхваляваным голасам, абводзячы вя-

сёлымі вачыма твары партызан.— Краснадарцы скончылі сяўбу. А ў Туркменістане пачалася ўжо ўборка ячменю...

І Туравец стаў перадаваць змест агляду. Ён стараўся ўспомніць усё, што чуў, непакоіўся, каб не забыць што-небудзь. Гаварыў ён непаслядоўна, паводле таго, як успамінаў, але гэта не змяншала ўражання ад яго слоў. Усе слухалі незвычайна ўзрушана.

Гледзячы на іх, камісар падумаў, як цяпер, у іх становішчы, усім патрэбны гэтыя весткі, весткі з Масквы, як чакаюць іх. Трэба, каб яны хутчэй дайшлі да ўсіх, трэба зараз жа перадаць іх усім, ва ўсе роты, ва ўсе ўзводы, кожнаму байцу. Ён зірнуў на радыста:

— Перапісаў?

— Зараз скончу.

Туравец пашкадаваў, што няма цяпер друкарні, з ёй пайшло б інакш. Што ж, перапісваць дык перапісваць! Ён паклікаў некалькі партызан, папрасіў Габдуліна, каб той дапамог, і сеў разам з імі сам.

Калі зводка была перапісана ў некалькі лісткоў, Туравец спецыяльнымі пасыльнымі разаслаў яе па атрадах. На дарогу наказаў:

— Што б ні было, данясіце...

У атрад імя Кутузава Туравец пайшоў сам. Хацелася асабіста перадаць весткі.

Раніца ўбіралася ў сілу. Сонца паднялося вышэй, купалася ў глыбокім засмужаным блакіце. Ад лесу патыхала духменню. Прабіваючыся праз зяленіва бяроз і асін, галіны якіх угары перапляліся ў дзівосную мярэжу, праменні зіхацелі на яшчэ вільготнай кары, на траве. Светлыя пасмы, як шаўковыя істужкі, усюды весела пярэсцілі цяністы прыцемак зарасніку. Дрэвы не варушылі ні адной галінкай, высіліся велічна, па-святочнаму ўрачыста. Незлічонае птушынае царства на розныя галасы славіла радасць існавання, першы майскі дзень.

Туравец зноў думаў пра блакаду, успамінаў нядаўнюю ноч, але цяпер гэта бачылася інакш. Адчуванне няўдачы і вялікай, амаль непапраўнай, бяды ўжо не так гняло, дало месца іншым пачуццям,— ён цяпер як бы глядзеў на начныя падзеі з вышыні, з якой быў відаць увесь фронт. «Трэба паказаць і другім, што далей, там, за пятлёй блакады...»

Атрад імя Кутузава быў на самым неспакойным участку. Калі Туравец падыходзіў, зноў узгарэлася кулямётная перастрэлка.

Над КП, выючы, праносіліся міны, выбухалі то каля каманднага пункта, то далей, у лесе.

Калі Туравец дабраўся да КП, камандзір атрада аб нечым меркаваў з віхрастым, у маскхалаце хлопцам; Туравец пазнаў у ім атраднага разведчыка. Перапыніўшы размову з разведчыкам, камандзір атрада пацісную шырокай рукой руку Тураўца. Зазначыў:

— Ты чаго — святочны такі?

— Дык свята ж...— усміхнуўся Туравец.

— Свята... Навіны якія ёсць, ці што?

— Так, навіны. Добрыя навіны, Іван Савіч! — сказаў Туравец.— Першамайскія весткі маскоўскага радыё!

— З Масквы? Пакажы!

Камандзір атрада, не спяшаючыся, пачытаў лісткі. Гэта быў высокі плячысты мужчына з густымі, нібы вылінялымі бровамі і разумнымі запалымі вачыма, якія, здавалася, усё прыкмячалі.

— Добрыя навіны,— адгукнуўся ён, скончыўшы чытаць зводку. Адразу, без лішніх слоў, перайшоў да справы: — Мусіць, палітрукоў сабраць думаеш? Так, сабраць трэба. Але я магу зняць іх толькі на паўгадзіны. І то не ўсіх. З трэцяй і чацвёртай, адразу кажу, не магу. Баюся за гэтыя дзве.

— Давай каго можаш! І — зараз жа!

Камандзір атрада адразу загадаў даць пасыльных, накіраваў іх у роты. Дакончыўшы размову з разведчыкам, адпусціў яго, павярнуўся да Тураўца, параіў:

— А ў трэцюю і чацвёртую пашлі майго камісара.

— У трэцюю я пайду сам,— рашыў раптам Туравец.— Парадую і пагляджу, як народ жыве.

4

У трэцюю роту Тураўца правёў хлопчык-разведчык. Да пярэдняга краю прыйшлося прабірацца то паўзком ад ямкі да ямкі, то перабежкамі, слухаючы посвіст куль і мін. Яшчэ не дабраўся ён да роты, як улавіў наводдаль за лесам знаёмы, грозны гул, што хутка рос. Каб самалёты не заспелі яго на адкрытым

месцы, Туравец заспяшаўся і неўзабаве ўваліўся ў акопчык.

Ён убачыў перад сабою кулямётчыка Крыўца.

— Са святам!.. Навіны! Са сталіцы! — сказаў Туравец так, каб яго можна было пачуць.

— З Масквы? — Крывец азірнуўся на неба, якое запаўняў гул.— Эх!.. — Ён ад душы вылаяўся.

З-за галін дзвюх блізкіх асінак, з-за трапяткога лісця выплыла важка некалькі «юнкерсаў». Злавесна прайшоўшы над лесам, двое з іх развярнуліся недалёка ад акопаў. Крывец хутка зняў свой кулямёт, паставіў у кутку акопа.

Адзін з «юнкерсаў» раптам стаў хутка падаць. Пачало імкліва расці даўкае выццё, што ўціскала ў зямлю. Туравец і кулямётчык у цесным акопчыку, сагнуўшыся, сціснуўшыся, замерлі ў чаканні. Вострым слыхам хутка ўхапілі — праз выццё і роў — агідны віск. Ён набліжаўся да іх, працінаў іх. Здавалася, акурат у іх. Яго перапыніў моцны, рэзкі грукат. Зямля нібы зрушылася. Раз, другі, трэці, пяты... На Тураўца і кулямётчыка пасыпаліся камякі зямлі.

Доўгім, бясконцым здаўся час, пакуль яны пікіравалі, бамбілі, абстрэльвалі, праносіліся над самымі вяршынямі дрэваў.

Потым адзін з самалётаў павярнуў назад, а другі на развітанне зрабіў яшчэ круг. Пад ім вырас белы клубок, які стаў зніжацца і распаўзацца, паблісквaючы мноствам дробных лісткоў. Зрабіўшы яшчэ адзін круг далей і выкінуўшы яшчэ адзін белы клубок, самалёт пайшоў услед за першым. Гэта былі лістоўкі. Крывец, атрасаючы зямлю, глядзеў на іх злымі вачыма і нават вылаяўся.

Лістоўкі, калышучыся, паволі спускаліся, лажыліся на галлё дрэў, на траву. Адна з іх упала на плячо Крыўца. Камісар узяў паперку, хутка прабег вачыма. «Партызаны... Камісары вядуць вас на пагібель... яны ратуюць сваю скуру. Вы акружаны жалезным кальцом нямецкіх войск... Супраціўляцца безнадзейна! — пагражалі вялікія чорныя літары.— Кідайце зброю...»

Туравец скамечыў лістоўку і кінуў з агідай.

Да акопа Крыўца спрытна падпоўз сусед, шыракаплечы падрыўнік Шашура, лёг, хаваючыся за камель алешыны. Яму, відаць, было нудна ў адзіночцы-ямцы,

ён ніяк не мог прапусціць выпадак пагаварыць з камісарам.

Крывец прыпаў шчакой да гладкага прыклада кулямёта і націснуў спускавы кручок. Коратка ўдарыла чарга. Крывец апусціў прыклад на зямлю, адвярнуўся ад кулямёта:

— Яшчэ аднаго...

— Туды яму і дарога.

Туравец пераказаў навіны. То там, то тут грукала, раз-пораз білі чэргі, і абодва часта перапытвалі камісара.

— Так... Значыцца, сяўбу скончылі? А ў Туркменістане — ячмень убіраюць? Вось — цуд! Тут у нас такое... а там — сеюць і жнуць!

— Жнуць! — як бы не верыў Крывец.

Ён амаль няспынна касавурыўся, сачыў за полем. Слухаў і ўсё зіркаў у бок карнікаў.

— Дагавор з Чэхаславакіяй! Значыцца, хутка фюрэру капец! — выпаліў нецярплівы, гарачы падрыўнік. Выраз жвавых, нават тут як бы гарэзных вачэй яго ўвесь час змяняўся. Але больш за ўсё было цяпер у вачах гэтых захаплення. Радуючыся, падрыўнік увесь час пераглядваўся з Крыўцом, нібы дзяліўся радасцю.

Туравец з ахвотаю сачыў за ім: вельмі падабаўся яму цяпер аптымізм падрыўніка. Неадольнае жыццялюбства.

— Гэта — факт! Усё да таго ідзе!.. Капут скора Адольфу!

— Нядоўга ўжо...— згадзіўся спакойна кулямётчык, сочачы за полем. Крывец быў зусім не падобны на таварыша. Стрыманы, разважлівы быў, скупы ў рухах і ў выяўленні пачуццяў. Колькі часу знаёмыя былі, а ніколі Туравец не бачыў, каб Крывец калі-небудзь вельмі радаваўся, не помніцца, каб і сумаваў ён калі асабліва...

— Недарэмна гэта — пра Чэхаславакію. Недарэмна...— прароча, пераканана настойваў Шашура.

Ён усё не мог супакоіцца.

— Я пачуў такое, дык нібы пасвятлела на небе і ў душы.

— І мне, хлопцы, калі я слухаў радыё,— загаварыў Туравец ужо не так з камісарскага абавязку, як з ахвоты проста выгаварыцца,— падумалася: няхай нам

крута, няхай яны, нечысць, ціснуць нас, шалеюць, усё ж не яны, а мы — гаспадары на зямлі! Яны шалеюць — здыхаючы!.. Не трэба вешаць галаву. Адзін раз не ўдалося, другі паспрабуем, ды з большай сілай, з большай злосцю! Галоўнае — не вешаць галаву!

— Было такое, чаго таіцца,— шчыра прызнаўся Шашура.— Як пабачыў ноччу,— не ўдалося, трэба павяртаць да фрыцаў задам, сядзець амаль без патронаў, думаў, канец будзе. А цяпер — не! Не на такіх наскочыў фрыц! Толькі б адбіць у фрыцаў пабольш боепрыпасаў. А вы папрасіце, таварыш камісар, фронт, каб прыслалі што трэба! Няхай падкінуць! Тады мы так ірванём, што пер'е паляціць з фрыцаў! — «Ірванём» было любімае слова Шашуры.

— Пакажам ім цуд!..— падтрымаў Крывец.

Скончыць яму не давялося: навокал загрукаталі выбухі — білі з нямецкага боку мінамёты. Шашура ўміг шыбануў у свой акопчык. Немцы стралялі «па плошчы», па лесе; вакол стаяў суцэльны гул, нібы наляцела бура. У гэтым гуле посвісту мін не было чуваць. Адна міна выбухнула поблізу акопчыка Шашуры; як сякерай, адцяла знізу алешыну, за якой хаваўся падрыўнік.

Праз некалькі хвілін налёт раптоўна, як і пачаўся, спыніўся. Туравец спытаў, як прабрацца да камандзіра роты.

Выбраўшы зручны момант, ён выскачыў з акопа.

## РАЗДЗЕЛ VI

### 1

Шашура доўга поўзаў па ўзлессі з выглядам чалавека, які штосьці згубіў. Поўзаць было небяспечна — часта пасвісталі кулі.

— Ты што шукаеш? — гукнуў Крывец, калі Шашура зазірнуў у свой акоп.— Ці не сухароў? Няма, брат! Такое дабро цяпер не валяецца.

Звычайна гаваркі, ахвочы да жартаў, Шашура нічога не адказаў, чым нямала здзівіў таварыша. Маўклівы, яўна нешта таячы ў сабе, ён неўзабаве знік

у лесе. Калі ён вярнуўся, Крывец не заўважыў, але падрыўнік сам паклікаў да сябе. Крывец перапоўз да яго і жахнуўся — у акопчыку ляжала бомба. Невялікая, кілаграмаў, напэўна, пяцьдзесят ці семдзесят, але ўсё-ткі бомба.

— Ты што? Чаго прыпёр? — трывожна прамармытаў Крывец.— Зноў выдумку якую дзікую! Занясі яе, ды падалей!

Шашура ўзняў бомбу ды яшчэ паднёс да Крыўца.

— Зараз у шматочкі цябе!

— Кінь дурэць! — узлаваўся кулямётчык.

— Ды я ж разрадзіў яе, узрывацель выкруціў! — зарагатаў задаволены Шашура.

— Жарты ў цябе дурныя. Аж у пот увагнаў. У мінулым годзе, як разарвала падрыўнікоў бомбай, калі яны тол выплаўлялі, дык я яе, нягодніцы, як агню, баюся. Я там, каля іх, быў і толькі адышоў, як яна, праклятая,— гухнула!.. Нашто яна табе?

— Сухары ці сала хаваць! — засмяяўся Шашура.— Выплаўлю тол, будзе пустое месца, як у банцы! Дык я туды і буду складваць. А потым... закручу ўзрывацелем. Ніхто не пакваліцца на дабро маё!

— Ну, не дурэй. Скажы па праўдзе.

Шашура перастаў смяяцца, прамовіў загадкава:

— Не магу... Тайна важная!

Ужо вечарэла, і страляніна станавілася вялаю. У зацішку з нямецкага боку паклікалі:

— Іва-ан!.. Хадзі! Булку дам!.. Ром!..

Немцы рагаталі. Гэта было не ў першы раз: карнікі ведалі, што партызаны галадаюць, і вельмі ахвотна забаўляліся гэтым.

— Хадзі ты!.. У нас сала ёсць... Шнапс!.. І курка...— адгукнуўся хтосьці з партызан.

— Хадзі, кветачка! Куляй пачастую! — ласкава паабяцаў Шашура.— Высунь галаву, любачка!..

Калі надышла цёмная майская ноч і навокал пацішэла яшчэ больш, Шашура са сваёй бомбай выбраўся з акопчыка і, як яшчарка, папоўз да карнікаў.

Апоўначы ў баку немцаў раптам ускінулася ўгару полымя і загрымеў выбух. Амаль адразу за ім, заліўшы ўсё зыркім святлом, узляцелі ракеты, пачуўся трывожны лямант, крыкі каманд. Усхапіліся і партызаны, але ніхто не ведаў, што здарылася.

Немцы пачалі бязладную страляніну, якая яшчэ доўга не сціхала. Калі нарэшце ўсё зноў супакоілася, у Крыўцоў акоп, напалохаўшы кулямётчыка, што задрамаў, хтосьці зваліўся. Зваліўся проста на галаву Крыўца, ледзь шыю не зламаў.

— Хто тут? — са сну не мог нічога ўцяміць Крывец.

У акопе быў Шашура.

— У-ух! — выдыхнуў ён задаволена, стараючыся аддыхацца. Доўга дыхаў, часта, з хрыпам.

— Ч-чорт, вымак увесь! Папарыў гразі, за месяц, пэўне, не адмыцца!

Ён лаяўся, але Крывец чуў, што не з прыкрасцю і злосцю, а з незразумелаю ўцехай.

— Ну-у, памог Адольфу! Падлажыў падаруначак фрыцам! — растлумачыў ён нарэшце Крыўцу прычыну радасці.

— Гэта ты з тою бомбаю? — як бы не паверыў Крывец.

— А то з чым жа? — знарок абыякава сказаў падрыўнік. Нібы гэта яго ўжо не цікавіла, і перавёў пагаворку на іншае: — Хочаш булкі нямецкай паспытаць?

Ён палажыў на калені Крыўца булку хлеба і круг каўбас. Крывец недаверліва абмацаў каўбасы, здзівіўся:

— Дзе дастаў?

— Еш. І не пытайся! Цікаўнай Варвары, кажуць, нос адарвалі!..

Крывец накінуўся на яду. Падмацаваўшыся, не ўтрымаўся, удзячна пахваліў:

— Праўду кажуць: пахавальных спраў майстар!.. Майстар, гэта — точна!..

— А ты ведаеш: завуць мяне так зусім не таму, як ты думаеш...— Шашура, адчувалася, быў яшчэ ўсхваляваны і рады быў пагаварыць.— Я на самой справе быў пахавальным майстрам...

Ён расказаў, як, апынуўшыся ў акупацыі, упачатку не ведаў, за які занятак узяцца. Бяда заспела ў гарадку, ён там перад вайною рабіў у сталярнай майстэрні. Майстэрня гэта згарэла пры бамбёжцы, ды калі б і не згарэла, які толк быў бы тады ад яе! Коратка кажучы, Шашура аказаўся і без працы, і без хлеба. Канечне,

зарабіць знайсці можна было б, але Шашура рашыў трымаць годнасць: не пэцкаць рукі, не рабіць на акупантаў. Аднак голад не цётка, ды і немцы пачалі прыглядвацца — чаму не працуе? Тады ён прыдумаў штуку: адкрыў сваё прадпрыемства. Прымалаціў сякерaю шыльду над катухом: «Пахавальная майстэрня. Раблю труны, крыжы і інш.». Справы пайшлі: патрэба ў вырабах яго была; аднойчы немцы ўзялі адразу каля дзесятка трун. Але Шашуру гэта хутка надакучыла: захацелася больш вясёлай работы! Ды і выходзіла ўсё ж, што ён нібыта рабіў на ворагаў. Багата пашаны ім, труны выштукоўваць, няхай гэта нечысць лепш гніе непрыбранаю!.. Шашура перажыў зіму, а вясной — разам з памочнікамі — у лес!..

— Вось адкуль пайшло гэта званне: пахавальны майстар!

Крывец, паслухаўшы ўсю гісторыю гэту, сказаў недаверліва:

— Брахаць ты майстар!

Шашура рагатнуў, не стаў даводзіць.

— Мая справа — казку сказаць. Твая справа: верыць — не верыць!..

Любіў Шашура, каб пра яго рабілі здагадкі, каб таямніца была вакол яго!

2

Валя стаяла задумлівая і сумная.

Што гэта з ёю? Цэлы дзень не выходзіць з галавы Васіль! Ніколі раней не было такога. Ці то перавязвае раненага, ці гаворыць з кім-небудзь — усё думае пра Васіля. Ён быццам неадступна ходзіць услед.

І чамусьці на сэрцы трывожна. Прадчувае сэрца нешта нядобрае... Калі прыходзіць хто-небудзь з атрада Кутузава, Валя прыслухоўваецца — можа, пачуе штонебудзь пра яго. Але — не, нічога.

Ой, гэтая любоў! Расцвіла не ў час, як кветкі напрадвесні. Хіба цяпер пра любоў думаюць! Але ж не, любоў не слухаецца Валіных разваг, ёй трэба сваё. Толькі захопішся справаю, забудзешся, а ў памяці зноў паўстае ўчарашні дзень, яго спахмурнелы твар: «Чаму не адвучыш гэтага?..»

Раўнівы які! І чаго ён хмурыцца з-за камбрыга, які

ёй ніяк не падабаецца. І ўслед за гэтым да сэрца падступае цёплая хваля: раўнуе — значыцца, любіць! Каб не любіў, не злаваў, не раўнаваў бы.

Усё-такі, як ні думай, яна вінавата. Чаму ж яна ўчора не сказала пра гэта? Паміры́ліся б, і ўсё было б добра сёння. У яе заўсёды так: спачатку зробіць глупства, а пасля каецца.

Яна ўсю ноч дзяжурыла, а цяпер адпрасілася ў Марыі Андрэеўны на гадзіну-дзве спаць і вось замест таго, каб адпачываць, думае пра Васіля.

Што ж, пра такога хлопца варта думаць. Пэўна ў свеце няма такога шчырага, сінявокага і... адчайнага! Толькі б усё з ім было добра! Каб ні адна куля не зачапіла.

А можа, чым гадаць і трывожыцца, лепш пайсці да яго, пабачыць і сказаць, як яна любіць — горача, аднаго-адзінага, назаўсёды...

Жаданне гэтае было такое вялікае, што мігам разагнала журботны Валін роздум. Жыццё, якое хвіліну таму здавалася безнадзейна заблытаным, адразу набыло пэўнасць, дало пабачыць шлях да ратунку з бяды. Пайсці, пабачыць і сказаць — у гэтым было не толькі цвёрдае рашэнне, у гэтым былі і надзея, і вера ў шчасце! Валя не магла ўжо больш марнець бяздзейна, з раптоўнай рашучасцю пакіравала яна да сцежкі, што вяла да яго атрада. Яна можа ўправіцца пабыць там і вярнуцца назад у час. А што не паспіць — невялікая бяда! Ці першы раз прыходзіцца ёй па сутках не спаць? Ды ёй сёння і не хочацца спаць.

Валя ішла хутка і лёгка, яе як бы вецер на крылах нёс. Сэрца білася нецярпліва: хутчэй, хутчэй! Быццам падганяла. Столькі радасці, столькі пяшчоты да «адчайнага» свайго было ў ім!

Калі стала падыходзіць туды, дзе біўся атрад, з'явілася цвярозая, асцярожлівая думка: «смяяцца будуць хлопцы, што прыйшла». Але думка гэта не спыніла Валю, нават нібыта ўзмацніла ў ёй упартасць, рашучасць. Ну і няхай смяюцца! Ёй усё роўна, што скажуць іншыя.

Зусім побач жахнула міна, і гэты выбух вярнуў адчуванне іншай небяспекі. Чула ўжо: міны амаль увесь час выбухалі непадалёк, раз-пораз пералятаючы яе. Амаль не сціхалі блізкія стрэлы.

Было страшна, але яна стрымлівалася. Яна не хацела, не магла быць горш за Васіля: не дазваляла сабе нікнуць перад небяспекай, якая была для яго звычайнай. Ён жа быў тут, сярод гэтага ўсяго, ужо другія суткі.

Яна спытала ў сустрэчнага партызана, дзе тут Драздова рота, і стала смела прабірацца туды.

Амаль у поўны рост падышла яна да акопчыкаў. Шчасце яе, што на другім баку не заўважылі. Шашура першы са свайго акопчыка здзіўлена ўгледзеў яе паблізу, загадаў нелагодна:

— Лажы-ся!

Яна не адразу паслухалася.

— Лажыся, заб'юць! — крыкнуў Шашура люта.

Яна апусцілася на зямлю, па яго загаду паўзком дабралася да акопчыка.

— Ты куды гэта, каліна-маліна? — Голас яго не тое што папракаў, а судзіў. Вочы нізалі востра, як бы праціналі.

Яна адказала з выклікам:

— Справа ёсць!

— Што за справа? Да каго?

— Крайко трэба,— аб'явіла яна ганарліва.

— Вось падстрэлілі б — была б справа! — падкалоў ён з'едліва.

Яна павяла плячыма недасяжна. Не адказала.

— Пачакаць нельга было,— прамовіў ён пазней, трохі паблажліва ўжо, але ўсё ж судзячы.

Нібы бачыў навылёт яе: Валі непрыемныя былі і яго позірк, і тон яго гаворкі, і яна адрэзала нецярпіма:

— Нельга было.

Шашура ўгледзеўся ў яе доўгім, пранізлівым позіркам, сказаў з насмешачкай:

— Шкада, але з неадкладнай справай тваёй, сястрыца мілая, пачакаць прыйдзецца! Дарога непраезджая: фрыцы непакояць! Пастрэльваюць! Давядзецца, сястрыца, да ночы пачакаць.

— А цяпер — нельга? — не ўтрывала яна.

— Адзін спрабаваў ужо. Зрэзалі.

Было цягучае маўчанне.

— А як ён... Васіль, жывы?

— Жывы! А чаму яму, твайму Васю, не жыць?

Сядзіць сабе ў зямлі ды пастрэльвае! Што ж усё-ткі перадаць?

— Скажыце, каб ён зайшоў да мяне... калі можна будзе. Я яму павінна сказаць штосьці важнае.

— Асабіста?

— Асабіста.

Яна вярталася назад павесялелай. Што ж, што не пабачыліся, ёй можна радавацца: Вася жывы. А будзе жывы, прыйдзе, і яна раскажа ўсё, усё.

3

Усю ноч прачакалі самалёт з фронту — не дачакаліся. На світанні прыйшла радыёграма, што вылецець не ўдалося з-за нялётнага надвор'я на трасе.

Гэты, пяты, дзень блакады быў асабліва цяжкі. «Юнкерсы» бамбілі атрады, як ніколі дагэтуль, часта і моцна. Шалелі драпежныя «месеры», што амаль увесь час кідаліся з неба, праносіліся над дрэвамі, секлі з кулямётаў. Акрамя карнікаў пачаў грозны наступ голад. Другі дзень людзей не кармілі, выдавалі толькі па кавалачку нясоленага мяса. Туравец бачыў, што ў акопах дзе-нідзе людзі курчыліся ад болю ў жываце. Давалася, відаць, у знакі балотная брудная вада.

У атрадзе Кутузава парторг паскардзіўся Тураўцу на камандзіра ўзвода Калібярду:

— Не пазнаць чалавека, нібы падмянілі! Ные ўсё, як нямазаныя вароты...

Туравец ведаў Калібярду. Перад блакадай той двойчы ўдзельнічаў у разгроме гарнізонаў, паказаў сябе як смелы, баявы камандзір.

Туравец спачатку распытаў пра Калібярду ў палітрука роты, тады зазірнуў ва ўзвод, пагаманіў з партызанамі, уведаў іх настрой, думкі. Адзначыў: большасць былі прыгнечаны, амаль не верылі, што ўдасца вырвацца.

Азнаёміўшыся са ўзводам, Туравец адазваў убок камандзіра — Калібярду: пагутарыць, прыгледзецца да яго.

Яшчэ тады, калі Туравец паявіўся ва ўзводзе, яго абурыла, што Калібярда не далажыў, як належала па статуту, але камісар змоўчаў. Насцярожаны, Туравец тады заўважыў, што Калібярда і з аблічча змяніўся:

паходка стала павольная і вялая, позірк вачэй нейкі бясколерны, няўлоўны. Ён не сачыў за сабою: твар аброс, адзенне і боты былі брудныя, заляпаныя граззю.

Туравец стрымана загадаў:

— Зашпілі каўнер!

Калібярда няцямна зірнуў, паслухаўся. Нехаця вузлаватымі пальцамі зашпіліў гузікі. Крывая ўсмешка на твары быццам гаварыла: «Калі вам так хочацца, я зраблю, але мне ўсё роўна».

— Зашпіліў...

Туравец зрабіў выгляд, што не заўважыў іроніі, задумаўся нявесела.

— Давай шчыра пагаворым,— прапанаваў ён.— Не тоячыся. Як таварышы. Ёсць? — Калібярда маўчаў.— Вось скажы, чаму ты так апусціўся? Брудны, няголены...

Калібярда момант, відаць, вагаўся, ці варта гаварыць без патайкі. Не надта ўпэўнена адказаў:

— А чаго галіцца? Да якога свята?

— Голяцца не толькі да свята...

— Некаторыя голяцца ў іншым выпадку...

— Перад смерцю? Што ж ты не дагаворваеш?

Калібярда прамаўчаў.

— Ты што ж, думаеш, што нам выйсці адсюль не ўдасца? Праўду кажы.

Ён знарок гаварыў мякка. Ён часта ў такіх выпадках хітраваў, каб лепш выведаць. Больш прамы Ермакоў недарма лічыў яго хітруном.

Калібярда і не думаў таіцца. Чаго тут, калі на тое пайшло, баяцца гаварыць, калі жывеш між зямлёй і небам. Тым больш, што камісар быў быццам лагодны, здавалася, сам быў засмучоны.

— Нашто тут заплюшчваць вочы,— пасмялеў Калібярда.— Не вам казаць, справа наша — дрэнь!.. Папаліся ў нерат — ні ўзад, ні наперад...

— Так, становішча наша — дрэнь. Гэта праўда. Ну, а што ж рабіць? Ты скажы, што ты раіш рабіць? Не сядзець жа вось так! Рыба і тая трапечацца, стараецца вырвацца. Калі трапіць... Што рабіць?

— Што рабіць, вы рашаеце. Вы камандуеце. Улада вам дадзена...

— Не, ты скажы, што ты раіш рабіць?

— Што я думаю?..

— Так, што ты думаеш?

Ён зноў завагаўся. Усё ж наважыўся, цвёрда аб'явіў:

— Я думаю, лепш за ўсё адпусціць людзей. Няхай кожны, як можа, выбіраецца...

— Ты, значыць, раіш распусціць брыгаду? — прагаварыў Туравец, ледзь стрымліваючы гнеў, хоць знешне і здаваўся зусім спакойны.— Можа, гэта і разумней, але ж шкада брыгаду. Як жа гэта? Была яна, і раптам не будзе?.. Акрамя таго, з намі — жанчыны, дзеці!

— Я не хачу сказаць — распусціць брыгаду. Пасля яна зноў збярэцца...

— А як — жанчыны, дзеці?

— А што жанчыны, дзеці? Ім лягчэй уратавацца.

— Дзеці-то напэўна не ўратуюцца.

— Іх немцы не пагубяць...

— Не пагубяць?..

Памаўчаўшы, Туравец раптам панура прамовіў:

— Ты, канечне, не выберашся.

Калібярда хутка, насцярожана кінуў позірк на камісара. У вачах бліснула штосьці — недаўменнасць ці спалох.

— Чаму?

— Ты ўжо амаль памёр. Жывы нябожчык...

— Вы жартуеце недарэчы. Я не бачу, з чаго тут смяяцца. Становішча такое...

Туравец устаў, спакойна перапыніў:

— Так, так. Становішча невясёлае. І хныкаць таму нельга. Тут ніхто не пашкадуе, не вытра слёзы. Людзям самім горка. А фашысты не разумеюць жаласных слоў.

Ён сціх, уважліва паглядзеў на партызана, нібы яшчэ не верачы, што ўсё тое чуў ад яго.

— Хто ў цябе намеснік? Баравік?

Калібярда кіўнуў галавою.

— Здасі яму ўзвод.

Калібярда насцярожана зірнуў на Тураўца.

— Я ж па шчырасці! — няцвёрда прамовіў ён.

— Я сказаў усё!

Туравец холадна, з пагардай акінуў яго позіркам, загадаў паклікаць Баравіка.

Калібярда хвіліну стаяў збянтэжаны, потым заспяшаўся выконваць загад.

Застаўшыся адзін, Туравец неспакойна захадзіў

між дрэў. Ён адчуваў то пагарду, то злосць, лаяўся ў думках: «Звяў адразу! Размяк! Смаркач!..»

Нецярплівы, нездаволены, сустрэў ён Баравіка. Жорстка, з незвычайнай для яго рэзкасцю, даў прачоску за стан узвода, загадаў зараз жа навесці парадак. Баравік, кароткі, з нязменным ружавіннем на шчаках, слухаў уважліва, усім абліччам выказваў, што гатоў выправіць усё, але Туравец улавіў у яго позірку і затоенае неразуменне. Нібы не мог уцяміць чагосьці Баравік. Нібы дарэмна камісар на яго наваліўся. Туравец схамянуўся: раззлаваны, забыў адразу сказаць галоўнае! Усё тым жа патрабавальным тонам загадаў прыняць узвод.

Адправіўшы Баравіка назад, Туравец яшчэ некалькі хвілін хадзіў між дрэў. Мільгнула думка, што несправядліва жорстка гаварыў з Баравіком, але яна прайшла як бы наводдаль. Не гэта хвалявала цяпер.

Ён думаў пра тое, што жыццю людзей, жыццю ўсёй брыгады пагражае небяспечная хвароба — нявер'е ў поспех. Што яна, хвароба гэтая, будзе аслабляць людзей, падрэзваць пад корань баявы дух, што трэба зараз жа, не марудзячы, выганяць яе. Зрабіць гэта будзе нялёгка, бо абставіны спрыяюць хваробе. Трэба, каб усе камандзіры, палітрукі як след зразумелі, як небяспечна цяпер, у іх становішчы, бязвер'е, бязвольнасць.

Так, так,— ніякага вагання, ніякага сумнення, што пераможам мы. У гэтым цяпер галоўнае!

Перадаць гэту веру ўсім! Запаліць усіх гэтай верай! Гэта трэба зрабіць што б там ні было!

Са штаба атрада Туравец звязаўся з Ермаковым і пераказаў сваю размову з Калібярдою. Камбрыг параіў Тураўцу:

— Гнаць з камандзіраў! Зняць зараз жа!

— Я ўжо зняў,— адказаў Туравец.

## 4

Калі Туравец вярнуўся ў штаб брыгады, камбрыг адразу працягнуў радыёграму:

— Павінен быць самалёт. Калі зноў надвор'е не падвядзе... Сядай, камісар, хачу параіцца.

Камбрыг коратка выказаў тое, над чым многа думаў у гэты дзень, перадаў апошнія разведвесткі.

— Я думаю — сёння, што б ні было, трэба прарывацца... Прыляціць самалёт ці не прыляціць, будзем вырывацца! Марудзіць нельга!

Нейкі час маўчалі. Маўчанне было цяжкае: абодва адчувалі, як цяжка будзе, калі самалёт не прыляціць. Не падкіне боепрыпасаў... З голымі рукамі давядзецца на прарыў ісці...

— Як сказаў Дантон: патрэбны — дзёрзкасць, дзёрзкасць і яшчэ раз дзёрзкасць!

Гэта былі любімыя словы Ермакова, за якія Туравец калісьці празваў яго «Дантонам 20-га стагоддзя». «Дантон» гаварыў сёння гэтыя словы так, нібы ўпэўніваў сам сябе...

— Дзёрзкасць... Як пад Каржоўкай яны? — запытаў Туравец.

— Разведчыкі кажуць, што там батарэя процітанкавых гармат і каля роты пехацінцаў. У сяле стаіць нейкі штаб. Адчуваюць яны сябе, па ўсіх прыкметах, упэўнена.

Ермакоў адразу, без паўзы, як рабіў звычайна, урывіста выказаў галоўнае:

— Увогуле, ёсць два варыянты: на Рылёўскі лес і... на Каржоўку. Як ты?

Туравец адказаў не адразу. Абапёршыся локцямі на стол, дзе ляжала карта, ён стаў разглядаць — у каторы раз — такі знаёмы квадрат яе, пафарбаваны амаль увесь у зялёны колер. Схіляўся насцярожана над падкоўкамі, кружочкамі, стрэлачкамі — старымі, якія ён ведаў, і новымі, толькі што пастаўленымі алоўкам камбрыга,— усімі знакамі, што абазначалі варожую абарону. Ён асабліва прыглядаўся да подступаў на Рылёўскі лес і на Каржоўку.

Неспакойны, хуткі Ермакоў хадзіў вакол стала і з нецярплівасцю чакаў,— не падабалася яму павольнасць камісара. Узняўшы позірк ад карты, Туравец зноў стаў распытваць пра вынікі разведкі, пра паводзіны карнікаў у баку Рылёўскага лесу.

— Мая думка — біць там, дзе менш чакаюць,— сказаў ён нарэшце.

— Дзе гэта?

«Вось звычка: ніколі адразу не скажа ўсё, што ў галаве»,— падумаў Ермакоў.

— Дзе? А вось дзе. Немцы, мусіць, упэўнены, што

мы, лясныя людзі, пойдзем у лес. А мы возьмем ды зробім наадварот, а? Ударым на Каржоўку?

— Мне таксама Каржоўка больш даспадобы,— прызнаўся Ермакоў.— Ісці, праўда, прыйдзецца па адкрытым месцы, але затое ўдар павінен быць неспадзяваны для іх...

Прарывацца парашылі а другой гадзіне ночы, спадзеючыся дачакацца прылёту самалёта. Адкладваць прарыў на пазнейшы час не маглі — ночы былі ўжо кароткія, а ім пасля прарыву, пакуль зоймецца дзень, трэба пастарацца адысці падалей.

— Мы ўсё, камісар, улічылі? — задумаўся пад канец Ермакоў.— Не памыліліся ў чым-небудзь? У нас сёння, як у мінёраў. Памылка — смерць!..

— Так, права на памылку мы не маем...

## РАЗДЗЕЛ VII

### 1

У тыя дні ваенны лёс прывёў у гэтыя мясціны нямецкага лейтэнанта Клямта.

Дывізія, у якой служыў лейтэнант, пасля баёў стаяла пад Барысавам, атрымлівала папаўненне. Пасля двухмесячнай падрыхтоўкі дывізія ўжо рыхтавалася да адпраўкі на фронт, калі раптам прыйшоў загад часова накіраваць яе на барацьбу з партызанамі.

Для Клямта навіна гэтая была неспадзяванай. Ён ведаў, што грозныя падзеі, якія павінны ўсё вырашыць, павінны адбыцца на ўсходзе, на фронце, і ў думках рыхтаваўся да гэтага. Цяпер звыклы кірунак думак павінен быў перайначыцца. Збіраўся на ўсход у акопы, а прыйдзецца накіравацца на поўдзень, паляваць на партызан, усталёўваць цішыню і парадак.

Да гэтага лейтэнанту не даводзілася ваяваць з партызанамі.

Тое, што ён пабачыў на месцы, дзе пачыналася карная аперацыя, нямала здзівіла яго. Тут, выявілася, была не адна дывізія, стаялі напагатове танкі, самалёты, гарматы. Можна было падумаць, што тут немцы збіраюцца пачаць генеральнае летняе наступленне.

...Над вёскамі і лясамі чорнымі хаўтурнымі хмарамі ўздымаліся дымы пажараў. Тысячы салдат прачэсвалі лясы, пералескі, перарэзвалі дарогі.

На лясных узлесках, на палях гучалі прарэзліва нямецкія каманды, важка, пагрозна рычэлі танкі. У гушчарах люта пранізвалі маладое лісце бязлітасныя чэргі аўтаматаў. Лясное рэха было поўна грукату, рыку, лязгу. У небе няспынна шнырылі «юнкерсы» і «месершміты», драпежна ўглядваліся ў кучаравыя, ледзь зазелянелыя прасцягі лясоў, вышуквалі буданы, чалавечыя постаці. То там, то тут наваколле ўздрыгвала ад моцных абвальных выбухаў бомбаў, якія шматавалі паркую веснавую зямлю, калечылі, разварочвалі маўклівыя хаты. Як людзі ў бойцы, раскінуўшы галлё, падалі дрэвы.

Усе вёскі палілі. Усюды пакідалі страшныя, незлічоныя папялішчы.

Усіх, хто быў звязаны з партызанамі, калі толькі пападаліся, бязлітасна вешалі ці расстрэльвалі. Многіх забівалі і проста так без усякай «віны», без якой-небудзь прычыны...

2

За кіламетр ад сяла высіўся невялікі ўзгорак, на якім у першую вясновую зеляніну пачыналі прыбірацца бярозы.

Неўзабаве пасля таго, як адышлі партызаны, сюды падкацілі нямецкія матацыклы і бронемашына. Прыпыніўшыся на некалькі хвілін, яны, не заязджаючы ў сяло, запылілі па дарожцы ў кірунку лесу. На змену ім да ўзгорка пад'ехала цугам некалькі ваенных грузавікоў, напоўненых салдатамі. Калі машыны спыніліся, салдаты, штурхаючы адзін аднаго, шумліва высыпалі на дарогу. З кабіны трэцяй машыны жвава выскачыў вялікі, вуглаваты ў рухах маёр, камандзір батальёна. Ён паклікаў Клямта і з ім хутка падняўся на ўзгорак.

На ўзгорку, між кустоў і бяроз, бялелі крыжы — гэта былі рускія могілкі. Маёр акінуў позіркам сіні лес, потым сяло — доўгі рад хат, што цягнуўся непадалёк,— сказаў Клямту:

— Якая цішыня! Спакой! Можна падумаць, спакой на ўсёй зямлі...

Лейтэнант, паўнацелы, дыхаў цяжка. На лбе яго паблісквяў пот. Лейтэнант, зняўшы фуражку, выцер хустачкай лоб, цыраваты пясок у фуражцы. У той жа час ён не зводзіў вачэй з вёскі.

— Вы маеце дзве гадзіны,— сказаў дзелавіта маёр.— Пасля гэтага — гадзіну адпачынак і абед... Я чакаю вас у пятнаццаць трыццаць на ўзлеску на поўнач ад Красное...

Маёр быў ашчадны на словы: усё важнае, што датычыла аперацыі, было растлумачана папярэдне, у час нарады ў яго, камандзіра батальёна. Лейтэнант, як і ўсе падначаленыя, ведаў, што ў вёсцы належыць выявіць партызанскіх агентаў, жонак і наогул сваякоў іх, што да ўсіх іх трэба ўжыць публічную экзекуцыю і знішчыць. Што жанчын — фізічна здаровых, якія непасрэдна не былі звязаны з ляснымі бандытамі — належыць адправіць у канцлагер для далейшага скарыстання на работах у Германіі. Што ў давяршэнне аперацыі вёску належыць спаліць, рэшту насельніцтва — знішчыць.

Галоўная задача, падкрэсліў на нарадзе маёр, скіравана на тое, каб пакараць насельніцтва за дапамогу партызанам і разам з тым пазбавіць партызан магчымай у будучым базы...

Цяпер трэба было ўзгадніць чыста практычныя акалічнасці: час дзеяння, маршруты, сувязь. Маёр і ўзгадніў тут гэта.

Лейтэнант, мяркуючы па выразу, з якім слухаў маёра, усё разумеў з першага слова: абодва былі вопытнымі афіцэрамі і добра ведалі адзін аднаго.

Пад'ехаў матацыкл разведкі, і маёр спусціўся з узгорка. Паслухаўшы даклад разведчыка, ён скамандаваў салдатам садзіцца ў машыны. Зірнуўшы на Клямта, які сышоў услед за ім, казырнуў яму на развітанне і сеў у сваю машыну.

Абагнуўшы могілкі, батальён накіраваўся да лесу. Засталіся толькі Клямт і яго салдаты. Лейтэнант коратка, энергічна аб'явіў загад: акружыць вёску,— яна звалася Паплавы,— не выпускаць ні аднаго чалавека.

Салдаты, прыгінаючыся, пачалі разбягацца па полі, абыходзіць вёску справа і злева. Клямт зноў узышоў

на ўзгорак, нейкі час стаяў на могілках. Залажыўшы рукі за спіну і расставіўшы ногі, ён з могілкавага ўзгорка сачыў за рухам салдат.

Грэла сонца, але ветрык, што ішоў з поля, быў свежы, прыемны. Назіраць за тым, што адбывалася злева, было трохі нязручна, і сляпіла сонечнае ззянне. Лейтэнант быў спакойны: галоўнае, што яго як камандзіра заўсёды хвалявала, сёння было вырашана загадзя: аперацыя не давала падстаў, каб сумнявацца ў яе поспеху. Партызаны, па ўсіх звестках, адступалі і не былі здатны на супраціўленне. Усё ж, каб папярэдзіць проста неверагодную небяспеку іх удару з лесу, лэйтэнант ужыў меры засцярогі: узлессе было прачышчана моцным абстрэлам з мінамётаў. Акрамя таго, вёску з гэтага боку прыкрывала заслона: узвод і два кулямёты.

Сама аперацыя не давала лейтэнанту асаблівай уцехі. З ваеннага пункту гледжання яна не мела ў сабе нічога цікавага. Ды, шчыра кажучы, лейтэнанту не надта падабалася тое, што яго чакала ў вёсцы: галашэнне жанчын і дзяцей, лямант; недарэчная мітусня, якая яго, вопытнага ваеннага, зніжала да стану работніка, якому даводзіцца ўпраўляцца з авечкамі і свіннямі. Аднак нельга сказаць, што лейтэнанта вельмі гняло гэта: як чалавек звыклы да ваеннай службы, ён гатоў быў да любых — і прыкрых — клопатаў. Акрамя гэтага, ён ведаў і тое, што справа, якую яму выпала рабіць, неабходная. У тым, што было загадана яму, была зразумелая **неабходнасць**, і неабходнасць не якога-небудзь іншага роду, а іменна — ваенная. Каб умацаваць становішча на фронце, неабходна было ўмацаваць тыл.

Трэба было знішчыць варожыя гнёзды, банды, што рвалі камунікацыі арміі, моцна, небяспечна білі ў спіну...

Лейтэнант ведаў, што належала рабіць.

Ад сяла лейтэнанта аддзяляла невялікае роўнае поле, і яму добра было відаць усё, што там рабілася.

У вёсцы ўзнялася паніка. Адразу, як там заўважылі немцаў, групкі сялян кінуліся праз нешырокае поле да дробных кустоў, якімі пачынаўся лес. Лейтэнант добра бачыў, як гэтыя групкі адна за адной разгублена спыняліся перад кустамі, пачалі адступаць назад да

вёскі. Лейтэнант адзначыў сабе, што папярэдняе меркаванне яго аказалася правільным двойчы: салдаты, пасланыя туды, не толькі перагарадзілі дарогу партызанам, але і перахапілі шлях для ўцёкаў з сяла.

Лейтэнант бачыў, што салдаты і камандзіры дакладна выконваюць яго ўказанні. Перахапіўшы ўсе важнейшыя шляхі, акружылі вёску, пачалі, як пятлю, сціскаць круг вакол яе. З гэтага кругу, было відаць, не магла вырвацца ніводная істота. Смешныя рускія, хто здолеў, гэта адчувалі: кінуўшыся туды-сюды, каб выскачыць, вымушаны былі адступаць назад у вёску...

Клямт сышоў з могілкавага ўзгорка, сеў у машыну і паехаў у вёску.

На вуліцы білася роспачнае галашэнне жанчын, плач дзяцей, патрабавальныя воклічы і лаянка салдат. Часта лямант перарывалі чэргі аўтаматаў. Усюды — па агародах, па дварах і хатах — бегалі, шнырылі салдаты. Некалькі з іх, штурхаючы аўтаматамі і пагражаючы, гналі на пляц жанчын і дзяцей. З аднаго двара салдаты ў расшпіленых куртках, сагнуўшыся, валаклі нейкія клункі, відаць, з хатнімі рэчамі. Убачыўшы лейтэнанта, абодва кінулі здабычу, з аўтаматамі перад сабою рынулі ў суседнія двары.

На пляцы ў сярэдзіне сяла невялікай купкай ціснуліся адзін да аднаго ператрывожаныя жыхары — жанчыны, дзеці, старыя. Да іх падводзілі з вуліцы новых. Натоўп занепакоена пазіраў на два ручныя кулямёты, што ставілі салдаты. Напэўна, па гэтай прычыне яны амаль не звярнулі ўвагі на лейтэнанта, які паволі ўязджаў на пляц.

Калі Клямт выйшаў з машыны і паважнаю, уладнаю хадою пакіраваў да натоўпу, адтуль раптам вырваўся пранізлівы крык:

— Ха-аты!

Вокліч гэты працяў натоўп новаю трывогаю, і позіркі людзей зноў абмінулі лейтэнанта. У натоўпе паранейшаму не разумелі, якое значэнне мела для іх пастаць, што з'явілася перад імі.

Па тым, куды і як глядзелі людзі вёскі, лейтэнант зразумеў пра сэнс вокліча. Людзі глядзелі то ў адзін, то ў другі канцы сяла, глядзелі па-рознаму, адчайна, стрымана, тупа. Але бадай на кожным можна было бачыць страх...

Сяло гарэла. З абодвух канцоў яго ўздымаліся, хутка раслі, зласліва акрэсліваючыся на чыстым блакіце неба, чорныя клубы дыму. «А ў мяне ж там усё-о засталося, лыжкі адной не вынесла!..» — залямантаваў хтосьці. Забедавалі яшчэ некалькі галасоў, нядружна, нясмела.

Сталі нарэшце прыціхаць. Цяпер большасць нема, з жахам маўчала, насцярожана пазірала ўжо на лейтэнанта.

— Дзе астатнія? — запытаўся Клямт.

Ён стаяў, як і на могілках, залажыўшы рукі за спіну, і пільна ўглядваўся ў натоўп. Обер-яфрэйтар Келер, які выконваў пры Клямту абавязкі перакладчыка, пераказаў пытанне лейтэнанта па-руску, цяжка падбіраючы належныя словы. Стары, што стаяў наперадзе натоўпу, нізенькі, згорблены, з жоўтым, як воск, маршчыністым тварам, з рэдкай жоўта-сівай барадой, пераступіў з нагі на нагу, прашамкаў:

— Некаторыя ўцяклі, а некаторыя ляжаць вунь... па дварах ды на вуліцы... сам бачыў.

Обер-яфрэйтар передаў адказ па-нямецку.

— Ён жартуе? Скажы, Келер, мяне не цікавяць тыя, што ляжаць, а жывыя! — Пачакаўшы, пакуль Келер перакладаў, ён працягваў: — Нас цікавіць пытанне: у каго ёсць там, у лесе, дачка, сын або муж?.. родзічы? Таксама нас цікавіць: хто з'яўляўся партызанскім памочнікам?

Лейтэнант уважлівым чакальным позіркам прайшоўся па тварах натоўпу.

— Таго, хто скажа гэта, нямецкае камандаванне ўзнагародзіць. Нямецкае камандаванне пакіне гэтым асобам дом, хлеб, карову.

У натоўпе, было відаць, хваляваліся. Але ўсе маўчалі.

— Перакладзіце, Келер, што ў нас мала часу. Што мы не можам доўга чакаць.— Ён трохі перачакаў, зноў прайшоўся дапытлівым позіркам па тварах. На большасці твараў быў добра бачны жах, але ўсе па-ранейшаму маўчалі.— Перакладзіце, Келер,— павярнуўся лейтэнант да обер-яфрэйтара, вымавіў роўным, цвёрдым голасам,— што іх маўчанне прымушае нас ад імя нямецкага камандавання ўжыць карныя санкцыі.

Клямт выбраў наўгад траіх жанчын,— салдаты сілком адарвалі іх ад натоўпу,— і аб'явіў, што яны будуць расстраляны, калі іншыя жыхары не выкажуць партызанскіх сем'яў.

— Не карай іх, пан начальнік,— уступіўся стары.— Яны нявінны. У нас партызан няма. Было два, дык пайшлі ў лес з сем'ямі, з усім... забралі ўсіх з сабой...

Ён гаварыў такім тонам, што, каб лейтэнант быў наіўным, даверлівым чалавекам, мог бы падумаць, што гэта сапраўды так. Што стары кажа праўду.

— Якія ж мы партызаны? Старыя ды жанкі! — падтрымала старога адна з трох жанчын.— Няма ў нас нікога.

Дзве маўчалі, не зводзячы з лейтэнанта ўстрывожаных вачэй.

У гэты час салдаты падбеглі з каністрай да вялікага драўлянага будынка, што стаяў перад пляцам. Тут некалі была, відаць, школа. На шырокім двары яшчэ дагэтуль стаяў круглы пацямнелы слуп, каля якога сярод рамонку і палыну блішчалі дзве калісьці ўтаптаныя, як ток, лапіны. Напэўна, гэта была валейбольная пляцоўка.

Салдаты ўбеглі ў будынак, панеслі туды салому. Яшчэ двое жвава прыбеглі з каністрамі, зніклі за дзвярыма, потым выскачылі на ганак, аблілі яго. Скамечылі ліст нейкай паперы, падпалілі, кінулі на ганак. Агонь мігам ухапіўся ў ступенькі, пабег па парэнчах ганка, пайшоў у дзверы. Неўзабаве прагнае полымя знутры кінула свой водсвет на шырокія вокны. Потым з аднаго акна выбухнуў чорны клуб дыму, шуганулі іскры.

Лейтэнант хвіліну сачыў за агнём. Потым павярнуўся да натоўпу.

Лейтэнанту прыйшла новая ідэя.

— Перакладзіце, Келер,— сказаў лейтэнант цвёрдым тонам,— калі зараз жа нам не будуць вядомы сем'і партызан, а таксама памочнікі партызан, гэтыя жанчыны будуць неадкладна спалены.

Яго словы зрабілі належнае ўражанне. Лейтэнант бачыў, як вырываліся з рук салдат ахвяры, чуў іх стогны аб літасці, галашэнне ў натоўпе, але ні стогны, ні

лямант не кранаді яго. Ён ведаў толькі справу. Ён чакаў адказу.

Але ніхто не адгукнуўся.

Лейтэнант даў знак салдатам, каб пачыналі.

Салдаты падхапілі траіх і пацягнулі да агню. Жанчыны ўпіраліся, карнікі штурхалі іх аўтаматамі ў спіну, лаяліся. Адной, што непаслухмяна вырывалася, заламалі за спіну, звязалі рукі. Раскалыхалі і кінулі ў акно.

Натоўп апанаваў жах.

— Што ж гэта ён робіць, людзі-і? — залямантаваў хтосьці.

Раптам з натоўпу пачулася:

— За што яе, ірад?

Улавіўшы гэтыя словы, Клямт здагадаўся пра іх сэнс па тону. Ён рэзка павярнуўся да натоўпу. Хто сказаў гэтую пагрозу, яму было невядома, але позірк чамусьці прыкавала да маладой жанчыны з дзіцём на руках. Валасы яе былі разбэрсаны і спадалі на плечы, на загарэлай шчацэ падкоўкаю сінеў шрам. Яна дрыжала ад узрушэння, у шырока адкрытых вачах гарэла такая нянавісць, што твар лейтэнанта наліўся крывёю.

— Schweigen! [1] — крыкнуў Клямт.

Ён даў знак, і салдаты, як сабакі, спушчаныя з ланцуга, кінуліся да жанчыны, вырвалі яе з натоўпу. Абараняючыся, яна перадала дзіця суседцы. Клямт заўважыў гэта і загадаў, каб забралі і дзіця.

— Дзіця за што? За што дзіця! — крыкнула жанчына салдату, які груба ўхапіў малое, што нема закрычала ад болю. Салдат штурхнуў яе.

Яна паспрабавала вырваць дзіця:

— Людцы, дачушачку маю!..

Гітлеравец аўтаматам ударыў яе ў спіну.

— Дачушачка мая!.. Бі, душагуб, бі!..

На момант вочы яе, страшныя ў гневе, поўныя нянавісці, апантаныя, спаткаліся з позіркам Клямта. У іх была нейкая ўладная, страшная сіла. «Яна — вар'ятка!» — падумаў мімаволі лейтэнант.

— Каб на вас пагібель, на сабак!

— Was... was? [2]

---

[1] Маўчаць!

[2] Што... што?

Келер не паспеў перакласці.

— Каб вы здохлі ўсе, нелюдзі вы!.. Гады вы!.. Няма на вас пагібелі...

Лейтэнант нецярпліва адступіў некалькі крокаў назад, выхапіў пісталет, тройчы стрэліў.

— Каб вас!..

Жанчына хіснулася назад, потым з намаганнем выпасталася, шукаючы рукамі ў паветры апору, ступіла крок наперад і павалілася моўчкі на зямлю. Лейтэнант паклаў пісталет у кабуру, павярнуўся да перакладчыка.

Чуючы, як нервова дрыжаць рукі, лейтэнант прайшоў усцяж натоўпу. З цвёрдым, дзелавітым выглядам глядзеў у анямелыя ад чакання невядомага, ад страху твары. Адабраў дзесяткі два жанчын, што здаліся больш здаровымі,— іх адразу ўслед за ім вырывалі з натоўпу. Закончыўшы адбор, лейтэнант загадаў адвесці іх убок.

Ён пачакаў, пакуль іх адвядуць, знайшоў сярод афіцэраў, што былі побач, камандзіра кулямётчыкаў, рэзкім жэстам пракрэсліў крыж. Кіўнуў на натоўп.

— Усіх.

Павярнуўшыся і не азіраючыся, цвёрда пайшоў да машыны.

## 3

Машына павольна прабіралася праз вуліцу.

Хаты палалі ўжо амаль усцяж усёй вуліцы. Ад полымя патыхала гарачынёй. Там і тут над пажарамі ўскідваліся снапы іскраў. На дарогу часам падалі зыркія галавешкі. Было так горача, што лейтэнант затульваў твар далонямі. З апаскай сачыў за тым, куды ляцяць галавешкі.

За сялом, каля могілак, машына зноў спынілася. Лейтэнант выйшаў і ўзышоў на ўзгорак. Стаў глядзець на сяло. Гарэлі цяпер усе хаты, стаякі дыму па ўсім сяле ўздымаліся ўгару, зліваліся ў небе ў чорную нерухомую хмару.

Клямту раптам успомнілася жанчына, якая праклінала яго, і яму, што здаралася рэдка, стала трывожна. Самым непрыемным было тое, што яна была падобна

на вар'ятку. Ён не любіў вар'ятаў. У маленстве адна абарванка-вар'ятка сказала, што яго з'ядуць сабакі. Ён тады пасмяяўся дзіўным прароцтвам, а пасля здарылася так, як гаварыла вар'ятка. Аднойчы, калі малы Клямт вяртаўся са школы, яго ледзь не разарвалі сабакі. Два месяцы ён праваляўся ў бальніцы, а знакі на нагах ад сабачых зубоў засталіся назаўсёды. З таго часу лейтэнант асцерагаўся вар'ятак.

Неўзабаве вярнулася ўся рота, і Клямт забыў аб гэтай прыкрасці. Салдаты, выпэцканыя ў сажу, закураныя, як качагары, цягнулі розную здабычу — сала, курэй, адзенне.

Ля ўзгорка роту пастроілі, і лейтэнант выслухаў даклад, што аперацыя скончана.

— Дзякую,— сказаў ён да роты.— Вы добра папрацавалі... Я далажу пра гэта камандаванню.

Акінуўшы позіркам строй, Клямт загадаў:

— Усім пачысціцца. Паабедаць. Праз гадзіну быць гатовымі да далейшых дзеянняў.

Калі лейтэнант дазволіў распусціць строй, салдаты і камандзіры стомлена разышліся: адны мыцца, другія смажыць курэй.

Клямту прынеслі некалькі кругоў каўбас. Каўбасы былі здабыты ў гэтай вёсцы. Клямт панюхаў іх і аддаў кухару падсмажыць.

Як пасля ўсякай удалай аперацыі, абедалі шумліва, весела. Бадай, весяліліся нават занадта бурліва. Як і ў іншыя дні з пачатку гэтых акцый гаварылі незвычайна голасна, з воклічамі, рагаталі ахвотна і нібы бесклапотна, нібы выхваляліся адвагаю і бестурботнасцю.

Можа быць, весялосці дапамагаў ром, якога было адпушчана на ўсю аперацыю дастаткова. Але было ў гэтай незвычайнай весялосці, чулася лейтэнанту, і штосьці нібы не зусім здаровае. Нібы лішнім шумам хавалі патайную кволасць.

Лейтэнант Клямт разумеў, што акцыі тут, з іх забойствамі цывільных людзей, з крывёю дзяцей, аказаліся для некаторых занадта моцным выпрабаваннем. Чуллівымі аказаліся некаторыя новыя з папаўнення, якія наогул яшчэ не бачылі вайны. Асабліва тыя з іх, што былі старэйшыя ўзростам. Гэтым старэйшым яўна замінала агідная нямецкая сентыментальнасць, што жыла ў іх са старых часоў і што напамінала недарэчы

пра іх дзяцей і фрау, якія засталіся ў фатэрляндзе. Гэтым яўна не хапала моцнага нямецкага духу.

З цвярозасцю вопытнага салдата і здаровага немца лейтэнант быў упэўнены, што час і вопыт вызваляць гэтых тылавых чысцюль ад мяккасардэчнасці і слюнявасці. У гэтых адносінах карныя акцыі былі нядрэннай падрыхтоўкай да выпрабаванняў фронту.

Прылёгшы на плашч-палатку ў маскіровачных рудых плямах, лейтэнант наліваў з фляжкі ў алюмініевы каўпачок, цадзіў ром, закусваў і разам з тым цікаўна назіраў за афіцэрамі і салдатамі навокал. Раз-другі ён паглядзеў на обер-яфрэйтара Келера, што абедаў побач. Келер не ўпершыню прыцягваў увагу лейтэнанта.

Насыціўшыся, лейтэнант старанна выцер рукі, узняўся з плашч-палаткі, з сур'ёзным, заклапочаным выглядам прайшоўся між салдат, клікнуў Келера. Той ускочыў імкліва, як належыць, падбег, чакаючы загаду.

Лейтэнант адразу даў зразумець, што размова будзе таварыскай.

— Што піша Ільза?

— Рознае піша, гер лейтэнант...

Лейтэнант запрасіў прайсціся.

— Сумуе, піша?

— Так, гер лейтэнант...

— Віншую. У цябе, відаць, сапраўдная сяброўка. У наш час гэта здараецца, на жаль, не заўсёды...

Лейтэнант запрасіў сесці. Яны апусціліся на траву.

— Табе пашанцавала, Келер. Віншую... Зрэшты, я не суджу строга і іншых. Каторыя засталіся там... Яны маюць сваю рацыю. Так, сваю рацыю... Як і ўсе мы, жанчына таксама належыць фюрэру, айчыне. І яе любоў павінна вызначацца найперш гэтым. Таму асабістая любоў — справа менш важная. А ў некаторых выпадках — і непатрэбная, састарэлая. Яна ўводзіць у наша жыццё непатрэбны эгаізм, аблытвае. А часам і адрывае чалавека ад асноўных абавязкаў. Перад фюрэрам...

У аснове сваёй гаворка гэта мала хвалявала цяпер лейтэнанта Клямта. Гаворачы гэта, лейтэнант Клямт увесь час коса паглядваў на паплечніка. Лейтэнанта належна цікавіла цяпер толькі адно: маральны стан обер-яфрэйтара Келера. Обер-яфрэйтар Келер быў не-

звычайна ўсхваляваны і прыгнечаны. Назіральны лейтэнант Клямт яшчэ раней адзначыў, што обер-яфрэйтар Келер гэтыя дні трымаўся затоена, хаваў у сабе штосьці нядобрае. Лейтэнант адчуваў, што і ў гэтыя хвіліны обер-яфрэйтар быў далёкі ад праблем нямецкіх жанчын...

Лейтэнант думаў пра тое, як выклікаць обер-яфрэйтара Келера на шчырую размову. Думалася лейтэнанту цяжка, думкі нібы выслізгвалі: заміналі гарачыня і выпітае віно.

Обер-яфрэйтар Келер сам з п'янай няхітрасцю стаў адкрывацца.

— Лейтэнант, прабачце — вам не здаецца,— загаварыў з панурай задуменнасцю і рашучасцю обер-яфрэйтар,— што ўсё гэта не тое... не салдацкая справа...

— Што? — нібы не зразумеў лейтэнант.

— Гэта. Ваяваць з жанчынамі. З дзецьмі.

— З жанчынамі? Хіба мы ваюем з жанчынамі?

Ён быццам здзіўлены павярнуўся да обер-яфрэйтара, але Келер не пазіраў на яго. Хударлявы, кволы, з інтэлігентнай далікатнасцю на твары, якая заўсёды выклікала мімавольнае недавер'е ў лейтэнанта, чужаватасць да обер-яфрэйтара, Келер сядзеў, абняўшы рукамі калені, глядзеў нядобра перад сабой, прыплюшчыўшы вочы.

— Для салдата ёсць фронт...

— Салдат павінен рабіць усё, што патрабуе загад камандзіра. Усё, што неабходна фюрэру, айчыне...

Стрымліваючы раздражненне, лейтэнант Клямт павінен быў паўтарыць вядомае, простыя ісціны. Што шкадаваць рускіх — значыць праяўляць нямецкую мяккацеласць і быць несправядлівым да нямецкай арміі. Не віна нямецкай арміі, а віна бальшавікоў рускіх, што немцы ўжываюць рэпрэсіі ў такім шырокім маштабе. Рускія карыстаюцца незаконнымі, агіднымі метадамі вайны. Яны вядуць вайну несумленна, мала таго, што нападаюць з лясоў, робяць засады на тылавых дарогах, яшчэ выкарыстоўваюць мірнае насельніцтва, жанчын і дзяцей. Усе нападаюць на нямецкія войскі з-за спіны. Каб засцерагчы ваенныя тылы, нямецкія войскі павінны ўжываць рэпрэсіі супраць усіх. Уся віна за гэтыя рэпрэсіі ляжыць на саміх рускіх. Немцы вымушаны гэта рабіць.

Келер сказаў з юначай упартасцю:

— Але на гэта ёсць... спецыяльныя людзі.

— Іх таксама хапае.

— Усё роўна,— упарта, зацята прамовіў обер-яфрэйтар.— Няхай яны гэта робяць!

— Тут таксама вайна,— жорстка, холадна, як загад, сказаў лейтэнант Клямт...

— Вайна? З дзецьмі? — Ён, відаць, штосьці ўспомніў, з тугою, з адчаем павёў вачыма.— Кроў, дзеці, бр-р...

Лейтэнант Клямт адчуў прыкрасць да гэтага нервовага матчынага сынка. Прыкрасці, раздражнення гэтых не магла ўжо патушыць звыклая зямляцкая паблажлівасць. Бадай, лейтэнант занадта багата дазваляў обер-яфрэйтару з-за зямляцкай блізкасці.

Яны заўсёды былі не вельмі моцнымі салдатамі, гэтыя ўчарашнія студэнты, сапсаваныя цывільнай адукацыяй. Гэты ж зямляк яго, саксонец, наогул марыў да арміі чорт ведае пра што: стаць мастаком! Як быццам гэта годны мужчыны і маладога немца занятак! Зрэшты, на фронце ён паказаў сябе зусім нядрэнна, здавалася б, дохлы такі, бледнатвары інтэлігенцік, надзейна, аддана ваяваў. І вось, калі ласка, размовы, вартыя строгага пакарання.

Лейтэнант Клямт пакуль не ведаў, што належыць учыніць да гэтага падначаленага. Ад таго раздражненне ў ім супраць обер-яфрэйтара было яшчэ мацней.

— Глядзі,— лейтэнант абцасам бота прыціснуў траву, потым адставіў бот убок. Трава ў ямцы з-пад абцаса, дзе была менш прыціснута, упарта ўздымалася.— Заўтра яна ўся выпрастаецца! Каб яна не ўзнялася, яе трэба рваць з коранем.

Ён вырваў жмутак травы з зямлёй, змяў яе і кінуў прэч.

— Усё роўна,— п'яным, з адчаем, голасам сказаў обер-яфрэйтар. Ён раптам ускочыў, зноў з тугою выказаў: — Няхай яны гэта робяць! Няхай яны!

Лейтэнант Клямт азірнуўся, іх, здаецца, ніхто не слухаў. Салдаты, сп'янелыя, крычалі, гаманілі кожны пра сваё. Лейтэнант загадаў обер-яфрэйтару Келеру прывесці сябе ў парадак, сесці. Ён прамовіў загад такім жалезным голасам, што обер-яфрэйтар Келер адразу звяў, падпарадкаваўся.

Сядзеў зноў, ціха, пакорліва чакаў, што загадае далей лейтэнант.

Лейтэнант загадаў супакоіцца, узяць сябе ў рукі. Обер-яфрэйтар пастараўся супакоіцца.

Пачціва слухаў, як лейтэнант ганьбіў праклятую нямецкую сентыментальнасць, якая раней столькі разоў губіла іх. Як лейтэнант гаварыў пра рашаючае значэнне моманту, іх цяперашніх акцый, пра неабходнасць праяўляць цвёрдасць духу.

Обер-яфрэйтар Келер паабяцаў, што ганебнае слабадушша ў яго больш не паўторыцца.

Усё ж лейтэнант пайшоў ад яго вельмі нездаволеным.

## РАЗДЗЕЛ VIII

### 1

Грэчка амаль тры дні блукаў адзін па лесе.

Вярнуцца дамоў не давялося. Ён у першы ж дзень падышоў да сяла, але зайсці туды пабаяўся, бо ў вёсцы, заўважыў, былі немцы.

З хмызняку на ўзлессі, не вытыркаючыся на чужыя вочы, прадчуваючы нядобрае, асцярожна, пільна назіраў ён за тым, што рабілася ў сяле. Да яго дайшлі лямант, страляніна. Ён слухаў усё, поўны разгубленасці. З неспадзяванай трывогі не ведаў, што рабіць далей. А тут раптам раз, другі грымнула поблізу. Зусім побач на ўзлессі пачалі выбухаць снарады.

Грэчка кінуўся назад у гушчар.

На другі дзень, раніцай, у невялікім хутарку яму ўдалося дастаць крыху хлеба, і ён два дні хаваўся ў вільготным паўзмроку лясной гушчыні, прыслухоўваючыся да таго, што рабілася навокал. У розных баках чуліся кулямётная і аўтаматная страляніна, важка гупалі выбухі.

Ён стараўся аддаліцца ад іх, але страляніна паступова набліжалася з усіх бакоў.

Аднойчы Грэчка ледзь не наткнуўся на гітлераўцаў.

Раптам адтуль, куды кіраваў ён, шукаючы цішыні, данеслася нямецкая гаворка. Ён адразу прыпаў да

зямлі і ўбачыў непадалёк у прагаліне між падлеску палявую кухню і групу немцаў-салдат, што сядзелі на траве. Зброя іх ляжала на зямлі. Яны абедалі. Не помнячы сябе, Грэчка стаў адпаўзаць назад, потым ускочыў і пабег.

Ён спыніўся ў густым лазняку, трывожна ловячы гукі, стаў прыслухоўвацца. Хутка там, адкуль прыбег ён, пачулася страляніна. Потым данесліся стрэлы з другога боку. Яны паступова набліжаліся.

«Прачэсваюць лес»,— падумаў уцякач.

Нечакана ён пачуў побач трэск галля. З зарасніку проста на яго наскочыла жанчына з ускудлачанымі валасамі.

Яна вяла за руку дзіця. У вачах жанчыны быў жах. Убачыўшы раптам перад сабой незнаёмага чалавека, яна спалохалася, але, прыгледзеўшыся, ціха, спакутавана ўскрыкнула:

— Божа! Ды гэта ж свой, здаецца!

Цяжка і часта дыхаючы, яна падышла да Грэчкі.

— Дзякуй богу, свайго чалавека спаткала! А то ж перапалохалася... Ледзь уцякла ад іх... Смерць, думаю, прыйшла... Як добра, што свой чалавек тут... Дзе нашы, далёка?

Уся яе надзея была цяпер на Грэчку, яна глядзела на яго, як на ратаўніка.

Той незадаволена адступіў, мармычучы:

— Я таксама адзін...

Не, ён не хацеў браць на сябе чужы клопат. Ён хацеў быць адзін, адзін.

Але жанчына не адставала, ішла ўслед.

— Вазьмі і нас, саколік! Памажы нам! Не кідай, вазьмі з сабою... Не кідай... Не кідай!.. Куды ты! А божа!

Грэчка раззлаваўся, вылаяўся. Не стрымліваючы больш сябе, асцярожліва рынуўся прэч ад яе. Толькі адбегшы далей, убачыўшы, што яе няма, спыніўся.

Страляніна і воклічы немцаў усё набліжаліся.

У нейкую хвіліну Грэчка непадалёк пачуў жахлівы адчайны крык жанчыны і стрэлы.

«Тая напэўна»,— мільганула ў Грэчкі думка. У грудзях пахаладзела. Ён ліхаманкава агледзеўся, шукаючы куст ці вывараць, дзе можна было б ухавацца. Выбраўшы пагусцейшы куст, палез у яго. Пра-

дзіраючыся праз галлё, ён з жахам заўважаў, што лісце яшчэ не зусім разраслося, што куст прасвечваецца скрозь, адчуваў, што ўхавацца тут будзе цяжка. Немцы тым часам з крыкам, з ляскатам, неадступна, пагрозліва набліжаліся. Кулі пасвіствалі ўжо побач, у галлі.

Зашыўшыся глыбей у зараснік, уціснуўшыся ў зямлю, ён нічога не бачыў. Не хацеў бачыць. Думаў адно пра тое, каб як-небудзь гэта навала прайшла міма.

Ён чуў, як побач, зусім побач затрашчала галлё, сцяў дыханне. Маліў, каб трэск пайшоў далей, абмінуў яго. Але трэск не пайшоў далей. Крокі спыніліся, і ён — як ні чакаў, ні баяўся, здалося — неймаверным — побач, над сабой пачуў голас, які прагучаў, як стрэл:

— Устаць!

Грэчка спіною адчуў, што гэта адносіцца да яго, але не варухнуўся, нібы прыклееены да зямлі.

Толькі тады, калі нехта злосна стукнуў яго нечым цвёрдым, жалезным у шыю, ён рачкі палез з куста, падняўся. Перад ім стаяла некалькі немцаў з аўтаматамі.

Ён анямеў, чакаючы, што яго зараз жа застрэляць або ўчыняць нейкую жахлівую смерць.

З таго, што гаварылі да яго немцы, ён не разумеў нічога, хоць адзін з іх крыху гаварыў па-руску. Да Грэчкі дайшло толькі адно слова «партызан», якое выплыла з туману, што напаўняў галаву. Уцякач адразу закруціў галавою, адмаўляючыся: не, не... не!

У тую хвіліну да іх падышоў паліцай.

Грэчка ўбачыў чорны чуб, начэсаны на вока, і яго ахапіла дваістае пачуццё — і трывогі і палёгкі. Паліцай быў знаёмым. Ён, Тыталь, добра ведаў Грэчку, раней не раз заходзіў да яго ў хату, частаваўся самагонам.

Тыталь падбіваў нават некалі падацца ў паліцыю, але Грэчка не паслухаўся. Ён хацеў жыць ціха, не звязваючыся ні з паліцыяй, ні з партызанамі. Жыць спакойна ды чакаць, як яно будзе далей... Гэтаму Грэчкаваму жаданню не суджана было збыцца: потым сталася так, што давялося пайсці ў лес. «Пайшоў сабе на пагібель, дурань»,— шчыра пакаяўся ён цяпер.

— Ну, папаўся, галавешка? Не паслухаў? — сказаў Тыталь са злой радасцю, помсліва.

Грэчку апанавала непапраўнае шкадаванне.

— Не п-паслухаў... Дурны быў... Д-дурны быў, Якавачка...

— Паразумнееш — на тым свеце, галавешка.

— Не загубі, Якаў! — ухапіўся Грэчка.— Пашкадуй, Якавачка.

Надзея на Тыталя абудзіла ў Грэчку сілу і прагу збавення.

— Аддзякую дабром! Усё, што зажадаеш, аддам! Нічога не пашкадую!

Тыталь быў як каменны.

— Каяцца ўздумаў перад смерцю,— толькі і працадзіў з пагардаю.

— Я ўцёк адтуль... ад іх...— маліў Грэчка, не выпускаючы надзеі.— Я кінуў!.. Хай яны прападуць. Як яны, паганцы, зацягнулі мяне!..— Ён ухапіўся за думку, у якой улавіў ратунак.— Зацягнулі! Сілаю! Ты ж знаеш! Загадалі! Пад вінтоўкаю загадалі ісці! Прыйшлі ў хату і — загадалі! Загадалі абстрыгчы бараду! І — у лес, да сябе!..

Тыталь нібы не чуў. Стаяў важны, непадступны. Толькі і паддаўся, каб сказаць:

— Можа, жонцы што сказаць трэба. Гэта я магу.

Карнікі, што хвіліну сачылі за іх размоваю, а больш, можа, проста перадыхвалі, цяпер стомлена загаварылі пра яго. Што гаварылі пра яго — Грэчка бачыў па жэстах, але здагадацца пра змест размовы не мог. Можа, прыдумваюць смерць яму. Разуменне важнасці моманту, смяротнай небяспекі, надзея на Тыталя, якую ён не хацеў адпускаць, зноў узнялі ў ім прагу ўратавацца, і ён зноў стаў прасіць, маліць Якава пашкадаваць, заступіцца.

Яго маленне нарэшце, здаецца, змякчыла цвёрдае сэрца паліцая. Тыталь нічога не абяцаў, але ступіў да аднаго з немцаў, мусіць, старэйшага і стаў нешта ціха казаць яму. Падобна было на тое, што — угаворваць немца.

Грэчка так і не зразумеў, ці здолеў Тыталь угаварыць немца. Той, здавалася, не згаджаўся.

Грэчку загадалі ісці кудысьці.

З ім пайшлі Тыталь і адзін салдат, іншыя рушылі

з аўтаматамі далей. Тыталь ступаў спераду, а немец — за спіной. Грэчку ўвесь час хацелася азірнуцца. Нельга было адолець цягучае, нясцерпнае адчуванне, што ззаду цэляцца ў спіну.

Ён уздрыгваў ад кожнага трэску сучка, і ўсярэдзіне ў яго ўсё замірала.

2

Калі лес наперадзе расступіўся, у Грэчкі зноў абудзілася надзея. Значыць, не на расстрэл.

Аднак на душы было цяжка, і ён, згадаўшы раптам Тураўца, пашкадаваў, што не пайшоў разам з усімі. Як бы там ні было, усё-такі ў атрадзе не так — там ты не адзін, а з другімі, і страх не гэтакі.

На ўзлессі, на беразе рачулкі, былі таксама немцы. Адзін з іх, голы да пояса, плюхаў на сябе з вядра халоднай вадою і задаволена крактаў. Цела яго пакрылася дробнымі курынымі пупышкамі. Два немцы непадалёк нешта смажылі на скавارадзе.

Тыталь сказаў да Грэчкі мякчэй:

— Сам лейтэнант Клямт... будзе дапытваць цябе,— параіў патрабавальна.— Не таіся, кажы ўсё чыста, што ведаеш, можа, злітуюцца... Эх, галавешка!

Лейтэнант Клямт перастаў плёхацца, і салдат стаў выціраць яго вышываным вясковым ручніком. Скура лейтэнанта Клямта заружавела.

Акуратненька прычасаўшы на роўны прабор зямлістыя, падобныя на мочаны лён, валасы, пан лейтэнант надзеў мундзір. Толькі калі надзеў мундзір, зашпіліўся, салдат, што прывёў Грэчку, адважыўся далажыць яму штосьці. З ледзяным, непранікліва зацятым выглядам выслухаў пан лейтэнант даклад салдата, жорстка зірнуў на Грэчку.

Тыталь падштурхнуў Грэчку да лейтэнанта. Грэчка ступіў наперад, кланяючыся, паказваючы пакору, гатоўнасць усё паслухмяна выканаць.

— Партызан? — лейтэнант усё цэліў у Грэчку варожы позірк.

— Не, не... Я ўцёк... Уцёк ад іх,— хапаючыся, загаварыў Грэчка, не зводзячы з афіцэра вачэй, што чакалі, малілі.— Я не партызан.

Паклікаўшы нейкага салдата, лейтэнант Клямт штосьці загадаў яму. Малады белатвары салдат пераказаў, што пан лейтэнант папярэджвае, што трэба адказваць на ўсе пытанні, што адказы павінны быць праўдзівыя, што за лжывыя паведамленні Грэчка будзе пакараны.

— Перадайце, таварышу...— Грэчка анямеў, хутчэй паправіўся,— пану лейтэнанту, што я скажу ўсё! Чыстую праўду!

Ён, хапаючыся, нібы баяўся, што лейтэнант перарве яго і зробіць абяцанае пакаранне, адказаў на пытанні, што ішлі адно за адным. Пытанні былі важныя: дзе знаходзілася брыгада, куды накіравалася, склад яе. Праўда, іншы раз пытанні аказваліся цяжкаватыя. Напрыклад, пра планы брыгады, тады Грэчка адчуваў, як па яго твары плыве пот.

Ён бачыў, што лейтэнант яўна нездаволены ім і падазрае, што ён нешта тоіць. Перакладчык хутка пацвердзіў здагадку Грэчкі.

— Пан лейтэнант напамінае, што вы будзеце строга пакараны за скрыванне паведамленняў...— прамовіў старанна перакладчык.

— Я гэтага не ведаю,— пакляўся, молячы, Грэчка.— Ей-богу, не ведаю! Мне не казалі.

Грэчка адчуваў, што гіне. Стоячы перад лейтэнантам, сустракаючы яго пранізлівы позірк, уцякач і не думаў пра людзей, якіх выдаваў. Іх цяпер для яго не было, ён жыў адною прагаю выратаваць сваё жыццё, гэта прага адольвала ўсё, што магло быць на свеце. На хвіліну мільгнула думка, што за такі ўчынак у брыгадзе, калі б ён там зноў апынуўся, расстралялі б адразу, але яна знікла, не пакінуўшы ў душы следу.

Ён бачыў перад сабою толькі лейтэнанта.

Лейтэнант Клямт, слухаючы яго, рабіў адзнакі на карце. Пад канец допыту лейтэнант задаў некалькі пытанняў, на якія Грэчка зноў не змог адказаць, і Грэчка адчуў, што ідзе на дно.

Ён чакаў прысуду, хуткага прысуду, але лейтэнант зняў тэлефонную трубку, выклікаў нейкую «Эльбу» і штосьці пачаў паведамляць туды. Мяркуючы па тым, што ён паглядваў на карту, ён перадаваў весткі, якія сказаў Грэчка.

Як толькі размова з «Эльбаю» скончылася, Грэчка зразумеў, што цяпер вырашыцца яго лёс.

Але лейтэнанта Клямта лёс гэты нібы зусім не цікавіў. Надзяваючы высокую фуражку, ён зірнуў на палоннага такім далёкім позіркам, быццам таго зусім не было перад ім. У абыякавым, бязлітасным позірку лейтэнанта Грэчка прачытаў прысуд сабе — канец.

Ён кінуўся на зямлю, просячы літасці:

— Пан капітан... Пан капітан...

Лейтэнант Клямт па-ранейшаму не хацеў яго заўважаць. Адзін з салдат тузануў Грэчку за руку, ткнуў у бок аўтаматам.

Тады за Грэчку ўступіўся Тыталь.

— Дайце, гер лейтэнант, яго мне. Мне патрэбны людзі. Работы — філь, а людзей — ніхт.

Лейтэнант Клямт запытальна зірнуў на перакладчыка. Паслухаўшы яго, кінуў цвёрда, з пагардай, што гэты мярзотнік заўтра можа таксама перабегчы да партызан.

— Не пойдзе, я яго ведаю. Там яму адразу кацялок — «копф»,— Тыталь паказаў на галаву,— адкруцяць. Няхай толькі сунецца! — Перачакаўшы, пакуль салдат перакладзе, Тыталь заявіў упэўнена: — Я магу паручыцца за яго, гер лейтэнант.

Лейтэнант Клямт павагаўся момант, востра зірнуў на Грэчку і саступіў Тыталю. Відаць, ён падумаў, што калі гэты старанны камандзір паліцаяў ручаецца, няхай возьме сабе. Вядома, для паліцыі трэба многа людзей, у паліцыю ахвотнікаў мала было. Лейтэнант махнуў пухлай, кароткай рукой, і тыя адступілі ад Грэчкі.

Грэчка ўзрадаваны наўколенцах пакланіўся лейтэнанту, раз-другі, захапаўся дзякаваць пану за ласку, за дабрату. Аднак, улавіўшы, што твар лейтэнанта нездаволены, што слухаць і заўважаць той яго, падобна, не хоча, тут жа стрымаў сябе. Не дай бог, разозлуеш няўрокам, балбочучы лішняе. Яшчэ не верачы, што бяда так шчасліва мінула, узняўся, зірнуў на Якава, нібы пытаў парады.

Якаў казырнуў лейтэнанту і папрасіў дазволу ісці выконваць абавязкі. Даў знак Грэчку ісці за ім. Грэчка асцярожліва азірнуўся на салдат. Тыя не глядзелі на яго.

— Век не забуду тваёй ласкі, Якаў! — кляўся ён, калі разам з Тыталем адышоў ад лейтэнанта Клямта.— Пакуль жыць буду! Да скону буду верным другам...

— Прасі тут начальства за цябе,— прыкметна задаволены сабой, Грэчкавымі словамі, паблажліва папракнуў Тыталь.— Важдайся з дурнем... Ну, ды чорт з табой! — ляпнуў ён раптам па-сяброўску па плячы. Тут жа, аднак, нагнаў на твар начальніцкую сур'ёзнасць: — З сённяшняга дня будзеш служыць са мной! Чуў?

— Чуў,— не думаючы пра гэта, усё на той жа неўтаймаванай хвалі радасці адказаў Грэчка.

— Усе глупствы каб выкінуў з галавы! — патрабавальна і важна загадаў паліцай. Ён пагрозна памахаў пальцам перад Грэчкавым тварам.— Глядзі ў мяне!

— Што ты, што ты, Якаў! Цяпер я навучаны. Доўга буду помніць навуку гэту...

— Кінь ты выць! Як баба. «Буду помніць, буду помніць!» Паспрабуй забыць!.. Туды, назад, дарогі табе цяпер няма. Галаву адкруцяць адразу.

Тыталь даў даведку, што Грэчка служыць у паліцыі, і той рушыў да свайго сяла. Ён ішоў лёгка, і ўсё спявала ў ім: жыву, жыву.

Але пазней, калі першая радасць крыху прыціхла, калі лес і стрэлы засталіся далёка ззаду, Грэчку пачала апаноўваць трывога. Хада яго пацяжэла. Ён ужо цягнуўся павольна і разважаў нявесела, з одумам:

«Як жа я буду ў паліцыі? Я ж не хацеў ісці туды, а цяпер буду! Я ж хацеў, каб убаку, каб перачакаць...»

Яму ўспомніўся раптам Туравец, і Грэчка так занепакоіўся, нібы той і цяпер меў над ім уладу.

Што ж рабіць? Грэчка нейкі час разгублена стаяў на полі, каля сцежкі, якая вяла ў вёску. Ісці ці не ісці? Ён не мог прыдумаць нічога іншага, акрамя таго, што яму падказвалі абставіны, куды яго вялі апошнія падзеі.

«А, што будзе, тое будзе!» — падумаў ён нарэшце і, стараючыся не разважаць, няцвёрдай хадою пакіраваў да вёскі.

## РАЗДЗЕЛ IX

### 1

Другую ноч на поплаве дзяжурыла некалькі дробных групак. Усе атрады былі ўжо гатовы да выступлення, а камбрыг усё яшчэ нецярпліва прыслухоўваўся да начнога шуму. Сонна пастрэльвалі недалёка кулямёты, разложна бухнулі некалькі разоў гарматы. Сёння ён непакоіўся яшчэ больш: «Прыляціць ці не прыляціць?» Пазіраў у чорнае неба, слухаў, як тужліва шуміць угары, у лісці, вецер. Надвор'е было мала лепшае, як учора. Камбрыг раз-пораз запальваў кішанёвы ліхтарык і, падставіўшы пад святло гадзіннік, паглядаў на яго.

А што, калі не прыляціць? Ермакоў адчуваў, як сэрца пачынае біцца мацней і нібы напаўняецца холадам. Ён ведаў: выбару не было, на прарыў трэба было ісці, не зважаючы ні на што. Седзячы тут, ён, можа, у дзесяты раз, стараўся перабраць у думках, ці ўсё зрабіў, што належыць, да выступлення.

Прайшла гадзіна, другая, а самалёта не было. Ермакову не сядзелася, ён то выклікаў сувязных і даваў загады, то неспакойна хадзіў і, каб сцішыць нецярплівасць, насвістваў песню. Блізка апоўначы ён улавіў далёкі гул самалёта. Камбрыг пачуў, відаць, раней за іншых, бо ўсе яшчэ маўчалі. Гул, спачатку вельмі ціхі, падобны на шум пчалінага рою, паступова мацнеў.

— Ідзе! Самалёт! — загаманілі ўзрушана навокал.

Ермакоў, стрымліваючы дрыготку ў голасе, загадаў, каб запалілі вогнішчы. Увесь поплаў ажыў, там і тут заблішчалі ў цемры агні.

Самалёт набліжаўся, гул перайшоў у рэзкі рокат. Раптам ён апаў. Сцішыўшы маторы, нявідны самалёт стаў падыходзіць да лугу. Усе ўбачылі яго чорны абрыс зусім блізка, над самымі дрэвамі. Шырокія вялікія крылы пранесліся ў цемры, здалося, так блізка, што нібы прыгнулі ўсіх нязвыкла моцным свістам і шолахам. Праз хвіліну камбрыг заўважыў каля сябе цьмяны знак парашута, які адносіла ўбок.

Ермакоў сам разам з партызанамі кінуўся да парашута. Гэта быў мяшок, напакаваны скрынкамі. «На-

пэўна, патроны». Камбрыг хутка перарэзаў стропы, якімі пакунак быў прывязан да парашута, і загадаў несці да месца збору грузаў.

Мяшок быў такі важкі, што два здаровыя хлопцы ледзьве паднялі. Адзін з іх сумысля закрактаў з натугай і сказаў задаволена:

— От, кабан! Пудоў на сем!..

Развярнуўшыся, самалёт зноў пайшоў над лугам. Гітлераўцы, апамятаўшыся, адкрылі ўслед яму стралянніну, наўздагон паляцелі рознакаляровыя ніткі трасёраў — сінія, жоўтыя, белыя. Самалёт ледзь мінуў луг, моцна зароў маторамі, пачаў, відаць, набіраць вышыню. Ён не вярнуўся больш, абышоўшы луг старанойа, пайшоў назад, дадому, стаў паступова аддаляцца. Гэта было чуваць па гулу, які ўсё суцішаўся.

— Дзякуй, дзякуй, друг!..— не ўтрываў, нязвыкла расчулена сказаў Ермакоў невядомаму лётчыку.

Яму хацелася завіхацца, камандаваць.

— Ну як, Мамедаў, цяпер можна ваяваць? А-а, Мамед?! — крыкнуў ён весела партызану, што прынёс мяшок.

— Заўсёды трэба, калі камандзір загадвае,— адказаў разважліва хлопец.— Але цяпер лепш. Патроны ёсць, гранаты ёсць, усё ёсць!

Партызаны зносілі мяшкі ў адно месца. Сабралі, відаць, не ўсё, частка грузу, мусіць, упала ў размяшчэнне немцаў ці ў лес. Прадстаўнікі ад атрадаў, што стаялі па-ранейшаму на баявых пазіцыях, неадступна хадзілі каля Ермакова. Сачылі за кожным рухам камандзіра і камісара, якія распорвалі мяшкі, стараліся дапамагчы, трэба ці не трэба. Калі Ермакоў пачаў размяркоўваць, прасілі, каб ім вызначылі больш, даводзілі свае права на гэта.

Як толькі камбрыг падзяліў усё, партызаны, павесялелыя, сталі разыходзіцца, амаль не адчуваючы на сабе прыемнага цяжару скрынак з патронамі і гранатамі.

Неўзабаве атрады сталі непрыкметна і хутка збірацца да месца, адкуль брыгада павінна была пачаць прарыў.

Атрад імя Кутузава размяшчаўся ціха ў негустым лясочку перад самымі «варотамі», наперадзе іншых; два другія атрады стаялі за ім, справа і злева.

Партызаны садзіліся на мокрую ад расы зямлю, стараючыся не бразгаць зброяй, шэптам перагаварваліся:

— Эх, каліна-маліна, зацягнуцца б,— уздыхнуў Шашура,— хоць бы «бычка»!.. А, Вась? — сказаў ён да Крайко, які сядзеў поруч.— Усярэдзіне, як у пажарным насосе, смокча... Ну, проста ў пячонцы смаліць.

— От, знайшоў аб чым шкадаваць! — абыякава адгукнуўся Васіль.— Людзі думаюць пра жыццё, а ты пра «бычка».

— У каго якая схільнасць, Вась... Ты, скажам, некурашчы і не разумееш, што такое — хацець курыць!..

Ён шумна ўздыхнуў:

— Эх, брат, смокча ў кішках — зацягнуцца б!..

Уздыхнуўшы яшчэ раз ад гэтай нягоды, сказаў:

— А жыццё? Чаго пра яго думаць, Вась? Жыць будзем, калі не памрэм!.. Чаго ж тут думаць?..

Наводдаль ад іх, між жанчын, сядзела Ніна, маўклівая, нерухомая, туліла да сябе Гальку, якая спала на яе каленях.

«Спіць, і хоць бы што... Няхай спіць!» У Ніны была такая пяшчота да дзяўчынкі, нібы гэта была яе родная дачушка. Чуючы цеплыню малога, кволага цельца, у гэты вечар асабліва неспакойна думала пра дачушку. Як цяпер яе Людцы? Ці добра ўсё ў яе?

Ніна адчула, як свежы халадок прабег ад шыі па спіне. Яна кінула позірк у неба. Угары ў галлі мігцела зорка. Па верхавінні дрэў трывожна хадзіў вецер, нібы яго таксама непакоіла чаканне бою. Унізе было цёмна і сыра, як у глыбокім склепе. Ад холаду Галя спрасонак паварушыла плячыма, прыціснулася да Ніниных грудзей.

— Спі, спі! — Ніна накрыла яе краем свайго жакета.

«Чаго гэта яны марудзяць?» — падумала яна пра Ермакова і Тураўца.

Ермакоў з Драздом, з сувязнымі і разведчыкамі былі наперадзе, назіралі за варожымі пазіцыямі.

Гітлераўцы былі блізка. Здавалася, зусім побач разпораз аб'яўляліся іх кулямёты, нібы папярэджваючы пра тое, што там не спяць. Часам добра былі чуваць чужыя галасы, рэзкія, адрывістыя. Тады Ермакову ха-

целася кінуцца наперад і рукамі душыць тых, хто там страляў і гаварыў, каб яны маўчалі, век маўчалі.

Камбрыг ведаў, што ўсе, хто за яго спіной, узброеныя і няўзброеныя, як ніколі, спадзяюцца на яго. І ён рабіў усё, што належала, асабліва ўважліва.

Ён непакоіўся, каб атрады да часу не выдалі сябе: самыя вялікія надзеі яго былі на нечаканасць удару. Ён ведаў, што поспех будзе залежаць ад таго, удасца ці не ўдасца ўдарыць нечакана. Ён усім сэрцам жадаў гэтага: нечаканасці ўдару. Пакуль што ўсё ішло добра, але насцярожанасць у яго не праходзіла. Ён нецярпліва чакаў, калі падыдуць на месца апошнія ўзводы, прыспешваў камандзіраў атрадаў праз сваіх сувязных.

— Давай! — сказаў нарэшце камбрыг Дразду, рота якога павінна была пачынаць.

Дрозд знік у цемры.

Наперад, ледзь бачныя, насцярожана падаліся маўклівыя людзі. Крокі іх мякка танулі ў вільготнай, роснай траве. Людзі адразу схаваліся ў хмызняку.

Раптам блізка ўспыхнула злая, імклівая чарга з нямецкага кулямёта. Адразу ж у адказ прагучалі выбухі — адзін, другі: гранаты. Услед нецярпліва вырваўся на волю шматгалосы пагрозны крык. Угары пырснулі і павіслі некалькі ракет.

Ураз закалацілася страляніна. Цемру шматавалі кароткія барвовыя выбліскі. Зямля гула, стагнала, крычала.

— Наперад, таварышы! Наперад!

Ермакоў павёў у атаку асноўную групу.

2

Ледзь грымнуў выбух, Вася Крайко разам з усімі сваімі байцамі кінуўся наперад. Перад ім прайшоўся нібы вогненны віхар, што скасіў поруч некалькі чалавек, але Вася не спыніўся. Хутка ён апынуўся на чыстым полі, аднак не заўважыў гэтага,— толькі на нейкі міг здзівіўся, што перад вачыма раптам стала святлей.

Прабегшы некалькі крокаў, ён нечакана праваліўся ў нейкую яму, стукнуўся галавою аб нешта цвёрдае так, што зазвінела ў скронях. Аўтамат выпаў з рук.

Васіль мігам ускочыў і адразу адчуў каля сябе чалавека. Адчуў яго яшчэ да таго, як убачыў. Васіль хутка павярнуўся, мімаволі халадзеючы: «Прапаў!»

Хоць ён і чакаў, што ў любую хвіліну можа спаткацца з ворагам, гэтая сустрэча выдалася неспадзяванай.

Незнаёмы парывіста ўскінуў руку. Васіль перахапіў гэты рух, мімаволі рвануўся ўбок. Грымотнае святло ўдарыла недзе каля скроні.

Не цямячы нічога, у гарачцы, Васіль хапіў цяжкую лімонку, што была ў кішэні, і па-баксёрску, з усёй сілы сунуў у твар ворага. Той хіснуўся, але ўстаяў. Вася наўзмах ударыў у другі раз, па сківіцы. Той, ухапіў увагаю Васіль, стаў асядаць. Распалены бойкаю, Васіль упаў на карніка і ўдарыў у трэці раз, у чацвёрты. Потым, калі ўпэўніўся, што той мёртвы, падняўся, выпрастаўся, зморана аддыхаўся.

«Бач ты, зараза!» — вылаяўся ён, крыху спакайнеючы.

Толькі цяпер ён пачаў ясна адчуваць небяспеку, якую адолеў. Ён нагнуўся, вобмацкам адшукаў аўтамат. Выбраўся з ямы.

Тут ён заўважыў, што навокал ідзе зацятая рукапашная бойка. Былі чуваць адрывістыя пагрозныя крыкі, востры лязгат жалеза, лаянка, часам лямант.

Каля Васіля, лаючыся, хрыпелі і тузаліся дзве постаці. Васіль падскочыў на падмогу. Што тут рабіць? Абодва счапіліся так, што не разабраць, дзе свой, дзе чужы.

Ён па голасе ўгадаў, каторы з іх чужы, і, злаўчыўшыся, секануў прыкладам. Карнік ірвануўся і сціх.

Партызан, якога выбавіў Васіль, штосьці пашукаў каля сябе, задыханы, зmoраны, падняўся.

— Ну, дуж-жы, чорт!.. Ніяк, каўбаснік, не даваўся,— нібы апраўдваючыся, адплёўваючыся, сказаў партызан.

Васіль пазнаў: Шашура! Шашуру выбавіў!

Яны кінуліся наперад, у гушчу бойкі. Васіль заўважыў у святле ракет варожую каску, як сякераю, узмахнуў аўтаматам. Усю сілу аддаў удару... Другога дапамог дабіць Шашура...

Прабеглі некалькі крокаў наперад. Грудзі ў грудзі Васіль сутыкнуўся яшчэ з адным.

Абодва мімаволі спыніліся.

Васіль пагрозліва крыкнуў (не помніў потым што). Пагрозліва падняў аўтамат. Замест адказу ўгару хутка

падняліся рукі, тады ўжо пачуў незразумелае чужое мармытанне.

«У палон, мусіць, просіць... «Капут Гітлер»... Што з ім рабіць?»

Ён азірнуўся ў бок Шашуры, нібы прасіў парады.

У той жа момант, скарыстаўшы хвіліну замяшання, сустрэчны неспадзявана рвануўся ўбок.

Васіль ускінуў аўтамат.

— Стой!

Вельмі хацелася даць чаргу ўслед, але стрымаўся: навокал было многа сваіх...

«Уцёк, з-зараза!»

Праз хвіліну Васіль згубіў Шашуру ў цемры. Заўважыў: згубіў і свой узвод. Побач з Васілём ішлі і беглі цяпер незнаёмыя людзі. «Трэба знайсці свой узвод,— падумаў ён.— Як жа яны адны, без мяне? Гэтая чортава яма ўсё пераблытала».

Васіль заўважыў, што страляніна засталася ззаду. Ззаду ўспыхвала полымя выбухаў. Наперадзе было ціха, прывабліва чарнеў вольны прастор. Шлях быў туды вольны.

Ён пачуў узрушаныя, задаволеныя галасы. І тады яго напоўніла яшчэ не зусім ясная, нязвыклая, але шырокая радасць: «Значыць, прарвалі!..»

«Прарвалі ўсё-такі!»

Шашура ў гэты час з двума таварышамі каціў на фланг процітанкавую гармату. Карнікі пакінулі яе, калі хваля партызан рынулася да батарэі. Пабачыўшы хлопцаў, якія не ведалі, што рабіць з гэтай знаходкаю, Шашура адразу скеміў, што яна вельмі спатрэбіцца на флангу.

— А ну, давай! — крыкнуў ён усхвалявана больш сабе, чым каму-небудзь другому.

Шашура ўпёрся рукамі ў шчыт гарматы. Скрануўшы яе з двума хлопцамі, выпадковымі памочнікамі, ён крыкнуў другім, што апынуліся тут, узяць снарады.

Заўважыўшы, што на падмогу прыйшла «артылерыя», на флангу ўзрадаваліся. Але — хто б мог чакаць такое! — адразу ж здарылася затрымка: Шашура паспрабаваў адчыніць замок і не змог.

«Эх, чорт! І снарады ёсць, і гармата, а страляць нельга! Чаго ж гэты замок не адчыняецца? Можа, сапсаваны?» — падумаў горасна Шашура.

Ён, аднак, ад гарматы не адступіўся. Тут крануў, там паспрабаваў пацягнуць, павярнуць,— і, на дзіва яму і радасць, замок нарэшце падаўся.

Уставіць снарад і зачыніць замок было прасцей.

Не цэлячыся, падрыўнік пацягнуў за шнурок. Гармата вогненна ззіхнула, падскочыла і бухнула.

Здалося: на міг заглушыла ўсе гукі. Сіла! Шашура закрычаў ад задавальнення і захаплення. Шашура яшчэ энергічней захадзіўся каля гарматы. Энергічней і смялей. І практычней. Закрыўшы замок, выпраставўся, знайшоў па выбліску агеньчыкаў кулямёт, загадаў павярнуць гармату і толькі тады рвануў шнурок. Пасля гэтага выглянуў у бок кулямёта. Кулямёт страляў!

«Не ўцэліў! Міма. Эх, каліна-маліна...»

Тут падбег артылерыст, што да блакады камандаваў артылерыйскім узводам: узвод цяпер не меў гармат. Падрыўнік без ахвоты саступіў артылерысту месца каля гарматы.

Артылерыст быў чалавекам нетрапяткім: зарадзіўшы гармату, ён доўга цэліўся, то паглядваў уперад, то паварочваў ствол, круціў ручкі механізмаў. Толькі тады стрэліў. З першага стрэлу кулямёт сціх!

— Чуў, кум, як яна гаўкае? — задзірыста крыкнуў артылерыст Шашуру.— А ну, падвярні крыху правей... яшчэ крыху...

Да іх падбег сувязны ад Ермакова.

— Адкуль гармата? — Ён перадаў: камбрыг загадаў: больш агню! І не стойце на адным месцы, наказаў камбрыг. Манеўруйце, загадаў камбрыг! Тут стрэліце, там.

— Зробім! Аганёк будзе! Не згасне! — запэўніў Шашура.

Карнікі неўзабаве заўважылі гарматку, сталі асыпаць яе кулямі. Каля яе страшна было падняцца. Шашура гатовы быў кінуць, хай яна згарыць,— столькі з ёй клопату. Але артылерыст не здаваўся. Ён нібы не заўважаў нічога навокал, цэліўся і біў. Было відаць, што, пакуль ёсць хоць адзін снарад, гармата не сціхне.

## 3

Туравец быў там, дзе разарвалі акружэнне, сачыў за пераходам. У разрыў ішлі людзі з сямейнага лагера: маткі, дзеці, старыя. Яны былі напалоханы стра-

шэннаю страляніпаю. Усе імкнуліся як мага хутчэй праскочыць праз гэтае пекла. Дзеці крычалі, але іх крыкі глушыла страляніна. З левага боку аднекуль білі гарматы. Свідруючы паветра, з пранізлівым свістам снарады праносіліся над натоўпам і выбухвалі зусім непадалёк.

Шабуніха старалася не паддавацца страху і стрымлівала неадольнае жаданне бегчы. Чуючы ўвесь час у хустцы за спіною малога, яна вяла дзяцей, моцна сціскаючы іх рукі. Больш за ўсё баялася, каб яны, чаго добрага, не згубіліся ў гэтай бурлівай плыні. Яна ішла моўчкі, сціснуўшы губы. Побач, намагаючыся не адстаць ад Шабунiхі, цягнулася старая жанчына, што з ёй ішла заўсёды разам. Як і тады, на балоце, старая ўсё шаптала: «Божа мой... божа мой».

У гэтым жа натоўпе была і Ніна. Яна трымала на руках дзяўчынку, якая, прыціснуўшыся галоўкаю да яе грудзей, пры кожным недалёкім выбуху спалохана ўздрыгвала, як птушанё.

Раптам два снарады ўлучылі ў натоўп. У цемры са скрыгатам ускінуліся адзін за адным чырвоныя выбліскі. Людзі кінуліся хто куды, адны збочылі, каб абысці гэтае месца, другія рынуліся ад страху назад.

Сутыкаючыся з агульнаю плынню, яны запынялі рух, падымалі паніку. Многія з тых, што ішлі следам, таксама павярталі назад. Не ведаючы, што сталася, тлумачылі кожны па-свойму. Больш чулася: «Немцы перарэзалі!.. Страляюць!..» Тыя, што былі далей ад выбухаў, ззаду, або стаялі разгублена, не разумелі, што робіцца, або, больш настойлівыя, імкнуліся прабіцца наперад. Рух людзей перарваўся, ззаду шалела бязладдзе. Нельга было траціць ніводнай хвіліны, а людзі тапталіся на месцы.

Туравец ледзь пабачыў замяшанне ў натоўпе, кінуўся ў гушчу яго. Трэба было зараз жа патушыць страх у гэтых сотнях пераатрывожаных людзей.

— Сто-о-ой!

Яго нямоцны хрыплы голас патануў у гуле натоўпу, як у навальніцу. Толькі бліжэйшыя пачулі. Туравец узняў здаровую руку.

— Сто-ой!!!

Бліжэйшыя ўбачылі, пазналі яго. Спыніліся, тры-

вожна глядзелі на яго, чакалі. Далей ад Тураўца па-ранейшаму была мітусяніна.

— Куды?! Назад? Там — карнікі. Туды, туды,— махнуў ён рукой.— Там — нашы. Туды! Наша ўзяла... Хутчэй! Туды, туды!..

Невядома, ці гэтыя словы, ці сама знаёмая постаць камісара, ці яго рашучы, смелы выгляд падзейнічалі, але людзі, хоць і не ўсе, паслухаліся. Пачалі павяртаць туды, куды ён паказваў.

— Не замінайце другім. Туды!.. Хутчэй! Пакуль не позна... туды!.. Туды-ы! Хутчэй!

Спачатку нерашуча, потым усё смялей людзі рушылі ў той бок, у які ён загадваў. Да першых, каторыя былі бліжэй да Тураўца, далучаліся іншыя, бачачы, што шлях наперад прабіты.

А Туравец стаяў усярэдзіне, у гушчы людской плыні, сустракаў, падбадзёрваў, загадваў.

— Не спыняйцеся. Смялей, смялей!

Людзі спяшаліся, спатыкаліся, падалі, ускоквалі. Усе, хто мог, ішлі ўподбег, задыхаючыся, выбіваючыся з сілы, не шукаючы сцежак, не заўважаючы ні зямлі, ні неба, імкнучыся туды, куды рушылі пярэднія.

Ішлі жанчыны, дзеці, старыя. Маткі, сёстры, сыны, дзяды і ўнукі. Іх неспакойныя твары асвятлялі мярцвяна-белы бляск ракет і крывава-барвовыя ўсплёскі недалёкіх выбухаў... Сціснутыя і стрыманыя людской плынню, пракаціліі фурманкі з раненымі і забітымі, са скрынкамі боепрыпасаў. Коні ад выбухаў пужліва ўздрыгвалі... Некалькіх параненых вялі пад рукі. Адна жанчына — убачыў Туравец — ледзь валакла ногі. Галава без хусткі была зняможана адкінута назад...

Зноў — маткі, дзеці, старыя, па аднаму і групкамі.

Туравец мімаволі шукаў у цемры між іх постаць Марыі Андрэеўны. Яе не было відаць. Хоць ён і ведаў, што знайсці яе тут амаль немагчыма, трывога яго большала па меры таго як людзі ішлі і ішлі паўз яго.

Чаму яе няма? Дзе яна?

## 4

На флангах бой мацнеў. Немцы і паліцаі спрабавалі атакаваць, але не змаглі адолець партызанскія заслоны. Адзначаючы, як мацнее націск карнікаў з флан-

гаў, Ермакоў усё больш пераконваўся, што немцы рыхтуюцца да новай атакі. Звязвацца з імі надоўга было небяспечна, да іх маглі падысці падмацаванні, і камбрыг стараўся закончыць бой хутчэй.

Ледзь толькі людская плынь прайшла праз разрыў акружэння, ён стаў адводзіць атрады.

Заўважыўшы адыход партызан, карнікі неадступна пацягнуліся следам, і партызанам увесь час прыходзілася адбівацца. Каб спыніць ворага, Ермакоў загадаў замініраваць шлях за брыгадай. Падрыўнікі з атрада «За Радзіму», спяшаючыся, закапалі некалькі мін і подбегам кінуліся ўслед за сваімі. Не адбеглі яны і дзве сотні крокаў, як ззаду загрукалі выбухі. Гітлераўцы спыніліся, стала спакайней.

Ніна адчувала пад нагамі раллю, ногі мякка грузлі ў пульхную глебу, нярэдка правальваліся ў разоры. «Нарабілі меж!» — нехта поблізу нездаволена мацюкнуўся.

Галечка, якую Ніна то несла, то вяла за руку, ледзь цяглася ад знямогі, часта спатыкалася, але маўчала. Цярпліва перабірала ножкамі, старалася не адставаць.

Справа Ніна заўважыла невысокі хмызняк. Недзе недалёка тут павінна быць Каржоўка.

Але Ніна не адчувала вялікай радасці, не было і супакаення. Весяліцца пакуль рана. Яе трывожыла, што да раніцы не ўдасца далёка адысці — дзень ужо набліжаўся. Бяда з гэтымі кароткімі майскімі начамі! Яна цяпер была б рада, каб ноч цягнулася яшчэ гадзін дзесяць.

Ніна паглядзела ўгару. У цёмным небе мігцелі рэдкія зоры, што пачыналі ўжо блякнуць і гаснуць. Пажвавеў, зашастаў перадранішні вецер. Яго чыстая, крынічная свежасць халадзіла гарачы твар.

Ніна ўбачыла справа вострыя палоскі святла, што павольна паўзлі адна за другою. Там праходзіла дарога.

— Што гэта? — запыталася Галечка.

— Нічога. Проста агеньчыкі...— зманіла, супакоіла Ніна.

Карнікі кудысьці спяшаліся на машынах. Можа, падкідвалі падмацаванне.

Што ім прынясе дзень? Ледзь узнікла гэтае пытан-



Іван Мележ — намеснік палітрука артылерыйскага палка. *1941 год*



Іван Мележ у гады
Вялікай Айчыннай вайны. *1941 год*

не, як Ніна стомлена адагнала яго,— думаць аб гэтым не хацелася.

Вось толькі б адысці далей ды перадыхнуць крыху.

Доўга так ішлі. Змрок перад раніцай стаў гусцейшы. У гэтай цемры зноў найшлі на балота, наткнуліся на рачулку ці канаву. Не разуваючыся, не шукаючы мелкага броду, следам за папярэднімі, адразу ступалі ў ваду. Нямала хто тут звяртаў крыху ўбок і прагна піў.

Ніне таксама сушыла горла страшэнная прага. Напэўна, ніколі ў жыцці не хацелася так піць. Перабраўшыся на бераг, яна збочыла ад плыні людзей, паставіла Гальку на зямлю і адышла да сярэдзіны канавы. Прыпадаючы да вады, Ніна ўбачыла дзве-тры зоркі, што калыхаліся, драбіліся, расплываліся. Вада здалася вельмі чыстай і прыемна халадзіла,— Ніна піла, піла і ўсё не магла задаволіцца. Толькі калі з намаганнем адарвала губы ад вады, адчула, што на зубах штосьці хрупасціць, а ў роце пахне торфам.

Жменяй вады апаласнула твар, выцерлася сподні́м бокам кофтачкі і ступіла на бераг.

Зноў ішлі. Полем, пералескам, лугам, зноў полем. Ніна то вяла дзяўчынку за руку, то падымала і, выбіваючыся з сілы, амаль зняможаная, несла.

Неба на ўсходзе спачатку пазелянела, потым заружавела. Па меры таго як яно святлела, цемра змянялася рэдкім лёгкім змрокам, які станавіўся ўсё больш празрыстым. Навакольны свет пачаў як бы прастарнець. Усё шырэй было відаць поле, потым за ім, наводдаль, акрэсліўся тонкай і лёгкай сценкай лес. Правей ад яго, напэўна, былі луг ці балота: у тым месцы пласталася шыза-белае воблака туману.

Цяпер можна было бачыць твары. Яны за адну ноч змарнелі і пашарэлі. Людзі ішлі маўкліва, толькі дзенідзе нізалася зморабаная, ціхая размова.

Раптам Ніна пачула смех, пазнала голас Шашуры. Падрыўнік ішоў непадалёк, уразвалку і, гарэзна пасміхваючыся, нешта заўзята расказваў суседу. «Чаму ён апынуўся не ў сваім атрадзе?» Але здзівіла Ніну не так гэта, як тое, што ён нібы ўжо забыў пра ўсё, што перажыў нядаўна. Аднак іншыя яшчэ не маглі супакоіцца пасля нядаўняй трывогі. Ніна заўважыла доўгага прыгорбленага хлопца ў даматканай паддзёўцы, лепш

сказаць не самога хлопца, а яго вочы, шырокія, спалоханыя, насцярожаныя. Ён неспакойна азіраўся.

Усё ж разам з тым, як навокал яснела, у многіх людзей святлелі і ажыўляліся твары. Прыкметна множылася гаворка, пачуўся нечы звонкі бесклапотны смех. Пажылы барадаты мужчына ўзяў ад Ніны Гальку сабе на рукі. Ён з прагнай цікавасцю паглядаў навокал, радаваўся ўсяму.

Людзі ўсё мацней пачыналі адчуваць шчасце таго, што вырваліся, выратаваліся ад смерці, жывуць. Як і іншых, гэтае шчасце напаўняла Ніну: «Жыву! Зноў бачу гэты цудоўны свет навокал! Бачу сваіх людзей, чую іх галасы!»

— Гэта штаб прыслаў самалёт. Штаб, не інакш,— пачула поблізу яна.

— Штаб... Там жа ведаюць, у якім мы становішчы...

Адно хмарыла — невядома было, што чакае іх днём. Немцы маглі перарэзаць шляхі адыходу і зноў акружыць або навязаць няроўны бой. Трэба было быць гатовымі да ўсяго. Пакуль рана было супакойвацца...

На ўскрайку лесу пачалі спыняцца. Нехта сказаў: «Прывал»,— і хоць большасці людзей невядома было, хто сказаў гэта, усе падпарадкоўваліся. Скідалі клункі, здымалі зброю, што намулялі плечы, валіліся на шызую і мокрую ад расы траву. Многія адразу ж засыналі.

— Вось мы зараз і пасядзім! — сказала Ніна знясіленай Гальцы, апускаючыся поруч з ёй.

5

Туравец убачыў камбрыга і Габдуліна пад дубам, дзе размясціўся штаб. Ермакоў гаварыў з камандзірам брыгаднай разведкі. Ён прывітаўся з Тураўцом і, засунуўшы карту, якую трымаў у руцэ, у пухлую палявую сумку, сказаў разведчыку:

— Значыць, першае данясенне я ад цябе чакаю праз трыццаць хвілін. Я яшчэ буду тут. Ідзі, жвавей!

Ён павярнуўся да Тураўца.

— Ну, камісар, як наша аперацыя? Здорава рванулі. Напорысты народ у нас, а? Месца, трэба прызнацца, выбралі ўдала, у самую слабінку дзеўбанулі. Без

гэтага было б крута.— Ён нібы хваліўся сваёй прадбачлівасцю.

Перагаварыўшы з ім пра далейшае, пра тое, што можа здарыцца і якія захады трэба будзе ўжыць, Туравец стаў шукаць шпіталь. Ён не ведаў, ці выйшла разам з усімі Марыя Андрэеўна, і, калі ўбачыў між дрэў павозкі шпіталя, мімаволі паскорыў хаду. Яшчэ зводдалек углядваўся, стараўся хутчэй знайсці позіркам знаёмую постаць. Але Марыі Андрэеўны не было відаць.

Яна сядзела, прытуліўшыся да шурпатага камля дрэва, і, бяссільна звесіўшы на грудзі галаву, спала. Над каўняром старой шарсцяной жакеткі, з-пад ссунутай набок хусткі бялела кволая шыя, кучаравіўся мілы, дзіцячы пушок валасоў на шыі. Вышэй валасы, падабраныя ўгару, былі пад хусткаю. Яна сядзела ў такой паставе, што здавалася, нібы яна не спіць, а проста вельмі задумалася над нечым. Блізка ад яе ляжалі на плашч-палатцы два параненыя партызаны. Убачыўшы Тураўца, адзін з іх сказаў:

— Не будзіце. Толькі што заснула. Прысела перадыхнуць і заснула. Вельмі натамілася, значыць.

Туравец і без гэтага не стаў бы будзіць. Няхай спачне, хутка зноў у дарогу, у невядомасць. Яму даволі — ведаць, што яна жыве, што яна па-ранейшаму з імі, з ім...

«Спі, Маша, спі, шчасце маё! Хай будзе сон твой спакойны...»

Вакол зусім уднела. Між стваloў дрэваў на траву, на постаці сонных людзей весела пырснуў прамяністы сонечны дождж.

Туравец абыходзіў лагер. Усюды было многа параненых. Кінулася ў вочы, як парадзелі за ноч падраздзяленні.

Між людзей, якія спалі, Туравец убачыў Дразда. Той насустрач камісару падняў маркотныя сухія вочы. Яны спачатку нібы не пазнавалі камісара, нібы не хацелі бачыць нічога.

— Як ты? — Туравец акінуў позіркам постаці, што ляжалі каля Дразда. Апусціўся перад Драздом на траву.

— Як?.. Прарваліся,— адказаў Дрозд глуха, неахвотна.

Раптам устрапянуўся, кінуў нервова:

— Крыўца забілі...

Туравец прамаўчаў. Што ён мог сказаць на гэта? Разумеў стан Дразда.

— Я сам яго туды... першым яго... у самае пекла... Я, яго друг...

— Аднаго Крыўца? — запытаў Туравец панура.

Дрозд нібы не зразумеў.

— Траіх яшчэ...

Ён вельмі знябыўся за апошнія дні і ночы, цярплівы, цягавіты Дрозд.

— Ты ведаеш, што гэта за чалавек, Крывец? — зноў павёў Дрозд.— Не ведаеш! А я яго — як сябе! А можа, больш як сябе!.. Мы з ім з пялёнак разам! Ён мне за братоў радней!

Тураўцу ўспомнілася, якім бачыў Крыўца пазаўчора, у акопчыку. Нібы пачуў, як той сказаў на Шашуравы прароцтвы пра блізкую перамогу: «Нядоўга ўжо...» Нядоўга ўжо, але Крыўцу не давялося...

— А ці даўно — Шабуню! — успомніў Дрозд.

— Не трэба! — стомлена, нібы молячы, папрасіў Туравец.

Але Дрозд не паслухаўся.

— Колькі ж яшчэ забіваць будуць! — як бы закрычаў Дрозд.

Туравец адзначыў, што гаварыў Дрозд ціха, глуха. А здалося, што — крычаў.

— Калі гэта будзе канец усяму гэтаму!..

На ўзлессі пачуліся шум, трывожныя воклічы. Камісар неахвотна азірнуўся, узняўся.

Што там здарылася?!

Ермакоў толькі зняў рубашку, каб памыцца, як да яго падбег усхваляваны партызан.

— Таварыш камбрыг... немцы!..— крыкнуў ён трывожна.

Ермакоў выпрастаўся.

— Чаго крычыш на ўвесь лес! Не глухі,— папракнуў ён нездаволена.— Дзе яны?

Партызан махнуў рукою:

— Там!

— Многа іх?

— Ды чорт іх разбярэ, колькі іх там. Аднак, відаць, нямала... можа, батальён.

Ермакоў, хутка нацягнуўшы гімнасцёрку, загадаў:

— Камандзіра «Кутузава» — да мяне!

Заспаны, плячысты, у вельмі пацёртай скуранцы, камандзір атрада з'явіўся ўміг.

— Падымай усіх зараз жа і займі абарону.

Ермакоў кінуў на грудзі ППШ.

На ўзлессі ўжо гаварылі аўтаматы. Ціхі, санлівы лес адразу ажыў, заварушыўся, захваляваўся.

Былі чуваць воклічы каманды. Партызаны, са сну яшчэ мала цямячы, мітусіліся. Не адразу пачалі ланцугом, прыгінаючыся, выпраўляцца да ўзлесся. Ермакоў прыспешваў, мацюкаўся.

— А нам, куды нам? — запытаўся нехта з жанчын.

— У лес! Далей у лес!— махнуў на хаду Ермакоў.

Трымаючы ў руках напагатове ППШ, Ермакоў пабег туды, дзе чулася страляніна.

Пачынаўся новы бой.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## РАЗДЗЕЛ I

### 1

Увесну 1944 года на поўдні краіны ішло вялікае наступленне нашых войск.

Яшчэ ў лютым і сакавіку савецкія палкі разграмілі гітлераўцаў на Паўднёвым Бугу, вызвалілі ўкраінскую зямлю аж да Карпацкіх гор і адагналі варожыя часці за Днестр. У маі захопнікаў выкінулі з Крыма.

Варожыя войскі на поўдні былі адкінуты далёка на захад. Фронт ішоў па Прыкарпацкай Украіне і па дзяржаўнай мяжы, заходзячы часткова ў Румынію.

У пачатку лета, у чэрвені, пачалося наступленне на поўначы, у выніку якога была вызвалена большая частка Карэла-Фінскай рэспублікі, гарады Выбарг і Петразаводск.

Цэнтральныя франты пакуль маўчалі. Пярэдні край ворага ў Беларусі глыбокім выступам урэзваўся ў вызваленыя землі. Немцы назвалі гэты выступ «беларускім балконам». Яны надавалі вялікае значэнне гэтаму «балкону», бо ён прыкрываў дальнія подступы да Германіі і быў, на думку нямецкіх военачальнікаў, зручным плацдармам для наступлення ў глыб Савецкай краіны. У магчымасць гэтага нямала хто [redacted] іх усё яшчэ верыў.

Абараняць «беларускі балкон» было загадана мільённай цэнтральнай групе. Войскі групы «Цэнтр» на працягу многіх месяцаў няспынна будавалі і ўзмацнялі абарончыя рубяжы. Траншэі і хады зносін цягнуліся ў некалькі радоў усцяж усяго фронту. Для абароны гітлераўцы стараліся скарыстаць таксама шматлікія рэкі, рачулкі і балоты, якіх было вельмі багата каля пярэдняга краю.

На ўсёй сямісоткіламетровай лініі франтоў, што ішла па беларускіх палях, балотах, пералесках, было

ціха. Стаяла дзіўнае, цягучае франтавое зацішша. Узгараліся дзе-нідзе перастрэлкі, басавіта бухалі гарматы, вылі міны,— але ўсё гэта не мяняла асноўнага: цягнулася зацішша.

Зацішша гэта было поўнае напружанага жыцця: з дня ў дзень шматлікія разведчыкі вывучалі абарону праціўніка, выкрывалі патаемную сістэму яго ўмацаванняў, вышуквалі слабейшыя месцы. У армейскіх тылах, больш далёкіх і каля самай перадавой, дзе была чуваць кулямётная страляніна, ішла вялікая вучоба. Многія палкі і роты старанна вучыліся прарываць варожую абарону, узаемадзейнічаць, блакіраваць і штурмаваць умацаваныя пункты. Часці папаўняліся і ўзмацняліся.

З далёкага тылу паступова падыходзілі войскі розных родаў — артылерысты, танкісты, пехацінцы, сапёры — расцякаліся па нізкай, багатай балотамі і лясамі прасторы. Падвозілі боепрыпасы. Безліч вялізных штабеляў скрынак са снарадамі і бомбамі, пакуль маўклівымі, хавалі ў лясах, у выкапаных траншэях, старанна маскіравалі.

Фронт жыў, фронт рыхтаваўся да баёў — і ўсё ж гэта было зацішша. І ніхто, нават вельмі высокія камандзіры, не мог бы сказаць, калі гэтае зацішша скончыцца. Усе толькі гадалі, і амаль ніхто добра не ведаў. Усе ведалі адно — яно павінна скончыцца, павінна быць наступленне; адчуваннем гэтага, напружанай падрыхтоўкай да яго жыла ўся армія, і не толькі армія — уся краіна, што адлівала танкавую браню на Урале, рабіла самалёты і аўтаматы ў далёкіх тылавых гарадах. Уся краіна чакала: калі пачнецца, дзе?

Толькі нямногім, у Стаўцы Вярхоўнага галоўнакамандавання, было вядома гэта. У цішыні маскоўскіх кабінетаў, за вокнамі якіх спакойна прабягалі машыны і снавалі людзі,— у мірнай цішыні старадаўніх пакояў дзелавіта вывучалася становішча па абодва бакі пярэдняга краю, ацэньваліся прапановы, напісаныя камандуючымі франтоў,— абдумваліся асноўныя асаблівасці будучай аперацыі. Узнікалі першыя абрысы папярэдняга плана вялікага наступлення.

План гэты хутка акрэсліваўся, набіраў моц, удакладняўся. На карту з адзнакамі становішча на фронце клаліся першыя чырвоныя стрэлы будучых удараў.

значкі, што абазначалі арміі, групы. У будучай аперацыі паявілася сваё імя — «Баграціён». «План Баграціён».

2

Гэты адпачынак быў мала падобны да адпачынку. Да вечара, за дзень заняткаў, танкісты стамляліся так, нібы, як сказаў Якавенка, выкасілі па гектару сенажаці.

Хоць дні і тут былі багатыя падзеямі, хоць кожны з іх нешта мяняў у вучэбным жыцці, многім танкістам яны здаваліся аднастайнымі і роўнымі, як тракі гусеніц. Тут не было невядомасці, поўнай розных нечаканасцей, якую яны звыклі заўсёды адчуваць перад сабой на фронце. Прачынаючыся, ведалі, што будзе ўдзень, засынаючы, ведалі, што ўбачаць заўтра.

У вольны час, у выхадны дзень, хадзілі купацца на рэчку, што была за лесам, ці на лясное азярцо, дзе на паверхні раскашавалі далоні лісцяў лотаці і на мелкаводдзі ззяў аер.

Ляжалі, грэлі на сонцы спіны і ногі са шрамамі.

Нярэдка, апрануўшы новыя гімнасцёркі, начысціўшы да бляску боты, ажыўленыя, вясёлыя, хадзілі ў вёскі — і бліжэйшую, і далей,— танцавалі, спявалі, у вішанным зацішку абдымалі дзяўчат і засумаваўшых удоў, лавілі скараспелае шчасце.

За гэтыя дні навічкі абжыліся, пасябравалі з ветэранамі. Усе паважалі Алёшу Касцючэнку,— любілі за тое, што меў залатыя рукі, добра іграў на гармоніку. Хутка ўвайшоў у салдацкую сям'ю і Савелій Рыбакоў. Ён, праўда, ніякімі здольнасцямі не вылучаўся, калі не лічыць таго, што ўмеў пазнаёміцца. Неяк адразу Рыбакоў мог знайсці агульную тэму для размовы, перайсці на «ты» з незнаёмым чалавекам, выставіць сябе сябрам.

Цэлымі днямі займаліся ў полі.

...Вывеўшы танкі ў поле, Лагуновіч стаў тлумачыць экіпажам задачу роты. Сёння, сказаў ён, трэба захапіць апорны пункт «праціўніка», які ўмацаваўся на ўскраіне гаю, справа ад вёскі Забор'е.

Якавенка, Колышаў і яшчэ некалькі афіцэраў схіліліся над картаю, Лагуновіч тупым бокам рабрыстага чырвонага алоўка паказваў маршрут. Калі аловак дай-

шоў да выцягнутай палоскі блакітных рысак з кусточкамі — балота, ён спасцярожліва зірнуў на абодвух: ну, як вам гэта падабаецца? Пільны, трохі насмешлівы позірк яго казаў: хоць гэтая перашкода і невялікая, але трэба пераходзіць умеючы, бо, чаго добрага, можна засесці.

Неўзабаве «трыццацьчацвёркі» рушылі. Наперад паслалі разведку, Якавенкаў узвод, у якім быў і танк Колышава.

Ад рубяжа да рубяжа ўзвод падышоў да лагчынкі, што вяла да «апорнага пункта». Лагчына пасярэдзіне была забалочаная, на дне яе весела пабліскваў ручай, з бакоў зацягнуты травою.

Якавенка адну за адной павёў машыны па адхоннаму берагу, стараючыся не падымацца на ўзгорак, каб падабрацца да мэты скрытна. Праз паўкіламетра, ужо непадалёк ад гаю, лагчына збочыла ад іх, а наперарэз пацягнулася нешырокая куп'істая паласа. Якавенка выскачыў з машыны, прайшоў уперавалку наперад, мацаючы ботамі падатлівы затравелы грунт.

«Бісово балото! — падумаў ён.— Начэ кісель, калышацца». Як танкіст і жыхар стэпаў ён арганічна ненавідзеў гэтую нетрывалую дарогу. Яму не раз ужо даводзілася грузнуць у такім «кісялі». Ён ахвотна пашукаў бы дзе-небудзь поблізу больш надзейную дарогу, але што ты зробіш, калі загад. Вярнуўшыся да машыны, лейтэнант скамандаваў перабірацца цераз балота.

Першы танк, уціскаючы куп'ё і траву, павольна набліжаўся да супрацьлеглага берага. Ён ішоў плаўна і проста.

Адкінуўшы шлем назад, выціраючы пот, Якавенка з адкрытага люка насцярожана сачыў за ім: гэты танк павінен быў высветліць галоўнае, што трывожыла. Пройдзе гэты — пройдуць астатнія. Задача будзе выканана.

Вось нарэшце машына ўжо на тым баку. Пасля гэтага, упэўніўшыся, што прайсці можна, лейтэнант паглядзеў на балота больш прыхільна.

Калі падаўся другі танк Колышава, у шлемафоне Якавенкі пачулася:

— Раўней, Рыбакоў... Не газуй!.. Не газуй, кажу! А, чорт,— прамовіў з сэрцам Колышаў.— Спакойна, спакойна набаўляй...

Калі б Якавенка і не бачыў, што машына спынілася, ён па тым, што пачуў, здагадаўся б аб прыгодзе. «Завязлі, як вол у глеі». Вадзіцель, нядбайны Рыбакоў, напэўна, неасцярожна «газануў»,— гусеніцы шматанулі верхні травяністы пласт, і машына ўехала ў балотную гразь.

Так яно і было сапраўды. Пасля гэтага Рыбакоў спрабаваў выбрацца, але машына не краталася і толькі яшчэ глыбей асядала.

«Стоп! — пачуўся ў шлемафоне ўсхваляваны голас Колышава.— Усё. Прыехалі».

— Прыехалі... да кумы па галушкі, бісавы душы! — адгукнуўся ціха, без злосці Якавенка.

Прыйшла яго чарга. Ён загадаў рушыць паралельна сцежцы папярэдняга танка. Хутка ён ужо быў побач з Колышавым, які мітусіўся каля сваёй машыны, зазіраў пад яе, было відаць, ламаў галаву над тым, што зрабіць, каб выйсці з бяды.

Якавенка са сваёй «трыццацьчацвёркай» перабраўся ўдала.

Машыну, што засела, узялі на буксір. Пакуль падабраліся да яе, прывязалі трос, пакуль вывалаклі машыну, прайшло нямала часу. Лагуновіч жа ўсё не даваў перадыху, усё прыспешваў, каб хутчэй прабіваліся наперад, перадавалі вынікі «разведкі».

— От, душа нэспокойна! Та скоро вжэ! — супакойваў Якавенка Лагуновіча і падганяў сваіх танкістаў.

Трохі наперадзе ад гэтага месца пачынаўся той узгорак, за якім быў «апорны пункт». Сюды, пад узгорак, услед за разведкаю стала падцягвацца ўся рота. Машыны ішлі цераз балота кожны раз напрасткі, выбіралі абавязкова няезджаную паверхню. Узняўшыся берагам да месца збору, спыняліся. Пераправа цераз балота іншых узводаў таксама не абышлася без прыкрасці — заселі яшчэ дзве машыны.

Пакуль іх выцягвалі, Лагуновіч падганяў танкістаў так, нібы пачыналася зараз сапраўдная атака.

— Сарвуць атаку! Загубім машыны! — неспакойна сказаў ён лейтэнанту Гогабярыдзе, азіраючыся на балота.

Ледзь падцягнуліся апошнія машыны, Аляксей загадаў ісці ў атаку. Танкі, што да гэтага журчэлі на ма-

лых абаротах, разам зараўлі і сталі ўзбірацца з укрыцця ўгару.

Пераваліўшы ўзгорак, ірвануліся ўперад, на поўнай хуткасці, разгорнутым строем панесліся да маўклівага зялёнага гаю, на «апорны пункт»...

На ўскрайку гаю, які толькі што «адваявалі», Лагуновіч рабіў разбор тактычных заняткаў. Танкісты паўкругам сядзелі на траве хто «па-турэцку», хто абняўшы калені, хто абапіраючыся рукой аб зямлю. Рыбакоў ляжаў на локці.

Аляксей то стаяў перад імі, то павольна прахаджваўся туды-сюды, гаварыў са скупымі жэстамі. Перабіраў уедліва ўсё, што здарылася. Успомніў і прыкрую затрымку на балоце.

— Па балотах, браткі, трэба ўмець хадзіць! Я знарок, па праўдзе кажу, гэту сцежачку выбраў. У Беларусі такія дарогі на кожным кроку. Пакуль не навучымся хадзіць па такіх дарожках — і сунуцца на фронт няма чаго... А хадзіць па іх, як бачыце,— навука тонкая!.. Перш за ўсё не трэба кідацца праз балоцістае месца з разгону. Некаторыя думаюць, што можна пераскочыць праз яго. Раз — і на тым беразе! Яны, звычайна, і пападаюцца!.. Машына з ходу ўрыецца ў гразь, як свіння, узніме цэлы вал твані наперадзе, і сядзі, загарай!.. Балота — штучка капрызлівая! Тут трэба перабірацца лагодна, як бы сказаць, на цыпках. Спуск — плаўны, ісці на малой хуткасці... На малой, Рыбакоў! — Аляксей пашукаў вачыма вадзіцеля, але сустрэўся позіркам з Колышавым.— Сёння Рыбакоў пасадзіў такім смелым рыўком машыну. У разведцы...

Па чыстым твары Колышава распаўзлася хлапчукоўская чырвань. Адчуваючы, што чырванее, лейтэнант збянтэжыўся зусім. Ён адвёў позірк убок, нібы штосьці разглядваў.

— Яшчэ — пра фрыкцыёны! На балоце трэба асцярожней з бартавымі фрыкцыёнамі,— уставіў з месца Сонцаў. Сказаўшы гэта, ён, відаць, схамянуўся, што загаварыў без дазволу і седзячы, і вінавата падняўся.

— Правільна, Сонцаў! Адзін малы разварот — і танк засядзе.

Старшы лейтэнант выняў з нагруднай кішэні кам-

бінезона ручны гадзіннік, зірнуў. Час вяртацца ў лагер.

— Можна пакурыць.

Танкісты адразу заварушыліся, загаманілі, задымілі цыгаркамі. Быстроў кінуў нейкае дасціпнае слова, вакол зарагаталі. У дружным рогаце вылучаўся галасок Гогабярыдзе. Нельга было не засмяяцца, чуючы гэты адданы, заваблівы рогат.

Аляксей насыпаў з пачка тытуню, згарнуў цыгарку і падышоў да Якавенкі прыкурыць.

— Казаў жа я табе: спакойна, не газуй...— дайшоў да яго жорсткі чысты голас.— Добра, што тут — на занятках так, а калі б... у баі? Калі б у баі, што тады?

«Колышаў»,— пазнаў Аляксей і мімаволі ўсміхнуўся сам сабе той усмешкай, з якой дарослыя сочаць за дзецьмі. Яго ўзрушыла гэтая маладая шчырасць у голасе, наіўная прастата: «А калі б у баі?..» — і ён падумаў, які яшчэ малады-зялёны лейтэнант.

Было ў гэтым голасе штосьці такое, што кранула сэрца Аляксея, што міжвольна нарадзіла ў ім думку: з Колышава будзе салдат. Добры камандзір будзе.

## 3

Нягадана ў звыклы круг думак Аляксея ўварваліся такія, якія, здавалася, не мелі ніякага дачынення да яго камандзірскіх абавязкаў.

У выхадны дзень, вярнуўшыся ўранку са сталовай, Аляксей выправіўся ў вёску. Ідучы па сцежцы праз лес, напрасткі, ён хвілін праз дваццаць падыходзіў ужо да хат, калі насустрач трапіўся камандзір брыгады.

Сустрэча гэта была непрыемнай Аляксею: ён ведаў, што Бяссонаў не пахваліць яго за такія адведзіны. Не першы дзень ужо Аляксей адчуваў, што Бяссонаў нагогул непрыязна насцярожаны да яго. Камбрыг неаднойчы паказваў, што ён помніць, добра помніць тое, як Аляксей падвёў яго ў першыя дні адпачынку. Скупы на хвалу, Бяссонаў на ўсё жыццё запамінаў кожны выпадак, калі яго «падводзілі».

— Куды? Чаго? — запыніў Аляксея Бяссонаў.

— У сяло. У госці, таварыш гвардыі палкоўнік,— чотка, але насцярожана адказаў Лагуновіч.

— Да ўдавы якой-небудзь? — І голас, і нядобрыя вочы палкоўніка асуджалі загадзя.

— Можна сказаць — да ўдавы... таварыш гвардыі палкоўнік.

— Што за ўдава?

— Удава як удава.— Аляксею не хацелася адказваць на допыт, ён абураўся тонам гэтага допыту. Але трэба было адказваць. Палкоўнік чакаў.— Брыгадзір тут адзін. Пазнаёміліся выпадкова...

— Брыгадзір. Выпадкова,— не паверыў Бяссонаў.

— Прасіла зайсці, таварыш гвардыі палкоўнік. Дазвольце? — Старшы лейтэнант, якому яўна не хацелася прадаўжаць размову, прыклаў руку да казырка.

У твары палкоўніка мільганула штосьці жорсткае, але ён стрымаў сябе.

— Глядзі ў мяне! — Бяссонаў раптам махнуў рукой.— Ідзі. Дзень вольны...

Аляксей вярнуўся перад вечарам. У зямлянцы ён застаў Якавенку, які латаў свой камбінезон. Палтаўчанін, здаецца, ніколі не сядзеў без працы.

— Вось пабыў я ў гасцях,— пачаў адразу Аляксей,— наглядзеўся ўсяго...

— Ты б паеў спачатку,— параіў Якавенка,— потым раскажаш. Слова не верабей, не ўцячэ, даганяць не прыйдзецца.

— Ды я паабедаў, пачаставалі! Самагон быў, закуска была... Толькі мне нічога ў рот не ішло...

Ён узяў з вечка кацялка аладку.

— Вось я і пазнаёміўся з тутэйшымі калгасніцамі... Цягавіты народ — жанчыны. Аруць, гаспадараць не горш за мужчын... Адна там, Ганка Філімонава, такая нявідная жанчына, на ворыве проста рэкорды ставіць. Людзі, адным словам, там што трэба!.. Коней няма, на каровах усё ворыва выцягнулі. Не ўсё, праўда, управіліся засеяць, але хлеб павінен быць. «Галодныя не будзем і вас не пакінем без хлеба, салдацікі»,— кажуць. Толькі, ведаеш, вельмі крута ім даводзіцца, так цяжка, што глядзець нельга спакойна.

— Ну, то хіба оцэ толькі ў іх,— сказаў разважліва Якавенка тонам, якім гавораць з малодшым братам ці з сынам.

Аляксей не звярнуў увагі на гэты тон, ён прывык,

што Якавенка і да яго, і да іншых сяброў адносіцца, нібы старэйшы, прывык да гэтай, па-бацькоўску лагоднай, павучальнай манеры гаварыць.

— Чакай, ты паслухай! — нецярпліва перабіў Лагуновіч.— Не толькі ў іх... А хіба ад гэтага лягчэй мне, што не толькі ў іх? Тут акрамя ўсіх бядот, якія ты ведаеш, яшчэ і іх асабістая — старшыня. Каўрыжка яго прозвішча. На выгляд — так, бясслоўнае стварэнне, цялё рахманае. «Э-э, што мы зробім, бачыце-е, рэ-э-зруха,— перакрывіў Лагуновіч.— Вэ-эйна. Ось адужаем немца, тэ-эды...» Замест таго каб падымаць людзей, падбадзёрваць, сам сее паніку. «Ну што мы атрымаем з гэтай зямлі! Пуп парвеш, а толку мала...» А між тым, заўваж, хату сабе стаўляе, лесу навазіў.

Хваляванне, гарачнасць Лагуновіча пачалі пераходзіць да Якавенкі.

— Оцэ Каўрыжка! — пакруціў ён галавою.— Нэ дужэ смачная!

— Тры салдацкія сям'і жывуць у зямлянках. Ты думаеш, ён паклапаціўся хоць аб адной? Там адна — Арына-ўдава... Муж злажыў галаву ў партызанах. На руках у яе засталося чацвёра дзяцей, усё драбната. Хадзіла, прасіла дапамогі ў Каўрыжкі. Думаеш, даў? Не, «вэ-эйна», бачыш! Дзеці шчаўем прабаўляюцца... Што ж вы, кажу майму знаёмаму брыгадзіру, Надзі Мазальковай, маўчыце, пагналі б яго к чорту! Такія жанкі геройскія і раптам з адным старым карчом не справіцеся. Мятлою яго пагналі б, каб і паху яго не было. Мнецца: «Ды вось мы па-бабску пагаворым, палаем яго ў вочы і за вочы, ды так і разыдземся. Ды і хіба ён адзін, гэты корч. Тут у яго цэлая хеўра пападбралася — кладаўшчык, агароднік, кум, сват і чорт яго брат».— «Ну, а з райкома былі?» — «Былі, ды даўно. У суседняе сяло, дзе ваша начальства стаіць — штаб наш,— ездзяць часта. Там лепш справы. А нас абмінаюць...» От! Чуў?

Лагуновіч узрушана пабарабаніў пальцамі па калялку, пазіраючы на Якавенку сваімі добрымі вачыма.

— Я, прызнацца, думаў, што знаёмства ў цябе будзе весялейшае.

— Што рабіць? — запытаўся Аляксей.

Якавенка, які любіў, калі да яго звярталіся за парадамі, і які ўмеў разумець чужы настрой, адчуў, што

старшы лейтэнант захапіўся гэтай справаю. Не супакоіцца на тым; што пабыў у сяле і пагутарыў. Ён параіў:

— Трэба побалакаць про цэ ■ падпалкоўнікам Сяміжонам.

— Я таксама так думаю,— адказаў Аляксей і стаў адразу збірацца да намесніка камандзіра брыгады па палітчасці. Ён не любіў адкладваць спраў.

Падпалкоўніка Сяміжона ні дома, ні ў кабінеце не было. Аляксей знайшоў яго ў мотабатальёне, дзе падпалкоўнік быў разам з камандзірам брыгады. Палкоўнік Бяссонаў займаўся справай, якую ён называў «чысткай» і якую ён рабіў нярэдка і ахвотна: пераварнуў усё, што было ў кузавах грузавікоў, у транспарцёрах, у калясках матацыклаў. Ператрос ранцы, бязлітасна, з лютым выглядам выкідваў усё, што не было неабходна. Гэтая непрыязнасць да лішняга была ў яго проста хваравітай. У адносінах да сябе ён таксама няўхільна трымаўся гэтага правіла, у штабной сваёй машыне ён вазіў толькі адзін абшарпаны, яшчэ ■ даваенных часоў, чамадан з абмундзіраваннем і дзвюма парамі бялізны. Ён і да сябе быў аскетычна строгі. Падпалкоўнік Сяміжон слухаў Аляксея задуменна і ўважліва.

Калі Аляксей скончыў, падпалкоўнік сказаў:

— Да-а... Гэта мы ўпусцілі... А яно ж — калі разабрацца — таксама датычыць...— Маўчаў трохі, штосьці меркаваў: — Я падскочу ў раён, параюся. Пра Каўрыжку і ўсё іншае... Але, відаць, трэба будзе і самім памагчы. Людзьмі. Можна ж таго-сяго адарваць на работу да іх. Хоць на дзень, на два. З тваёй, з другіх рот...

— Падрамантаваць жняяркі, калёсы...

— Да, да, трэба памагчы. Шэфства ўзяць, ці як там назавем...

Падышоў палкоўнік Бяссонаў, нездаволена хмурачыся:

— Развялі барахла, не мотабатальён, а абоз.— Параўнанне з абозам, якое чулі ў брыгадзе не раз, было ў яго вуснах найгоршай абразай.

Ён пацікавіўся ў Сяміжона, аб чым ідзе гаворка. Паслухаўшы крыху, Бяссонаў пераканана адрэзаў:

— Дарэмна я яго не вярнуў!

Аляксей зірнуў на камандзіра брыгады, не ўтрымаў, нелагодна нагадаў:

— Я, таварыш гвардыі палкоўнік, у вольны час...

— «У вольны час!»

Палкоўніка яўна запаліў адказ Лагуновіча. Можа, акрамя ўсяго, і тон адказу.

— Многа ў цябе, Лагуновіч, вольнага часу аказалася! Відаць, таму і ў роце — бардак!

Хоць рота Аляксея, ён ведаў, была не горш за іншыя, старшы лейтэнант стрымаўся: Бяссонаў ніколі не любіў, калі яму пярэчылі. Цяпер спрачацца з ім было наогул неразумна.

— Распыляешся! — нібы вымову, аб'явіў Бяссонаў.

Аляксей ведаў, што Бяссонаў больш за ўсё не любіць людзей, якія «распыляюцца», што для яго, акрамя камандзірскай справы, акрамя брыгады, нічога не існуе. Гаварылі, што па гэтай прычыне нават сям'і Бяссонаў пісаў рэдка...

— Лезеш, дзе не трэба!

— Магу падтрымаць яго, камбрыг. Трэба,— уступіўся за Аляксея Сяміжон.

— Без яго абыдуцца. Там сваіх даволі журботнікаў! Якім паложана займацца гэтым. Бач ты, толькі ён такі клапатлівы! Прыйшоў, убачыў — аб'яўляй трывогу!

— Нельга чакаць, камбрыг.

— Не гарачыся, Сяміжон. Там ёсць свае галовы, разбяруцца самі.

Ён глянуў на Аляксея, сказаў з упартай нездаволенасцю:

— Толькі таму, што падпалкоўнік ужо ўзяўся за гэта, я не пярэчу.

Прымірапы тым, што Бяссонаў усё ж саступіў, што справа, неабходная справа, зрушыць, Аляксей паабяцаў мякка і нібы вінавата:

— Можаце быць спакойны, таварыш гвардыі палкоўнік, рота не падвядзе...

Бяссонаў не паддаўся на абяцанне:

— Гэта мне яшчэ невядома, не падвядзе ці — падвядзе.

На другі дзень пасля размовы з Аляксеем падпалкоўнік Сяміжон паехаў у раённы цэнтр, які быў за кіламетраў пятнаццаць. Вярнуўся ён пад паўдня, крыху

стомлены, але задаволены. Падпалкоўнік выклікаў Аляксея і расказаў, што быў у райкоме, пра ўсё пагаварыў з сакратаром і што днямі збярэцца сход калгаснікаў.

— Добра было б, каб Мазалькову Надзю выбралі,— даверна сказаў Аляксей.— Усе жанкі за яе гарою. Толькі сама яна, дзівачка, пабойваецца нібы. «А што, як не спраўлюся?»

У зямлянцы Якавенка пісаў ліст. Пісаў ён, як школьнік, узлёгшы на стол грудзьмі і схіліўшы набок галаву. Ліст у яго чамусьці не ладзіўся. Ён некалькі разоў пачынаў, але, напісаўшы два-тры радкі, ірваў. Аляксей, заўважыўшы гэта, здзівіўся: звычайна Якавенка не задумваўся над тым, што і як пісаць.

— Жонцы ліста напісаў,— сказаў Якавенка пазней.— Доўгі, цэлы раман! Ніколі за ўсё жыццё нэ пісаў такого доўгого пасланця! І так цёпла, так шчыра, што аж самого за душу ўзяло. Ей-богу, нэ брашу, мало сам нэ заплакаў. А ўсё цераз оціх жынок, што ты росказував. Дастаецца ім... Мы тут, на фронце, думаемо, шчо мы — усё, мы — герої, мы, мы. А ім цяжчэ, можэ, чым нам... Канечне, яе там, жынку, ні забіць, ні пакалечыць не можа, та хіба ў цым дзіло.

Твар яго з яркімі карымі вачыма, чорнымі густымі бровамі, глянцаватымі, крыху хвалістымі валасамі, задуменны і добры — быў цяпер асабліва прыгожы. Аляксей ведаў, што ў Якавенку былі закаханы ледзь не ўсе жанчыны ў брыгадзе.

Яго жонка, картку якой бачыў Аляксей, была з твару зусім непрываблівай і, як гаварыў Якавенка, гады на чатыры старэй за яго. Пажаніліся яны, калі вучыліся на курсах механізатараў пры МТС,— Якавенку тады было гадоў дзевятнаццаць. Якавенка вельмі любіў яе і клапаціўся аб ёй.

Лейтэнант, памаўчаўшы, заключыў:

— Мало мы шчэ жынок сваіх шануем!.. Трэба любіць іх кращчэ та нежней! Яны таго достойны.

Гадзінай пазней Аляксей ішоў па лясной сцежцы з рэчкі. Ад нядаўняга купання цела яшчэ хавала свежы, маладых халадок. Ён ішоў павольна — як чалавек, якому не трэба спяшацца, думаючы пра што трапіцца,

паглядваючы на лісце, на галлё, на пярэстую ад прамення сонца і ценяў траву.

Ён любіў лес, як можа любіць яго толькі чалавек, які, можна сказаць, вырас у лесе і адчувае сябе ў ім, як дома.

Лес жыў сваім жыццём, багатым і разнастайным.

На палянах прыгравала сонца. Чыста пахла маладою травіцай. Духмянае паветра паляны было ўсё напоўнена сонечным цяплом. Высахла зранне раса, і тут усталявалася млосная нерухомасць. Звінелі мошкі, стрыкалі конікі.

Зусім побач буяў густы зараснік дубняку, асінніку. Угары вецце розных дрэў заходзіла адно за адно, сплялалася, скрыжоўвалася чорна-зялёным дахам. Сонца сюды прабівалася скупа, блішчала то на лістку, то на чорнай вільготнай зямлі кроплямі. Тут увесь час было змрочна, як у каморцы.

Пахі ў гэтых зарасніках былі іншыя, вастрэйшыя, без млоснасці. Гнілы пах даўняга перапрэлага лісця перамешваўся са спіртавым духам дуба і гаркаватым — асіны. Усё гэта ўтварала свой, асаблівы, моцны настой.

Гэты магутны, спрадвечны дух ляснога зарасніку быў на дзіва трывалы, адзін і ўдзень і ўвечары, не тое што на палянах ці на ўзлессі.

На адной палянцы Аляксей напаткаў выпадкова Мазалькову Надзю. Узмахваючы сякераю, яна падсякала камель сухой бярозкі. Аляксей падышоў непрыкметна і сказаў:

— А ну, дайце мне!

Яна ад неспадзеўкі ўздрыгнула. Выпрасталася, апусціўшы сякеру.

— Ой, гэта вы! Калі вы падышлі? Я і не заўважыла! — Яна выцерла пот з твару, хапаючыся, паправіла кофтачку, хустку.

Ён узяў сякеру, паспрабаваў, ці вострая, размахнуўся, і яна глыбока ўвайшла ў дрэва. Размахнуўся другі раз, трэці. Эх, як добра! Каб можна было, цэлы дзень узмахваў бы сякераю.

Нібы да маці на пабыўку прыехаў. І не Надзя, а маці стаіць поруч, ласкавымі вачыма глядзіць за кожным яго рухам... Дрэўца трэснула і пачало валіцца. Аляксей перасек яго напалам, ацерабіў сучча.

— Ну, хопіць ужо! — прамовіла Надзя.— Мне дроў і трэба трохі...

Надзя, відаць, спяшалася.

— Трэба дамоў. Па дровы я ўжо з поля прыеду.

— З каровай замест каня?

— А то з кім жа...

Яна паправіла зноў сінюю хустку. Аляксей мімаволі залюбаваўся яе стройнай моцнай постаццю, загарэлым смуглявым тварам з простымі мяккімі рысамі. Нечым яна нагадвала Ніну, толькі Ніна была драбней крыху і больш кволай.

— Сёння прыязджалі з райкома. Сход збіраюцца праводзіць.

Яны пайшлі ў кірунку сяла, ад якога даходзілі дзіцячыя галасы. На ўскрайку лесу Надзя спынілася.

— Можа, у вас будзе час, то заходзьце зноў. Дарогу цяпер вы ведаеце.

— Ведаю...

— Тут праз лес рукой падаць... Там, цераз канаву, ёсць кладка...

— З дзвюх жэрдак?

— Ага... Прыйдзеце?

— Можа, прыйду. Часу мала вольнага...

— Ну, калі будзе... Бывае ж ён?

— Бывае...

— Вось і прыходзьце, калі будзе...

У голасе яе, адчуў Аляксей, прагучала дзіўная нотка.

— Добра. Пабачу...

— Лепш — пад вечар... Пасля работы... Можаце?

— Можна.

— Ці ў нядзелю... У нядзелю я дома і ўдзень...

— Добра...

— Ну, да спаткання!..

— Бывайце...

Ён падаўся назад. Прайшоўшы некалькі крокаў усцяж лесу, азірнуўся і сустрэўся позіркам з ёю: Надзя таксама глядзела на яго...

«Яна такі праўда нагадвае Ніну»,— зноў прыйшло ў галаву.

Тут акурат насустрач Аляксею трапіўся лейтэнант Гогабярыдзе.

— Дык вось куды ты ходзіш... марыць,— сказаў ён, хітравата ўсміхнуўшыся.— Папаўся! Запрашала ў госці?

— Гаварыла.

У вачах Аляксея паявіўся вінаваты збянтэжаны выраз.

— Пойдзеш?

— Не ведаю. Мусіць, не.

— Мусіць? Ох, гэтыя мне ціхоні! Ну, ну, не хітруй. Усё роўна не паверу.

— Не пайду, здаецца. Праўду кажу.

— Таму, хто схлусіў хоць адзін раз, не верацы!..

— Ну, прывязаўся. Пракурор! — адмахнуўся Аляксей.

А можа, і праўда пайсці? Проста пагаварыць, і толькі, у гэтым жа нічога кепскага...

## 4

На занятках ім здарылася падысці да шасэ Масква — Мінск.

Мінская магістраль праходзіла недалёка ад таго лесу, дзе размяшчаўся ў гэтыя дні батальён.

Калі была пададзена каманда «перакурыць», танкісты шумліва, нястройным гуртам пакіравалі да шасэ. Першымі на дарогу выбраліся Гогабярыдзе, Якавенка, Рыбакоў і некалькі другіх танкістаў. Потым падышлі іншыя, групамі і па адным разбрыліся па шасэ.

Мінская магістраль! Вось яна, дарога з Масквы ў Мінск.

Асфальтаваная роўная істужка, млеючы на спякотным сонцы, бегла ў бок фронту. На ўзбочыне сумна тырчалі два абламаныя і абсечаныя дрэвы. Кюветы і поле поблізу іх былі пакапаны старымі варонкамі, відаць, дрэвы былі пакалечаны бомбамі. Непадалёк ляжаў перавернуты, заржавелы шкілет грузавіка.

Май шчодра прыбраў дарогу з абодвух бакоў багатаю зелянінаю, рознымі кветкамі. Кюветы зараслі густою травою. Трава пры самым асфальце была дробная, запыленая, з яе ўсюды выглядвалі трыпутнік і рамонак.

Гогабярыдзе прайшоўся фарсіста па дарозе, нібы шпацыраваў у горадзе, сказаў Якавенку:

— На Каўказе такія дарогі. Гладкія, як шкло. Толькі там яны заўсёды круцяцца — у адзін бок, другі бок, угару, уніз. Такія дарогі — два метры проста не ідуць. А тут роўная, глядзі, якая роўная! Каціся. Да самага Мінска!

— Нэ шыбко разгонішся,— іранічна адгукнуўся палтаўчанін.— Дарога-то гладка, та з — фокусамі. Не то шчо не пракоцішся, а і не прапаўзеш.

— І з танкам не праб'ешся.

Рыбакоў, пачуўшы гэтыя словы, ахвотна падтрымаў:

— Дзе там! Фрыцы такое пабудавалі на гэтай дарожцы. Мне гаварыў сапёр, на сто кіламетраў замініравалі!

— Ну, вжэ так і на сто? Можа, накапалі кіламетраў на пяць акопаў, бліндажоў та рвоў. Посіялі мін, дзе можна.

— Не верыце, таварыш гвардыі лейтэнант,— не верце. Я вам кажу, што сам пачуў.

Непадалёк сабралася другая група. Каля яе стаяў старшы лейтэнант Лагуновіч, пазіраючы ўсцяж шасэ. Асфальтаваная істужка бяжыць удалеч. Спачатку ўздымаецца, выпінаючыся, на ўзгорак, потым прападае недзе і выходзіць зноў на від далёка ў смузе спякотнага дня.

— Да Мінска 304 кіламетры,— сказаў адзін з танкістаў.

— Адкуль ты ведаеш?

— Вунь кіламетравы слуп,— танкіст кіўнуў на пачарнелы ад дажджу, напалову вывернуты слупок, што тырчаў узбоч.

— Ну, цяпер гэтая адлегласць трохі даўжэйшая!

Між танкістаў стаяў, дыміў папяросаю Быстроў. Ён цыркнуў праз зубы і, кіўнуўшы галавою на дарогу, заявіў з намёкам:

— Проста на Берлін вядзе.

— Яна толькі да Мінска даходзіць.

— Усё роўна. Адтуль ужо Берлін відаць — Брандэнбургскія вароты. Унтэр дэн Ліндэн і асабістая канцылярыя Гітлера,— усміхаючыся вачыма, нечакана ўдакладніў Быстроў.— Не верыце? Спытайце ў старшага лейтэнанта.

Лагуновіч адказаў у тон яму:

— Адтуль, ад Мінска, толькі адна вялікая станцыя да Берліна: Варшава.

— Адна станцыя — Варшава!.. Бач, хапілі. Быстры вы, таварыш гвардыі старшы лейтэнант! А колькі там паўстанкаў, якія трэба праехаць, ніяк нельга абмінуць?

— Ну, паўстанкаў мы не лічым!

— Мінск...— Сонцаў узрадавана аб'явіў: — Як Заходнюю Беларусь вызвалялі, быў я там. Прыстойны гарадок. Вясёлы.

— Вясёлы...— паўтарыў дзіўным голасам Аляксей, ні то іранічна, ні то сумна.— Быў — вясёлы... З першага дня, як пачалася вайна, дасталося яму. Сыпалі, сыпалі на яго бомбы... У газеце было — спалілі дашчэнту ўсю Савецкую і Ленінскую. Самыя прыгожыя вуліцы. Быў у газеце яшчэ здымак, зняты з самалёта. Нельга было пазнаць, якія гэта кварталы. Голыя сцены ды руіны ўсё змянілі страшэнна... Між сцен усюды пустыя праваліны, ніводнага даху не відаць. Дасталося яму...

Аляксей памаўчаў хвіліну і загаварыў раптам весела, з гонарам:

— А быў горад прыгожы! І вясёлы быў, гэта праўда, Сонцаў. Эх вы, хлопцы, пабылі б увечар на Ленінскай нашай ці на Тэатральным скверы! Увечар, калі заззялі агні, калі тысячы прыбраных мінчан выходзілі пагуляць! Да чаго ж добра было ў гэтай гаварлівай людской плыні! А-а, што вам казаць, усё роўна гэтага не ўявіце, калі не бачылі. Вы нават уявіць не можаце, якія красуні ў нас — дзяўчаты! Дарэчы і да ведама некаторых халасцякоў: такіх прыгожых дзяўчат, як у Мінску, напэўна, нідзе няма. Я ж пабыў на свеце, пабачыў... Калі будзеш жаніцца, Сонцаў, да нас прыязджай, да мінскіх дзяўчат.

— Толькі ў Мінск прыеду! — хаваючы ніякавасць, адказаў Сонцаў.

— Не будзеш каяцца!..

— Не забудзьце, таварыш гвардыі старшы лейтэнант, што вам прыйдзецца сватаць яму дзяўчыну,— уламіўся ў гаворку Быстроў.— Ён, калі ўбачыць прыгожую дзяўчыну, адразу становіцца чамусьці нямым. Нібы язык замярзае... ад гарачага пачуцця.

— Ну-ну, ты паасцярожней! — пагразіў Сонцаў.

— Ён з кожным годам усё харашэў. У мяне ж усё на вачах адбывалася, я там, можна сказаць, ведаю гісторыю кожнага дома. Вучыўся там, працаваў. Любіў там. Усё, што было ў жыцці лепшае, спазнаў я там, у Мінску...

— У вас там жонка і дзіця засталіся, кажуць? — пацікавіўся раптам Рыбакоў.

— Засталіся...

Старшы лейтэнант змоўк. Вочы патухлі. Ён насцярожыўся. Аляксей не любіў гаварыць пра сваё гора. У радасці душа яго раскрывалася для ўсіх, ён не хаваў тады нічога. А ў горы хмурнеў, рабіўся скрытным, маўклівым.

Да вайны, калі працаваў інжынерам, Аляксей з Нінай і таварышамі не раз ездзіў па гэтай магістралі за горад на аўтамабілі. «Эмка» была не яго, а дырэктарава, але дырэктар часта запрашаў іх з Нінаю. Аляксею падабалася імчацца на вялікай хуткасці па гладкай, як шкло, дарозе, слухаючы сіпенне шын. Ніна падстаўляла твар ветру, які біў насустрач густою моцнаю хваляю, прыплюшчвала павекі ад задавальнення. На пухлай, як у дзяцей, ніжняй губцы яе трапятала бесклапотная ўсмешка. Вецер, налятаючы на яе, тузаў, раскідаў, калмаціў жытнія выгаралыя на сонцы валасы.

Пакінуўшы горад далёка ззаду, машына паволі сцішала ход, зварочвала з шасэ і, гайдаючыся з боку на бок, падкідваючы пасажыраў, ішла між дрэваў. У іх было ў лесе сваё аблюбаванае месца.

Ніна вельмі любіла гэтыя пагулянкі. У час іх яна багата рагатала, гарэзнічала, як дзяўчынка. З ёй было хораша і Аляксею; ён забываў усе турботы, паддаваўся яе весялосці. «Як дзіця!» — думаў ён неаднойчы. Неаднойчы ён коса, ніякава пазлядваў на дырэктара і яго жонку: што яны, Пятро Іванавіч і Анна Мацвееўна, думаюць пра сваіх маладых спадарожнікаў! Нібы гэта так важна было! Зрэшты, падобна было, ім падабалася весялосць Ніны. Падабаліся Пятру Іванавічу і Анне Мацвееўне, здаецца, абое яны, Лагуновічы, відаць, як маладосць, што ўжо адышла ад дырэктара і яго жонкі...

Добра было ў лесе, поўным птушыных галасоў. Здаецца, паважныя таварышы па тых падарожжах не крыўдавалі, што Лагуновічы іншы раз знікалі адны... Хаваліся ў гушчарніку, шукалі адно аднаго, перагука-

ліся... Раптам, гарэзна бліснуўшы вачыма і крыкнуўшы: «Лаві!», Ніна кінулася між дрэваў. Але паспрабуй злаві яе, спрытную і лёгкую, калі яна то ляціць на ўсю сілу, то неспадзявана схітруе. Вось-вось Аляксей здагоніць яе, працягвае ўжо рукі, каб схапіць, а яна спрытна шмыг пад рукамі, і — лаві вецер. Стаіць ужо недзе ззаду, і рагоча, і дражніцца. Яму перашкаджаюць дрэвы, ён усё стрымлівае бег, каб абысці іх, не сутыкнуцца, а ёй — хоць бы што!

На дарозе, хутка мацнеючы, узнік шум. Аляксей абарваў плынь успамінаў, азірнуўся. Імчалі да фронту некалькі грузавікоў. Набліжаючыся, першы з іх патрабавальна прасігналіў, і танкісты хутка сышлі з дарогі. Аляксей з цікавасцю сачыў за машынамі, што набліжаліся. Неўзабаве яны параўняліся, пранесліся паўз танкістаў. На першым у кузаве былі відаць скрынкі, мяшкі, на іх сядзелі салдаты. У іншых груз быў складзены ўпоравень з кузавам і накрыты брызентам.

Аляксей сачыў вачыма за машынамі, пакуль яны не зніклі за ўздымам дарогі.

«Ім да Мінска восем гадзін ходу»,— узнікла недарэчы думка.

У гэты вечар, калі б не вайна, ён мог бы ўбачыць агні Мінска. Яны вынырнулі б з цемры, як толькі машына ўзышла б на апошні перад горадам узгорак. Зачараваны морам мігатлівых агнёў, шафёр павялічыў бы хуткасць, і Аляксей неўзабаве быў бы дома...

Ён добра помніць тыя апошнія кіламетры, дзе магістраль праходзіць паўз густа-зялёную сасновую сцяну парку імя Чалюскінцаў. Там, на тых апошніх кіламетрах, часта былі мотагонкі. Пры горадзе асфальт раптам канчаецца, далей пачынаецца брук. Гэта ўжо ўскраіна. Злева — дзве-тры маленькія хацінкі, Батанічны сад Акадэміі, справа — няскончаныя вялізныя чырвоныя будыніны, далей — Дом друку...

Не, не даедуць тыя грузавікі туды ні за восем гадзін, ні за восем дзён!

Дзесяткі праз тры кіламетраў за ўзгоркам шафёр зверне з шасэ, спыніцца дзе-небудзь каля склада боепрыпасаў ці на агнявой пазіцыі...

Мінская магістраль! Перарэзаў цябе фронт, перакапаў снарадамі, начыніў мінамі, перагарадзіў у многа радоў калючым дротам...

Невыпадкова так балюча вораг раніць цябе, так чапляецца за цябе. Ён ведае, што ты — самы важны шлях, які звязвае Мінск з Масквою, Беларусь з Савецкай Расіяй. Па табе пойдуць на беларускую зямлю савецкія войскі, каб прынесці волю, вярнуць наш народ у родную, вялікую сям'ю.

Была ты мірнай дарогай, якая звязвала дзве сталіцы. Стала ты дарогай нашай бітвы, арыенцірам, што паказвае нам баявы напрамак. На Мінск, на захад!

Аляксей падумаў: яму заўсёды здавалася чамусьці, што дарога мае свой адзін кірунак, як рэчка. Раней, у Мінску, ён ведаў, што шасэ накіравана ў бок Масквы. Яно і называлася там заўсёды — Маскоўскае шасэ. Цяпер дарога нібы змяніла свой кірунак, яна ідзе ў Мінск. І не толькі ў яго такое адчуванне. Усе ж лічаць, што ісці туды, значыць, ісці наперад. Відаць, дарогі бягуць заўсёды туды, куды імкнецца чалавек.

Калі скончыцца вайна, дарогі павернуцца ва ўсе бакі — на ўсход, на поўдзень, на поўнач... Цяпер жа ва ўсіх толькі адзін напрамак!

— Мы тут катаемся, а там фрыц чорт яго ведае што вытварае,— даходзіць да яго голас Сонцава.

— Д-да... Хутчэй бы — марш!

— І так адсталі. На поўдні нашы ўжо ў Румыніі, а мы тут усё топчамся.

Старшы лейтэнант, павярнуўшыся на галасы, дакорліва зірнуў на Сонцава, на іншых.

— Не топчамся і не катаемся, а рыхтуемся. Зразумела? Рыхтуемся! Вы гэта добра ведаеце. Думайце, што гаворыце! — І спакойна звярнуўся да ўсіх: — Нічога, таварышы, нічога! Вытрымкі больш! Трэба чакаць. Прыйдзе пара — скажуць. Як ціснанём іх, паганых,— да самай граніцы без перапынку каціцца будуць!..

— Душа гарыць, таварыш гвардыі старшы лейтэнант!

— Душа павінна слухацца галавы. На тое і галава ў чалавека.

Лагуновіч хрыплым голасам крыкнуў: «Канчай перакур!» — і, перабраўшыся па траве цераз кювет, хутка пайшоў да машыны.

— Та ты ж сам, Олексій, як той Сонцаў! — сказаў Якавенка, ідучы поруч.— У цябе ж самога душа там, у Мінску. Ніну сваю бачыш усё, ніяк не дачакаешся.

— Бачу Ніну. Часта бачу,— прызнаўся шчыра Аляксей.— Маму ўспамінаю. Як ёй, старой... Адной... І не адну яе — усю Беларусь, здаецца, бачу. Глядзіць яна на мяне тысячамі вачэй і кліча: «Ідзіце, не чакайце!» Ведаю, браток, ой, як ведаю, што значыць кожная хвіліна там для людзей... І баліць сэрца, не можа яно быць абыякавым, слухацца халодных разваг,— сказаў ён ціха і скончыў хмурна: — Але што ж зробіш: чакаць трэба!..

Неўзабаве, калі сабраліся ўсе ля машын, ён гаварыў Якавенку, знарок строгі, клопатны:

— Таварыш гвардыі лейтэнант, камандзір роты забіты. Камандаваць ротаю загадваю вам...

Якавенка звыкла, паважна казырнуў:

— Ёсць камандаваць ротаю...

Лагуновіч зірнуў на Колышава.

— Назначаю вас камандзірам узвода.

— Ёсць! — адказаў, устрапянуўшыся, Колышаў.

Аляксей гэтым заняткам аддаваў вялікую ўвагу. Ён ужо некалькі дзён вучыў танкістаў сумежным спецыяльнасцям, дамагаўся таго, каб кожны мог замяніць, калі будзе трэба, свайго таварыша ці камандзіра. Трэба, каб рота жыла заўсёды, каб ніякія страты не выводзілі яе са строю.

Якавенка скамандаваў сваім экіпажам: «Па машынах!» Падняўся на вежу, апусціўся ў люк, зірнуў, ці ўсе гатовы.

5

Набліжаліся да пярэдняга краю. У адным месцы машына, што ішла першая, прыпынілася, і камандуючы фронту бачыў, як сержанты з кантрольнага пункта, свецячы кішанёвымі ліхтарыкамі, правяралі дакументы ў афіцэра сувязі. Праз хвіліну машына кранулася — у цемры паплыла малінавая кропка задняга ліхтара.

Камандуючы быў поруч з шафёрам і, амаль заплюшчыўшы вочы, аб нечым думаў. Ззаду яго, бяссонна пазіраючы ў цемру, з напружаным, пільным выразам, у нацятай паставе сядзеў яго паручэнец Камароў.

На пярэднім краі час ад часу білі гарматы,— адтуль

каціліся ўсё больш моцныя і грымотныя выбухі. Над небакраем, акрэсліваючы няблізкія чорныя лясі і ўзгоркі, успыхвалі, трапечучы, белыя ракеты.

На скрыжаванні дарог машыны павярнулі на поўнач і пайшлі амаль усцяж фронту. Цяпер выбухі было чуваць злева.

— Таварыш камандуючы,— загаварыў раптам паручэнец, нахіляючыся да Чарняхоўскага,— дазвольце сказаць... вам трэба б адпачыць крыху.

— Чаму — адпачыць? — адгукнууся не адразу, рассеяна Чарняхоўскі.

— Ды як жа, таварыш камандуючы,— строга афіцыйна, але з прыкметнай ноткай той вольнасці, што бывае ў людзей, якіх любіць начальства, адказаў паручэнец,— цэлы месяц вы ўсё ездзіце па фронту, то ў адну дывізію, то ў другую, у дождж і ўночы не ведаеце спакою...

— Пасада такая, Лёша!

— Пры вашай пасадзе можна было б і не ездзіць! У вас цяпер столькі памочнікаў. Любому загадайце — зробяць усё як належыць.

Генерал-палкоўнік памаўчаў. Адчуваючы, што ад яго чакаюць адказу, ён неахвотна прамовіў:

— Даўно мы, Лёша, разам, а ты такія рэчы гаворыш!..

Камандуючы, якому ўжо надакучыла ехаць, спяшаўся хутчэй дабрацца да дывізіі.

Па яго разліку яны набліжаліся да таго месца, дзе іх павінен спаткаць камандзір дывізіі. Чарняхоўскі званіў камдыву са штаба арміі, адкуль ён ехаў і адкуль дамовіўся пра месца сустрэчы. Чарняхоўскі цяпер мімаволі згадаў, як камандарм, які пры размове па тэлефоне стаяў каля яго, папрасіў быў дазволіць ехаць з ім; Чарняхоўскі не даў згоды, ведаючы, што ў камандарма ёсць тэрміновыя справы.

«Гэта і лепш — без світы...»

На ўскраіне вёскі, крайнія хаты якой выхапіла з цемры святло фар, пярэдняя машына зноў спынілася, і да машыны Чарняхоўскага падышлі два чалавекі.

— Хто? — запытаўся строга, выскачыўшы з машыны, Камароў.

— Генерал-маёр Шчарбацюк. Камандуючы тут?

— Так. Я — камандуючы,— адказаў Чарняхоўскі

і, прывітаўшыся, адразу загадаў: — Сядайце, таварыш генерал...

— Ёсць... Дазвольце, таварыш камандуючы, запытацца — у вашу машыну?

— Так, у маю.

Генерал-маёр, сказаўшы чалавеку, што прыйшоў з ім, каб ехаў наперадзе, нязграбна забраўся ў машыну, Камароў сеў каля яго.

Чым больш набліжаліся да дывізіі, тым мацней адчуваўся пярэдні край. Былі чуваць не толькі тугія, моцныя гарматныя выбухі, але і частая, рэзкая стралянiна з кулямётаў. Чарняхоўскі зацікаўлена прыслухоўваўся: ён любіў баявое ажыўленне.

— Бой ідзе? — павярнуў ён галаву ў бок Шчарбацюка.

— Скончылі, таварыш генерал,— толькі што... Відаць, немцы яшчэ не могуць супакоіцца...

— Значыцца, замацаваліся?

— Так точна, замацаваліся...

Пра бой Чарняхоўскі даведаўся ў штабе арміі, гэта была невялікая, але, казалі яму, упартая схватка. Батальён дывізіі Шчарбацюка адваёўваў лапік зямлі, ад якога пачынаўся далей вялікі балотны абшар. Немцы вельмі чапляліся за лапік, як за зручны плацдарм,— гэта была ўжо не першая спроба выбіць іх.

— Выявілі новыя агнявыя кропкі?

Шчарбацюк адказаў, што на правым флангу артылерысты «засеклі» тры новыя артбатарэі. Гаварыў ён павольна і спакойна, роўным глухаватым голасам, з такім «о», якое можна чуць ці ад украінцаў ці ад волжан.

— Не заўважылі — узмацняе тут працiўнік абарону?

— Не, па нашых разведданых, таварыш камандуючы, было спакойна — да сённяшняга дня.

— Наладзьце, таварыш генерал, пошук і выцягніце адтуль «языка». Я хачу ведаць, што адбываецца на балотах перад вамі...

— Ёсць, таварыш камандуючы. Зраблю.

Астатні час маўчалі, пакуль не ўехалі ў вёску.

— Штаб дывізіі, таварыш камандуючы,— прамовіў Шчарбацюк, калі машына рэзка прыцішыла ход.

Чарняхоўскі выйшаў з машыны, выпраставаў стомле-

ную яздой спіну, пачуў, як стукае недзе поблізу рухавік рацыі. Неспадзеўкі для камдыва папрасіў:

— Пазваніце, генерал, у батальён, хай збяруць афіцэраў... у штаб я заеду потым... Дарэчы, не гаварыце, што буду я...

Калі Шчарбацюк пайшоў, Чарняхоўскі агледзеўся. З першага позірку вёска здавалася маўклівай і ціхай, але ён, акінуўшы вачыма хаты, хлявы, печышчы, што сумна чарнелі абапал, звыкла заўважыў адзнакі неўтаймаванага жыцця. На двары побач са штабам некалькі салдат штосьці выгружалі з грузавіка. З другога боку вуліцы, каля плота, стаялі дзве запрэжкі з гарматамі, якія ці толькі прыпыніліся, ці збіраліся вось-вось рушыць у дарогу.

Шчарбацюк хутка вярнуўся. Калі ён падышоў, непаспешліва, грузна, Чарняхоўскі запытаўся, колькі будзе адсюль да батальёна і ці можна пад'ехаць...

— Так точна, пад'ехаць можна, таварыш камандуючы, кіламетры два з палавінай...

— Едзем. Камароў, сядай!

Камароў спрытна нырнуў у машыну. Хоць паручэнец нічым не паказваў гэтага, ён у душы намер камандуючага ехаць на пярэдні край асудзіў. Праўда, такі паварот справы не застаў знянацку Камарова, які хадзіў з Чарняхоўскім і тады, калі той быў мала каму вядомым палкоўнікам, і пазней, калі стаў генералам. Камароў не мог згадзіцца з тым, што Чарняхоўскі і цяпер, будучы камандуючым, як бы не разумеючы змены ў становішчы, трымаецца ранейшай звычкі.

«Вельмі яму трэба хадзіць пад самымі кулямі!»

Нешта падобнае адчуваў і Шчарбацюк, які лічыў, што камандуючаму ехаць туды неабавязкова, але камдыў не столькі адобрыў ці асудзіў гэта, колькі адзначыў сам сабе; Шчарбацюк пакуль прыглядаўся да Чарняхоўскага, вывучаў.

«Ён, здаецца, у глыбокія пласты любіць забірацца»,— падумаў Шчарбацюк пра камандуючага.

Праехаўшы поле і лясок, выйшлі з машын і далей падаліся пешкі. Наперадзе ўзнік, імкліва мацнеючы, знаёмы ўедлівы свіст. Моцна, аглушаючы, грымнуў вельмі блізкі выбух, усплёснуў над плецівам кустоў агонь. Камароў, які да гэтага ішоў следам за Шчарбацюком, абмінуў яго і камандуючага, далучыўся да пярэдніх аўтаматчыкаў і разведчыка.

Чарняхоўскі ішоў хутка, і каратканогаму Шчарбацюку прыходзілася паскараць хаду, каб не затрымліваць яго.

Сцежка бегла праз рэдкі хмызняк, сярод якога дзенідзе пры рухлівым святле ракет цьмяна бялелі маладыя бярозкі. Хоць пад нагамі быў цвёрды грунт, пахла сырасцю, што плыла, напэўна, з недалёкага балота.

Аўтаматчык і Камароў раптам прыпыніліся, спаткаўшыся з групкай салдат, што ішлі насустрач.

— Закурыць ёсць, землячкі? — запытаўся адзін з салдат.

— А вы хто? — пачуўся голас Камарова.

— Хто? Свае, ясна... Пасведчанне паказаць? Вось яно — загорнутае ў марлю: немец выпісаў сягоння.

— З палка Сібірака?

— Так точна!.. Дык як — дымнуць ёсць?

— Ёсць,— адказаў Чарняхоўскі, падыходзячы бліжэй да салдат.— Як там?

— Ды так. Хранова,— раптам проста адрэзаў баец.— З астраўка садзіць з гармат, як брые. Міны ўсюды паўтыкаў.

— Крэпка засеў?

— Крэпка...

— Але ўсё-такі паддаецца?

— Паддаецца. Выкалупалі ж сёння! Ды гэта што ж, так — тузаніна дробная.

— Ну, а калі пачнецца, скажам, вялікая?..

— Цікаўны ты: а што, а калі?.. Што ж будзе — тое ж самае!.. Толькі,— голас прыціх задуменна,— многа, мабыць, крыві нашай пральецца...

Салдат узяў здаровай рукой працягнутую папяросу, крыху здзівіўся.

— Папяроса? Ну што ж, папяроса дык папяроса, папяросы мы таксама ўмеем курыць. Да таго ж — круціць сам адной не налаўчыўся яшчэ... А агонь у нас — свой.

Ён весела пстрыкнуў запальнічкай:

— Прыкурвай, землячок!

Рука працягнула запальнічку, але на момант так і засталася нерухомай, як анямела. На плячах незнаёмага, што нахіліўся прыкурваць, водбліск недалёкай ракеты асвятліў генеральскія пагоны з трыма зоркамі!

Салдат раптам спехам адхапіў запальнічку, дзьмух-

нуў на яе і, выпрастаўшыся, казырнуўшы здаровай рукой, ніякава, голасна выпаліў:

— Выбачайце, таварыш... арміі генерал.

— За што ж прабачыць? За шчырасць?

Чарняхоўскі толькі па-сяброўску параіў лепш вывучыць у шпіталі знакі афіцэраў і генералаў, каб не блытаць.

Неўзабаве па неглыбокім ходзе зносін Чарняхоўскі і Шчарбацюк падышлі ўжо да каманднага пункта батальёна.

— Прыгніцеся,— сказаў вайсковы, што выйшаў насустрач,— можна ўдарыцца галавой.

Перад Чарняхоўскім адхілілі палатку, і ён апынуўся ў бліндажы, каторы асвятляў агеньчык з задымленай гільзы ад снарада. Тут было ўжо з дзесятак афіцэраў, якія адразу, як толькі ён увайшоў, усталі, а крутаплечы, рослы капітан, з забінтаванай галавой, нібы ў чалме, папрасіўшы дазволу ў генерал-палкоўніка звярнуцца да камандзіра дывізіі, далажыў, што афіцэры па яго загаду сабраліся. Столь бліндажа для капітана была нізкаватая, ён стаяў, прыгінаючыся, схіліўшы галаву.

— Дакладвае камандзір батальёна капітан Паўлоўскі,— адрэкамендаваўся ён.

Услед за гэтым Шчарбацюк павярнуўся к камандуючаму. У Шчарбацюка быў ружаваты, малады твар з крутым ілбом і грубымі рысамі. Ён быў невысокі, грузны для сваіх год; уся яго постаць паказвала здароўе, спакой і штосьці вельмі добрае, не зусім ваеннае, бацькоўскае, што выяўлялася ў яго паводзінах, яго манеры трымаць сябе. «Ён больш падобны на дабрадушнага настаўніка пачатковай школы, чым на шахцёра»,— падумаў Чарняхоўскі, які чуў, што камдыў з «шахцёрскага племя».

Прыняўшы яго даклад, Чарняхоўскі, адчуваючы на сабе цікаўныя спасцярожлівыя позіркі, прывітаўся і стаў знаёміцца з афіцэрамі.

Адзін з іх, які назваўся малодшым лейтэнантам Праворным, жылісты і смуглатвары, сказаў, што раней служыў у арміі Чарняхоўскага.

Генерал-палкоўнік, вочы якога мякка бліснулі пад казырком фуражкі, запытаўся, у якой часці быў Праворны і кім служыў.

— У Белгарадскай гвардзейскай, таварыш генерал-палкоўнік... Старшыной быў.

— У Белгарадскай? Выходзіць, старыя знаёмыя... Доўга вы былі там?

— Да Дняпра, таварыш генерал.

— Былі на плацдарме?..

— З першай групай.

— Там нашы байцы і афіцэры сражаліся па-геройску. Крэпка сражаліся... А як сюды трапілі?

— На правым беразе мяне зачапіла. Потым, вядома, у шпіталі давялося адлежвацца... А адтуль — простай дарогай сюды...

— Што ж, выходзіць, зноў будзем разам...— сказаў Чарняхоўскі, мелькам заўважыўшы, як зацікавіла ўсіх гэтая размова, сустрэча.

Пазнаёміўшыся з усімі, камандуючы дазволіў сесці, сеў сам каля накрытага газетай століка.

— Крэпка ўчапіліся немцы?

— Крэпка. Але мы задачу выканалі, таварыш камандуючы...— адказаў камбат так, як, на яго думку, і трэба было.

Шчарбацюку адказ яго, было прыкметна, спадабаўся.

— Страты вялікія?

Паўлоўскі сказаў, што ў батальёне забіта і ранена каля трэці людзей. Страты былі, лічыў Чарняхоўскі, для такога бою вельмі вялікія.

— Усіх раненых эвакуіравалі?

— Так точна, таварыш генерал. Нядаўна адправілі апошнюю групу лёгкараненых.

— Вы ўпэўнены, што ўсіх падабралі?

— Я паслаў, таварыш генерал, яшчэ адну групу салдат абшукаць поле і кусты...

Чарняхоўскі стаў распытваць пра ход бою, выклікаючы то аднаго афіцэра, то другога. Камандзіры, хоць і былі ўзрушаны схваткай і хоць Чарняхоўскі трымаў сябе проста, як роўны, усё ж, заўважыў ён, стараліся не даваць волі шчырасці. Адказвалі коратка, асцярожна, стараліся абысці ўсё, што магло б кінуць нейкі цень на батальён ці не спадабацца камдыву. Чарняхоўскі разумеў прычыну гэтай асцярожнасці: звычайнае імкненне выглядаць перад начальствам найлепш. Акрамя разумення, што начальства гэтае — камандую-



Іван Мележ на фронце. *1941 год*



Канстанцін Сіманаў в групай дэлегатаў
другога з'езда пісьменнікаў Савецкай Беларусі.
(Крайні справа — Іван Мележ.) *1949 год*

чы фронту, генерал-палкоўнік, замінала, было відаць, і тое, што з камандуючым непасрэдны начальнік — камандзір дывізіі. Але Чарняхоўскаму патрэбен быў шчыры, праўдзівы расказ. Дзеля гэтага ён і прыехаў сам сюды.

— Я заўважаю, таварышы афіцэры,— узняўшы галаву і абвёўшы няласкавымі вачыма камандзіраў, прамовіў Чарняхоўскі,— што ў вас не хапае мужнасці. Мужнасці адкрыта гаварыць праўду...

Ён сказаў так рэзка і прама, што ў бліндажы наступіла напружаная цішыня.

— Дазвольце мне, таварыш камандуючы...

Шчарбацюк заўважыў, што пры гэтых словах усе, хто былі ў бліндажы, павярнуліся да яго, чакаючы; ён спаткаўся з нездаволеным позіркам камандуючага. Яшчэ хвіліну назад камдыў гатоў быў раўніва, як гаспадар, перажываць з поваду якой-небудзь пляміны, заўважанай камандуючым у дывізіі, а цяпер загарэўся гаварыць сам. Папрок у недастатку мужнасці ў яго афіцэраў быў яму горш за любую заўвагу.

— Памылкі былі,— рашуча пачаў генерал-маёр.— Мы дапусцілі і рад пралікаў... Пачну спачатку — артылерыйская падрыхтоўка бою аказалася недастатковай, можна сказаць — слабай. Цэлі былі выяўлены не ўсе, а выяўленыя не заўсёды добра пристраляны...

Ён гаварыў, як і ў машыне, павольна, нібы раздумваючы, але з такой перакананасцю, якая прымушала верыць яму, сачыць з увагай за яго думкай. Словы ў яго не ліліся, а ішлі важка, і гэта як бы надавала больш значнасці ім.

— Атака пачалася запознена і мала арганізавана,— прадаўжаў Шчарбацюк, мімаволі зірнуўшы на камбата. Паўлоўскі пад гэтым позіркам неспакойна паварухнуўся, глуха кашлянуў.

— Цікава ўсё-ткі, што ж думаюць афіцэры?— выслухаўшы камандзіра дывізіі, дапытліва прайшоў позіркам па тварах афіцэраў Чарняхоўскі.

— Што і казаць — вучыцца нам яшчэ трэба. Многаму вучыцца,— парывіста адгукнуўся Праворны, што сядзеў насупраць камандуючага.— Пралікаў, недаглядаў у нас нямала.

Ён, спяшаючыся, хвалюючыся, пачаў расказваць пра непаладкі ў сапёраў: «Таварыш генерал-маёр правільна гаварыў, што атака запазнілася. А па чыёй віне?.. Сапёры затрымалі!..»

Цяпер пайшла шчырая, строгая размова.

Чарняхоўскі, бачачы, як усё змянілася, калі выступіў камдыў, падумаў пра Шчарбацюка: «А ўсё-ткі ты з тых, што смецця не любяць выносіць. Гаспадар... Не зазірні да цябе, ты пра многае не скажаш сам...»

Ён папрасіў Паўлоўскага далажыць пра абарончыя ўмацаванні праціўніка.

— У праціўніка тут, таварыш генерал,— устаў плячысты, з доўгім станам камбат,— асноўныя рубяжы абароны праходзяць па балоце. Галоўны іх замок — моцны апорны пункт на астраўку...

Чарняхоўскі загадаў разгарнуць карту, і, калі Паўлоўскі разаслаў яе на стале, камандуючы пачаў разглядваць участак, які займаў батальён.

— Значыцца, забалочаны раён умацаван слабей?

— Слабей, таварыш генерал.

— Вядома, балота,— адгукнуўся нехта з кутка.— І акопы і гнёзды зацягвае тванню...

— Галоўная шкода, таварыш камандуючы, ад апорных пунктаў.

Чарняхоўскі памаўчаў, пастукаў пальцамі па стале.

— Вялікі балотны масіў, як гэты, што перад вамі,— сам па сабе сур'ёзная натуральная перашкода. Праціўнік гэта ведае і спадзяецца на гэта. Яны ўпэўнены, што тут ні танкаў не правядзеш, ні артылерыю...

— Дазвольце, таварыш генерал!.. Артылерыю лёгкую, таварыш генерал, па-мойму, можна. Падаслаць у некаторых мясцінах алешнік — і можна.

— Там ёсць, таварыш камандуючы, некалькі насыпаў вузкакалеек. На захад ідуць, да краю балот...

Чарняхоўскага гэта зацікавіла.

— Яны добра ўцалелі?

— Добра, таварыш генерал. У парадку яны. Насыпы як насыпы. Калі да іх дабрацца, могуць пайсці і танкі...

— Вы ўпэўнены ў гэтым?

— Упэўнены, таварыш генерал! Пройдуць! — адказала адразу некалькі галасоў.

Чарняхоўскі ўжо чуў пра гэтыя насыпы ў штабе арміі, але слухаў і цяпер пра іх з вялікай цікавасцю: тут былі самыя верныя весткі, весткі вачавідкаў.

Ён не мог не сказаць, што, вывучаючы лінію фронту, ужо другі тыдзень прыглядаецца да гэтага вялізна-

га балота, якое разлеглася ўсцяж пярэдняга краю і ў глыб абароны ворага не на адзін дзесятак кіламетраў, прыглядаецца — думае, упарта і неадступна:

«Ці можна тут?»

Яшчэ ні адна армія не прарывала абарону на такім шырокім балотным абшары. Немцы ўпэўнены, што вялікую аперацыю сучасная армія на гэтых балотах не зможа разгарнуць.

Так, наступаць тут будзе нечалавеча цяжка. Але перашыек к поўдню, дзе між балот ідзе магістраль, увесь начынен мінамі, фугасамі, шчэрыцца гарматамі і дотамі. Дзе можна лепш разлічваць на поспех?

Ён не выказаў сваіх патаемных, самых важных думак. Не сказаў таго, чаго ад яго, ён разумеў, найбольш чакалі. Больш таго, сказаў зусім нежаданае ім.

— Ну, а як там немец? Не збіраецца націснуць зноў?

Афіцэры адказалі, што немцы, падобна, сядзяць ціха. Дадзеныя разведкі, назіранні не паказваюць, што яны збіраюцца наступаць. Па ўсіх прыкметах няма ў немцаў былой сілы...

— У нашай справе ў прыкметы верыць — небяспечна,— падчапіў Чарняхоўскі.— Асабліва што да праціўніка, які перад намі. Ён чым цішэй сядзіць, тым вастрэй сачы за ім. А не то — аднойчы так урэжа, што зелена ў вачах стане! За гэтым суседам вокам трэба весці днём і ўночы!

Камандуючы параіў укопвацца мацней у зямлю, гатовым быць да ўсяго.

Бачыў, што апошнія словы расчароўвалі, але не шкадаваў. Трымаўся даўняй нязменнай звычкі: самае важнае таіць — да таго моманту, калі настане час сказаць праўду. І не толькі таіць, а рабіць так, каб і здагадкам не было спажывы...

Пакуль да жаданага моманту было яшчэ далёка...

Неўзабаве Чарняхоўскі развітаўся і падаўся да выхада. Следам за ім выйшлі Шчарбацюк, Камароў, усе афіцэры.

Чарняхоўскі глянуў у бок захаду і прыпыніўся. Моўчкі пазіраў на забалочаны хмызняк, слаба асветлены далёкім зарывам.

Пазіраў, нібы хацеў разгадаць загадку, што там тоіцца, нібы чакаў адказу на пытанне, якое так турбавала ўсе гэтыя дні. Ці можна тут?

Ён вяртаўся з настроем добрай заклапочанасці, з такім настроем, які звычайна з'яўляўся, калі ён сам, надзейна, высвятляў тое, што вельмі непакоіла. Ён адчуў, што часць, у якую ён прыехаў,— здаровая, што ёй можна, калі будзе трэба, падвучыўшы, даверыць адказную задачу. За якога паўмесяца ён такім чынам пазнаёміўся ўжо з большасцю палкоў і дывізій, з многімі генераламі, афіцэрамі, салдатамі.

Калі камандуючы і Шчарбацюк вярталіся к штабу дывізіі, было па-ранейшаму цёмна. У баку пярэдняга краю ўспыхвалі ракеты, і тут хадзілі блеклыя, неспакойныя водбліскі.

Чарняхоўскі раптам запытаўся:

— Многа траншэй выкапалі?

Камандзір дывізіі адказаў.

— Мала,— нездаволена кінуў камандуючы.— Вы, відаць, лічыце гэта непатрэбным? Думаеце, даўно час — наступаць, а нам загадваюць капаць бясконца!..

Генерал-палкоўнік адгадаў думкі камдыва. Траншэй было выкапана і без таго многа, а са штаба арміі ўсё патрабавалі капаць. Людзі то ваявалі, то вымушаны былі станавіцца землякопамі.

— Я разумею гэта, але людзей шкада, таварыш генерал.

Камандуючы параіў няласкава:

— Шкадуйце тады, калі трэба...

Абследаваўшы за суткі дзве дывізіі на пярэднім краі, Чарняхоўскі рашыў заехаць перад світаннем у штаб арміі.

У супакойлівай, дрымотнай цемры яго машына наблізалася да скрыжавання дарог, ад якога было блізка да штаба.

Неспадзеўкі мірны гул матора ўсюдыхода заглушыла, прыгняло злавеснае выццё блізкага чужога самалёта. Не паспеў Чарняхоўскі што-небудзь зразумець, як цемра поблізу разарвалася, крывава бліснула тугім скрыготным агнём.

Машына спынілася так рэзка, што, здавалася, наскочыла на нябачную сцяну. Камандуючага кінула к ветравому шклу. Выбух! Адзін, другі, трэці, пяты...

Калі выскачылі з машын, самалёт гуў ужо далёка. Чарняхоўскі азірнуўся — адна варонка была блізка наперадзе, зусім побач, якіх-небудзь дзесяткі два метраў!

— Таварыш камандуючы, не зачапіла? — выдыхнуў устрывожаны Камароў.

— Не... Даведайся, што з генералам Макаравым і другімі!

Але тут Макараў, член Ваеннага Савета, а следам за ім і камандуючы арміі, якія з учарашняга дня суправаджалі Чарняхоўскага, падбеглі самі.

Ні яны, ні іншыя з іх машын не былі ранены.

— Восем бомб сыпнуў, гад! — пакрыху спакайнеючы, сказаў Камароў.— Ну, таварыш генерал-палкоўнік, пашанцавала нам...

Камандуючы запытаўся ў шафёра, ці не пабіт матор. Матор працаваў.

— Ну, тады...— Чарняхоўскі быў намерыўся сесці ў машыну, але спыніўся.— Чорт пабяры, штосьці вока рэжа... Пясок, ці што... Камароў, пасвяці.

Макараў убачыў — бялок аднаго, амаль заплюшчанага вока, павека якога дрыжала, пачырванеў ад крыві. На левым брыве крывавілася невялікая драпіна.

— Э, ды вас, Іван Данілавіч, усё ж зачапіла!

— Гэта, напэўна, ад ветравога шкла. Пабіла яго... Я зараз еду дастану, таварыш камандуючы.— Паручэнец кінуўся ў машыну.

Член Ваеннага Савета, наблізіўшы свой дабрадушны, спачувальны — нечым падобны цяпер на жаночы — твар, заліў драпіну ёдам і прапанаваў заехаць у санбат.

— Тут блізка...— адгукнуўся камандарм, што моўчкі стаяў поруч.

— Пройдзе!.. Без санбата!..

— Іван Данілавіч, гэта ж вока! — запярэчыў член Ваеннага Савета.

Камароў зірнуў на Чарняхоўскага і дакорам — які ён няўважлівы да сябе!

— Таварыш камандуючы, мы не затрымаемся, паўгадзіны — не больш,— прамовіў камандарм, і Чарняхоўскі, хоць і неахвотна, згадзіўся ехаць.

Санбат, аказалася, быў у суседняй вёсцы.

Урач, якога выклікалі і кватэры, заспаны, на дзіва мітуслівы, агледзеўшы вочы, сказаў, што першую дапамогу ён можа аказаць, але пазней патрэбен кансіліум спецыялістаў.

— Могуць быць непрыемнасці, таварыш генерал-палкоўнік.

— Ну вось, вам толькі пападзіся ў рукі.— Камандуючы нецярпліва павярнуўся ў крэсле, абвёў позіркам урачоў і сясцёр, што сабраліся навокал.— Спадзяюся, таварыш маёр, гэта хутка — першая дапамога?..

— Так хутка... Зараз зробім, таварыш генерал-палкоўнік,— заспяшаўся ўрач.

Камароў, што з суровым выглядам стаяў крыху ўбаку, ззаду члена Ваеннага Савета, мімаволі ўздыхнуў: хоць бы ўсё абышлося.

На світанні Чарняхоўскі быў ужо ў штабе арміі. Калі машыны спыніліся перад домам камандарма, развіднелася так, што добра былі відаць хаты да краю сяла і нават дзве шастоўкі, што цягнуліся з боку вуліцы, і за хатамі — шэрае, яшчэ аднакаляровае поле.

Камандарм, сухаваты, пажылы чалавек, увайшоўшы ўслед за Чарняхоўскім у пакой, запытаўся:

— Таварыш камандуючы, можа, адпачнеце?.. Я загадаю падрыхтаваць пасцель.

— Дзякую. Адпачываць не буду. Трэба ехаць дамоў...

Камароў, які застаўся ў першым пакоі, бачыў, што амаль адразу ж услед за Чарняхоўскім у суседні, большы пакой, пакой камандуючага арміі, зайшлі Макараў, член Ваеннага Савета арміі і начальнік штаба. Спрактыкаваным вокам паручэнец заўважыў, што і тут ужо ёсць тыя заклапочанасць і руплівая сабранасць, якія ён не раз назіраў, ездзячы з камандуючым.

Неўзабаве ўвайшоў моцны, відны сабою, яшчэ трохі санлівы палкоўнік са штаба арміі, якога Камароў ужо аднойчы бачыў, але не ведаў ні прозвішча яго, ні пасады.

— Камандуючы тут? — Палкоўнік з дзелавым выглядам зірнуў на Камарова. Зірнуў, падобна было, спакойна, з будзённай клопатнасцю. Паручэнец адказаў, што тут, і палкоўнік звыкла падцягнуўся, агледзеў сябе, быццам збіраючыся зайсці. Але не пайшоў, затрымаўся, нібы ў роздуме, запытаў раптам інакш, па-сяброўску, з той прыяцельскай пашанай, якая ўжо даўно не здзіўляла паручэнца:

— Які настрой у яго, Аляксей Іванавіч?

— Настрой? У яго заўсёды, таварыш палкоўнік, адзін настрой.

— Ну ўсё-ткі. Хмурыцца ці жартуе?..

— Сур'ёзны...

Палкоўнік зноў агледзеў сябе.

— Сур'ёзны, кажаш... Д-да... Чагосьці выклікаў вось на даклад... Не ведаеш?

— Не ведаю.

Палкоўнік, пералажыўшы папку з рукі ў руку, накіраваўся ў пакой камандарма.

«Чаго прыехаў? Вядома, не для размоў лагодных!.. Нешта ён сёння асабліва сур'ёзны. Камусьці нагарыць, напэўна».

Сёння камандуючы найбольш цікавіўся разведкаю. Як толькі палкоўнік — гэта быў начальнік разведаддзела арміі —увайшоў, Чарняхоўскі пачаў падрабязна распытваць пра работу разведкі. Як арганізавана служба ў штабе арміі, у дывізіях, у палках.

Генералы, хто седзячы каля стала, хто стоячы, моўчкі сачылі за Чарняхоўскім, які то ступаў, то спыняўся, задаваў пытанні і слухаў палкоўніка. Камандуючы арміі, генерал-лейтэнант са спакойным тварам і прытомленымі, разумнымі вачыма, стаяў, прытуліўшыся да вушака акна, закрываючы плячом край карты, што вісела поруч.

Камандуючы арміі з цікавасцю назіраў за Чарняхоўскім. Спачатку, калі генерал даведаўся, што ўзначаліць фронт прызначылі такога маладога чалавека, які яшчэ нядаўна камандаваў толькі дывізіяй, ён і адчуў здзіўленне, і падумаў, што гэтаму «юнаку» невядома чаму вельмі шанцуе. Але Чарняхоўскі ў першы ж прыезд прымусіў забыць пра сваю маладосць: ён так упэўнена сябе трымаў, так ведаў справу, што падпарадкоўваў сабе.

«Удачы зрабілі яго, здаецца, залішне самаўпэўненым,— падумаў камандарм, сочачы за камандуючым.— Маланкавы ўзлёт рэдка абыходзіцца без таго, каб чалавек не перастаў глядзець пад ногі. Такія рэзкія перамены вытрымліваюць толькі моцны арганізм ды вельмі цвярозая галава...»

«Але ў яго ёсць нейкая дзіўная сіла, уменне падначальваць... І колькі энергіі!..» — Праездзіўшы суткі з ім, камандарм адчуваў сябе змораным ушчэнт.— «А яму — хоць бы што!..»

Чарняхоўскі быў незадаволены: разведчыкі дзе-нідзе ў дывізіях не вывучалі як належыць праціўніка, карысталіся прыблізнымі дадзенымі, без дастатковай уважлівасці рыхтаваліся да аперацый.

— Чаму сарваўся «пошук» у 1127 стралковым палку, таварыш палкоўнік?

Чарняхоўскі ступіў да акна, глянуў на вуліцу, па якой крочыла некалькі салдат пад камандай старшыны,— відаць, на змену варты, хутка павярнуўся да начальніка разведкі.

— Разведка наткнулася, таварыш генерал, на два кулямётныя гнязды.

«І пра гэта ведае»,— падумаў мімаволі камандуючы арміі, здзіўляючыся, што Чарняхоўскі ведае пра няўдачу разведчыкаў палка. Сярод многіх вялікіх спраў ён заўважыў і запомніў і гэты малапрыкметны выпадак.

— Чаму яна магла наткнуцца? — Чарняхоўскі зноў захадзіў ля акна: тры-чатыры крокі ў адзін бок, у другі.

— Там гнёздаў не было раней, таварыш генерал.

— Гэта не адказ разведчыка.

— Разведка не выявіла іх своечасова...

— Чаму?

Палкоўнік паварушыў кароткімі пальцамі, як бы шукаючы адказу:

— Не ведаеце?.. Дык я вам скажу — яна ішла ўсляпую. Нібы не на аперацыю, а на пагулянку! — Ён запыніў крок, у цішыні, што запанавала, цвёрда, перакanana аб'явіў: — Пошук сарваўся таму, што ў вас у разведцы той-сёй забыўся пра адказнасць за справу. Вось чаму, збіраючыся на пошук, не выявілі добра сістэму абароны, не падрыхтавалі байцоў. Камандзіры нядбайна аднесліся да аперацыі. З-за іх ленасці і нядбайства задача не была выканана, а трое чалавек расплаціліся сваім жыццём.

Чарняхоўскі гаварыў знешне стрымана, але ў яго словах адчуваўся жорсткі, гнеўны дакор.

— Вінават, таварыш генерал...

Чарняхоўскі не адгукнуўся на абяцанне выправіць справы, якое чулася ў голасе палкоўніка.

Тым жа стрыманым, гнеўным тонам ён адзначыў заганы ў рабоце разведкі арміі ў цэлым. Канчаючы гэту размову, Чарняхоўскі ступіў некалькі крокаў да акна і, крута павярнуўшыся, гледзячы ў вочы разведчыку, сказаў:

— Кепска працуеце, таварыш палкоўнік. Вам даверылі важнейшую справу — разведку, лёс тысяч лю-

дзей, а вы, відаць, не цэніце гэта. Без агеньчыку, з халадком працуеце.

— Разведчыку гэта недаравальна,— падтрымаў яго член Ваеннага Савета фронту.

Другія генералы маўчалі. Разам з камандармам яны аднесілі дакор камандуючага фронту і да сябе: здавалася, што Чарняхоўскі гаворыць да ўсіх.

Крочачы, сабраны, Чарняхоўскі з цвёрдым выразам задумаўся. Мусіць, рашаў, што рабіць з палкоўнікам. Выраз твару не абяцаў нічога добрага.

— Вы — член партыі? — запытаў палкоўніка генерал Макараў.

— Так точна, таварыш генерал. Член партыі.

— Білет маеце, а працуеце не па-партыйнаму.

— Вінават, таварыш генерал. Улічу гэта.

Начальнік разведкі з надзеяй глядзеў на члена Ваеннага Савета фронту. З імпэтам чалавека, які разумее ўсю небяспеку моманту для свайго лёсу, заявіў:

— Больш гэта не паўторыцца, таварыш генерал!

Чарняхоўскі дапытліва, пільна ўгледзеўся ў палкоўніка.

— Абяцаеце? — прамовіў ён тонам, у якім яшчэ чулася ранейшае нездавальненне.

Выслухаўшы палкоўніка, які кляўся, што работа разведкі будзе рашуча падцягнута, Чарняхоўскі, па-ранейшаму нелагодны, даў некалькі ўказанняў яму, папярэдзіў: — З вас будзем патрабаваць асабліва. Улічыце.

— Я стрымаю сваё слова, таварыш генерал.

— Паглядзім. Можаце ісці.

Прыкметна ўзрадаваны тым, што ўсё скончылася ў цэлым абнадзейліва, выказваючы ўсім сваім выглядам імкненне неадкладна ўзяцца за справу, аддаць ёй усе свае сілы, палкоўнік імкліва выйшаў.

Чарняхоўскі спыніўся на момант у роздуме, потым энергічна ступіў да стала, кінуў на хаду:

— Прашу бліжэй.

Ён сеў поруч з генералам Макаравым, зірнуў на начальніка штаба арміі.

— Як абстаяць справы з дакамплектаваннем часцей?

Генерал намерыўся ўстаць, але Чарняхоўскі апярэдзіў яго:

— Можаце сядзець...

Генерал сказаў, што часці ў асноўным папаўняюцца згодна з графікам. Але ёсць і факты адставання ад графіка. Надзеўшы акуляры і выняўшы з партфеля ліст паперы, ён паведаміў, колькі і ў якія часці накіравана салдат, сержантаў, афіцэраў.

— У якіх часцях і які яшчэ недакамплект?

Чарняхоўскі выняў з кішэні аловак, але пісаць не стаў, звёўшы чорныя паўдугі броваў, уважліва, засяроджана слухаў. Даслухаўшы да канца весткі, Чарняхоўскі, не робячы якіх-небудзь заўваг ці меркаванняў, зноў кінуў:

— Які наогул недакамплект малодшых камандзіраў?

Ён усё патрабаваў адказу: колькі сержантаў падрыхтавалі непасрэдна ў арміі, колькі афіцэраў?

— Мне дакладвалі,— успомніў Чарняхоўскі,— вы не рэалізавалі апошнія нарады на боепрыпасы.

— Так, таварыш камандуючы. Машын не хапае. «Разутых» многа...

— Атрымаем — дадзім і вам. Не абыдзем! Але і да таго часу — не адставайце! Мабілізуйце ўвесь транспарт і — запасайцеся!

— Ёсць.

— Гэта ясна,— заключыў ён, стукнуўшы тарцом алоўка па стале, нібы ставячы кропку.— Цяпер, калі ласка, далажыце, як часці вучацца?

— Аб дывізіях,— генерал Макараў назваў прозвішчы камандзіраў,— можаце не гаварыць...

Цяпер дакладваў камандуючы арміі. Глуха, хрыплавата расказаў ён, што галоўная ўвага ў арміі ў гэты час скіравана на тое, каб укамплектаваць часці папаўненнем, якое прыбывае, забяспечыць належнай тэхнікай, боепрыпасамі, каб павысіць баяздольнасць усіх падраздзяленняў, усіх звенняў арміі. Асабліває значэнне ў арміі, сказаў ён, надаецца баявой вывучцы папаўнення, якое ўпершыню трапіла на фронт, для чаго выкарыстоўваецца вопыт бывалых салдат і камандзіраў. Ён прывёў некалькі прыкладаў з дзейнасці розных дывізій і палкоў; расказаў стрымана, але канкрэтна, дакладна і з той ахвотай, якая паказвала, што камандуючы добра ведае гэта і рад паведаміць.

Ад нізавых падраздзяленняў ён перайшоў да штабоў і камандзіраў высокага рангу, далажыў пра іх дзейнасць спакойна, з годнасцю разгортваў ён карціну

вялікай работы, якая ішла ў палках і дывізіях, з салдатамі і генераламі, на пярэднім краі і ў рэзервных часцях.

Чарняхоўскі ўважліва слухаў яго, круцячы ў руках аловак, часам ківаў галавою, як бы даваў знак, што слухае, дазваляе працягваць даклад.

Усё ж увесь час, пакуль камандуючы арміі дакладваў, была нейкая нацятасць у пакоі, якая адчувалася ў тым, як усе глядзелі і слухалі. Бадай, спакойным зусім быў толькі генерал Макараў, ён слухаў даклад з добрай зычлівасцю і, адчувалася, быў вельмі задаволены ім.

Калі камандуючы арміі скончыў, хвіліну была тая ж нацятая цішыня. Напружана чакалі, што скажа новы камандуючы фронту.

Чарняхоўскі на хвіліну як бы адасобіўся ад усіх, строга пазіраючы кудысьці ўбок, падобна, збіраўся з думкамі. Пачаў з таго, што адзначыў: камандаванне арміі ў цэлым правільна разумее задачу цяперашняга моманту і правільна вызначыла кірункі работы. Не пакідаючы пярэдняга краю, армія павінна ў бліжэйшы час укамплектавацца поўнасцю, зрабіць усё, каб у поўнай баяздольнасці быць гатовай выканаць абавязак перад Радзімай.

Гаворачы пра вучобу ў арміі і ў цэлым ухваліўшы тое, што рабілася, Чарняхоўскі падкрэсліў, што трэба асабліва старанна вучыць узаемадзеянню стралковых падраздзяленняў і часцей з артылерыяй, танкамі і авіяцыяй. Умелае ўзаемадзейнічанне ўсіх родаў войск, сказаў ён, павінна разглядацца як аснова баяздольнасці арміі.

Ён паведаміў, што ў бліжайшы час армія будзе ўзмоцнена артылерыйскімі, механізаванымі і танкавымі часцямі, і загадаў памеркаваць папярэдне пра іх размяшчэнне, пра сувязь з імі. Калі Чарняхоўскі казаў пра гэта, ён бачыў у вачах, на тварах генералаў з арміі не толькі радасць, але і чаканне слоў, якія пацвердзілі б іх здагадкі, спадзяванні. Аднак ён зрабіў выгляд, што не бачыць гэтага, тым жа роўным і патрабавальным голасам вёў далей:

— Усю гэту работу мы павінны зрабіць у найкарацейшыя тэрміны. Часу ў нас у абрэз, а работа чакае нас вялікая. Таму трэба — гэта належыць усім добра засвоіць — працаваць з гранічным напружаннем усіх сіл,

усіх сваіх магчымасцей. Настроі, накшталт: управімся — трэба вытраўляць няшчадна.

Камандуючы арміі мімаволі зноў падумаў з зайздрасцю: «Мне б столькі сілы, столькі энергіі, як у яго...» Ён раскрыў блакнот, каб запісаць распараджэнне і заўвагі Чарняхоўскага.

«Падцягнуць разведку» — вывеў ён акуратна і хутка, прыгадаўшы размову Чарняхоўскага з палкоўнікам, потым дадаў ніжэй: «даўкамплектаваць часці», «боепрыпасы, рэалізаваць нарады», «узаемадзеянне з танкамі»; залажыўшы лісток алоўкам, прыкрыў блакнот і слухаў, схіліўшы сівую галаву, пазіраючы ўзрушанымі, разумнымі вачыма на камандуючага фронту.

Чарняхоўскі гаварыў:

— Нарошчванне намі сіл каля пярэдняга краю трэба рабіць максімальна скрытна. Трэба зрабіць усё, каб праціўнік не выявіў тых значных змен, якія адбываюцца ў арміі і ў паласе, якую яна займае. Для гэтага патрабую самай строгай маскіроўкі прыбыцця новых папаўненняў людзей, новай тэхнікі, і асабліва — новых часцей. Усе новыя часці размяшчаць у паласе арміі толькі ў начны час. Толькі ў начны час уводзіць папаўненне ў падраздзяленні. Забараняю ў новых часцях перагаворы па рацыях... Прашу прадумаць і паведаміць мне вашы прапановы адносна дэзінфармацыі праціўніка. Усімі сродкамі трэба ўбіваць у галовы немцаў, што мы намерваемся стаяць. Што мы заклапочаны адным: умацоўваем абарону. Для гэтага абавязваю старанна ўмацоўваць абарончыя рубяжы. Выкарыстоўваць з мэтай дэзінфармацыі — радыё...

Ён выказаў яшчэ некалькі парад. Ліст блакнота камандарма неўзабаве быў запоўнены, і генерал перавярнуў яго.

Але Чарняхоўскі змоўк. Трымаючы аловак, хвіліну думаў аб нечым. Потым павярнуўся да члена Ваеннага Савета фронту. Спытаў раптам усмешліва:

— Як вы, Васіль Емяльянавіч, настроены — тут паснедаем?

— Калі гаспадары запросяць, то я не пярэчу...

— Мы — народ гасцінны,— жартаўліва, як прыязны гаспадар, развёў рукі камандуючы арміі.

Чарняхоўскі лёгка, ахвотна ўстаў: справа зроблена. З Макаравым, камандуючым арміі і іншымі генера-

ламі пакіраваў у суседнюю хату. Тут, у чыстым сялянскім пакоі, у якім гаспадарылі вайсковыя, генералы селі за стол.

— Камарова, паручэнца майго, не забылі? — запытаў Чарняхоўскі маладога хлопца ў белай куртцы, што ледзь сыходзілася на ім, які падаваў боршч.

— Не забылі, таварыш камандуючы. Ім падрыхтавалі пакоі побач...

— І аўтаматчыкаў не пакрыўдзіце.

— Нікога не пакрыўдзім, таварыш генерал.

Член Ваеннага Савета фронту Макараў, размешваючы лыжкай каву, запытаў начальніка штаба, які нядаўна быў дома, у Свярдлоўску, як жывуць жонка і дзеці.

Генералы з цікавасцю слухалі... Узрадаваны ўвагаю, генерал, расчулены і збянтэжаны, дастаў з бумажніка некалькі фотаздымкаў сям'і: сыноў, жонкі.

— Я днямі гаварыў па тэлефоне з сынам,— падтрымаў агульную размову Чарняхоўскі.— На фронт, да мяне просіцца! Памагаць абяцае. Не бачылі майго памочніка?

Ён выняў з кішэні кіцеля фотакартку, на якой былі зняты чарнабровая і чарнавокая, як бацька, дачка і русявы, падобны на маці сын. Сын, з далікатным тварам, з акуратнай грыўкай, быў апрануты ў вайсковую форму з партупеяй.

— Вось ён, памочнік...

Камандуючы не без гонару назіраў, як генералы па чарзе разглядваюць фотакартку. Хаваючы ўцеху, неабыякава слухаў добрыя словы пра дзяцей.

Калі ўсталі з-за стала, камандуючы арміі паспачуваў:

— Як вока?.. Блізка прайшла чорная старуха...

Чарняхоўскі, заклапочаны нейкімі думкамі, адгукнуўся не адразу.

— Дурэе старая...

— Нягодніца не зважае ні на ўзрост, ні на званні...

— Так, неразборлівая старая...

Чарняхоўскі быў усё недзе далёка з думкамі.

Генералы падаліся на двор. Следам за імі, хапатліва абцягнуўшы кіцель, прамы, з выглядам строгім і дзелавітым, заспяшаўся Камароў.

Машыны камандуючага і Макарава стаялі каля разламанага плота пад старым, з абшарпаным камлём вязам.

Тут, каля сваёй машыны, Чарняхоўскі стаў развітвацца. Падаўшы руку камандуючаму арміі, іншым генералам, што заставаліся, заклапочаны, сеў поруч з шафёрам. Камароў зачыніў дзверцы і спрытна юркнуў на задняе сядзенне, дзе ўжо быў аўтаматчык.

Чарняхоўскі загадаў:

— У штаб фронту!

## РАЗДЗЕЛ II

### 1

Неўзабаве пасля таго, як гітлераўскія часці спынілі блакаду, брыгада Ермакова вярнулася на ранейшае месца.

Тыя два тыдні жыццё ў брыгадзе Ермакова было неспакойнае: некалькі разоў узнікалі цяжкія баі з карнікамі. Каб унікнуць пятлі, якую імкнуліся накінуць карнікі, брыгада вымушана была ўвесь час кружыць, вырывацца. Увесь час быць на нагах.

Сумна сустракалі партызан родныя мясціны. У кожнай вёсцы, у якую можна было зайсці, чарнелі папялішчы. Пуста было на вуліцах. Вецер гнаў попел, абсыпаў ім траву. Усе, з кім бачыліся, болесна ўспаміналі забітых, лютыя расправы карнікаў, пажары.

У многіх вёсках, дзе нядаўна была партызанская зона, гаспадарылі нямецкія ўправы, паліцаі. Людзі жылі ў страху і трывозе.

Як толькі вярнуліся ды крыху ўладкаваліся з дарогі, ермакоўцы сталі расчышчаць зямлю.

Кожны дзень, пад вечар, ішлі на аперацыі. Ішлі ў разведку ў далёкія вёскі, на торфазавод, які аднавілі немцы. Выпраўляліся граміць невялікія гарнізоны. Ермакоў звычайна сам правяраў, як падрыхтаваліся, даваў парады.

Выгнаўшы паліцаяў з некалькіх вёсак поблізу, Ермакоў рашыў ударыць па адным з далейшых гарнізонаў, што засеў у вёсцы Сялюцічы.

Каб выканаць гэту задачу, камбрыг стварыў групу, аснову якой склала рота Дразда. Дразду Ермакоў даручыў і камандаваць групай.

Разам са сваім узводам на заданне выпраўляўся ў гэты дзень і Васіль Крайко.

Памочнікам у Васіля шчыраваў славак Ляхора, рослы, хударлявы і старанны хлопец у чырвонаармейскай

гімнасцёрцы, увабранай у рудыя суконныя штаны. Штаны гэтыя Ляхора любіў насіць з напускам на боты.

Ён прыйшоў у брыгаду каля года таму, уцёкшы [redacted] ахоўнага нямецкага батальёна, куды яго мабілізавалі ў Славакіі. Перад тым як прыйсці ў брыгаду, Ляхора пабыў у Сялюцічах, адтуль яго і прывяла ў лес дзяўчына-сувязная.

— Іду дамоў! — пажартаваў славак.— Ці жывая там Ганка?

Ён, было чуваць, вельмі трывожыўся пра яе.

Васіль у гэты вечар быў узрушаны. На тое меліся важныя прычыны: камісар сказаў, што заўтра будуць прымаць Васіля ў партыю, прасіў, каб да пачатку сходу Васіль пастараўся вярнуцца ў атрад.

Васілю захацелася ў гэтую ноч зрабіць што-небудзь незвычайнае. Азіраючыся назад, Васіль ясна і з непакоем бачыў, што ў яго жыцці мала было такіх гераічных учынкаў, якія маглі б надзейна падтрымаць яго на заўтрашнім усялюдным іспыце.

Канечне, зазнаў ён нямала. І маці расстралялі нелюдзі-паліцаі проста на вачах, і самому за калючым нямецкім дротам пасядзець давялося. Але геройства тут, усякаму відаць, ніякага,— хоць потым ён і пралез пад агароджай, уцёк; тут не толькі геройства няма, а нават як бы пляма — нібы ў палоне быў. І хоць уцёк потым і вінтоўку ў п'янага паліцая ўкраў, хваліцца няма чым. А тое, як трапіў у партызаны, дык проста смеху варта: наткнуўся, калі бадзяўся па лесе, на хлопцаў і хацеў яшчэ адстрэльвацца! Схапілі, абяззброілі — лепш не ўспамінаць!.. Канечне, ён не ведаў, што — партызаны, і ўсё ж — пра такое лепш маўчаць!..

Ды і наогул усё ў яго яшчэ так няясна. Ён усё думае, што будзе рабіць, калі вайна скончыцца, і — нічога пэўнага. Ніяк не знойдзе аднаго — і тое вабіць, і другое. Калісьці рваўся паехаць у Арктыку, потым у вайну, пасля таго як загінуў бацька, думаў, калі сыдзе навала, калі зноў настане мірнае жыццё, вярнуцца дамоў, стаць [redacted] цягам часу на яго месца, дырэктарам МТС. А цяпер рашыў — будзе вынаходцам.

Не, гэта ўжо цвёрда, ён будзе вынаходцам. Добра — шукаць, шукаць, ламаць галаву і, нарэшце, дабіцца, дайсці да свайго. Выдумаць якую-небудзь такую машыну, каб яна магла нячутна падыходзіць да варожых дотаў і біла б ва ўпор. А яе каб нішто не магло разбіць...

Да Сялюціч група дабралася толькі апоўначы.

У рэдкім хмызняку Дрозд спыніў байцоў, рашыў яшчэ раз папярэдне разведаць вёску. Для гэтага ён паслаў наперад хуткага і асцярожнага Ляхору з двума хлопцамі. Там, у адной з крайніх хат, і жыла знаёмая славаку Ганка, сувязная, ад якой, на яго думку, можна было даведацца пра ўсё, што ім трэба.

Тыя, што засталіся, сядзелі ў хмызняку і чакалі. Слухалі: у вёсцы было ціха. Адно недзе ў сярэдзіне вёскі не магла супакоіцца п'яная песня — асіплыя, прапітыя галасы. П'яныя паліцаі то, не слухаючы адзін аднаго, дзерлі горлы, то, відаць, змарыўшыся, змаўкалі.

Ляхора і хлопцы вярнуліся не адны, з дзяўчынай, якую Ляхора, не тоячы шчасця, назваў Васілю Ганкай. Ганка, было прыкметна, у цемры старалася разгледзець хлопцаў, што абступілі з усіх бакоў.

— А тут паліцаі брахалі, што ўсіх перабілі, а Тураўца і Ермакова павесілі! — Твару дзяўчыны ў змроку амаль не было відаць, і толькі па голасе адчувалася, як яна рада таму, што яны прыйшлі.

Дзяўчына сказала, што частка салдат і паліцыі сядзяць з краёў сяла — у бункерах, нясуць варту, большасць жа іх у хаце каля паліцэйскай управы. Некалькі паліцаяў і гітлераўцаў гуляюць у млынара,— гэта яны і крычаць.

Васіль пра млынара яшчэ раней чуў: кулак, ссыльны, невядома як вярнуўся ў пачатку вайны. Калі паліцаяў і немцаў турнулі адсюль, млынар недзе быў знік, а цяпер вось зноў выплыў. Аднекуль у яго з'явіўся хлеб, ён гнаў самагонку і п'янстваваў са сваёй хэўрай.

Паліцаі, казала Ганка, адчувалі сябе цяпер упэўнена і спакойна: яшчэ, мабыць, не ведаюць, што партызаны вярнуліся.

— Тут адзін з вашых служыць у іх,— сказала раптам дзяўчына.— Грэчка, можа, ведаеце?

— Грэчка? — Васілю ўспомнілася тая раніца, калі памёр Шабуня.

Значыцца, Васіль не памыліўся, калі сказаў у тую раніцу, што Грэчка ўцёк. Правільна здагадаўся Васіль: як ведаў. І ўсё ж вестка гэта выклікала ў ім гнеў.

— У, шкура,— выказаў сваё пачуццё Васіль.— Перабег усё-ткі, падлюга!

Вестка гэта ўсхвалявала, чулася па ціхім гомане, і іншых. Чулася: усе былі абураны і разгневаны.

— Эх, няхай ён мне пападзецца толькі! — пагразіўся нехта ў цемры.

Але марнавацца бескарыснымі гаворкамі не было часу. Дрозд наогул не любіў пустой балбатні, тут жа, ён помніў, дарагая была кожная хвіліна. Загадаўшы людзям сціхнуць, ён спытаў Ганку:

— Вы можаце непрыкметна правесці да той хаты... Да іх кубла?

Ганку не трэба было ўгаворваць, з радасцю адгукнулася камандзіру:

— Чаму ж не! От, яшчэ пытаеце. Я вас пад самае акно падвяду!

Не трацячы часу, Дрозд паклікаў камандзіраў, стаў з імі меркаваць пра план бою. Паколькі самае важнае для бою, што паведаміла Ганка, было ўжо вядома з папярэдніх вестак разведкі, Дрозд выказаў той план, які прыйшоў яму яшчэ ў лагеры. Па гэтаму плану група павінна была атакаваць вёску з трох кірункаў: з абодвух канцоў і ў цэнтры. Біць усім адначасова, па сігналу цэнтральнай групы. Для манеўру, для падтрымкі групкі, якой могуць трапіцца асаблівыя цяжкасці, асцярожны Дрозд выдзеліў невялікі рэзерв.

Камандаваць цэнтральнай групай Дрозд даручыў Васілю Крайко...

Ледзь нарада скончылася і Васіль вярнуўся да сваіх, ён, коратка растлумачыўшы людзям задачу, загадаў Ганцы і Ляхору весці да цэнтра вёскі. Астатнім загадаў асцярожна, ціха рушыць следам. Калі падабраліся да вёскі, сталі за дзяўчынай прабірацца цераз агароды. Яна вяла па нейкіх, адной ёй вядомых, сцежках. Пералезлі жардзяны плот, потым адзін за адным сунуліся па разоры, спатыкаліся на градах і нарэшце апынуліся ў невялікім садку. Крыкі рваліся з хаты непадалёк.

У садку Ганка спынілася: яны тут.

Агледзеўшыся, хутка высветліўшы абставіны, Васіль накіраваў на вуліцу, з двух бакоў, прыкрыцце, а з іншымі пачаў прабірацца да хаты. Падступіўшы да хаты, гнучыся каля плота, убачыў: адно акно прыадчынена, фіранка з краю адсунута. Зноў азірнуўшыся, Васіль пералез плот, асцярожна зазірнуў у акно, убачыў двух немцаў і паліцая. Немцы спрачаліся пра нешта, а паліцай, узлёгшы грудзямі на стол, драмаў.

Васіль нырнуў у цемру, абышоўшы святло, што падала з акна, падабраўся да Ляхоры, які, тоячыся каля плота, чакаў яго.

— Як толькі стрэлю — гранату! Туды! — шапнуў, матнуў рукой на акно Васіль.— Потым сачы за вуліцай! Не падпускай на выручку.

Ён выбраў двух хлопцаў, павёў за сабой, ценем мільгнуў за вугал хаты. Намерваючыся адрэзаць хату з другога боку. Каб перахапіць у немцаў шлях, якім яны маглі ўцячы.

Але толькі высунуўся з-за вугла, застыў: проста на яго рушылі дзве постаці.

— Wer ist da? [1] — запыталася адна.

Адступаць было позна. Марудзіць — значыла страціць перавагу нечаканасці, загубіць сябе. Ён націснуў на спуск аўтамата. Сціскаючы аўтамат, Васіль на момант прыпаў да сцяны, насцярожаны, гатовы да ўсяго. Амаль у той жа міг ударыў выбух гранаты. Ляхора.

Адскочыўшы да хлява, Васіль з хлопцамі ўзяў пад прыцэл сенцы, дзверы. Чакаў: пасля гранаты тыя, што засталіся ў доме, не інакш, кінуцца да сенцаў, у дзверы. Або ў вокны. Адзначыў: у вокнах, пасля выбуху гранаты, стала цёмна. Амаль цёмна. Быў нейкі чырванаваты, варухлівы водсвет.

Дзверы, не памыліўся, расхрыснуліся, і на ганак вылецела постаць. Адна, другая. Васіль ударыў з аўтамата. Але ў дзверы, насустрач яго чэргам, відаць, не цямячы нічога, ірваліся яшчэ постаці. Хутка, аднак, уцямілі — шуснулі ад дзвярэй. Дзверы сталі пустыя. Хтосьці паспрабаваў выскачыць у акно. Васіль прайшоўся чаргою па вокнах.

Вокны, заўважыў, свяціліся ўсё чырваней, усё ясней. У сярэдзіне хаты, падобна было, штосьці гарэла. Успыхнула раптам фіранка.

— За мной!

З рашучасцю, якая ўзнікала ў ім, калі трэба было дзейнічаць неадкладна, Васіль ускочыў на ганак. Праз расхрыстаныя дзверы, праз сенцы ўляцеў у хату. У першай палавіне было пуста. Толькі на печы туліўся хтосьці. Жанчына і дзіця, перапалоханыя, з жахам глядзелі насустрач. Твары іх ад чырвонага водсвету з суседняга пакоя былі чырвоныя. Чырвоныя круглыя вочы. Ён ры-

---

[1] Хто тут?

нуўся ў другую палавіну. Адзін немец-жандар ляжаў на падлозе забіты, другога не было ў пакоі. Не было і паліцая. Стол быў перавернуты, пад нагамі хрупасцела шкло. Смярдзела трацілам. Нешта весела гарэла ля стала. Разліты спірт, абрус. Агонь учапіўся ў ножкі стала, у лаўку.

Адзін з хлопцаў кінуўся ў суседні пакой, але адтуль грымнуў стрэл, і ён спыніўся.

— Здавайцеся, гады! Інакш — капут усім! — пагразіўся Васіль. Як бы падмацоўваючы пагрозу, папярэджваючы, каб не думалі працівіцца, нецярпліва, гарачкавата даў чаргу з аўтамата.

У суседнім пакоі пачуўся раптам удар па раме, зазвінела шкло. Відаць, хтосьці спрабаваў уцячы праз акно. Мабыць, выскачыў на двор: на двары грукнулі стрэлы. Кінуўшыся ў бакоўку, пасвяціўшы ліхтарыкам, знайшлі аднаго паліцая пад нарамі.

Калі Васіль выбег на двор, перад ім раптам узнікла постаць, што ішла насустрач.

— Хто тут п-паліць? — загадаў адказаць сіплы голас.

Ледзь варочаючы языком, незнаёмы брыдка вылаяўся.

— Бал-лва-цца, сук-кіны ўнукі!..

Васіль ніяк не чакаў такога. Першы момант ён падумаў, што тут які-небудзь хітрык, але па гаворцы, па тым, як постаць вадзіла з боку ў бок, як ад яе патыхнула самагонам, адчуў, што гэты дзіўны сустрэчны і праўда ў дым п'яны і, відаць, яшчэ дрэмле.

П'янага адразу схапілі і, абшукаўшы, абяззброілі. Вынялі з кішэні пісталет. Не зважаючы на тое, што паліцай, якому сталі звязваць рукі папругай, глуха рычаў і, стараючыся вызваліцца, выгінаўся, Васіль прыслухаўся: на другім канцы сяла яшчэ ляскалі стрэлы...

Паблізу знаёмы дзявочы голас запытаўся, дзе камандзір.

— Надоечы тут склалі спісы, каго ў Нямеччыну браць,— падбегшы да яго хапатліва, трывожна загаварыла Ганка.— Кажуць, што ў спісы і сувязных запісалі. Скажыце, каб забралі іх!

— Дзе яны? — Васіль усё ўслухоўваўся ў страляніну на канцы вёскі.

— Ды тут, ва ўправе. У шафе, мусіць.

Хоць Ганчына просьба замінала ваеннай дзейнасці

Васіля, ён усё ж ацаніў значэнне клопату Ганкі: спісы, канечне, трэба што б там ні было забраць.

Даручыўшы паліцая аднаму хлопцу, слухаючы перастрэлку наводдаль, Васіль разам з дзяўчынай энергічна рушыў у пакой.

Папрасіўшы дзяўчыну, каб пасвяціла яго ліхтарыкам, ён з усёй сілы ўдарыў прыкладам аўтамата па замку, што вісеў на шафе. Пасля другога ўдару сагнуты прабой упаў, і Васіль расчыніў дзверцы. На палічках ляжалі папкі і паперы. Не разглядваючы, ён хутка сабраў усё, схапіў пад паху. Дзяўчына, якая спачатку толькі сачыла за ім, сама кінулася аглядваць палічкі, правяраць, ці ўсё забралі.

— Не згубі глядзі! — недаверліва сказала яна Васілю.

З паперамі пад пахай Васіль выбег з хаты. Страляніна, што даходзіла з другога боку вуліцы, ужо амаль сціхла.

Сяло, якое да гэтага здавалася пустым, з якога, напалоханыя стралянінаю, многія жыхары ўцяклі ў лес, стала ажываць. Пачуўшы родную мову, даведаўшыся, што вярнуліся партызаны, на вуліцы то там, то тут выходзілі людзі. Перажыўшы страшныя дні, выбіраліся са сваіх сховішчаў з асцярогай, яшчэ не зусім верылі радаснай навіне.

— Ермакоўцы прыйшлі! Ермакоў вярнуўся! — ішло на вуліцы ад двара да двара, ад чалавека да чалавека.

— Вярнуліся!..

Радасць людзі выказвалі ціха, стрымана.

Старыя, жанчыны, дзеці абдымалі хлопцаў, плакалі, і ў слязах было і шчасце сустрэчы, і нядаўні боль, і сум страт.

— А я думала — гансы!..— збянтэжана прызналася нейкая жанчына.

Расказвалі пра жахі, якія перажылі за гэтыя дні, пыталіся пра Ермакова, пра Тураўца, пра знаёмых партызан.

Пры гэтых расказах, роспытах да Дразда, да натоўпу прыгналі звязанага паліцая, які, аказалася, быў начальнікам паліцыі, і гаворка пайшла ў іншым кірунку. Жанчыны накінуліся на яго з усіх бакоў і, каб не Дрозд і яго людзі, разарвалі б на месцы. У кожнай, відаць, была свая злосць да гэтага вылюдка. Паліцай хутка

працверазіўся. Пад ударамі, праклёнамі, пагрозамі, што сыпаліся адусюль, паліцай зусім працверазеў. Азіраючыся, ён ірваўся і люта скрыпеў зубамі. Але цяпер яго ніхто не баяўся.

Прасілі, каб хлопцы аддалі яго на іх суд. Чаго з ім валаводзіцца! Павесіць яго, ірада, і суд увесь!

Але Дрозд аддаць паліцая не дазволіў, апраўдваючыся, сказаў, што Ермакоў прасіў прывесці аднаго дапытаць.

— Што зарабіў, атрымае,— падтрымаў Дразда Васіль такім тонам, што нельга было сумнявацца. Стараючыся адвесці гаворку ў іншы бок і шкадуючы дужа, сказаў: — Грэчку от выпусцілі! Выкруціўся на гэты раз...— Ён чамусьці быў перакананы, што Грэчка выратаваўся ад партызанскай кулі, хоць забітых яшчэ не агледзелі.

Набліжалася світанне, а ермакоўцаў яшчэ чакаў доўгі і нялёгкі шлях, і Дрозд загадаў выпраўляцца ў брыгаду. Вясковыя невялікім, але гаманкім натоўпам праводзілі іх за сяло.

— Глядзіце не пушчайце іх зноў сюды! — калі сталі развітвацца, трымаючы Васіля за руку, папрасіла незнаёмая, пажылая жанчына.

Васіль пакляўся:

— Не пусцім, маці, больш! Будзьце спакойны...

## 2

Вярнуўшыся дамоў, Васіль рашыў зайсці ў шпіталь. За таго паўмесяца, што мінуў з часу блакады, ён ні разу не бачыў Валі, але часта думаў пра яе. Напэўна, ніколі не была яна такой прывабнай і любай яму, як у гэтыя трывожныя дні. Шашура, пасміхваючыся, расказаў Васілю, што «сястра» прыходзіла ў яго акоп, непакоілася.

«Закахалася, брат, дзяўчына. Факт! Капітулiравала зусім!» — засмяяўся грубаваты падрыўнік. Васіль за гэты смяшок ледзь не выцяў таварыша. Ён думаў пра Валю з пяшчотай.

Крыўдная спрэчка, якая тады іх раздзяліла і аддаліла, даўно забылася. Васіль быў лагодны, не памятлівы на зло чалавек, а пасля таго, што ён перажыў у гэтыя дні, тая хмурынка здавалася проста дробяззю.

Пра нялюбага Ермакова Васіль думаў цяпер з пагардай пераможцы.

Шпіталь ужо зусім асталяваўся. Цяпер у ім было спакойна, пуставата, бо амаль усіх раненых адправілі на самалётах у Маскву. На той бок у тыл паляцелі і дзеці, падабраныя ў часе блакады.

Каля аднаго будана Васіль спаткаў Марыю Андрэеўну, перад якой звычайна брала яго нейкая вінаватасць і няёмкасць.

Яна зірнула на яго ветліва і ласкава:

— Вам да каго?

— Мне трэба бачыць... Залескую,— адказаў Васіль.— Па адной важнай справе. Яна цяпер вольная?

— Вольная, але яе тут няма.

— А дзе ж яна?

Марыя Андрэеўна як бы завагалася. Няўпэўнена сказала:

— Яе ў штаб паклікалі...

— У штаб брыгады?

— Брыгады.

Васіль адразу пакіраваў да сцежкі, што вяла к штабу. Ён стараўся стрымліваць сябе, бо ногі самі сабой паскаралі хаду. «У штаб брыгады?.. Для чаго яна спатрэбілася раптам штабу,— думаў ён, адчуваючы трывогу. Васіль знарок супакоіў сябе: — Для чаго? Ці мала для чаго маглі яе выклікаць?» У яго быў сёння даверлівы, лагодны настрой.

Неспадзеўкі за паваротам сцежкі Васіль убачыў на палянцы ўбаку такую знаёмую постаць Валі.

Яна была не адна.

Васілёвы ногі адразу нібы прыраслі да зямлі: з Валяй стаяў камандзір брыгады! Па-вайсковаму стройны, у галіфэ, з партупеяй, Ермакоў штосьці гаварыў Валі, беручы яе за руку.

Яна не вырвала руку, не вырвала! Вася заўважыў гэта, і ў горле яго раптам стала суха.

Ён стаяў, разгублены, не меў сілы крануцца з месца, нічога нібы не цяміў. Як бы праз сон заўважыў наводдаль на сцежцы ардынарца камбрыга, які трымаў за павады коней...

У гэты час, быццам адчуваючы, што за імі сочаць, Валя азірнулася. Калі ён сустрэў яе позірк, у ім усё як бы ўскінулася. Жорстка зняважаны, ён нецярпліва, абурана адвярнуўся ад яе. Адвярнуўся і, поўны горы-

чы, адчуваючы раптоўны ўздым дзіўнай сілы, хутка пайшоў назад.

Ён амаль нічога не бачыў перад сабою. Толькі прайшоўшы нямала, ён схамянуўся, убачыў раптам, што зноў ідзе ў шпіталь, і, не сцішваючы хады, збочыў у пануры гушчар. Калі, не бачачы нічога, прадзіраўся праз хмызняк, яго абпаліла горкае, бязлітаснае: «Яна любіць не мяне! Не мяне!»

Яму амаль адразу ж згадаўся расказ Шашуры пра тое, як яна дабіралася да яго, Васіля, у блакадныя дні, як трывожылася пра яго. «Ледзь на немцаў не наткнулася, так захацела раптам сказаць нешта!.. Капітуліравала, брат, цалкам». Гэты ўспамін уліў у яго душу нейкае іншае пачуццё, унёс у душу смутнасць, прымусіў задумацца. «Чаго яна прыходзіла? Калі ёй падабаецца гэты... Калі яна мяне...» Мусіць, ад таго, што яго так гняло бачанае, што так горача пякла крыўда, думалася яму цяжка. Ён не знаходзіў адказу.

«А можа,— прыйшло яму ў галаву,— а можа, яна любіць і гэтага... і мяне?..»

Гэта думка не дала яму палёгкі. Яна зноў зачапіла тое, да чаго такім чулым было яго раўнівае сэрца: Ермакоў. Зноў яна з Ермаковым водзіцца. Не можа ніяк разысціся.

Крыўда была тым мацнейшая, што адчуваў: Ермакоў — супернік моцны, камбрыг. Што адчуваў — на баку камбрыга не толькі сіла ўлады, але і вопыт, пра які Васіль няпэўна здагадваўся. І які выклікаў не толькі раўнівую горыч, але і прыкрасць, агіду...

Балюча апаленае самалюбства не давала яму кволіцца, мацавала яго. Што ж, няхай яна любіць Ермакова свайго, калі ён так падабаецца. Няхай!.. А пра яго, пра Васіля, няхай забудзе! Забудзе! Назаўсёды!

Ён сюды больш не прыйдзе!

Убачыўшы, як Васіль адвярнуўся і рынуўся назад, Валя спахмурнела, але першы момант нават выгляду не падала, што шкадуе пра гэта. Падумаеш, які! Слова сказаць не захацеў, пабег,— даганяйце яго! Шчасце якое!

Валянціна ганарліва адвярнулася ад сцежкі.

— Ты што гэта хмарнай такой стала? — заўважыў Ермакоў. Заўважыўшы, што яна з жалем, з крыўдай глядзіць кудысьці за яго спіну, ён азірнуўся здзіўлена, але на сцежцы ўжо нікога не было.

— Чаго гэта я хмарная? Якая была, такая і ёсць!..— адказала яна з нецярплівасцю і як бы яшчэ больш ганарліва:

— А калі вам гэта не падабаецца, то я не вінавата.

Яна пачала чамусьці злавацца.

— Падабаецца, усё падабаецца! — паблажліва, як малой, сказаў Ермакоў, стараючыся супакоіць яе.— Але не трэба быць такой злоснай!

Ён зноў узяў яе руку, але Валя забрала яе. Стаяла нібы не дзеўчанё, а нейкая каралева, каторую ліха яе ведае, якая муха ўкусіла!

— Чаго вам трэба ад мяне? — непачціва, патрабавальна запытала дзеўчанё.

— Чаго, Валюша? Амаль нічога. Проста хочацца цябе бачыць... Цягне да цябе, разумееш. Няўжо гэта так дзіўна?

— Дзіўна.

— Што ў гэтым дзіўнага, Валюша?

— Што? Вы не ведаеце?.. А тое хоць бы, што вы не пара.— Невялікі, вузкаваты, паружавелы ад хвалявання твар яе быў рашучы. Прыгожы быў ён, твар чалавека, які выказваў годнасць, дужасць.— Вы — чалавек жанаты. Што я вам? Пагуляеце, пазабаўляецеся, як з лялькай. А далей — што?

Дужасць, рашучасць яе і злавалі Ермакова, і дзіўна падпарадкоўвалі ёй. Яна неяк асабліва вабіла яго, такая смелая, расчырванелая з гневу. Вось толькі кепска, Ермакоў не мог адказаць, што было б далей з ёю. Не быў гатовы да такога адказу.

— Ты для мяне не лялька, Валечка...— упэўнена запярэчыў ён.

На тонкіх, вузенькіх вуснах яе завастрэла недзявочая, з'едлівая ўсмешачка.

— Не кажыце! Бачыла я, чым такія забаўкі канчаюцца! Толькі я не была б такой рахманай дурніцай, як іншыя,— сказала цвёрда, нібы нават пагрозліва дзяўчына.— Я калі б ужо да каго-небудзь пайшла, дык ён ад мяне не адкруціўся б. Я не дала б, каб мяне кінулі!

— Ты што — палохаеш? — Ермакоў, усё яшчэ не трацячы надзеі, што яна зменіць гнеў на літасць, паспрабаваў абняць яе, але Валя развяла яго рукі.

Ён не мог больш трываць. У рэшце рэшт ёсць канец усяму. Разумеючы, што гэта не варта яго — паказваць

слабасць сваю, ён пачаў злаваць. Што яна строіць з сябе, гэта зялёнае дзеўчанё? Чаго яна задзірае нос?

— Цябе, здаецца, нейкая муха ўкусіла сёння. Штосьці не ў настроі ты.— Ён паказаў ёй, што збіраецца ісці: спадзяваўся, што на гэта яна памякчэе. Усё ж спадзяваўся. Але, відаць, ласкавы настрой яна прыхавала на другі раз.

Ён сказаў з годнасцю, трохі абыякава:

— Зазірну хіба другі раз. Калі будзе час.

— Нашто? — Губы яе сабраліся ў кружочак.— І так заўважылі, што вы ўсё зазіраеце сюды. Размовы розныя пайшлі.— Параіла, падобна, з насмешкай: — Паберагліся б.

Гэта было ўжо занадта! Ермакоў адразу абурана ўспыхнуў, папраўляючы пояс, кінуў на яе люты позірк.

— Ну, мне настаўнікі пакуль не патрэбны!

Ён гукнуў ардынарца і, лядзяна развітаўшыся, даючы ёй адчуць, што вельмі нездаволены, цвёрда закрочыў ад яе.

Застаўшыся адна, Валя нейкі час стаяла разгубленая. Потым неахвотна, звыкла падалася да сябе ў шпіталь. Але калі між дрэў убачыла шпітальныя буданы, стала: вяртацца ў шпіталь не хацелася. Што ёй было там рабіць у такім стане!

Яна пайшла назад. Туга была такая, што не ведала, куды дзець сябе. Столькі чакала, калі ён прыйдзе, і, вось на табе, дачакалася! Сустрэла! Чаму ўсё ў жыцці так нядобра складваецца!

На нейкай палянцы апусцілася на траву, легла тварам да зямлі, падлажыўшы пад галаву далоні рук. Больш ён ужо, мусіць, не прыйдзе! Не прыйдзе, гэта ясна. Падумаў бог ведае што, век не забудзе! Яна ведае яго. Ну і няхай. Няхай не прыходзіць. Вялікая бяда.

Але ёй чамусьці хацелася плакаць.

## 3

Чым бліжэй падыходзіла Шабуніха да роднага сяла, тым больш хвалявалася. Праўда, збоку гэтага амаль не было відаць, здавалася яна спакойнай і заклапочанай, як заўсёды. Толькі стала нейкая безуважлівая. Пытаецца аб чым-небудзь Волька — яе заўсёды цікавяць розныя рэчы,— а маці не чуе і не адказвае. Трэба

паўтарыць некалькі разоў, пакуль яна нарэшце схамянецца, запытаецца няўцям: «А-а? Што?»

— Ці хутка, мамка, нашае сяло? — пытаецца Волька. Яна за дарогу натамілася, падбіла ногі.

— А... Цяпер хутка,— не адразу цяміць Шабуніха, паглядаючы ўдалеч.

Цяпер хутка. Вось як выйдзем ■ лесу, адразу і будуць Паплавы. Людзі добрыя, што там?! Яна мімаволі паскарае крок. Волька, як бы зразумеўшы, што хутка канец шляху, моўчкі тупае поруч, не выпускаючы матчынай рукі. Андрэй не вытрымаў, выбег наперад. Яму хочацца першаму зірнуць на сяло.

Ён неўзабаве вяртаецца. Ідзе назад дзіўна павольна, з нейкім вінаватым выглядам. Потым кінуўся да маці, уткнуўся тварам у яе грудзі.

— Мама! — прамовіў спалохана.

Унутры ў яе раптам штосьці абарвалася. Яна адчула, што здарылася тое, чаго яна баялася. Але, пагладзіўшы рукой галоўку сына, прашаптала супакойліва:

— Нічога, нічога, сынчык.

Ногі раптам сталі непаслухмянымі. Вось апошні паварот. Яна ўбачыла наперадзе тое месца, дзе раней было сяло. Малюнак, што паўстаў перад вачыма — нечаканы, незнаёмы,— вельмі ўразіў яе. Яна прывыкла ўсё жыццё, ад самага маленства, бачыць адсюль стрэхі хат, саламяныя, гонтавыя, бляшаныя, высокія і прысадзістыя, якія цягнуліся ў рад. З краю, на ўзгорку, былі заўсёды доўгія будыніны калгасных абор і свірнаў, уздымалася некалькі вялізных стагодніх вязаў. У сярэдзіне сяла яна бачыла заўсёды сваю, крытую бляхаю хату. Белы вясёлы бляск цынкавага даху заўсёды радаваў вока.

Цяпер перад ёй было пуста і дзіка. Віднелася толькі некалькі хлявоў ды вязы на ўзгорку, але і яны былі голыя, пакалечаныя, з кароткімі, нібы абсечанымі, каструбаватымі галінамі. Ад гэтых вязаў усё навокал здавалася яшчэ больш дзікім. Гледзячы на іх, хацелася крычаць.

Шабуніха не спынілася, не закрычала. Усё так жа ведучы Вольку і несучы за спіною дзіця, яна ішла туды, дзе раней стаяла хата, хоць цяпер там ужо не было нічога. Ішла, быццам не верыла ў тое, што бачыла сваімі вачыма. Як жа яна магла спыніцца, калі ўсе гэтыя дні столькі думала пра сваё селішча, так ірвалася да

яго? Як яна магла не ісці туды, калі звыкла за жыццё лічыць, што тут цэнтр свету? Ёй здавалася, што ўсе шляхі, вялікія і маленькія, бягуць сюды. Ды і куды яна магла вярнуцца?.. Неяк цьмяна адчуваючы ўсё, што з ёй дзеялася, яна ішла па знаёмай дарозе, чамусьці спяшалася, нібы баялася не ўправіцца ў час, і ўсё аднастайна, крыху напалохана, шаптала:

— Нічога, нічога, сынчык...

Узышла на тое месца, дзе пачыналася вуліца, павярнула амаль подбегам да сваёй сядзібы. Тут упершыню Аўдоцця разгубілася. Дзе ж гэта яно, яе даўняе селішча? Дзе хата, высокая, абвітая з вуліцы хмелем, з цынкавым дахам? Дзе яна хоць стаяла, дзе след ад яе, ад хаты?! Божа мой, няможна пазнаць! Няможна пазнаць селішча, на якім пражыла век, дзе кожны кавалачак зямлі тысячы разоў таптала. Папялішчы ўсе падобны адно на адно...

Аўдоцця не знайшла ад першага разу сваёй сядзібы, прайшла міма, прамінула. Калі стаялі ў рад хаты, вуліца здавалася вельмі доўгаю, а цяпер нязвычна, дзіўна скарацілася. Аўдоцця прайшла крыху лішняга, вярнулася назад. Дзе ж яе хата?.. Можа, гэта яна забыла сваё сяло, ходзячы па лясных сцежках з партызанамі? Можа, гора і ўтрапенне апошніх дзён адбілі ў яе памяць, замуцілі розум?

— Тут, мама, тут,— падказаў Андрэй.— Вунь стаяць нашы дзічкі. Толькі яны абгарэлі...

Так, гэта яе селішча... Увайшла ў двор, зняла клунак, што намуляў плечы. Малы Валодзька, адчуўшы пад сабой зямлю, пабег, хутка перабіраючы пухлымі ножкамі. Яго зацікавіў вялікі, чорны, задымлены ліст бляхі, што ляжаў сярод двара. Валодзька пацягнуў за край бляхі. Чорны ліст загрымеў: бу-бу-бу. Гэта спадабалася хлопчыку, і ён шчасліва, заплюшчыўшы вочы ад задавальнення, засмяяўся. Праз хвіліну ён зноў пацягнуў ліст, і ліст зноў загрымеў: бу-бу-бу-бу.

— Андлей, глядзі!

Андрэй стаяў пануры і з засмучэннем спаглядаў на маці, якая, падкурчыўшы пад сябе ногі, стомлена сядзела на зямлі. Аўдоцця ўлавіла гэты позірк і схамянулася: нельга так сядзець, трэба нешта рабіць. Толькі што рабіць?

Неспадзявана яе агарнула дзіўнае пачуццё. «Не, гэта не Паплавы,— падумала яна,— не Паплавы!..»

Гэта нешта чужое, незнаёмае!..

Яна азірнулася вакол. Усё здавалася чужым. Чужое, чужое! З грудзей яе на міг спаў неадступны, даўкі цяжар, стала лягчэй і вальней.

Але думка пра тое, што трэба нешта рабіць, чамусьці ўсё не выходзіла, і Аўдоцця сказала Андрэю:

— Давай падбярэм, што засталося.

Позірк яе ўпаў на пагнуты абгарэлы шкілет ложка з двума кольцамі ўгары, які наўскасяк тырчаў з пяску і вугалля. Гэта ж іх ложак! О, яна добра ведае гэтыя, раней бліскучыя, нікелевыя кружкі з выціснутымі, як вянок, лісточкамі. У яе памяці адразу ажыло: тут нядаўна, завітаўшы ў хату, моцным сном спаў Змітро.

У яго быў аброслы шчацінаю твар, даўно не стрыжаныя віслыя вусы. Яна мыла ў начоўках гімнасцёрку і ўсё падыходзіла да ложка ды глядзела на яго. У яе тады было неспакойна на сэрцы, нібы яна прадчувала ўсё, што будзе.

«Не, гэта не чужое!» — з новай сілай дайшло да свядомасці, і грудзі сціснуў цяжар, яшчэ большы, чым раней. Гэта яе ложак, яе хата, яе селішча! Яна ўпала на дробнае, прыбітае дажджом вугалле і, абхапіўшы край паўразбуранай печы, на якой з-пад дымных плям яшчэ дзе-нідзе віднелася пабелка, заенчыла:

— Змітро-о!.. О-о-о...

Волька, пачуўшы енкі маці, загаласіла, залямантавала. Валодзька напалохаўся, адразу забыўся пра свой грымотны ліст, закрычаў:

— Ма-ам, ма-а-ам!

Як ні горка было Аўдоцці, яна адразу пачула гэты голас і падняла сумотны, спакутаваны твар да дзіцяці. Хвіліну глядзела на сына няўцямна, як непрытомная. Потым паволі паднялася, падышла да хлопчыка і ўзяла яго на рукі.

— Чаго ты, дурненькі? Чаго, малы?.. Забыліся ўсе пра цябе, пакінулі.

Валодзька прыціснуўся тварам да матчынай кофты і перастаў плакаць.

— Я, мама, есці хацю!

Яна дастала зачарсцвелы, як камень, кавалак хлеба, адламала акрайчык, і Валодзька, умінаючы яго, павесялеў.

— Пліедзе тата. Ён тут злобіць дом, вялікі!.. Як... як глусы!..

— Зробіць,— сказала Аўдоцця, утрымліваючы рыданні. Яна з тугою азірнулася.

Неспадзеўкі Аўдоццю ўразіла тое, што за папялішчам некалькі ўцалелых ігрушак буялі яркай вясновай зелянінаю, бела-ружовым цветам! Дзівам уцалелыя ад пажару, яны ў сваім белым адзенні пазіралі весела, радасна!

У Шабуніхі мімаволі мільганула думка, як не ў час прыбраліся гэтыя ігрушкі. І ўсё-такі ёй было добра бачыць, што нават тут, каля папялішчаў, дрэвы цвітуць. Іх цвіценне ніішто не магло спыніць.

Яны жывуць, цвітуць!..

4

Да Тураўца падступіў нахмураны, з віхарком, з доўгімі рукамі хлопчык, кінуў насцярожана позірк.

«Гэта ж сын Шабуні!» — пазнаў камісар, які некалькі разоў заходзіў у хату камандзіра роты і ведаў яго сям'ю.

— Што добрага скажаш, таварыш Шабуня-меншы?

Тураўцу кінулася ў вочы недзіцячая сур'ёзнасць хлопца.

— Вазьміце ў партызаны! — выпаліў адразу, без якога-небудзь тлумачэння, Андрэй.

— Ты што гэта, Андрэй? Ты... сур'ёзна?

— Сур'ёзна. Вазьміце.

— Не, брат, ты гэта жартуючы. Праўда, жартуючы? Вось малайчына,— прыдумаў дык прыдумаў!

Андрэй ад Тураўцовага смеху нахмурыўся яшчэ больш.

— Вазьміце.

Камісар звёў бровы:

— Сур'ёзна, значыцца...

Туравец усім сваім выглядам паказваў, што задача гэтая не абы-якая. Трэба добра падумаць.

— Гм, задаў ты мне задачу. А маці твая, таварыш Шабуня, ведае пра гэта? — неспадзявана пацікавіўся камісар.

Хлопчык вінавата апусціў вочы і не адказаў нічога.

— Не ведае? Ну вось, бачыш. А мы без дазволу маці не прымаем нікога. Абавязкова трэба, каб маці дазволіла. Бо які ж гэта партызан, што самавольна ўцякае ў атрад, наперакор маці? Тут ты, Андрэй, проста парушыў дысцыпліну, а ў нас дысцыпліна самая ваен-

ная. Ніхто нічога не мае права рабіць без камандзірскага дазволу. Ды і наогул трэба шкадаваць маці, бо, можа, яна там цяпер трывожыцца па табе, думае, што, можа, ты прапаў...

— А калі я... калі яна скажа, што можна?

— Калі дазволіць? — Туравец развёў рукі, не ведаючы, што сказаць.— Лепш бы ты, Андрэй, усё ж пабыў пры маці. Ведаеш, як ёй цяпер патрэбна падмога?..

— Я яе папрашу! — упарта прамовіў малы, нібы не чуючы апошніх слоў Тураўца.

«Э, а ты незгаворлівы!.. Нічога, маці, напэўна, цябе хутка ўломіць, калі ты аб'явішся!.. Я яе ведаю!» — падумаў Туравец.

— Што ж, папрасі. Дазволіць — тады іншая рэч. Тады прыходзь, пагаворым. Толькі — каб маці дазволіла!..

Гадзіны праз дзве Андрэй, пануры, затоены, уваходзіў на родны двор, да якога ад брыгаднага лагера было кіламетраў восем ці дзесяць. Маці на двары гатавала абед. Яна адразу заўважыла, што сын нечым вельмі ўзрушаны.

— Што гэта з табой, сынчык? Ці не пакрыўдзіў хто?

Ён паглядзеў з-пад нахмураных, ледзь прыкметных залацістых броваў, але не адказаў. Ведаючы ўпарты сынаў характар, Аўдоцця больш не пыталася.

Пасля доўгага маўчання сын неспадзявана папрасіў:

— Ма-ам! Пусці-і!

Яна здзіўлена і крыху ўстрывожана паглядзела на яго. Куды яго пусціць. З патрабавальнага тону гаворкі маці адчула, што яго жаданне вельмі моцнае. Запыталася, хаваючы трывогу, куды ён просіць пусціць.

З адказу Аўдоцця зразумела, што ён быў у атрадзе.

— Ты малы яшчэ, Андрэй. У партызаны прымаюць дарослых, дужых людзей, а табе яшчэ і трынаццаці гадоў няма. Табе тую вінтоўку і несці будзе цяжка, ты думаеш, яна лёгкая? Там аднаго жалеза, можа, паўпуда. А то ж да вінтоўкі яшчэ і патроны трэба. І ўсё гэта на твае худзенькія, кволыя плечы, сыночак. А якія яны пераходы вялікія робяць, ты ж бачыў — па пяцьдзесят і болей вёрстаў. Дужыя дзядзькі і тыя ад утомы ледзьве ногі іншы раз валакуць. А ты ж і без таго па-

блажэў, учарнеў, умарнеў... Ты ж кволы, як той каласок... Ты малы яшчэ, цябе не прымуць.

— Ён гаварыў, пры́ме, абы ты пусціла. Пусці!

Яна сказала з дакорам, што ён зусім не думае пра Валодзьку і Вольку, і пра яе, маці.

— Цяпер, калі бацькі няма, Андрэй, трэба, каб ты дапамагаў мне, бо ты ж цяпер самы старэйшы ў сям'і. Ты цяпер усё роўна як гаспадар, пра ўсё павінен клапаціцца. Сястра, яна што можа зрабіць? Валодзька зусім малы, неразумны, за ім увесь час трэба глядзець. А я сама старая ўжо, слабая стала, не тое што бывала раней. Уся надзея на цябе, Андрэй! На цябе аднаго...

Хлопец слухаў гэта ўсё, апусціўшы галаву. Калі маці скончыла, ён падняў вочы на яе:

— А як ты адна, калі бацька жыў, была? Ты ж спраўлялася з усім? Так і без мяне пераб'ешся.

Маці заплакала.

— Маё сэрца яшчэ баліць па тваім бацьку... Я не хачу трывожыцца за цябе. У мяне і без гэтага гора даволі.

Хлопец не адказаў, але ў яго не па-дзіцячы суровым, халаднаватым позірку яна ўбачыла, што ён не пахіснуўся. Адчула, што ён не адступіцца.

«Упарты! Увесь у бацьку пайшоў!» — падумала яна з сумам і любоўю. І, мусіць, таму, што яна вельмі любіла Андрэя, што хацела бачыць сына радасным, нечакана прыцягнула яго да сябе, моцна і пяшчотна прыціснула, потым, вызваліўшы з абдымку, сказала:

— Што ж, відаць, так трэба... Ідзі!

Андрэй адразу заззяў ад шчасця. Нахмураныя бровы разышліся. Ён прытуліўся да яе тварам, стаў чула супакойваць:

— Ты не крыўдуй, мама. Я не на ўвесь час іду ад цябе, а пакуль толькі вайна будзе. А як прагонім фашыстаў, я адразу вярнуся дахаты. Акрамя таго, я ж буду заходзіць, памагаць!

— Заходзь, сынчык, заходзь. Я рада буду.

— Мам,— сказаў ён, узрушаны.— Я хачу быць такім, як тата.

Пачуўшы апошнія словы, маці здзівілася. Прыгледзелася ўважліва да яго, нібы даўно не бачыла або нібы перад ёй быў незнаёмы. Аўдоцця ўсё яшчэ лічыла яго маленькім. Яна і не заўважыла, як ён вырас. І вось

цяпер Аўдоцця ўбачыла перад сабою сталага, разважлівага чалавека, малога мужчыну.

У гэтую хвіліну ёй успомнілася, за туманам даўнасці, маладосць Змітра. Той такі ж быў. Такі ж непакорны віхорчык над ілбом і рашучы, халаднаваты позірк, такая ж настойлівасць і сардэчнасць.

Зноў прыціснула сына да грудзей, паўтарыла:

— Ідзі!

## 5

Не развітваючыся з малымі, ён паважна, паводзячы, як бацька, плячыма, выйшаў з двара і закрочыў па вуліцы. Аўдоцця сачыла за ім, чакала, што, можа, гляне назад, махне рукою. Але ён не азірнуўся.

У брыгадзе Андрэй адразу знайшоў камісара і аб'явіў, што ўсё зрабіў як трэба,— маці адпусціла. Сказаўшы, што цяпер — іншая рэч, нават нявесела пахваліўшы за дысцыплінаванасць, Туравец накіраваў хлопца «ў партызаны», у гаспадарчы ўзвод. Андрэй прыкметна ўзрадаваўся, але радасць сваю выказаў скупа, стрымана.

«Хлапчына, відаць, з характарам»,— падумаў Туравец [illegible] бацькоўскай пяшчотаю, пазіраючы ўслед Андрэю. Няхай пакуль у гаспадарнікаў абжывецца, прывыкне, а там паглядзім, можа, перавядзём у разведку ці куды. Трэба будзеназіраць за сіратою, дапамагчы, пакуль абвыкне і пасталее, прыгледзець, каб не крыўдзілі яго ва ўзводзе.

Туравец стаў займацца сваімі справамі і, лічачы, што з ім усё ўладзіў, на час забыўся пра маладога партызана.

Але на гэтым не скончылася. Хутка Шабуня-меншы стаяў перад камісарам зноў, нахмураны і незадаволены.

— Што такое, таварыш Шабуня? Што засмуціла? Пакрыўдзілі цябе ва ўзводзе?

— Не.

— Дык што ж засмуціла?

— Я хачу — у сапраўдныя партызаны.

— У сапраўдныя? У якія — сапраўдныя? Яны і ёсць — самыя сапраўдныя!

— Не.

— Адкуль ты гэта ўзяў! Не, брат, яны — сапраўдныя. Яны, брат, робяць самую важную справу. Самую

адказную справу ім даручылі — гаспадарку. У партызанах, Андрэй мой дарагі, гэта першая справа. Дарэмна ты падумаў, што яны — несапраўдныя. Дарэмна! Ты вельмі памыліўся!

У Шабуні-меншага на гэта быў іншы погляд.

— Сапраўдныя! Якія яны сапраўдныя!.. Не ваююць, а толькі сядзяць у лесе! Бульбу чысцяць ды булён вараць. Так «ваююць» і жанкі ў сяле. Я хачу ў такі ўзвод, дзе ваююць.

Каб пераканаць камісара, ён сказаў, што ўмее ўжо разбіраць аўтамат, ведае, як з ім абыходзіцца, вывучыў добра розныя сістэмы гранат — і нашыя, і трафейныя. Можа зараз, хоць з заплюшчанымі вачыма, разабраць і сабраць пісталет.

— Дзе ты навучыўся гэтаму?

— Бацька паказваў. Калі прыедзе дадому, я і пытаюся ў яго — адно, другое. А ён разбярэ аўтамат ці пісталет і раскажа, што да чаго. А пасля яшчэ правераць, ці зразумеў я. «Вучыся, казаў, сынку,— у наш век такое можа спатрэбіцца!»

Пачуўшы гэта, камісар задумаўся.

— Ну што ж, Шабуня-меншы,— сказаў ён інакш, сур'ёзна,— можа, і недарэмна бацька цябе вучыў. Хай будзе па-твойму, калі бацька так хацеў.— Пойдзеш у баявы ўзвод, у самы сапраўдны. Да Васі Крайко, у атрад Кутузава.

## РАЗДЗЕЛ III

### 1

Калі Васіль прыйшоў на сход, толькі што пачалі збірацца.

Чым больш збіралася людзей на паляне, тым больш расло ў ім хваляванне.

Ён адчуваў сябе ў цэнтры ўвагі. Хоць быў сярод таварышаў, здавалася, нібы сядзіць асобна і ўсе пазіраюць на яго.

Здавалася дзіўна, нібы глядзяць на яго не толькі людзі, а і вясновыя, у светлых шатах бярозы, і строгія, у цёмнай суровай зеляніне яліны, што акружалі палянку.

Пад адным з трох маладых раскідзістых дубкоў, яшчэ голых, без лісця, што выступілі амаль на сярэ-

дзіну палянкі, стаяў стол на козлах, збіты з жэрдак, абчасаных сякераю, нязграбны стол гэты здаваўся Васілю таксама збудаваннем асаблівага значэння.

За гэтым сталом, помніў Васіль, павінен быў вырашыцца яго лёс. З хваляваннем сачыў Васіль, як за стол зайшоў Туравец, як выбіралі прэзідыум. Хваляванне ўзнялося, калі выбраныя паселі за стол і Туравец сабраўся гаварыць. Васіль адчуў, што вось зараз і пачнуць разбіраць яго заяву. Але Туравец загаварыў пра іншае.

— Таварышы,— Туравец сціх, стаяў момант моўчкі, журботна стуліўшы плечы. Глядзеў журботна ўніз.— За апошні час, у баях... загінулі нашы таварышы, камуністы... Змітро Шабуня. Васіль Крывец. Сухаверхаў Аляксей...

Ён гаварыў павольна, здушаным голасам, важка вымаўляў прозвішча за прозвішчам. Цяжка, незвычайна цяжка было называць камісару прозвішчы і імёны загінуўшых. Вымаўляючы іх, Туравец ніжэй і ніжэй апускаў галаву, як бы на яго лажыўся ўсё большы цяжар. Гаварыў ён няголасна, але ў радах, дзе сядзелі людзі, стала так ціха, што кожнае слова як бы звінела, даходзіла да ўсіх, да самых далёкіх. Яшчэ да таго, як Туравец скончыў называць імёны, да таго, як ён сказаў: «прашу ўшанаваць памяць», некаторыя пачалі ўздымацца, здымаць шапкі.

Некалькі хвілін стаялі моўчкі, нязрушна, хмурна глядзелі перад сабой. Не маўчаў, хадзіў толькі вецер — варушыў валасы, шапацеў журботна ў лісці.

Мімаволі слухаючы гэты шэпт бяроз, Васіль раптам адчуў, што напамінак аб тых, хто загінуў у блакадзе, мае блізкую сувязь з яго лёсам, яго заявай.

Доўга пасля таго, як апусціліся на сядзенні з жэрдак, на палянцы яшчэ панавала журботная цішыня.

Калі пачаўся прыём, да стала выклікалі Ермакова, што паступаў у члены партыі. Ледзь ён, стройны, зухаваты, у святочнай гімнасцёрцы, з партупеяй, са шпорамі, маленькімі, фарсістымі, якія ён па даўняй артылерыйскай звычцы насіў ва ўрачыстыя дні, выйшаў да стала, каб расказаць сваю біяграфію, па радах прайшлося:

— Не трэба! Ведаем! Чаго тут гаварыць?

Але нечы моцны голас прабурчаў:

— Ведаем! Хто ведае, а хто і не!..

— Няхай раскажа!

— Ды падрабязна каб! А не як анкету!..

Туравец папрасіў камандзіра брыгады расказаць біяграфію. Падрабязна.

Ермакоў кіўнуў, правёў рукой па партупеі. Нейкі час думаў, пэўна — з чаго пачаць.

— Я лічу ваенную справу асновай свайго жыцця,— значна аб'явіў ён.— З самых малых год я марыў стаць ваенным. Ну, у маленстве ўсе, вядома, гуляюць «у вайну». Я таксама любіў «ваяваць»...

— Ужо тады «камандаваў»?

— Быў такі грэх!..— Ермакоў ахвотна ўсміхнуўся, паблажліва пакпіў з сябе.— У школе я хадзіў у ваеннай дзядзькавай гімнасцёрцы. У Асаавіяхіме доўгі час быў, школьнай арганізацыяй кіраваў. У розных спаборніцтвах удзельнічаў, прызы меў... Запаветнай маёй марай тады было — стаць лётчыкам. Я прачытаў гару кніг па авіяцыі. Даўні грэх, можна прызнацца,— фарсіў тады рознымі авіяцыйнымі слоўцамі, як «атэрысаж», «ланжэрон»... Усе мае школьныя таварышы былі перакананы, што з мяне выйдзе баявы лётчык... Пасля дзевятага класа я, вядома, падаў заяву ў авіяшколу, урачыста развітаўся з усімі. Быў упэўнены, што мяне абавязкова прымуць! Але я адразу ж зрэзаўся!

— Экзаменаў не вытрымаў! — здагадаўся, паспачуваў нехта.

— Падвяло сэрца!.. Што ж заставалася рабіць? Такія, як я, няўдачнікі параілі пайсці ў артылерыйскае вучылішча. Яно было ў тым жа горадзе. Я спачатку і слухаць не хацеў. У тыя дні я проста ненавідзеў гарматы... Але іншага выбару не было. Вярнуцца назад я не мог, не дазваляла самалюбства. Прыйшлося падацца ў артвучылішча, вядома, затаіўшы надзею,— на наступны год выбраць што-небудзь больш да душы, бліжэй да авіяцыі... Аднак у вучылішчы здарылася тое, чаго я не чакаў. Я палюбіў артылерыю. Палюбіў не так, як іншыя любяць цешчу, а — па-сапраўднаму, усёй душой. Словам, рашыў, што «бога вайны» не праменяю ні на што!..

Ён, відаць, падумаў, што разгарнуўся не ў меру, і стаў гаварыць стрымана, суха:

— Да пачатку вайны, як у анкеце напісана, я служыў у Кобрыне камандзірам батарэі. Калі адступалі,

за Бабруйскам быў кантужаны выбухам бомбы... Кантужаны, я трапіў у палон.— Ермакоў сказаў гэта, адчувалася, вінавата і, нібы апраўдваючыся, пасяшаўся дадаць: — Адтуль я, вядома, праз месяц уцёк з некалькімі таварышамі ў лес, дзе стварыў невялікую партызанскую групу. Тут я дванаццатага верасня спаткаўся з атрадам таварыша Тураўца і далучыўся да яго...

Ермакоў змоўк, развёў рукі і выглядам, які значыў: пра ўсё іншае вы ведаеце.

З месца ўзняўся партызан і папрасіў Ермакова расказаць больш дакладна, як ён трапіў у палон і як ён вызваліўся.

— Так, гэта трэба растлумачыць,— згадзіўся Ермакоў.

Па-ваеннаму коратка, сцісла, нібы паведамляючы план аперацыі, ён сказаў:

— Пасля кантузіі я страціў прытомнасць. Што было далей, не ведаю, бо ачнуўся я ўжо ў палоне... Каля мяне былі немцы... Мяне адвезлі ў лагер пад Бабруйск, за калючы дрот, дзе я і быў некаторы час... Я два разы ўцякаў. Першы раз спрабаваў адтуль, з лагера. Але ўцёк быў няўдалы — мяне злавілі і збілі. Збілі па-зверску. Проста сказаць, ледзь не да смерці. Але я не паддаўся. Калі папраўся, паспрабаваў шчасця ў другі раз. Тады нас, палонных, перавозілі па чыгунцы. На хаду поезда, з некалькімі палоннымі, выламаў падлогу ў вагоне і выкінуўся на шпалы... Пабойваўся, канечне, што разаб'юся ці пад колы траплю. Але — абышлося...

— Яшчэ ёсць пытанні?

— Усё зразумела. Галасаваць! — нецярпліва крыкнуў нехта з месца.

Але ў аднаго партызана было яшчэ пытанне.

— Няхай раскажа пра сваё сямейнае становішча...

Камбрыг, што здаралася з ім вельмі рэдка, збянтэжыўся. Пытанне задалі, відаць, невыпадкова: хадзілі гаворкі, што ў яго ёсць у эвакуацыі, у Казані, жонка і сын, а ён, калі быў у разведцы, жыў з адной дзяўчынай.

Цяпер вось пачаў нешта часта сустракацца з Валяй Залескай.

Успамін пра Валю, пра тое, як убачыў апошні раз яе з Ермаковым, вымушаў Васіля сачыць увесь час за

Ермаковым з прыкрасцю і непрыязнасцю. Пасля ж пытання пра сямейнае становішча, у якім Васіль улавіў як бы крыўдны намёк, ён зніякавеў зусім. Адчуў, як гарыць твар.

— Што казаць,— прамовіў камбрыг, стараючыся гаварыць спакойна. — Былі грахі. Усе вы ведаеце... Было такое. У партыю нельга ісці з грахамі. Я абяцаю, што ўсё тое, што было, не паўторыцца. Даю цвёрдае слова.

Сталі галасаваць. Дзесяткі рук узняліся ўгару, нядружна, але ўпэўнена. Супраць не галасаваў ніхто.

Потым прымалі Ніну. Яна, хвалюючыся, крыху паспешліва расказала пра сваё жыццё да атрада, і Васіль упершыню даведаўся, што яна з Мінска, што ў яе на руках было малое дзіця.

— Калі дачка крыху падрасла,— гаварыла Ніна,— стала трохі вольнага часу... Я пачала прыглядацца да сваіх сяброў, ці не звязаны хто з іх з падпольшчыкамі... Знайсці іх след удалося не адразу: у іх была добрая канспірацыя... Аднойчы я пра сваё жаданне шчыра загаварыла з Колем Сініцай. Мы з ім да вайны разам вучыліся ва універсітэце... Мне чамусьці здавалася, што ён — не можа быць, каб не быў знаёмы з падпольшчыкамі... Коля мне і памог звязацца з падпольнай арганізацыяй. Ён, вядома, мне нічога не сказаў пра арганізацыю, а проста, на першы раз, даў некалькі лістовак, расклеіць ці раскідаць на відных месцах. І папрасіў дастаць бінтоў для перавязкі. Я ўсё гэта зрабіла. Тады мне сталі даручаць больш важныя справы... Аднойчы я трое сутак хавала на сваёй кватэры падпольшчыкаў...

Ніна на міг запынілася, напэўна, успомніла штосьці сумнае.

— Неяк у нас здарылася бяда. Гэта было, помню, у маі... Колю арыштавалі. І амаль у адзін час з ім яшчэ некалькі нашых... Нас гэта вельмі ўстрывожыла. Мы непакоіліся, што гестапа выкрыла ўсю арганізацыю. Адным словам, чакалі самага паганага. У мяне якраз хавалі падпольную пішучую машынку, на якой лістоўкі друкавалі. Я яе адразу закапала. І ўсё, што магло паказацца падазроным, таксама схавала... Але ўсё — абышлося, гестапа не ўзяло больш нікога... Хлопцы вытрымалі ўсё, не выдалі... Коля памёр у гестапа ад катаванняў...

Яна хітнула галавой, нібы адганяючы ўспаміны. Заспяшалася, як бы схамянулася, што трэба канчаць.

— І пасля — рабіла ўсё, што даручалі. Расклейвала адозвы, перадавала савецкія газеты і брашуры... Некалькі разоў выводзіла людзей да партызан... Адзін раз вывелі палонных камандзіраў, якім дапамаглі ўцячы з лагера. Потым — прафесара Горкіна.

Ледзь яна сціхла, грубаваты мужчынскі голас запытаўся:

— Дзе цяпер дачка?

— Дачка з мамаю маёй...

— Даўно не бачыліся?

— Другі год... Як прыйшла сюды...

Калі Ніна гаварыла гэта, голас яе дзіўна нацяўся, задрыжаў.

«Вось чаму яна так любіць дзяцей!» — падумаў Васіль.

З таго, што гаварылі пасля пра яе, Васілю асабліва запомніліся словы Дразда, чалавека вельмі стрыманага і скупога на пахвалу.

— Я скажу, як Лагуновіч вяла сябе ў блакадзе... На выгляд яна, усе вы ведаеце, як бы ціхая, нясмелая. А калі пад Савічамі нас прыціснулі да балота, што дыхнуць нельга, як яна трымалася? У апошняй групе, у Шабуневай роце, засталася!.. Тады, калі наш Змітро Мікалаевіч, добрая памяць яму, загінуў... І трымалася, можна сказаць, па-геройску!.. Гэта мне спадабалася!.. Потым мы цэлы дзень выбіраліся з балота, лезлі, як чэрці, па твані, па лазе, яна ўвесь час даглядала раненых. Яна тады ўжо трымала сябе, можна сказаць, як камуніст. Усе, хто быў там, могуць гэта пацвердзіць...

— Памятаем! Было такое!..— пачуліся галасы.

Усё адбывалася нібы проста, але ад гэтага ніколькі не трацілася адчуванне важнасці і ўрачыстасці падзеі...

За Нінай выклікалі Васіля.

Стоячы ля стала, Васіль нялёгка слухаў сваю заяву. Тое, што яе чытаў не ён, а іншы чалавек, чытаў на людзях, надавала словам яго заявы нейкае нязнанае значэнне. Ён нібы пазнаваў і не пазнаваў сваю заяву — родныя словы, якія ён пісаў сэрцам сваім.

Стоячы адзін перад усімі, ён сустракаўся з позіркамі людзей, яны глядзелі на яго, здалося яму, нібы на іспытах, пільна, патрабавальна. Ад гэтага на нейкі час у Васіля з'явілася адчуванне як бы няпэўнасці

свайго становішча. Быццам шукаючы падтрымку, ён знайшоў лагодныя, прытоена-радасныя вочы Ніны, і ад яе позірку адчуў сябе лягчэй, цвярдзей. Ён мелькам заўважыў, як весела, падбадзёрліва падміргвае яму Шашура: «Усё будзе добра. Смялей, Вася».

— Нарадзіўся ў тысяча дзевяцьсот дваццаць шостым годзе...

Васемнаццаць год! Па людзях прайшоўся гоман. Васіль не адразу зразумеў, што значыць гэты гоман, прыпыніўся ніякава. Але ўсе ўсміхаліся зычліва.

Усім здавалася, што ён намнога старэйшы.

— Вучыўся ў школе, але не скончыў. Перашкодзіла вайна... Матку расстралялі немцы... Сястру пагналі ў Германію... Два браты ў арміі. Што з імі, не ведаю...

Голас яго рваўся ад хвалявання, ён хапаўся, за якую-небудзь хвіліну хлопец выпаліў увесь свой нядоўгі жыццяпіс. Скончыў і раптам разгубіўся: гэта ўсё?

— Быў таксама ў нямецкім лагеры,— перамог ён сябе, нібы павінаваціўся.— Калі матку расстралялі, нас кінулі ў лагер. Мяне і сястру. Але я — уцёк...

— Знаем! І не забылі, як ты брыкаўся, калі бралі ў партызаны! — падчапіў яго Шашура.

— Я не ведаў, хто вы! — зніякавеў Васіль.

Па радах пайшоў смех, і Васіль зусім збянтэжыўся... Што б яшчэ дадаць?

— У іншых групіроўках не ўдзельнічаў,— прыйшло чамусьці на язык.

Зноў пайшлі смешкі. Нечы звонкі голас весела запытаў:

— А ў белай арміі не служыў?

— У белай я ўсё роўна не быў бы. А ў Чырвонай гвардыі біць белых не давялося.

— Спазніўся нарадзіцца...

— Затое б'е фрыцаў,— падтрымаў з-за стала камісар.

Васіль вярнуўся на сваё месца, а партызаны, што выступалі цяпер, пачалі ўжо гаварыць пра яго жыццё, пра яго баявыя ўчынкі. З іх слоў выходзіла, што Васіль — ці таварыш Крайко, як яго іменавалі, чалавек, варты таго, каб быць у партыі. Праўда, камандзір ён малады, але не ўступіць і іншым старэйшым, недарма ж узвод, якім ён камандуе, сярод лепшых у атрадзе. У Крайко можна павучыцца не толькі адвазе, але

і сціпласці... Многа чаго прыгадалі людзі добрым словам, і Васіль упершыню нібы зірнуў на сябе вачыма іншых, адчуў радасны ўздым. Адчуў сябе зусім добра.

З павагай гаварыў пра яго і камісар, але зазначыў, што Васілю трэба вучыцца камандаваць, што ён, бывае, замест таго каб кіраваць людзьмі, бярэцца сам за справу, якую належыць рабіць іншым, падначаленым, і ў выніку выпускае з рук узвод. Здзівіўшы Васіля, Туравец, праўда, лагодна папракнуў таварыша Крайко за тое, што ён пакінуў узвод, калі адбівалі нямецкія танкі каля Савіч,— папоўз да танка сам, хоць было загадана паслаць каго-небудзь з партызан...

І вось Дрозд, старшыня сходу, устаў з-за стала, каб падлічыць узнятыя рукі.

— Аднагалосна,— аб'явіў ён задаволена.— Апусціце рукі.

Ашчасліўлены ўсім, што адбылося, павагай і любоўю ўсіх, Васіль з раптоўнай удзячнасцю і незвычайным жаданнем дзейнічаць падумаў: што б у адказ зрабіць такое, асаблівае што-небудзь, каб усе ведалі, што недарэмна гаварылі пра яго так добра, што ён варты іх веры і павагі. Нічога такога належнага ён у гэты момант не прыдумаў. Рацыя, якую ён знайшоў у пабітай нямецкай машыне і якую ўзяўся направіць, справа ўсё ж дробная для такой аддзякі. Не тое.

Перад блакадай ён увесь вольны час важдаўся з падбітым бронетранспарцёрам, але цяпер Васіль не знайшоў яго на знаёмым месцы. Немцы, відаць, забралі. Знайшоў вось сапсаваную рацыю, рацыя таксама рэч патрэбная, але ўсё-ткі не раўня. Не тое. Але ён падумае, ён знойдзе, як адказаць на дабро людзей...

На перапынку, акружыўшы Васіля, людзі наперабой віншавалі яго, цiснулі руку, сябры гарэзліва штурхаліся, ляпалі па плячах. Падышоў і Туравец.

— Мне таксама можна далучыцца да тых, хто віншуе?

— К-калі ласка!.. Дзякую.

Пацiснуўшы руку, камісар сказаў:

— Можа, пройдземся? Пагуляем?..

Ён узяў Васіля за локаць, і яны пайшлі паўз дубкі, між людзей, што таксама праходзіліся, гаманілі.

— Прынялі, выходзіць? — жартаўліва запытаўся Туравец.

Васілёў твар ззяў:

— Прынялі.

Туравец пастаяў, акінуў вачыма маладую, такую кволую і светлую, але з адламаным ралам бярозу.

— Вецер, ці што... адарваў?

— Мусіць, вецер.

— Помніш раніцу?.. Калі на варце быў? — зірнуў на Васіля Туравец.

— Помню, таварыш камісар...

— І што казаў, не забыў? — Туравец сам нагадаў: — Што Шабуня — камандзір незаменны...— Ён нібы падумаў уголас: — Так, кожны чалавек, можна лічыць, незаменны. Гэта — праўда... Але людзі — не вечныя. Асабліва ў гэтыя дні...— Туравец раптам спахмурнеў, задумаўся, як бы ўспомніў штосьці. Але адолеў задуменнасць, вярнуў сябе да гаворкі.— Ты якраз і прыйшоў замяніць... Камуністы заўсёды на першай лініі, а ў тых, хто наперадзе, не можа быць няпоўных радоў. Як і ў арміі, якая ваюе. Калі радзеюць рады, армія слабее... А нам слабець не выпадае...

— Я, таварыш, камісар, не падвяду!.. Толькі хіба — могуць сказаць — малады... Зялёны...

— Малады? Так, малады... Ну, ды маладосць — не вялікая бяда.— Вочы Тураўца заблішчалі.— Толькі хто табе сказаў, што ты зялёны? Ты колькі ўжо ў партызанах?

— Трэці год.

— Трэці год! А кажаш, зялёны. У нас тыя, што па трэцяму году служаць, я чуў, лічацца «старымі». Та-ак, твайму пакаленню якраз і давялося падарослець і памужнець раней пары.— Ён, памаўчаўшы, зноў тоячы неспакой, дадаў: — У мяне сын, Юрый, служыць у арміі. Ён твой равеснік...

Пасля перапынку, ледзь прыціх гоман на паляне, камісару далі слова для даклада пра задачы брыгады.

— Перш за ўсё,— пачаў ён, стоячы каля століка, шчуплы, дробны, але жылісты,— перш за ўсё — і гэта мы павінны лічыць за самы галоўны свой абавязак — трэба зноў адваяваць у немцаў усю зону. Якой яна была да блакады. І ўстанавіць савецкую ўладу. Усюды, па ўсёй зоне!

— Правільна! Гнаць нечысць! — горача выдыхнуў нехта недалёка ад Васіля.— Вымятаць к чорту.

Камісар сказаў, што некалькі вёсак ужо вызвалена,

ён назваў і тую, у якой быў Васіль. Праўда, галоўнае, гаварыў камісар, яшчэ наперадзе,— пакуль разбіты невялікія гарнізоны. Але і ў большых гітлераўцы не ўседзяць. «Не ўседзяць!» — падтрымаў камісара ў думках Васіль. Ад радаснага ўзрушэння ён быў больш, як звычайна, неспакойны і здаваўся сабе дужэйшым.

Яму хацелася, каб граміць гэтыя вялікія гарнізоны абавязкова паслалі і яго з узводам. Ён бы там паказаў, як трэба біць арыйскую поскудзь!

— Другая задача — сяўба,— гаварыў далей Туравец.— Людзі запазніліся з ёю — запазніліся, як вы ведаеце, не па іх віне. Нам трэба дапамагчы ім. Не марудзячы ні дня, мы павінны пачаць сеяць... Задача гэта — таксама вельмі важная, адказная, жыццёвая. Гаворачы па-партызанску — наша другая баявая праца... Сёння мы больш, чым калі-небудзь, павінны глядзець у заўтра. Усе вы ведаеце, што хутка, відаць, вельмі хутка — мы выйдзем насустрач нашай роднай Чырвонай Арміі. Нямецка-фашысцкія банды, што залілі нашу зямлю крывёю, хутка будуць гераічнымі савецкімі войскамі з дапамогай партызан і народа — з ганьбай выгнаны. Усё, што мы пасеем зараз, таварышы, узрасце для нас! Мы будзем сеяць пры акупантах, а прыбіраць на вольнай зямлі!

Апошнія словы камісара патанулі ў гарачых воплесках партызан. Прыбіраць на адваяваным полі, на вольнай зямлі! Хіба маглі быць спакойнымі людзі пры адной думцы пра той час!

Яны столькі марылі пра гэты жаданы і нібы неймаверны дзень, марылі, як аб непараўнанай казцы, столькі чакалі,— і вось ён так блізка, так рэальна паўстае перад імі са сваімі турботамі і клопатамі.

— Але,— сказаў Туравец,— сеяць у гэтую вясну будзе цяжэй, чым калі-небудзь. І не толькі таму, што сяўбу мы пачынаем позна і яе трэба зрабіць як мага хутчэй. Не, яшчэ і таму — і гэта, мусіць, галоўнае,— што мала коней, не хапае плугоў, усяго самага неабходнага. Мала людзей у вёсках. У некаторых сёлах, спаленых пры блакадзе, няма ніводнага плуга, ніводнай бараны на паўсотню, сотню сем'яў. Калі раней людзям наша дапамога патрэбна была — ці яны сеялі, ці прыбіралі,— то цяпер многія пасеяць без нас, без нашых рук і нашага цягла, проста-такі не змогуць. Калі мы не падтрымаем людзьмі, коньмі, насеннем, працай

сваёй, многія сем'і будуць галадаць... Нам трэба выратаваць іх!

Тыя, што выступалі пасля камісара, дапаўнялі яго, давалі свае парады, выказвалі свае прапановы. Васіль уважліва, цікаўна і прагна прыслухоўваўся да кожнага слова. Ён адчуваў, што з гэтага сходу поле яго дзейнасці і абавязкаў незвычайна пашырылася. Цяпер ён адказваў не толькі за свой узвод, а і за ўвесь атрад, нават за ўсю брыгаду. Мала таго, што пра баявыя справы, яму вось і пра веснавую сяўбу трэба было цяпер дбаць.

Пра многае-многае трэба было яму цяпер клапаціцца! Усё, што раілі і патрабавалі камісар і іншыя, хто выступаў за ім, Васіль, не вагаючыся, адносіў да сябе: ён жа цяпер не толькі наогул, па партызанскай, але і па партыйнай частцы быў з Тураўцом, з Драздом, павінен быў ісці з імі, наперадзе.

«Я таксама — партыец, камуніст»,— думаў, адчуваў ён з нейкай асаблівай яснасцю.

Гэтае званне даўно, з маленства, блізкае, роднае было яшчэ трохі нязвычнае ў дачыненні да яго самога. Але ўжо жыло ў ім, абавязвала яго.

## 2

Пасля партыйнага сходу ў брыгадзе, якая, як і раней, вяла баі, пачалі рыхтавацца да сяўбы.

Усёй гэтай працай кіраваў Туравец: ён быў не толькі камісарам брыгады, але і сакратаром падпольнага райкома партыі.

Увесь першы дзень сакратар райкома рабіў, як сам казаў, рэкагнасцыроўку. З дзесяткам партызан, вылучаных яму для дапамогі, ён улічыў, колькі і дзе пасеяна ўжо, у каго ў вёсках ёсць коні, а таксама плугі, бароны і іншы неабходны інвентар.

На пільны ўлік, як самае важнае, Туравец узяў насенне, што ўцалела ў блакаду.

Асабліва турбаваўся ён пра спаленыя вёскі. У спаленыя вёскі трэба было даць не толькі коней, але і прылады для сяўбы, якіх у брыгадзе не было. Яшчэ на сходзе вырашылі прылады прывезці з іншых вёсак. Адрамантаваць абгарэлыя плугі, зрабіць бароны. На гэта паслалі ўсіх брыгадных кавалёў.

У першы ж пасля сходу дзень Туравец з Ермаковым склалі план палявых работ. Намецілі стварыць больш дзесятка груп з партызан, якія на нейкі час павінны былі стаць аратымі і сейбітамі. Кожнай групе вызначылі сваю вёску і канкрэтнае заданне.

Большасць партызанскіх коней на час сяўбы былі перададзены для работы на полі.

Спецыяльным загадам Ермакоў на час палявых работ забараніў партызанам браць коней у вёсках на будзь-якія патрэбы. Дазваляў браць толькі ў адным выпадку: калі неабходна будзе падвезці ў шпіталь параненага.

Ва ўсе вызваленыя вёскі разышліся агітатары расказаць аб апошніх рашэннях райкома і партыйнага сходу, аб значэнні сяўбы ў гэтым годзе.

З раніцы наступнага дня ўслед за агітатарамі ў вёскі выправіліся партызанскія групы...

На пустой, спаленай вуліцы Паплавоў у тую раніцу ціснуўся, гаманіў невялікі, сумны натоўп. У сярэдзіне яго, акружаныя купкай уцалелых у час блакады жыхароў, дымілі цыгаркамі некалькі партызан, стары, прызначаны часова старшынёй сельсавета, і Шашура. Падрыўнік з важным выглядам трымаў у руцэ спіс, выклікаў прозвішчы. Размяркоўваў партызан па брыгадах...

Ён явіўся да людзей ва ўсім баявым харастве. На плячы, ствалом уніз, вісеў, адліваючы сiняватай сталлю, ППШ, пры боку хістаўся трафейны «парабелум». Малаваты, старэнькі Шашураў пінжачок быў падціснуты камандзірскім поясам ■ наплечнымі рамянямі, што на спіне сыходзіліся накрыж; такія рамяні насілі кавалерысты. Над нагруднай кішэняю пабліскалі ўжо даволі пацёрты ордэн Чырвонага Сцяга і партызанскі медаль.

Скончыўшы размяркоўваць, Шашура важна заявіў:

— Вось усё пакуль. Больш вылучыць не маглі... Самі разумееце, якое ў нас, каліна-маліна, становішча — прыходзіцца трымаць у руцэ аўтамат... Адным словам, ваяваць трэба...

— Разумеем... і за тое дзякуй, што далі,— адказала Шабуніха між гоману іншых жанок.

— Ну, калі зразумела,— завяршыў задаволена Шашура,— можна, каліна-маліна, пачынаць...

Ён загадаў партызанам разыходзіцца рабіць.

У гэту раніцу баявы брыгадны падрыўнік быў падобны на калгаснага брыгадзіра, які дае людзям нарады. Такое параўнанне дзень назад, відаць, пакрыўдзіла б падрыўніка, але цяпер, адчуваючы важнасць сваёй пачэснай, хоць і цывільнай місіі, акружаны жанчынамі, якія з пашанай пазіралі на яго, ён нават ганарыўся, што яму даверылі такі клопат.

Павозкі з плугамі, што паблісквалі белымі нарогамі, пачалі раз'язджацца. За імі сталі разыходзіцца і жанчыны: адны падаліся за павозкамі, другія — да сваіх селішчаў. Між іх павольна рушыла і маўклівая Шабуніха.

Як і належыць начальству, Шашура прасачыў за ўсімі, выпраўляўся апошнім, калі падначаленыя аратыя ўжо раз'ехаліся. Тоячы гарэзныя іскрачкі ў вачах, ён сказаў невысокай, яшчэ маладой, але з плецівам маршчынак каля вачэй, жанчыне, што чакала яго:

— Камандуй, цётка Аксіння, куды кіраваць...

Апрача імя жанчыны ён пакуль ведаў толькі, што яе прозвішча — Палянічка.

Узяўшы лейцы, Шашура лёгка варухнуў імі, цмокнуў каню, і павозка кранулася. Неўзабаве яна ўехала на голае, выпаленае селішча. Селішча было падобна на ўсе іншыя ў гэтай вёсцы, але ўражлівы падрыўнік не стрымаўся:

— Эх, каліна-маліна, як вымелі, захрыбетнікі!

Чалавек практычнага характару, ён адразу ж адзначыў, што Аксінні ўсё ж пашанцавала больш, як некаторым суседзям: у яе ўцалеў невялічкі хлеў, які стаяў наводдаль.

У садку, побач з хлявом, пад абгарэлай маладой яблыняй заплакала раптам дзіця, і Аксіння подбегам кінулася да яблынькі. Ухапіўшы дзіця на рукі і пакалыхваючы, Аксіння стала супакойваць яго.

— А-а-а! Ну, чаго ты, што з табой! Ну, сціхні, сціхні, дурненькі,— пяшчотна гаварыла яна маломy. Усміхаючыся, яна паскардзілася Шашуру: — Такое неспакойнае, на хвіліну нельга адысці.

Каля яблыні стаяў кірпаносы хлопчык, спадылба пазіраў на незнаёмага чалавека. Хлопчык, напэўна, глядзеў дзіця. Перачакаўшы, пакуль маці сцішыць дзіця, Шашура папрасіў:

— Пакажы, куды ехаць. Каб час не марнаваць.

Аксіння пакінула дзіця з хлопчыкам, павяла падрыўніка да загона.

Спыніліся недалёка за сялом.

Дзе-нідзе загоны былі ўжо ўзараны, пэўна, яшчэ да блакады, людзьмі, большасць якіх цяпер ужо не жылі. Пааралі, не ведаючы, не думаючы, што сеяць і прыбіраць будзе ўжо хтосьці іншы, не яны самі...

Шашура перапрог каня, разуўся, зняў пінжак. Узяў аўтамат, закінуў за спіну. Прычапіў да боку і «парабелум». Паставіўшы плуг у пачатку загона, варухнуў лейцамі, цмокнуў. Конь нацягнуў пастронкі, нарог паслухмяна ўехаў у зямлю, і вільготная, свежая, з тлустым адценнем шэрая скіба сталаваліцца набок. Босыя ногі Шашуры ступілі ў мяккую халаднаватую баразну, грудзі пад сарочкай кранаў казытлівы майскі ветрык.

Прайшоўшы ў канец палоскі, Шашура налёг на ручкі, перавёў плуг на другі край загона і пакіраваў назад. У канцы загона яго чакала Аксіння.

— Ідзі. Глядзі дзіця,— сказаў ён па-гаспадарску.— Ды скажы, каб падсілкавацца чаго-небудзь прыдумалі... Святым духам, ведаеш, нядоўга працягнеш...

Яна нікольکі не здзівілася таму, што ён распараджаецца, і паслухмяна падалася дахаты. А ён адразу забыўся пра ўсё. Да чаго ж гэта добра — ісці босымі нагамі ў мяккай баразне, трымацца за плуг! Колькі часу ён не браўся за плуг!

Сонца падымалася ўсё вышэй на ясна-блакітным, з рэдкімі лёгкімі воблакамі небе. Станавілася горача. Сарочка памакрэла, асабліва пад пахамі і на спіне, ліпла да цела. Калі-нікалі няроўнымі, лагоднымі павевамі находзіў ветрык, песціў твар, халадзіў спіну.

Па ўсім полі спакойна, мірна хадзілі людзі. Баразну за баразной сабрана і заклапочана вёў Шашура, увесь аддаўшыся слодычы ціхай працы, спакою. Спакой быў у яго душы, спакой, здавалася, поўніў увесь навакольны свет. Гэта адчуванне спакою ўзмацнялі бесклапотныя, цудоўныя спевы жаўранкаў, якія нібы разліваліся і ў небе, і па зямлі.

Зрабіўшы некалькі кругоў, падрыўнік, аднак, з прыкрасцю заўважыў, што пачала дзервянець сагнутая спіна. Чым далей ступаў баразною, тым больш важчэлі стомаю рукі, ногі, знямелым рукам даводзілася па чарзе даваць адпачынак, трымаць плуг адной рукой.

«Вось што значыць адвыкнуць ад працы!» — падумаў ён здзіўлена і нездаволена.

Але жаўранкі ўсё спявалі ў небе і на зямлі, ён гэта чуў, і адчуванне спакою і міру ўсё жыло ў яго натомленым целе.

Пад поўдзень падрыўнік прыкмеціў здалёк дробную, хуткую постаць Аксінні і другую, незнаёмую; жанчыны нешта неслі ў клунку. Потым яны разышліся, тая, незнаёмая, падалася да таварыша поблізу, а Аксіння пакіравала проста да загона Шашуры.

Шашура быў ужо недалёка ад яе, калі з-за блізкага лесу не ў час вынырнулі два самалёты. Падрыўнік адразу кінуў плуг і рынуўся да каня, схапіў за вуздэчку. Ён ледзь управіўся схапіць за вуздэчку, як з гары пачулася, імкліва набліжаючыся, траскучая, злая кулямётная чарга. Няспынна страляючы, самалёты нізка, як бы прыгнятаючы да зямлі, прайшлі над полем: услед за імі прабег па палосках чорны цень. Конь хроп, ірваўся з рук, як ашалелы, але Шашура, амаль павісшы на ім, колькі сілы трымаючы вуздэчку, не выпускаў яго. Ён мог бы ўцячы далёка, параніць аб плуг ногі.

Самалёты зніклі ўдалечы, аднак неўзабаве паказаліся зноў. Вярталіся. Поле зацiхла, як перад навальніцаю, і ў насцярожанай цішыні моцнае татаканне кулямётаў здалося грымотным, асабліва пагрозным. Шашура ўбачыў наводдаль партызана, што цэліўся насустрач самалётам, і пашкадаваў, што ніяк абараніцца не можа ад самалётаў тут, у полі. «Эх, каліна, конь гэты зусім стрыножыў мяне!» — Шашура мімаволі ўцягнуў у плечы галаву, зноў нацяў рукі, не выпускаючы вуздэчкі. Самалёты прайшлі, здавалася, над самай галавою, аглушыўшы ровам матораў і стралянінаю.

Ён пастаяў, прыслухоўваючыся, пакуль не ўпэўніўся, што самалёты не вяртаюцца. Ціха крануўшы лейцамі каня, ногі ў якога ад нервовага напружання дробна дрыжалі, Шашура давёў плуг да канца паласы, спыніўся. Напалоханая, збялелая Аксіння сказала:

— Божа! І рабіць спакойна не даюць!

— Ведаюць, захрыбетнікі, што не возьмеш аўтаматам! На галаву садзяцца!..— Шашура ледзь не вылаяўся, але ў час схамянуўся.— Нічога, цётка Аксіння, бывае і горш. І — нярэдка!..

Ён распрог каня, пусціў пасвіцца. Пакуль ён вяр-

нуўся, Аксіння, як магла, адолела спалох, развязала клунак. Паслаўшы замест абруса ручнік, паставіла гладышку з малаком, міску з наздраватымі аладкамі.

— Папалудкуй, чым багаты!..

Шашура сеў на ўдзірванелым узмежку каля ручніка-абруса, задаволена пацёр рукі, паказваючы, што занятак, які яму трэба пачаць, ён вельмі любіць.

— Абед, можна сказаць, мірнага рэжыму! Дранікаў напякла! Як ты адгадала — я іх страх люблю!.. Ну што ж, пачнём без усякіх урачыстых слоў.

Ён ужо намерыўся пачаць, але перадумаў:

— Ведаеш што! Давай разам, удваіх! Каб весялей ішло і ахвотней! Дамовіліся?

Шашура, весела пазіраючы, працягнуў ёй кубак з малаком.

— Я абедала ўжо.

Аксіння, аднак, не стала адмаўляцца.

Ён піў проста з гладыша, вялікімі глыткамі і закусваў складзенымі ў дзве столкі дранікамі. Еў неспакойны падрыўнік так, як і працаваў,— спрытна, хутка, нібы спяшаўся і баяўся не ўправіцца.

Абцёршы далонню губы, не тоячы задавальнення, падзякаваў за пачастунак, пахваліў усё. Праўду казаў: полудзень здаўся яму вельмі смачным, і папрацаваў нямала, ды і жыць даводзілася апошнімі днямі галаднавата.

Пасля пачастунку належала на шчодрасць гаспадыні адказаць добрай гаворкай.

— Малайчына ты, ей-богу,— пахваліў ён яе.

— Ды ўжо ж, куды там! — сціпла адказала яна. Але падрыўнік адчуў: рада была, што пахваліў.

— Што гэта я не бачыў цябе раней? — здзівіўся ён.— Столькі разоў прыходзіў сюды, а не ведаў. Не бачыў.

— Не суджана, значыцца! — нявесела пажартавала яна.

— Муж, відаць, строгі?

Ён хоць пасмейваўся, зірнуў дапытліва. Важнае было пытанне.

— Строгі...— дзіўна адказала яна і затаілася.

Шашура ўлавіў: гаворка пра чалавека штосьці не да спадобы.

— Ты не бядуй вельмі,— паспачуваў ён.— Нажывецца ўсё. А што баліць — сціхне.

— Не, не ўсё.

— Усё, усё, каліна-маліна. Галоўнае: жывыя асталіся. А ўсё астатняе зажыве, зарасце. У мяне колькі ўсяго было — зарасло. Як мяса на сабаку.

— Ці жывыя яшчэ застанемся, бог ведае! — шчыра выказала яна, пэўна, балючае.

Ён пастараўся развеяць яе страх.

— Будзем жывыя! — казаў так, што не павінна было быць сумненняў.— Не памерлі дасюль, далей ужо — не памрэм!

Ёй, заўважыў, не спадабалася яго гуллівасць.

— Цудам ураталіся,— сказала яна сумна.— Перад тым страхоццем, як ведала, да свякрухі з малымі падалася. У Вішнякі. Тым і ўратавалася. А калі б не паехала...

— Не рэж сябе! Ні да чаго гэта! — параіў ён цвёрда. Як больш мудры.— Скажы вось лепш: на што спадзяешся? Каго чакаеш — і таму падобнае?

— На што спадзяюся? — яна хвіліну маўчала, думала сваё. Была ўсё ў сваім свеце.— Вось вайна, можа, калі-небудзь кончыцца...

— Кончыцца. І прытым, запэўняю — хутка!

— Няхай бы кончылася! Сколькі ж можна цярпець такое!

— Кончыцца скора, сказаў жа!.. А яшчэ на што — надзея?

— Дзеці вось падрасці павінны. Большыя будуць — лягчэй стане. Уся мая надзея.

— Так ужо і ўся,— не паверыў Шашура.

— Уся.

Зноў яна штосьці ўхілялася казаць пра чалавека.

— Кагосьці ж, мусіць, чакаеш? — пайшоў ён напраcткі, нібы абыякава, далікатна.

— Няма мне каго чакаць! — сумна адказала яна.— З таго свету не вяртаюцца.— Нервова, горка сказала: — Забілі яго яшчэ пазалетась. У партызанах таксама быў...

— А-а,— паспачуваў Шашура.

Доўга маўчалі.

— Але ты — нічога! Не гаруй вельмі, а? — параіў далікатна Шашура.— Не ўсё ж жыццё ўбівацца!.. Яму лягчэй не будзе, а сябе можна ўвагнаць у зямлю... Пра дзяцей думай!.. Ды і сама ж яшчэ маладая...

— Маладая,— сціпла запярэчыла яна. Не згадзілася з ім. Не ўзняла вачэй.

— Я гэта — сур'ёзна.

Яна не адказала. Раптам заспяшалася: сабрала посуд, згарнула ручнік. Завязала ў клунак.

Хутка ўстала.

### 3

Пад вечар ён ужо канчаў загон. Сыходзячы на лес, нізкае сонца лажыла ад каня на поле доўгі цень, на якім конь быў падобны да жырафа. Усё навокал ружавела. Шашура ступаў зморана і часам выбіваўся з разоры, збочваў то ўправа, то ўлева.

У гэты перадвячэрні час ён убачыў блізка Тураўца, які ішоў да яго шырокімі хуткімі крокамі наўпрасткі цераз поле. Шашура адразу прыпыніў каня, стаў чакаць. Туравец яшчэ зводдалек прывітаўся.

— Наараў на працадзень? — запытаў ён, калі падышоў, усмешліва пазіраючы цыганскімі вачыма.

— Думаю, што хопіць. Хоць і позна пачаў.

— Хопіць? Глядзі, каб хапіла! Што ж, выходзіць, і хлеб зарабляеш? Ніхто не скажа: дармаед?.. Прытаміўся?

— Крыху...

Перадаўшы Шашуру аўтамат, Туравец узяў з яго рук плуг. Туравец ішоў за плугам лёгка і ўпэўнена, сваім звычайным крокам. Было відаць, што араць яму не ўпершыню.

Ён прайшоў адзін круг, другі, потым, параўняўшыся з Шашурам, спыніў каня, аддаў лейцы.

— А вы — аказваецца, каліна-маліна, з плугам, як з дружком...

— З другам? — нібы здзівіўся Туравец.— Не, брат, адвык. Не хлусі!

Ён зірнуў весела і так, быццам гаварыў: «Нашто хлусіш? Каму ты гэта...»

Туравец заспяшаўся:

— Трэба ісці ў сяло. Увечары будзе сход.

Ён пакіраваў наўпрасткі да вёскі.

Скончыўшы араць, у цёплым поцемку паволі рушыў у вёску і Шашура. Ён ішоў шчаслівы і задаволены пражытым днём, нават зморанасць, якая абцяжарыла ногі і рукі, была прыемнай.

Яму ўспаміналася размова з Тураўцом, і Шашура падумаў, як было б добра заўсёды вось так да вечара шчыраваць на полі, вяртацца змораным дахаты.

На двары гарэў агеньчык, на якім Аксіння ў чыгунку варыла вячэру. Пачуўшы крокі, яна падняла твар на Шашуру:

— Намарыўся, напэўна?

— Трошкі ёсць такога.

— Пастаў каня ды прыходзь сюды, будзем вячэраць.

Распрагаючы каня, ён падумаў, што трэба як-небудзь пастарацца дапамагчы Аксінні ўладаваць гаспадарку; хоць бы залатаць страху на хляве, што свеціцца, як рэшата. Каб у дождж было дзе схавацца. Каля яго круціўся хлопчык, цікаваў за ўсім, што робіць незнаёмы дзядзька. Падкінуўшы каню травы, Шашура неспадзеўкі схапіў малога на рукі і паказытаў. Хлопчык, выкручваючыся, весела завішчаў:

— Ой, пусці, не шлакачы!

Шашура паставіў яго на зямлю, запытаў, чым ён сёння займаўся. Хлопчык адказаў:

— Нічым...

— Як гэта нічым? Увесь дзень — нічым?

— Увесь дзень!.. Аленку трошкі гушкаў...

— Э, брат, няўжо ты такі гультай?

Малы, асмялеўшы, раптам папрасіў:

— Дзядзя, дай! — Ён глядзеў на аўтамат.

Шашура зняў ППШ.

— На! Толькі табе, друг, ранавата яшчэ, мусіць?

Патрымаўшы з натугай аўтамат, малы прызнаўся:

— Важкі.

Вячэралі каля вогнішча, на траве. Малое спала, а хлопчык сядзеў каля маці, вялікімі ўважлівымі вачыма сачыў за дзядзькам. Калі вячэра скончылася, Аксіння прамовіла:

— Казалі, сход будзе.

— Будзе. Пойдзеш?

— Не, дзеці адны будуць баяцца. А ты пойдзеш?

— Пайду.

— Ты мне раскажаш, што там будзе, добра?

Моўчкі кіўнуўшы, ён скруціў папяросу, кінуў на далоню барвова-аксамітны зыркі вугольчык і прыкурыў. Яна зірнула на яго.

— Дзе табе пасдаць?

— Пасцялі на двары, у садку. Дажджу, мусіць, не будзе.

Ён паглядзеў у неба.

— Ну, то я пайду. Варту трэба паставіць, ды і на сход каб не спазніцца.

— Ты не заседжвайся дужа,— параіла яна.

Схамянуўшыся, яна няёмка дадала:

— Змарыўся ж. Дзень такі...

— Не, чаго ж там...

Ён выйшаў на вуліцу, цёмную, маўклівую. Увечар вёскі, ведаў ён, даўно ўжо маўчалі, не да песень людзям было. Вайна заўсёды і ўсюды адчувалася, нават у зоне, да блакады. І тады людзі тут жылі сурова, па законах вайны. Цяпер было ў цішыні вёскі штосьці даўкае, магільнае.

Цемра амаль схавала страшныя знакі разбурэння, але Шашура ў цемры бачыў усё яшчэ больш панурым. Печышчы выглядалі ў ёй нібы помнікі над магіламі. Важка было на сэрцы, калі падрыўнік думаў пра Аксінню, пра яе долю. «Калі ж гэта зноў усё стане на сваё месца і людзі зажывуць як трэба...»

Толькі ў адным месцы сярод гэтай нялюдскай цемры гарэў, барвова зырчэў агонь. Але і ён выклікаў нядобрае адчуванне, нагадваў пра агонь, што спаліў людзей, вёску. Праходзячы блізка ад агню, Шашура ўбачыў там купку вясковых, камісара, яны вялі нейкую гаворку.

Калі развёў вартавых, падаўся да агню, паглядзець, паслухаць.

Гаворка ішла пра ўсё-ўсякае. Гаварылі ўсе, каму хацелася, перабівалі, папраўлялі адзін аднаго. То меркавалі пра сяўбу, то ўспаміналі страшны дзень, розныя выпадкі, жахаліся, трывожыліся. Туравец слухаў, падаваў голас, спачуваў. Магло здацца нават, што ён проста ўдзельнічаў у гутарцы, пусціў усё на самацёк. Але хутка Шашура пранікліва адзначыў: не попусту сядзіць Туравец, лінію вядзе. Не трэба, маўляў, падаць у адчай, жыць трэба. Нядоўга ўжо гараваць засталося. Слабы ўжо фашыст перад нашай арміяй, не ўтрымаецца. Што да палявых работ — партызаны падтрымаюць усім, чым змогуць. Але трэба і самім за справу брацца. Агульнымі сіламі адольваць бяду.

Калі сход скончыўся, падрыўнік заспяшаўся да

Аксінні. Па цёмнай гарбаціне хлява лёгка знайшоў яе селішча. Яшчэ з вуліцы ўгледзеў: Аксіння не спала, нерухома чарнела на двары, ля хлява.

— Марыш? — знарок бесклапотна запытаў падрыўнік.— А казала — няма пра што!

— Значыцца, ёсць,— адказала яна стрымана, потым дадала шчыра: — Чамусьці на душы пагана. Успамінаецца рознае...— Яна адолела цяжкае, спытала весялей: — Што там было?

4

Помнячы, што людзям раніцай трэба будзе ісці на працу, Туравец пастараўся скончыць сход раней, каб даць адпачыць. Але людзі разыходзіліся неахвотна. Многія пасля сходу, акружыўшы яго, яшчэ доўга гаманілі. Нібы не хацелі заставацца адны з бядою.

— Ці праўда,— пайшоў услед, сказаў Тураўцу стары, па-змоўніцку прыцішыўшы голас,— што, кажуць, наступленне ўжо тры дні як пачалося? Чуў я, што Ракасоўскі, значыць, заняў Магілёў і Жлобін, толькі гэта пакуль трымаюць у сакрэце...

— Што вы кажаце! — нявесела здзівіўся Туравец.— Магілёў і Жлобін?

У гутарках і наогул у адносінах з людзьмі ў Тураўца часам можна было заўважыць тое, што Ермакоў называў «акцёрствам» і хітрасцю. Туравец нярэдка знарок хітраваў, не адразу выказваў сваё разуменне справы. Ён, здаралася, здзіўляўся там, дзе не было яму нічога дзіўнага, рабіў выгляд, што захапляецца, дзе захапляцца не было чым. Ён нібы падладжваўся пад таго, з кім гаварыў, здзіўляўся і захапляўся, дзе таму хацелася. Рабіў ён гэта і таму, што такая гульня давала паўней выказацца чалавеку, а значыцца, лепш зразумець яго, і яшчэ таму, што хітраванне такое, гульня гэта — нашто таіць — Тураўцу падабалася. Была такая слабасць у камісара брыгады. Звычкаю нават стала.

— Тое, як бо яго, формбюро нашае,— працягваў стары,— пакуль маўчыць, каб перадаць адразу пабольш гарадоў.

— Унь што! — зноў здзівіўся Туравец.

— Мусіць, як Мінск возьмуць, тады і будуць перадаваць усё за адзін дзень!

Не хацелася, вельмі не хацелася расчароўваць старога. Але ашукваць нельга было. Туравец нарэшце перастаў таіцца.

— Не, наступленне яшчэ не пачалося,— сказаў ён, шкадуючы, што даводзіцца засмучаць.

Але стары не засмуціўся. Пранікліва, весела параіў:

— Вы, таварыш сакратар, не ўтойвайце. Вам жа, канешне, даўно сказалі гэта.— Ён, мудры стары, чулася па гаворцы, разумеў усё: — Толькі, пэўна, не дазваляюць, каб гаварылі пакуль! Таму вы і маўчыце!

Заўважыўшы, што Туравец нібы вагаецца, стары перайшоў на зусім сяброўскі лад:

— Яно і праўда, шапні толькі аднаму, двум, дык і папаўзе па ўсім свеце.— Стары тут жа паправіў Тураўца: — Але яно, значыць, сказаць, людзі не ўсе аднолькавыя. Два браты і то не бываюць, каб крапелька ў крапельку падобныя адзін на аднаго. Вось я, прыкладна, чалавек не такі, адным словам, не тое што іншыя. Я чалавек вельмі скрытны. Ніхто ведаць не будзе, калі нельга гаварыць. У Сакаўцах, што за пяцьдзесят вёрст, кажуць, былі ўжо нашы разведчыкі!.. Праўда?

— Не, пакуль няпраўда. Але,— Туравец весела прыжмурыў вока,— можа здарыцца, што... хутка стане праўдаю!

Стары зразумеў гэта па-свойму, ціха, па-змоўніцку засмяяўся:

— Канешне, праўда. Дыму без агню, кажуць, не бывае. Калі гавораць, значыць, штосьці ё-осць!..

5

Туравец рашыў адразу пасля сходу ехаць. Тут была Марыя Андрэеўна, што яшчэ ўранні прыехала ў вёску агледзець жыхароў пасля блакады. Туравец і Марыя Андрэеўна паехалі ў брыгаду разам.

Туравец сам правіў коньмі. Ардынарца камісар — не без свайго разліку — днём паслаў з даручэннем у адзін атрад.

На вуліцы было пуста і ціха. Туравец, поўны цяжкіх успамінаў пра ўбачанае ўдзень, пра бяду і спустошанне, што нарабіла блакада, сумна маўчаў.

Разумеў, што трэба б загаварыць, а не мог. Зрэшты, яму здавалася, што яна адчувае тое ж самае.

Туравец чуў яе плячо, якое ад пакалыхвання калёс то прыпадала да яго, то аддалялялася. Падумаў, што вось яна з ім, што ім усю дарогу, доўга ехаць удваіх, поруч, без іншых людзей, але і гэтая думка танула ў смутку.

Нявесела, без ахвоты расказаў пра размову са старым. Марыя Андрэеўна задуменна запярэчыла яму:

— Вы памыліліся — гэта не няпраўда. Гэта — нешта іншае. Людзі гавораць таму, што хочуць, каб так было. Гэта хутчэй — як бы сказаць — мара. Мара людская!

Мара людская? Яна, здаецца, добра сказала. Мара, якой суджана хутка збыцца.

— Як — Будаёва — паправіцца? — спытаў пасля маўчання. У Будаёвай забілі трох дзяцей, усю сям'ю, калі хаваліся ад карнікаў у пограбе. Граната, кінутая ў пограб, раніла і маці, але тая выжыла. Вярнуўшыся з непрытомнасці, яна звар'яцела...

— Цяжка з ёй... Але, можа, адыдзе... Арганізм малады...

Маўчалі зноў. Думалі кожны пра сваё.

— З Аўдоццяй Шабуняй гаварыў,— сказаў Туравец, усё гледзячы перад сабой.— Пра смерць чалавека пыталася...— Ён прызнаўся вінавата:— Ашукаў я яе тады, у блакадзе...

Зноў доўгі час ехалі моўчкі. Навокал было нязвычна ціха і спакойна, здавалася, нішто не здольна парушыць гэты спакой. Толькі і было чуваць, як бесклапотна шархацяць, пастукваюць колы, фыркаюць мірна коні. Час ад часу набягаў ветрык, што пачынаў жвавець перад раніцай.

— Уся зямля, здаецца, у папялішчах,— прамовіў Туравец нервова.— Пахне гараю. Стогне, здаецца. Век, здаецца, будзе патыхаць гараю, стагнаць!..

— Не трэба! — папрасіла яна горача.— Не трэба пра гэта, Нічыпар Паўлавіч!

Яна лагодна, нібы просячы прабачыць, што, можа, пакрыўдзіла, дакранулася да яго рукі. Лагодна ж сказала:

— Раскажыце лепш, як вы жылі да вайны. Мне гэта вельмі хочацца ведаць!

Ён зразумеў адразу: пытаецца для таго, каб адвесці гаворку на іншае. Не такое балючае.

— Што ж вам расказаць?
— Усё, што хочаце. Усё будзе цікава... Хоць з маленства пачынайце...— Яна прамовіла мякка, са спачуваннем.— Вы, здаецца, сіратою былі?..
— Сіратою...
— І рана засталіся?
— Бацьку не помню зусім... Казалі, надарваўся, падымаючы бярвенні на зруб. У нашым жа сяле было... Цесляром наймаўся к людзям, падрабляў... Маці помню, але цьмяна. Памерла ад сухот, калі мне яшчэ не было і шасці...
Ён задумаўся.
— З кім жа вы жылі?
— Спачатку ўзяў дзед. Праз пяць гадоў,— так напрадвесні — яго пахавалі побач з маці маёй... Тады забраў чужы чалавек Яўхім Стручок, аднавяскоўец, дабрадзей. «Не прападаць жа дзіцяці! Трэба ж каму-небудзь даць божаму стварэнню прытулак!..»
— Што, цяжка было? — запыталася яна, улавіўшы ў словах Тураўца іронію.
— Амаль звычайна... Летам пасвіў жывёлу, зімой даглядаў яе. Вазіў дровы... Зарабляў на кавалак хлеба... Аднойчы на кірмашы гаспадар мой купіў каня. Конь быў ліхі, натурысты, але прадавалі танна, і Стручок паквапіўся. Скупы быў вельмі, беражлівы. Перадаў ён каня мне, аб'язджаць, прывучаць. Ліхая жывёліна трапілася, недарма танна аддалі! Зверам, дарэчы, звалі, імя — лепшага да яго характару і не знойдзеш! Доўга нікога і блізка не падпускаў. Хадзіў я, хадзіў каля яго, і задобрываў, і строгасцю спрабаваў,— не даецца, дый годзе. Звер і звер, нічога іншага не скажаш. І вось аднойчы наважыўся я сесці на яго. Ледзь толькі ўскочыў на яго, ён як ірванецца, скочыць, захрапе. Пакруціўся, паскакаў і паляцеў па вуліцы, у поле. Я ўпіўся ў грыву, абхапіў нагамі бакі яго, ні жывы ні мёртвы лячу. Вось яна, смяротная мая часіна, думаю!.. У полі ён як крутне раптам, я і паляцеў з усяго разгону. Добра, што ралля была!.. І то, мусіць, з гадзіну праляжаў непрытомны.
Марыя Андрэеўна лёгка дакранулася да яго локця. Нібы шкадуючы, нібы супакойваючы.
— Нічога, усё-ткі аджыў! Толькі шрам пад левым брывом застаўся...
— Я думала, гэта з вайны...

— З таго дня... Вярнуўся я, кульгаючы, дамоў. Стручок як накінецца: «Дзе конь? Ты яго не знайшоў? Дык чаго ж ты, воўчае племя, прыпёрся назад? Ты думаеш, што за цябе будуць шукаць другія?..» — «Жаласна неяк выходзіць, амаль лірыка...» — падумаў Туравец і стаў гаварыць больш стрымана.— Я, канечне, не пайшоў шукаць. Непаслухмяны, упарты быў страшэнна. Таму, мабыць, і ад Звера не адступіўся, пакуль не прывучыў. Яшчэ тры разы ляцеў я з яго потырч, а потым дзікая душа Звера ўсё ж памякчэла. Прымірыўся, стаў слухацца... Мяне тады,— усміхнуўся Туравец,— звалі «цыган». Смуглы быў, чорны. Дзеці на вуліцы крычалі ўслед: «Цыган, цыган, вядзі каня на выган...»

— І доўга вы былі ў Стручка гэтага?

— Два гады. Потым кінуў усё к чорту і падаўся ў горад. Наняўся за вартаўніка на прыстань... Цікавы час тады быў. Недалёка фронт. На вуліцах поўна салдат. Вясёлыя, узрушаныя, галасістыя. Я аднойчы трапіў на мітынг — яны тады былі ледзь не штодня. Гаварылі там пра рэвалюцыю, пра зямлю, пра вайну. Гаварылі эсэры, меншавікі, бальшавікі. Я многага толкам не зразумеў, але галоўнае ўхапіў. Асабліва — што да зямлі, народу, улады мазолістых рук, сярпа. Разуменне таго, што і я — тварэц гісторыі, зрабіла мяне нібы п'яным. Галава звінела ад мітынгаў, ад прамоў, я быў самым актыўным удзельнікам усіх маніфестацый у карысць рэвалюцыі. За які-небудзь тыдзень я перарадзіўся ў баявітага рэвалюцыянера. Перарадзіўся начыста... Яшчэ тыдзень перад гэтым думкі мае абмяжоўваліся тым, як зарабіць капейку ды пражыць дзень. Марыў толькі прыкапіць грошай і вярнуцца ў вёску, ладаваць гаспадарку... Цяпер жа я поўны быў вялікімі страсцямі, якія кіпелі вакол. Ёсць, аказалася, рэчы, багата больш важныя за сваю гаспадарку! Спрабаваў я ў галодныя часы зноў жыць у вёсцы, але вытрываў толькі з год. Мяне нястрымна пацягнула на прастор, у неспакойнае жыццё. Да святла. Я павінен быў дзейнічаць. Рэвалюцыйная энергія, што брадзіла ва мне, патрабавала актыўнасці. На торфараспрацоўках, куды я прыехаў на заработкі, мяне выбралі брыгадзірам. Гэта была мая першая выбарная пасада, добры пачатак «кіраўнічай кар'еры»...

Туравец, гаворачы гэта, нібы таіў лагодны смех. За гэтым змоўк, задумаўся, аддаўся ўспамінам.

Марыя Андрэеўна першая парушыла маўчанне.

— Вам, мусіць, нялёгка было ў райкоме працаваць? Без адукацыі?..

— Нялёгка. Прыйшлося давучвацца на хаду.

— Як?

— Вечарам, часам — і начамі. Вярнуўшыся з паездкі па калгасах... Многаму навучыла партыйная работа, знаёмства з рознымі людзьмі... Двойчы пабыў на парткурсах — у Мінску, у Маскве... Вельмі дапамог мне ў вучобе адзін чалавек...

— Хто ён?

— Мая жонка.

Успаміны пра жонку звычайна выклікалі сум,— цяпер ён адчуў нібы дакор сабе. Зося паўстала перад ім як суддзя, нібы быў вінаваты перад ёю, вінаваты, што палюбіў іншую. Нялёгка было ўспамінаць яе цяпер, гаварыць пра яе, але ён адолеў сябе, рашыў расказаць усё. Не хацеў нічога ад Марыі Андрэеўны ўтойваць, не хацеў пакідаць недагаворак.

— Мы пазнаёміліся, калі Зося толькі скончыла тэхнікум. Яна тады толькі пачала настаўнічаць. Сама птушанё была, а ўзялася дапамагаць мне. Ахвотна ўзялася. Мне яна была проста падарункам. Пашанцавала мне. Горача ўзяўся я за вучобу. Праўда, нялёгка было — бясконцыя раз'езды. Неаднойчы дарэмна яна чакала — не ўдавалася выбраць час, вярнуцца з раёна... Але часта знаходзіў, вяртаўся. Спяшаўся да яе... Так было... Нярэдка пасля заняткаў пачаў заседжвацца ў яе пакоі, апавядаць пра свае клопаты. Зося расказвала пра сваіх вучняў, кожнага з якіх я неўзабаве ведаў, як свайго знаёмага. Затрымаўшыся ў раёне, я ўжо вельмі шкадаваў, што прыходзіцца заняткі прапускаць. Шкадаваў цяпер, здаецца, больш таму, што не мог пабачыць яе... Настаўніца! — прамовіў Туравец з сумам, з пашанай.

Ён пастараўся адужаць сум свой, згадаў весялей:

— Калі яна стала жонкаю, я часта, падсмейваючыся, называў яе настаўніцаю. «Ну як, настаўніца, зачакалася, мусіць? Вінават, затрымаўся...» Яна папракала, таксама смешкамі: «Вінават! Адгаворка адна і тая ж. Не ведаю, што і рабіць з такім ненадзейным вучнем!..»

Туравец нечакана сказаў:

— Яна загінула на другі дзень бамбёжак. Я быў у райкоме, калі пазванілі... Не ўправілася выйсці з дому. Бомба трапіла проста ў дом...

Кожнае слова ён прамаўляў так, нібы варочаў глыбы руін таго дома. Стаў дыхаць цяжка.

Не адразу загаварыў зноў. Усё не мог пачаць зноў. Пачаў задуменна і шчыра:

— Мне шанцавала ў сямейным жыцці. Вельмі шанцавала. Мы былі шчаслівыя... Ведаеш, мне часам здаецца, што я быў не варты яе. Што яна — лепшая, багата лепшая за мяне! Яна была чалавек, якіх мала! Калі я чаго-небудзь варты, у гэтым, напэўна, больш за ўсё яе заслуга...

Ён заўважыў: Марыя Андрэеўна слухала ўсё гэта з насцярожанай увагай.

Скончыўшы, Туравец паспакайнеў: цяпер яна ведае ўсё.

— Вось, як на споведзі!..

Зноў было маўчанне. Толькі скрыпалі калёсы.

Туравец папрасіў яе расказаць пра сябе, але яна запярэчыла стрымана:

— Не цяпер. Пазней як-небудзь... калі толькі вас будзе цікавіць...

Яна думала пра нешта сваё, і Туравец адчуў, як між іх легла нябачная мяжа. Адчуванне блізкасці знікла.

Яны так ехалі доўга, і блізкія, і чужыя. Апусціўшы галаву, нібы дрэмлючы, Марыя Андрэеўна моўчкі думала нешта, успаміна́ла нешта, сваё, патаемнае, куды яна не хацела яго ўпускаць, дзе ён быў нежаданы, непатрэбны.

Туравец разумеў, што яна цяпер была вельмі далёка ад яго...

— Вы, напэўна, думаеце, што я скрытная і не ўмею дзякаваць за шчырасць, — загаварыла раптам яна. — Выпытала ў вас, што хацела, а сама маўчу... Не, я люблю шчырасць, Нічыпар Паўлавіч, і ўмею на яе адказваць. Проста, кажу ад душы, не хацелася псаваць настрой і свой і ваш... Маё сямейнае шчасце было несалодкім... Я была нешчаслівая, — сказала яна з цяжкай адкрытасцю, з выклікам. У голасе яе прабілася нотка раўнівай крыўды.

Выказаўшы самае цяжкае, яна гаварыла ўжо лягчэй.

— Гісторыя мая вельмі простая, нецікавая!.. Выйшла я замуж яшчэ ў інстытуце. Жылі спачатку таксама добра, шчасліва жылі. А пасля — мы тады працавалі ўжо — ён ашукаў мяне... Я выпадкова даведалася... З таго дня мы сталі чужымі...

Яна сціхла, напэўна, усё ўспамінаючы зноў.

— Нейкі час мы жылі яшчэ разам. У адной кватэры. Спачатку не гаварылі, потым ён, Анатоль, захацеў памірыцца. Прасіў прабачыць, забыць. Кляўся, пра дачку клапаціўся... А я не ўмела нічога ні забыць, ні даравацъ... Не даравала... Тады ён пераехаў на другую кватэру... Часта, праўда, заходзіў праведаць Светку. Калі пачалася вайна, яго, як усіх, пазвалі на фронт. Перад адпраўкай — ужо з эшалона — ён адпрасіўся да нас. Абняў і пацалаваў дачку. Развітаўся са мною... Сказаў, што, калі будзе жывы, вернецца да мяне. Што без мяне нібы жыць не можа. Сказаў яшчэ, што я — жорсткая... З дарогі ён прыслаў ліст... Можа, і так, можа, ад той гісторыі ён і любіў па-сапраўднаму... А я?— Яна задумалася.— Вайна ўсё ж штосьці расплавіла ва мне... Жаль ва мне нейкі да яго... Светку шкада... А наогул не разумею толкам, што там у мяне, усярэдзіне, такое...

Яны пад'ехалі да лесу. Дарога ішла паўз самыя дрэвы, і чорнае галлё схілялася над ёю, як страха.

— Ах, Нічыпар Паўлавіч, што мне рабіць, не разумею, — сказала яна інакш, ласкава, лёгка.— Думаеце, я не бачу, што вы мяне любіце? Бачу.

— Так, люблю...— Туравец цяжка вымавіў:— А ты?

— І я вас люблю.

— Любіш?!

Ён выпусціў лейцы, хвалюючыся, узяў яе за руку, але Марыя Андрэеўна лагодна адарвала яе.

— Лю-ю-блю! Прызнаюся, чаго тут таіцца? А вось як далей быць з вамі — не ведаю. Думаю пра Светку, пра яе будучыню, часам пра Анатоля, і ўсё блытаецца...

— Маша, я ёй буду добрым бацькам...

Марыя Андрэеўна запярэчыла мякка:

— Не будзем пакуль гаварыць пра гэта, добра? Пачакаем, паглядзім. Паглядзім, як далей будзе... А тады я скажу, выршу... адзін раз на ўсё жыццё, канчаткова. Добра?

— Добра. Але... лепш — цяпер.

— Які вы нецярплівы! Ну, так і быць, пастараюся — хутчэй... А калі я вырашу сказаць — не? Як тады?

— А ты пастарайся сказаць і — хутчэй, і — так!..

Мінулася поле, пачаўся рэдкі лясок. Яна паставіла каўнер свайго паліто і сказала зморана:

— Вы ведаеце, я трэція суткі не сплю. Я падрамлю, седзячы. А вы не едзьце хутка і дзе-нідзе мінайце ямы. Інакш я, чаго добрага, магу выпасці з вашай карэты, і вам прыйдзецца адказваць.

Яна ўткнула твар у каўнер. Як ні ціха стараўся ехаць Туравец, але калёсы ўсё ж калыхаліся, падскоквалі на нявідным карнявішчы, дзе-нідзе западалі ў ямы.

Марыя Андрэеўна, было відаць, вельмі змарылася. Задрамаўшы, яна прытулілася да яго пляча, і ён баяўся паварушыцца.

Вакол, асабліва ўгары, дзе віднелася неба, паступова святлела. Набліжалася раніца.

Ён бачыў, што Марыі Андрэеўне нязручна, адсунуўся і палажыў яе галаву на свае калені. Яна не прачнулася. Адчуўшы, што пасвяжэла, Туравец асцярожна выцягнуў з-пад сябе крысо шыняля і колькі мог накрыў яе. Калі б трэба было, ён, здаецца, узяў бы яе на рукі і паціху, каб не разбудзіць, нёс бы.

Ён хацеў бы, каб гэтае падарожжа працягвалася доўга...

«Я люблю. Я зноў люблю...» Тры гады назад, калі ён так гараваў аб смерці жонкі, у яго не магло быць такога і ў думцы. Ён лічыў, што ўсё ўжо без звароту мінулася. Ён тады не мог і думаць пра тое, што калі-небудзь здарыцца нешта падобнае на вось гэтае. Што нехта прыйдзе ў сэрца, стане жаданаю, як тая. Але здарылася вось. Прыйшло. Ён любіць... Ён шчаслівы... Хоць, здавалася, так любіў тую... Зноў любіць...

Паволі надыходзіла раніца. Туравец бачыў, як усё яснела, брала фарбы неба, чырванелі вяршыні дрэў. Абуджаўся лес, усё вакол дыхала велічным спакоем і сілаю.

Гледзячы на яе галаву, што адпачывала на яго каленях, на белую, стомленую шыю, на ўсю яе, што даверліва спала побач, ён адчуваў, што шчасце без яе немагчыма.

## 1

Чарняхоўскі нарадзіўся ў сяле Аксаніна, што сярод стэпаў на поўнач ад Адэсы.

Тут, аднак, прайшлі толькі першыя гады яго маленства: калі яму было сем год, бацькам давялося перабрацца на новае месца. Пан Навінскі, у якога бацька Івана быў «пры конях», купіў у другога пана новы маёнтак, і конюху з сям'ёй давялося ехаць за ім.

Яны сталі жыць у Вербаве.

Жыццё ў Вербаве амаль нічым не розпілася ад ранейшага. Як і да гэтага, у бацькі не было ні сваёй зямлі, ні нават уласнага кутка: жыць даводзілася, як на кватэры, у панавай хаце «для конюхаў», за якую пан штомесяц адлічваў частку бацькавага заробку.

Ад сяла была блізка станцыя Вапнярка. Станцыя тады здавалася маламу Ясю, як звалі Чарняхоўскага ў сяле, казачным краем. Пазіраючы на паравозы, слухаючы свісткі, лязг бувераў, ён нямеў ад захаплення. Машыністы, счэпшчыкі, стрэлачнікі былі героямі яго мар. Калі Яся пыталіся, кім ён будзе, малы адказваў цвёрда: машыністам ці стрэлачнікам.

На гэтай станцыі Ясь стаў вучыцца. Вучоба давалася яму лёгка, асабліва арыфметыка. Бацька быў вельмі задаволены, што Ясь так добра рашае задачы, — ён лічыў арыфметыку «галоўнай навукай у жыцці».

— Калі чалавек, сынку, умее добра лічыць, ён — ого! Такога, сынку, ніхто не ашукае...

Ясь рос жвавы, неспакойны і смелы. Відаць, гэтыя асаблівасці яго і былі прычынай таго, што вербаўскія дзеці выбралі яго сваім верхаводам. Ва ўсіх гульнях, у паходах Ясь быў заўсёды ў першай ролі...

А тым часам у Вербаве адбываліся незвычайныя падзеі.

Прыйшла рэвалюцыя. Пан Навінскі ўцёк, і сяляне падзялілі панскі хлеб, некалькі мяшкоў яго прынёс дамоў і задаволены бацька. Але хутка зноў надышоў кепскі час. Пану Навінскаму ўдалося вярнуцца з немцамі, і хлеб, што яшчэ застаўся, адабралі, а бацьку прагналі з «двара».

Сталі галадаць...

У гэты цяжкі час у жыцці Яся здарылася самае

горшае, што магло здарыцца. Ні з чым нельга параўнаць няшчасце, што звалілася на Яся, на яго сям'ю. Ад тыфу, які люта гуляў па Вербаве, злеглі бацька і маці, злеглі і неўзабаве памерлі. Амаль у адзін дзень.

Ясь стаў сіратою, разам з пяццю сваімі сёстрамі і братамі...

Хлопчык, якому было толькі дванаццаць год, пачаў рабіць на сябе, на сям'ю: летам і ўвосень ганяў на пашу вербаўскую жывёлу, пёкся доўгімі днямі на сонцы, мок на дажджы, стыў у асеннюю непагадзь.

Школа была закрыта, але яму хацелася вучыцца. Урываючы грошы са свайго нікчэмнага заработку, ён хадзіў вучыцца да хворага настаўніка.

— У цябе, Ясь, добрая галава,— сказаў яму неяк настаўнік. — Вучыцца табе трэба, абавязкова.

Але вучоба была наканавана іншая.

З Вербава ён падаўся на чыгунку, наняўся рамонтным рабочым. Летам мянялі шпалы, раўнялі насып. Зімой таксама працы хапала: узяўшы лапаты, выходзілі на «дарогу», адкідвалі з яе снег, ставілі агароджы з абодвух бакоў насыпу...

На другую зіму, крыху папрацаваўшы падручным слесара ў чыгуначных майстэрнях, ён уладзіўся правадніком на таварных ад Вапняркі да Адэсы — наглядаў за важнымі грузамі.

У тыя гады, адным з першых уступіўшы ў камсамольскую ячэйку, Ясь жыў, можна сказаць, ужо багатым жыццём.

Абстаноўка ў сяле была трывожная: недалёка дзейнічалі банды.

— Калі прыйдуць бандзюкі, нас усіх пераб'юць, — сказаў аднойчы пасля сходу, што зацягнуўся да позняга вечара, хтосьці з камсамольцаў.— Яны даўно ўжо вострацъ зубы...

— Не пераб'юць! Мы мацней за іх...— заявіў упэўнена Ясь.— А калі і паткнуцца, — возьмем стрэльбы ды так іх спаткаем!..

Ён быў заўсёды смелы і рашучы. Мусіць, за гэта яго так любілі, паважалі і слухаліся...

Ён не ведаў, куды падзець маладую энергію. Чым толькі ён не займаўся ў клубе: выступаў у спектаклях, у аркестры іграў, спяваў у хоры, выпускаў газету, пісаў у яе артыкулы і нават вершы. Здольны да музыкі,

ён іграў на ўсіх струнных інструментах, якія былі ў вёсцы.

Гарачы, настойлівы хлопец з чорнай чупрынай, што фарсіў у ваеннай гімнасцёрцы, у сінім з бліскучымі леямі галіфэ, ён быў лепшым прамоўцам ад камсамольцаў на вербаўскіх дыспутах. Асабліва ўдала выступаў Іван Чарняхоўскі на дыспуце «Ці ёсць бог?». У Івана была на дзіва ўчэпістая памяць, што трымала ў сабе незлічонае мноства розных вестак і фактаў. Калі дадаць да гэтага, што малады прамоўца ў спрэчцы лёгка запальваўся, што спрэчка ўздымала ў ім упартасць, той уздым, які вучоныя людзі назвалі натхненнем, то ці трэба здзіўляцца, што Івана нельга было адолець у дыспуце.

Ужо тады можна было заўважыць у ім багата адоранага, таленавітага чалавека, дзейсная натура якога шукае сабе шлях.

Неўзабаве надарылася цудоўная магчымасць: Івану Чарняхоўскаму, які тады працаваў ужо шафёрам у Новарасійску, прапанавалі паехаць у пяхотную школу, у Адэсу. Ён не вагаючыся ўзяў у акружкоме камсамола пуцёўку і, поўны надзей, памчаў насустрач заваблівай будучыні.

Але надзеі яго тут не збыліся: пяхотная школа не задаволіла маладога курсанта, што любіў тэхніку. Нязлагадны курсант пяхотнага вучылішча рваўся да іншай, дарагой душы мэты, настойліва папрасіў, каб перавялі ў артылерыйскую школу.

Чатыры гады пасля школы ён служыў у артылерыі, вучыўся, множыў вопыт камандзірскай работы: быў і камандзірам узвода, і zампалітам камандзіра батарэі, і камандзірам разведкі батарэі. Чалавек шырокай цікаўнасці, актыўны ў адносінах да людзей, да ўсяго, што адбываецца вакол, ён заўсёды, усёй душой, аддаваўся партыйнай рабоце. Амаль нязменна Іван Данілавіч быў то членам партбюро палка, то сакратаром партячэйкі. Ён любіў палітработу, мусіць, не менш за камандзірскую дзейнасць.

— Вось дзе ваша прызванне: палітработа, — гаварыў яму не раз тады камісар палка.— У вас талент палітработніка!..

Гэтыя гады і ўсе наступныя былі запоўнены штодзённай вучобаю. Цікаўны і працавіты, ён з дня на дзень убіраў у сябе важныя веды, вопыт, здзіўляючы

таварышаў сваіх неспатольнай прагай ведаць як мага больш. У тыя дні і гады ў ім выспявала і мацнела думка ісці вучыцца далей, ён адчуваў патрэбу ў засяроджанай на галоўным, максімальна напоўненай вучобе, ён імкнуўся авалодаць самымі новымі тэарэтычнымі ведамі, новай тэхнікай. Усім гэтым надзеям і планам яго адпавядала Акадэмія механізацыі і матарызацыі, Чарняхоўскі ўсё больш упарта думаў пра яе. Ці дзіва, што, калі, такую магчымасць далі яму, ён ахвотна, энергічна ўхапіўся за гэту ўдачу, старанна падрыхтаваўся да экзаменаў, добра здаў іх.

У Акадэміі ён увесь час быў выдатнікам.

Але заняткі не высушвалі яго. Як і раней, ён не мог абмяжоўваць сябе толькі справай. Шырокай, нястрымнай натуры яго мала было адной справы. Ён захапляўся спортам, прычым не якім-небудзь адным: быў і лыжнікам, і валейбалістам, і баскетбалістам, і стралком.

Калі ён вучыўся на трэцім курсе, у Акадэміі рабілі пераход на лыжах з Масквы ў Нара-Фамінск. У дзень пераходу сакавіцкае сонца прыгрэла, і снег пачаў хутка макрэць. Ісці было цяжка. Многія курсанты сышлі з лыжні, паехалі на машыне.

— Кідай, Ваня! Здавайся... вясне! — параіў яму таварыш.

Чарняхоўскі не здаўся, дайшоў да канца, і не проста дайшоў, а заняў першае месца на курсе... Любіў ён па-ранейшаму музыку, любіў спяваць, асабліва ўкраінскія песні... Скончыўшы Акадэмію, Чарняхоўскі некалькі год служыў у Беларусі — у Бабруйску і ў Гомелі. Перад вайной яго перавялі ў Рыгу.

Вестку пра вайну Чарняхоўскі пачуў у лагеры пад Шаўляем, куды яго танкавая дывізія прыехала з Рыгі на летнія заняткі...

Ён пачынаў вайну палкоўнікам, а праз тры гады быў ужо генерал-палкоўнікам, яму даверылі камандаваць фронтам. Ззаду быў вялікі і цяжкі франтавы шлях: ён камандаваў і дывізіяй, і корпусам, і арміяй. Ззаду былі адступленні сорак першага, цяжкія баі пад Ноўгарадам і пад Варонежам, пераправа цераз Дняпро, вызваленне Кіева, многія малыя і вялікія баі. Ззаду былі дні і ночы нязмернай, непрыкметнай для другіх работы, падрыхтоўкі да баёў тысяч салдат і афіцэраў, складанай ваеннай гаспадаркі.

2

Чарняхоўскі амаль паўтара сутак ездзіў па пярэднім краі, знаёміўся з абстаноўкай, з часцямі.

Цяпер камандуючы вяртаўся ў штаб фронту.

Адкінуўшыся на мяккую спінку, прама, як бы ганарліва трымаючы галаву, ён сядзеў за баранкай, звыкла вёў машыну. Вёў ён машыну сам не першы раз за гэтыя дні: неаднойчы загадваў шафёру памяняцца месцамі — і садзіўся за руль.

Шафёр адчуваў сябе без справы няёмка, і ў яго быў строгі і прытоена-вінаваты выгляд. Хоць і ведаў, што камандуючы калісьці быў таксама шафёрам, вазіў дырэктара завода ў Новарасійску, ён усё ж не мог прывычаіцца да таго, што прыходзіцца пры генерале сядзець пасажырам.

Машына імчала па дарозе, мінала вёскі і палі. Твар генерала халадзіў ранішні вецер, што залятаў у машыну. Халадок гэты быў прыемны, ён праганяў санлівасць, бадзёрыў.

Машына адышла ўжо далёка ад пярэдняга краю, калі генерал-палкоўнік заўважыў наперадзе некалькі танкаў, што хутка імчалі наперарэз. Танкі ішлі адзін за адным, са значнымі інтэрваламі. Убачыўшы «трыццацьчацвёркі», камандуючы пажвавеў, прыўзняўся на сядзенні.

Гэта быў родны, блізкі сэрцу малюнак. Колькі разоў прыходзілася самому вадзіць «трыццацьчацвёркі» па ваенных дарогах і ў бой!

Праехаўшы яшчэ крыху, Чарняхоўскі прыкмеціў у хмызняку каля дарогі прыкрытую галлём «трыццацьчацвёрку».

Ён спыніў машыну. Накінуўшы плашч-накідку, расоўваючы мокрае вецце, падышоў да танка. Поблізу стаяла яшчэ адна «трыццацьчацвёрка». Па знаку на вежы ён уведаў, што машыны — са славутага гвардзейскага корпуса.

Калі Чарняхоўскі падышоў да машыны, з кустоў насупраць выткнуўся танкіст, што зашпільваў камбінезон. Заўважыўшы неспадзеўкі незнаёмага, ён насцярожана кінуў позіркам, заспяшаўся. Прывёўшы сябе да ладу, рудаваты, з абсыпаным вяснянкамі носам, не зусім упэўнена прывітаў.

Адразу за гэтым, хапаючыся, клопатна падаўся да люка.

— Пачакайце, таварыш...

— Няма калі... Зараз камандзіра паклічу...

І ён хутчэй схаваўся ў люку механіка-вадзіцеля. «Прыём не вельмі далікатны», — падумаў камандуючы, не скідаючы плашч-накідкі.

Неўзабаве з машыны саскочыў другі танкіст. Прывітаўшыся, ён папрасіў дакументы, Чарняхоўскі падаў пасведчанне.

Разгарнуўшы яго, танкіст уміг выпрастаўся. Ускінуў неспакойную далонь да шлема.

— Выбачайце, таварыш генерал. Вінаваты. Не бачыў ніколі...

Ён быў яўна збянтэжаны. На твары быў выраз няёмкасці і трывожнага чакання. Схамянуўся і назваў сябе:

— Гвардыі старшы лейтэнант Лагуновіч.

Адольваючы збянтэжанасць, старшы лейтэнант паспешліва, нацятым голасам далажыў, чым займаецца яго рота. Рота з батальёнам удзельнічала ў начных занятках.

— Чаму стаіце, таварыш гвардыі старшы лейтэнант?

— Затрымка. Чакаем вестак ад разведкі...

Чарняхоўскі запытаўся, ці часта бываюць у брыгадзе начныя заняткі.

— Два-тры разы кожны тыдзень, таварыш генерал.

Чарняхоўскага вабіў добры, далікатны твар танкіста. Была ў твары старшага лейтэнанта дабрата, тая адкрытасць, за якой камандуючаму бачылася ўнутраная адкрытасць, сумленнасць франтавога працаўніка.

Адчуваючы сімпатыю да танкіста і стараючыся развеяць няёмкасць першага моманту сустрэчы, камандуючы ветліва, па-сяброўску пацікавіўся, ці даўно старшы лейтэнант у брыгадзе і ці даўно на фронце. Дзе ваяваў.

Адказ танкіста ўмацаваў у Чарняхоўскім адчуванне сімпатыі да далікатнага ротнага. Падумаў сабе: не ашукала знешняе ўражанне, адгадаў.

— Сям'я дзе? — запытаў танкіста.

Старшы лейтэнант запанурыўся, адвёў позірк убок.

— Па той бок...

— Там...— спачувальна, нахмурыўшы прыўзнятыя дужкі броваў, прамовіў камандуючы.

Да іх гэтым часам падышло некалькі танкістаў. Спачатку саскочыў з вежы Быстроў, за ім зараджаючы, потым ад суседняй машыны явіўся Колышаў; Сонцаў, што так недарэчна спаткаў генерал-палкоўніка, адседжваўся ў танку.

Чарняхоўскі перапыніў размову са старшым лейтэнантам, востра, з цікаўнасцю зірнуў на тых, што падышлі. Адзначыў упэўнены, здалося — нават самаўпэўнены, незалежны позірк камлюкаватага танкіста: Быстрова.

— Чым займаліся апошнімі днямі? — глянуў Чарняхоўскі на Быстрова.

— Гарматы прыстрэльвалі, таварыш генерал. Экіпажы зладжвалі...

У вачах танкіста было ўсё тое ж пільнае, іспытнае.

— Зладзілі?

— Так точна. Цяпер вось пачалі замяняць адзін аднаго...

— Гэта — добра... Вы даўно ў брыгадзе? — акінуўшы зноў танкістаў хуткім, вострым позіркам, вылучыў Чарняхоўскі Колышава.

— Адзінаццаць... дзён, таварыш генерал...

— Якая ваша думка пра брыгаду? Вартая брыгада?

— Брыгада — добрая, таварыш генерал! Праслаўленая...

— Праслаўленая? — Чарняхоўскі запыніўся на момант, заявіў цвёрда: — Гэтага мала... Слава, як і гімнасцёрка, можа пакрывацца пылам і старэць...

— Абновім, таварыш генерал! — адгукнуўся рашуча Быстроў. Ён нядобра, з насмешкай зірнуў на Колышава: не мог адказаць як след.

— Абновіце? Н-ну, глядзіце! — Чарняхоўскі ўвесь час адчуваў на сабе пільны позірк дужага танкіста. Зноў загаварыў да старшага лейтэнанта ўжо строга, як камандуючы: — А на занятні вы заўсёды выязджаеце без аўтаматчыкаў?

Старшы лейтэнант прыкметна збянтэжыўся.

— Не, таварыш генерал. Мінулы раз заняткі правадзілі з аўтаматчыкамі...

Тут старшага лейтэнанта паклікалі да рацыі.

Аляксей у першы міг узрадаваўся, што клічуць: размова з камандуючым усё ж непакоіла. Але ён адразу ж зразумеў, што пайсці так ахвотна ад камандуючага будзе нядобра, не па-камандзірску, і камандуючы

можа гэта адчуць. І ён, са здавальненнем адчуваючы, што робіць годна, мужна, папрасіў дазволу ў камандуючага перадаць, каб там пачакалі. Але Чарняхоўскі не дазволіў.

— Не. З гэтым чакаць нельга, — прамовіў ён цвёрда, значна.— Вайна не чакае...— з той жа значнасцю, разумеючы, што кожнае яго слова і гэтыя запомняць і перададуць іншым, параіў, загадаў: — Рыхтуйцеся, таварышы, добра рыхтуйцеся. Вас тут, на Беларусі, чакае важная праца...

Ён паправіў на плячах плашч-накідку.

— А вы, таварыш старшы лейтэнант, запомніце, што на занятку трэба выходзіць у поўнай баявой гатоўнасці. Кожны раз!.. Ідзіце!

— Ёсць!..

Танкісты бегам падаліся да сваіх танкаў, а Чарняхоўскі хутка пакрочыў назад.

Праз хвіліну яго машына зноў імчала па дарозе...

3

Штаб Трэцяга Беларускага фронту размяшчаўся кіламетрах у чатырох ад гарадка Краснае.

Праслаўленае яшчэ пры Кутузаве, Краснае стала цэнтрам, што кіраваў мнагатысячным войскам Трэцяга Беларускага фронту. Вызвалены яшчэ паўгода назад, гарадок ляжаў увесь у руінах, сярод якіх дзе-нідзе чарнелі муры спаленых дамоў. Ён здаваўся пустым, амаль нежылым, як і ўсе такія разбураныя гарадкі.

Зусім інакш ішло жыццё ў сасняку за горадам, дзе быў штаб фронту. У бліндажах, выкапаных між дрэваў, ні днём ні ўночы не сціхала напружаная неўтаймаваная праца.

Над бліндажамі, гойдаючы ўгары высокія макушкі, шумелі сосны. Тонкія і стройныя, яны нагадвалі вартавых.

Камандуючы яшчэ здалёк убачыў знаёмы абрыс ляска.

Абапал дарогі мільгалі, адбягаючы назад, рады старых ліп, некаторыя з якіх пачалі сохнуць, — угары часта чарнела бязлістае голле.

На скрыжаванні дарог стаяў помнік воінам 1812 года, каля яго віднелася групка салдат, што, мусіць, накіроўвалася на пярэдні край...

Сасняк імкліва набліжаўся. Калі машына падкаціла да шлагбаума, што перахопліваў дарогу на ўзлессі, вартавы, які выйшаў ад дашчанай будкі, спачатку намерыўся быў спытаць дакументы, але пазнаў камандуючага і адразу прапусціў.

У сасняку машына ішла ціха, мінаючы камялі гонкіх бронзавых дрэваў і шызую гушчэчу параснiку.

На разгаліне дарог, з якіх адна вяла да гаража, генерал-палкоўнік спыніў машыну і выйшаў з яе.

— Перадай механіку — хай наладзіць рухавік,— сказаў шаферу, папраўляючы на плячы плашч-накідку,— у адным цыліндры — стукі...

Стаў чакаць члена Ваеннага Савета, што ехаў следам. Нядаўна тут, відаць, прайшоў дождж — пясок на дарожцы прыбіла, ён пацвярдзеў і стаў наздраватым, нібы пакрыўся воспінкамі.

Далей генералы пайшлі пешша.

Нягледзячы на ранні час, тут адчувалася жыццё. З аднаго бліндажа выбег, трымаючы ў руцэ лісток паперы і на хаду праглядаючы яго, малады чарнявы афіцэр. На дарозе трапіліся яшчэ два афіцэры і дзяўчына-сувязістка, што некуды спяшаліся.

Чарняхоўскаму было прыемна бачыць тут жыццё ў такую раннюю пару. Калі падышлі да сцежкі, па якой члену Ваеннага Савета трэба было павярнуць улева, Чарняхоўскі сказаў, што нядрэнна было б сёння выбраць час і схадзіць у лазню...

— Так, нядрэнна б змыць дарожны пыл...— стомлена, але тонам адабрэння адгукнуўся Макараў. Ён падаў руку генерал-палкоўніку: — Ну, наездзіліся мы ў гэты раз, Іван Данілавіч!..

Чарняхоўскі падаўся ў свой дом, сцены якога, пафарбаваныя ў зялёны колер, з рудымі палосамі, выглядалі між сосен. Драўляны дах быў таксама камуфліраваны, старанна замаскіраваны, закіданы галінамі-лапамі.

Раптам ён пачуў угары над сабою знаёмы металічны трэск і спыніўся, узняў галаву — на сасне, на мядзяным ствале з тонкімі, падобнымі на слюду лісткамі кары, вісела невысока галавой уніз вогненна-рудая вавёрка. Пушысты хвост яе быў узняты; на сухіх баках хадзілі рэбры. Яна, напружана прыгнуўшыся, глядзела ўважлівымі вачыма на Чарняхоўскага.

Шчоўкнуўшы, ступіла некалькі крокаў па ствале і спынілася зноў, потым пачала хутка спускацца. На зямлі яна стала на заднія лапкі, азірнулася вакол і паскакала заклапочана да суседняга дрэва. Там нешта шукала. Чарняхоўскі крануўся,— і яна, спалоханая, адразу сіганула на дрэва, як маланка, паляцела па ствале, так што пасыпалася ўніз кара.

Камандуючы зачараваўся яе жвавасцю і спрытам. Узляцеўшы на крывы сук, вавёрка скокнула ў паветра і нейкі міг лунала, ляцела ў блакітнай вышыні, як птушка. Потым мільгнула ўжо на зялёнай галінцы, што адразу загайдалася.

«Бач ты, скакуха!» — мімаволі падумаў Чарняхоўскі.

Ён стомлена падняўся па прыступках, над якімі ўгары выступаў невялікі прыдашак.

У прыёмнай дзяжурыў юны, русявы, кірпаносы лейтэнант. Убачыўшы камандуючага, ён, хапаючыся, ускочыў і прывітаўся.

Чарняхоўскі, амаль не прыпыняючыся, папрасіў, каб падалі матэрыялы, што прыйшлі на яго імя.

Ён прайшоў у кабінет. Кабінет быў самым вялікім пакоем у доме. Тут стаяў у кутку рабочы стол, да якога прымыкаў другі, даўжэйшы, ля сцен былі канапа, некалькі крэслаў. Недалёка ад рабочага стала вісела вялікая карта фронту, зацягненая сіняй шторкаю.

Лейтэнант прынёс радыёграмы, данясенні, дакладныя, і Чарняхоўскі, не распранаючыся з дарогі, стаў хутка і моўчкі праглядаць іх.

— Ёсць яшчэ ліст, таварыш генерал.— Ад'ютант падаў маленькі самаробны канверт. Чарняхоўскі мельнам зірнуў на адрас: «У дзеючую армію, на Заходні фронт, камандуючаму фронту генералу тав. С». «С», відаць, значыла,— Сакалоўскаму, што камандаваў былым Заходнім фронтам.

Чарняхоўскі паглядзеў на танкі і самалёты з чырвонымі зоркамі, намаляваныя ўгары ліста, стаў чытаць.

Прачытаўшы, ён нахмурыўся, паклаў ліст у стол. «Ад дачкі, мусіць... Ці ад Аліка», — падумаў Камароў, які не бачыў адраса на лісце.

Чарняхоўскі адным рухам расшмаргнуў плашч-накідку, аддаў яе падбегшаму ардынарцу, адрывіста кінуў паручэнцу:

— Камароў, выклічце на восем трыццаць начальніка тылу... На дзевяць — камандуючага паветранай арміі. Пераключыце тэлефоны!.. Усё? — зірнуў ён на ад'ютанта.

— Быў ваш брат, таварыш камандуючы. Падпалкоўнік Чарняхоўскі, Аляксандр Данілавіч.

— Даўно?

— Ад шаснаццаці трыццаці да семнаццаці.

— Паехаў?

— Так точна. Ён быў праездам.

Брат камандуючага служыў на гэтым жа фронце ў адной танкавай брыгадзе, намеснікам камандзіра. Бачыцца ім даводзілася вельмі мала, і Чарняхоўскі пашкадаваў, што не спаткаліся.

У пакоі для адпачынку, маленькім і вузкім, у які вялі дзверы з кабінета, здалося яму, было душна, і ён адчыніў акно. Зняўшы кіцель і боты, ён на хвіліну прылёг на жалезны ложак, накрыты простай байкавай коўдрай, і адчуў, як прыемна, лёгка стала целу. Пазяхнуў і — адразу схамянуўся:

«Так, чаго добрага, засну».

Ён з намаганнем узняўся і, памыўшыся на дварэ, пад бляшаным умывальнікам, прыбітым да сасны, паружавелы, больш бадзёры вярнуўся ў пакой, пачаў апранаць чысты кіцель. Кіцель станавіўся, заўважыў ён, цеснаватым, — у Чарняхоўскага варухнулася думка: «Пачынаю паўнець. І хаджу многа, а ўсё чамусьці паўнею...» Ён прычасаў густыя непаслухмяныя валасы, акінуў сябе позіркам: камандуючы любіў акуратнасць у адзенні, — і выйшаў у кабінет.

Узяўшы з краю стала, дзе ляжалі свежыя газеты, апошні нумар «Праўды», Чарняхоўскі прылёг на канапу, палажыў галаву на рубчастую мулкую бакавінку. Гэта цвёрдая сялянская канапа, на якой звычайна ляжаў генерал у рэдкія хвіліны адпачынку, трапіла ў яго кабінет «часова», але калі потым замянілі яе мяккай, плюшавай, Чарняхоўскі на дзіва для многіх загадаў вярнуць ранейшую.

— Вы што, другую спальню ў кабінеце думаеце зрабіць? — сказаў ён ад'ютанту.

Што праўда, то праўда, спаць на гэтай канапе было не соладка. Чытаючы газету, Чарняхоўскі ўвесь час мяняў паставу галавы: муляў пракляты цвёрды рубец бакавінкі. Але калі Камароў праз некалькі хвілін

зазірнуў у кабінет, то ўбачыў, што камандуючы, прыгнуўшы няёмка галаву, спіць, трымаючы разгорнутую газету на грудзях.

Паручэнец ціха прычыніў дзверы і пераключыў тэлефоны на прыёмную.

Хвілін праз сорак прыбыў начальнік тылу, і Камароў са строгім, дзелавым выглядам зноў увайшоў у пакой.

— Таварыш камандуючы!

Чарняхоўскі паварушыў брывом, нібы адганяў муху, і прачнуўся.

— Што такое?

— Прыбыў начальнік тылу.

— Прыбыў?.. Добра.

Ён устаў, прывычна абцягнуў кіцель і, правёўшы рукою па твары, як бы сціраючы рэшткі сну, сказаў:

— Прасі.

Чарняхоўскі ступіў насустрач таму, хто ўвайшоў, прывітаўся.

— Далажыце, таварыш генерал,— папрасіў ён ветліва, мякка, заходзячы за рабочы стол,— якія змены адбыліся ў вас за апошнія двое сутак?

— Ёсць...— Начальнік тылу разгарнуў папку, што трымаў у руках.— За гэты перыяд намі атрымана... Першае — зброя і боепрыпасы...

Ён, заглядваючы ў папку і час ад часу ўздымаючы чакальны позірк на камандуючага, стаў павольна, сіплаватым голасам называць лічбы эшалонаў са зброяй, наменклатуру боепрыпасаў — род, калібр, маркі. Пасля кожнага пункта ён рабіў паўзу, як бы чакаючы заўвагі ці пытання Чарняхоўскага, але той маўчаў.

Камандуючы ўважліва слухаў, аднак амаль нічога не запісваў. Толькі раз ці два ён зрабіў нейкія адзнакі ў запіснай ледэрынавай кніжачцы, якую выняў з кішэні. Начальніка тылу гэта не бянтэжыла: ён, як і іншыя блізкія да камандуючага людзі, ведаў, што ў таго, хто слухае, на дзіва моцная памяць, што яна трымае добра самыя разнастайныя весткі пра ўвесь фронт, пра дывізіі і нават палкі...

Генерал чытаў, час ад часу паглядваючы на Чарняхоўскага.

— Добра. Далажыце, колькі цяпер боекамплектаў

гранат у часцях, на ДОПах[1], у арміях, на складах фронту?

І зноў генерал чытаў, стараючыся стаяць прама, а Чарняхоўскі слухаў, таксама стоячы, машынальна круцячы ў руках вастразаточаны сіні аловак.

— Гаруча-змазачныя матэрыялы...

— Пачакайце...— Тарэц алоўка лёгка стукнуў па стале.— Бранябойных патронаў у нас па графіку павінна быць тры боекамплекты? Чаму пакуль толькі два з паловай?

— Два эшалоны з патронамі затрымаліся ў Маскве — на акружной...— Адзін — з бранябойнымі патронамі.

— А як справы з аўтамабільным маслам спецыяльным?— запытаўся Чарняхоўскі, успомніўшы нейкі мінулы даклад.

— Яшчэ не ўлажыліся ў графік, таварыш камандуючы.

— А колькі ж вы будзеце ўкладвацца?

— Чыгунка, таварыш камандуючы, падводзіць.

— А вы гаварылі з чыгуначнікамі?

— Гаварыў...

— Ну і што?

— Абяцаюць выручыць...

— Абяцаюць. А між тым не ў першы раз не спраўляюцца з графікам.

— Я гаварыў з імі пра гэта.

— Відаць, недастаткова добра гаварылі.

Ён прайшоўся па пакоі, засунуўшы рукі ў кішэні. Генерал моўчкі сачыў за ім, апусціўшы папку і трымаючы між лісткамі палец замест закладкі.

— Што ж, я з імі пагавару!.. Дзе эшалоны з аўтамабільным маслам?

— На падыходзе, таварыш камандуючы.

Чарняхоўскі зноў вярнуўся за стол.

— Далажыце, колькі ўсяго эшалонаў на станцыях разгрузкі, на падыходзе, якія?

Выслухаўшы адказ, камандуючы хвіліну памаўчаў, пакручваючы аловак.

— Я загадаў пры перавозцы войск і ўзбраення захоўваць строгую маскіроўку. І ўсё-такі да апошняга

---

[1] Дывізійны абменны пункт.

часу ёсць выпадкі, калі шафёры едуць ноччу з поўнымі фарамі...

— Парушаюць... Я папярэджваў людзей, таварыш генерал.

— За парушэнне маскіроўкі — шафёраў адразу здымайце з машын, а камандзіраў прыцягвайце да адказнасці...

— Ёсць, таварыш генерал. Я сёння ж прыму меры.

— Усё, можаце быць вольны.

Пасля яго Чарняхоўскі папрасіў зайсці камандуючага паветранай арміі, намеціў на бліжэйшыя дні план «апрацоўкі» з паветра важнейшых чыгуначных вузлоў.

Ужо больш за дзесяць дзён Чарняхоўскі дакладна ведаў план будучай аперацыі і тое, што належыць зрабіць у ёй яго фронту, самому яму.

Гэта стала вядома яму 22 мая на нарадзе ў Маскве, у Стаўцы, на якой былі Сталін, яго намеснікі, камандуючыя чатырох франтоў. Па плану наступленне меркавалася разгарнуць па ўсёй вялізнай лініі ад Полацка да Мазыра. Меркавалася, прарваўшы фронт на шасці далёкіх адзін ад аднаго ўчастках, раздрабніць сілу ворага і па частках знішчыць. Удары павінны былі сыходзіцца ў кірунку на Мінск.

Тое, што стала яму вядома на нарадзе, канкрэтызавала і замацавала ў дакладных, строгіх выразах 31 мая дырэктыва Стаўкі, якая накіравала ўсю яго дзейнасць у будучай бітве. Яго войскам разам з войскамі суседніх Першага Прыбалтыйскага і Другога Беларускага франтоў належала разграміць віцебскую і аршанскую групоўкі немцаў і выйсці на Бярэзіну. Фронт павінен быў нанесці два ўдары: першы дзвюма арміямі на поўдзень ад Віцебска; другі — таксама дзвюма арміямі, усцяж Мінскай магістралі...

Чарняхоўскі і яго штаб за гэтыя лічаныя дні ўжо багата зрабілі для блізкага наступлення. З кожным днём наступленне, што яшчэ нядаўна было ў агульных, схематычных абрысах, набывала ўсё большую жыццёвую канкрэтнасць і складанасць. Па меры таго як яно шырылася, вымалёўвалася, яно ўсё больш патрабавала, больш ставіла пытанняў, загадак, якія трэба было высветліць, вырашыць.

Усе гэтыя дні Чарняхоўскі з раніцы да ночы, да той позняй пары, калі, змораны паездкамі, турботамі, засынаў,— думаў над гэтымі загадкамі, што абступалі незлічонай чарадою.

Сярод мноства спраў, якія чакалі камандуючага фронту ў гэты дзень, адна, можна сказаць, мела асаблівае значэнне: на дзесяць гадзін была назначана нарада з камандуючым 11-й гвардзейскай арміі. Нарада была не першай у радзе самых важных спраў, што Чарняхоўскі павінен быў зрабіць да пачатку наступлення: камандуючы ўжо меў такія нарады з кіраўніцтвам штаба фронту, з камандуючымі радоў войск. На гэтых нарадах з надзвычайнай уважлівасцю былі абмеркаваны агульныя пытанні аперацыі, задачы разведкі, задачы інжынерных войск, артылерыі, авіяцыі. У апошнія два дні ён пабыў у 5-й і 39-й арміях, сустрэўся з іх камандуючымі, генераламі Крыловым і Людніковым, разам з камандаваннем армій перабраў усё, што датычыла наступлення.

Сёння была чарга 11-й гвардзейскай арміі. Сустрэча гэта была асабліва важнай таму, што арміі ў будучай аперацыі выпала выканаць самую адказную і цяжкую задачу. Армія стаяла на цэнтральным кірунку, павінна была наступаць усцяж магістралі і цераз Асінаўскія балоты.

Каля дзесяці Чарняхоўскі, у кабінеце якога былі ўжо начальнік штаба фронту генерал-лейтэнант Пакроўскі і начальнік аператыўнага ўпраўлення генерал Іголкін, выйшаў у прыёмную, запрасіў выкліканых на нараду да сябе. Прывітаўшыся з усімі, зайшоў за стол, акінуў позіркам, па-гаспадарску глянуў, дзе хто ўладжваецца. Выбраўшы сабе месцы, генералы таксама стаялі, глядзелі насустрач яму, чакалі яго слоў. Былі тут, акрамя Пакроўскага і Іголкіна, член Ваеннага Савета Макараў, які стаяў каля Чарняхоўскага, некаторыя камандуючыя радоў войск, камандуючы, член Ваеннага Савета, начальнік штаба арміі. Спіс, каго выклікаць на нараду, Чарняхоўскі складаў сам, адабраў толькі неабходных, дбаючы, каб і гэта нарада была сакрэтнай.

Усе, хто быў выкліканы, з'явіліся.

— Прашу сесці.— Чарняхоўскі пачакаў, пакуль усе сядуць, дачакаўся поўнай увагі, дзелавіта аб'явіў: — Пачнём.— Зірнуў на камандуючага арміі, што

сачыў з выглядам, у якім адчуваліся сабранасць і гатоўнасць.— Вам слова, таварыш Галіцкі.

Камандуючы 11-й гвардзейскай, каржакаваты, абветраны, з праблiскам сiвiзны ў русявых валасах, устаў, мерным, упэўненым крокам пайшоў да карты, што вiсела побач са сталом. Узяў з рук Чарняхоўскага ўказку. Спакойным, нават крыху павольным голасам стаў дакладваць, як ён рашыў расставiць войскi перад наступленнем у раёне магiстралi, дзе было вузкае дэфiле мiж балот, на шырокiм балотным прасцягу. Без якой-небудзь хапатлiвасцi, з нейкай вельмi харошай годнасцю далажыў, якiя задачы дае кожнаму злучэнню, кожнай прыданай часцi. Расказаў, як мяркуе арганiзаваць прарыў нямецкай абароны ў паласе магiстралi, у балотах; як будзе, увёўшы войскi ў прарыў, наступаць у кiрунку Оршы, возьме Оршу, будзе развiваць наступленне ўсцяж магiстралi да Барысава. Падрабязна далажыў, як армiя будзе ўзаемадзейнiчаць з суседнiмi — 5-й — з поўначы i 31-й — з поўдня...

— Добра,— ветлiва, нават пачцiва сказаў Чарняхоўскi. Адчувалася, што ён з пашанай адносiцца да камандуючага армii, верыць яго вопыту, ведам.— Давайце зазiрнем на той бок фронту. Ахарактарызуйце становiшча войск працiўнiка. Што новага выявiла разведка?

Ён з тым жа ветлiвым, але разам i строгiм, патрабавальным выглядам слухаў. Патрабавальна стаў распытваць пра 78-ю штурмавую дывiзiю, што сядзела, закапаўшыся ў зямлю, абапал магiстралi.

Ужо з таго, што заселi пяхота i артылерыя, што выявiла разведка армii, было вiдаць, як моцна ўчапiлася ў вузкую палоску зямлi нямецкая дывiзiя. Мiнныя палi, дротавыя загароджы, агнявыя кропкi, доты, дзоты, траншэi; кулямётныя гнёзды, мiнамётныя, артылерыйскiя батарэi, старанна замаскаваныя, падрыхтаваныя,— на многiя кiламетры ў глыбiню фронту...

— 78-я штурмавая дывiзiя славiцца ў немцаў упорствам у абароне,— сказаў член Ваеннага Савета фронту Макараў.— Генерал Траут — адзiн з самых спрактыкаваных фартыфiкатараў...

Чарняхоўскi падтрымаў Макарава:

— Часу мы адпусцiлi гэтаму фартыфiкатару больш чым дастаткова! — Ён загаварыў заклапочана:— Арашок армii выпаў моцны! Добра трэба будзе папраца-

ваць, каб раскалоць!..— Ён зірнуў на камандуючага арміі: — Як вы ацэньваеце вынікі разведкі? Поўныя яны?

— Думаю, што не ўсё ўдалося выявіць, — адкрыта сказаў камандарм.— Намі выведаны агнявыя кропкі, якія ні разу не адзываліся на наш агонь.

— Артылерыйская разведка таксама выявіла некалькі такіх батарэй,— пацвердзіў камандуючы артылерыі фронту Барсукоў.

— На жаль, пошукі разведчыкаў часта канчаюцца няўдачай,— загаварыў зноў камандарм.— Загубілі нямала харошых людзей... Шчыльнасць вялікая, і пільна сочаць...

— Трэба ўсімі сіламі весці разведку, — цвёрда, нават жорстка загадаў Чарняхоўскі. Ён зірнуў на начальніка штаба, потым на камандуючага паветранай арміі.— Трэба ўзмацніць паветраную разведку.

Чарняхоўскі перавёў позірк на камандуючага артылерыі:

— Таварыш Барсукоў, далажыце пра артылерыйскае забеспячэнне прарыву.

Уважліва слухаў, як генерал глухаватым голасам называў часці, што падышлі або на падыходзе, сачыў, як генерал паказваў іх размяшчэнне. Зноў з асаблівай увагай распытваў пра тыя, якія будуць весці артпадрыхтоўку ў паласе магістралі. Пра тое, колькі боекамплектаў будуць мець да пачатку наступлення, колькі цяпер ёсць.

За камандуючым артылерыі Чарняхоўскі падняў камандуючага паветранай арміі генерал-палкоўніка Хрукіна: чым паможа 11-й гвардзейскай у наступленні авіяцыя? За генералам Хрукіным папрасіў далажыць пра дзеянні сваіх часцей начальніка інжынерных войск Баранава...

Вокны ў кабінеце былі зачынены, дзень за вокнамі млеў душны, мусіць, парыла. Сонечнае цяпло падала на правае плячо, пякло спіну, Чарняхоўскі адсунуўся ў цень. Калі Баранаў скончыў, ён, зірнуўшы на гадзіннік, дазволіў зрабіць перапынак. Устаў, шырока расхрыстаў вокны.

Генералы выйшлі на двор, пад сосны, у прапахлы смалою цянёк. Пахаджвалі, стаялі купкамі, гаманілі, курылі. Высокі, бялявы, з коратка астрыжанымі валасамі Хрукін, адметны між іншых блакітнымі лампасамі, расказваў у гуртку вясёлую гісторыю, і некалькі

генералаў рагаталі. Стрымана пасмейваўся і задуменны, паглыблены ў сябе Чарняхоўскі, што стаяў крыху ўбаку. Непадалёк нешта даводзіў генералу Барсукову Іголкін, нізкі, галалобы, дабрадушны,— дзіўна мірны нават у сваім генеральскім мундзіры...

Пасля перапынку Чарняхоўскі зноў зачыніў вокны, вярнуўшыся да стала, знайшоў позіркам камандуючага бронетанкавых войск.

— Таварыш Родзін, ці ўзгоднен з камандаваннем арміі план уводу ў прарыў танкавых войск?

Генерал Родзін узняўся.

— Узгоднен. Мы абмеркавалі дэталі ўводу з камандуючым арміі.— Ён глянуў на камандарма, быццам прасіў пацвердзіць.— Акрамя таго, план уводу быў узгоднен і з камандуючым корпуса...

— Учора мы сустракаліся з генералам Бурдзейным,— сказаў камандарм.

— У паласе магістралі вы павінны ўвесці таксама 5-ю гвардзейскую танкавую армію,— нагадаў Чарняхоўскі. Нагадаў такім тонам, што гэта значыла: вы павінны да гэтага аднесціся з асаблівай адказнасцю. Армія для поспеху наступлення фронту мае, нібы гаварыў Чарняхоўскі, асаблівае значэнне. Некалькі наступных пытанняў камандуючы задаў пра тое, як будзе арганізаван увод у прарыў арміі, якая толькі падыходзіла, размяшчалася ў лясах у тыле фронту.

Пытанні былі і агульныя, шырокія і драбнейшыя, практычныя: хто забяспечыць размініраванне мінных палёў у паласе ўводу танкаў, як памагчы танкістам у пераадоленні супрацьтанкавых перашкод, як арганізаваць сувязь пяхоты з танкамі. Чарняхоўскі зноў выклікаў камандуючага паветранай арміі генерала Хрукіна: хто прыкрые ўвод танкавых войск з паветра, хто будзе прыкрываць у далейшым руху.

Потым была нейкая хвіліна маўчання. Чарняхоўскі ўглядаўся ў карту, у паласу магістралі, і на твары яго былі трывога і дапытлівасць. Ён так глядзеў, быццам пытаўся, быццам патрабаваў адказу. Неспакойна, незадавольна пацёр шчаку і шыю. Рэзка павярнуўся к камандарму.

— А што, калі ў нас тут не пойдзе? — прамовіў раптам адкрыта, бязлітасна.

Гэта было смелае пытанне. Магло здацца — і непатрэбнае. Нашто разважаць пра такое, калі Стаўка ра-

шыла іншае. Рашэнне Стаўкі — закон. І наогул нашто, яшчэ да пачатку справы, дапускаць думку пра няўдачу. Ды яшчэ на галоўным напрамку.

Камандуючы арміі нялёгка знаходзіў адказ.

— Мы будзем развіваць наступленне таксама ў кірунку Востраў-Юр'еў.— Ён гаварыў пра тую частку войск арміі, якая была на Асінаўскіх балотах.— Мы навіснем над дэфіле, над шасэ [illegible] поўначы. Нарэшце гэта паставіць праціўніка перад пагрозай акружэння.

— Увод корпуса Бурдзейнага можа затрымацца,— нібы вінаваціў камандуючы.

— Можна было б корпус выкарыстаць у баях на прарыў,— прамовіў разважліва камандарм,— але ён можа панесці вялікія страты...

— Корпус нельга ўводзіць у бой на прарыў,— запярэчыў генерал Родзін.

— Так, корпус трэба зберагчы для развіцця наступлення,— сказаў Чарняхоўскі.

Ён бязлітасна нагадаў камандуючаму арміі:

— У вас у тыле чакае дарогі армія Ротмістрава.

— Так...

Зноў была хвіліна маўчання. Цяжкага, трывожнага. Чарняхоўскі стаяў за сталом, засунуўшы рукі ў кішэні, чакаў.

— Як вы думаеце,— загаварыў ён напорліва,— ці магчыма, у выпадку няўдачы ў раёне магістралі, увесці корпус,— ён узяў указку, рэзка кінуў па карце,— у кірунку Востраў-Юр'еў, Межава, на Клюкаўку?

— Корпус можа засесці,— сказаў камандуючы арміі.— Ва ўсякім разе, балоты вельмі затрымаюць рух корпуса...

— Там ёсць насыпы вузкакалеек...

— Насыпы — ненадзейны...

— Добра,— Чарняхоўскі быццам паказваў: скончым пакуль з гэтым.— Адкуль найбольшая небяспека контратак праціўніка пры наступленні на Востраў-Юр'еў?.. Якімі сіламі і сродкамі, вы мяркуеце, могуць весціся гэтыя контратакі? Як вы мяркуеце адбіваць іх?

Пытанні ішлі за пытаннямі — чаканыя і нечаканыя. Што вы думаеце зрабіць, каб падтрымаць армію Крылова, калі яна вырвецца ўперад; як вы абераджэце флангі, калі вырвецеся ўперад вы? Усё, што магло трапіцца ў зменлівым шчасці баёў, хацеў прадбачыць загадзя, папярэдзіць...

За гэтым нагадаў: поспех наступлення ў самай вялікай меры будзе залежаць ад таго, наколькі скрытна ўдасца падрыхтавацца, наколькі нечаканым для праціўніка акажацца ўдар.

Пад канец зноў вярнуўся да магістралі: як там ні цяжка, трэба адразу ж разламаць фронт праціўніка. Падтрымаць пяхоту самымі моцнымі ўдарамі артылерыі і авіяцыі. Зрабіць усё, каб як найхутчэй увесці ў прарыў танкавы корпус Бурдзейнага і армію Ротмістрава...

Увечары яму паведамілі, што непадалёк, на прыфрантавым аэрадроме, прызямліўся Рогаў, камандзір вялікага партызанскага злучэння ў Беларусі.

Паведамленне гэта не было нечаканым для Чарняхоўскага. Напярэдадні аб прыездзе партызанскага камандзіра званілі яму з Масквы, са Штаба партызанскага руху. Гэта быў званок у адказ на яго просьбу дапамагчы сустрэцца, мацней звязацца з партызанамі.

Чарняхоўскі загадаў Камарову зараз жа паехаць на аэрадром і запрасіць камандзіра злучэння ў штаб.

Ён зняў трубку тэлефона:

— Васіль Емяльянавіч, зайдзіце, калі ласка, хвілін праз трыццаць да мяне. Справа ёсць...

Чарняхоўскі выняў са стала самаробны канверцік з лістом, на якім былі намаляваны танкі і самалёты. Паглядзеў на малюнак і стаў зноў чытаць.

«Дарагі таварыш камандуючы генерал! Гэта пішуць да вас з Л. дзіцячага дома Коля і Сяржа Крушыны, Шурка Хмялеўскі і Лёня Зелянкоў,— адразу называлі сябе аўтары ліста.— Мы ўсе з вялікім гонарам чытаем пра геройскія справы нашых байцоў і афіцэраў Чырвонай Арміі, а таксама і слухаем па радыё кожны дзень. Нашы бацькі таксама на фронце ваююць, толькі ў Лёні Зелянкова і Шуркі Хмялеўскага не ваююць, бо яны загінулі на фронце. Жывём мы ў цяперашні час добра. Мы тут вучымся ў школе. У нас ёсць нары і пасцелі. Адно толькі пагана, што далёка дровы насіць з лесу і ваду з рэчкі, бо няма на чым вазіць. А мы яшчэ не акрэплі пасля нямецкага лагера. А так усё добра. Не думайце, дарагі таварыш генерал, што мы скардзімся на цяжкасці. Мы іх перажываем, бо на фронце нашы байцы перажываюць яшчэ большыя...»

«Мы падрыхтавалі для Чырвонай Арміі пяць пасылак і паслалі іх. Мы хочам запытаць Вас, ці не трэба Вам яшчэ чаго? Напішыце, якія Вам патрэбны падарункі? Мы ўсё зробім!!!»

Далей ішлі адрас і прыпіска: «Выбачайце, што пішам не сакрэтны Ваш адрас, бо мы яго не ведаем»,— ніжэй быў намаляваны нямецкі самалёт, што падае і дыміцца...

Камандуючы, паглядаючы на гэты самалёт, узяў аловак і непаспешліва, паглыблены ў свае думкі, падкрэсліў словы: «...далёка дровы насіць з лесу і ваду з рэчкі, бо няма на чым вазіць... не акрэплі пасля лагера». Ён так націснуў аловак, што графіт зламаўся.

Пачало наплываць, набліжацца далёкае-далёкае: успаміны, як сам калісьці бадзяўся па дарогах. Адганяючы згадкі, ён узяў ручку, пачаў хутка, энергічна пісаць:

«Дарагія сябры! Пісьмо Ваша перадалі мне. Дзякую за яго. Вы пытаецеся, які патрэбен фронту падарунак. Адказваю — вучыцца добра, настойліва. Гэта галоўны падарунак. Перадайце прывітанне ўсім Вашым выхавацелям і таварышам ад салдат і афіцэраў фронту!»

Чарняхоўскі размашыста, але разборліва распісаўся. Узяўшы трубку тэлефона, выклікаў начальніка тылу і дамовіўся падрыхтаваць падарункі для дзіцячага дома.

Увайшоў член Ваеннага Савета, і Чарняхоўскі паведаміў яму:

— Зараз будзе тут госць — Рогаў, партызанскі генерал. Ён павінен прыехаць з хвіліны на хвіліну... А пакуль, Васіль Емяльянавіч, вось — пачытайце.

Чарняхоўскі падаў ліст і стаў назіраць за тварам генерала, пакуль той чытаў.

— Цяжкавата дзецям! — складваючы лісток, пачуваў Макараў.— Вы, здагадваюся, рашылі падтрымаць іх...

— Так. Вось...— камандуючы даў лісток, на якім было напісана, што трэба адправіць дзетдому.

— Гэта правільна...— Добры, чулы Макараў задаволена пацёр рукой шчаку.— Трэба берагчы іх...

Неўзабаве нячутна ўвайшоў Камароў і хвацка, як заўсёды ў найбольш важныя моманты, далажыў, што генерал-маёр прыбыў,— паручэнец ледзь не сказаў

звыклае «па вашаму загаду», але спрытна паправіўся — «па вашай просьбе!».

— Прасі...

У пакой ступіў нізкарослы, здалося — марудлівы, апрануты ў новую палявую форму генерал. Увайшоўшы, ён уважлівымі вачыма з-пад цёмных броваў нехапатліва паглядзеў на Чарняхоўскага і Макарава і глухаватым голасам, проста адрэкамендаваўся:

— Рогаў.

Выйшаўшы з-за стала, Чарняхоўскі ветліва паціснуў руку і, пазнаёміўшы з генералам Макаравым, папрасіў госця сесці.

— Я, прызнацца, уяўляў вас больш грозным з выгляду,— пажартаваў камандуючы.— Думаў, у вас барада да пояса...

— Я таксама ўяўляў вас інакшым — старэйшым!..— падтрымаў жарт Рогаў. Гаварыў партызан таксама марудліва, увесь час узіраючыся, не зводзячы вачэй з субяседніка. Позірк быў вострым, але не насцярожаным, а добразычлівым, сяброўскім. Разам з тым у ладзе гаворкі і ў тым, як партызан трымаўся, была ўпэўненасць у сабе, за якой адчуваўся чалавек, што ўмее і звык кіраваць.

Чарняхоўскі запытаў, што новага чуваць у Маскве.

— Што новага ў Маскве? Агульныя навіны вы ведаеце, мабыць, лепш за мяне. Усё ж такі бліжэй да сталіцы, чым мы — лясныя людзі...

Рогаў гаварыў з такім знаёмым Чарняхоўскаму беларускім вымаўленнем. І ў тым жартаўліва-разважным ладзе, які, здавалася Чарняхоўскаму, быў уласцівы беларускім сялянам. Наогул у Рогаве адчувалася штосьці сялянскае, моцнае, прываблівае.

— Бліжэй-то бліжэй, ды вы ж толькі што з Масквы,— масквіч, можна сказаць...

— Які я масквіч?! Я і тыдня не быў там. Ды і то — ходзячы па сталіцы, думаў пра сваіх хлопцаў ды пра лес...

— Лясы і лясныя людзі нас, таварыш Рогаў, цяпер таксама вельмі цікавяць... Як ніколі. Таму мы і папрасілі, каб нам дапамаглі спаткацца. Як там у лясах вашых?

Чарняхоўскі ўлавіў у позірку камандзіра партызанскага злучэння пытанне: што іменна вас цікавіць?

Удакладніў без усмешкі, з разуменнем сур'ёзнасці становішча і спачуваннем:

— Блакады яшчэ ідуць?

— Дзе-нідзе ідуць...

— Значыцца, карнікі не зусім прыціхлі?

— Крыху прыціхлі. Непакояцца пра фронт. Усе іх карныя дывізіі з нашага раёна падаліся ў бок фронту...

— Што цяпер у сёлах?

— Пагана ў сёлах. Вярнуліся на старыя мясціны — пазнаць нельга. Праязджаў я нядаўна па такой вёсцы — Паплавы. Была калісьці зялёная, уся ў садах, з багатымі калгаснымі пабудовамі. Я яе добра ведаю, працаваў там гадоў дзесяць назад дырэктарам МТС... А цяпер — толькі попел і чорныя пустыры... За адзін дзень фрыцы з паліцаямі забілі дзвесце трыццаць чалавек. Некалькі чалавек жывымі спалілі ў школе. Адну жанчыну кінулі разам з маленькім дзіцем... Вось што ў нас... Тысячы людзей па-зверску забіты і спалены... Папялішча і — трупы...

Чарняхоўскі апусціў галаву. Твару яго амаль не было відаць,— святло лямпы выхоплівала рэзкія, дугамі, бровы ды неспакойнае, без адной ніткі сівізны, плеціва валасоў.

— Цяпер заняліся сяўбою...— мімаволі прыцішыў голас Рогаў.— Сеяць вельмі цяжка, усё папалена, мала-мала засталося коней, плугоў. У Паплавах, напрыклад, не засталося ніводнага каня. Прыйшлося мабілізаваць коней у брыгадзе. Ермакоў там у нас камандуе.

Пакуль ішла гэта размова, ардынарац і Камароў гаспадарліва накрылі суседні стол абрусам, паставілі вячэру на траіх. Адкаркавалі бутэльку каньяку і бутэльку баржомі, паклалі пачак «Казбеку».

Далей размова ішла за сталом з вячэраю. Наліўшы каньяку ў чаркі, Чарняхоўскі прапанаваў выпіць, як належала, за Вярхоўнага Галоўнакамандуючага таварыша Сталіна, за перамогу, што ахвотна і падтрымалі абодва генералы. Чарняхоўскі падняў і другі тост: за партызан Беларусі і за ўвесь беларускі народ; камандуючы з незвычайнымі спачуваннем і павагаю сказаў пра пакуты, цярплівасць і гераізм народа, яго сыноў-партызан. Словы яго, прачулыя, сардэчныя, прыкметна расчулілі камандзіра партызанскага злучэння. Твар Рогава раптам перацяла спазма болю, партызанскі генерал з неспадзяванай кволасцю часта заморгаў

пачырванелымі вачыма, гатовы, здавалася, заплакаць. Але Рогаў авалодаў сабой, удзячна стукнуўся сваёй з чаркамі камандуючага і члена Ваеннага Савета. Расчулены, ён узяў наступнае слова: за Чырвоную Армію, за вызваленне! Ад таго, што моцна хваляваўся, гаварыў ён з яшчэ большым беларускім вымаўленнем, больш ужываў беларускія словы...

Вялікай, выпакутаванай любоўю, нецярплівай і непадатнай нічаму надзеяй былі поўны яго словы.

— Часта пытаюць,— кінуў на Рогава цікаўны, мяккі позірк Макараў,— калі пачнецца наступленне?

— Ну, такое пытанне, мусіць, у кожнага калі не на языку, то ў галаве...

Па тым, як глянуў Рогаў на члена Ваеннага Савета фронту, Чарняхоўскі адчуў, што партызанскі генерал сам прагне пачуць: калі?

З уласцівай яму зычлівасці Чарняхоўскага вярэдзіла немалая спакуса тое-сёе адкрыць Рогаву, абнадзеіць таварыша і брата, але прафесійная стрыманасць, звычка ваеннага, разуменне абавязку і адказнасці адразу прыглушылі паблажлівае жаданне.

— Рыхтуемся, таварыш Рогаў,— сказаў Чарняхоўскі з сяброўскай чуласцю. Запэўніў таксама па-сяброўску, цвёрда: — Ніводнага лішняга дня стаяць не будзем! — З праніклівага, хітраватага позірку Рогава Чарняхоўскі зрабіў вывад, што той усё зразумеў і што, можа быць, ведае багата больш, чым яны з Макаравым думаюць. Вядома, яму не маглі не даверыць некаторых важных вестак, сакратару падпольнага абкома партыі, члену ЦК. Да таго ж разумны чалавек у яго становішчы і з яго інфармаванасцю мог і сам без вялікай цяжкасці пра галоўнае здагадацца. Гэтыя меркаванні мільгнулі ў Чарняхоўскага, калі ён, унікаючы дапытлівага, з хітрынкаю, позірку Рогава, з гасціннасцю зычлівага гаспадара перавёў гаворку ў дзелавую каляіну.— У нас, Уладзімір Іванавіч, вялікая просьба. Каб падтрымалі, па-суседску, калі прыйдзе час!..

— За гэтым астаноўкі не будзе! — адразу прытушыў хітрынку Рогаў. Проста, аддана заявіў: — Падтрымаем, колькі змогі.— Зноў з хітрынкай дадаў: — Думаю, што хутка пачуеце наш галасок!

Чарняхоўскі і член Ваеннага Савета ведалі, на што намякае Рогаў: ім паведамлялі ўжо, што рыхтуецца вялікі партызанскі «канцэрт». Удар па чыгунках вора-

га, па яго камунікацыях. Радуючыся гэтаму, Чарняхоўскі сказаў Рогаву, што было б вельмі добра, каб партызанскія сілы ў часе наступальных баёў арміі ўзмацнілі свае ўдары з тылу. Ён даў некалькі парад, як і чым лепш дапамагчы арміі ў такой сітуацыі, як наладзіць узаемадзеянне з армейскімі часцямі. Для пастаяннай аператыўнай сувязі [illegible] партызанскім злучэннем камандуючы прапанаваў прыняць групу разведчыкаў фронту. Папрасіў аказваць ім усялякае садзеянне.

Закончыўшы дзелавую размову, Чарняхоўскі пацікавіўся ў Рогава, колькі той мяркуе пабыць на фронце.

— Думаю сёння ж адправіцца дамоў.

— А можа, пабылі б дзянёк у нас? Паглядзелі б? — прапанаваў камандуючы.

— Не, не. Няма часу! — рашуча адмовіўся Рогаў.

Зірнуўшы на ручны гадзіннік, ён здзівіўся: так многа ўжо! Адасобіўся ў момант, засяродзіўся на сваім, заспяшаўся. Падзякаваў за вячэру, устаў і пачаў адразу развітвацца. Вінавацячыся, апраўдваўся тым, што ночы цяпер кароткія і, чаго добрага, можна не ўправіцца да світання дадому.

Пашкадаваўшы, што Рогаў так хутка ляціць ад іх, Макараў першы ад душы сціснуў руку партызану.

— Перадайце прывітанне сваім лясным салдатам. Скажыце, што мы моцна спадзяемся на такіх памочнікаў...

Чарняхоўскі націснуў кнопку званка і загадаў паручэнцу, які ўвайшоў:

— Камароў, паедзьце [illegible] генералам і прасачыце, каб адправілі без затрымкі.

Ён выйшаў з Рогавым на двор, правёў да машыны. Вярнуўшыся ў пакой, камандуючы фронту і член Ваеннага Савета доўга маўчалі. Макараў сядзеў і штосьці ўсхвалявана думаў, Чарняхоўскі ўзрушана хадзіў.

— Ведаеце,— прамовіў член Ваеннага Савета,— я, слухаючы Рогава, адчуў сябе раптам вінаватым. Без віны вінаватым...

— Нам няма чаго лічыць сябе вінаватымі,— стрымана адгукнуўся Чарняхоўскі.— Мы наступленне пачалі ўжо!..

— Пачалі...

Па тым, як гаварыў Чарняхоўскі, адчувалася, што ён думае пра штосьці сваё. Прайшоўшы яшчэ раз-другі

з кута ў кут, камандуючы выняў рукі з кішэняў, хапатліва пайшоў да карты, адсунуў шторку. Узяў са стала цыркуль, адразу выхапіў на карце, пад лініяй шасэ, зялёна-блакітную пляму, стаў штосьці вымяраць. Заклапочана, разважаючы моўчкі, нібы вагаючыся, не знаходзячы яснасці, стаяў каля карты.

Потым паклаў цыркуль, зноў засунуў рукі глыбока ў кішэні штаноў, нецярпліва, важка захадзіў. Нарэшце ўлавіў запытальны позірк Макарава, варухнуў плячом, як бы яму муляла, як бы не да спадобы была няўчасная цікаўнасць, крокі зрабіліся мякчэйшыя, стрыманыя. За гэтым стаў зусім, прызнаўся:

— Сумненне грызе, Васіль Емяльянавіч! Не адчэпліваецца!

Макараў глядзеў са спачуваннем.

— Якое сумненне?

— Усё тое ж,— Чарняхоўскі далоняю моцна пацёр шчаку, шыю.— Што аперацыю для поспеху справы ў тым-сім трэба б рашаць інакш... —Як бы згадзіўся з некім:— Канечна, удар у паласе магістралі мае свае перавагі. Гэта — факт... Але,— у голасе яго пачулася ўпартае пярэчанне,— у гэтым варыянце ёсць і свае мінусы. Адзін ■ іх — што немцы, калі чакаюць нас, то найбольш тут... Непакой бярэ: як бы мы тут не заселі.

— Тут, вядома, будзе нялёгка...

— Вось, пра гэта я і думаю. І бярэ мяне сумненне, што не тут, не на магістралі, нам трэба чакаць поспеху. Карціць мне, што больш шанцаў на ўдачу тут.

Чарняхоўскі рушыў да карты. Член Ваеннага Савета, наблізіўшыся, убачыў: кончык складзенага цыркуля ў руцэ камандуючага паказвае раён Лёзна, Багушэўска, паласу наступлення арміі Крылова.

— Я вас разумею, Іван Данілавіч.— Член Ваеннага Савета сказаў чула, ветліва і адвёў вочы ўбок.— Але...

— Але,— зацята перахапіў Чарняхоўскі,— лясы, балоты? Я пра гэта таксама думаю. Таму і бярэ сумненне!.. Але,— ён нервова пацёр шчаку, засунуў рукі ў кішэні,— нас тут менш за ўсё чакаюць! І тут таксама — у немцаў слабінка: стык 3-й і 4-й армій! Калі б удалося прарвацца, ды ўвесці армію Ротмістрава, ды ўдарыць з поўначы на магістраль, на Талачын ці Крупкі! Па нямецкіх тылах! — Чарняхоўскі ўсё больш загараўся тым, што малявалася ва ўяве:— Увесь узорны нямецкі парадак рухнуў бы адразу! І магістраль наша,

і — аршанскі арашок трэснуў бы! Там, дзе ён якраз найменш цвёрды! А там — і да Бярэзіны нядоўга.

У тым, як Чарняхоўскі казаў, адчувалася не толькі нецярплівасць, але і дужасць. Чарняхоўскі нібы раптам узняўся перад Макаравым: шырынёю, рашучасцю думкі, смеласцю волі, што адчувалася за думкаю.

Позірк Чарняхоўскага быццам гаварыў: вось як здорава магло б пайсці!

— Спакуса — вялікая,— згадзіўся член Ваеннага Савета.— Ёсць у гэтым рацыя...

— Ёсць! — горача сказаў Чарняхоўскі, і Макараў зноў адчуў, як гэта моцна захапіла камандуючага.— От і грызе д'ябал сумнення,— прамовіў Чарняхоўскі, стрымліваючыся. Ён дадаў сабрана: — Трэба падумаць!

Неўзабаве Макараў устаў, сказаў, што пара і «чэсць знаць», час на спачын. Чарняхоўскі зірнуў на гадзіннік і згадзіўся:

— Час...

Калі генерал выйшаў, Чарняхоўскі зняў кіцель, павесіў яго на спінку крэсла, нахіліўся, каб зняць боты. І раптам спыніўся, захоплены думкаю. Узняўся, падаўся да стала, неспакойна схіліўся над картаю. Адышоў і зноў вярнуўся да яе.

Рашуча ўзяў трубку тэлефона, папрасіў генерала Іголкіна.

— Пётр Іванавіч, не спіце? Зайдзіце, калі ласка.

Чакаючы, пакуль прыйдзе начальнік аперупраўлення, загадаў падаць дзве шклянкі чаю, нецярпліва адпіў са свае. Генерал так і застаў яго: са шклянкай чаю над картаю.

— Пётр Іванавіч, як вы мяркуеце,— адразу ўстаў Чарняхоўскі,— куды кінецца праціўнік, калі мы возьмем Оршу, а Першы Беларускі — Бабруйск?

— На Мінскае шасэ, таварыш камандуючы. Потым — на Барысаў, на Мінск...— Генерал гаварыў, уважліва пазіраючы на камандуючага: што значыць гэтае пытанне?

Чарняхоўскі падхапіў узрушана:

— На Мінскае шасэ! Па нашых тылах!..

— Такая небяспека, таварыш камандуючы, ёсць,— згадзіўся генерал.

Чарняхоўскі сказаў тонам загаду:

— Трэба левы фланг фронту прыкрыць. Корпусам

Бурдзейнага. Да Коханава няхай ён наступае згодна з рашэннем, а там крута паварочвае на Стараселле. Адтуль — дзвюма брыгадамі на захад, на Чарняўку. Адной — на ўсход. Насустрач адступаючым.

Генерал Іголкін, прасачыўшы, як імкліва, рашуча лётае аловак па карце, толькі зазначыў:

— Корпусу Бурдзейнага трэба даць пяхоты, таварыш камандуючы.

— Гэта — правільна,— ухваліў Чарняхоўскі задаволена.— Пяхоту дадзім!

Тады схамянуўся, запрасіў выпіць чаю. Калі пілі чай, усё яшчэ рады тым важным рашэннем, якое толькі што прыйшло, папрасіў прабачэння, што патурбаваў так позна.

Правёўшы генерала на цёмны двор, Чарняхоўскі раптам расхацеў адразу вяртацца ў пакой. Нейкі час стаяў адзін у цемры. Цешыўся ноччу, спакоем, задавальненнем, што ўсё зрабіў.

Адсюль да пярэдняга краю было каля сарака кіламетраў, і грукат фронту даходзіў сюды глуха. Было, здавалася, зусім ціха, і гэта ў змору, якая поўніла ўсяго, улівала бесклапотную дрымотнасць. Ён ужо сабраўся быў вярнуцца ў пакой, легчы спаць, калі пачуў гул самалётаў, што хутка рос. Стаў чакаць. На зорнай чарнаце неба адрозніў сілуэты — ішлі бамбардзіроўшчыкі...

Яны хутка сціхлі, а ён усё стаяў і ўжо чуў у сабе дзіўную трывогу. Ён не адразу зразумеў прычыну яе, потым яна акрэслілася думкай, якую ён адганяў: «Як на гэта паглядзіць Сталін? Як растлумачыць яму ўсё?..»

Ён адагнаў трывогу, супакоіў сябе: Сталін зразумее неабходнасць гэтага. Згодзіцца... Успомніў размову з Рогавым, падумаў, колькі людзей там, на Беларусі, чакаюць яго салдат.

Але хіба наступлення чакаюць толькі па той бок фронту? Яго чакаюць і на пярэднім краі, і на Урале, і Далёкім Усходзе. Уся краіна чакае, увесь свет...

## 4

Тураўца і Ермакова тэрмінова выклікалі на нараду ў штаб злучэння.

Калі яны дабраліся да штаба, іншыя камандзіры і камісары брыгад былі ўжо ў зборы.

У чыстай палавіне цемнаватай хаты, дзе атабарыўся штаб, першым у вочы кінуўся Рогаў, фацэтны, нібы незнаёмы у новай генеральскай форме: ён штосьці захоплена расказваў. Убачыўшы Тураўца і Ермакова, адразу перапыніў гаворку, з тым жа як бы хмельным бляскам у вачах прывітаўся з абодвума за руку, адзначыў весела:

— Вось нарэшце і тыя, каго чакаем!

Туравец і Ермакоў павіншавалі яго са зваротам, ён адказаў з задавальненнем, па-сяброўску агледзеў абодвух, шчодрым, гасцінным жэстам падаў пачак «Казбека» — частуйцеся. Усе іншыя пачаставаліся ўжо, курылі, дым віс угары, цягнуўся ў расхрыстанае акно. Пакінуўшы расчынены пачак на стале, Рогаў вярнуўся ў свой кут...

Вопытнаму партыйнаму работніку Рогаву толькі ў вайну давялося ўзяцца за вайсковую справу. Як і многія іншыя партыйныя кіраўнікі, ён за гэтыя гады прайшоў усе курсы «лясной акадэміі». Спачатку камандаваў невялікім атрадам, які сам сабраў, потым брыгадай, што вырасла з атрада, і, нарэшце, узначаліў цэлае партызанскае злучэнне, адно з найбольшых у Беларусі. Гэтым злучэннем ён цяпер і камандаваў.

Камандзір злучэння Рогаў быў разам і партыйным кіраўніком на шырокім абсягу рэспублікі, сакратаром падпольнага абкома партыі. Па натуры вельмі цывільны чалавек, ён і ў цяперашніх вайсковых сваіх клопатах, на нялёгкай вайсковай пасадзе быў у душы такім, як і ў мірныя часы. Цяперашняя камандзірская дзейнасць была для яго, па сутнасці, проста працягам, асобым відам звыклай партыйнай работы. Неабходным, але часовым, выкліканым асобымі абставінамі — вайной. Гэта разуменне яго становішча падтрымлівалася ў ім тым, што людзі, якімі ён камандаваў, былі за малым выключэннем — і па жыцці, і па душы сваёй таксама цывільнымі людзьмі. Хоць і павінны былі трымацца ваеннай дысцыпліны. Не маючы ніякай схільнасці да паказнога, таварыскі па натуры, па вопыту работы, Рогаў натуральна не мяняў ранейшых цывільных звычаяў, разам з усім — у абыходжанні з падначаленымі. Вітаўся проста за руку з усімі, няхай сабе гэта камандзір брыгады ці радавы партызан. Яўна не хапала камандзіру злучэння таго, што называюць вайсковай выпраўкай. Відаць, з гэтай прычыны і новы ге-

неральскі кіцель выглядаў на ім, як здалося Тураўцу, усё ж нібы з чужога пляча. Зрэшты, можа, гэта ўражанне было ў Тураўца і ад таго, што ён прывык на Рогаве бачыць пінжак ці сінюю гімнасцёрку. Яны, здавалася, былі больш да твару Рогаву. Больш адпавядалі яго натуры.

— Ну от, дык павялі нас. Па цахах...— вярнуўся Рогаў да перапыненай гаворкі.— Усюды адно прыкладна: жанчыны ды дзяўчаты. Ды зялёныя падлеткі... Мужчын амаль што і не відаць. Ды і то хіба які калека пасля фронту... З твару ўсе не вельмі каб гладкія. Відаць адразу, што харч не вельмі сытны... Ну тут, пакуль нас вадзілі, перапынак пачаўся. Павялі нас на двор. Гляджу — народу поўна, аж у вачах мільгаціць... І слова мне даюць... Маўляў, слова мае таварыш Р., беларускі партызан. І таму падобнае... Што тут было: ні пяром не апісаць, ні словам не сказаць! Авацыя цэлая!.. Я рукой паказую: хопіць, маўляў! А яны — яшчэ больш... Я калі пабачыў, як яны да нас, дык чуць не заплакаў ад чуласці!.. Вось якая, значыцца, слава ў нас, беларускіх партызан!

— Ды яшчэ ж не проста партызан, а — генерал! — падкінуў ліслівa Вайновіч, камандзір брыгады імя Ракасоўскага.

— Я, між іншым, прыйшоў туды ў цывільным,— нездаволена паясніў Рогаў.— Спецыяльна. І пасаду маю — не гаварылі. Проста партызан... Тут важна, што — прадстаўнік. Партызан! — растлумачыў ён.— Для іх адно ўжо слова «партызан» — значыць: герой... Як стаў расказваць пра блакаду — ціпшыня мёртвая. Але я болей не пра страданне, а пра — геройства! Што жывём, значыць, і пабеждаем!.. Тут што ні слова, дык — авацыя!.. Я, канешне, стараўся карацей, пра галоўнае. Скеміў, што ім і паабедаць трэба. Словамі сыты не будзеш! Але яны не далі закончыць скора! Увесь перапынак міцінгавалі! А пад канец — на руках хацелі панесці! Чуць адгаварыў!.. Што вы, маўляў, жанчыны — здаровага мужчыну несці!..

Рогаў перачакаў рэплікі, падыміў папяросай, нагадаў зноў — курыць, не шкадаваць, для таго і прывёз. Туравец здзіўлена запытаў у суседа, камандзіра брыгады «Смерць фашызму», чаму з такім захапленнем сустракалі партызан у Гомелі, хіба ў Гомелі мала бачылі сваіх партызан! Туравец ведаў, што Рогаў лятаў

у Гомель. Але сусед растлумачыў: тое, што расказваў Рогаў, было ў Маскве. З Гомеля Рогава выклікалі ў Маскву...

— Я, канечне, бываў не толькі ў кабінетах ды ў цахах,— загаварыў зноў павольна Рогаў.— Пабываў я і на базары. Разумееце, захацелася пабачыць базар. За ўсю вайну, думаю, ні разу не пабыў на базары! Проста такі саскучыўся! От раз, так ранічкай, калі начальства думала, што я сплю, я сабраўся і — на базар! Каля цырка там, амаль што ў самым цэнтры. Зайшоў, глянуў: браткі мае — родная карціна! Народу — што да вайны на Камароўцы! — Камандзіры і камісары смяяліся: большасць ведалі даваенную мінскую Камароўку.— І каго толькі няма,— між агульнай увагі вёў сваё Рогаў,— і старыя, і маладыя, і рабочыя з выгляду, і інтэлігенцыя. І салдат-калек поўна. Праціснуцца цяжка. І ўсяго-ўсякага рэчаў: то гімнасцёрка ці шынель, а то падсвечнік старасвецкі ці сіцечка для чаю спецыяльнае. А прадуктаў — мала: масла, мяса амаль не відна. Бохан хлеба і то раскоша. І ўсё на абмен! Два боханы — гімнасцёрка! Той-сёй, між іншым, гарэліцу з-пад палы паказвае! Мне таксама бабулька адна інтэлігентная паказала. Рашыла чамусьці, што цікаўлюся гэтым!

Зноў пайшлі ад слухачоў жартачкі. Рогаў, усміхаючыся, зацягнуўся. Туравец пацікавіўся:

— А ў магазінах як там, Уладзімір Іванавіч?

— Гаварыў ужо, пакуль вы з Ермаковым дабіраліся... У магазінах — непагана. Больш багата, чым у сорак другім! Ёсць прадукты! Па картках, канечне... У залежнасці ад работы — розныя карткі, з рознай нормай. Ёсць карткі для рабочых, для служачых, для вучоных, для інвалідаў вайны. Ёсць спецыяльная, называецца УДП. «Усіленае дапалніцельнае пітаніе»... І ў прамтаварных — таксама па картках. Даеш талончык ад карткі, палучаеш рэч, якую паложана...

Рогаў зірнуў на гадзіннік, мусіць, рашыў пачынаць нараду, але раптам штосьці ўспомніў, заўсміхаўся:

— Ага-а, іду я раз ля гасцініцы «Масква». Думаў, пагуляю, пагляджу на мірную жызнь. Перад адлётам... Іду, і раптам, браткі мае, бачу — каго б вы думалі? Міхалапа! Інструктара прамысловага аддзела гаркома, да вайны!.. У падпалкоўніках ужо! Гляджу, вачам

сваім не веру. А ён як пабачыў мяне — генерал, маўляў! — выцягнуўся, шаг даў, як перад вялікім начальствам... А я ўсё гляджу: ён — не ён? Ён!.. Я гэтак важна пальцам да яго: падыдзіце, маўляў! Гавару яму строга: вы ш-што ж гэта так пагана начальства вітаеце?! Ён нібы пазнаў, але вачам не верыць!.. Яму ўжо сказалі, што я ў партызанах! А тут — генерал!.. Смех — і толькі!.. Увогуле запрасіў я яго да сябе. Павячэралі разам у рэстаране «Масква». Аказваецца, ён у рэзерве, пасля госпіталя. Чакае напраўлення на фронт... Я пра яго ціхенька Панцеляймону Кандратавічу, ён тады якраз у Маскве быў. Выклікалі яго з Гомеля... Так, маўляў, і так, гавару яму: патрэбны, маўляў, чалавек... Панцеляймон Кандратавіч адразу на заметку. Сказаў, што адзаве на работу...

Рогаў зноў зірнуў на гадзіннік, узрушаны ўспамінамі. Было прыкметна, нялёгка стрымаў сябе, стаў завяршаць расказ:

— Можна сказаць — пабачыў! Усяго і не перакажаш зара́з!.. Адным словам: жыве Масква! Упэўнена, моцна жыве! Лепей багата, чым у сорак другім! — Ён зацягнуўся, патушыў папяросу і ўжо заклапочана, цвёрда сказаў: — Пагаварылі, паслухалі, а цяпер — за справу!

Ён акінуў запрошаных такім позіркам, нібы правяраў: ці гатовы камандзіры і камісары да сур'ёзнай размовы. Нібы паказваў: калі хто не гатовы, няхай падрыхтуецца.

— Дык от, Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка перадаў нам не толькі прывет, але і загад,— Рогаў затрымаўся, даючы зразумець, што зараз скажа асабліва важнае,— загад: зрабіць адну вялікую справу! — Ён выразна, значна вымавіў апошнія словы: «вялікую справу...» Паглядзеў па чарзе на камандзіраў і камісараў брыгад, каб зразумелі, прачулі значэнне таго, што ён сказаў.

Туравец яшчэ раней адзначыў, што ў хаце, акрамя камандавання злучэння, толькі вышэйшыя камандзіры з брыгад, і падумаў, што нарада будзе строга сакрэтнаю, а значыцца — і важнаю. Разуменне важнасці моманту, адчувалася, было цяпер ва ўсіх, каго выклікалі. У пакоі была нацятая цішыня. Усе з увагай глядзелі на камандзіра злучэння. Чакалі.

— Нам далі загад,— важка, з націскам загаварыў

Рогаў,— правесці вялікі «канцэрт». Канцэрт праводзіцца па спецыяльнаму загаду Цэнтральнага Штаба партызанскага руху... Час назначан — ноч на 20 чэрвеня...

Слухаючы Рогава, Туравец мімаволі пераглянуўся з Ермаковым: вось для чаго прывезлі такую безліч толу і дэтанатараў!

План аперацыі захапіў Тураўца сваёй шырынёй і смеласцю. На гэты раз «канцэрт» рыхтаваўся нават больш моцны, чым ранейшыя.

Ад свае звычкі бачыць ва ўсім і прытоены сэнс Туравец з хваляваннем, ад якога сціскала грудзі, угадваў, меркаваў, што бой на «жалезцы», напэўна, будзе толькі ўступам, што за ім, падобна, павінен быць другі «канцэрт», куды больш магутны, той, якога ўсе з такой нецярплівасцю чакаюць. І радуючыся, і прагна жадаючы гэтага, ён прадчуваў, што надыходзяць вялікія, даўно чаканыя падзеі. Што, мусіць, блізка, вельмі блізка пачатак свята «на іх вуліцы»...

Пасля нарады Рогаў папрасіў Тураўца застацца. Туравец быў з ім добра знаёмы яшчэ з даваеннага часу, калі абодва працавалі ў адным раёне: Рогаў — сакратаром райкома, а Туравец — у МТС, якую, дарэчы, прыняў ад Рогава. З нялёгкага таго часу яны сябравалі.

Рогаў узяў Тураўца за руку, прапанаваў:

— Пройдземся.

Яны выйшлі на двор, падаліся да лесу. На пытанні Тураўца Рогаў расказваў, што бачыў у Нова-Беліцы, дзе асталяваўся пакуль урад. Пра сустрэчы там, пра жыццё на тым баку... Калі дапалі сцежкай да ўзлеску, узбоч якога віднеўся мокры луг, Рогаў раптам сказаў весела:

— Добра тут, а? Тут на прыволлі, у цішыні, добра... думаецца. Я сюды часта зазіраю... Бондар нават пажартаваў неяк, ці не спатканні я тут назначаю...

Ён абарваў гаворку, незразумела, са здзіўленнем працяў позіркам.

— Чуў я, жаніцца збіраешся? — Рогаў усё дапытліва, востра глядзеў на Тураўца.

Туравец збянтэжыўся.

— Адкуль ты гэта, Уладзімір Іванавіч?..

— Няпраўда, значыць?

— Пакуль, можна сказаць, няпраўда. А далей...

а за далейшае — праўду сказаць — баюся ручацца! Табе аднаму прызнаюся.

Туравец падумаў, хто б гэта мог нагаварыць на яго. Ён нікому не казаў пра сваё пачуццё да Марыі, імкнуўся быць да яе стрыманым; такой жа стрыманай, нават нібы абыякавай да яго здавалася і Марыя. Хто сабраўся пажаніць іх!

— Ну што ж — справа твая. Халасцяцкая...

Рогаў доўга глядзеў на луг, маўчаў. Маўчаў і Туравец. Рогаў адарваў позірк ад лугу, сказаў па-сяброўску, са значэннем:

— На работу новую мяркуем паслаць... У Мінск, сакратаром райкома!..

Ён казаў так, нібы паведамляў: пойдзеш у другую брыгаду.

— У Мінск?!

— У Мінск.

— Як громам ты! Аглушыў проста!

— Нібы не чакаў?

— Наогул-то — чакаў. Як усе. І ўсё-ткі.

— Прывыкай!

Рогаў, вядома, знарок трымаўся спакойна. Туравец адчуваў гэта.

— У цябе ў раёне хлебазавод, станказавод,— нагадваў Рогаў.— Тэатр, дванаццаць школ... Дзевяць з іх спалены... Падумай, як усё аднаўляць будзеш. Скажы, што ты будзеш рабіць, калі заўтра вызваляць Мінск і ты прыйдзеш у райком? — нечакана патрабавальна запытаў Рогаў.

— Ты, Уладзімір Іванавіч, такія пытанні!.. Як сякерай, адным махам!

— Гэта ты павінен ведаць, як табліцу! Што ж, памазгуй!.. Яшчэ да таго, як явімся ў Мінск, Нічыпар,— мы павінны ведаць, што будзем рабіць! Між іншым, у Маскве ўжо меркавалі, як будзем араць і засяваць палі, на якіх пакуль ваюем. Чым дапамагчы Мінску, усёй рэспубліцы. У Гомелі, у рэзерве, сотні работнікаў, якія чакаюць толькі сваёй пары. Каб з першага ж дня, з першай гадзіны пачаць ладзіць мірнае жыццё... Між іншым, у Маскве пабачыўся я з дачкой. Ва універсітэт я не хадзіў, але ў дачкі распытаў усё. Цікава ж: там жа, на станцыі Сходня, дзе была партызанская школа, цяпер — Беларускі універсітэт. Трыста чалавек

вучацца... Таксама, сказала, рыхтуюцца. Чакаюць, калі можна будзе вярнуцца...

Туравец з захапленнем слухаў гэтыя словы, яны лепш за ўсё гаварылі пра радасную веру ў заўтрашні дзень.

— Дарэчы, памазгуй, Нічыпар, як дапамагчы Чырвонай Арміі людзьмі. Вайна неканчаецца тут. Да Берліна трэба. Падрыхтуй людзей, каб перадаць іх арміі. Трэба даць арміі такіх салдат, каб яны чэсць нашу неслі высока. Каб чырванець не прыйшлося.

— За маіх, Уладзімір Іванавіч, не прыйдзецца!.. Эх, значыць, хутка зноў — фабрыкі, заводы, школы! Будаванне, будаванне, турботы пра планы!..

— Нялёгка будзе спачатку, Нічыпар.

— Горка... Балюча. Цяжка. Але я не думаю пра гэта. Галоўнае — вярнуцца!

Яны сталі ўспамінаць гарком, бяссонныя ночы, клопаты таго часу, сустрэчы, падзеі, таварышаў. Усё, што нядаўна здавалася яшчэ недзе далёка, нібы ў іншым свеце, аддзеленым гадамі вайны, раптам зноў стала хвалююча блізкім, амаль рэальным, нібы вайна ўраз страціла сваю ўсясільнасць над імі. Доўгія, цяжкія гады вайны як бы адступілі, павузелі ў прасторы і часе.

Яны развіталіся, не ведаючы, што наступны раз убачацца ўжо ў Мінску.

5

Ехаць у брыгаду бліжэйшай дарогай было небяспечна. Непадалёк размяшчалася некалькі моцных гарнізонаў, і немцы часта наладжвалі на дарогах засады. Камбрыгу і камісару, каб дабрацца дамоў, прыйшлося зрабіць вялікі круг цераз суседнюю партызанскую зону.

Пад'язджалі яны дамоў толькі ўранку.

Усё званчэй, залівісцей звінелі птушыныя галасы. Раса паступова высыхала, і лес напаўняла паркая духмень, перамешаныя пахі травы, сосен, суніц. Шэрсць на сівым Тураўцовым кані замакрэла, закурчавілася ад поту.

— Якое табе дрэва асабліва падабаецца? — перапыніў надакучлівае маўчанне камісар, акідваючы вачыма нізкарослы саснячок, што абступаў дарогу.



Іван Мележ у гасцях у танкістаў пад час працы над раманам «Мінскі напрамак». *1950 год*



Іван Мележ на Піскароўскіх могілках
у Ленінградзе. *1968 год*

— Якое? — адарваўся Ермакоў ад сваіх думак.— Не люблю асіну. Кепска гарыць...

— Кепска гарыць? Эх ты, сухар!.. Я люблю дуб. Ён — моцны, дужы. У яго — заўважыў? — і пах моцны, востры. Як спірт... Дрэвы, яны як людзі — у кожнага свая натура. Елкі — стройныя, строгія, задуменныя і маларазгаворлівыя. Хвоі — тыя весялейшыя, раскінуць медныя свае галіны ўгары, ахвотна гавораць з ветрам, ківаюць нешта яму. А асіны зусім не любяць маўчаць. І вечна трывожныя, клапатлівыя,— нервовыя, можна сказаць...

Праехаўшы яшчэ, Туравец заўважыў — над ельнічкам справа важка ўздымалася чорная птушка.

— Крумкач!

Туравец працягнуў руку да ардынарца, узяўшы вінтоўку, весела бліснуў вачыма Ермакову:

— Дазволь, камбрыг?

Не злазячы з каня, прыцэліўся. Ляснуў стрэл.

Груган усё ляцеў. Падобна, нават паляцеў хутчэй, пачаў уздымацца. Туравец, слухаючы кпіны камбрыга, хутка перазарадзіў вінтоўку, спыніў каня і зноў прыцэліўся. Пасля стрэлу груган секунду ішоў па-ранейшаму, а потым стаўваліцца на бок.

— Ну, бачыў?!

Ермакоў адказаў з насмешкай, што ў такую хмару любы ўцэліў бы.

— Я і першы раз уцэліў. Але ён жывучы, гад.

Туравец расшпіліў пінжак і каўнер белай палатнянай рубашкі, выцер рукой лоб.

— Што, прыгравае? — зірнуў на яго Ермакоў.

Камбрыг, які ў апошні час, пасля блакады, стаў прыкметна таўсцець, сядзеў у сядле зграбна, ледзь сагнуўшыся, злёгку хістаючыся ў такт конскай хадзе.

— Прыпарвае...— Туравец паклаў змакрэлую хусцінку ў кішэню.

Яны зноў ехалі моўчкі.

Ермакову ўспомнілася Валя, і радасны настрой, народжаны сонечнай раніцай і набліжэннем да дому, змяніўся непакоем.

І чаго на яго шляху трапілася гэтая ганарлівая дзяўчынка, і чаго яго гэтак цягне да яе?.. Яго, праўда, увесь час цягнула да жанчын. Быць з імі, адчуваць сябе любімым, заваёўваць іх прыхільнасць — было яго заўсёдным жаданнем...

І такая ўпартая, скажы. Няма ёй, гэтай дзяўчынцы, ніякай справы да яго, да таго, што ён, усімі паважаны, відны чалавек, камбрыг, пра яе думае. Можа, ён і думае столькі пра яе, калі цвяроза паглядзець — звычайную, нічым не асаблівую, найбольш таму, што яна такая — упартая і абыякавая. Ён не ўмее адступацца.

А адступіцца ўсё ж прыйдзецца. Слова даў на сходзе, усе гэта чулі, сам казаў — цвёрдае слова. Ну і бог з ёю. І наогул падалей бы, мусіць, ад іх,— столькі прыкрасці, асабліва цяпер, калі ён, камбрыг, на віду...

Туравец усё згадваў сустрэчу з Рогавым, размову з ім.

Гэта сустрэча шмат што змяніла ў настроі, у думках, ва ўсіх адносінах Тураўца да свету. Як бы іншымі вачыма глядзеў на свет Туравец. З учарашняга дня звыклыя брыгадныя клопаты хоць і адчуваліся яшчэ важнымі, абавязковымі, але ўжо нібы не мелі ранейшай, адзінай улады над ім. Іншае, мірнае, да чаго ён імкнуўся заўсёды, але якое здавалася ўсё ж далекаватым, таілася ўсярэдзіне, цяпер бачылася набліжана, амаль што яваю. Яно, гэтае жаданае, блізкае, амаль рэальнае, усё мацней брала Тураўца, усё больш апаноўвала яго думкі.

З нецярплівасцю, з незвычайным адчуваннем маладосці думаў Туравец пра тое, што павінна вось-вось адбыцца. Праўда ж, можа так здарыцца, што праз які месяц-другі ён вернецца ў горад. Ад гэтай думкі на душы ў Тураўца было весела і па-святочнаму лёгка. У гэтым стане яму неяк мала даходзіла, што горад разбураны, што будзе, асабліва спачатку, нялёгка, што многае там будзе выклікаць горкія пачуцці. Думкі пра горад як бы зноў наблізілі да яго першыя дні вайны, нагадвалі пра вялікае гора — смерць жонкі, але радасць, якая яго захапіла, была такой моцнай, дарагой яму, што прыглушыла, прыцішыла і горыч, і боль бяды, што здарылася ў горадзе, да якога ён імкнуўся.

Туравец у думках хадзіў па заваленых вуліцах, аглядваў аняменелы, спустошаны цэх станкабудаўнічага завода, накіроўваў людзей на хлебазавод, каб у першы ж дзень даць гораду хлеб. Думаў, як пра неадменнае, сённяшняе, што трэба, найпершым клопатам, зрабіць хутчэй усё, каб аднавіць школы. Аддаць адразу пад школы ўсе школьныя будынкі, што ўцалелі, выдзеліць прыгодныя для заняткаў. Зрабіць улік настаў-

нікаў, улік дзяцей, сабраць маёмасць, што захавалася. Думаў Туравец пра ўсе свае будучыя клопаты з такой ахвотай і цікавасцю, што амаль не заўважаў нічога навокал.

Між тым яны ўжо набліжаліся да лагера. Сівы, у яблыках, неспакойны конь Тураўца, пачуўшы блізкасць лагера, заспяшаўся і галасіста заржаў. Дарога спусцілася ў неглыбокую лагчыну, пасярэдзіне якой, ахінутая высокай вільготнай травой, цякла ціхая празрыстая ручаіна. Конь, ступіўшы ў яе, пацягнуўся да вады.

Туравец раскілзаў каня і, пакуль той піў, моўчкі назіраў, як разыходзіцца, круціцца каля конскай мызы вада. Спатоліўшыся, конь ускінуў галаву, матнуў ёю і фыркнуў: у паветры весела бліснулі кроплі вады...

Далей дарога ўзбівалася на невялікі, але круты ўзгорак.

На ўзгорку Туравец аддаў каня ардынарцу і да лагера ішоў пеша. Саскочыў з каня і Ермакоў. Ісці пасля доўгай язды, ад якой занямелі ногі і адзервянела спіна, было лёгка і прыемна.

— Каго нам пасланаць у Мінск? — загаварыў Ермакоў.

Ім у штабе загадалі паслаць разведчыка ў Мінск. Патрэбны былі новыя падрабязныя весткі аб размяшчэнні ваенных аб'ектаў у горадзе.

Ермакоў і Туравец сталі меркаваць, каму можна даручыць такое заданне. Абодва лічылі, што паслаць трэба каго-небудзь такога, хто ўжо быў у Мінску і добра ведае горад.

Прыпомнілі некалькі чалавек, якія маглі б падысці для такой справы, нарэшце камбрыг згадаў Лагуновіч Ніну. Яна, на думку Ермакова, магла б справіцца лепш за іншых.

Туравец задумаўся.

— Лепш-то, можа, лепш... Але...

— Што яшчэ?

— Разумееш, маці ж яна. Дзіця ў яе. У Мінску... Маці, разумееш?

— Ну дык што?

— А калі там здарыцца што-небудзь?..

— З кожным можа здарыцца. Ніхто не засцярожан ад гэтага.

— Ну, вось, я да таго і кажу... небяспечна...

— Небяспечна. А другія што — не людзі?

— Людзі-то людзі. Але ж яна — маці, разумееш?

— Ведаеш што, Нічыпар: адна — маці, другая — сястра. У той — брат, у другой — яшчэ хто-небудзь.— Ермакоў гаварыў рэзка, нецярпліва.— Па-мойму, яна падыходзіць. І няма чаго мудрыць.

— Я не мудру. Як ты не разумееш!..

Туравец уздыхнуў.

— Займіся ты разведкаю, Нічыпар Паўлавіч,— папрасіў мякчэй камбрыг.— Бо мне з «рэйкамі» будзе клопату, аж залішне.

Яны гаварылі ціха. Ардынарцы вялі коней ззаду і таксама аб нечым размаўлялі.

З-за кустоў выйшлі, прывіталі іх вартавыя, першы пост пры дарозе. Слухаючы з лагера людскія галасы, што станавіліся ўсё больш чутнымі, Ермакоў і Туравец мімаволі паскорылі хаду.

Абодва адразу падаліся ў штаб, каб даведацца пра абстаноўку ў брыгадзе. Даведацца, што здарылася тут, пакуль яны адсутнічалі. Ермакову здавалася, што ён даўно ўжо не быў у брыгадзе, і таму камбрыг чакаў нейкіх асаблівых навін. Ён адчуваў сябе так, нібы вярнуўся ў родную сям'ю з далёкага падарожжа. Брыгада і сапраўды даўно стала яму і домам і сям'ёй.

Габдулін быў акурат у штабе. Ад яго Ермакоў і даведаўся, што адбылося за апошнія дні.

Пасля гэтага камбрыг закрочыў да свайго будана, а камісар застаўся, загадаў дзяжурнаму, каб паклікалі Лагуновіч.

Хвілін праз дзесяць дзяжурны вярнуўся.

— Яна была ўночы на заданні. Цяпер недзе спіць, у будане няма. Знайсці яе?

— Не трэба. Калі прыйдзе, няхай явіцца да мяне.

## РАЗДЗЕЛ V

### 1

Ніна вярнулася з задання раніцай. Калі яна ўвайшла ў свой будан, там ужо ўставалі.

— Ты ведаеш, Ніна,— сказала ёй ніякавата, здзіўлена Валя,— мне сніўся твой Аляксей! На кані, сніласяся, ехаў. А ў каня таго ў грыву заплецены розныя шаўковыя істужкі... Як убачыў мяне, пад'ехаў, пра цябе спытаўся: «Дзе, кажа, Ніна, правядзіце да яе». Потым

нешта пачаў расказваць пра сябе. Але я нічога не помню!..

— Галоўнае забыла! — папракнула Ніна стомлена. Жанчыны падтрымалі размову, рады былі пагаварыць.

— Можа, і не забыла, ды — тоіць!

— Ой, Валя, нядобра гэта — чужых мужчын сніць!

— Ці не закахалася ты, Валечка, у яго?

— Валечка па Васілю сохне!.. А Туравец от закахаўся,— раптам сказала, латаючы кофту, Вера Капуста. Яна гарэзна бліснула чорнымі вачыма.

Мяркуючы, як адгукнуліся на яе словы, у будане навіну гэту ўжо ведалі.

— Што ж, яна жанчына харошая,— сказала Ніна.

— А я вось не веру,— запярэчыла Валя.

— У што? У тое, што Туравец можа закахацца? У, ты, дурная. Я, любка, мужчын наскрозь бачу.

— І што ж ты бачыш,— ганарліва сказала Валя.

— Што? Бачу: ох, і мужчына гэта! Ён толькі такі скрытны. Ведама, камісар! Тут толькі зірні на каго-небудзь прыхільна, дык вочы такія, як мае, адразу зловяць.

— Пляцеш, сама не ведаеш што.

— О, я не ведаю? Ты паглядзі, якія вочы ў яго! Цыганскія! Ох, у маладосці, відаць, быў зух! Не адну, напэўна, прысушыў.

— Шчаслівая будзе Марыя Андрэеўна,— уздыхнула Ніна.— Рада я за яе!

— І ты будзеш, Нінка, шчаслівая! Чуе маё сэрца, будзеш шчаслівая,— запэўніла яе Валя, пачуўшы ў голасе Ніны нотку суму.

— А я і так шчаслівая,— сказала Ніна, адчуўшы, што Валя хоча супакоіць яе.— Я шчаслівая... Хіба не шчасце так любіць?

Вера, што латала кофтачку, уважліва паглядзела на Ніну, недаверліва ўсміхнулася.

— Няпраўду ты кажаш, Нінка. Якое гэта шчасце — сохнуць па чалавеку, які невядома дзе тры гады?

— Не сохнуць, а любіць,— папраўліла яе Ніна, хвалюючыся.

— Якая ж гэта любоў?..— здзівілася Вера.— Бяда адна. Сухота...

Ніна не адразу знайшла, што адказаць.

— Значыцца... не любіла ты! — прамовіла яна з за-

палам.— Не любіла!.. І ўвогуле,— дадала яна,— нічога ты не разумееш у гэтым!

Ніна выйшла да студні, памылася і хутка вярнулася ў будан. Шчокі яе пасля ўмывання паружавелі. Яна ўзяла са століка маленькае люстэрка, на адваротным баку якога быў малюнак — дзеці купаюцца ў рэчцы. Пачала прычэсвацца.

З люстэрка глядзелі на яе шэрыя, стомленыя вочы. У чатырохкутніку былі яшчэ відаць роўны, крыху кірпаты нос, заклапочаны лоб і русявыя, спераду крыху выгаралыя на сонцы, валасы. Ніна была прыгожая няяркім, сціплым хараством. Асабліва прываблівыя былі яе вочы — шэрыя, часам блакітныя, як бы засмужаныя; яны пазіралі з нейкай светлай удумлівасцю і сардэчнасцю. Прыгожа акрэсліваліся мяккія, нібы прыпухлыя вусны.

Ніна запыніла позірк на маршчынках, што выразаліся пад вачыма. «Вось, старэць пачынаю...» У галаве праплыло: «Аляксей, відаць, таксама пастарэў...»

У будане было тлумна, і яна рашыла, узяўшы з сабою коўдру і жакетку, паспаць дзе-небудзь у лесе.

За буданамі трава была вытаптана. Хадзілі і размаўлялі непадалёк партызаны. Ніне захацелася адысці далей, у цішыню, адной схавацца ў сакавітай высокай траве. Яна крыху паблукала між дрэў, шукаючы прынадную мясцінку.

У гэтых пошуках яна неспадзеўкі натрапіла на Васіля, той зацята корпаўся ў нейкай невялікай блакітнай скрынцы. Пачуўшы крокі побач, ён узняў дзіўна няветлівы, нездаволены позірк. Нібы перашкодзіла яна, адарвала ад справы. Не адразу і неахвотна, разважыўшы спачатку, ён адказаў, што рамантуе сапсаваную нямецкую рацыю.

— Нашто яна табе?

— Як нашто? Рацыя нашто? — здзівіўся Вася.

Ніна схавала няёмкасць: трэба ж, спытала такое.

— Выходзіць што-небудзь?

— Пакуль нічога. Штосьці я не магу тут разгадаць... Але я даб'юся, ну праўда. Быць не можа.

— Вядома, даб'ешся. Ты такі,— падтрымала яго Ніна і пайшла далей.

Нарэшце ля вялікай бярозы яна стала. Бяроза была дужая, з чорным, у моцных жылах камлём, занізі клейкіх, з дробнымі зубчыкамі лісточкаў ледзь-ледзь

трапяталі на тонкіх галінках. Трава пад дрэвам расла густая, дружная і цёмная. Прадчуваючы радасць спакою, сну, Ніна паслала коўдру, згарнула жакетку замест падушкі пад галаву і лягла. Прыкрылася ад камароў коўдраю.

Камары назольна віліся ля твару. Прыйшлося завязаць хустку так, каб схаваць амаль увесь твар.

Вакол было ціха, зялёна, прыгожа, сэрца яе невядома чаму поўніла адчуванне незвычайнага шчасця.

Потым галіны ўгары і кавалкі чыстага неба ў прагалінах ціха закалыхаліся, падняліся ўгару і ціха-ціха кудысьці паплылі. І яна таксама паплыла, адчуваючы, як ёй з кожнай хвілінай робіцца ўсё лягчэй...

Прачнулася яна з усмешкай, з адчуваннем светлай радасці. У сне яна бачыла дачку, Людачку. Ніна цяпер не магла ўспомніць, што іменна яна бачыла, засталося толькі адчуванне чагосьці незвычайна харошага, цудоўнага. У першую хвіліну, яшчэ ў паўсне, у няцямнасці, яна шчасна азірнулася вакол, але калі стала прыходзіць да явы, усмешка пачала гаснуць. Усё, што яе цешыла, аказалася толькі сном!

Грудзі яе сціснула туга.

Ніна ўспомніла слова за словам усю нядаўнюю размову ў будане, і ў сэрца паліўся неадольны жаль да сябе, да Люды... Яна ўткнулася ў траву і, душачыся горам, зарыдала. Плечы яе ўздрыгвалі.

— Нічога, нічога ты не разумееш,— сказала яна.

Калі выплакалася, на душы стала лягчэй. Ужо не было жалю да сябе, быў спакой. «Вось дзівачка, расплакалася невядома чаму»,— падумала Ніна, збянтэжаная за неспадзяваны свой адчай.

Яна развязала хустку і легла зноў на спіну.

Неба высілася па-летняму высокае і лагоднае. Сінь яго была не яскравая, а затуманеная, малочная. Недзе ў ім,— здалося, у недасяжнай вышыні,— варушылася сплеценае бярозавае галлё, трапятала нязвычна цёмнае, амаль чорнае лісце.

Угары з галіны на галіну жвава скакала вяртлявая птушачка, залівалася вясёлаю песняю: фі-ур-рр-фі-у.

Пра што яна спявала?

Ніна ўслухоўвалася ў прываблівую незразумелую песню, і ёй усё мацней хацелася разгадаць сэнс спеву. Успомнілася, як гэтае жаданне спасцігнуць птушыную мову турбавала яе некалі ў маленстве. Яна забіралася

ў гушчыню саду, у вішняк, дзе асабліва багата было птушак, і цэлымі гадзінамі слухала, выдумляючы свае тлумачэнні незразумелым гукам.

Птушка саскочыла на самую ніжнюю галінку, паглядзела зблізку ўважлівымі вочкамі, ціўкнула здзіўлена і, узмахнуўшы крыльцамі, схавалася ў вецці. Ніна слухала цяпер, як трапятала-шапталася між сабой лісце... Хораша ў чэрвеньскім лесе!

Ціха і спакойна было навокал. Па руцэ яе, пакрытай светлым кволым пушком, якая ляжала на грудзях, поўз мураве́й. Калі дапоўз да далоні, спыніўся, нібы падумаў аб нечым, потым спакойна павярнуў назад. Яна, прыўзняўшы руку, сачыла за ім.

З вострай увагай, прагна прыглядалася Ніна да ўсяго, лавіла гукі жыцця.

Але дзіўна! Чамусьці чым прыгажэйшым бачыўся свет навокал, тым больш горка рабілася ў яе на душы.

Затуманенымі вачыма зноў нібы ўбачыла дачку. Люда мроіла, смяялася, цягнулася да яе ручкамі.

«Дзе ты цяпер, Людачка?» — заныла шчымліва, пякуча ў грудзях. Захацелася зноў уткнуцца ў траву, закрычаць. Але яна стрымалася.

Аднак адолець думак, успамінаў пра дачку яна не магла. Самі сабою зноў ажылі, вярнуліся доўгія восеньскія дні і ночы ў Мінску. Яна сядзіць цэлымі днямі ў хаце, песціць малую. Шые маленькія сарочкі, ціха спявае песні, неспакойна прыслухоўваецца да шуму на вуліцы... Тая цеплыня, якая раней была скіравана толькі на Аляксея, цяпер перайшла і на дачку. Любоў да Люды і клопат пра яе сцішалі скруху па мужу...

Дні былі трывожныя. Казалі, што немцы падышлі да Масквы. І хоць трэба было ўвесь час дбаць аб Людзе, здавалася недаравальным так сядзець. Яна рвалася да справы.

Яна знайшла справу, сапраўдную справу. Але ўсётакі і цяпер ёй здаецца, што не хапае нечага вельмі неабходнага. Не хапае дачушкі, Людачкі. Як хочацца пабачыць хоць на хвілінку. Як хочацца пагаварыць з ёю, папесціць. Прыціснуць мілыя шчочкі да сябе. А якім шчасцем было б — аж у горле сохне, ледзь уявіш толькі! — нагрэць вады ды паставіць малую ў ванну і пеністым мылам мыліць кволыя з ямачкамі плечы, ружовыя распараныя ножкі. А потым, захутаўшы ў прасцінку, несці да ложка і, паклаўшы ў пасцель,

схіліцца над ёю і расказваць-выдумляць казкі або цалаваць. О, каб зараз пабачыць яе, зацалавала б усю!

Нехта з паэтаў пісаў, што прырода заспакойвае, уціхамірвае боль. Няпраўда гэта. Калі бачыш такое хараство, асабліва хочацца шчасця. Абуджаюцца найдарагія жаданні: хутчэй бы атрымаць ад Аляксея вестку, абняць бы дачушку, жыць у Мінску, усім разам, рабіць сваю любімую справу — вучыць дзяцей.

Калі яно гэта зноў прыйдзе? Як тады добра будзе!

Чаму яна раней не ўмела так адчуваць, разумець шчасце? Чаму шчасце па-сапраўднаму пачынаеш шанаваць тады, калі яно адышло? Яна тады многага не шанавала, не разумела... Цяпер яна ведае, што такое шчасце. Яна навучыць дачку цаніць яго...

Ці хутка прыйдзе яно, тое шчасце? «Мусіць, ужо хутка. Мабыць, ужо нядоўга чакаць,— падумала з надзеяй.— Мабыць, цяпер блізка... Няхай бы хутчэй!..»

Пахла травою, вільготным мохам, кветкамі! Пахі былі не такія, як у сярэдзіне лета. Не адчувалася яшчэ ў іх той духмянасці, спякотнай млоснасці, якія бываюць пазней. Трава буяла свежая, светла-зялёная.

Так добра было вакол!

2

Ніна ўстала, узяла коўдру і жакетку і пайшла да лагера. На тым месцы, дзе яна ляжала, застаўся адно след прымятай травы ды зламаная, незаўважаная сцяблінка нерасцвілых званкоў.

Ля будана яна спаткалася з Валяй Залескай.

— Ой, Ніначка! А цябе тут шукалі!..

— Хто?

— Ад камісара, ад Тураўца прыходзілі.

— Чаго, не ведаеш?

— Не сказалі. Прасілі толькі, каб зайшла да яго...

Ніна занесла коўдру ў будан, хутка памылася і заспяшалася да Тураўца. Увесь час гадала, чаго яе клічуць: не цярпелася ўведаць зараней. «Мусіць, зноў пашлюць выступаць з лекцыяй,— прыйшло на думку,— не інакш — выступаць. Чаго ж яшчэ?»

Туравец быў каля штабной зямлянкі, чытаў газеты. Убачыўшы Ніну, устаў, прывітаўся, сказаў дабрадушна:

— А, прыйшла! А я ўжо зачакаўся!..

Туравец дакорліва паківаў галавою, усміхнуўся, але ўсмешка амаль адразу ж сышла з твару. Згарнуўшы газету, забраўшы іншыя, ён папрасіў зайсці ў зямлянку.

Па яго гаворцы Ніна чула зразумела, што не для лекцыі паклікаў ён, нешта іншае чакае яе.

У зямлянцы села за стол каля цемнаватага акенца, з запытаннем зірнула на камісара. Твар яе пасля сну быў ясны, нібы маладзейшы,— свяціўся маладосцю і хараством. Цяпер яна была падобна на дзяўчынку, што нічога горкага яшчэ не бачыла і глядзіць на ўсё адкрытымі, па-дзявочы даверлівымі вачыма.

Тураўца кранулі гэтыя маладосць, хараство, затоенае адчуванне іх узняло ў Тураўца сумненне — ці справядліва рызыкаваць у гэтыя дні яе будучыняю і шчасцем?

— Як здароўе?

— Здароўе? Нішто...

Ніна ўважліва зірнула на Тураўца: да чаго гэтае пытанне?

— Ты не хворая? — запытаўся камісар.

— Не...

— Адпачыла добра?

— Добра.

— Дужая, значыць?..

— Дужая...

Туравец адужаў сябе.

— Рыхтуйся ў дарогу.

— Куды?

— У Мінск трэба...

— У Мінск?! — мімаволі вырвалася ў Ніны.

Яшчэ не думаючы ні аб чым, яна ўзрадавалася.

— Пойдзеш на спецзаданне.

Яна моўчкі кіўнула галавой.

— Заданне вельмі важнае. Для штаба фронту.

Ён стаў тлумачыць, што ёй трэба зрабіць. Па сваёй звычцы, гаворачы пра заданне, Туравец не ўтойваў, што зрабіць усё будзе нялёгка. У такіх выпадках ён ніколі не падаваў з'явы прасцей, чым яны былі напраўду. Ён хацеў, каб Ніна ведала, на што ідзе.

Канечне, ёй дапамогуць надзейныя людзі, якіх яна спаткае ў Мінску, але ўсё ж будзе цяжка. Не адна небяспека ў дарозе і ў родным горадзе будзе падпільноўваць яе, пагражаць смерцю. Многа злых варожых ва-

чэй будуць вывіжоўваць яе. Ёй трэба будзе адчуваць небяспеку здалёк, асаблівым чуццём, здолець, калі ўзнікне неабходнасць, не губляючыся, пайсці на смелую рызыку...

— Вы гаворыце так, быццам хочаце напалохаць мяне,— знарок весела сказала яна.

— Я хачу, Ніна, каб ты ўсё абдумала. І каб была да ўсяго гатовая.

— Я ўсё разумею, Нічыпар Паўлавіч...

Па тым, як было выказана гэта, Туравец адчуў, што яна сапраўды ўсё разумее. Ён устаў, зняў са сцяны сваю палявую сумку, расшпіліў.

— Што ж, калі разумееш, вось табе — пропуск.

Ён падаў ёй складзены лісток.

— З гэтай хвіліны ты ўжо не Ніна, а Алена. Перагуд Алена.

Ніна разгарнула пропуск, напісаны сінім чарнілам: так, яна цяпер Перагуд Алена, што жыве ў вёсцы Барысавічы.

— Да Лапаціч правядуць цябе хлопцы. А адтуль — глядзі сама, Ніна... выбачай, Алена. Дарэчы, і ты прывыкай да новага імя. Ідзі, збірайся... Ні пуху ні пяра.

Ён сціснуў Ніліну руку. Гледзячы на яе, Туравец з надзеяй падумаў, што ўсё будзе добра.

Пасля поўдня Ніна выйшла з лагера. Яна была ў старым каверкотавым пінжаку з падкасанымі доўгімі рукавамі, у хустцы, якую завязала па-вясковаму: з ражкамі ля шыі і казырком над ілбом. У руках несла плецены лазовы кошык з прадуктамі — ідзе ў горад, выменяць што-небудзь з адзежы.

Партызаны, што праводзілі Ніну, увесь час перагаворваліся, жартавалі. Найбольш падсмейваліся над барадатым высокім мужчынам, якога звалі жартам «барада».

Пад вечар навокал стала хмурнець. Узняўся вецер, аднекуль прыгнаў хмары, яны паўзлі і паўзлі насустрач і неўзабаве закрылі ўсё неба. Было падобна, што збіраецца дождж.

Калі ўночы мінулі мяжу партызанскай зоны, не бавілі ўжо час у непатрэбных гаворках. Ішлі ціха па ледзь прыкметнай у цемры ночы сцежцы. Наперадзе амаль нячутна ступаў «барада», усе іншыя, нярэдка спатыкаючыся, браліся ўслед за ім.

На ўскрайку лесу разведчыкі спыніліся.

— Вунь і Лапацічы твае! — сказаў «барада» і, здалося Ніне, кіўнуў галавою наперад. У цемры нічога не было відаць, але Ніна ведала, што сяло тут праз якога паўкіламетра.

Хоць і хацелася хутчэй дабрацца да горада, яе агарнулі туга і трывога. Гэта было заўсёды, калі расставалася з такімі блізкімі — і надзейнымі — людзьмі, ішла адна ў невядомасць. Колькі хвілін усе стаялі моўчкі, не хапаліся назад. Разумелі: што значыць — ісці туды...

Яна ведала, што яны не інакш разумелі і тое, чаму яна марудзіць. Разумелі, што яна не хоча, баіцца заставацца адна. Адна перад гэтай затоенай цемраю, што заліла, здавалася, увесь свет, перад небяспечнай невядомасцю. Ёй няёмка было ад таго, што яны адчувалі яе трывогу, яе кволасць, але яна ўсё ж не спяшалася. Што ж, няхай адчуваюць...

Нарэшце маўчанне, чаканне сталі цяжкімі і ёй. Трэба было ісці. Як магла, яна спакойна, нібы нават бесклапотна, прамовіла:

— Ну, мне пара! Ды і вам, мусіць, не лішняе паспяшацца...

— Так, часу і ў нас скупа...

— Бывайце.

— Шчаслівай дарогі, Ніна!

Ніна падалася ў цемру.

## 3

Ледзь на ўсходзе пасвятлела і пачалі гаснуць зоры, стары-сувязны правёў Ніну за вёску. Ён усё шкадаваў, што, ідучы ў такую нялёгкую дарогу, яна не падрамала нават, і ўгаворваў, каб вярнулася, адпачыла дзянёк.

Але Ніна стаяла на сваім: сёння была акурат нядзеля, дзень, у які ў горад ідзе найбольш людзей. Між іх ёй будзе лягчэй прабрацца.

Стары доўга, падрабязна, паўтараючыся, тлумачыў Ніне, як ісці, чаго і дзе трэба асабліва асцерагацца.

Як толькі добра ўднела і пачалі хадзіць людзі, яна выбралася на дарогу, далучылася да купкі жанчын, што ішлі да горада. Паўз яе, наперад і насустрач, з шыпеннем шын, з грукатам праносіліся нямецкія грузавікі. З пранізлівым ляскатам, нібы страляючы, імчаліся ў бок горада і насустрач матацыклы. Зрэдку, рыпаючы, сакочучы, ехалі павозкі з немцамі ці паліцаямі.

Неўзабаве ёй удалося ўладзіцца на выпадковы нямецкі грузавік. Узяўшы за плату дзесятак яечак, немец-шафёр з тылавых войск дазволіў залезці ў крыты кузаў. У гэтай машыне ў акружэнні незнаёмых жанчын, а таксама падабраных на дарозе, яна з неймавернай, здавалася, хуткасцю дапала да Мінска.

Вунь і горад. З кузава машыны, што ўзбягала на ўзгорак, Ніна наводдаль убачыла шэрыя вуглаватыя абрысы Дома ўрада, які ўзвышаўся над іншымі дамамі, каля яго вострую, падобную на чырвоны аловак, вежу касцёла. Знаёмы, дарагі да драбніц, даўно-даўно да болю жаданы малюнак гэты моцна ўзрушыў. Сэрца замерла, заныла, сціснулася, а ў горле зашчымела, і яна адчула, што на вочы вось-вось набягуць слёзы.

«Люда, дачушка! Як ты цяпер жывеш, у такую пару, без мяне? Якая ты стала? Вырасла, мусіць, выцягнулася, гаварлівая, неспакойная, галасок мой! Ці ўспамінаеш ты хоць калі-небудзь сваю маму, якая вымушана жыць у ростані з табой, але носіць цябе ўсюды ў сваім сэрцы?..»

Адразу за ўзгоркам салдат-шафёр спыніў грузавік і загадаў усім, хто сядзеў у кузаве, сысці.

Далей да горада пайшлі пеша.

З намаганнем, адганяючы ўспаміны, стрымліваючы раптоўную моцную ўзрушанасць, прымусіла сябе Ніна супакоіцца. Але, па меры таго як адыходзіла з душы размякчэласць, як вярталася цвярозая развражнасць, яе ўсё больш апаноўвала трывожная насцярожлівасць. Пазіраючы на знаёмы малюнак горада, яна ўжо жыла прытоеным адчуваннем небяспекі і невядомасці: што там чакае?

Ці ўдасца зрабіць усё, што належыць? Ці ўдасца добра выйсці адтуль?

Прадчуванне блізкай небяспекі вярнула ёй сілу. Лёгкасці і спакою ўжо не было, але затое не было і сумяціцы ў пачуццях. Было разуменне: патрэбна асцярожнасць.

Ішла цвёрда і, здавалася, зусім спакойна.

Перад горадам яе і жанчын, што ішлі з ёю, спыніў патруль — тры салдаты з аўтаматамі. Калі перад ёй праверылі дакументы і перакапалі рэчы дзвюх жанчын, Ніна выступіла наперад. Адзін з немцаў, бялявы, з блакітнымі нахабнымі вачыма, агледзеў Ніну з галавы да ног, нібы распранаючы, кінуў адно слова:

— Ausweis![1]

Ніна выняла са сподняй кішэні пінжака латку, марудліва разгарнула і паказала пасведчанне. Не зводзячы з яе вачэй, гітлеравец пацягнуў паперку, прачытаў, зноў унізаўся ў яе позіркам. Не вяртаў пасведчанне, і Ніну холадам абліла трывога: кепска зроблена? Прыкмеціў якую-небудзь памылку? Адчуў падазронае? Стрымліваючы дыханне, тоячы страх, што ўраз апанаваў усю, бачыла яна, як немец з нахабнай усмешкай круціў аўсвайс, глядзеў на яе.

Быццам далёкае, дробнае было, як другі, пэўна, памочнік гэтага, тым часам праворна варочаў усё ў кошыку.

Дзівілася сама пазней, як змагла, калі кавалак ружовага сала, густа пасыпанага соллю, знік у кішэні салдата, адолець страх свой, абурана ўхапіцца за кошык.

— Ну, хопіць ужо! Трэба і мне пакінуць, на продаж!

— Но-но! — пагрозна вызверыўся на яе той, з аўсвайсам. Кошык адабраў той, што абшукваў, пераварнуў усё да рэшты. Толькі тады вярнуў.

Гледзячы на яе, бялявы раптам пакруціў галавой з дакорам:

— Не-хо-рошо. Такая красівая мадам. Валнуеца прадукты...

Ён вярнуў аўсвайс.

## 4

Першае, што Ніна ўбачыла ў горадзе, былі два новыя дзоты абапал вуліцы. Збоку цягнулася калючая загароджа ў два рады з пераплеценымі накрыж дратамі, каля якой мерна шпацыраваў салдат. На рагу высілася на слупах будка, і там была другая такая ж постаць, толькі дзіўна нерухомая.

«А на вуліцы пуста»,— заўважыла яна. Ёй здавалася, што калючы дрот аблытаў увесь горад.

З гэтай хвіліны ў яе было такое адчуванне, нібы раптам надышоў прыцемак, страшны, загадкавы, пагрозны. Слых яе цяпер востра лавіў кожны гук. Яна прыкмячала ўсё, што рабілася вакол, хоць збоку здавалася спакойнаю і нават бесклапотнаю.

---

[1] Пасведчанне.

Калі падыходзіла да рынку, міма прашумела грузавая машына з салдатамі, за ёй такая ж другая і трэцяя.

Запаволіўшы хаду, Ніна ўгледзела: непадалёк наперадзе машыны рэзка спыніліся. Нетрывалую цішыню працялі пранізлівыя каманды, і салдаты, што пасыпаліся з кузава, пачалі хутка, з пагрозным тупатам разбягацца ў два бакі, акружаць рынак.

«Аблава!» — у момант здагадалася яна. Адразу ж павярнула ў першую ж бакавую вулачку. Павярнула, яшчэ амаль не разважаючы, больш ад даўняга вопыту чуючы, чым грозіць ёй гэтая неспадзяванасць.

Поўнячыся ўся нецярплівай і пільнай трывогаю, Ніна старалася хутчэй адысці ад рынку. Улавіла слыхам: там, у баку рынку, ускінуўся гоман спалоху, мітусні, лямант, загадныя воклічы немцаў. Паўз яе хапатліва прабеглі некалькі жанчын, што, мусіць, вырваліся з рынку. Дзве з іх прытрымлівалі рукою нейкія скамечаныя абы-як тканіны: пэўна, не ўправіліся прадаць; трэцяя трымала за плячыма мяшочак, ён пры бегу целяпаўся і біў па спіне. З мяшка церушылася мука.

Услед за імі пратупацеў важкімі каванымі ботамі салдат. Ён на бягу крыкнуў нешта і стрэліў. Уцякачкі, пачуўшы стрэл, спыніліся...

Салдат, што затрымаў іх, быў наперадзе.

Ніне нясцерпна хацелася кінуцца зараз жа назад, збочыць у які-небудзь ціхі завулак. Але яна ведала, што тады салдат, не вагаючыся, загадаў бы ёй спыніцца, стрэліў бы; таму, як бы нічога не адбылося, яна цвёрда пайшла насустрач яму.

Салдат, штурхаючы аўтаматам, лаючыся, вёў затрыманых да рынку. Калі апынуліся побач, ён з падазрэннем зірнуў на Ніну, хацеў нешта сказаць, у яго нават смыкнуліся губы, але спакойны, без адзнак страху выгляд жанчыны, што кінула ўпэўнены позірк, спыніў яго.

Аддаліўшыся ад небяспекі, Ніна пайшла хутчэй. Сэрца яе білася гулка і часта.

«Ледзь не папалася. Так недарэчна, бязглузда...»

Праз гадзіну, а можа, і больш, па ціхай, парэзанай калдобінамі вуліцы яна падышла да адной з явачных кватэр.

Хуткім, пільным позіркам акінула дворык і драўляны, пахілены ад старасці дом, куды ёй трэба ісці.

Адзначыла, што ў доме нейкі запушчаны, нібы нежывы выгляд — у вокнах ні адной фіранкі, а ў сярэднім —выбіта шыба. Няўжо так і жывуць з выбітаю шыбаю?.. І каля расхрыстаных веснічак — рубчасты след аўтамашыны.

Усё гэта яна схапіла адным позіркам. Не прыпыняючы хады, не спяшаючыся, знарок прайшла паўз дом.

Крыху наперадзе, прыкмеціла, паволі шпацыраваў, нібы нудзячыся, сухі, мірны чалавек. Набліжаючыся, ідучы паўз яго, бачыла: у чалавека нуднаваты выраз змяніўся на нядобрую, вострую ўвагу. Мільганула ў позірку яго нешта падобнае на падазрэнне. Здалося, хацеў пра штосьці спытаць яе. Ступаючы паўз яго, чакала пытанне. Але ён не спытаў. Ужо калі ён застаўся ззаду, чула за сабой яго позірк, што сачыў, віжаваў, з намаганнем стрымлівалася, каб не азірнуцца.

Раптам здалося: недзе ўжо сустракала гэтага чалавека. Яна ліхаманкава старалася ўспомніць: дзе? Але памяць нічога не падказвала.

Калі прайшла паўквартала, не вытрывала, каля павароту, нібы незнарок, азірнулася. Чалавек глядзеў услед. Чаго ён глядзіць? Можа, і ён прыпамінае? Значыцца, ён таксама недзе бачыў яе? Ці пазнаў ён?

Не хапаючыся, прайшла за рог. Тут прыпынілася, кінула позіркам у бакі і, нядоўга думаючы, нырнула ў пралом спаленай будыніны. Між каменных руін хутка выбралася на другую вуліцу. Азірнулася: яго не было відаць.

Калі ішла да другой кватэры, знарок зрабіла вялікі круг, каб заблытаць свае сляды. Устрывожаная аблавай і падазроным чалавекам, была цяпер асабліва асцярожная.

Па меры таго як падыходзіла да гэтай яўкі, неспакой яе ўсё большаў. Няўжо і тут тое?

Вось і другая кватэра. Вузенькі двор, акуратныя, зачыненыя веснічкі. Каля памытых вокан зелянеюць маладая ліпа і кусты бэзу. На двары была дзяўчына, падмятала двор. Па тым, як яна рабіла гэта, Ніна адчула: тут спакойна. Адчыніла веснічкі, падышла, прывіталася. Дзяўчына, бялявая, паўнатварая, адказала ахвотна, з нейкай вясёлай бесклапотнасцю.

— Мне гаварылі, што вы хочаце мяняць адзежу на крупы,— дапытліва паглядзела Ніна ў вочы дзяўчыны.

Бесклапотны смех у вачах той знік. Цяпер вочы яе глядзелі ўважліва, спасцярожліва.

— А якія ў вас крупы?

— Пшано. Ёсць і грэчневых жменя.

— Ідзіце да Сяргея.

Дзяўчына правяла Ніну праз цёмныя сенцы з хісткай падлогай у нізенькі пакой. Тут на лаўцы сядзеў малады заклапочаны хлопец, які малатком нешта кляпаў з бляхі. Калі Ніна ўвайшла, ён перастаў кляпаць, выпрастаўся і, адкінуўшы з ілба пасму густых валасоў, спакойна зірнуў на яе. Па прыкметах, пра якія казаў Туравец, Ніна пазнала, што гэта і ёсць Сяргей...

— Пшано прынесла. І грэчневых жменя... На абмен... Купіце?

— Пабачу, якую цану заломіце.

Па яго знаку дзяўчына выйшла. Упэўніўшыся, што ён якраз той, да каго яе паслалі, Ніна расказала пра сваё даручэнне. Яна зняла левы бот і з-пад халявы выняла запіску ад Тураўца.

Сяргей прачытаў яе, акуратна згарнуў, паклаў у кішэню на грудзях.

— Нешта даўно не было нікога. Я ўжо непакоіцца пачаў... Як там дзядзька Нічыпар? Што робіць?

— Сяўбою займаўся доўга. Сеялі хлеб, бульбу... Фрыцаў і ўсіх іншых ганялі... Цяпер сходы розныя праводзіць, лекцыі чытае...

— Лекцыі, праўда? Цікава б паслухаць, па міжнароднаму!.. Што новага там — па той бок?

Ён сказаў гэтае «там — па той бок» з такой пяшчотай, з якой гавораць імя любага чалавека.

З яго пытаннем Ніне раптам успомнілася, як некалі сама адсюль, з няволі, лавіла весткі «з таго боку», з вялікай радзімы. Усхваляваная гэтым успамінам, яна стала ахвотна, радасна расказваць яму.

Сяргей лавіў кожнае слова. Твар яго ажывіўся, вочы блішчалі.

— А што ў вас? — запыталася яна ў сваю чаргу.

Ён адкінуў рукою пасму валасоў з ілба, адразу стаў заклапочаным.

— Цяжка стала тут, іншага не скажаш. Цяпер, як прыехала СД са Смаленска і Гомеля, на кожнага пад-

польшчыка, мабыць, не менш за паўдзесятка гэтых сабак, гестапаўцаў. Хапаюць нашых аднаго за другім... Іншы раз нашы пападаюць выпадкова — трапяць дзе-небудзь пад аблаву і разам з другімі — у лагер. Гестапаўцы цяпер забіраюць адразу сотнямі, думаюць гады, так лягчэй вынішчыць нас...

— Як яны сябе адчуваюць тут?

— Нервуюцца... Доты ставяць усюды, амбразуры ў дамах вырэзваюць, спадзяюцца, значыць, біцца за кожны дом. Абсталяванне вывозяць. З заводаў цяпер працуюць толькі тыя, што патрэбны для вайны: раманцуюць танкі, гарматы, вінтоўкі. Тытунёвая фабрыка, дэпо... Фраў ўжо збіраюць свае манаткі і абы хутчэй — нах Дойчланд.

Ён яшчэ нямала расказваў пра становішча ў горадзе. Ніна слухала ўважліва, старалася ўсё запомніць, каб не зблытаць пасля, не забыць што-небудзь важнае, калі запытаюць у брыгадзе.

Але пыталася яна не толькі з-за абавязку. Ёй усё гэта вельмі цікава было ведаць. Яна ледзь прытойвала хваляванне, ледзь утрымлівала нецярплівыя, непатрэбныя з цвярозых разваг пытанні, якія проста рваліся на свет. Ёй столькі хацелася ведаць з таго, што адбывалася тут, у яе горадзе. А трэба было ўсё ж таіцца, прыкідвацца проста сувязной...

Побач, у суседнім пакоі, пачулася п'яная песня.

— Хто гэта?

— Фрыцы. З акцыянернай кампаніі... Су-седзі,— іранічна сказаў Сяргей.— Праўда, з імі хоць спакайней крыху: паліцаі не так назаляюць...

Неўзабаве Сяргей падняўся.

— Я пайду да сваіх. Карту нам нядоўга намаляваць, так што вы не трывожцеся. Усё будзе, як трэба. Вы тут пабудзьце з Клаўкаю, пагаварыце,— яна вам усё раскажа. Сястрычка мая ўмее расказваць!.. Клаўка-а! — гукнуў ён, падышоўшы да акна.

Скрыпнулі дзверы, і ў хату ступіла дзяўчына, што падмятала двор.

— Забаў тут госцю нашу, Клаўка. Ёй, мабыць, сумна ў нас...— сказаў Сяргей.

Яны засталіся ўдзвюх. Ніне кінулася ў вочы: у поўных Клавіных вуснах нібы таілася ўсмешка; са шчок амаль не сыходзілі вясёлыя ямачкі,— напэўна, любіла пасмяяцца, павесяліцца.

— Вам, мусіць, і праўда сумна ў нас?..— запыталася яна.

— Не, нічога...

— Вы ж, мусіць, не мінчанка? — запыталася Клава, стараючыся не маўчаць.

— Не...

— А я вось — у Мінску ўвесь час. І нарадзілася тут, і жыву...

Яны памаўчалі.

— І не былі раней у Мінску?

— Не...— Ніна дадала больш цвёрда.— Не даводзілася...

— Шкада.

— Чаму?

— Горад быў харошы...

Каб змяніць гаворку, Ніна запыталася:

— Вы ўдваіх з братам жывеце?

— Не... Маці таксама з намі. Яна — на Суражскім рынку.

— Гандлюе?

— Прадае таркі, карцы.

— Іх робіць Сяргей? — здагадалася Ніна.

— Сяргей... Пасля працы ці ў выхадны дзень. Ён у гаражы «Ост» працуе.

— А вы не працуеце?

— Не, прыходзіцца таксама... Нічога не зробіш! Я ў сталоўцы — каля гаража...

— Памагаеце, значыцца?

— Памагаю, дзе магу...— Клава раптам гарэзна ўсміхнулася.

Яны непрыкметна разгаварыліся.

Клава цікава апавядала пра розныя выпадкі з гарадскога жыцця.

Слухаючы яе, Ніна ўстала, падышла да нізкага цемнаватага акна, пачала над зборчатай фіранкай паглядаць на вуліцу. З акна быў відаць толькі невялікі куток вулічкі, усяго чатыры старыя прыземістыя хаты...

Прытуліўшыся шчакой да памытага нядаўна вушака, Ніна глядзела на дальні край вуліцы: ці не ўбачыць Сяргея? Сяргей нешта не паяўляўся.

Раптам з-за рога, хітаючыся на няроўнай дарозе, вынырнула легкавая машына з закрытым шклом.

— «Чорны воран» прыляцеў...

— Дзе? — адразу ўскочыла Клава і падбегла да акна. Машына за акном параўнялася ўжо з веснічкамі і, калыхнуўшыся з боку на бок, рушыла далей. З ёй, за шклом, рушыла даўганосая, каршаковая галава ў фуражцы з высокім верхам.

— Не да нас...

— Некага схопяць.

Некалькі хвілін стаялі моўчкі.

Цяпер яна можа і не паспець выйсці з горада, ужо блізка час, калі забараняецца хадзіць. Ніна неспакойна прайшлася па пакойчыку, зноў спынілася каля акна і нецярпліва паглядзела на вуліцу.

— Строга цяпер з начоўкай?

— Строга.

— Што — аблавы часта?

— Часта.

Пыталася не таму, што не ведала, ёй гэта было вядома з тых дзён, калі сама жыла тут. Пыталася таму, што цяжка было маўчаць. Усё ж не стала пытацца, што будзе з тым, у каго знойдуць чалавека ў забаронены час. Пра гэта і думаць не хацелася: турма, а можа, і расстрэл.

— А вы не бойцеся,— паспрабавала супакоіць яе Клава.— Сяргей прыйдзе, усё ўладуе.

Ніна адышла ад акна і села на канапе. Праз трывогу і чаканне раптам, не першы раз, але з новай, нязноснай прагай прарвалася, захапіла ўсю жаданне: пабачыць бы, абняць бы дачушку!

Толькі-толькі б, здаецца, убачыць, зірнуць хоць бы на момант, хоць бы здалёк угледзець!

Нясцерпна гняла туга: блізка-блізка дачушка, а пабачыць нельга. Не толькі абняць, сказаць слова маленькай, а і пабачыць здалёк нельга!

Расказаць, можа, Клаве пра сваю тугу, паскардзіцца проста, па-жаночаму? Але і гэтага не дазвалялі становішча, абавязак. Ды і неспакой за дачушку, апаска за Люду не дазвалялі.

— У вас, Клава, дзяцей няма? — выціснула нялёгка Ніна.

— Ой, што вы! Няма,— адказала тая.— Я незамужняя.

«Яна ўсё роўна нічога не зразумела б, калі б і можна было расказаць...» — супакоіла сябе Ніна.

Душачы ў сабе тугу, Ніна ўспомніла, з якім тры-

вожным замілаваннем калісьці глядзела на дачку: толькі б усё было добра! Згадала, як уладжвалася на працу, каб не выклікаць лішне падазрэння, як там, у канторцы аптэкі, ледзь не ўвесь дзень думала пра Люду: дома было неспакойна, кожны дзень каля іх кружыла небяспека. Тады яна часта заносіла Люду да Залескіх...

То быў час, калі Люда, ледзь не кожны дзень, здзіўляла і цешыла. Яшчэ не дайшло ёй да года, як яна ўжо сама стаяла, спрабавала першыя няцвёрдыя, але такія важныя крокі. Падала і з рукой мамы ці бабулі зноў уздымалася. Дрыжалі мілыя ножкі, але ўпарта ступалі па падлозе. Вучыліся хадзіць. Не багата дзён мінулася, як яна, трымаючыся за маміну руку, магла прайсці праз увесь пакой.

Ніна добра помніць — на ўсё жыццё запомніла — як дачка вымавіла «тата» — першае слова, якому яе навучыла маці. Слухаючы смешнае, мілае лапатанне дачушкі, Ніна тады старалася ўявіць, як бы яго слухаў Аляксей...

Вечарэла.

На хвіліну недзе з-за хмар выглянула сонца, і ўсё за акном заяснела. Весела заблішчалі лісты на бэзавых кустах, запалала шыба ў хаце насупраць. Але неўзабаве зноў пацямнела,— пасля сонца прыцемак здаваўся гусцейшым.

А Сяргей не вяртаўся.

## 5

Ніна пачула яго спакойныя крокі, ледзь ён увайшоў на двор. Нецярпліва ўскочыла: нарэшце! Ён прыкрыў дзверы і, адкінуўшы звыкла пасму валасоў, сказаў:

— Зачакаліся, мабыць? Прыпазніліся крыху мы...

Сяргей выняў з-пад сацінавай падкладкі сваёй кароценькай курткі складзены тоненькі лісток:

— От!

Ён падаў лісток Ніне.

— Доўга размалёўваць карціну гэту прыйшлося, стараліся, каб не прапусціць нічога. Затое ўсё ўпісалі, нават недабудаваныя доты. Чыста зрабілі, адным словам...

Ніна разгарнула празрысты, аж прасвечваў, лісток,

акуратна складзены ў некалькі столак. План горада быў пакрэслены рознымі знакамі. На ўсякі выпадак разгледзеўшы плошчы і вуліцы, размяшчэнне знакаў, Ніна беражліва склала лісток па ранейшых складках. Папрасіўшы нож ці нажніцы, зняла жакет і нажніцамі, якія ёй падалі, асцярожна разрэзала знізу шво «пляча» і схавала паперку. Калі стала зашываць, Сяргей сказаў супакойліва:

— А што прыпазніліся крыху — не такая ўжо бяда. Вядома, з горада выйсці ўжо не паспець,— позна. Але мы можам пераправіць вас уночы. Так што не трывожцеся, усё будзе як след.

Ніна ведала добра, як небяспечна хадзіць уночы. Успомнілася раптам зноў, што перад тым, як пазалетась ішла з хворым прафесарам, адна група наскочыла на засаду. Траіх дзяўчат схапілі і закатавалі ў гестапа.

Развітваючыся з Клаваю, Ніна выклала на стол усё, што прынесла з сабой. Некалькі яечак, мяшочак круп, слоік топленага масла.

— Няхай за падарунак з лесу будзе! Ды і мне вяртацца лягчэй будзе! — пажартавала яна.

Клава падзякавала. Не адмаўляючыся, узяла.

Да поўначы хавалася ў кватэры на ўскраіне горада. У дарогу ёй дазволілі выправіцца толькі позняй ноччу. Перад ёю наперад выйшаў хлопец, праважаты. Затрымаўшы Ніну ў сенцах, ён пастаяў моўчкі на ганку, прыслухоўваючыся. Цемра была такая густая, што яго постаць у прарэзе дзвярэй ледзь віднелася нават зблізку.

Недзе цягуча, надрыўна, як сірэна, гулі машыны.

— Пайшлі,— ціха пазваў хлопец.

Ён сышоў з ганка моўчкі, рушыў у цемру, і следам за ім, мякка ступаючы, падалася Ніна.

Доўга прабіраліся па руінах, спатыкаючыся, аслізваючыся, то ўздзіраліся на горы камення, то правальваліся ў нябачныя ямы. Нячутна пераступілі вулачку і нарэшце папаўзлі ў нейкай сырой, гразкай канаве. Хлопец, відаць, хадзіў тут неаднойчы, у цемры вёў, як днём.

Каля дарогі абое некалькі хвілін ляжалі.

Прайшлі, перагаворваючыся, патрулі. Іх боты прапупалі зусім блізка ад Ніны. Адзін вадзіў кішанёвым ліхтарыкам наперад і ў бакі.

Мёртва-жоўтая пляма, што рэзала цемру, слізганула па мокрай бліскотнай траве амаль побач з ёю.

Уціснуўшыся ў адхон канавы, што абрасла чэзлай травой, Ніна затаіла дыханне. Зараз востры нож святла знойдзе яе, уваткнецца ў плечы, у галаву. Не, нож мінуў, аддаліўся. Неўзабаве ён, аднак, зноў збочыў да яе, пераскочыў цераз бліскучы слупок. Наблізіўся ўсутыч. Варта яму толькі падацца крыху ішчэ... Не, зноў адступіўся...

Цяпер ён ужо з кожнай хвілінай аддаляўся.

— А блізка ж быў,— здзіўлена шапнуў хлопец.— Каб крыху...

— Блізка.

Яна аддыхвалася, нібы пасля бегу.

— Папаўзём... Тут абы на той бок дарогі...

— Паўзі!..— Ніна стала выбірацца на дарогу.

Потым ішлі полем. Збоку парывамі налятаў свежы вільготны вецер. Яны былі за горадам, але хлопец вёў далей.

Ніна азірнулася: горада не было відаць, не блішчэў ні адзін агеньчык,— Мінск нібы патануў у цемры.

Недзе там, у цемры, спалі яе дачка і маці...

Калі яны былі ўжо даволі далёка ад горада, пачало світаць. Вакол было ледзь бачнае ў прыцемку поле, палосы жыта, адзінокія дрэвы. Перайшлі паўзараслую, глухую дарогу. Чым больш радзеў змрок, тым больш пільна аглядваліся, асцярожней ішлі.

На мяжы, сярод жыта, прысеўшы на мокрую зямлю, спыніліся. Адсюль наводдаль угадваўся доўгі рад дрэваў — шасэ. Ісці туды пакуль было рана.

— Не прыйшлося добра паспаць,— сказала са спачуваннем Ніна.

— А мы, можна сказаць, і не спім ніколі. Толькі так, дрэмлем.

— Калі і ноч вольная, спакою няма?

— Цяпер такі час настаў, што ўсё трывожышся, прыслухоўваешся...

— Часта ўночы ходзіш?..

— Часта...— Ён ускінуў галавой.— Што праўда, то праўда, можна сказаць, не спім. Затое і фрыцам не даём спаць!..

Ніна толькі цяпер змагла добра разгледзець яго: хлопцу было не больш чатырнаццаці гадоў. Ён быў хударлявы, змардаваны, з вузкімі, упалымі грудзямі, жвавыя, разумныя вочы глядзелі не па гадах сур'ёзна.

Калені залатаных штаноў і локці былі залеплены граззю. Стомлена сутулячыся, ён выціраў гразь жмутком жыта.

— Не пускаюць да вас. Кажуць, тут патрэбны людзі. А то б я ўжо даўно махнуў бы ў лес...

Ён пасядзеў з паўгадзіны, ледзь было не задрамаў, але схамянуўся — важка прыўзняўся, агледзеўся.

— Тут дарога блізка. У канцы мяжа. З сяла да шашы. Дык вы па ёй. Як пачнуць хадзіць...

Ён падаў руку. Згінаючыся, пайшоў па мяжы ў бок горада. Схаваўся за сцяною жыта.

Ніна засталася ў жыце.

Справа ад мясціны, дзе быў Мінск, што хаваўся цяцер за ўзгоркамі, усё больш святлела, шырылася неба. У вышыні, што была яшчэ цьмяна-шэрай, пачыналі чырванець лёгкія нерухомыя воблакі.

Днела.

## РАЗДЗЕЛ VI

### 1

Рыхтуючыся да вялікай аперацыі на чыгунцы, Ермакоў пільна разведваў усе подступы да дарогі, абстаноўку ў раёне будучых дзеянняў.

З гэтай жа мэтай выправіў камбрыг да чыгункі і групу падрыўнікоў на чале з Шашурам. Група павінна была абследаваць участак дарогі са свайго спецыяльнага гледжання: вызначыць лепшыя шляхі падыходу да дарогі, усё, што датычыць работы ў час аперацыі падрыўных груп.

Падрыўнікі, схаваўшыся ў блізкім лесе, два дні і ноч прасядзелі, вывучаючы адрэзак дарогі, на якім належала працаваць, даволі шырокую, з россыпам цёмных пнёў паласу высекі, што аддзяляла дарогу ад лесу.

Здавалася б, цалкам заклапочаны справаю, камандзір падрыўнікоў Шашура, аднак, багата думаў і пра рэчы, вельмі далёкія ад неабходных камандзірскіх абавязкаў. Яшчэ да таго, як выправіцца з брыгаднага лагера з цяперашнім ермакоўскім загадам, Шашура нецярпліва думаў пра тое, што цяпер увесь час неспакойна і заваблівa ціснула яго сэрца, апаноўвала яго развагі.

Сочачы за дарогаю, адзначаючы ўсё важнае для справы, Шашура ўвесь час помніў, неадольна адчуваў, што ёсць цудоўная магчымасць здзейсніць даўняе жаданне — наведаць Паплавы...

Адступіўшыся ад дарогі, яны то ішлі ў цемру ночы, то сядзелі ў лесе, то зноў ішлі. Пад канец дня, зрабіўшы даволі вялікі круг, яны нарэшце апынуліся ля так знаёмага Шашуру сяла. Дазволіўшы людзям, якія былі з ім, адпачыць, Шашура з выглядам чалавека, на якім ляжыць цяжар абавязкаў, паведаміў, што павінен зайсці па адной неадкладнай справе. Нехапатліва, паважна закрочыў да сяла.

Пасля таго як Шашура араў поле, яму ні разу не ўдавалася зазірнуць у Паплавы. Неаднойчы збіраўся наведацца сюды, але ўсё не выпадала.

Аксіння спаткала яго ветліва і, адчуваў падрыўнік, была рада, што ён прыйшоў. Палажыўшы дзяцей спаць і паслаўшы госцю ў садочку, яна доўга стаяла з ім пад яблыняй і гаманіла.

— Пара спаць... Позна,— схамянулася раптам жанчына.

Шашура паспрабаваў затрымаць яе, абняў за стан, нібы жартуючы, і прыцягнуў да сябе. Але Аксіння вызвалілася, развітаўшыся, пайшла ў сваю «хату».

Падрыўнік застаўся адзін. На душы ў яго было тужліва і неспакойна: ужо даўно не мог абыякава адносіцца да гэтай жанчыны славуты брыгадны падрыўнік. Не бачачы яе, ён амаль увесь час думаў пра яе. Успамінаў яе; далёкая, нібыта выпадковая сустрэчная, яна дзіўна вабіла падрыўніка да сябе, выклікала ў ім такое адчуванне, як бы яго жыццё без яе няпоўнае. Выклікала неймаверныя думкі пра адзіноту, якіх ён ніколі дасюль не ведаў.

Шашура не вельмі доўга трывожыў душу тугою. Не ўмеў падрыўнік, не ў яго натуры гэта было — бачыць жыццё безнадзейным... «Можа быць, яна адчувае тое ж самае,— прыйшла думка, якая яму адразу ж спадабалася і таму здалася праўдзіваю.— Канечне, тое ж самае!.. Чалавек жа таксама... Скучае, канечне! Вунь як узрадавалася, калі ўбачыла... Сказала, спаць хоча. Але не спіць жа, канечне! Не спіць! Не спіць. Чакае!..»

Цвярозыя гэтыя развагі ўзнялі Шашуру, далі ўпэўненасці. Падрыўнік пакіраваў напрасткі да хлява.

Вароты былі прычынены. Калі падрыўнік пацягнуў іх да сябе, яны зарыпелі.

— Ты чаго? — запытала ціха Аксіння. Шашура пачуў: падобна, нібыта драмала напраўду...

— Ды от... спаць штосьці не хочацца.

— Не хочацца? — яна нібы нават пазяхнула. Сказала абыякава: — Што ж гэта?

— Ды чорт яго ведае! Не спіцца, хоць трэсні!..— Адолеў сябе, выціснуў гулліва: — Памагла б ты, ці што, каліна-маліна?

— А чым я табе магу памагчы?

Яна не адгукнулася на жарт, і ён сказаў сур'ёзна, сумна, нават як бы паскардзіўся:

— Сумна штосьці. Такая нуда на душы — разумееш?

— Не разумею.

— Не разумееш. Эх, што ж ты такая — нездагадлівая!

Ён прысеў ускрай пасцелі і лагодна, па-прыяцельску паклаў руку на яе плячо, гарачае і пругкае.

— Аксіння.

Яна зняла руку, параіла, не па-сяброўску строга:

— Калі сумна, едзь да жонкі. Стане весялей.

— Няма да каго мне ехаць,— паведаміў Шашура, як бы просячы шкадавання.— Я нежанаты...

— Усе вы аднолькавыя. Нежанатыя,— адказала яна з насмешкай.

Шашуру гэта зачапіла. Праўду гавораць ёй, а яна не верыць!

— Нежанаты, праўду кажу!

— Даўно?

— Вось жа не верыць! Пабажыцца табе, ці што?

— Нашто? — стрымала яна надзею, што зазырчэла ў падрыўніку.— Усё роўна... я весяліць не ўмею.

Шашуру не надта збянтэжыла яе строгасць. Чалавек з тых, настойлівасць у каторых расце разам з супраціўленнем, Шашура недарэмна ж таксама лічыў сябе знаўцам, на яго думку — у рэшце рэшт спагадлівага — жаночага сэрца. Ды і адступаць падрыўніку не было куды: быў апанаваны сваім пачуццём. Быў сам у палоне ў сябе. Яшчэ з паўгадзіны ён гаварыў, упарта верачы, што непрыязнасць жанчыны зменіцца прыхільнасцю.

Гаварыў апантана: Аксіння здавалася яму, як ніколі раней, прываблівай і роднай.

Расказаўшы некалькі смешных гісторый і анекдотаў і пачуўшы, што Аксіння раз-другі засмяялася, Шашура пяшчотным, але ўпэўненым рухам абняў яе за плечы. Іх цяпло апаліла яго.

— Аксіння, мілая!..

Яна намаглася вырвацца. Але ён не паслухаўся яе.

— Што ты гэта?

— Ды нічога, здаецца,— паспрабаваў ён жартаваць.

Спякотна дыхаючы ля яго твару, яна загадала рашуча:

— Пусці!

— Аксіння,— паспрабаваў ён патушыць яе гнеў.— Супакойся!.. Не трэба...

— Пусці! — непадатна прашаптала яна і з сілаю вырвалася.— Якія вы ўсе! З вамі па-добраму, дык вы не разумееце...

У голасе яе былі і гнеў, і крыўда: здалося, вось-вось заплача. Шашуру было і няёмка, але мацней за ўсё была прыкрасць ад няўдачы і нязгоды яе.

— Ты — разумееш! Нібы чорт ведае што натварыў!..

— Яшчэ што скажаш? Так я табе і дазволю!

— Проста — карціна, дакрануцца нельга...

— А што ты думаеш? Нельга!

Ён аддыхаўся. Была ўжо няёмкасць і ад таго, што ён, як баба, не ўтаіў злаславасці з-за няўдачы. Не ўтрымаў на вышыні сваю мужчынскую годнасць.

Ён перамяніў кірунак размовы:

— Я ж, можа, таму, што люблю цябе.

— Няўжо? Нешта не заўважала...

Ён на гэты раз не паступіўся годнасцю. Не стаў гнуцца: не верыць, ну і няхай не верыць. Паспрабаваў, аднак,— цяпер з перасцярогай — абняць яе зноў, але Аксіння адштурхнула яго рукі і, лёгка выцяўшы, сказала:

— Ідзі адсюль... Па-добраму прашу...

— Просіш? Няма чаго сказаць — просьба.

— Як умею...

«Бач ты, якая пава! — нездаволена падумаў Шашура.— І хто б думаў. Здавалася такою ласкаваю... Гэту бабскую пароду ніколі не зразумееш...»

— Ну што ж, дзякуй... За просьбу.

Ён гаварыў лядзяна, з годнасцю.

Устаў і выйшаў.

Апоўначы, рашыўшы кіравацца ў брыгаду, ён зноў зайшоў да яе, разбудзіў, каб развітацца. Нібы і не здарылася між іх нічога, быў, як звычайна, вясёлы, з Аксінняй гаварыў па-прыяцельску, жартаваў.

За тое, што было ўночы, ён не адчуваў ні сораму, ні каяння. Зрэшты, здаецца, ён наогул ніколі не раскайваўся.

Хоць, як стрэмка, у памяці ныў успамін аб няўдачы, ён, калі развітваўся цяпер, паспакайнелы, адчуваў да Аксінні нават нібы большую павагу. Строгая жанчына! Цвёрды чалавек, надзейны. На такую жонку можна было б спадзявацца.

«Гэтак, чаго добрага, я магу перастаць цаніць сваю халасцяцкую волю!» — падумаў здзіўлена падрыўнік.

Шашура быў да вайны жанаты, але няўдала. Жонка яго аказалася прыдзірлівай і страшэнна раўнівай жанчынай, у сям'і часта ўзгараліся спрэчкі, і нарэшце Шашура не вытрымаў — развёўся з ёю.

З той пары ён вельмі скептычна адносіўся да кахання і да сямейнага шчасця. Таму ён і думаў пра сваю прыхільнасць да Аксінні са здзіўленнем. Гаворачы жанчыне ўночы, што любіць яе, падрыўнік сам мала верыў у свае словы.

Аксіння, здавалася, таксама нібы забыла пра недарэчнае здарэнне. Развіталася лагодна і нават папрасіла, каб ён не забываў дарогу да яе, заязджаў у госці.

— Заязджаць, значыцца...— затрымаўся Шашура.— Ты гэта — сур'ёзна?

— Сказаў! Якія тут могуць жарты.

— Сур'ёзна, значыцца.

— Сур'ёзна.

— Ну што ж, трэба будзе падумаць...

Ён чуў у яе голасе хітрынку, і яму здавалася, што яна і глядзіць, пэўна, хітравата. Сказаў гарэзна: трэба было развеяць неяк нядаўнюю не вартую яго прыкрасць-кволасць: — Вельмі ж ты — строгая.

— А ты вельмі скоры!..

— Скоры? Гэта — праўда, ты гэта правільна!

Шашура зарагатаў.

— Значыцца, заехаць? — Ён нахмурыўся, заклапочана пацікавіўся: — А біцца не будзеш?

Яна супакоіла:

— Не буду, калі ты будзеш... разумнейшы... І хлусіць перастанеш!

— Хлусіць? — Шашура пакляўся: — Век не хлусіў!

— Кажы! Ідзі ўжо.

— Іду. Ну што ж. Калі так — чакай!

Ён схіліўся, прытуліў яе да сябе. Пацалаваў.

Хутка, весела пакрочыў са двара.

2

Як паведаміла разведка, раён, куды ішлі ермакоўцы, кішэў гітлераўцамі і паліцаямі. Амаль на ўсім брыгадным участку чыгункі тырчалі дзоты, цягнулася калючая агароджа. У бліжніх вёсках стаялі гарнізоны, а ў пасёлку, кіламетраў праз восем ад дарогі, стаяла адведзеная з фронту на папаўненне артылерыйская часць з шасцю гарматамі. Апошняя акалічнасць, трэба сказаць, вельмі зацікавіла Ермакова. Пачуўшы пра гарматы, камбрыг загарэўся: ударыць знянацку, ушчэнт распатроніць і захапіць артылерыю. Ермакова так апанавала гэта спакуса, што ён намерыўся ўжо мацнейшую групу паслаць граміць гарнізон, а для «работы на дарозе» выдзеліць адзін атрад з такой-сякой падтрымкай. Ермакоў ужо адчуваў, якая слава загрыміць, калі ён разгрміць гарнізон і захопіць гарматы.

Але Туравец не здолеў уразумець значэння бліскучай ідэі камбрыга. Асцярожны, цывільны розум камісара больш як стрымана адазваўся на гэту ідэю.

— Нашто табе здалося гэта, Коля? Слава? Шум?..— сказаў Туравец, нясцерпна злуючы Ермакова сваёй марудлівасцю.— «Сочтемся славою,— ведь мы свои же люди», як казаў паэт...

Туравец гаварыў жартаўліва, лагодна: разлічваў на тое, што лагодную размову Ермакоў любіць і, хоць і лічыць яго, Тураўца, хітруном, хутчэй паддасца там, дзе з-за гонару ўпарціўся б пры іншым тоне гаворкі.

Ермакоў паспрачаўся, павагаўся і, разважыўшы, адлажыў пакуль сваю ідэю. Упарты, схільны захапляцца выдумкамі, ён, на шчасце, умеў падначальваць свае жаданні развагам.

Дамовіліся выконваць асноўную задачу, а супраць гарнізона, каб прыкрыць сябе з гэтага боку, выставіць толькі заслону.

Увесь наступны дзень збіраліся ў дарогу. Бралі з сабой толькі зброю і прыпасы для падрыву — толавыя шашкі, шарыкі, дэтанатары. Камандзіры сачылі за тым, каб не было нічога лішняга: камбрыг папярэдзіў, што ісці давядзецца хутка, трэба дасягнуць прызначанага раёна за адзін пераход.

За адзін дзень належала ўвайсці больш за шэсцьдзесят кіламетраў. Ды яшчэ найбольш — па бездаражы.

Выправіліся перад вечарам. Звыклыя да доўгіх пераходаў, ішлі хутка. Нягледзячы на тое, што амаль усе неслі тол і боепрыпасы, адстаючых не было.

Туравец ішоў з атрадам імя Кутузава. Ступаючы поруч з партызанамі, ён слухаў павольную гаворку. Туравец любіў гэтыя бясконцыя дарожныя размовы. Чаго толькі не пачуеш тут — і ўспамін, і клопат, і вясёлую гісторыю, і казку, і нярэдка чыю-небудзь запаветную думку.

Вось адзін пажылы расказвае, як яго, калі ён яшчэ хлопцам касіў сена, укусіла гадзюка і што ён, напэўна, памёр бы, каб не бабуля-знахарка.

— Дала яна мне нейкае зелле, густое і горкае-горкае — такое, што я, як выпіў яго, спаў цэлых паўтара сутак, нібы мёртвы. І з таго часу, паверыш, пайшоў я на папраўку! Пухліна спала, палягчэла адразу!..

Паслухаўшы гэтую гісторыю, парадаваўшыся за апавядальніка, паспачуваўшы яму, Туравец апынуўся каля двух хлопцаў — з кулямётам, якія разважалі пра аперацыю. Адзін з іх быў настроен вельмі ваяўніча, праз меру ваяўніча.

— Ну, усё-такі бой ёсць бой. Усё можа быць...— умяшаўся ў гаворку Туравец. Ён памаўчаў.— Вось адойчы ішоў хлопец полем. Раніцай справа была. Хораша — сонца, лён цвіце, а ў тым лёне дзяўчына, такая красуня, што ад яе ўсё здаецца яшчэ прыгажэйшым... Ну, хлопец і растаў, усяму рады: ах, які дзень харошы, ах, які лён, ах, якая слаўная дзяўчына! Ах, ах!..

Хлопцы, чуў Туравец, слухалі зацікаўлена, чакалі, што ж будзе далей. Туравец не спяшаўся.

— Так. А тут гэтую гаворку і пачуў стары — ішоў

насустрач. Стаў ён ды і кажа: хвалі, хлопча, лён восенню, дзень к вечару, ну, а дзяўчыну — замужам.

— Лоўка! — засмяяўся адзін з хлопцаў.— Дзень к вечару, а дзяўчыну замужам!..

— Што такое расказалі, таварыш камісар? — пачуўся цікаўны голас збоку. У брыгадзе ведалі, што Туравец майстар расказваць.

Туравец часта ўмешваўся ў гаворку. То з якой-небудзь жыццёвай гісторыяй, то з паляўнічай прыгодай, а то і з такім анекдотам, пачынаючы які, трэба было папярэдне агледзецца, ці няма поблізу жанчын. Запас розных гісторый у яго быў невычэрпны, і гаварыў пра іх ён ахвотна, дзе прыйдзецца — у дарозе, на прывале, проста да слова. Ён адчуваў, што гэтыя гутаркі часта збліжалі яго з людзьмі, адкрывалі скрытныя душы, дапамагалі ў справе.

У гаворцы дарога праходзіць непрыкметна. Ціха, крадучыся, падступіў змрок. Вось ужо ў цемры спарахнелымі светлячкамі значацца ў руках цыгаркі. Раптам цемра расступілася, прыхавалася за кусты, у галлё дрэваў. Усплыў месяц. Каля яго заблішчала некалькі празрыстых, працятых роўным, ціхім святлом воблачкаў. Падплыўшы да месяца, яны срабрыста ззялі.

Мінуўшы зону, вёскі пачалі абыходзіць. Акрамя таго, што не мела сэнсу ўсчынаць сутычкі з паліцаямі, трэба было падабрацца да дарогі непрыкметна. Ішлі больш за ўсё па ўдзірванелых палявых дарогах. Там і тут абапал калоны шчаціліліся палоскі збажыны.

— Хлеб добры будзе,— задаволена сказаў нехта.— Хоць і пазнавата сеялі, але павінна ўрадзіць...

Туравец азірнуўся на голас і ўбачыў спакойную, у мернай хадзе, постаць пажылога аўтаматчыка. А той гаварыў далей, як бы разважаючы з сабой:

— Дожджык яму вельмі ў час быў. Як на дражджах — проста на вока відаць, як гоніць яго з зямлі. Будзем з пірагамі сустракаць!

— Гэта яшчэ — як сказаць! — запярэчыў нехта поблізу. Насмешліва, басам.

— Чаго — як сказаць.

— А таго! Я думаю, што пірагі твае не спякуць да таго часу.

— Чаму — не спякуць?

— Таму. У печку не ўправяцца!

— То-очна,— весела падхапіў Ляхора.

## 3

Пасля поўначы месяц схаваўся. Неба зацягнулі хмары. Туравец быў задаволены, што наступіла цемра, яна паможа падысці да чыгункі непрыкметна.

На досвітку пайшоў спорны дождж, дарога стала слізкай, каляіны і ямы напоўніліся вадой. Партызаны траплялі ў лужыны, наступалі адзін другому на ногі, лаяліся.

Дождж, амаль не сціхаючы, ліў і на світанні. Раніца была непрыветная і хмурная.

Спыніліся на паляне ў лесе. Байцы прамоклі да ніткі, але кастроў разводзіць Ермакоў не дазволіў, каб не дэмаскіраваць брыгаду. Усім загадалі захоўваць цішыню і не адыходзіць ад месца днёўкі.

На нейкую гадзіну дождж быў перастаў, потым зноў пачало ліць. З мокрага галля на людзей то падала кроплямі, то сцякала струменямі вада. Але амаль ніхто не прачынаўся. Скурчыўшыся, прыгнуўшы галовы да грудзей, каб саграваецца сваім дыханнем, людзі спалі.

Туравец прылёг каля дубка і таксама задрамаў. Калі ён абудзіўся, то адчуў, што правы бок, на якім ён ляжаў, у вадзе, цела пачало дубянець ад холаду.

Прыкрыўшыся ад дажджу краем вымаклага плашча, ён закурыў і зацягнуўся горкім дымам, ад якога ўсярэдзіне як бы пацяплела. Стараючыся не наступіць на сонных, у мокрай фуражцы, важкім, нібы з жалеза, парусінавым плашчы, выбраўся з лагера і пакіраваў да пастоў, што стаялі з боку сяла.

— Ну, што выгледзелі? — запытаў камісар у дазорнага Ляхоры, што курчыўся каля куста на ўскраі лесу. У набраклай пярэстай плашч-палатцы партызан быў падобны да вялікай нахохленай птушкі.

— Пакуль нічога, таварыш камісар. Спакойна.— Ляхора з сумам паглядзеў на цыгарку. Улавіўшы гэты позірк, Туравец зацягнуўся і аддаў яму «бычка».

Туравец, адольваючы санлівасць, паглядзеў у поле, на вёску, што цягнулася праз кіламетр чарадою пануры шызых хат з гонтавымі і саламянымі стрэхамі. З поля ў вёску паўзла фурманка з селянінам.

Злева наводдаль быў невялікі поплаў. Там хлапчук пасвіў некалькі кароў. Махаючы пугаю, ён бег за каровай, што адбілася ад гурту. Ад гэтага малюнка на Тураўца нібы дыхнула маленствам. Калісьці вось так



Група рускіх і беларускіх пісьменнікаў
на Мінскім вакзале. *1969 год*



Іван Мележ і Іван Шамякін на сустрэчы
з Маршалам Савецкага Саюза В. Чуйковым.
*27 лютага 1970 года*

хадзіў з пугай і ён, чорнагаловы, цыганаваты пастух, сірата Нічыпар. У камісара зацеплілася бацькоўская пяшчота, захацелася падысці бліжэй да малога, пагаварыць і ўсцешыць чым-небудзь. «Вось і ім цяпер, замест школы, даводзіцца пасвіць каровы».

— У вас, у Чэхіі, менш дажджоў? — зірнуў Туравец на Ляхору.

— У нас вялікія дажджы, таварыш камісар, бываюць. Асабліва ў гарах, там, калі пройдзе лівень, маленькі ручай становіцца як рака. Раве, бы звер, і ўсё зрывае, што пападзе на шляху. Дубы выварочвае і нясе, як... як трэскі!

Туравец сімпатызаваў Ляхору. Хлопец добра вёў сябе ў баі, радаваў дысцыплінаванасцю, акуратнасцю ва ўсім. Туравец ведаў, што ў Славакіі ў яго бацька — стары чыгуначнік, брат — камуніст, арыштаваны гестапаўцамі.

— Ну, ты, відаць, у апошняй аперацыі з намі. Як толькі, Ляхора, прыляціць самалёт, адправім за фронт.

Ляхора падзякаваў: ён прасіў, каб яго адправілі ў Чэхаславацкі корпус. Той ужо быў блізка ля роднай яго Славакіі.

— Мне будзе шкада, таварыш камісар, ехаць адсюль...— прызнаўся хлопец.

— Шкада?

— Прывык...

Загадаўшы, каб затрымлівалі ўсіх, хто ўвойдзе сюды, Туравец падаўся назад, у глыб лесу.

Лагер ужо ажыў. Дрозд узняў роту і цяпер, сутулы, у зацяганай кепцы і світцы, разам з камандзірамі пільна, прыдзірліва правяраў, ці гатовыя людзі да бою, ці поўнасцю зберaглі тол, узрывацелі, шнуры. У яго ўсё было падлічана да самай малой драбніцы.

«Гаспадар! — падумаў мімаволі з задавальненнем Туравец.— Так, недарма яго і тут называюць старшынёй калгаса».

Заўважыўшы Тураўца, Дрозд адарваўся ад сваіх клопатаў, шоркаючы ботамі ў траве, падышоў да яго, непарушна роўным тонам сказаў, што затрымалі паліцая.

— Якога паліцая? — не зразумеў Туравец.— Што яму трэба было тут?

— Вось і я думаю. Вынюхваў нешта, пэўна.

— Дапыталі?

— Пыталі...
— Ну, і што ён?
— Кажа, па самагонку прыйшоў. Гнаць тут нібыта хтосьці павінен быў. Апахмяліцца, кажа, захацеў...
— Дзе ён?
— Да камбрыга павялі.

Туравец недавольна выцер далонню шыю. На яе цякло, мокры каўнер плашча драпаў скуру.

Вестку пра паліцая ён пачуў амаль абыякава. Дождж і стома ад бяссоннай ночы заміналі думаць. Спачатку толькі падумаў нездаволена: чорт прыпёр гэтага дурня. Самагонкі яму захацелася.

Хутчэй ад звычкі, чым ад загаду, абавязку пацягнуўся ён да Ермакова, даведацца, што ж такое з гэтым паліцаем. Шукаючы камбрыга, Туравец увесь час помніў Драздовае «вынюхваў штосьці», але чамусьці не адчуваў трывогі. Як ні цяжка думалася, цвярозы вопытны розум схіляў да таго, што паліцыя не магла так хутка ўведаць пра іх з'яўленне тут. Хутчэй за ўсё паліцай праўда прыпёрся выпадкова.

Але абавязак і той жа вопыт загадвалі не драмаць, не супакойвацца, пакуль не пераканаешся на фактах. Ён павінен быў, ва ўсякім разе — пакуль, дапушчаць і іншае меркаванне: што паліцай пасланы «вынюхваць». Павінен быў дапушчаць тым больш, што такое значэнне выпадку зычыла людзям яго, брыгадзе вялікія турботы і немалую небяспеку. Бо калі немцы даведаліся пра іх, яны, не інакш, падцягнуць вялікія сілы, і брыгадзе давядзецца нялёгка. Фактычна, зыход усёй аперацыі можа залежаць ад гэтага...

Ермакоў з партупеяй, са шпорамі, угнуўшы галаву, стаяў супраць рослага разгубленага ваякі. Выгляд у камбрыга быў грозны і рашучы. Зеленаватыя вочы камандзіра, здаецца, працінаді наскрозь паліцая — у такія хвіліны нават партызаны пабойваліся свайго камандзіра. Паліцай, збялелы, спалоханы, вадзіў вачыма за кожным рухам Ермакова і лапатаў:

— Ей-богу, па самагонку... тут гнаць павінны... пахмяліцца хацеў...

— Брэшаш! Па вачах тваіх бачу, што брэшаш! Кажы, чаго прыйшоў! — насядаў камбрыг.

Палонны кляўся, што паліцаі не ведаюць аб прыходзе партызан і адчуваюць сябе спакойна. Стараючыся вымаліць літасць, ён, хапаючыся, выказваў усё, што

ведаў, дзе і якія ў немцаў гарнізоны, якая ў іх ахова, з якога боку лепш ударыць...

Многія з гэтых вестак пасля пацвердзіў селянін, якога пазней затрымалі паставыя.

Чалавек ішоў на нейкі лясны лужок касіць траву. У яго была на плячы каса, на дзержаку вісела торбачка.

Убачыўшы ў лесе столькі партызан, касец сумеўся.

— Ото ж войска! Адкуль гэта, скажыце, столькі ўзялася.

4

План аперацыі, які зрабіла камандаванне брыгады, складаўся з трох асобных задач.

Першая задача была ў тым, каб разграміць або хоць бы блакіраваць ворага на паўстанку, з якога немцы трымалі пад абстрэлам амаль увесь участак дарогі. Групу, якая павінна была весці бой за паўстанак, трэба было прыкрыць. Гэту, другую, задачу належала выканаць заслонам, што мусілі перарэзаць подступы да паўстанка.

Толькі справіўшыся з гэтымі задачамі, можна было рашыць трэцюю, галоўную — разламаць чыгунку, спыніць рух па ёй.

Задача групы, якой належала весці бой за паўстанак, была, як можна было меркаваць загадзя, самай цяжкай. Ёй належала весці бой супраць найбольшых сіл праціўніка. Таму гэту групу, якую назвалі штурмавой, рашылі зрабіць самай моцнай, на падтрымку ёй рашылі даць абедзве брыгадныя гарматы. Узначаліць гэту групу ўзяўся сам камандзір брыгады.

Для заслонаў выдзелілі некалькі ўзводаў, найбольш — на дарогу, што ішла з вёскі, дзе былі нямецкія артылерысты.

Галоўную, заключную, задачу павінна была рашаць група, якую ўзначальваў Кавалевіч, камандзір атрада імя Кутузава. З гэтай групай трэба было дзейнічаць і камісару, як прадстаўніку камандавання брыгады. У гэту групу ўваходзіла і рота Дразда. Усе брыгадныя падрыўнікі былі ў гэтай групе.

Удзень Ермакоў правёў агульную нараду камандзіраў усіх груп, камандзіраў і камісараў атрадаў. Расказаў пра абстаноўку, якой яна бачылася з апошніх вестак разведкі, абвясціў агульны план аперацыі, аб-

меркаваў дакладна задачы груп, даў свае парады. Тады Ермакоў, Туравец, Габдулін правялі нарады ў групах, праверылі, як гатовы групы, атрады, людзі.

Дождж яшчэ пад поўдзень прыціх, хутка і зусім перастаў. Амаль адразу ж хмары ўзняліся, нібы рап-там палягчэлі. Неўзабаве праяснілася, усё часцей пача-ло выглядваць сонца. Гэта сонца, яснае надвор'е былі якраз дарэчы.

Уся другая палова дня прайшла ў клопатах пра начныя дзеянні, у чаканні незвычайнага, вялікага бою. За гэты час Туравец пабыў амаль ва ўсіх ротах, пагу-тарыў з палітрукамі, радавымі камуністамі, беспар-тыйнымі. Сустрэўся з падрыўнікамі, між якіх ён і за-стаўся.

Туравец быў задаволены тым, што пабачыў: брыга-да была, на яго думку, нядрэнна падрыхтавана да бою, да начной работы. Яго асабліва радаваў выдатны, баяві-ты настрой, разуменне ўсімі размаху і значэння бліз-кай аперацыі — вялікага «канцэрта» — уздымала ў людзей асаблівую ахвоту дзейнічаць, нейкую святоч-насць. Людзі, кідалася на ўвагу, адчувалі набліжэнне свята, таго самага, якога столькі чакалі. Здавалася, не выпадкова так цёпла, весела ззяла сонца пад вечар, пад той час, калі набліжаўся «канцэрт».

Мусіць, гэты агульны настрой перадаўся і касцу, якога затрымалі. Дзядзька Міхал выказаў нездаваль-ненне тым, што павінен сядзець, як арыштант, і папра-сіў, каб яго таксама ўзялі на «жалезку». Падмацоўваю-чы сваю просьбу, паабяцаў, што ўсё пакажа там. Ён жа кожную сцежку да дарогі ведае. Пагаварыўшы з ім, Туравец паверыў яму, угаварыў Ермакова згадзіцца ўзяць яго на дарогу...

Гэты святочны настрой уздымаў разам з усімі і Ту-раўца, у якім не ўціхаў успамін пра размову з Рогавым. Усё, што рабілася вакол, нібы пацвярджала, развівала тое, што ён чуў ад Рогава, што адчуваў і думаў, вяр-таючыся ад яго ў брыгаду...

З першымі прыцемкамі брыгада заварушылася. Да чыгункі заставалася яшчэ кіламетраў сем-восем, але гэта была найбліжэйшая адлегласць. Некаторым групам, што былі вылучаны для заслонаў, трэба было прайсці багата больш, да таго ж — абысці некалькі вёсак, ісці без дарог. Не такі малы і няпросты шлях чакаў і штурмавую групу.

Спачатку пайшлі людзі з заслонаў, потым, слухаючыся каманды Ермакова, што ціха перадавалі адзін аднаму, выправілася штурмавая з гарматамі. Нарэшце пачала выбірацца на дарогу апошняя. Група падрыву.

Звечара апанавала лес цемра. У гэтай цемры і выйшлі з лесу, ступалі нейкі час у змроку полем, дарогаю. Пазней змрок пачаў прыкметна радзець, потым і змяніўся прывіднай шэранню.

— Зараз вылезе месяц,— прарочыў Шашура.— Калі я іду на дарогу, ён кожны раз, паганец, вылазіць. Ззяе ўвесь. Каб мне спрыту больш трэба было перад насыпам.

Ён не памыліўся. Як і мінулую ноч, неўзабаве выйшаў, срэбрана заззяў над зямлёй круглы ліхтар. Блакітна пазначылася дарога, поле навокал, пашырэў свет. У месяцовым святле віднеліся ўзбоч лясы, маўклівыя вёскі. Давялося ісці з большай асцярогаю. Больш уважліва сачылі за дарогай наперадзе, за вёскамі, якія абыходзілі. Сцерагліся і калі ўступалі ў лес, увесь пярэсты ад святла і ценяў.

Туравец сачыў за рухам групы: за тым, каб ішлі пільна, ціха, каб не траплялі на ўвагу нямецкіх гарнізонаў. Тут, у блытаніне дарог і палос, сярод незнаёмых мясцін, вельмі дарэчы аказаўся барадаты касец дзядзька Міхал. Узрушаны і абставінамі, і сваёй роллю, ён з разведчыкамі вёў людзей і па затравелых сцежках, і напрасткі цераз палі, і цераз нейкія лугі. Часам у яго з разведчыкамі ўсчыналіся спрэчкі, і ён, пакрыўджаны, запальваўся, гаварыў горача, даводзячы сваю праўду. Раз на гэтую спрэчку давялося адгукнуцца Тураўцу. Для пачатку камісар параіў дзядзьку прыцішыць голас, трымацца цішыні...

Група дайшла да месца збору ўдала, без адзінага стрэлу.

У прыцемку лесу Тураўца сустрэлі разведчыкі, аб'явілі:

— «Жалезка» тут блізка. Метраў трыста.

Спыніўшы людзей ва ўкрыцці, загадаўшы пільна захоўваць маскіроўку, Туравец з разведчыкамі Кавалевічам, Драздом і Шашурам пачаў між дрэваў прабірацца да чыгункі.

Ля чыгункі, ён ведаў, павінна быць шырокая паласа высекі. Таму з-за дрэваў выглядваў яе. Яшчэ зводдалек ён адзначыў прагалу паласы. Леглі пры самай паласе, за апошнімі дрэвамі. Ад святла месяца быў добра відаць груд насыпу, роўны, крыху ўзняты над працягам высекі. На версе насыпу ў адным месцы блакітна свяцілася тонкая паска — падобна, рэйкі.

Ад насыпу іх аддзяляла цяпер толькі высека, зробленая немцамі абапал дарогі. На высецы ўсюды значыліся пні ды маладая лясная порасць.

Перад імі была тая самая чыгунка, да якой яны ішлі.

Па насыпу ішлі, зрэдку перагаворваючыся, патрульныя. У цішыні Туравец пачуў, як шорхаюць па шпалах ды па жарстве боты. Патрульныя то адзін, то другі часам прыпыняліся і азіраліся. Прайшоўшы крокаў сорак, пастаялі на месцы, потым маўкліва павярнулі назад.

Шашура ціха, узварушана прашаптаў:

— Круцяцца тут на сваю пагібель!..

Туравец спытаў разведчыкаў, ці ўпэўнены яны, што правільна вывелі. Што гэта іменна той участак дарогі, які патрэбен. Камандзір разведчыкаў адказаў, што вывелі дакладна. Што вунь там, справа — ля ручая — дзот, там, як намечана,— правы фланг.

Пачуўшы пра дзот, правы фланг, Дрозд падсунуўся да разведчыка. Іменна там, на правым флангу, належала дзейнічаць яму, яго роце. Ён ведаў, што роце выпала нялёгкая задача, вельмі адказная задача, і цяжкасць яе была найперш ад таго, што там, справа, гэты пракляты дзот. Да якога трэба падабрацца непрыкметна і, як толькі Ермакоў пачне штурмаваць паўстанак, закідаць дзот гранатамі. Прымусіць сціхнуць кулямёт у дзоце.

Ад удачы з гэтым дзотам многае залежала ва ўсім баі тут. Таму Дрозд даручыў дзот адважным хлопцам Васіля Крайко.

Пазнаёміўшыся ■ месцам, з абстаноўкай, параіўшыся з Тураўцом, камандзір групы Кавалевіч загадаў асцярожна падвесці групу да высекі.

Лежачы каля высекі, назіраючы за насыпам, за патрульнымі, Туравец разам прыслухоўваўся да гукаў у тым баку, дзе быў паўстанак, дзе павінна пачаць бой штурмавая група. Пачатак яе бою мусіў быць сігналам

да пачатку бою ў іх, у людзей Кавалевіча. Туравец непакоіўся, як бы там не пачалі бой да таго, як тут збяруцца, падрыхтуюцца да бою. Але там было ціха.

Ціха было і тут. Ціхая, спакойная ноч, здавалася, панавала вакол. У лесе спрасонку крыкнула нейкая птушка і змоўкла. Туравец адчуваў знаёмыя пахі начнога лесу. Пахла застаялай сырасцю, асіннікам, балотнаю травою.

Акідваючы позіркам высеку, мімаволі падумаў: «Колькі дрэваў загубілі ля чыгункі... І ці даўно, здаецца, гэта было. А вунь ужо маладзеча лясная прэ. Упарта! Нястрымна!»

З нейкай незразумелай сувязі, ці без сувязі, услед за гэтай прыйшла думка пра Ніну. Неспакойная, яна, зрэшты, не раз прыходзіла і ў мінулую ноч, і ў мінулы дзень. Сёння Ніна павінна вярнуцца. Можа, яна ўжо дома... Гэта думка нязменна трывожыла. Але Туравец супакойваў сябе. Спадзяваўся на лепшае.

Вострым слыхам ён лавіў за сабою ледзь прыкметны шум вялікага руху. Руху мноства людзей. Непакоіўся, як бы не заўважылі немцы. Калі постаці на насыпе прыпыніліся, ён насцярожыўся, падумаў, што — пачулі, уздымуць зараз трывогу. Але там закрочылі зноў.

Туравец раптам падумаў, колькі вачэй у гэтую хвіліну сочыць за патрульнымі...

Там, куды пайшла штурмавая група, што павінна пачаць бой, было ціха. Ужо ўсе падышлі, падрыхтаваліся да атакі, а там па-ранейшаму было ціха. Туравец, чым далей, тым больш нецярпліва чакаў знаку пачынаць, але з боку паўстанка не было ні гуку. Ён пачаў непакоіцца: чаму яны позняцца? Ці не здарылася чаго-небудзь?

— Трэба б пачынаць,— варухнуўся нецярпліва Шашура.— Чаго яны, каліна-маліна, там?

— Нейкая замінка, мабыць...

Неўзабаве злева трэснула некалькі разоў, пачуліся аддаленыя, нейкія сумятлівыя воклічы, нібы лямант. Лямант патануў у бязладнай страляніне. Нудную, цягучую цішыню ў момант парвала, стала няшчадна шматаваць. Тады хапатліва, амаль злітна, грымнулі два гарматныя стрэлы. За імі там жа ўскінулася, падсвяціла злева абрысы лесу малінавая ракета.

Туравец падумаў, што немцы, відаць, у апошні момант заўважылі людзей Ермакова. Але тое, што ер-

макоўцы адразу ж за іх стрэламі ўдарылі моцна, дало яму думаць, што заўважылі немцы позна. Галоўнае ж, што ён адчуваў, было: пачалося! Ураз спала цяжкая нацятасць чакання.

З гукаў бою, якія ён востра лавіў, Туравец мог толькі здагадвацца пра тое, што адбываецца ў Ермакова. Вельмі кароткі час былі чуваць толькі кулямёты ды вінтоўкі Ермакова. Вельмі хутка нямецкія кулямёты ды аўтаматы адазваліся, счапіліся з ермакоўскімі ў жалезнай схватцы. Схватка гэта, здалёк адзначаў Туравец, была лютай. І з кожнай хвілінай напал яе, падобна, гарачэў. Немцы нібы і не думалі паддавацца.

На дзіва многа заўважае, бачыць і адчувае чалавек у напружаны момант. Слухаючы, сочачы за паўстанкам, трывожачыся, адзначаючы, Туравец у той жа час бачыў, як вялі сябе патрульныя на насыпе. Пры першых стрэлах на паўстанку яны застылі, нейкі час калянелі нерухома, пэўна, не ведаючы, што рабіць. Потым, калі на паўстанку бой разгарэўся, рынулі ўправа да дзота.

Але тут гухнула ля дзота. Адзін раз, другі. Гранаты. Гранаты, не інакш, Васіля Крайко. Патрульныя зноў застылі, тады шуснулі з насыпу. Спачатку пад гэты адхон, потым, калі затыркаў нямецкі кулямёт, ачомаўшыся, ірванулі на той бок. Гэта Туравец ухапіў нібы бакавым зрокам, бо амаль уся ўвага яго была скіравана туды, дзе пачаў Крайко. Ён з палёгкай адзначыў той момант, калі следам за яшчэ некалькімі выбухамі кулямёт, што біў з дзота, захлынуўся. Туравец гэта вылучыў адразу, хоць там, ля дзота, завіравала бязладная спрэчка аўтаматаў і вінтовак.

Праз гэту бязладную страляніну хутка прарваліся напорныя ўзрушаныя воклічы. На дапамогу Васілю, зразумеў Туравец, пайшла ўся рота...

Тады Туравец, адчуваючы лёгкасць, як бы скідаючы цяжар з сябе, павярнуўся да камандзіра групы.

— Час пачынаць.

Кавалевіч ці чуў, ці не — зразумеў яго. Кіўнуў згодна:

— Час.

Яны ўзняліся.

Павярнуўшыся тварам да лесу, Кавалевіч шырока, упэўнена павёў рукою ў бок чыгункі. Туравец у гуле недалёкага бою не пачуў яго, прыкмеціў толькі разяў-

лены ў крыку рот. Але здалося, нібы Кавалевіч загадваў:

— Наперад, хлопцы! На жалезку!

— На жалезку! На жалезку!.. На жалезку!..— здалося, шматгалосае водгулле пакацілася па ўзлессі.

Людзі, што хаваліся за дрэвамі, відаць, толькі і чакалі гэтага загаду, бо яго адразу падхапілі. Маўклівае, вільготнае ўзлессе ў момант ажыло, заварушылася ў руху, мнагастайным, апантаным.

Здавалася, нібы навальнічны вецер вырваўся з узлесся на прасцяг высекі перад чыгункай.

З пагрозным, урачыстым крыкам беглі на высеку паўз Тураўца, імчаліся да насыпу, пераскокваючы цераз пні, спатыкаючыся, цёмныя рухавыя постаці. У момант яны запоўнілі ўсю прагалу высекі наперадзе, і цяпер у гуле і сумяціцы бою Туравец дзіўна чуў і крыкі, і лаянку, і тупат многіх ног. Адчуваў, як падрыгвае пад нагамі зямля.

Пры насыпе партызаны пачалі разыходзіцца ў абодва бакі, ачышчаць чыгунку. Іх націск быў такі моцны, дружны, што нямецкая ахова, якая была залегла па той бок і паспрабавала працівіцца, зрабіла толькі некалькі бязладных стрэлаў, як была змецена.

Ачысціўшы насып, партызаны адышлі, залеглі на бяспечнай адлегласці па баках яе. Нарэшце дачакаліся сваёй хвіліны, узняліся на насып падрыўнікі. Большасць іх раскопвалі пад рэйкамі зямлю, падкладвалі шашкі, некалькі чалавек запальвалі шнуры,— неспакойныя агеньчыкі множыліся, мігцелі, варушыліся, усё шырэй разыходзіліся ў абодва бакі.

Туравец бачыў, як, ледзь падрыўнікі праворна адбеглі ад насыпу, над адным агеньчыкам імпэтна кінулася белае зыркае полымя, насып і ўся высека нібы ўспыхнулі, зямля здрыганулася. Моцна, пругка, з металічным скрыгатам ірвануў блізкі выбух.

Яшчэ не апаў шчэбень, выкінуты першым выбухам, як на насыпе грымнула зноў.

Выбухі ўскідваліся і ўскідваліся, беглі ўправа і ўлева. У паветра ўвесь час ляцелі шчэбень, зямля, асколкі, трэскі.

Гэтыя дужыя выбухі, уздымнае, святочнае адчуванне сілы захаплялі Тураўца, звалі яго кінуцца да падрыўнікоў падкладваць шашкі. Ён успомніў, як у мінулы год з сялянамі выварочваў рэйкі ломам. Вось і ця-

пер у яго было сілы якраз для такой працы! Але трэба было стаяць, сачыць за ходам аперацыі. Каб пры патрэбе адразу ўмяшацца...

Туравец не перакінуўся ні з кім і словам, бо грукат глушыў усё. Ды і не да гаворкі было!

Раптам ззаду, у лесе, гахнуў выбух. Туравец азірнуўся, за першым гахнула яшчэ некалькі разоў. Снарады. Білі, відаць, гітлераўцы з далёкай вёскі. Стралялі наўздагад, і снарады звычайна рабілі пералёт, але некалькі лягло непадалёк на высеку.

Хлопцы не зважалі на гэта і хутка, дзелавіта рабілі сваё.

5

Нарэшце па адным, па два, групкамі сталі адыходзіць ад насыпу. Скончылі.

Падступіла цішыня.

Яшчэ не асвойтаўшыся з ёй, усе гаварылі голасна. Гаварылі ўразнабой. Смяяліся.

Туравец загадаў праверыць, ці не засталіся раненыя. Загадаў адводзіць людзей з-пад абстрэлу.

— Ну як, каліна-маліна, музыка? — крыкнуў Шашура, што з'явіўся знянацку, як з-пад зямлі.

Туравец стрымана адказаў:

— Канцэрт што трэба. Сімфонія!

— Праўда, таварыш камісар! — узрадаваўся захмялелы падрыўнік.— Сімфонія! Тут і другога слова не скажаш. Такое каб моцнае, як «дамкрат», скажам, і — каб незразумелае. Ірванулі!.. А помніце, як летась мы «канцэрт» давалі пад Пагарэлым? Я тады пад мост падлажыў бомбу-двухсотку. Эх, каліна-маліна, як фуганула, дык бэлькі ляцелі, як трэскі. Я ляжаў у ямцы наводдаль, дык мяне ад выбуховай хвалі спачатку як падыме, а пасля як бразне аб зямлю! Ледзь дух не выпусціў... Тады таксама «канцэрт» важны быў — на ўсіх дарогах ігралі.

— Хадзем, маліна-хлапчына, паглядзім, як ты паіграў,— перапыніў падрыўніка Туравец.

Ён ішоў не толькі таму, што гэта вялеў зрабіць абавязак, але і з цікаўнасці. Той неадольнай, яшчэ з хлапечых гадоў, цікаўнасці, якая столькі разоў падначальвала сабе схільную захапляцца натуру камісара. Ведаў, што не шпацыр, небяспечна лазіць там, на насыпе, але ўсё ж ішоў. Не мог не пайсці.

— Чыста, таварыш камісар, зрабіў,— запэўніў яго Шашура, весела крочачы побач.

Калі яны падняліся па невысокім, але крутым затравелым адхоне на насып, у баку паўстанка ўскінулася барвовае клубістае полымя, і крыху пазней разлёгся выбух.

— Мусіць, нашы фрыцаўскае кубло ўзарвалі.

Туравец з Шашурам пайшлі па насыпу. Шпалы былі пасечаны, пашчапаны, жалезныя рэйкі парваны, пакручаны.

— Эх, парвала рэйкі! — не ўтрываў падрыўнік.

— Парвала... Падобна, брат,— сказаў Туравец і уцехай,— «заваёўнікі» тут не разгоняцца. Праўда: зрабілі чыста!

— Цяпер тут не хутка зноў пакоцяць...— шчаслівы, падхапіў Шашура.

Прайшоўшы трохі, спатоліўшы цікаўнасць, Туравец рашыў павярнуць назад да лесу. Асцерагаўся: у любы час могуць паявіцца немцы з гарнізона. Ды і зрэзаць з лесу чаргою могуць за нішто. Але тады, як сабраўся вяртацца, яго спыніў глухаваты, прыцішаны далечынёю выбух. За ім хутка дайшоў другі, трэці.

Потым загрымела ў іншым баку, бліжэй. Нібы рэха, перакатамі кацілася, разыходзілася па палях, па лясах, ва ўсе бакі.

Блізка і далёка, то гучна, разложыста, то ціха, ледзь чутна, грукаталі, перагукаліся выбухі.

— Хто гэта? — спытаў зачараваны Шашура.

Ад полымя пажару, што ўздымалася ў баку паўстанка, на твары Тураўца трапяталі чырвоныя водбліскі. Хвіліну ён стаяў нерухома, заклапочана слухаў. Потым нібы апамятаўся, зірнуў на Шашуру.

— Хто, кажаш? Хто ж — нашы знаёмыя ўсё... Тут і вось тут калінінцы і «Савецкая Беларусь». Далей, справа, відаць, Першая Мінская. Вунь там, не інакш — Другая... Каля яе — гастэлаўцы... А хто за імі — і сам не ведаю...

«Канцэрт» ермакоўскай брыгады, мусіць, было ледзь чуваць у агульным «канцэрце». На ўсіх дарогах, па ўсёй Беларусі грымелі ў гэтую ноч выбухі.

Партызаны рвалі дарогі пад Бабром і пад Пухавічамі, пад Лунінцом і пад Лідай, пад Брэстам і каля

самага Мінска. Тол разбураў масты, рассякаў, карэжыў важкія жалезныя бэлькі, раскідваў бярвенне. Над сотнямі чыгуначных складаў палала трапяткое, грознае полымя. Эшалоны, што ў гэтую ноч кіравалі да фронту, або гарэлі, або валяліся пад адхонам.

У адну ноч мнагатысячная партызанская армія вывела са строю ўсе чыгункі, па якіх гітлераўцы жывілі свой фронт, адрэзала нямецкія часці, што стаялі на пярэднім краі, ад тылу, ад баз забеспячэння.

«Канцэрт» быў часткай агульнай падрыхтоўкі нашай арміі да наступлення. Ён быў першым громам, які абвяшчаў аб пачатку бітвы за Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ VII

### 1

Пасля таго, як Ніна вярнулася з Мінска, яе паслалі да сувязных у мястэчка.

Зрабіць гэта было значна лягчэй, чым прабрацца ў Мінск. Яна ўжо неаднойчы хадзіла ў мястэчка, і кожны раз усё канчалася добра.

Шчаслівымі былі і яе цяперашняя дарога ў мястэчка і сустрэчы ў ім. Але калі яна вярталася ў лагер, яе падсцерагала страшная нечаканасць. Адна з тых нечаканасцей, якіх заўсёды багата ў жыцці разведчыкаў.

Мінуўшы многія небяспекі, тады, калі ўжо блізка адчувала радасць сустрэчы са сваімі, на мяжы партызанскай зоны Ніна раптам трапіла на нямецкую засаду.

З хмызняку насустрач нечакана выскачыў немец, нацэліў на яе аўтамат.

Першы момант, калі Ніна пабачыла перад сабою салдата і аўтамат, нацэлены ёй у грудзі, яна вельмі ўстрывожылася, але яшчэ не адчула ўсёй жахлівасці таго, што здарылася. Яна не ўпершыню бачыла нацэлены на яе аўтамат, пагрозлівыя позіркі салдат. Тыя разы ўсё сыходзіла добра. Ёй удавалася выбірацца з безвыходнага, здавалася, становішча.

І цяпер у яе, недзе глыбока, у тумане раптоўнай, гарачай трывогі, тлела надзея, што ўсё сыдзе неяк. Але гэта было далёка ў душы, затоена. У галаве ж, узварыя небяспекаю, адразу ліхаманкава замітусіліся

думкі, хуткія, імклівыя: што рабіць, што адказваць?

— Партызан? — запытаўся немец.

— Не...

«Трэба быць спакайней і смялей»,— падказвала ёй нешта знутры, што сачыла цяпер за ёю.

Побач з першым вырасла яшчэ некалькі салдат і паліцаі. Бязбровы, люты немец, нібы лаючы, крыкнуў:

— Абшукаць!

Паліцаі і салдаты адразу кінуліся да яе, сціснулі рукі, заламалі ёй за спіну. Адчуўшы нясцерпны гвалт чужых рук, Ніна мімаволі рванулася, але ледзь не застагнала ад болю.

Адзін з паліцаяў, з густым чорным чубам, начэсаным на вока, угледзеўшы выраз болю на твары, сказаў зларадна:

— Не так, як у партызанах? Прывыкай!

Ён, відаць, быў старшым над паліцэйскімі, бо трымаўся вальней за іншых.

У яе не знайшлі нічога падазронага.

Бязбровы, уважліва разглядаючы, пакруціў яе аўсвайс, паклаў у кішэню.

Яе штурхнулі, павялі кудысьці. Ідучы між двух немцаў, чуючы ззаду важкія крокі чубатага, Ніна стала абдумваць сваё становішча, і ёй здалося, што свет сціснуўся, замкнуўся навокал. Яна адчула сябе раптам вельмі адзінокай.

Аднак яна не губляла надзеі. Думкі былі хуткія, пільныя і ясныя. Усе яны былі скіраваны на адно: што зрабіць, каб выратавацца.

Яна ліхаманкава рыхтавалася да сустрэч і допыту, якія чакалі яе.

Перш за ўсё, думала яна, трэба быць спакойнай, каб ашукаць іх падазронасць. Яна будзе крыўдзіцца і нават пагражаць ад свайго знаёмага афіцэра... Хто ён, гэты ратоўны яе знаёмы?..

У памяшканні паліцыі некага дапытвалі. На стале разваліста сядзеў нямецкі яфрэйтар. На падлозе, падгарнуўшы пад галаву голыя рукі, стагнаў збіты, акрываўлены чалавек. Яфрэйтар мільгнуў па ёй позіркам і нездаволена, чакаючы, павярнуўся зноў да таго, што ляжаў на падлозе. Паразважаўшы сам аб нечым, ён жэстам рукі загадаў вынесці чалавека. Турботны ад мінулага допыту, ён амаль абыякава выслухаў бязбровага.

— Куды ішла? — запытаўся ён у перакладчыка, чытаючы між тым аўсвайс.

Ніна сама па-нямецку адказала, што ішла ў вёску, выменяць харчоў на рэчы. Пачуўшы адказ на нямецкай мове, яфрэйтар уважліва паглядзеў на яе.

— Там партызанскі раён.

— Партызаны?! — нібы сумелася яна.— Ой, божа!.. І ніхто не папярэдзіў!

Яна падзякавала яфрэйтару, што яе ў час спынілі, бо магла, не дай божа, папасці ў «партызанскія кіпцюры».

— Дзе вы навучыліся гаварыць па-нямецку?

— О, у мяне быў добры настаўнік! — Ніна пакрыўджана сказала, што з ёй гаварылі, як з партызанкай, што яна паскардзіцца свайму Курту, штурмфюрэру. Чуючы, што паявілася змога ўратавацца, яна выдумляла так хутка і ўдала, што яфрэйтар, здалося, паверыў, бо стаў гаварыць мякчэй.

Ён не зусім упэўнена загадаў абшукаць яе.

Непакой яшчэ не праходзіў, але цяпер святлей заяснела надзея. Можа,— о, каб гэта сталася! — удасца вырвацца.

Неспадзеўкі здарылася тое, чаго яна ніяк не чакала і што прымусіла яе адразу затрывожыцца. У пакой увайшоў Грэчка, у паліцэйскай форме, са знакам на рукаве.

Увайшоўшы, Грэчка казырнуў немцу і сказаў, што прывёў нейкага Варанчука.

— Добра, вядзі сюды. Я зараз кончу з гэтай...— будзённа прамовіў яфрэйтар. Перакладчык пераказаў яго словы па-руску.

Грэчка мімаволі павёў позіркам на тую, якой займаўся яфрэйтар. У першы міг, калі пабачыў Ніну, ён разгублена заміргаў дробнымі, глыбока схаванымі вачыма. Аднак хутка паправіўся, перастаў міргаць, адвёў позірк убок.

Ніна насцярожана чакала далейшага: выдасць ці не выдасць яе.

Можа, тое, што яна чула пра Грэчку, няпраўда, чуткі часта ашукваюць. Можа, ён застаўся сваім?

— А-а!.. Вы знаёмыя, Хрэчка? — сказаў раптам зацікаўлена яфрэйтар.

Ніна зацялася: вось яно, пачынаецца тое, чаго яна баялася. Скажа ці не скажа? Бачыла: Грэчка з апа-

скаю зірнуў на немца і ўбачыў яго пільныя вочы, што патрабавалі адказу.

Адарваў вочы ад яфрэйтара. Доўгі момант маўчаў, вагаўся. Нерашуча кіўнуў галавою.

— Дзе ж вы пазнаёміліся?

У голасе яфрэйтара моцна чуліся нецярплівыя, загадныя ноткі. На лбе Грэчкі раптам узяўся пот. На твары былі пакута і страх.

— Ну?

— У... лесе...— Ён хапатліва выцер лоб. Рука яго дрыжала.

— О, у лесе! У партызанах?!

Грэчка кіўнуў.

Яфрэйтар паказваў бязмернае здзіўленне: вось навіна! Ён нібы ажыў. Ён яшчэ настойлівей патрабаваў адказу.

— Даўно гэта было?..

— Нядаўна...

— Калі?

Грэчка зноў выцер лоб дрыготкай рукой.

— Апошні раз мы бачыліся з ёю, калі я... перайшоў сюды, пан яфрэйтар...

У галаве Ніны ясна адзначылася, напоўніла холадам усё цела: «Прапала». Нібы праз туман аднекуль данёсся задаволены голас чубатага: «А-а! Папалася?»

Яна знайшла сілу зарагатаць.

— Я думала, мы тады апошні дзень былі разам! — Яна зноў, з такім намаганнем зарагатала: — Я думала: пан і цяпер там. У лесе.— Пільна глянула на яго.— Пан старанны быў там!

— Я?..— збянтэжыўся Грэчка.

— Як вы апынуліся тут, пан? Выпадкова ці — знарок? — намякнула яна на нешта.

— Што ты к-кажаш? — устрывожыўся Грэчка.

— Я кажу пра гэта, дзе трэба, тава-рыш Грэчка! — наступала, нібы адкрыўшы штосьці важнае, Ніна.— Там, дзе зацікавяцца гэтым як належыць!

— Гэ, абдурыць хоча! — аб'явіў чубаты.

— Следства пакажа, хто каго хацеў абдурыць!..

Немцы, бачыла яна, уважліва выслухалі ўсё, што яна сказала. Намёкі яе зрабілі ўражанне. І тое, як яна трымалася, таксама не прайшло без следу. Яе ўпэўненасць бянтэжыла іх. І ўсё ж гэта не памагло. Яе і не думалі выпускаць.

Дзень яе пратрымалі ў каморцы пры паліцыі — выведвалі, правяралі. Як яна ні выгаварвалася, адчувала, што надзеі на тое, што ўдасца вырвацца адсюль, усё менш і менш. І як магла яна вырвацца: Грэчка расказаў пра яе ўсё, што ведаў. Яны ўсё ведалі ад свайго чалавека...

Яфрэйтар ссунуўся са стала, падышоў паволі, пераварьваючыся з боку на бок.

— Адкуль ішла? — запытаў ён.

— Я казала: мяняць рэчы...

Яна ведала безнадзейнасць сваіх хітрыкаў. Але працягвала хітраваць. Як яшчэ інакш яна магла гаварыць з імі.

— Адкуль ішла? — паўтарыў яфрэйтар, настойліва, злосна.

Ён раздзельна вымаўляў кожнае слова. Яна адказала ўсё тое ж. Бачыла, як твар гітлераўца хутка наліваўся крывёю.

Яфрэйтар раптам размахнуўся.

Перад яе вачыма ўспыхнулі вогненныя вострыя іскры, што пранізалі безліччу пякучых джал. Глуха войкнуўшы, яна ўпала на падлогу.

Калі, ачнуўшыся, яна паднялася на аслабелых руках і села, падлога перад вачыма яе хісталася, хілілася набок, станавілася потырч, як сцяна. На падлозе было цяжка ўтрымацца. Ніна чаплялася пальцамі за шчыліны...

Яна пачула пытанне, якое потым паўтаралі гітлераўцы, што дапытвалі тысячу разоў:

— Якое заданне было?

Яна, як і раней, маўчала. У роце было поўна крыві.

Яфрэйтар хадзіў вакол яе.

— Хто пасылаў?

— Якое даручэнне?

— З кім сустрэлася?

2

Збітую да паўсмерці, яе на калёсах павезлі ў другую камендатуру. Колы стукацелі ў цвёрдых, нібы каменных, каляінах, трэсліся, хісталіся. Кожны штуршок балюча рваў, паліў цела, і Ніна сціскала зубы, каб не застагнаць. На драбінцы побач горбіўся чубаты, час ад часу зларадна касавурыўся адзіным вокам. Не,

ён не пачуе ад яе пакутнага стогну, не парадуецца яе слязам.

«Нічога. Гэта без прывычкі,— супакойвала яна сябе, намагаючыся стрымаць нясцерпны боль, што тузаў, іраваў усё цела.— Хутка палягчэе». Ёй успомнілася, што нехта з партызан гаварыў, нібы боль мацней за ўсё даймае чалавека спачатку, а пасля нервы тупеюць і цела нібы прывыкае да болю. І яна, мусіць, таксама прывыкне.

Але чаму так гарыць усё цела? Як падумала, што баліць, дык боль адразу нібы ажыў. Не трэба думаць пра гэта. Лепш пастарацца думаць аб чым-небудзь іншым, аб далёкім, добрым.

Тады важка, нібы прадзіраючыся, успомніла адзін дзень. Ясны, сонечны дзень маленства. Яна з маці тады гасцявала ў вёсцы ў цёткі. Гэта было даўно... Калі ж гэта было? Яна, здаецца, яшчэ не хадзіла ў школу.

Неяк, бегаючы з дзецьмі па вуліцы, Ніна басанож ступіла на абрывак калючага дроту. Калючкі на ўсю даўжыню ўпіліся ў нагу. Яна закрычала ад болю і, падагнуўшы параненую нагу, стала скакаць на адной. Паспрабавала адарваць калючкі, але не магла. Нібы хто прыбіў іх да пяткі.

На крык прыбегла ўстрывожаная маці. Ніна ўжо сядзела на зямлі і плакала, спалохана пазіраючы, як з раны цурчыць і цурчыць кроў. Маці адразу выцягнула калючкі і адкінула прэч. Хутка перавязала нагу хусцінкай, узяла Ніну на рукі і, пяшчотна абняўшы рукою, панесла ў хату. О, той лагодны мамін абдымак! Ад яго адразу сцішыўся боль і суняліся, высахлі слёзы.

Мама, мама! Калі б ты ведала, як мне балюча цяпер... Самае горшае, што не ведаю, як будзе далей. Не ведаю, ці ўдасца выратавацца. Што мяне чакае там, куды вязуць. Зноў, не інакш, будуць біць і зноў пытацца пра адно і тое ж...

Будуць біць і пра адно і тое ж... Цяжка мне, мама... Цяжка...

У нейкі момант яна адчула на сабе лагодны дотык вадзяных крапель. Пайшоў няспорны дождж. Заплюшчыўшы вочы, Ніна слухала, як частыя, халаднаватыя дажджынкі падаюць на твар, на шыю, на ногі.

Дождж ішоў доўга, то слабеючы, то спарнеючы.

Калі дождж перастаў, Ніна ўбачыла сонца — яно цьмяна жаўцела праз хмары — і здзівілася, што яшчэ

так рана. Няўжо так мала часу мінула, як яе павезлі? А ёй здавалася немаведама колькі.

Гэтаму дню, мабыць, не будзе канца.

У гэтай камендатуры, невядома чаму, дапытвалі нядоўга. Яна, як і раней, адмаўлялася, хітравала. Рухавы, неспакойны нейкі фюрэр ашалела накінуўся на Ніну з пагрозамі, тыцкаючы ў твар пісталет. Гразіўся, калі яна будзе і далей упірацца, тут жа, адразу, не важдаючыся, застрэліць.

Пазелянелы ад злосці з-за яе ўпартасці, фюрэр гукнуў кагосьці, загадаў звязаць ёй рукі і вывесці на двор.

На двары Ніну ўштурхнулі ў нізкую, нібы сплюшчаную, легкавую машыну. Побач сеў эсэсавец з аўтаматам, вялізны, даўганогі,— каля шафёра быў яшчэ адзін,— і яна падумала, што гэта, мусіць, канец, што яе, пэўна, вывезуць за сяло і расстраляюць. Яна ведала, што эсэсаўцы распраўляліся хутка...

Зняможаная болем, разуменнем безнадзейнасці таго, што здарылася з ёю, яна адчувала блізкую небяспеку смерці ўжо не так востра, як упачатку. Пачуцці і імкненні яе нібы паслабелі. І ўсё ж і цяпер яна не была зусім абыякаваю да жыцця.

Нязносны боль нібы сціхаў, адступаў некуды перад тым неймаверным і халодным, што наблізілася ўсутыч, неадхільна паўстала перад ёю.

Час раптам быццам паскорыў хаду. Калі раней ён цягнуўся вельмі марудна, то цяпер пабег страшна хутка. Хутка шафёр завёў машыну, хутка паляцелі абапал хацінкі, закруцілася, пабегла назад поле, выскачыў насустрач, нібы з-пад зямлі, сасновы барок.

Мінула яшчэ адно сяло, і машына выйшла на гладкую асфальтаваную істужку. Гэта было, напэўна, Магілёўскае шасэ. У шкло пачаў секчы дождж. Кроплі вады цяклі па ім ручайкамі. Навокал усё зацягнула мутнай павалокай, толькі віднелася поблізу мокрае, бліскучае шасэ з безліччу малых кружкоў-кропель і бурбалак. Эсэсавец падняў шкло, стала цяжка дыхаць, здавалася, не хапала паветра. Машына яшчэ набавіла хуткасць, аж засычэлі па-вужачаму шыны.

«Нібыта — у Мінск...» — Яшчэ не думаючы нічога пра гэта, яна адчула палёгку. Значыць, яшчэ будзе жыць.

Але потым у затуманеную болем галаву ўнізалася трывожнае: чаму — у Мінск? Іменна ў Мінск?.. Даве-

даліся — што яна з Мінска? Як ні была зняможана, у яе ўлілася, прымусіла пахаладзець усю трывога пра дачку, пра маці. Калі даведаліся, што яна з Мінска, знойдуць і іх. Схопяць іх. Будуць катаваць іх. Яе дачушку, маці. Яны, гэтыя нелюдзі, заўсёды так робяць... Калі даведаліся, можа, ужо і схапілі.

Яна застагнала. Ужо не думала пра тое, што там зноў будуць дапытваць яе, будуць зноў біць, будзе заплываць крывёю рот. Не чула палёгкі, што смерць аддалілася пакуль.

Праз боль, які поўніў усю яе, адчувала толькі трывогу за дачку, за маці. Страх за іх. Асабліва за малую.

## 3

Яна не памылілася. Яе прывезлі ў Мінск. Машына спынілася каля турмы, немцы з камендатуры перадалі яе турэмшчыкам. Турэмшчыкі гаварылі па-руску, і яна насцеражылася: каб не сустрэў яе хто-небудзь знаёмы. Усе былі незнаёмыя. І наогул ніхто не цікавіўся надта ёю. Абыякава паглядзелі на паперку з камендатуры, звыкла абшукалі, і Ніна апынулася ў камеры. Калі дзверы зачыніліся, яна агледзелася. Людзей у камеры было столькі, што сядзелі яны і на нарах з грубых няструганых дошак, і на бруднай падлозе. Многія проста на падлозе драмалі.

На яе прыход мала хто звярнуў увагу. Яна і тут сцераглася з той жа трывогай: ці няма каго-небудзь, хто ведае яе. Не, твары ўсе былі незнаёмыя.

У першы дзень у турме час для Ніны цягнуўся ў цягучым неспакоі. Зноў, як і ў дарозе, мучыла яе страшная загадка: ведаюць ці не ведаюць, што яна з Мінска? Ведаюць ці не ведаюць, што тут яе дачка, маці?.. Што з Людай, з мамай? Няўжо ж і іх...— Ніну так жахала гэта, што яна, не дадумаўшы, ірвала думку. Не магла нават думаць пра такое. Не было змогі.

Няхай будзе ўсё, толькі не гэта. Толькі не гэта...

Са страхам яна чакала, што вось-вось выклічуць на допыт, старалася ўявіць, што там будзе. І халадзела ад жаху, ад адной думкі, што можа пабачыць там дачку.

Увесь час з віскам адчыняліся важкія, чатырохвяршковай таўшчыні дзверы, турэмшчык выклікаў то адну, то другую жанчыну, і іх некуды вялі.

Дзяўчына, што сядзела каля Ніны, растлумачыла, што яны — у камеры папярэдняга заключэння. Акрамя гэтага, сказала дзяўчына, ёсць яшчэ камеры для тых, каго дапытваюць, і для тых, чый лёс, пасля следства, ужо вырашаны.

Як ні трывожыла Ніну тое, што чакала яе, яна мімаволі прыкмячала ўсё, што адбывалася ў камеры. Ёй усё гэта было нязвычнае, як частка таго жаху, які захапіў яе з-за раптоўнай няўдачы. Неўзабаве яна ўлавіла прыцішаную, неразборлівую гаворку і нейкі незразумелы дзіўны шум з-за сцяны. Стала прыслухоўвацца, але гоман у камеры замінаў ёй. Нечакана праз сцяну прарваліся дзікія, прарэзлівыя крыкі, ад якіх у Ніны ўсё пахаладзела, а ў камеры адразу наступіла трывожная цішыня.

— Што гэта? — не ўтрывала Ніна, зірнула са страхам на дзяўчыну-суседку.

— Ведама што — б'юць. Дапытваюць...

Дзяўчына сказала яшчэ, што раней на допыт вадзілі ў гестапа, а цяпер у турме людзей столькі, што многіх дапытваюць тут.

Крыкі за сцяной не сціхалі да вечара. Па калідоры, было чуваць, увесь час вадзілі людзей на допыт і валаклі назад збітых.

Ніна ўсё чакала, што і яе зараз паклічуць на допыт. Але ў гэты дзень не выклікалі. За ўсю ноч Ніна ні на хвіліну не заснула, усё трывожылася за дачку, за маці, думала пра тое, што трэба будзе гаварыць заўтра, пра таварышаў, якія чакаюць у лесе. Перад вачыма яе праходзілі бязладна блізкія і далёкія дні. Асабліва ясна, горка бачыла яна ўсё з апошняга, няшчаснага дня.

Стогны і крыкі за сцяной не сціхалі амаль да самай раніцы. Ад страху за дачку, страху перад невядомасцю, ад бяссоння яна за ноч змарнела і пастарэла.

Уранні яе нарэшце выклікалі на допыт. Але павялі не ў суседні пакой, а на двор. Яна апынулася на вуліцы пад аховай двух рослых немцаў.

Два адкормленыя, узброеныя ахоўнікі з аўтаматамі напагатове вялі адну жанчыну. Вялі ўдвух, у цэнтры горада, сярод белага дня. Але яна адзначыла гэта толькі мелькам. Як і раней, турбавала яе, што чакае там, у гестапа. Ведаюць ці не ведаюць яны пра Людачку? Дзе яна, Людачка? Цяпер, калі разгадка была так

блізка, страх за дачку, за маці браў яе ўсё мацней. Толькі б не было там Людачкі, мамы!..

На пустой вуліцы сустракаліся рэдкія маўклівыя пешаходы. На яе глядзелі, але коратка, асцярожна, нібы баючыся, што іх возьмуць на ўвагу. Яна ж таіла ў сабе трывогу: каб не трапіў насустрач які нядобры знаёмы. Спадзявалася, што цяпер, пабітая, змарнелая, яна выглядае так, што не кожны і добра знаёмы пазнае. Але ўсё ж непакоілася. Аднак больш за ўсё мучыў яе, не сціхаючы, страх за дачку, за маці. Толькі б не было там, куды вядуць, Люды і мамы!

Зрэшты, Люду і маці яна шукала і сярод тых, хто сустракаўся на вуліцы. У сумяціцы разарваных уражанняў і думак увесь час не знікаў неспакой пра Люду і маму...

СД размяшчалася ў будынку былога Інстытута народнай гаспадаркі. Як і да вайны, перад вокнамі знаёмага шэрага будынка зелянелі ў два рады маладыя клёны, добра памятныя ёй з даўняй студэнцкай пары.

Пры ўваходзе ў СД, у вестыбюлі, яе затрымалі. Ахоўнік, што стаяў каля дзвярэй, старанна абшукаў яе. Толькі пасля таго, як абшукалі, дазволілі правесці далей.

Увялі ў доўгі інстытуцкі калідор, у якім яна калісьці не раз хадзіла з таварышкамі. Тут цяпер стаялі ў два рады, тварам да сцен, чалавек дваццаць жанчын і мужчын, што нерухома глядзелі перад сабой. За іх спінамі паволі шпацыраваў ружовашчокі, непадступна строгі наглядчык гадоў, напэўна, семнаццаці. Памахваў кароткім плеценым бізуном.

Ледзь убачыла рады людзей, Ніна пільна, чуючы, як моцна закалацілася сэрца, акінула позіркам іх: ці няма тут Людачкі, маці?

Яна ўправілася акінуць толькі некалькі чалавек, як наглядчык штурхнуў яе да пажылой, з сівымі заплеценымі валасамі жанчыны. Ніна стала поруч і толькі павярнула галаву, каб азірнуцца, як у той жа міг спіну апаліла агнём. Услед віскнуў злосны пісклявы вокрык наглядчыка.

Стаяць, не бачачы нічога каля сябе, было млосна. Здавалася ўсё, што наглядчык за спіною замахваецца, ударыць зараз. Але ўсё гэта яна адчувала нібы прыцішана, яе больш за ўсё пякло: тут ці не тут Люда,

мама? Яна мімаволі лавіла слыхам усё, што робіцца ззаду, кожны гук. Адольваючы няўціхнае жаданне азірнуцца, чула — недзе недалёка, за дзвярыма, будзённа трашчалі пішучыя машынкі...

Усё больш трывожыла Ніну блізкая сустрэча з гестапаўцамі. Усё больш палохаў яе лёс дачкі, маці.

Бывалі і ў брыгадзе, у баі, такія хвіліны, калі патрэбна была вялікая мужнасць. Але там перамагчы любыя нягоды было лягчэй, там кожны мог табе дапамагчы, падтрымаць,— побач з табою былі таварышы. Тут ёй выпала адной стаяць перад гестапаўцамі, перад усёй іх зграяй. Адной, адзінокай, без якой-небудзь падтрымкі, заступкі вытрываць пад іх пагрозамі, катаваннямі, увесь сэнс яе цяперашняга жыцця быў у гэтым — не паддацца, вытрымаць!.. Яна прадчувала, як гэта будзе цяжка, і, тоячы страх, баялася. І баялася зноў і зноў за дачку, за маці. Так баялася, што, не верачы ніколі ў бога, стала раптам маліцца сабе, толькі б ён, лёс, злітаваўся над дачкой, мамай і толькі б не даў катаваць іх!

Яе выклікалі хутка. Ніна ўвайшла ў пакой, які нагадваў канцылярыю. За маленькімі столікамі сядзелі дзве нафарбаваныя немкі, што дзелавіта стукалі на машынках; каля адной, нахіліўшыся, стаяў гестапавец, нешта дыктаваў.

Ніхто з іх нават не зірнуў на Ніну: прывыклі. Але яна адзначыла толькі тое, што ні Люды, ні мамы тут не было.

Адсюль яе праз цяжкія, акаваныя жалезам дзверы ўвялі ў другі пакой.

І тут яна найперш глянула: Люды і мамы не было. Дапытвалі бялявага юнака ў сіняй футболцы. Ён стаяў на нагах з натугай, як бы трымаў на сабе нейкі вялікі цяжар. Твар, яшчэ амаль дзіцячы, быў у крыві і распух ад пабояў. Каля яго круціўся гестапавец, тонка перацягнуты ў поясе.

— Значыць, ты не ведаеш нікога? І міну ніхто не прыносіў? Сам знайшоў?

Юнак кіўнуў галавою. Гестапавец некалькі разоў з усей сілы выцяў яго бізуном, адышоў, сеў. Пасядзеўшы хвіліну, ён ускочыў, падбег да хлопца:

— Брэшаш! — І са злосцю, з усёй сілы стаў біць канчуком бізуна па галаве, прыгаворваючы: — Брэшаш! Брэшаш!

Хлопец моўчкі, як падкошаны, грымнуўся на падлогу.

Ніну піхнулі да эсэсаўца, што сядзеў за сталом. У яго быў халодны твар, пільныя, бязлітасныя вочы. На мясістым носе сядзелі рагавыя акуляры, якія надавалі эсэсаўцу вучоны выгляд.

Следчы нешта жаваў. Побач з ім стаяў перакладчык.

Не перастаючы жаваць, немец падсунуў да сябе папку, адгарнуў вокладку, акуратна і старанна напісаў чырвоным чарнілам нейкі нумар, вымавіў цяжкае яе прозвішча, востра ўгледзеўся ў твар Ніны.

Яна сказала, што яе прозвішча не Лагуновіч, а — Перагуд. Алена Перагуд. Праўда, тое, што гестапаўцы ведалі яе сапраўднае прозвішча, не было асабліва небяспечным ёй. Бо ў маці было іншае прозвішча: Суганяка. Прозвішча гэта было і ў Ніны да замужжа. А Люда была пры бабулі, яе таксама ведалі ўсе як унучку бабулі Суганяка. Адно было кепска, прозвішча Лагуновіч магло значыцца дзе-небудзь у даўніх дакументах. З тых часоў, калі Ніна была тут, у горадзе...

Немец ніяк не адгукнуўся на яе адказ пра прозвішча. Нібы не чуў. З яго позірку яна зразумела, што ён загадзя не надта верыць яе адказам. Загадзя ведае, што яна будзе ашукваць. Адчула, што ашукаць гэтага будзе цяжка. Хутчэй за ўсё — немагчыма.

Ён раптам запытаў зласвесна:

— Адкуль вы ведаеце нямецкую мову?

Яна сказала, што вывучала ў школе і ў інстытуце. Немец на гэта, з націскам вымаўляючы словы, не зводзячы з яе пранізлівых вачэй, нібы выкрываючы, заявіў, што нямецкую мову вывучалі ва ўсіх савецкіх школах, аднак амаль ніхто яе не ведае.

У тым, якое значэнне надаваў следчы гэтаму пытанню, адчула Ніна, штосьці таілася незразумела небяспечнае. Стараючыся адгадаць, што іменна таілася, Ніна адказала знарок наіўна:

— Але я казала: я вывучала яе ў інстытуце.

Гестапавец паслухаў і гэта з такім выглядам, нібы ён ведаў больш, чым яна сказала.

— У якім?

Яна адчула небяспеку ў пытанні. Імкнучыся адвесці ўсё, што магло звязаць яе з Мінскам, яна, нядоўга

думаючы, сказала: у Гомельскім педагагічным. Ухваліла адказ свой: Гомель па той бок, няхай праверацъ. Але тут жа зразумела, што ў адказе яе ёсць і пастка ёй.

— Я працавала настаўніцай пасля інстытута. Я ўвесь час жыла там... Гомель быў таксама нямецкай тэрыторыяй... З Гомеля я пераехала ў вёску... З прычыны голаду ў Гомелі...

Гестапавец, здалося, і гэтае пытанне пакінуў без увагі.

— Хто такі Курт? — спытаў ён раптам.

Яна ведала, што ў мястэчку, каля якога яе схапілі, была раней зграя эсэсаўцаў і ў ёй сапраўды быў відны чын Курт Майснер, садыст і франт. Яна нават бачыла яго са сховы ў адзін са сваіх паходаў у мястэчка.

Эсэсаўцаў тых у мястэчку даўно ўжо не было. Не было і Курта. Адправілі кудысьці тэрмінова, у невядомым кірунку. З чутак, кудысьці да фронту. Зрэшты, мястэчка з таго часу таксама змянілася надта. Жыхароў старых мала засталося, начальства ўсё іншае... Ніна ўпэўнена адказала, хто быў Курт і для мястэчка, і для яе.

Адказваючы на гэта пытанне, яна, аднак, адчула, што ўся гэта прыдуманая гісторыя можа павярнуцца супраць яе. Усё цяпер, у яе становішчы, павярталася супраць яе.

— З якой мэтай вы ўстанавілі сувязь з Куртам Майснерам?

Яна адказала тое, што павінна была адказаць. Ніякай мэты, проста Курт зацікавіўся ёю, і ёй было цікава з ім. Ён быў такі прыгожы і абыходлівы. Яна разумела, якія слабыя ўсе гэтыя прыдумкі для таго, каб памагчы ёй. Следчы нібы не слухаў. Усё таіў штосьці. Што?.. Мама, Люда, дзе вы?

Яна растлумачыла, што ў партызаны яе прымусілі ісці. Уварваліся ў кватэру, наставілі пісталет. Прыгразіліся расстрэлам. Ім патрэбен быў чалавек, які ведае нямецкую мову. Перакладаць дакументы. Адразу, калі пачалася блакада, яна ўцякла. Ад таго часу не была ў партызанах. Жыла ў сяле. Хавалася ад партызан. Пра брыгаду, пра тое, што было да блакады, яна можа расказаць. Усё, што ведае. (Яшчэ ў камеры Ніна разважыла, што недарэчна скрываць тое, дзе была і чым жыла брыгада да блакады. Усё гэта, не інакш, ім ужо вядома.

Адзін Грэчка колькі мог расказаць.) Але вось пра цяперашні стан брыгады яна амаль нічога не можа паведаміць пэўнага. Можа сказаць толькі тое, што ведае з чутак. З чутак, брыгада не змагла аднавіцца. Рэшткі яе хаваюцца па лясах. Па вёсках раскіданы, па адзіночцы...

Але следчага гэта цікавіла нібы між іншым. Вельмі хутка ён прывёў допыт да таго, чаго яна баялася больш за ўсё, да Мінска. Яму, аказалася, трэба было ведаць, з кім брыгада супрацоўнічала ў Мінску. Ён ведаў, што брыгада была звязана з Мінскам, з падполлем. Калі Ніна пачула гэта, падумала, як бы з палёгкай: вось для чаго яе прывезлі сюды ў Мінск! Вось, выходзіць, нашто яна спатрэбілася тут...

Следчаму патрэбны былі прозвішчы жыхароў Мінска, якія супрацоўнічалі з партызанамі, адрасы дамоў, дзе адбываліся сустрэчы жыхароў з партызанамі.

Ніна адказала, што гэта, на жаль, ёй невядома. Яна наогул не ведае, ці быў хто-небудзь з партызан брыгады ў Мінску. У кожным разе, яна не ўпэўнена, што былі... Кажучы гэта, яна зноў падумала пра Люду, пра маці. Толькі б іх не зачапіла бяда яе!

Следчы пачаў траціць вытрымку.

— Вы гэта павінны ведаць! Вы — разведчыца!..

— Я кажу, што нічога не ведаю пра гэта!

— Вы хлусіце!..

Блізарукія, хваравіта прыплюшчаныя вочы за рагавымі акулярамі глядзелі злосна, праціналі яе. Ніне стала тужліва і страшна. Спіну скавала холадам, сэрца раптам нібы перастала біцца, замерла ў чаканні.

Як бы збіраючы сілу, шукаючы падтрымку, яна на міг згадала Тураўца, іншых таварышаў. Не аслабець, утрымацца, перанесці ўсё, перацярпець усе здзекі, усе пакуты!

Яна бачыла, што гестапавец перастаў жаваць, падняўся, і з жахам падумала: «Зараз пачнецца...»

### 4

Ніну прывезлі з допыту ўвечар. Яна была так скатавана, што не магла сама дайсці ад машыны да камеры. Два турэмшчыкі падхапілі яе пад рукі і павалаклі абы-якава па доўгім змрочным калідоры. Расчыніўшы дзверы, яе кінулі, і яна ўпала тут жа, каля дзвярэй.

Клапатлівыя, сяброўскія рукі паднялі Ніну, ціха перанеслі, асцярожна паклалі на нары. Яна не магла паварухнуцца. Усё цела было адным балючым камяком і гарэла так, нібы яго безупынна палілі пякельным агнём. Ей падалі вады. Ніна ўбачыла над сабою незнаёмы, спагадлівы твар жанчыны і ціха, прыглушана застагнала.

— Нічога, нічога... Патрывай,— прамовіла суцешліва жанчына.

Доўга не магла заснуць яна, хоць і вельмі змарнела. Агонь, які паліў яе ўвесь час, то крыху спадаў, то мацнеў неспадзявана зноў.

Вочы нясцерпна рэзала белае зыркае святло лямпачкі. Ад іскрыстых праменняў, што разыходзіліся ва ўсе бакі, яна была падобна на нейкую бліскучую калючку. Тыя праменні прарэзваліся нават пад заплюшчаныя павекі, унізваліся ў галаву, ад іх нельга было схавацца.

Скрыпелі дзверы, некага выводзілі і прыводзілі назад, нехта лямантаваў без упынку за сцяной. Усё гэта дзіўна спляталася ў адно [redacted] тым пякучым агнём, які рваў, тузаў яе цела. Толькі пад раніцу знебылася яна ў неспакойным хваравітым сне, усё трызніла і стагнала.

Калі вярнулася да явы, ёй пачало зноў прыгадвацца ўсё, што адбылося ўчора, і яна [redacted] тугою зажмурылася. Так і ляжала доўга.

— Алена! — пачула яна пазней, зусім побач. Ёй дзіўна здалося, нібы казалі да яе.

Яна павярнула на гэты голас вочы і ўбачыла паблізу сябе дзяўчыну, тая, і праўда, гаварыла да яе. Твар дзяўчыны быў знаёмы.

«Дзе мы бачыліся?» — падумала Ніна, намагаючыся ўспомніць.

— Я ж Клава. Сняжко Клава,— падказала ёй дзяўчына.

Ах! Клава!.. Нібы ў тумане, прыгадаліся Ніне пакойчык, бэз за акном, прыгадалася, як яны сядзелі ўдзвюх у гэтым пакойчыку і гаварылі. Тады Сяргей, Клавін брат, хадзіў рыхтаваць карту...

Ніна паспрабавала падняцца.

— Ты ляжы ціха,— параіла Клава. І, нахіліўшыся да Ніны, з пяшчотай і спачуваннем прамовіла: — Ты ў сне стагнала і гаварыла нешта. Моцна цябе яны... Але ты, Аленка, не паддавайся. Галоўнае, не прыслу-

хоўвайся да болю. Баліць табе, а ты старайся сабе думаць, што не вельмі, што трываць можна. Не паддавайся, адным словам, сабе... Мяне ўжо чатыры разы вадзілі, пячонкі адбілі, мусіць, а я нічога. Не даюся сабе!.. Тут на мяне дзівяцца, лёгкі ў цябе характар, кажуць. Нібы мне не так, як усім, баліць. Проста я стараюся адагнаць боль. Ты разумееш?

Ніна кіўнула. Ёй было прыемна слухаць гэты лагодны спагадлівы голас.

Ад Клавіных слоў боль нібы суцішваўся.

— Ты, мабыць, першы раз?.. Калі цябе ўкінулі сюды? Учора? А я пяць дзён ужо. Тут гэта здаецца цэлым годам... Я тут наглядзелася ўсяго, не дай бог. На месяц, дапраўды, расказваць. Ты ведаеш, што я табе скажу,— перайшла яна на шэпт,— ты будзь асцярожная. Да нас сюды падсылаюць шпікаў, падслухваць. Яны сядзяць, як і мы. Іх нават б'юць часам для выгляду, каб ашукаць нас. І часам як бы на допыт водзяць, падкормліваць, як сабак...

Яна заўважыла на твары Ніны цень болю, загаварыла клапатліва:

— Табе нязручна ляжаць. Дай я памагу табе.

Клава дапамагла Ніне павярнуцца, потым, дзіўна падмячаючы смешнае, пачала расказваць аб апошніх падзеях у камеры, аб вестках, якія прыносілі людзі з горада.

— А дзе Сяргей?.. Таксама схапілі?..— перапыніла яе Ніна.

— Выратаваўся, здаецца.

Адолеўшы смутак, што набег на твар, Клава пачала апавядаць, як жыла раней, вясёлыя і смешныя гісторыі. Яна, мусіць, хацела, каб Ніна, слухаючы гэтыя ўспаміны, забылася на свой боль.

Прыгадала, як настаўнік у школе скардзіўся, што яна няўважліва слухае яго, круціцца ўвесь час на парце, і ставіў звычайна тройкі па паводзінах. За гэтыя тройкі бацька і маці папракалі яе, чырванелі на бацькоўскіх сходах, але пачыналася новая чвэрць, і ўсё ішло па-ранейшаму. Не любіла Клава доўга сядзець над кніжкамі, «сушыць галаву», зімой ледзь не ўвесь свой вольны час коўзалася на лыжах, летам ездзіла да сваякоў у вёску, купалася, загарала, хадзіла з вясковымі хлопцамі грабці сена, збіраць ягады...

Ніна моўчкі, заплюшчыўшы вочы, слухала. Часам

ёй здавалася, што голас Клавы даходзіць аднекуль здалёк. Тое, што яна чула, перарывалася яе ўласнымі думкамі і ўспамінамі. Малюнкі паўставалі перад ёй нейкія нязвязныя і блытаныя... То бачыла чорнае галлё бярозы на лагодным блакіце неба, згадвала ўсё, што думала тады пад тым дрэвам, то нібы прыходзілі універсітэцкія сябры, то між іх раптам выплывала постаць эсэсаўца ў акулярах, які крычаў ёй: «Ты гэта павінна ведаць!.. Ты хлусіш!..» Яна расплюшчвала вочы, каб адагнаць трызненне...

Пад ціхую, ласкавую Клавіну гаворку Ніна задрамала.

Калі яна прачнулася ад віску дзвярэй, на парозе стаялі два эсэсаўцы. Адзін з іх, з нейкім блакнотам у руцэ, павольна, мутнымі, п'янымі вачыма азіраў твары тых, хто тут быў. Людзі ціха, нацята глядзелі на яго. На яго і на маленькі блакноцік, што быў у руцэ з бліскучым пярсцёнкам. Па той трывожнасці, якая запанавала, Ніна здагадалася, чаго ён прыйшоў і куды павядуць тых, каго ён выкліча.

Каго ж? Ніна прыўзнялася на локці.

«Можа і мяне?»

Яна азірнулася на Клаву, тая таксама насцярожана чакала.

— Івашына! — рэзка, як стрэл, прагучаў урывісты вокліч.

Усе вочы павярнуліся да прыгожай чарнявай жанчыны з раскіданымі валасамі, што маўкліва паднялася. Ідучы да дзвярэй, недарэчна папраўляючы хустку, яна раптам спаткнулася на роўнай падлозе.

— Бывайце, людзі... родныя! — сказала жанчына, прыпыніўшыся каля дзвярэй і азірнуўшыся.

Адзін эсэсавец штурхнуў яе ў калідор...

За ёй выклікалі яшчэ пяць чалавек...

Калі дзверы зачыніліся, у камеры нейкі час панавала цішыня. Потым нехта крыкнуў з пагрозаю:

— Душагубы! Дачакаецеся і вы, праклятыя!..

Хоць Ніна столькі перацярпела за гэтыя жахлівыя дні, хоць у думках рыхтавалася да ўсяго, тое, што ўбачыла, яе страшэнна ўразіла.

Хутка шасцярых не стане...

Небяспека смерці абудзіла ў Ніны прагу жыць. Жыць, жыць!..

Ёй было знаёмае гэтае пачуццё. Ніна не раз ужо зведвала яго ў баі. Але тады было інакш. Там яе жыццё залежала ад яе, там яна магла дзейнічаць, біцца за сябе, а тут — ёй быццам рукі скруцілі.

У баі не так гняце небяспека смерці, яе засланялі розныя клопаты. Тут жа не было чаго рабіць, заставалася адно — чакаць. Зносіць нечалавечы здзек і чакаць.

Яна ўспомніла Людку, да самай дробнай дробязі прыгадала апошнюю сустрэчу з ёй. Ніна тады вельмі спяшалася, цалавала дачку прагна і паспешліва. Так цяжка было адрывацца тады ад дачушкі. Нібы прадчувала, што, можа быць, не пабачыць больш родную дзяціначку.

Колькі дзён — здаецца, усё жыццё — чакала яна Аляксея! Няўжо ж так і не дачакаецца?..

— Ты не думай,— спагадліва сказала Клава.— Не гаруй: чаму быць, таго не мінаваць. Яшчэ і невядома, як яно ўсё пойдзе. Хочаш, я табе раскажу штонебудзь?

## 5

Уранку Клаву выклікалі на допыт. Ніна засталася адна са сваімі думкамі, адчула, як не хапае ёй Клавы.

Яна з трывогаю і нецярплівасцю чакала Клаву і кожны раз, калі адчыняліся скрыпучыя дзверы, з надзеяй пазірала на іх.

То адна, то другая вярталіся з допыту спакутаваныя, змардаваныя жанчыны, але Клавы не было.

Удзень некалькі чалавек пагналі на работу, разгружаць на складах машыны.

Яны вярнуліся пад вечар. Калі дзверы зачыніліся, усе, хто быў у камеры, сталі распытваць: што там, на волі?

Але тыя, што вярнуліся, спачатку нічога цікавага не гаварылі, асцерагаліся шпікоў і даносчыкаў. Усё важнае звычайна расказвалі толькі ў маленькім гуртку, надзейным сябрам. Агледзеўшыся ў адной такой купцы, у якую прынялі і Ніну, жанчына, апранутая ў старэнькі пярэсты дамашні халат, як найвялікшую тайну, адкрыла, што чула сваімі вушамі ад знаёмага

шафёра, хлопца з Камароўкі, быццам сёння павінны прыляцець нашы.

— Так пра гэта і скажуць! — адгукнуўся нехта недаверліва.— Адкуль ён ведае?

— Значыцца, ведае! А адкуль — пра тое ідзі спытайся ў яго! Цяпер многія шмат чаго ведаюць, ды толькі язык за зубамі трымаюць.

— Каб не ведаў, не казаў бы! — пачуліся галасы.

І, здаецца, ніхто больш не сумняваўся ў словах жанчыны, хоць і ўсім было вядома, на чым яны грунтуюцца. Кожнаму хацелася верыць!

Другая расказала, што бачыла на Таварнай багата спаленых вагонаў, мусіць, ад таго налёту, што быў чатыры дні назад.

— А пра... наступленне нічога не чуваць? — прашаптаў раптам з бліжніх нар узрушаны голас, і ўсе адразу прыціхлі.

— Нічога...

З «работы» адна з жанчын прынесла ў камеру сыры бурак, некалькі бульбін і галовак часнаку. Як ёй удалося гэта — невядома, бо пры ўваходзе ў турму кожнага, хто хадзіў працаваць, старанна абшуквалі і за ўсякую схаваную рэч няшчадна білі.

«Трафеі», як назвалі жартам здабытак, падзялілі. Дзяліла жанчына ў пярэстым халаце, якая гаварыла, што сёння прыляцяць самалёты. Яна абмінула дзвюх жанчын, якія нядаўна прыйшлі з волі і выглядалі добра,— як яна сказала жартам — «аб'еліся там». Кавалачак сырога бурака перадалі і Ніне, хоць яна і была з «новых».

На наступны дзень некалькі дзяўчат выклікалі мыць падлогу. Брудным вокрыкам паднялі і Ніну, не зважаючы на тое, што яна была знясіленая.

— Ты глядзі, ці няма недакуркаў — мужчыны прасілі. Як знойдзеш, прынясі мне, я пастараюся перадаць ім,— шапнула ёй, калі выйшлі ў калідор, дробная, з рабаціннем пад вачыма, дзяўчына, што часта хадзіла мыць падлогу. «Тут ёсць нават сувязныя з мужчынскімі камерамі»,— здзіўлена падумала Ніна.

Ёй далі нейкую анучу і вядро і павялі. Жандар штурхнуў яе ў пакой і сказаў:

— Тут.

Гэта быў невялікі паўзмрочны пакой з замураваны-

мі больш як да паловы вокнамі. Ніна акінула абыякавым позіркам падлогу і ўбачыла на ёй нейкі цьмяны масляністы бляск. Яна ступіла ў гэты бляск і ледзь не паслізнулася.

— Ну ты, што стала? — крыкнуў паліцай і тўханнуў яе кулаком у спіну.— Запрашэння чакаеш?..

Перамагаючы пякучы боль, які адразу ажыў на спіне, ва ўсім целе, яна сагнулася. Рукі дакрануліся да нечага густога і ліпкага.

— Што гэта? — вырвалася ў яе.

— Кроў, не бачыш? — сярдзіта адгукнуўся паліцай...— Не віно французскае!..

Калі яна вярталася ў камеру, дзяўчына з рабаціннем, што мыла калідор, шапнула:

— Недакуркі ёсць?

Ніна хітнула галавой: няма.

У камеры яна ўбачыла Клаву. Тая нерухома ляжала на нарах, тварам уніз, адна рука з разадраным да пляча рукавом звешвалася з дошак, як у нежывой.

Ніна з непакоем наблізілася да яе і моўчкі стала. Не адважвалася патрывожыць. Клава ляжала нерухома, толькі цяжка, пакутна ўздымалася і апускалася спіна. Кофтачка была ўся ў закарэлых плямах крыві. Чулася цяжкае хрыплае дыханне.

«Што з ёй, гады, зрабілі!» — жахнулася Ніна перад знявечанай, здаецца, амаль нежывой дзяўчынай.

— Ты, Ніна? — ледзь чутна, не павяртаючы галавы, прахрыпела Клава.

— Я, Клаўка. Я...— адказала Ніна пяшчотна-спагадна. Хацела падтрымаць, суцешыць, але не было слоў. Горнасць душыла горла.

— Ой, як мяне білі!..— сказала Клава.— Ніколі яшчэ так не білі...

Яна зноў сціхла, так ёй, відаць, цяжка было гаварыць. І раптам у хрыплым голасе Клавы пачулася ўпартая, ціхая ўцеха:

— Усё-ткі яны ад мяне нічога не дабіліся!

Ніна асцярожна прысела побач на край нар, пяшчотна дакранулася рукой да яе галавы, да мілых цёмна-русых валасоў.

## 1

Незадоўга перад гэтымі падзеямі ў Мінску паявіўся маёр Вольф. Размова маёра з лейтэнантам Клямтам на могілках перад Паплавамі была іх апошняй размовай. У той жа дзень маёра неспадзеўкі раніла, на дарозе, у машыне, асколкам міны, што прыляцела з недалёкага ляска.

Маёр апынуўся ў шпіталі, у Баранавічах. У яго была парэзана косць шчакі, выбіта вока і сядзеў асколак у шыі. Праваляўшыся больш за месяц у шпіталі, маёр вырваўся з яго з павязкай на воку і шрамам на правай шчацэ. Шыя таксама пагана служыла, амаль не паварочвалася. Маёр трымаў галаву крыху набок.

Выпісаўшыся са шпіталя, маёр пабыў яшчэ колькі часу там жа, у Баранавічах, у рэзерве і нарэшце атрымаў прызначэнне ў Мінск.

Ён прыехаў сюды семнаццатага чэрвеня. З'явіўся да дзяжурнага ваеннай камендатуры, той, паглядзеўшы яго дакументы, папрасіў прыйсці заўтра да камендана. Пакуль жа дзяжурны накіраваў маёра ў афіцэрскую гасцініцу.

Маёр быў у гасцініцы нядоўга. Справіўшы фармальнасці, неабходныя для ўсялення сюды, ён зайшоў у пакой, дзе быў прызначаны яму ложак. Пакой дастаўся вялікі, як казарма, і гэта не спадабалася маёру, тым больш што тут блішчала нікелем яшчэ сем ложкаў. Праўда, гэтая акалічнасць яго мала турбавала: ён ведаў, што жыць яму тут, у гэтым пакоі, было нядоўга. Можа, нават заўтра ўжо трэба будзе ехаць з горада. Ён нават рашыў не браць чамадан, здадзены на вакзале ў камеру захоўвання.

Маёр крыху пастаяў каля акна, абыякава паглядзеў на запылены каштан поблізу, на дамы насупраць: вялікі, чырвоны, і меншы, з аблезлай афарбоўкай.

Рабіць маёру не было чаго, і ён падаўся бадзяцца па гораду. На вуліцы было ціха і амаль пуста. На хвіліну ажыўленне прынёс сюды трамвай, што праляскаў, калі маёр стаяў перад кінатэатрам, разглядаючы яркую стракатую афішу. Кінатэатр, барак з вострым чарапічным дахам, пабудаваны, як адзначыў маёр па стылю збудавання, немцамі, быў побач з гасцініцай.

Маёр паглядзеў, калі пачынаецца бліжэйшы сеанс, і, даведаўшыся, што чакаць нядоўга, узяў білет.

Увечары маёр, якому пасля кіно хутка надакучыла бадзяцца без справы між нудных руін, падаўся ў рэстаран пры фабрыцы-кухні. Рэстаран, як і кінатэатр, быў блізка ад гасцініцы. Маёр сеў пры століку ля сцяны і стаў з цікаўнасцю адзінокага наведвальніка, які сумуе ў незнаёмым горадзе, разглядваць лічаных афіцэраў, што былі ў рэстаране.

Калі афіцыянткі пачалі апускаць шторы маскіроўкі, у рэстаран увайшло яшчэ некалькі наведвальнікаў — жанчыны і афіцэры. Адзін з іх, у форме эсэсаўца, стройны, з бездакорнай тылавой выпраўкай, выбіраючы вачыма столік, раптам пакрочыў да маёра.

— О! Вольф?! — сказаў ён не зусім упэўнена.

— Так, маёр Вольф.

Маёр улавіў, на твары штурмбанфюрэра з'явілася грымаса, калі ён запыніў позірк на маёравай павязцы на воку. Чакаў прыкрага пытання, але штурмбанфюрэр здагадліва перамаўчаў. Спытаў спагадліва:

— Як ты апынуўся тут?

— Ды так... Прызначэння чакаю...

Рука маёра патанула ў яго руцэ. Эсэсавец пазнаёміў маёра з танклявай і, як маёру здалося, вельмі прывабнай жанчынай, якую ён трымаў за локаць. Яна ветліва кіўнула і падала маёру маленькую руку. Яе звалі Ані.

— Ты не супраць таго, спадзяюся, каб мы селі побач?— па-сяброўску ўсміхнуўшыся, пацікавіўся эсэсавец.

— Не, вядома. Прашу.

Гэта быў штурмбанфюрэр Рэйзе. Маёр пазнаёміўся з ім даўно, яшчэ ў далёкім сорак першым годзе, у час аперацыі пад Растовам, дзе Вольф камандаваў ротай у Клейста, а эсэсавец час ад часу зазіраў па сваіх справах у полк. Там эсэсаўца часта звалі шчаслівчыкам: казалі, усюды і ва ўсім шанцавала красамоўнаму, спрытнаму прыгажуну, сынку нейкага абутковага фабрыканта. Потым Рэйзе кудысьці знік, больш за два гады яны не бачыліся. Толькі тры месяцы назад, калі Вольф прыязджаў сюды з Барысава, выпадкова трапілася спаткацца ў Мінску. Яны тады весела прабавілі час у кампаніі афіцэраў і жанчын.

Шчасліўчык, аказалася, управіўся пабываць у Вязьме і Смаленску, невядома за што заслужыць жалезны крыж і стаць блізкім памочнікам самога генерал-камісара...

Калі паселі за стол, штурмбанфюрэр з прыхільнай і па-таварыску жартаўлівай пашанай паведаміў сваёй спадарожніцы, што маёр — баявы камандзір, амаль усю рускую кампанію — на фронце. Слухаючы гэта, Ані ківала штурмбанфюрэру і кідала на маёра позіркі, у якіх былі павага і нават захапленне.

Яна здавалася маёру вельмі прыгожай. Яму падабаліся і яе ласкавыя, жвавыя вочы, і выразныя нямецкія рысы твару, і многае іншае, што маёру і цяжка было б растлумачыць. Можа быць, уражанне хараства было асабліва моцнае таму, што Ані была не ў звыклай вачам вайсковай уніформе, а ў лёгкім, прынадным жаночым плацці.

Яна нагадвала маёру жанчын з далёкага даваеннага свету. Або тых, якіх ён сустракаў у час мімалётных водпускаў на радзіму.

Седзячы побач з ёю, маёр адчуваў сябе спачатку вялікім і нязграбным, непрыязна помніў пра тое, што ў яго скалечаны твар, душыў у сабе неслухмяную непрыхільнасць да выпрасаванага, упэўненага шчасліўчыка. З гэтай непрыхільнасцю да штурмбанфюрэра было ў маёра Вольфа разам і адчуванне перавагі, ад таго, што, у адрозненне ад шчасліўчыка, жыццё ў яго сапраўды годнае, баявое. І тое, што Ані, быў перакананы, разумела гэта, цешыла яго гонар.

Штурмбанфюрэра тут, вядома, добра ведалі. Ледзь ён уссеў за сталом, да яго пакіравала афіцыянтка, пачціва павіталася з фрэйлейн і ім, спытала, што жадаюць фрэйлейн і пан штурмбанфюрэр на вячэру.

Фрэйлейн, трымаючы далікатнымі, з манікюрам, пальчыкамі рэстаранную карту, не спяшаючыся, з годнасцю прагледзела яе. Штурмбанфюрэр заказваў сабе, не зазіраючы ў яе, нібы ўсё, што было ў ёй, ведаў на памяць. Трымаўся ён, як звычайна, ганарыста і самаўпэўнена.

Усё, што яны заказалі, хутка было на стале. Афіцыянтка спынілася поблізу, чакаючы далейшых загадаў, але Рэйзе ўладным жэстам вялеў ёй пайсці. Сам наліў каньяк у чаркі. Падняўшы сваю чарачку, зграбным, кароткім словам прапанаваў выпіць за фюрэра вялікай

Германіі. Маёр адчуў, што права на другі тост — за ім, і калі надышоў час, урачыста і рашучым тонам не так запрасіў, як загадаў узняць чаркі за вялікую Германію.

Тады настала чарга Ані. Папрасіўшы штурмбанфюрэра напоўніць чаркі, яна, пажвавелая, павесялелая, раптам з павагай і спачуваннем зірнула на маёра.

— Я хачу выпіць за франтавых салдат!..

Штурмбанфюрэр, здалося, ахвотна падтрымаў яе, паднёс сваю чарку да чаркі маёра.

— За доблесных франтавікоў!

У голасе яго маёру пачулася фанабэрыстая і нібы насмешлівая нотка, але прыкрую насцярожанасць ад гэтага растапілі ўвага і прыязны позірк Ані.

Сэрца маёра ўсцешана адгукнулася на гэты позірк. У маёра быў добры, паблажлівы настрой...

Ад таго, што вакол было чыста, і ціха хадзілі афіцыянткі, і блізка сядзела жанчына ў белай кофтачцы, і прыемна звінела шкло чарак, Вольфу здавалася, што вайна недзе далёка, што тут поўны спакой...

Радыёла, што стаяла непадалёк у прасценку між вокнаў, зажурчэла бесклапотна і пяшчотна:

Es geht alles vorüber,
Es geht alles vorbei.
Auf jedem Dezember
Folgt wieder ein Mai [1].

Ані ціха падсвіствала, весела хістала галавою з кволым і вузкім падбародкам. Вочы яе blішчалі памаладзела і мякка.

Усе неўзабаве захмялелі. Вялі бязладную гаворку. Штурмбанфюрэр яўна сумаваў, час ад часу ён блукаў важкім, фанабэрлівым позіркам па зале. Ані здавалася — ці старалася здавацца — вясёлай. Іншы раз, падпяваючы песенькам з радыёлы, яна далікатна падтрымлівала размову.

Маёр неаднойчы лавіў на сабе яе спачувальны, непрытоена цікаўны позірк. Спачатку ён браў яе ўвагу з насцярожанасцю. Маёр увесь час помніў пра сваю павязку на воку і шрам на шчацэ. Але ён усё пераконваўся, што гэтыя заганы на яго твары не толькі не бры-

---

[1] Усё адыходзіць,
Усё праходзіць міма.
За кожным снежнем
Ідзе зноў май.

дзяць яе, а выклікаюць у яе спачуванне і сімпатыю да яго. Яна не толькі не хавала, а як бы нават знарок, з выклікам выказвала цікавасць да маёра. Што да Вольфа, то яго хвалявалі і яе позіркі, і яе смех, і вузкія плечы, і зваблівая скура ў разрэзе далікатнага каўнерыка.

Яна ўсё распытвала пра фронт, пра яго дзейнасць там, пра франтавое быццё, і Вольф расказваў пра ўсё гэта з рэдкай для яго ахвотай. Маёр не мог не адгукнуцца на яе шчырую цікаўнасць і сардэчнае спачуванне.

Разуменне таго, што ён мае поспех у сяброўкі штурмбанфюрэра, хутка, аднак, стала не толькі цешыць, але і бянтэжыць маёра. Як ні тумaніў галаву, ні настройваў на грэшныя мроі хмель, маёр адчуваў, што становішча яго робіцца даволі-такі складаным.

Маёр лічыў сябе чалавекам афіцэрскай годнасці. Кодэкс гэтай годнасці, якой маёр Вольф імкнуўся трымацца ўсюды, судзіў заляцанні да жонкі ці сяброўкі таварыша як учынак брыдкі. Такімі ж не вартымі афіцэра пунктуальны маёр бачыў і занадта відныя, за мяжой прыстойнасці знакі ўвагі з іх боку. Няёмкасць, якую адчуваў маёр, была асабліва непрыемная таму, што ён бачыў: штурмбанфюрэр разумее сэнс дачыненняў, што з'явіліся між ім, Вольфам і Ані. Разумее, улавіў, хоць і ўвесь час сядзіць нібы з выразам нуды і ўсё блукае вачыма па зале.

Зрэшты, у адносінах між Ані і Рэйзе было штосьці дзіўнае, незразумелае маёру. Як ні мала ведаў ён іх, у яго было такое адчуванне, што ў іх нібыта няма вялікай згоды ці моцнага сяброўства. Можа быць, думалася яму, яны надакучылі адно аднаму ці выпадкова апынуліся тут разам. Сустрэліся выпадкам і зайшлі.

Спакваля маёр даведаўся, што яны калісьці разам вучыліся ва універсітэце, што Ані тут, аднак, працуе не з ім, а ў нейкай мясцовай нямецкай газеце.

Яшчэ з мінулых сустрэч маёр ведаў, што ў штурмбанфюрэра ёсць адна агідная якасць. Калі вып'е добра, ён пачынае задзірацца, злосна насміхаецца з іншых. Часам нават здзекуецца. Можна сказаць, адкрываецца ў сапраўдным сваім вобліку.

— Наколькі я разумею,— загаварыў ласкава Рэйзе,— маёр накіроўваецца на ўмацаванне тылавых служб?..

Маёр спахмурнеў: штурмбанфюрэр зачапіў вельмі балючае ў яго душы. Зачапіў, пэўна, не выпадкова, аднак выраз у штурмбанфюрэра быў самы лагодны, нават сяброўскі.

— Наколькі я таксама помню,— працягваў ён павольна, выразна,— маёр лічыў, што тылавыя службы кепска спраўляюцца са сваімі абавязкамі. Ён нават абвінавачваў тылавыя службы за няўдачы арміі на фронце...

Маёр наогул не любіў размоў палітычнага характару і разумеў, што штурмбанфюрэр, можа, і незнарок, падбівае яго на небяспечную размову. Але разам з тым маёр быў і чалавекам прамым і рашучым, не любіў баязлівых размоў. Да таго ж побач была і ўважлівая да яго жанчына, неабыякавая яму.

— Так, я лічу,— загаварыў ён цвёрда,— што ў многіх нашых паражэннях вінаваты тылавыя службы, якія не забяспечылі войскам надзейнага тылу...

Ён прыкмеціў, што адказ яго не толькі не збянтэжыў, а нібы ўзрадаваў штурмбанфюрэра. Рэйзе ласкава ўсміхнуўся.

— Але, пан маёр цяпер мае ўласны вопыт умацавання тылу арміі. Нам вядома, што пан маёр гераічна дзейнічаў у аперацыі «мокры мяшок». І не без поспеху. Значная тэрыторыя раёна партызанскіх дзеянняў ачышчана ад бальшавіцкіх банд...— Ён прыпыніў гаворку, тварам паказаў смутак: — На жаль, павінен паведаміць пану маёру, што ачышчаная ад банд тэрыторыя зноў заварушылася... Там зноў пачаліся партызанскія акцыі... Але мы спадзяваемся,— па-сяброўску ўсміхнуўся Рэйзе,— што паяўленне ў нашых шэрагах баявога афіцэра ўмацуе нашы тылавыя службы. У нас будзе цяпер надзейны тыл.

Маёр ледзь даслухаў да канца гэту, можа, і незласлівую, балбатню. Адчуваючы, як у скроні б'е кроў, ён цвёрда, са стрыманай лютасцю выказаў:

— Гэта — дасціпна. Але я прашу спыніць гэтыя жарты.

Штурмбанфюрэра, падобна, здзівіла злосць маёра. Паблажліва ўсміхаючыся, ён па-сяброўску папракнуў:

— У цябе, Вольф, няма пачуцця гумару.

Маёр адрэзаў нямірна:

— Мне не падабаецца падобны гумар!

Штурмбанфюрэр з паблажлівай жа ўсмешкай са-

ступіў: не падабаецца — не будзе жартаваць. Вольф з прыкрасцю падумаў: і тут гэты спрытны шчаслівчык як бы вышэй аказаўся.

Але разам ён прыкмеціў: у вачах Ані, што пазіралі на яго, былі павага, нават захапленне.

Яе позірк астудзіў гнеў маёра. Ён мірна глядзеў, як штурмбанфюрэр налівае яму ў чарку каньяк, павёў сваю чарку насустрач яго.

Зноў пілі. Штурмбанфюрэр запрасіў Ані танцаваць, яна ахвотна ўзнялася. Маёр сядзеў адзін за сталом і адчуваў сябе адзінока. Ён яўна раўнаваў да Ані. З прыкрасцю на сябе думаў пра тое, што выдумаў, нібы яна мае да яго нейкую прыхільнасць.

Як яна можа мець якую-небудзь прыхільнасць да яго, наогул непрыгожага, ды яшчэ знявечанага вайной. У ім абудзілася заўсёдная недаверлівасць да жанчын, самых, як ён лічыў, ненадзейных істот на зямлі.

У ім была затоена злосць, калі ён, з рашучым выглядам выцягнуўшыся за сталом, пакланіўся ёй, запрасіў танцаваць. Але калі яна адразу ж згадзілася, калі ён улавіў у вачах яе ахвотную згоду, непрыхільнасць да жанчыны растала ўраз. Ён быў зусім задаволены, калі яна аддана прытулілася да яго, паслухмяна заслізгала па паркеце, чулая да кожнага яго руху. Не тлумачачы нічога, яна раптам шапнула яму: «Вы — малайчына!», і ён з гонарам зразумеў, што гэта — пра яго адказ Рэйзе.

Танец з ёю вярнуў маёру ранейшы добры настрой.

Калі сядзелі зноў за сталом, штурмбанфюрэр, што ўжо неаднойчы паглядаў на ручны гадзіннік, заклапочана аб'явіў: час збірацца. Яму трэба было кудысьці ісці. Ані кіўнула яму: час, узняла свой фужэр з вінам. Збіралася, не інакш, таксама ісці.

— Зрэшты, ты ж можаш застацца,— сказаў раптам велікадушна штурмбанфюрэр.— Нашто табе траціць вечар праз службовыя клопаты нейкага знаёмага. Маёр, спадзяюся, правядзе цябе.

Ён зірнуў на маёра.

— Я што ж, я гатоў,— заявіў маёр, нібы пачуўшы баявы загад.

— Так, бадай, я яшчэ пабуду...— рашыла Ані, здалося маёру, нібы просячы прабачэння.

Штурмбанфюрэр даў знак афіцыянтцы падысці,

различыўся. Па-сяброўску развітаўся і хутка, заклапочана закрочыў да дзвярэй.

Удваіх яны нейкі час маўчалі. Маёр неспадзявана страціў усю сваю красамоўнасць. Адчуў зноў сябе грамозным, нязграбным, успомніў пра злую павязку на вачах. Моўчкі пілі.

Ані пра нешта зацята думала, і яму хацелася ўведаць, пра што.

— Нешта,— першая не вытрывала яна цішыні,— рускія не ў меру разляталіся... Ніводнай ночы спакойнай... А мы — у рэстаране...

Вольфу захацелася супакоіць яе:

— Сёння нічога не будзе.

Усё-такі Ані сядзела неспакойна. Радыёла спявала вясёлую песню, але гэтая песня, відаць, яшчэ больш узварушвала ў Ані неспакой.

Раптам песня абарвалася на паўслове, і не паспеў заціхнуць апошні акорд, як з рэпрадуктара пачулася трывожнае: «Ахтунг, ахтунг!..» На дварэ маркотна і цягуча завыла сірэна.

— Ну вось! Пачынаецца! — Ані ўскочыла і на высокіх абцасах кінулася да выхада. Маёр заспяшаўся ўслед. Ля гардэроба яна кінулася да вешалак, схапіла свой плашч.

— Тут — бамбасховішча,— сказала яна задыхана.

Калі яны выбеглі на двор, самалёты былі ўжо недалёка. У небе скрыжоўваліся, мітусліва бегалі доўгія прамяні пражэктараў. Ударылі гучна зenіткі.

Усе кіравалі да бункера з чорным уваходам. Туды падалася і Ані, усё трымаючы плашч у руцэ. Маёр затупаў услед. Выхапіў з кішэні ліхтарык, у сховішчы, калі спускаліся, стаў падсвечваць ёй.

У скляпенні было змрочна і цяжка тхнула сырой зямлёй. Нацята прыслухоўваючыся да выбухаў недзе ўгары, да штуршкоў зямлі, Ані заўважыла каля нагі дзіўны прытоены камяк. Яна кранула яго наском туфля і віскнула з агідай: гэта быў пацук!

«Фі, якая брыдота!» — Ані, гідліва моршчачыся, штурхнула яго. Пацук неахвотна адпоўз.

Час цягнуўся страшэнна марудна, а бамбёжка ўсё не сціхала.

Ані пачала была зноў насвістваць мелодыю песні пра тое, што пасля кожнага снежня надыходзіць май, але хутка абарвала свіст. Якая нуда сядзець так!..

— Калі гэта ўсё скончыцца! — зазлавала яна, тулячы падбародак у каўнер плашча.— Божа мой, як гэта доўга цягнецца!

— Хутка скончыцца,— супакоіў яе маёр.

Яна туліла падбародак у каўнер і зацята, нездаволена маўчала.

Калі Вольф ■ ёй выбраўся нарэшце з падзямелля на двор, яна зашпіліла плашч, нізашто не захацела ісці назад у рэстаран.

— Хопіць на сёння! Лепш правядзіце дамоў,— папрасіла яна.— Я недалёка — на Камандатурштрасэ...

Так немцы называлі вуліцу Карла Маркса. Вольф нязграбна ўзяў яе пад руку, збіраючыся весці, але яна сказала, каб ён выняў пісталет з кабуры і паставіў на баявы ўзвод...

Ён паслухаўся.

— Цяпер — хадземце...

Яна гаварыла, дзе трэба ісці. Як і тады, калі танцавалі, яна тулілася да яго, але цяпер, адчуваў маёр, яна нібы прасіла ў яго заступкі. І ён гатоў быў заступіцца за яе. Але заступка не спатрэбілася. Дайшлі да яе кватэры без прыгод. Квартал, як яна і казала, быў зусім блізка ад рэстарана.

Калі сталі ля яе дома, яна спытала:

— Вы не спяшаецеся?

— Не.

— Можа быць, зойдзеце да мяне. Я адна ў пакоі...

Яна правяла маёра на лесвіцу, адчыніла ключом дзверы.

— Заходзьце...— У цемры пакоя яна сказала, як бы падбадзёрваючы сябе ці яго: — Рэйзе назваў мой прытулак: адзіночная камера.

Яна гаварыла ціха, мусіць, непакоячыся, што могуць пачуць у суседнім пакоі.

— Тут — канапа,— паведаміла яна. Знайшоўшы руку маёра, павяла яго за сабой, пасадзіла.

Яна на момант лёгка прытулілася да грудзей маёра.

— Пабудзьце са мной. Я баюся адна... Нервы штосьці!..

Маёр добра разумеў, што значыла — пабыць з ёй, пасля той блізкасці, якую ён адчуў яшчэ ў рэстаране. Яму, бадай, і цяжка было б устаць, пайсці цяпер адсюль. Але цяжка было і тут, блізка з ёй. Цяжэй, чым у рэстаране. Зноў адчуваў сябе нязграбным, нездагад-

лівым. Пэўна, больш за ўсё таму, што яму падабалася гэта выпадковая змаёмая, што адчуваў — разумная, адукаваная і нібы з іншага свету. Адно абнадзейвала: яна шукала ў яго падтрымкі, лічыла яго моцным.

— Але, штурмбанфюрэр...— сказаў ён і адразу зразумеў, што пляце глупства.

— Ах, штурмбанфюрэр...— адгукнулася яна насмешліва.— Хіба вы не зразумелі нічога? У нас ніколі нічога не было з ім сур'ёзнага... Проста я папрасіла пабавіць са мной вечар. Ён згадзіўся... У яго ёсць свая жанчына...

Некаторы час яны сядзелі на канапе. Маёр цяжка асвойваўся з нязвыклым становішчам. Нарэшце яна ўстала.

— Уладжвайцеся тут, на канапе...

Яна штосьці прынесла, паслала.

Не запальваючы святла, яна вярнулася назад да ложка, хутка раздзелася. Залезла пад коўдру.

Маёр вагаўся.

— Вольф! Што ж вы?..

— У гасцініцы будуць чакаць...

— Хто?

— З камендатуры могуць выклікаць...

— Не выклікаюць...

Ані пстрыкнула запальнічкай, закурыла. Валасы яе звешваліся, яна ўзняла белую руку, адкінула іх.

У цемры, што наступіла, калі патухла запальнічка, маёр стаў раздзявацца. Цьмяна шарэючы споднім, няўпэўнена ступаючы босымі нагамі, пайшоў на вочка цыгарэты. Яна лагодна папрасіла зачыніць зашчапку дзвярэй.

Калі яны ляжалі разам, зноў пачалася бамбёжка. Ані хацела ўскочыць, кінуцца ў бамбасховішча, але маёр вызначыў, што бамбяць далёка, утрымаў яе. Яна палахліва ціснулася да яго, нервова ўздрыгвала. Потым, калі ўжо сціхла ўсё, забілася ў істэрыцы.

— Божа мой, ці будзе канец гэтаму! Не магу больш!..

Маёру ледзь удалося супакоіць яе.

Лежачы на яго руцэ, яна расказала маёру, што ў яе быў жаніх. Таксама ў пяхоце, тут, на ўсходнім. Оберлейтэнант. Загінуў зімой сорак другога. Пад горадам Вялікія Лукі. Мастаком хацеў быць. І бацька загі-

нуў — таксама на фронце. А маці і сястра — пры бамбёжцы. Засталася толькі адна сястра. Але — колькі ёй жыць. Колькі Ані жыць? Усё загіне.

Тут жыццё кожны дзень на нітачцы. Ані ні хвіліны не ведае спакою ў гэтым страшным, праклятым горадзе. Дзе смерць сцеражэ з-за кожнага вугла. Дзе ўсе іх ненавідзяць. Дзе варварская славянская нянавісць. Якая штурхае гэтыя дзікія істоты на ўсё.

Яна, вядома, была п'яная, але ў тым, што яна казала, маёр адчуваў шчырасць. І на яго дзейнічалі гэтыя недазволеныя стогны. Яны кволілі маёра, маёр не мог пярэчыць ёй.

Знясілены, поўны спачування да яе і супярэчлівых думак, ішоў маёр ад Ані ранкам.

Перад тым як з'явіцца да каменданта, ён забег у гасцініцу. Дзяжурная, пажылая, паўнацелая немка, сказала яму:

— А мы тут, гер маёр, непакоіліся за вас. Думалі, што пад бомбу трапілі... Ці, мой бог, задушылі дзе-небудзь на цёмнай вуліцы...

2

У гэтую раніцу штурмбанфюрэр Рэйзе быў на аэрадроме. Ён суправаджаў свайго начальніка, групенфюрэра Готберга.

На аэрадроме было ціха і пуста, і ніхто б не падумаў, што тут зараз могуць адбыцца якія-небудзь важныя падзеі. Роўнае, голае, з прытаптанай дзе-нідзе травою аэрадромнае поле спакойна млела сабе пад сонцам, і такім жа спакойным здавалася і блакітнае глыбокае неба. Адзіным, што парушала спакой неба, былі два знішчальнікі, якія патруліравалі аэрадром.

А між тым дзень быў не зусім звычайны. Невялікая групка, што бавілася каля барака аэрадрома, складалася амаль уся з высокапастаўленых нямецкіх генералаў і афіцэраў на чале з самім генеральным камісарам. Генералы і афіцэры пахаджвалі, зрэдку перакідваліся словамі, часта паглядвалі ў заходні бок на небасхіл.

Чакалі прылёту спецыяльнага ўпаўнаважанага фюрэра генерал-лейтэнанта Баумволя.

Місія генерала была Рэйзе невядома, але ён разумеў, што генерал ляцеў сюды не са звычайнымі паўнамоцтвамі. Рэйзе добра ведаў генерала, ведаў яшчэ з той

пары, калі цяперашні генерал быў кіраўніком нацысцкай арганізацыі ў тым горадзе, у якім вучыўся хлапчуком будучы штурмбанфюрэр. У той час Баумволь неаднойчы збочваў да яго бацькі ў госці. Неўзабаве сябра бацькі перавялі на працу ў Берлін, і ён за некалькі год зрабіў такую бліскучую кар'еру, так падняўся, што ў доме Рэйзе гаварылі пра яго, як пра вялікага чалавека. Гаварылі, што да яго моцна прыхільны сам фюрэр.

Рэйзе вельмі цікавіла, з якімі паўнамоцтвамі ён ляціць.

Ледзь у небе з усходняга боку акрэсліліся абрысы пасажырскага самалёта, які кіраваў да аэрадрома, усе заварушыліся, узрушана загаварылі.

Нізка над аэрадромам самалёт зрабіў паўкруга і, выраўняўшы крылы, сцішыўшы маторы, пайшоў на пасадку. Калі ён падруліў да месца, дзе звычайна спыняліся самалёты, яшчэ да таго, як перасталі раўці маторы, групка, што чакала, падалася да машыны.

Па лесвічцы лёгка сышоў высокі, хударлявы, з акулярамі, у шэрым летнім паліто, генерал,— прывітаўся, выкінуўшы ўперад угару руку. Заўважыўшы сярод высокіх ваенных і цывільных чыноў Рэйзе, які стаяў са сваім начальнікам, ён затрымаў на ім позірк, засяроджана нахмурыўся, стараючыся, відаць, прыпомніць. Генерал, аднак, не запытаўся нічога.

— К машыне...— суха сказаў ён Готбергу.

Генералькамісар павёў яго да доўгай чорнай машыны, што выехала насустрач. Каля машыны ўпаўнаважаны, ужо адчыніўшы дзверцы, раптам заклапочана азірнуўся да штурмбанфюрэра і запытаўся стрымана:

— Вілі Рэйзе?..

Штурмбанфюрэр, адчуваючы на сабе агульную ўвагу, хвацкі выструніўся, адрапартаваў:

— Я, мой генерал! Штурмбанфюрэр Рэйзе.

Ён быў задаволены, што Баумволь пазнаў,— яго цешыла, што перад усімі, хто сустракаў, генерал назваў яго не афіцыйна, а па імені.

Генерал па-бацькоўску міласціва, ужо без ранейшага холаду, кіўнуў яму.

Сустрэча гэтым і закончылася. Услед за машынай генералькамісара ў горад рушыла чарада іншых машын. Праз хвіліну на аэрадромным полі нікога з тых, што сустракалі, ужо не было.

Генеральны камісар запрасіў упаўнаважанага паехаць у яго дом, і Баумволь неўзабаве быў у адным з пакояў камісарскага асабняка. Тут ён развітаўся з Рэйзе, падаўшы руку, сказаў:

— Я рад, Вілі. Бачу, што друг мой Ота мае сапраўднага сына. Спадзяюся, мы яшчэ пабачымся.

— Я буду мець гэта за чэсць, пан генерал,— адказаў з пашанай Рэйзе.

Не тоячы радасці ад увагі генерала, ён разам з тым паказваў, што добра разумее розніцу ў становішчы іх і таму асабліва шануе добрае з боку высокага госця.

Больш Рэйзе не давялося бачыць генерала ў гэты дзень.

Генерал Баумволь амаль адразу ж развітаўся і з Готбергам, аб'явіўшы гаспадару, што стаміўся і хоча адпачыць.

Ён пазваніў фон Готбергу і выйшаў да яго ўжо ўвечары.

Седзячы за сталом, вячэраючы, п'ючы віно, генерал, пасвяжэлы, са жвавым бляскам у вачах, з далікатнасцю свецкага чалавека расказваў пра берлінскае жыццё, і фрау-гаспадыня, апранутая ў багатае акса-мітнае вячэрняе плацце, са старанна ўкладзенымі і закручанымі падфарбаванымі валасамі, уздыхала, успамінаючы вялікі горад, тэатры, шумлівыя вуліцы, багатыя магазіны.

— Тут такая нуда,— паскардзілася яна, і на твары яе з'явіўся выраз капрызнага, раней пешчанага, цяпер несправядліва пакрыўджанага лёсам чалавека. Яна паглядзела на мужа, чакаючы, што ён падтрымае яе, а можа, хочучы ўведаць, як ён ставіцца да яе слоў.

Муж аб'ядаў парасячае рабро і быў, здавалася, цалкам заняты гэтай турботай. Ён, падобна было, не чуў яе слоў. Фрау-гаспадыню гэтая недалікатнасць мужа, ды яшчэ пры высокім сталічным госці, вельмі пакрыўдзіла, і яна падумала, колькі разоў ёй даводзілася чырванець за яго няўважлівасць, бестактоўнасць.

Яна наогул лічыла, што ён быў заўсёды нячулы, нявыхаваны, грубы чалавек.

— Лёс салдат! — прамовіў пачціва, са спачувальнай усмешкай госць.— Ён тут адзін — і ў мужоў, і ў іх спадарожніц.

Генерал з абыходлівасцю свецкага чалавека наліў віна ёй, потым гаспадару і сабе, падняў сіні з залатым

беражком бакальчык — за спадарожніц! Гаспадыня з удзячнай усмешкай, царскай паважнасцю, зіхкаючы каменнямі на бледных пальчыках, паднесла да яго свой бакал. Яна была проста ў захапленні ад генерала.

Гадзіне а дзесятай генерал устаў, нахіліўшы да гаспадыні галаву з зачасанымі набок радкаватымі і рудаватымі валасамі, далікатна пацалаваў ёй руку і разам з генеральным камісарам выйшаў у свой пакой.

Застаўшыся адзін на адзін з Готбергам, ён быў ужо не такім абыходлівым, усмешлівым, твар яго, шараваты, касцісты, адразу нібы асунуўся і падаўжэў. Сашчэпленыя тонкія губы і халаднаваты позірк надавалі яму выраз волі і ўнутранай сабранасці. Хоць у тым, як трымаў сябе высокі госць не было прыкметна фанабэрыі, Готберг, аднак, адчуваў да яго насцярожанасць. Можа быць, такі ўжо закон жыцця, што ўсе ўпаўнаважаныя прымушаюць адносіцца да іх асцярожліва.

— Вы задаволены Рэйзе? — запытаў раптам Баумволь, уладжваючы ў муштук цыгарэту.

— Так. Ён энергічны, дзейны.

— Здольны?

— Так.

— Я добра ведаў яго бацьку Ота Рэйзе. Ота зрабіў нам калісьці не адну паслугу...

Готберг кіўнуў галавою. Сочачы з увагай за госцем, засяроджана адказваючы, ён, аднак, адчуваў, што госць-упаўнаважаны думае не пра тое, што пытае, што ўсё гэта між іншым, гульня. Ён чакаў, што госць хутка загаворыць пра важныя рэчы, дзеля якіх прыбыў. Гаспадар нецярпліва чакаў гэтага. Але генерал з Берліна не спяшаўся. Апусціўшыся на мяккае, чорнай скуры крэсла, ён курыў, разглядваў карціну, што вісела насупраць: пейзаж з кучаравым ляском, вострымі чарапічнымі дахамі і мірным, старасвецкім пастухом са статкам авечак.

— Якая фальш! — прамовіў ён раздумліва і нездаволена.

Готберг паглядзеў на яго, не разумеючы.

— Што — фальш?

Госць непаважліва павёў рукой з цыгарэтай, што дымілася.

— Гэта — авечкі, пастух. Цішыня...

— Так, старое...

Стуліўшы вочы, адставіўшы руку з цыгарэтай, вы-

сокі госць спачываў у крэсле. Губы былі сціснуты, і твар засяроджаны, замкнёны.

— Мае паўнамоцтвы ў асноўным датычацца фронту,— сказаў упаўнаважаны пасля немалой паўзы, як бы адказваючы на маўклівае пытанне Готберга.— Аднак я маю некаторыя даручэнні і адносна вас.

Готберг адразу ажывіўся, востра зірнуў на ўпаўнаважанага. Той глядзеў на яго строга і значна.

— Фюрэр незадаволен вынікамі акцый супраць партызан,— прамовіў Баумволь няспешліва, важка.— Ён не давярае вашай інфармацыі, на яго думку, яна недастаткова аб'ектыўная. Ён лічыць, што становішча ў вас нездавальняючае. Фюрэр лічыць, што вы не ўжылі дастаткова захадаў, не праявілі належнай цвёрдасці для стабілізацыі становішча...

Генерал пастукаў муштуком аб край попельніцы, асыпаў попел.

— Актывізацыя бандыцкіх груп на нашых важнейшых камунікацыях выклікала яго рашучае нездавальненне работай тылавых устаноў на ўсходзе. Ён лічыць, што такое становішча нельга цярпець далей, што яно ставіць нашы войскі на ўсходнім фронце перад жыццёва небяспечнымі цяжкасцямі. Гэта тым больш занепакоіла фюрэра, што фельдмаршал Кейтэль у час апошняга даклада падаў абстаноўку ў тылах нашых усходніх войск у вельмі цяжкім выглядзе...

Готберг нецярпліва варухнуўся.

— Але ж у аперацыях супраць бандытаў былі скарыстаны і ваенныя сілы. Гэта не толькі мае акцыі.

На твары госця з'явіўся выраз нездавальнення. Готберг зразумеў: нездавальненне ад таго, што ён апраўдваецца.

— Адказнасць за няўдачы ў аперацыях супраць бандытаў фюрэр, натуральна, ускладае на вас...— строга прамовіў упаўнаважаны.

Ён змоўк. Маўчаў даволі доўга, прыплюшчыўшы вочы за акулярамі і аб нечым сам сабе думаючы. За дзвярамі ў сталовай чуўся звон посуду: відаць, прыбіралі са стала.

— Абстаноўка, лічыць фюрэр, патрабуе новых захадаў да таго, каб умацаваць становішча на ўсходніх землях, у тым ліку і ў Вайсрутэніі. Не трэба абмяжоўваць сябе ў сродках — карныя акцыі супраць бандытаў мэтазгодна дапоўніць іншымі захадамі, больш гнут-

кімі, дыпламатычнымі. У становішчы, якое стварылася, мы не можам абапірацца на адну зброю. Фюрэр лічыць, што вы недаацэньваеце гэтыя сродкі... Неабходна ў сувязі з гэтым, лічыць фюрэр, паскорыць афармленне самастойнасці для Вайсрутэніі. Трэба ў самы хуткі час склікаць кангрэс і аб'явіць ад імя Германскай дзяржавы яе самастойнасць. Трэба абдумаць, старанна падрыхтаваць склад урада, натуральна, звяртаючы асаблівую ўвагу на адданасць членаў урада... Гэты акт — аб'яўленне самастойнасці Вайсрутэніі — можа зрабіць належнае ўражанне на частку патрыятычна настроенага мясцовага насельніцтва...

— Мы пачалі ўжо некаторыя падрыхтоўчыя захады, генерал.

— Ад падрыхтоўчых захадаў неабходна пераходзіць да рэальных спраў. Ствараецца такое становішча, што мы не можам валаводзіцца з падрыхтоўчымі мерапрыемствамі.

На гэтым госць спыніў практычную размову. Згадаўшы, з якім неспакоем чакаў гэтай размовы, генеральны камісар панура падумаў: не, прадчуванне не ашукала яго — упаўнаважаныя заўсёды вядуць нейкую непрыемнасць у тваё жыццё. І клопаты, і непрыемнасць.

— Заўтра мне трэба спаткацца з генерал-фельдмаршалам...— сказаў Баумволь ужо іншым, больш мяккім тонам.

Хаваючы нездавальненне ранейшай размовай, фон Готберг адказаў супакойліва:

— Машыны і ахова будуць арганізаваны, генерал. На які час?

— На раніцу. Я хачу паехаць а сёмай. Дарэчы,— згадаў госць,— пашліце са мной Рэйзе...

— Штурмбанфюрэр Рэйзе будзе з вамі.

Баумволь даў знак гаспадару, што размова скончана і што ён хоча застацца адзін.

Генеральны камісар пажадаў яму спакойнай ночы, прывітаў і выйшаў.

## 3

Яны ўжо селі за стол, засланы абрусам, на якім былі пляшкі з віном, чаркі, талеркі з закускай, калі генерал-фельдмаршала папрасілі ў кабінет да тэлефона. Фельдмаршал незадаволена паморшчыўся, раздражнё-

на запытаўся, хто звоніць, і, кінуўшы на стол салфетку, устаў.

— Прашу прабачэння...

Баумволь і Рэйзе засталіся адны за сталом. Генерал, прыпершыся грудзямі да стала, прыплюшчыўшы вочы, думаў аб нечым сваім, ніжняя губа яго, рэзка акрэсленая, турботна ўздрыгвала.

— У цябе, Вілі, нездаровы выгляд,— прамовіў ён раптам, не пазіраючы на Рэйзе.

— Я адчуваю сябе добра, генерал...

— У твае гады я выглядаў лепш...— Ён усім тулавам павярнуўся да штурмбанфюрэра, вочы за шкельцамі акуляраў зірнулі на Рэйзе дзіўна пільна.— Жанчыны, напэўна, вінаваты.

Ён не даў адказаць Рэйзе.

— Жанчыны небяспечна зношваюць мужчыну. Ты малады і яшчэ не можаш ведаць, як дорага мы плоцім за мімалётныя ўцехі. Яны бяруць у нас многа сілы і многа часу, якія разумней было б скарыстаць на іншыя, значныя справы...

— Сплю мала, мой генерал. Неспакойна начамі...

Генерал коратка бліснуў шкельцамі акуляраў.

— Рускія самалёты?

— Так. Яны наведваюцца ў апошні час са здзіўляючай настойлівасцю. Вам пашанцавала, генерал, мінулая ноч — адна з нямногіх ціхіх начэй... Мы адвыкаем спаць...

— У Германіі, Вілі, цяпер таксама многа людзей, якія развучыліся спаць па начах. Так, развучыліся... Я адпачываю па-сапраўднаму, калі выбіраюся з Берліна ў вілу...

Ён устаў, падышоў да краю веранды і пачаў разглядаць садок, што падступаў да фельдмаршальскага асабняка з гэтага боку. Садок быў невялікі, усяго некалькі дрэваў. Між дрэваў жаўцела роўная дарожка, пасыпаная пясочкам, а перад самай верандай пярэсціў кветкамі добра дагледжаны газон.

Пачуўшы, што фельдмаршал вярнуўся, Баумволь азірнуўся да яго:

— Вы, аказваецца, любіце кветкі?

— Так.

— Гэта добра. Кветкі надаюць чалавечаму жыллю ўтульнасць і — як бы гэта сказаць...— гаспадарскі выгляд. Адчуваецца, што не госць, а гаспадар жыве...

— Я ўсюды адчуваю сябе гаспадаром,— лаканічна адказаў фельдмаршал.

Ён наліў віна і прапанаваў выпіць за фюрэра. Пасля гэтага ён не надта гасцінна змоўк, адно падкладваў і падкладваў сабе ў талерку ды жаваў.

— Я ўчора яшчэ раз адчуў, як наблізіўся ўсходні фронт да Германіі,— першы загаварыў Баумволь.— Ад Берліна тры гадзіны лёту — і фронт. Мінск — гэта ўжо фронт.

— Так, фронт,— згадзіўся фельдмаршал.

— Але ж гэта не самая блізкая адлегласць. Тут наша лінія фронту выдалася значна на ўсход... Мы стаім перад вялікай пагрозай. Пагроза гэтая ўжо амаль каля граніц Германіі.

— Так, яна падступіла да германскіх граніц...

— Пагроза,— разважаў генерал,— яшчэ ніколі не была такой рэальнай, такой трывожнай. Гэтае адчуванне пагрозы цяпер у Германіі ўсюды. Уся Германія насцярожана чакае, прыслухоўваецца. Прыслухоўваецца да гулу бамбардзіроўшчыкаў, чакае, што будзе на ўсходзе, дзе вялізная руская армія тоіць невядомыя планы... Настала пара, калі свет павінен убачыць веліч германскага духу.

— Так, Германія павінна зноў заявіць пра сваю веліч,— згадзіўся спакойна фельдмаршал.

Рэйзе не ўмешваўся ў іх гаворку. Ён толькі слухаў, паглядваючы то на аднаго, то на другога, прафесійным вокам адзначаючы сабе іх дачыненні. Фельдмаршал, хоць і выказваў генералу-ўпаўнаважанаму ўсе знакі пашаны, разам з тым трымаўся сухавата, нават самаўпэўнена, як чалавек, які перакананы ў сваёй сіле, у сабе. Стары, заслужаны ваенны, ён, адчуваў штурмбанфюрэр, у душы звысака адносіўся да генерала, які, атрымаўшы вялікае званне, не меў належных для гэтага звання ваенных заслуг. Партыйныя заслугі Баумволя для фельдмаршала значылі, напэўна, вельмі мала.

Фельдмаршал, аднак, падобна было, пабойваўся ўпаўнаважанага,— недарма ён трымаўся насцярожана і часцей лічыў за лепшае паслухмяна згаджацца ці гаварыць аптымістычныя ісціны. Баумволь таксама адчуваў халаднаватасць камандуючага, і Рэйзе заўважаў, што генерал стараўся плаціць тым, што атрымліваў. Ён адносіўся да фельдмаршала таксама і ветліва, знешне, і холадна, высакамерна, у душы.

— Якія вашы меркаванні пра нашы перспектывы на лета? — запытаўся ўпаўнаважаны, падліваючы ў шклянку з чорным кофе каньяку.

— Я ўжо дакладваў фельдмаршалу Кейтэлю...— стрымана, раздумліва пачаў камандуючы.

Ён коса глянуў на Рэйзе, і Баумволь, перахапіўшы гэты позірк, папрасіў штурмбанфюрэра пакінуць іх адных. Рэйзе, пачырванеўшы, падняўся.

Яны засталіся ўдвух — упаўнаважаны і фельдмаршал Буш, камандуючы групай армій «Цэнтр».

Фельдмаршал выцер руку аб салфетку, паклаў яе. Памаўчаў.

— Я думаю, што найбольш небяспечны для нас правы фланг. Ковельскі ўступ, дзе рускія зрабілі глыбокі клін пад аснову «балкона». Варта рускім зламаць абарону ў раёне Ковеля, і «балкон» можа страціць устойлівасць. Група «Цэнтр» можа апынуцца ў цяжкім становішчы...

— «Балкон» можа абваліцца? — Генерал быў увесь засяроджаны і заклапочаны. Ён патрабаваў цвёрдага адказу.

— Можа стварыцца вельмі цяжкае становішча,— важка, з націскам сказаў Буш.

Баумволь уздыхнуў, паведаміў:

— Фельдмаршала Кейтэля таксама непакоіць Ковельская яма.

Агульны неспакой як бы зблізіў іх. Гэта блізкасць чулася і ў доўгай паўзе, што настала пасля размоў аб небяспецы з боку Ковеля.

— Фюрэра турбуе,— загаварыў генерал даверна і значна,— дзіўнае маўчанне рускіх у вашым раёне. Ужо сярэдзіна чэрвеня, фельдмаршал, а рускія маўчаць. Гэта маўчанне, на думку фюрэра, павінна насцярожваць нас.

— Па нашых разліках, яны даўно павінны былі пачаць спробы наступаць...

— Што гаворыць разведка? Ёсць доказы таго, што рускія рыхтуюцца?

— Гэта тое, што нас, натуральна, найбольш цікавіць. Мы вядзем няспынную разведку па ўсім фронце, выкарыстоўваючы ўсе сродкі. Сочым уважліва за ўсімі рускімі радыёперагаворамі, за ўсімі зменамі ў войсках. Асабліва пільна мы вызначаем, дзе пачынаецца кан-

цэнтрацыя войск. Мы выявілі, што рускія па-ранейшаму трымаюць вялікія танкавыя злучэнні небяспечна блізка ад Ковельскага кліна. На ўсходнім участку фронту, па нашых вестках, у рускіх звычайнае жыццё. Ніякіх сур'ёзных фактаў за тое, што яны маюць намер тут у бліжэйшы час наступаць. Выяўлена нават, што рускія ўсцяж усяго фронту капаюць акопы... Але мы, вядома, не можам думаць, што рускія будуць і надалей пасіўнымі. І на ўсходзе, і асабліва — ля Ковеля.

— Так, рускія не могуць адмовіцца ад спроб зламаць «балкон». Гэта аксіёма.

— Бясспрэчна. Наступлення іх трэба чакаць, і, магчыма, у бліжэйшы час. Самае важнае, што нас цікавіць і чым займаецца разведка,— гэта — адкуль яны паспрабуюць ударыць і — калі. Мы гэтага не ведаем... Нам прыходзіцца, генерал, распыляць сілы, размяркоўваючы па ўсім фронце...

— Так,— згадзіўся генерал,— у наступаючых ёсць адна бясспрэчная перавага: яны могуць выбіраць. Збіраць войскі ў кулак і выбіраць месца для ўдару...

— Наша лінія фронту празмерна расцягнута...— заклапочана сказаў, амаль паскардзіўся Буш. Ён з надзеяй зірнуў на генерала:— Стаўка не мяркуе выдзеліць для нас яшчэ войск?

— Мы ўжо знялі з захаду некалькі дывізій, фельдмаршал. Яны тут, на ўсходзе. Мяне прасілі напомніць вам, што сюды аддадзены лепшыя дывізіі, цвет германскай арміі...

— Я гэта ведаю.— Фельдмаршал Буш нездаволена ўнурыўся ў сябе: яму яўна не спадабалася павучальная манера гаворкі ўпаўнаважанага.

Баумволь ці не заўважыў, ці зрабіў выгляд, што не заўважыў нездаволенасці фельдмаршала. Тым жа цвёрдым, павучальным тонам працягваў:

— Фюрэр надае вельмі важнае значэнне дзеянням групы «Цэнтр». Вынікі вашых аперацый, фельдмаршал, будуць мець не толькі ваеннае, але і палітычнае значэнне. У гэты адказны час у вялікай меры ад вас залежыць прэстыж Германскай дзяржавы. Крушэнне будучага рускага наступлення павінна значна ўмацаваць аўтарытэт Германіі, умацаваць нашы палітычныя пазіцыі...

На веранду раптам уварвалася хваля дужага ветру,

сыпнула на беласнежны абрус пяску, збіла на падлогу салфетку генерала.

Фельдмаршал нецярпліва паморшчыўся. Ён гукнуў салдата, які прыслужваў за сталом, той ураз уляцеў на веранду, выцягнуўся, гатовы да ўсяго.

— Пясок. Салфетка,— павёў вачыма фельдмаршал, і салдат кінуўся змятаць пясок са стала. Праз момант ён прынёс чыстую салфетку.

Пакуль усё гэта адбывалася, генерал назіраў: дрэвы ў садзе пад парывамі ветру хісталіся. Вецер тузаў, гнуў галлё.

Калі салдат выйшаў, Баумволь адарваў позірк ад саду, недаверліва азірнуўся.

— Нас не могуць чуць?

Фельдмаршал пакруціў галавою.

— Я маю ўказанне паведаміць вам важную вестку,— упаўнаважаны наваліўся грудзямі на стол, наблізіў твар да фельдмаршала.— Вестка, якую я павінен паведаміць вам, мае дзяржаўнае значэнне і таму, як вы разумееце, павінна быць у найстрогім сакрэце...— Вельмі зацікаўлены, фельдмаршал кіўнуў: натуральна, ён разумее. Баумволь пачаў глуха і важка выказваць сапраўды надзвычайнае:— Берлін мае намер пачаць сакрэтныя перагаворы з Лонданам і Вашынгтонам. У нас, лічаць, ёсць сур'ёзныя шансы дамовіцца. Англа-саксы, вядома, будуць выгадваць, прынюхвацца...— Таямнічасць і недагаворлівасць, з якой Баумволь паведамляў гэта, як бы яшчэ ўзмацнялі значэнне весткі:— Наш поспех там будзе залежаць у вялікай меры ад вашых поспехаў тут, разумееце?

Вельмі ўзрушаны, фельдмаршал уважліва глядзеў на генерала, нібы не мог адразу ўсвядоміць усё пачутае. Але твар яго ўжо свяціўся ад уцехі.

— Вы гаворыце вельмі цікавыя рэчы, генерал...

Генерал быў яўна задаволены ўражаннем, якое зрабіў на камандуючага.

— Больш я не магу пакуль сказаць. Павінен толькі паведаміць, што пра дзяржаўную тайну, якую я вам адкрыў, ведаюць толькі некалькі чалавек... Час мяняецца,— прамовіў ён іначшым тонам,— калісьці генералам трэба было ведаць толькі ваенную справу. Цяпер ім належыць быць і палітыкамі.

Упаўнаважаны, ледзь падняўшы куточкі тонкіх губ, усміхнуўся. Фельдмаршал не адказаў на яго

ўсмешку,— камандуючы ўсё думаў над пачутай весткай.

Усмешка амаль адразу ж сышла з твару генерала, заклапочана, патрабавальна ён спытаў:

— Што вы можаце, фельдмаршал, сказаць пра назначэнне рускімі генерала Чарняхоўскага?

— Пакуль амаль нічога,— адарваўся ад сваіх думак фельдмаршал,— акрамя таго, што Чарняхоўскі — малады, энергічны генерал. Ён, як лічаць рускія, добра праявіў сябе пад Кіевам. Зрабіў маланкавую кар'еру. Відаць, рускія ўскладаюць на яго нейкія свае надзеі...

— Ці не значыць назначэнне маладога, энергічнага генерала, што рускія не збіраюцца тут сядзець?

— Можа быць... У маладосці многа энергіі, але звычайна недастаткова вопыту... У іх ёсць Ракасоўскі, на паўднёвым флангу. Мяне асабіста больш непакоіць Ракасоўскі. Гэта вельмі вопытны, небяспечны працаўнік...

— Ракасоўскі — так, небяспечны,— згадзіўся Баумволь.

Ён устаў, абцягнуў мундзір, павярнуўся к саду за верандаю. У гэты час вецер, падняўшы ў садзе пыл і пясок, зноў уварваўся на веранду, дыхнуў у твар Баумволя халадком. Генерал мімаволі прыжмурыў вочы за акулярамі. Зірнуўшы ў той бок, адкуль уляцеў вецер, дзе зашумелі дрэвы, заўважыў, што за садам на белавата-мутнае воблачнае неба наплывае сіняя, панурая, з чорнымі краямі і дном, важкая шырокая хмара.

— Навальніца, відаць, збіраецца.

Фельдмаршал таксама паглядзеў на неба.

— Так, збіраецца...

## 4

Лейтэнанту Клямту выпала ў той вечар спаткацца з высокімі генераламі.

Ён ужо амаль цэлы месяц жыў на непрыкметным, мокрым астраўку, акружаным балотамі, куп'ём, асакою. З астраўка былі добра відаць іншыя сухія астравы, лінія магістралі. На астраўках і абапал магістралі размяшчаліся суседнія роты, камандны пункт батальёна. Усцяж магістралі дзе-нідзе віднеліся пашчапаныя, пахіленыя і перабітыя тэлеграфныя слупы.

Магістраль амаль увесь час то абстрэльвалі, то бамбілі, і лейтэнант на сваім мокрым астраўку не зайздросціў тым, каму выпала жыць на сушы.

Лейтэнант убачыў генералаў не ў сябе на астраўку, а ў камандзіра батальёна. Пра іх прыезд і лейтэнант і батальённы даведаліся ўжо тады, калі высокае начальства выправілася са штаба палка. Батальённы, рослы, негаваркі баварац, што сядзеў у сарочцы, паспешліва ўсцягнуў на плечы мундзір і загадаў салдату прыбраць у памяшканні. Сам ён таксама кінуўся рабіць парадак. Па тым, як ён паводзіў сябе, лейтэнант бачыў, што сустрэча, якая мелася быць, яго моцна ўсхвалявала. Прыбраўшы ў бліндажы, батальённы, пакрыху спакайнеючы, стаў званіць у роты: загадваў праверыць, ці ўсё ў парадку. Ён, аднак, не адкрываў прычыны сваёй трывогі.

Толькі калі даў загады, ён паведаміў лейтэнанту, што сказалі яму са штаба. Паведаміў адным словам:

— Фельдмаршал!

Ён, падобна, быў задаволены і з цікавасцю чакаў прыбыцця незвычайных гасцей. Праўда, пра гэта лейтэнант мог толькі здагадвацца, бо баварац быў чалавекам скрытным і выглядаў ужо, як звычайна, спакойным.

Батальённы спаткаў генералаў з такім спакоем і такой упэўненасцю, што лейтэнант, чалавек таксама не бянтэжлівы, проста падзівіўся з яго. Вельмі выразна, без запіначкі далажыў баварац, што належала па статуту, з гатоўнасцю і разам з тым з годнасцю стаў адказваць на пытанні. Ён умеў выказаць і вялікую пашану да высокіх гасцей і не панізіць сябе.

Лейтэнант заўважыў, што камандзір дывізіі, строгі і прыдзірлівы, быў задаволены абыходжаннем і паводзінамі баварца.

Незнаёмы Клямту генерал-лейтэнант раптам бліснуў акулярамі ў бок ротнага, што моўчкі, не варушачыся, амаль не дыхаючы, назіраў ды слухаў,— запытаўся пра яго пасаду.

Баварац адказаў, і генерал павярнуўся да лейтэнанта:

— Дзе ваша рота?

Лейтэнант сказаў, што рота размяшчаецца праз пяцьсот метраў адсюль.

— Вы правядзеце нас,— прамовіў генерал такім

тонам, што нельга было зразумець, просіць ён ці загадвар. Генерал зірнуў на фельдмаршала: — Я спадзяюся, пан генерал-фельдмаршал, што вашы намеры супадаюць з маімі?

— Так, вядома...

Фельдмаршал ледзь нахіліў галаву. Генерал з выглядам чалавека, які рашыў не марнаваць часу, загадаў лейтэнанту весці ў роту, адступіў убок, нібы даючы дарогу. Побач з генералам выструніўся, гатовы зараз жа рынуцца за ім, стройны, прыгожы штурмбанфюрэр з генеральскай аховы.

Але баварац асмеліўся запыніць генерала і фельдмаршала. Пачціва і разам рашуча заявіў высокім гасцям, што ісці на востраў не трэба.

На твары генерала з'явіліся здзіўленасць і нездавальненне.

— Чаму?

Баварац выразна кіўнуў на лейтэнанта, на яго боты і штаны.

— Балота, пан генерал.

Генерал — гэта быў Баумволь — павёў позіркам туды, куды паказваў баварац, убачыў, што лейтэнант мокры амаль да пояса. Лейтэнант выціраў боты і штаны, але на іх усё ж прыкметны былі плямы балотнай гразі. Відаць, генерал усё-такі не спыніўся б, але камандзір дывізіі выказаў думку, што ўчастак абароны, размешчаны на востраве, мала цікавы, і, мусіць, імення гэта было прычынай таго, што ўпаўнаважаны змяніў свой намер.

— Вы проста ў балоце ўмацаваліся? — пацікавіўся генерал у лейтэнанта, які стаяў у струнку, чакаў загаду ісці.

— Так, сярод балот, пан генерал. На маленькім востраве...

Генерал паглядзеў на яго са спачуваннем.

— А-а...

Камандзір дывізіі паведаміў, што амаль трэць дывізіі сядзіць у балоце, у вадзе. Узрушаны ўвагай і высокай пашанай, лейтэнант адчуў патрэбу выставіць годным чынам сябе, сваіх таварышаў, падтрымаць камандзіра дывізіі. Выбраўшы момант, калі госці прымоўклі, не ведаючы, што дзеяць далей, лейтэнант мужна і смела заявіў, што хоць і кепска жыць на балоце, затое і рускім будзе з ім многа клопату.

— Многа клопату! — паўтарыў ён з асаблівым сэнсам. Нібы радуючыся і запрашаючы далучыцца да яго радасці.

Генерал усміхнуўся,— праўда, скупавата, стрымана, але ўсміхнуўся. Відаць, меркаванне лейтэнанта яму спадабалася. Фельдмаршал з павагай, з ухвалай прамовіў:

— Гэта слова салдата.— Фельдмаршал пацікавіўся: — Вы былі салдатам?

— Яволь, гер фельдмаршал [1].— Лейтэнант нават прыўзняўся на насках, выцягваючыся перад фельдмаршалам.

— Я таксама...— па-таварыску паведаміў пан фельдмаршал.

Узварушаны бадзёрасцю і заявай лейтэнанта, расчулены раптоўнай блізкасцю да таго часу, калі сам быў такім жа лейтэнантам, пан фельдмаршал усхвалявана павярнуў сухі маршчыністы твар да генерала.

— Я заўсёды захапляюся германскім салдатам. Яго мужнасцю і яго гатоўнасцю да любых ахвяр у імя айчыны.

— О, так.

Лейтэнант пачуў словы фельдмаршала як пахвалу сабе. Стоячы ў струнку, ён сачыў то за фельдмаршалам, то за генералам, усім выглядам сваім выказваючы адданасць, гатоўнасць выканаць любы загад. Аднак у позірку лейтэнанта была і прытоеная цікаўнасць, асабліва вострая ад адной пільна схопленай ім акалічнасці. Лейтэнанта вельмі інтрыгавала тое, што генерал, хоць і быў званнем значна ніжэй за фельдмаршала, абыходзіўся з ім, як роўны з роўным. Лейтэнант здагадваўся, што гэта нейкая важная асоба.

Генерал быў настроены зусім не лагодна. Лейтэнант адзначыў, што і яго словы генерала не расчулілі так, як пана фельдмаршала. Твар генерала быў лядзяны, і вочы з-за шкельцаў акуляраў глядзелі строга, патрабавальна.

— Як вядуць сябе рускія? — працяў лейтэнанта жорсткі позірк.— Не збіраюцца наступаць?

Лейтэнант чула ўлавіў, што пытанне гэтае генерал сказаў зусім інакш, чым пытанне пра балота, ён адразу зразумеў, што генерал чакае сур'ёзнага, дзелавітага ад-

---

[1] Так, пан фельдмаршал.

казу. Лейтэнант сабрана задумаўся, што сказаць. Але думкі не ішлі.

Лейтэнант пастараўся схаваць няпэўнасць сваю. Ведаў, што трэба выказваць ранейшую рашучасць.

— Яны спрабавалі наступаць, пан генерал, але ім не ўдалося. Яны цяпер маўчаць...

— Маўчаць...— Лейтэнант заўважыў: генерал быў яўна нездаволены адказам. Тонкая губа яго нават нецярпліва смыкнулася.— Колькі яны будуць маўчаць?

— Гэта пакуль невядома, пан генерал! Мы захапілі некалькі палонных, але яны ўпарта гавораць, што ў рускіх ціха...

— Вы іх добра дапыталі? — Генерал бліснуў акулярамі на камандзіра дывізіі.

— Добра, пан генерал.

Пан генерал нечакана катэгарычна запярэчыў:

— Не, дрэнна!

У бліндажы стала вельмі ціха.

— Сярод іх павінны былі быць тыя, якія ведаюць патрэбныя нам весткі. Павінны быць! Мы павінны ўзяць гэтыя весткі! — У голасе генерала была такая сіла, што лейтэнант ды і іншыя ў бліндажы замерлі. Вочы генерала пераходзілі з твару на твар, загадвалі, патрабавалі. Голас яго быў цвёрды і поўны гневу, калі ён загаварыў зноў: — Ніякай літасці! Гарачым жалезам выцягваць! Гарачым!

Ён раптам гукнуў:

— Штурмбанфюрэр Рэйзе!

Тонкі, сціснуты поясам штурмбанфюрэр гатоўна выцягнуўся перад ім.

— Займіцеся палоннымі! Пагаварыце вы!

— Яволь, гер генерал! — Штурмбанфюрэр, здавалася, гатоў быў зараз кінуцца выконваць загад. Ён нагадваў каршуна, які нарыхтаваўся ўчапіцца ў здабычу.

Лейтэнант ужо з непакоем чакаў, што яшчэ зажадае даведацца і што загадае пан невядомы генерал, але генерал павярнуўся да камандзіра батальёна і сказаў, што хоча пазнаёміцца з абарончымі збудаваннямі.

Калі генералы вярталіся з батальёна ў тыл, было ўжо за поўнач. Пярэдні край, які заставаўся ззаду, праводзіў іх дрымотным спакоем,— толькі кулямёт, ні-

бы спрасонку, ускінуўся, залапатаў, але, пераможаны цішынёю, адразу змоўк.

Фельдмаршал, што ішоў побач з панам упаўнаважаным, між раскіданай, ірванай размовы пацікавіўся, якое ў цэлым ураженне зрабілі на генерала абарончыя збудаванні. Баумволь яшчэ раней заўважыў, што фельдмаршал ганарыцца гэтым, і генерал, якога раздражняла самаўпэўненасць, прытоеная непашана старога ваеннага, адчуў, што яму хочацца сказаць камандуючаму непрыемнае. Ён адказаў стрымана:

— Я лічу, што збудаванні — нядрэнныя. Нашы інжынеры, відаць, не патрацілі марна гэтую вялікую перадышку ў баях.— Ён знарок адзначыў, што стварэнне абарончых збудаванняў лічыць заслугай інжынераў. Ведаючы, што фельдмаршалу такое тлумачэнне будзе яўна не да спадобы, ён адзначыў гэта нібы выпадкова, не паказваючы сваёй узлаванасці. Тым самым ён надаваў сваім словам і спакой аб'ектыўнасці, і рабіў стрэмку тонкай і чулай спадарожніку. Нібы абыякава, паведаміў: — У мяне, натуральна, ёсць некаторыя заўвагі. Але я іх выкажу пазней, калі стане больш відным агульны абсяг. Я не хачу паўтарацца... Як гэта сказаў камандзір роты,— згадаў ён будзённым голасам,— пра рускіх? Пра балоты?

— «Яны будуць мець многа клопату», пан генерал,— падказаў камандзір дывізіі.

— Так, многа клопату! Ім, вядома, будзе многа клопату і з нашымі інжынерамі. Са збудаваннямі нашых інжынераў. Трэба толькі, каб дух салдат, якія займаюць іх, быў такі ж моцны, як гэтыя збудаванні...

— Нашы салдаты, пан генерал, заўсёды былі стойкімі ў абароне.— Баумволь з ціхім задавальненнем адчуў, што разлік яго быў правільны: фельдмаршалу яўна не спадабалася яго стрэмка.

Маўклівы, пануры, камадзір дывізіі сказаў, што яго дывізія гэтыя збудаванні пакіне толькі па загаду.

— Яна не павінна пакідаць іх ні ў якім разе! — раптам рэзка, нібы робячы камандзіру дывізіі вымову, заявіў генерал.

— Дазвольце, пан генерал...— асцярожна паспрабаваў растлумачыць непаразуменне камандзір дывізіі.— Я сказаў: толькі па загаду...

— Такога загаду не будзе,— адрэзаў суха пан упаўнаважаны.

Некалькі хвілін ішлі моўчкі. Побач генерал-упаўнаважаны чуў цяжкае сапенне фельдмаршала.

— Балоты... гэта вельмі добра,— прамовіў Баумволь прымірэнча, ужо амаль без помслівай зласлівасці да фельдмаршала.— Самім богам, здаецца, яны тут прызначаны для нас...

Фельдмаршал не адказаў. У твар ім раптам ударыла парывам моцнага халоднага ветру, і фельдмаршал схапіўся за фуражку, каб не сарвала. Пан упаўнаважаны набычыўся, падняў каўнер летняга генеральскага паліто, полы якога прыліплі да ног, нібы стрыножыўшы, замінаючы ісці.

Пан упаўнаважаны заўважыў — у тым баку, адкуль яны ішлі, успыхнула маланка. Там панавала навальніца. Вецер данёс пагрознае басавітае водгулле недалёкага грому. Навальніца з маланкамі, з грамамі, і бурою набліжалася сюды.

Чорнымі былі недалёкія хмары, чорным было неба, і толькі гарачыя ўспышкі маланак час ад часу разрывалі гэту чарнату. Але яны не радавалі, а рабілі ўвесь малюнак больш неспакойным.

Генералу-ўпаўнаважанаму стала трывожна.

## РАЗДЗЕЛ IX

### 1

У брыгадзе Бяссонава чакалі камісію са штаба фронту. Не толькі маладыя, але і бывалыя афіцэры, што бачылі ўсяго на фронце, хваляваліся, быццам курсанты перад экзаменам.

Рыхтаваўся да гэтай праверкі і Аляксей Лагуновіч, які, хоць і стараўся ўдаваць сябе бесклапотным, таксама завіхаўся больш, як звычайна. Востры на язык Быстроў нават шапнуў на вуха Сонцаву з гэтага повада:

— У нас два абсалютна спакойныя чалавекі — Якавенка і Рыбакоў. А наш старшы лейтэнант, як вучань, непакоіцца.

Цэлымі днямі займаліся ў полі, бясконца чысцілі і змазвалі механізмы і прыборы танкаў, кожную ноч ускаквалі па «трывозе». І ўсюды бачылі перад сабой няўрымслівага стажыльнага палкоўніка, які неяк упраўляўся ўсё ўбачыць, усё ўвесь час трымаць пад пры-

дзірлівым наглядам. Ён агледзеў, і не адзін раз, кожную машыну, не адзін раз прымусіў мыць і мыць іх, зрабіў вялікую «чыстку», зноў выкідваючы з танкаў усё лішняе.

Як жа пастражэў ён, калі даведаўся, што брыгаду едзе правяраць сам камандуючы фронту.

— Ну, падвядзі мяне цяпер! — пагразіў палкоўнік Аляксею.

Камандзір брыгады ніяк не мог забыць даўняй сустрэчы Аляксея з Чарняхоўскім, дараваць старшаму лейтэнанту заўвагу камандуючага.

Старшы лейтэнант у апошні раз перад праверкай абышоў роту, крытычным вокам агледзеў людзей, машыны: ці няма якога-небудзь непарадку.

Ён у гэтыя дні адчуваў той асаблівы ўздым — прыліў энергіі, быў у тым добрым настроі, калі мог, не стамляючыся, працаваць цэлымі суткамі. Яго абавязак супадаў з жаданнем.

Аляксей убачыў Чарняхоўскага ўжо на маршы: брыгада атрымала задачу, увайшоўшы ў прарыў, дзейнічаць ва ўмовах глыбока прарванага фронту ворага. Чарняхоўскі стаяў каля пераправы з Бяссонавым, наперадзе купкі генералаў і афіцэраў, і, сочачы за танкамі, штосьці гаварыў палкоўніку...

«Не здарылася б чаго,— мімаволі падумаў Аляксей пра роту.— Бяссонаў тады ўсё жыццё будзе прыпамінаць...»

Яшчэ раз старшы лейтэнант убачыў Чарняхоўскага, калі рота на ўзлессі ладавалася для атакі. За бярозавым і асінавым падлескам слалася перад ім незасеянае бура-зялёнае поле.

Чарняхоўскі стаяў поблізу, ускрай лесу, сачыў за танкамі, што наводдаль рушылі цераз поле і часта стралялі. Генерал зняў фуражку, і вецер варушыў яго густыя, з глянцавітым водбліскам валасы. Каля Чарняхоўскага, як і раней, было некалькі вайсковых, крыху ўбаку стаяла тры ці чатыры машыны.

Усё гэта старшы лейтэнант бачыў якую-небудзь хвіліну, бо тут жа ў шлемафоне пачуўся голас камбрыга,— трэба было ісці атакаваць. Аляксей закрыў люк над галавой і ўжо бачыў у перыскоп, як бяжыць насустрач, разыходзячыся ўшыр, пустое поле і набліжаецца лясок, дзе быў праціўнік.

Аляксееў танк стаў біць і біць па гэтым ляску...

Больш старшы лейтэнант з Чарняхоўскім не сустракаўся. Ад Бяссонава перадавалі, каб падрыхтаваліся да праверкі, бо хутка будзе камандуючы фронту, наказвалі, што ён асабліва цікавіцца, як навучаны экіпажы, як дзейнічаюць самастойна ўзводы, роты. Потым стала вядома, што Чарняхоўскі ўжо ў суседзяў, і ў Аляксеевай роце і ва ўсім батальёне чакалі — вось-вось прыедзе.

Але генерал-палкоўнік ад суседзяў паехаў некуды ў іншае месца.

Аляксей чуў, як вечарам, сабраўшыся ля зямлянкі, яго танкісты распытвалі ў суседзяў:

— Ну, як ён з сябе? Строгі дужа?

— Строгі... Да ўсяго, брат, стараецца дабрацца сам. Сам у «трыццацьчацвёрку» палез і пачаў ганяць: а як вы гэта робіце, а як гэта? А навядзіце гармату на тую цэль, а вылічце, якая туды адлегласць. Калі Пятро гармату наводзіў, зірнуў, між іншым, на гадзіннік. Засек час...

Сухі, [redacted] белымі бровамі, гаварлівы старшына прыкурыў цыгарку.

— А ў мяне запытаўся, што будзеш, таварыш старшына, рабіць, калі, напрыклад, камандзір выйдзе са строю?

— Ну, а ты што ж?

— Што ж? Ясна што! Адказаў па форме... Калі хочаш падвучыцца, магу паўтарыць,— падчапіў цікаўнага старшына.

— Бач ты, малады які, а ўжо генерал-палкоўнік, камандуючы фронту! Ён старэйшы за мяне гадоў на пяць, не больш,— прамовіў Рыбакоў.

— Глядзі ты, куды ён цэліць, у генералы! — засмяяўся нехта з сержантаў.— Ды ты праз пяць год і да старшыны не дацягнеш. Галава, брат, малаватая!

Сержанта падтрымаў вясёлы рогат, гоман.

— А кім ён быў у пачатку вайны, камандуючы, а? Не інакш, генерал-маёр ці мо і з палкоўнікаў? — загадаў загадку Колышаў.— А вось — камандуючы! Заслужыў, і не паглядзелі ні на што, фронт далі.

Сонцаў неспадзявана перамяніў кірунак размовы:

— Нездарма ён прыехаў! Хутка здымемся адсюль. Сур'ёзнае заданне, напэўна, дадуць. Не так сабе ён даходзіў да ўсяго.

— Факт — сур'ёзнае. Нам абы-якога не дадуць,—

падтрымаў Быстроў і перайшоў на жарт: — З такімі машынамі да бабкі Ганны ў агарод не пашлюць. Такіх сур'ёзных, геройскіх хлопцаў, як я ды ты...

— Адным словам, можна складаць чамаданы.

— А што нам, малярам, не прывыкаць. Зборы кароткія.

Аляксей таксама лічыў — цяпер хутка.

— Зрабіце, хлопцы,— сказаў ён камандзірам машын,— каб усё было да ладу, напагатове. Раптам пабудзяць ноччу, каб адразу — у дарогу. У момант.

— Оцэ воно і скончылось, адпачылы,— заключыў Якавенка.

З вечара да паўночы сядзелі Аляксей з Колышавым, пісалі ў Сібір, на Урал, на Паволжа віншавальныя лісты сем'ям узнагароджаных.

Былі стомлены за дзень, але Аляксей рашыў напісаць пра ўсіх. Не хацеў адкладваць. Нельга было адкладваць: з гадзіны на гадзіну мог прыйсці загад — на фронт. А там — хто мог сказаць, калі там выдарыцца вольная хвіліна!

Наогул Аляксей пісаў нярэдка, больш за ўсё лісты да старшынь калгасаў, ці гарсаветаў, прасіў або патрабаваў, каб дапамаглі сям'і якога-небудзь свайго байца. Ён пісаў гэтыя лісты таму, што лічыў сваім абавязкам сапраўдна «парадак» і ў асабістым, сямейным жыцці салдат. Хоць звычайна старшы лейтэнант і не любіў «пісаніны», тут стараўся быць пунктуальным.

У той вечар два лісты напісаў ён на радзіму Якавенкі. Камандзір узвода днём скардзіўся, што жонка з трыма дзецьмі жыве ў хаце з дзіравым дахам, а старшыня сельсавета жыллё ўладаваць не хоча дапамагчы. «Як дождж ідзе, схавацца недзе, цэ дзіло? Дзіты мокнуць...» Ён увесь дзень быў пануры, толькі ўвечары, атрымаўшы даўнюю ўзнагароду, павесялеў. Аляксей, як і абяцаў, напісаў скаргу ў райвыканком.

— Вядомы вы чалавек цяпер! — сказаў Колышаў.

— Яшчэ які вядомы! — з іроніяй адказаў Аляксей.

— А хіба не? Па ўсяму Савецкаму Саюзу ведаюць.

— Не выдумляй!.. Эх, што гэта жонка не піша,— горка прамовіў старшы лейтэнант і запануры́ўся. Пісьмы, якія ён пасылаў Ніне, знікалі недзе без следу, як у бяздонні. Ніводнага не атрымаў адказу.

— Вось возьмем Мінск, будзеце і вы атрымліваць. Па два кожны дзень.

Аляксей не сказаў нічога. Мусіць, ён раней прыйдзе ў Мінск, чым дачакаецца ліста.

Калі Колышаў пайшоў, Аляксей, патушыўшы капцілку, яшчэ доўга сядзеў у цемры. Чаму ж усё-ткі няма адказу? Няўжо яна не атрымала ніводнага яго ліста? Мусіць, не атрымала, бо не магла ж яна не напісаць...

Ён успомніў, як часта прысылала Ніна лісты да вайны, просценькія, шчырыя, ад іх нельга было адарвацца, не дачытаўшы. Чытаў ён іх звычайна па некалькі разоў. З іх уяўляўся, здаецца, кожны яе дзень, з усімі думкамі і клопатамі. Дзіўна: ён тады, хоць яе лісты-весткі атрымліваў заўсёды з радасцю, сам адказваў коратка, сухавата.

Калі б хоць слова прыйшло ад яе! Не прыйдзе ўжо, відаць, сюды нічога! Так нічога ўжо, відаць, і не атрымае ён тут. Заўтра, паслязаўтра, падобна, дадуць загад здымацца...

## 2

Над дваром, на якім у зялёнай мураве і ў вішанніку размясціліся гурткі салдат папаўнення, з'явіўся «юнкерс» і даў некалькі чэрг. Усе затрывожыліся, замітусіліся, пачуліся бязладныя стрэлы. Некаторыя спалохана пападалі на зямлю.

Такі момант заспеў генерал-маёр Шчарбацюк, машына якога якраз падышла да двара. Правёўшы позіркам самалёт, што аддаляўся, усё пастрэльваючы, генерал цікаўна і разам спакойна агледзеў устрывожаны двор. Яго позірк вылучыў сярод іншых чарнявага сержанта, поблізу, ля пачарнелага калодзежнага зруба. Сержант трымаў рукою вочап з кацялком, пазіраў услед «юнкерсу» з дзіўным выразам на твары.

Генерал саступіў з машыны, падышоў да сержанта.

— Чаго ўглядваешся? Не пазнаеш?

— Пазнаю, таварыш генерал,— выпрастаўшыся, але ўсё яшчэ не пускаючы з рук вочап, адказаў сержант.

— Бачыў, значыць?

— Бачыў, таварыш генерал.— Баец схамянуўся, асцярожна выпусціў вочап.

— Дзе?

— У Мінску, таварыш генерал...

— Як у Мінску? — не зразумеў генерал.

— У першыя дні...

Камандзір дывізіі ўважліва ўглядзеўся ў сержанта.

— Ты што ж, пачаў вайну раней за мяне?! — раптам хмура, як бы нездаволена сказаў ён. Генерал-маёр гаварыў праўду: да пачатку зімы сорак першага ён вучыўся ў ваеннай акадэміі.

Сержант не знайшоў, што адказаць.

— Як прозвішча?

— Туравец, таварыш генерал.

Камандзір дывізіі пакрочыў да групкі байцоў, што зводдалек пазіралі на яго. Але тут насустрач яму выбег высокі, са шрамам на шчацэ, лейтэнант і стаў дакладваць. Генерал спыніўся.

— Што, патрывожыў фрыц? — запытаўся ён, разам насмешліва і спачувальна, падыходзячы да групкі.— Нічога не зробіш, прыйдзецца цярпець... Фронт.

Сержант з нашыўкамі за раненне зухавата падтрымаў, што тут табе не ў мамкі за спіною, няньчыцца няма каму.

— Так, няньчыцца няма каму,— згадзіўся генерал і тут жа цвёрда запярэчыў сержанту.— А вось маці ёсць. Строгая, праўда, але ёсць... І добрая маці... Дывізія наша... Яна не дасць у крыўду. Праўда, і спуску не чакайце ад яе.

Генерал стаў знаёміцца з байцамі. Ён любіў знаёміцца з навічкамі, любіў пагаварыць з імі, пахваліцца дывізіяй,— лепшая на фронце! Генерал пры выпадку расказваў, што прыйшоў у дывізію пад Арлом, начштабам палка, а стаў генералам, камдывам, што калісьці, у грамадзянскую, ён быў таксама салдатам. Генерал у такія дні прыязджаў у кіцелі з залатой зоркай.

Сёння камандзіру дывізіі не давялося пагутарыць з навічкамі, бо прыехаў капітан са штаба дывізіі і далажыў генералу, што яго тэрмінова выклікаюць. Папрасіўшы генерала адысці ўбок, капітан прыцішаным голасам паведаміў, што выклікаюць да камандуючага арміі, што загадана падрыхтавацца да даклада. Загадана мець пры сабе ўсе матэрыялы, што датычаць вучэбных заняткаў дывізіі. Генерал выслухаў усё, здавалася, абыякава, аднак адразу ж, хоць і нехапатліва, падаўся да «віліса».

Сядаючы побач з шафёрам, ён заўважыў, што зухаваты сержант, з нашыўкамі за раненне, накінуўся

за нешта на байца. Камандзір рукою падазваў лейтэнанта са шрамам на шчацэ:

— Даведайся, чаго раскрычаўся гэты Аніка-воін. Ды скажы, што ў нас крычаць не паложана. Скажы, што ў нас любяць лагодную размову...

Выехаўшы за вёску, генерал усцягнуў на плечы бурку, якую заўсёды вазілі ў машыне. Камандзір дывізіі нядаўна перанёс запаленне лёгкіх і цяпер вымушан быў берагчыся, а яго зранку нешта халадзіла. Ці не грып, чорт пабяры?

Пры ўсёй нібыта абыякавасці генерал перад сустрэчай, якая чакала яго, быў поўны немалога, супярэчлівага хвалявання. Прычынай гэтага хвалявання найперш было тое, пра што належала яму дакладваць камандуючаму арміі. Тое, што капітану было загадана назваць вучэбнымі заняткамі, напраўду было засакрэчанай назвай вялікага клопату камандзіра дывізіі, што забіраў у яго цяпер увесь час і ўсе сілы. Галоўнага яго цяперашняга клопату. І галоўнага клопату дывізіі. Клопат гэты быў — наступленне, вялікае, як генерал адчуваў — нявіданай сілы, і блізкае, такое блізкае, што генерал ужо ўвесь быў нібы ў ім. Увесь у ім. У самых дробных і жывых праявах ён ведаў і адчуваў гэта наступленне. Яно было ўсё прароблена на карце, у шматлікіх разліках усяго таго, што неабходна для яго поспеху. Больш таго, яно ўжо, усё набіраючы дужасць, ужо, пакуль скрыта для пабочных, заяўляла пра сябе, як жывая істота: у дывізію падыходзіла папаўненне, да яе размяшчэння падвозілі неабходныя боепрыпасы, падцягваліся прыданыя часці...

Генерала радавала набліжэнне вялікай гадзіны. Але былі ў ім не толькі радасць, але і неспакой: і за тое, што тэрміны падыходу папаўнення зрываюцца, і за тое, што ёсць затрымкі з падвозам боепрыпасаў, і за тое, ці змогуць у час падысці ўсе часці, якім належыць падтрымліваць,— артылерыя, танкі, сапёры. Было ў яго хваляванне і асаблівае, асабістае: генерала непакоіла непрыхільнасць да яго, да дывізіі камандуючага арміі. Камандуючы арміі, у падначаленні якога аказалася цяпер гвардзейская дывізія генерала Шчарбацюка, далікатна кажучы, не мілаваў ні дывізію, ні яе камандзіра. Неаднойчы выказваў да іх несправядлівыя прэтэнзіі, вярэдзіў чулую годнасць генерала крыўднымі недаверам і прычэпкамі.

Генерал-маёр затрымаўся ў штабе дывізіі роўна столькі, колькі гэта трэба было, каб узяць неабходныя матэрыялы, дадаць да іх апошнія факты. Седзячы ў машыне, што імчала ў кірунку штаба камандуючага арміі, генерал у думках рыхтаваўся да даклада. Няду-жасць, якую ён чуў з раніцы, замінала думаць, але ўзрушэнне ад нялёгкай блізкай сустрэчы ды і ўласцівая генералу цярплівасць дапамагалі адольваць слабасць. Захінуўшы бурку на грудзях і заплюшчыўшы вочы, нібы дрэмлючы, ён думаў, перабіраў сам сабе змест даклада, лічбы, якія спатрэбяцца. Трэба было ўсё прадумаць, падрыхтаваць усё, не даць зачэпкі педанту-камандуючаму злавіць яго ў якім-небудзь недаглядзе, упушчэнні. Асабліва пільна ён прыгадваў лічбы: камандуючы ў веданні лічбаў меў звычку бачыць веданне сапраўднага становішча, а ў Шчарбацюка памяць на лічбы была ненадзейная. Сёння ж трымаць лічбы ў галаве было яшчэ цяжэй, з-за хваробы, ці што...

У прыёмнай камандуючага арміі ўжо былі палкоўнік, камандзір суседняй дывізіі, і незнаёмы генерал-артылерыст. Артылерыст пасля таго, як Шчарбацюк назваў сябе, сказаў сваё прозвішча, але пасады не паведаміў, і Шчарбацюк зразумеў, што ён з новых, тых, што падышлі ці падыходзяць. Шчарбацюк як зусім натуральнае адзначыў тое, што артылерыст стаіў сваю пасаду, а значыць, і часць, якой ён камандуе. Генералу даўно звыклай была абстаноўка асаблівай сакрэтнасці напярэдадні наступлення. Зрэшты, генерал наогул не любіў пустой цікаўнасці.

Камандзір суседняй дывізіі са значным выглядам твару даверным шэптам паведаміў, што ў камандуючага арміі цяпер ні мала ні многа — камандуючы фронту Чарняхоўскі і прадстаўнік Стаўкі маршал Васілеўскі. Шчарбацюк пачуў гэту вестку нібы з непарушнай бестурботнасцю, але, вядома, ён адразу ж адчуў, якая адказная чакае размова. Праўда, хвалявання асаблівага ў яго не было, больш за ўсё, бадай, была цікаўнасць. Зябка павадзіў плячыма: халадзіла ўсё ж, а бурку пакінуў у машыне...

Яго выклікалі першым. Ледзь увайшоў, убачыў за сталом Чарняхоўскага і незнаёмага ў камбінезоне і палявой генеральскай фуражцы, што стаяў, схіліўшыся над сталом. Прывітаўшыся, убраўшы жывот, які напінаў кіцель і яўна псаваў вайсковы выгляд, Шчарба-

цюк на момант спыніўся ў роздуме: да каго першага звярнуцца. Павярнууся да Чарняхоўскага, папрасіў дазволу звярнуцца да камандуючага арміі. Далажыў, што прыбыў па яго загаду.

Калі ён дакладваў, незнаёмы ў камбінезоне адарваў вочы ад карты, спыніў позірк на ім, на Шчарбацюку. Адразу, як фармальнасць была зроблена, незнаёмы ў камбінезоне ступіў з-за стала, працягнуў руку.

— Васілеўскі,— назваўся ён проста, ветліва.

Ён зноў зайшоў за стол. Паказваючы на вялікую карту, разасланую на стале, папрасіў:

— Далажыце абстаноўку на вашым участку і план дзеянняў дывізіі на перыяд наступлення.

Генерал-маёр падаўся да стала. Наблізіліся, пасталі па баках стала Чарняхоўскі і камандуючы арміі. Чарняхоўскі, дапамагаючы, нацэліў алоўкам на тое месца, дзе было пазначана размяшчэнне дывізіі. Шчарбацюк ухапіў вачыма знаёмыя вілюжыны, знакі вёсак. Вопытным позіркам адразу ж адзначыў: на карту была нанесена абстаноўка, якая павінна быць у пачатку наступлення. Фронт дывізіі пад гэты час, размяшчэнне прыданых часцей, у тым ліку і тых, якіх ён яшчэ пакуль чакаў.

Камандуючы арміі падаў яму ўказку.

Пакуль разглядваў карту, збіраўся пачаць, адбылося з генералам неспадзяванае: то адчуваў холад, а тут раптам абліло гарачынёй, на лбе выйшаў пот. З адчуваннем гэтай гарачыні і кволасці ў целе, асабліва ў нагах, ён і дакладваў абстаноўку. Дакладваў не хапаючычыся, упэўнена, дакладна адзначаў на карце пункты, напрамкі, але ўказка, праклятая, чамусьці падрыгвала.

Яго затрымлівалі, перапытвалі,— амаль усё Васілеўскі. Чарняхоўскі спыніў толькі аднойчы і таксама, як зразумеў Шчарбацюк, каб звярнуць увагу Васілеўскага.

Больш затрымлівалі, калі ён дакладваў пра дзеянні дывізіі ў наступленні. Тут былі пытанні за пытаннямі, прычым патрабавальна дапытваў яго не толькі Васілеўскі, але і камандуючы фронту. Вось тут найбольш і падрыгвала ўказка і браўся потам лоб. Прыкра было ад таго, што гэта маглі няправільна вытлумачыць. Але не мог жа сказаць ім: усё ад таго, што нездаровіцца, відаць, грып...

Асабліва ўважліва высвятлялі, як ён будзе распа-

раджацца артылерыяй, танкамі, авіяцыяй, прычым падавалі розныя варыянты развіцця бою, патрабавалі яго рашэнняў. Шчарбацюк разумеў, што ў гэту хвіліну быў пад прыглядам, праверкай не толькі яго агульны камандзірскі вопыт, але і тое, наколькі сур'ёзна ён прадумаў усё, што можа здарыцца ў ходзе бою. Заміналі пот на лбе і слабасць у целе, але, здавалася, генерал у цэлым непагана справіўся з пытаннямі.

— Ну што ж, справа тут ясная,— сказаў маршал, як бы падсумоўваючы размову.

Пасля гэтага было дамоўлена, як і калі дывізія здасць частку сваіх пазіцый на пярэднім краі — новаму злучэнню, з якім будзе ўзаемадзейнічаць у наступленні. Чарняхоўскі даў некалькі парад што да дэзінфармацыі праціўніка аб нашых намерах.

Шчарбацюк ужо з палёгкай выціраў хустачкай лоб, калі маршал Васілеўскі, павярнуўшыся да камандарма, запытаў:

— Як баявыя якасці дывізіі?

— Нядрэнныя,— стрымана, нібы няцвёрда, адказаў камандуючы арміі.

— Участак вельмі важны.

Тон гаворкі Васілеўскага казаў пра надзвычайную сур'ёзнасць яго пытання.

— Дывізія добрая,— сказаў з раптоўнай вясёласцю Чарняхоўскі.— Баявая, людзі загартаваныя!.. Праўда, камандзір, я сказаў бы,— ён нібы з хітрынкай зіркнуў на Шчарбацюка,— часам схільны да бестурботнасці.

— Так, ёсць такі грэх,— падтрымаў Чарняхоўскага ахвотна камандуючы арміі.— Супакойваецца, калі не падштурхоўваць...

— Абвінавачванне для камандзіра вельмі сур'ёзнае, асабліва цяпер... Ну, а што вы скажаце, таварыш генерал? — павярнуўся Васілеўскі да Шчарбацюка.— Справіцеся?

— Спраўлюся, таварыш маршал,— адказаў Шчарбацюк, выпроставаючыся як толькі можна, пазіраючы на маршала і з просьбай паверыць, і з гатоўнасцю ўсё зрабіць.

Была хвіліна маўчання. Нялёгкая для камандзіра дывізіі хвіліна.

— За што Героя атрымалі? — запытаў Васілеўскі.

— За Курскую дугу, таварыш Маршал Савецкага Саюза!

— Я думаю, яму можна паверыць,— падтрымаў Шчарбацюка Чарняхоўскі. І зноў Шчарбацюк улавіў у голасе камандуючага фронту добрую зычлівасць і вясёласць.

— Ну, паглядзім! — стрымана прамовіў Маршал Савецкага Саюза. Ён, здалося Шчарбацюку, глядзеў дапытлівым позіркам.

## 3

Аляксей сядзеў на вежы, звесіўшы ногі ў баявое аддзяленне. Наперадзе яго быў, закрываючы грудзі, быццам шчыт, круглы бранявы дыск — крышка люка. Злева пружыніста гайдаўся штыр рацыі, падобны на пруткую лазіну. Управа, улева — калі машыну кідала з боку ў бок, назад і наперад — калі яна набаўляла хуткасць або спынялася...

Аляксей, сутулячыся, падаўшыся грудзьмі наперад, таксама ківаўся. Вышэй пояса ён згінаўся ў бок, процілеглы нахілу, штуршку машыны, цела звыкла старалася трымаць раўнавагу.

Да чаго ж добра гэта — сядзець на вежы магутнай машыны, што рушыць, імкне па дарозе, адлічвае гусеніцамі кіламетр за кіламетрам, пакідаючы за сабой дзве шырокія зубчатыя каляіны.

Танкі рушылі без супынкаў. Адзін за адным. З'яднаныя, у адзіным імкненні. Адно ляскаталі, пераклікаліся гусеніцы, ды неспакойна гурчалі маторы.

Часам абапал дарогі асцярожліва ціснуліся густыя ланцугі пехацінцаў, кавалерысты, што прытрымлівалі неспакойных, устрывожаных коней, сустрэчныя грузавікі. Чакалі, пакуль праляскочуць танкі. Аляксею бачыць гэта было прыемна. Так прапускаюць наперад паважанага чалавека, якому належыць асаблівая, важная праца.

Наперадзе былі добра відаць зарнічныя выбліскі ад стрэлаў батарэй. Выбліскі гэтыя, як агні маякоў, указвалі напрамак танкістам. Гукі бою ледзь даходзілі, іх глушыў шум машын.

Набліжаючыся да фронту, Аляксей паддаваўся таму добра знаёмаму франтавіку ўзрушэнню, у якім перамешваюцца і вострая цікаўнасць да блізкай небяспекі, і нецярплівае імкненне падагнаць час, і трывога, і добрыя надзеі.

— Хто гэта жанчына, што так сумна з вамі развітвалася? — запытаў неяк, на выпадковым супынку, з хітрынкай Касцючэнка.

— А-а... гэта Надзя Мазалькова,— збянтэжыўся Аляксей,— старшыня калгаса. Помніш, я хадзіў у вёску, калгасам быў заняўся... Тады яе выбралі старшынёй...

Надзя падышла да яго, калі калона надвячоркам стаяла на дарозе ля сяла. Ласкавыя, крыху засмучаныя вочы, смуглы твар з круглым прыгожым падбародкам, моцныя загарэлыя рукі.

— Вось вы ўжо і едзеце... Пішыце, як вы там будзеце жыць. Не забывайце...

Хапаючыся, нясмела, працягнула клуначак — падарунак. Потым, калі танкі крануліся, стаяла нерухома, сачыла ўслед.

Аляксею ўспомнілася яе даўняе, на ўзлессі: «Прыходзьце!» — і як бы вінаватасць перад ёю лягла на сэрца. Так і не спраўдзіў Аляксей абяцання, не прыйшоў больш. І нельга сказаць, каб хвіліны вольнай не знайшлося б,— але адкладваў з дня на дзень, ды так і не прыйшоў.

«Што ж, гэта і на лепшае... Няхай не крыўдуе...»

— Харошая, відаць, жанчына?

— Добрая — працавітая, сумленная. Яна там навяла парадак. Людзі давольны ёю.

— Не, я кажу, што так, сабою прыгожая. Для такой і родную Кубань можна прамяняць на Смаленшчыну.

— Я пра гэта не думаў,— не адказаў на жарт Аляксей.— У мяне, брат, не тое на душы. Ты ж ведаеш...

— Мала ў каго няма. Але ж некаторыя не ўпускаюць такое... Гогабярыдзе, той, кажуць, не адну... Надзя ж ваша засумавалася, відаць. Ды і, здаецца, вельмі даспадобы вы ёй...

— Я не магу так...

Памаўчалі. Аляксей першы загаварыў пра іншае:

— З такімі коньмі хутка заявімся да Тураўца?

— Да яго па адлегласці — нядоўга нібы. Нейкіх тры сотні кіламетраў. Гэта ж не махутне-пяхоце, якой трэба ўсё адзінаццатым перамераць... Толькі ж — як яно пойдзе і калі рушым туды?— разважліва прамовіў Касцючэнка, кранаючы Аляксееву трывогу.

— Ну не, стаяць, мусіць, не будзем, — адразу загарэўся, запярэчыў Аляксей.— Відаць па ўсяму — таптацца цяпер не павінны.

— І мне здаецца: не павінны, — згадзіўся Касцючэнка.

— Зброю сур'ёзную далі, з такою стаяць попусту грэх.

— Грэх. Бывала, у нас, на Кубані, калі жніво, камбайн пастаіць у стэпе гадзіну, то таму камбайнеру галаву адразу намыляць. А тут!..

— Думаю, што стаяць доўга не будзем, Касцючэнка. Па ўсяму відаць. Не маем права...

Аляксею прыгадалася, як яшчэ зусім нядаўна, недалёка ад гэтай дарогі, паўз рунеючыя палі, па ўзрытых бомбамі шляхах яны ішлі ў тыл, як у грузавіках дабіраліся да паўзабытых зямлянак. Тады яны здалі старыя, не раз рамантаваныя, не раз латаныя жалезам танкі, гусеніцы якіх ведалі палі пад Курскам, дарогі Смаленшчыны. Цяпер ідуць машыны, што яшчэ нядаўна былі на заводскіх дварах.

Якія шляхі ўведаюць гэтыя гусеніцы, якія падзеі ўбачаць новыя, без баявых рубцоў вежы?

Колышаў пазіраў на выбліскі агнёў, што набліжаліся, як захоплены нязвыклай, страшлівай казкай. У яго чыстых, адкрытых шырока вачах успыхвалі цікаўныя і неспакойныя светлячкі.

Яго вабіла гэта незнаёмая, нязведаная далеч, пра якую ён столькі думаў і чуў, але разам з тым у душу яго пракрадваліся нейкі неспакой і дзіўны жаль. Пазіраючы нецярпліва наперад, ён аглядваўся чамусьці і назад. Тое звыклае, што ўсё далей адыходзіла назад, паўставала цяпер як бы новым, асабліва прынадным. Ён спачатку ахвотна паддаўся спакусе ўспамінаў, але потым адчуў, як пачынае завалодваць ім туга, і схамянуўся.

Сёння трэба думаць толькі пра тое, што там, дзе бліскаюць агні, і далей за агнямі. Недзе там яго, не інакш, чакае не дачакаецца нечая маці. Або пазірае насустрач, з-за калючага дроту, як на плакаце, што вісеў у калідоры на іх курсах, жанчына з дзіцем на руках кліча: «Ратуй мяне!»

Ён прыйдзе да іх і прынясе збавенне. Хлопец так рэальна ўявіў тую хвіліну, што нібы адчуў на сваіх

плячах удзячны поціск абдымку, нібы ўбачыў позірк, поўны слёз і ўдзячнасці.

Шкада толькі, што не ўбачыць яго ў такую хвіліну Рая. Яна б ведала, што ён даўно ўжо не той зялёны хлопец, якім звыкла яго лічыць.

На світанні батальён быў на месцы, у невялікім лясочку. Між дрэваў, пад якімі яшчэ трымаліся цяпло і парадзелы прыцемак ночы, мірна стаялі нейкія грузавікі і фурманкі. Калі падышлі «трыццацьчацвёркі», вакол іх замітусіліся людзі.

— Эй, трэці эшалон! Просім пацясніцца! — крыкнуў задзірысты Быстроў, саскочыўшы з машыны.

— Куд-ды гэта?

— Кіламетры на два ўправа.

Шафёры і ездавыя, акружыўшы Быстрова, спачатку пачалі былі спрачацца, пагражаць начальствам. Але дзе там, хіба ўстаіш перад гэтымі разбойнікамі з махінамі-танкамі. Адзін за другім, неахвотна пачалі адводзіць грузавікі і павозкі. На іх месца, ламаючы галлё, пасунуліся танкі.

Неўзабаве маторы сціхлі. Танкісты маскіравалі машыны галлём, адусюль было чуваць, як там і тут весела цюкаюць сякеры і трашчаць дрэвы.

Сляды гусеніц зацярушвалі дробным веццем.

У ранішняй шэрані Аляксей акінуў вачыма месца, дзе яны стаялі.

Наперадзе, перад узгоркам, была батарэя — прыземістыя гарматы з апушчанымі ствaламі. Гарматы яшчэ не былі акапаны, толькі дзе-нідзе скупа значыліся купкі свежай зямлі, мусіць, артылерысты таксама нядаўна падышлі.

Цяпер яны спяшаліся да ўсходу сонца замаскіраваць пазіцыю. Галлё для маскіроўкі неслі з ляска, часам валаклі за сабой, прымінаючы траву, цэлыя ссечаныя каля кораня маладыя бярозы і алешыны.

Аляксей убачыў непадалёк камандзіра брыгады Бяссонава. Моцны, прысадзісты, у лёгкай летняй гімнасцёрцы, не зважаючы на ранішнюю свежасць, палкоўнік пругка, бадзёра падыходзіў да роты, і Аляксей хутка падаўся да яго.

Ідучы насустрач яму, Аляксей адчуваў тую скрытую насцярожанасць, каторая заўсёды бывае да чалаве-

ка, які не любіць цябе і ад якога можна ўсяго чакаць.

Бяссонаў, здавалася, няўважліва, рассеяна паслухаў даклад Аляксея. Але быў ён узрушаны, твар лішне чырванаваты. У той час, калі Аляксей дакладваў, позірк яго штосьці заклапочана заўважыў. Штосьці незразумелае, не звязанае з дакладам.

Дазволіўшы скамандаваць «вольна», Бяссонаў адразу ступіў у той бок, куды толькі што глядзеў.

Ён спыніўся перад Колышавым. Унізаў цвёрды, патрабавальны позірк у твар лейтэнанта.

— Як прозвішча? Чаму я цябе не ведаю?

Колышаў збянтэжыўся. Зніякавела назваў сябе.

— Відаць, ваюеш кепска! Усіх добрых камандзіраў я ведаю,— прамовіў упэўнена палкоўнік.

Аляксей сказаў, што Колышаў — з папаўнення.

— Новы? А, тады іншая справа,— памякчэў палкоўнік. На лбе камандзіра брыгады сабраліся маршчыны.— А ты не трус?

— Не ведаю, таварыш гвардыі палкоўнік,— зноў зніякавеў, пачырванеў Колышаў.— Не быў...

— Не ведаеш?— палкоўнік нейкі час раздумваў.— Відаць, не трус... Трус бы сказаў, што ён не баіцца нічога.— Ён акінуў вачыма Колышава, вялеў строга: — Ну, глядзі, Колышаў!

Пасля агляду роты Бяссонаў уладным тонам загадаў:

— Парадак каб быў да сонца! Асабліва маскіроўка ад авіяцыі! Нас тут няма, тут толькі бярозы ды дзятлы. Спакой... Ясна?

— Ясна, таварыш гвардыі палкоўнік!

Палкоўнік акінуў позіркам лагоднае ранішняе неба, цьмяная бясколернасць якога ўжо змянялася глыбокім і шырокім блакітам. Узняўшы ўслед за ім позірк, Аляксей убачыў: у высі купаліся два ружовыя воблачкі, усміхаючыся нявіднаму з зямлі сонцу.

З захаду лёгка, задаволена гуркочучы, плыла ў вышыні эскадрылля бамбардзіроўшчыкаў. Самалёты былі нашы. На іх крылах таксама чырванелі праменні сонца. Аляксей падумаў, што самалёты, мусіць, ідуць здалёк, можа, ад Мінска.

— Маскіроўку зрабі ідэальную,— адарваў Бяссонаў позірк Аляксея ад самалётаў.— Сонца будзе свяціць на ўсё неба. З гары за кіламетр кожная травінка будзе бачна. Праз гадзіну праверу!

Калі заззяла сонца, ужо не было ні знаку таго, што тут рыхтуюцца грозныя падзеі. Здавалася, панавалі спакой, цішыня...

Сонцаў недзе ўправіўся назбіраць спелых суніц, прынёс старшаму лейтэнанту.

Ягады былі вельмі смачныя і пахлі лесам і сонцам.

4

Танкісты, сабраўшыся ў гурт, лежачы вольна, гамонілі.

Вакол буяла густая трава, чырванелі, жаўцелі, бялелі кветкі. Каля галавы Быстрова стаяла, як бы ў задуменні, нерухомая мятліца. Уздымаючыся вяршыняй у неба, лянiва варушыла шызымі, нібы з байкі, лісцямі вечная трапятуха-асіна,— паціху лапатала, нібы таксама хацела гаварыць.

Моцна пахла чабарком.

Быстроў лянiва слухаў, як Гогабярыдзе жартаваў:

— Дзе справядлівасць? Няма справядлівасці! Нашто Якавенку такое хараство? Хараство даецца для таго, каб жанчыны любілі, а Якавенка — не любіць іх... Нашто яму такія бровы?

Поблізу гаварыў Рыбакоў:

— Імяніны! Без гарэлкі якія імяніны?.. А лейтэнант кажа: грошай няма, дадому паслаў. Адну кішэню вывернуў, другую — толькі дробязь. І ў мяне — пад мяцёлку!.. А тут падкатваем да станцыі!.. Што рабіць?.. Дык, думаеш, што я скеміў? З атэстата рэалізаваць, з прадуктаў!.. Стаім ля акенца, атрымліваем. Як толькі выйшлі, я за банку кансерваў ды — першаму лепшаму. Той — «Колькі?» — «Пяцьдзесят». Ён і выняў паперку...

— Лоўка. Знайшоўся,— пахваліў хтосьці Рыбакова.

Быстроў праз дрымоту прыслухаўся, пра што гаворыць у другім баку Сонцаў: — Ну, дырэктар МТС у мяне і пытаецца: «Чаму стаіць твой «націк»?» — «Падшыпнікі выплавіліся...»

«Зноў тую ж самую гісторыю — бранскі летапісец»,— варухнулася ў галаве Быстрова. Ён пазяхнуў і сказаў голасна да таварыша:

— У прыемнай кампаніі — прыемна пазяхнуць!..

Сонцаў зрабіў выгляд, што не звяртае на яго ўвагі.

— І праўда, чаму б не падрамаць? А, Касцючэнка? Яшчэ ніводзін салдат, кажуць, не памёр на вайне ад сну...

Але заснуць Быстроў не мог,— вельмі ж неспакойная ў яго была натура. Неўзабаве ён пачуў, што размова набывае цікавы змест. Другі фронт.

— Сіла ў іх, канечне, немалая,— разважаў Касцючэнка.— Гэтую высадку яны зрабілі здорава. Вось толькі што ідуць марудна: колькі часу ў Італіі тапталіся, зноў жа ў Францыі нешта туга ў іх. Хто іх ведае чаму. Ну, у Італіі, там, напэўна, горы перашкаджаюць.

— А ў Францыі — раўніны,— падхапіў Быстроў.— Фрыцы здалёк бачаць, страляюць. Затое тут — абрусам дарога. Ідзём па асфальтах, фрыцы самі рукі падымаюць угару, бягуць хутчэй у палон.

Пачуўся смяшок.

— Чаго ж яны тады марудзяць?

— А ты, Сонцаў, запытай у Чэрчыля,— параіў Быстроў.— Ён табе скажа, чаго ён сядзеў у Афрыцы, потым у Італіі, пакуль мы пад Сталінградам біліся ці Курскую дугу ламалі.

Раптам загаварыў Якавенка:

— Як бы ты, Сонцаў, дужа верыў бы чалавеку, які аднойчы намерваўся, скажам, забіць цябе?

— Забіць?.. — не чакаў Сонцаў такога пытання.

— Мабуць, не верыў бы! А Чэрчыль арганізоўваў інтэрвенцыю на нашу краіну ў грамадзянскую вайну. Ён і Гітлера ў свой час цкаваў на нас, ды так выйшло, што фюрэр асмеліўся падняць руку на свого апекуна. Можна верыць такому чалавеку?

— Як жа яму верыць, таварыш лейтэнант?

— Чы не падобна на тое, што та людына мала дбае аб тым, штоб нам було лягчэй? Чы не ўсё роўна такому, шо там, недзе на чужыні, у няволі гінуць нашы людзі?

— Хоча, старая ліса, заграбаць жар чужымі рукамі!— адгукнуўся Рыбакоў. Аляксей пераканана прамовіў:

— Не ўдасца!

— Я думаю таксама, не ўдасца,— згадзіўся спакойна Гогабярыдзе.

— Эх, спадзявайся там на розных чэрчыляў!..

— Та-ак! На саюзнічкаў спадзявайся, а сам не хіб!

— Ды ўжо ж, хібіць не прыходзіцца.

— Не схібім, думаю!

Гадзіну пазней да Аляксея падышоў лістаносец, падаў трохкутнічак; старшы лейтэнант адразу заўважыў — почырк быў незнаёмы.

Ад Аляксея лістаносец адразу рушыў далей, ішоў ад экіпажа да экіпажа, размахваў канвертамі, трохкутнічкамі, выклікаў прозвішчы. Танкісты, як звычайна, адны беглі насустрач яму, другія крычалі здалёк, ад машын. Усіх хвалявала: ці няма лістоў.

Ліст, які атрымаў Аляксей, быў ад маці былога яго байца Курнева. Маці трывожылася, што ад сына ўжо тры месяцы як няма вестак. Курнеў быў у адным экіпажы з Быстровым, а калі брыгаду адправілі на пераФарміроўку, застаўся ў новай часці. Што з ім цяпер, Аляксей не ведаў.

Ліст атрымаў і Якавенка. Ён з гонарам працягнуў Аляксею лісток.

— Глянь. Мішка напісаў!..

На лісточку было старанна выведзена сантыметравымі крывымі літарамі: «Тата, любы». Якавенка адчуваў сябе без меры шчаслівым. Аляксей не раз заўважаў, што ён вельмі любіць дзяцей,— колькі разоў непакоіўся пра іх, пра сына Мішку, пра дзвюх дзяўчынак. Ён любіў гаварыць пра іх, і ледзь не ўся рота завочна ведала ўсю яго сям'ю.

Аляксею падумалася, што калі праўда: у кожнага чалавека ёсць які-небудзь талент, то ў Якавенкі гэта ж, канечне,— талент бацькі. Падумалася, што і ў адносінах Якавенкі да байцоў ёсць таксама нешта бацькоўскае...

Можа, Быстроў што-небудзь раскажа пра Курнева: яны ж былі, здаецца, сябры. Камандзір гарматы сядзеў пад бярозай каля танка, разам з Сонцавым, які чытаў ліст. Старшы лейтэнант, падышоўшы да іх, запытаўся пра Курнева: не, Быстроў не ведае нічога пра яго; як перайшоў Курнеў у другую часць, дык і не падаў аб сабе ні слова.

— Ад каго пісьмо, Сонцаў, калі не сакрэт? —пацікавіўся Аляксей.

— Калі мне чытае, то, выходзіць, не сакрэт, — пакпіў-пажартаваў Быстроў.— Сакрэтныя ён чытае адзін і толькі вачыма. Нават без шэпту...

Пісьмо было ад сястры.

— Ад тае, ад студэнткі? Ну, як яна маецца?

Аляксей прысеў на траву поруч з танкістамі. Ён ведаў, што сястра Сонцава вучыцца ў тэхнікуме. Сонцаў неяк расказваў: калі ён ішоў у армію, Юлька, сястрычка, была яшчэ дзіцем; перад тым часта прыбягала на поле, узбіралася на трактар, прасіла даць патрымацца за руль. І якая шчаслівая была, калі ён дазваляў крыху правесці «СТЗ». Цяпер ёй пайшоў ужо семнаццаты год...

Сонцава не прыйшлося ўпрошваць: звычайна маўклівы, ён на гэты раз загаварыў нечакана ахвотна:

— Ды як маецца,— вядома як: і вучацца, і адбудоўваюць дом, у якім тэхнікум. Палова яго была разбіта. Пісала, што зімою вельмі мерзлі...

— І дапамогі, відаць, чакаць няма адкуль? На адной тэхнікумаўскай стыпендыі ў цяперашні час...— Аляксей спачувальна пакруціў галавою. Так, цяпер студэнтам цяжка. Багата цяжэй, чым тады, калі ён вучыўся. Хоць і тады ўсяляк было...

— Ды адкуль дапамога, таварыш гвардыі старшы лейтэнант? Паслаў два разы па сто рублёў, а больш не магу. Маці ж таксама трэба памагаць...

— Адным словам — усюды фронт...— Быстроў зламаў бярозавую галінку, што трымаў у руцэ. Ён ледзь не вылаяўся, але, зірнуўшы на камандзіра роты, стрымаў сябе, толькі напружыліся важкія вуглаватыя сківаіцы...

Старшы лейтэнант устаў, нерашуча ступіў, задуменны, некалькі крокаў, потым, нібы штосьці прыгадаўшы, павярнуўся да вадзіцеля:

— Дарэчы, Сонцаў, хадземце са мной!..

Ідучы поруч з Сонцавым, Аляксей заклапочана думаў пра сястру сержанта. У памяці ажыў час, калі ён сам быў студэнтам... Так, і тады ўсяляк было, у тыя цудоўныя гады. І тады нялёгка бывала... А цяпер...

Ён, здаецца, нічога не пашкадаваў бы для гэтай незнаёмай дзяўчыны, якую, напэўна, і не ўбачыць ніколі. Але яна можа пакрыўдзіцца, калі даведаецца, што грошы пасылае ёй невядомы чалавек...

Аляксей адвёў Сонцава ў бярэзнік і, павярнуўшыся спіной да танкаў, рашуча выняў з кішэні камбінезона пачак чырвонцаў, амаль усю сваю месячную палучку. Адольваючы няёмкасць, паклаў яе Сонцаву ў руку.

Сонцаў пачырванеў:

— Таварыш гвардыі старшы лейтэнант...

— Бяры...— перабіў яго строга, тонам загаду Аляк-

сей.— Бяры, ну дзівак! І зараз жа пашлі! Ад свайго імя...— дадаў ён мякчэй.

Сонцаў падаўся назад збянтэжаны. Каля люка вадзіцеля ён азірнуўся і, убачыўшы, што старшы лейтэнант пайшоў кудысьці, клікнуў Быстрова. Шчыра расказаў таварышу пра ўсё.

— Нядобра неяк атрымалася,— ніякавата скончыў Сонцаў.

— Чаму нядобра?

— Яны ж яму і самому патрэбны, грошы... У Мінску...

— Што з таго?

— Трэба вярнуць, думаю.

— Вярнуць?! Ён іх табе даў?

Сонцаў не зразумеў пытання.

— А каму ж?

— Гэта ж, можна сказаць, ужо грошы сястры,— зрэзаў Сонцава Быстроў.

— Сястры?

— А чые ж? Эх ты, гора!..

Быстроў сам прывёў лістаносца, загадаў Сонцаву зараз жа напісаць адрас і аддаць грошы.

У мірнай будзённасці гэтага дня было адно здарэнне асаблівае. Пад поўдзень Рыбакоў прывёў да Аляксея незнаёмага чалавека, якога затрымаў недалёка ў лесе.

Чалавек, немалады, з русымі вусамі і даўно няголеным падбародкам, быў у мятай ватнай паддзёвачцы, да якой ліплі травінкі і жаўтлявыя знакі гліны: напэўна, на гэтай паддзёвачцы чалавек спаў. У руках ён трымаў самаробны, з вяровачкамі, даволі вялікі заплечны мяшок. Незнаёмы глядзеў на танкістаў дабрадушна і даверліва.

— Што вы тут робіце? — строга хмурачыся, тоячы цікаўнасць, запытаў яго Аляксей.

— Што раблю?— ахвотна адгукнуўся чалавек.— Ды, можна сказаць, нічога! Адлежваю бакі. На сонцы прыходзіцца загараць. Адным словам, чакаю.

— Чаго чакаеце?

— Чаго ж яшчэ,— наступлення нашага. Ды нешта вы, няўрокам кажучы, марудзіце. Топчацеся на месцы, аж цярпення няма!

Аказалася, што чакае ён тут ужо другі тыдзень, што да вайны быў агароднікам у калгасе на Міншчыне. Спя-

шаўся, баяўся не паспець, а цяпер прыходзіцца марнавацца. Дакументы яго былі ў парадку, была нават даведка, што «тав. Жывіца сапраўды адпушчаны з работы».

Аляксей зацікавіўся ім. Ён ад душы паспачуваў нецярпліваму земляку.

— Так, чакаць — рэч цяжкаватая. Асабліва — пасля трох год... Сам па сабе ведаю... Тры гады там не былі?

— Тры, тры, дарагі! Толькі некалькі дзён і не хапае.

— А сям'я ваша таксама там?

— Там, там, залаты ты чалавек!.. Яно-то не ўсе там, сказаць. Жонка ды меншы сынок — там, а два другія — на фронце.

— Лісты атрымліваеце?

— Ад аднаго, дарагі, ёсць. Знайшоў яго. Праз Наркамат... А другі, адказалі,— без вестак. Без вестак.

— Мне вось жонка не піша. У акупацыі,— як скаргу, паведаміў Аляксей.

— Жонка? Ай-яй. Скажы ты!.. Раскалолася сямейка, у такія маладыя твае гады!.. Э-эх, вайна-разлучніца!..

— На фронце самі былі ці — у тылу?

— Быў трошкі ў пяхоце. Трошкі пабыў, толькі вылез у поле — міна — вз-з. Стукнула — і прэч, па чыстай. Кульгаю, бачыш, ад таго. Ну, а потым, у тылу.

Засмяяўся неяк па-дзіцячы:

— А цяпер вось зноў на фронт трапіў!

— Гэта правільна.

Аляксей задумаўся: што з ім рабіць? Аднекуль з'явілася звыклае, насцярожанае: а што, калі ён ніякі не Жывіца, прыкідваецца толькі. Аляксей адразу ж запярэчыў сабе: «Глупства якое!» — аднак лагодна сказаў:

— Вось што, бацька. Не хачу вас крыўдзіць, але — павінен сказаць. Вы ведаеце, што вам тут не належыць быць?

— Чаму гэта, дарагі? А дзе ж мне быць?

— Тут — забароненая зона, нельга тут пабочным хадзіць.

— А які ж я пабочны?

Аляксей не адразу адказаў:

— Не ваенны, вось і пабочны.

Парадак ёсць парадак. Хоць Аляксей адчуваў сябе

няёмка перад гэтым гаварлівым, відаць, добрым чалавекам, прыйшлося адправіць яго да камандзіра батальёна. Камбат жа, не надта дапытваючыся ўсяго, загадаў адвесці ў штаб брыгады:

— Няхай там разбяруцца! Можа, наш, а можа... хто яго ведае!

## РАЗДЗЕЛ X

### 1

У дванаццаці кіламетрах ад горада Дуброўна ёсць невялікая вёска Рэдзькі. За гэтай вёскай, на паўночным захадзе, уздымаецца невысокі і некруты ўзгорак. Звычайны ўзгорак, падобны да многіх іншых, што ўзвышаюцца побач і наводдаль у гэтым кутку беларускай зямлі.

У тыя дні ўзгорак гэты быў у паласе нашага пярэдняга краю. Перад узгоркам, з захаду, былі акопы і траншэі — перадавыя пазіцыі нашай пяхоты. За нейтральным полем таіліся, віжавалі, падсцерагалі вочы і кулямётныя ствалы гітлераўскіх войск.

Такім чынам, узгорак гэты быў тады ў вельмі небяспечным і важным месцы, разам з салдатамі быццам бы нёс нялёгкую франтавую службу.

Але ад таго, што ён не адзін быў такі ўсцяж пярэдняга краю, яго доля і яго жыццё амаль нічым не адрозніваліся ад долі і жыцця іншых узгоркаў, якім выпала аказацца на стыку двух франтоў. Сярод іншых такіх узгорак гэты нічым не вылучаўся для пабочнага вока. Нават пільныя вочы варожых разведчыкаў, што сачылі за ім дзень і ноч, не адзначалі нічога асаблівага на ім: звычайны, затоены ўзгорак усцяж пярэдняга краю.

Немцы часта білі па ім з кулямётаў, малацілі з гармат. Але гэта была звычайная доля франтавога ўзгорка. І ўвага, якую ён прыцягваў да сябе з боку немцаў, была звычайнай увагай, якую аддавалі многім.

А між тым ціхі, не адметны быццам нічым, узгорак гэты таіў у сабе незвычайнае жыццё. Ён хаваў у сабе мноства людзей, і людзей не абы-якіх,— ні ў адным іншым узгорку па ўсім фронце не збіралася столькі камандзіраў, і камандзіраў самых высокіх пасад, як у гэтым узгорку. Нідзе не жылі такім важным, шырокім клопатам, як у гэтым падзямеллі.

Маленькае, непрыкметнае збоку, гэта падзямелле правадамі і людзьмі было звязана з неабсяжнымі прыфрантавымі абшарамі, з усімі войскамі, што займалі гэтыя абшары, чакалі наступлення, падыходзілі да пярэдніх рубяжоў.

Тут быў камандна-назіральны пункт Трэцяга Беларускага фронту, працаваў яго камандуючы.

Да КНП фронту вялі доўгія хады зносін, якія пачыналіся далёка ад узгорка. Прапускалі сюды толькі самых неабходных людзей, уваход на КНП і ўвесь узгорак пільна ахоўваліся. Усё жыццё пры ўзгорку было падпарадкавана самым строгім правілам маскіроўкі.

Голы, здавалася, без адзнак жыцця ўзгорак хаваў у сабе цэлы, поўны вялікага клопату падземны гарадок. У гарадку гэтым былі свае кварталы — бліндажы, свае вуліцы — падземныя хады зносін, што перараразалі ўзгорак у розных кірунках, злучалі бліндажы між сабой. Затоеныя ў зямлі, былі тут бліндажы камандуючых артылерыі, бронетанкавых войск фронту, камандуючага паветранай арміі,— камандныя пункты розных родаў войск фронту.

Крыху ў баку ад іх размяшчаліся бліндажы аператыўнай групы, дзе апрацоўваліся аператыўныя дакументы, што прыходзілі з часцей і накіроўваліся ў часці.

Недалёка ад апергрупы былі рабочы пакой і пакой адпачынку камандуючага фронту, тут і жыў генерал-палкоўнік апошнія дні перад наступленнем. На стале рабочага пакоя ляжала вялікая карта фронту са стрэлкамі, значкамі часцей, датамі — карта блізкай аперацыі. Побач стаялі тэлефоны.

Камандуючы не раз схіляўся над картай, дапаўняў яе новымі значкамі, разглядаў соты раз, нібы шукаў адказу на загадкі, што трывожылі яго ў імкненні зазірнуць уперад. Часта здымаў ён трубкі тэлефонаў — пытаў, правяраў, раіў, загадваў.

Наперадзе, у заходнім — да ворага — схіле ўзгорка, быў абсталяваны назіральны пункт — маленькі бліндаж, у сценцы якога дзённым святлом значыліся амбразуры. У іх віднелася поле, недалёкае шасэ Масква — Мінск з паламаным, пакалечаным радам тэлефонных слупоў, што знікалі ў варожым тыле. Адсюль шырока адкрываўся прастор на захад. Праз гэтыя амбразуры, каля якіх стаялі стэрэатрубы, скіраваўшы

вочы-шкельцы ў поле, у варожы бок, Чарняхоўскі назіраў за пярэднім краем немцаў...

Калі ён першы дзень глядзеў у стэрэатрубу, поле наперадзе было маўклівым, насцярожаным.

Пра што ён думаў, гледзячы туды, у затоеную, зацятую пярэднюю паласу варожай абароны?

Ён увесь быў поўны клопату аб незвычайнай падзеі ў сваім жыцці, аб наступленні. Яго турбавалі, трывожылі дзесяткі, сотні, тысячы праяў, разваг, разлікаў, усё тое, што ён насіў у сабе ўжо багата дзён і што ўсё разрасталася, множылася, буйнела, чым бліжэй падступаў адказны час.

Паглыблены ў свой вялікі клопат, ён думаў вельмі канкрэтна: у ім быццам жылі турботы тысяч людзей, адказных за адну з ім справу, жылі вобразы і лічбы аб стане розных часцей, жылі задачы, якія належала кожнай з іх рашыць, жыла трывога — як ім удасца рашыць кожную задачу. Але аб чым бы ён ні думаў, што ні змянялася б у плыні думак, за ўсім нязменна і недаступна жыло, хвалявала яго большае, шырэйшае, усеагульнае.

Яго сэрца цісну́ла тое, што засталося ў памяці ад гэтых двух, нязмерна важкіх месяцаў — неспакойныя паездкі ў палкі, дывізіі, арміі, праверкі, нарады, парады, нецярплівае, гнеўнае змаганне з легкадумнасцю, безадказнасцю, расслабленасцю, з вялікімі і дробнымі непаладкамі. Колькі дзён і колькі сіл аддадзена навучанню камандзіраў і салдат з непахіснага пераканання, што ўсё ўрэшце вырашаць іх уменне, іх дасведчанасць. Колькі дзён і колькі сіл аддадзена таму, каб забяспечыць гэтых людзей, усе часці, увесь фронт неабходнай тэхнікай, зброяй, боепрыпасамі! Усё, што мог, ён стараўся зрабіць для справы, — якія ж вынікі дасць заўтрашні, паслязаўтрашні дзень — бязлітасная праверка боем?..

Мімаволі, хоць і недзе глыбока ў душы, недазволена, насцярожліва турбавала згадка пра тое, што ўжо не раз спрабавалі збіць ворага з гэтых рубяжоў, асабліва пад Віцебскам,— але — няўдала. Кожны раз адно трацілі людзей і тэхніку, а праціўнік, дзе быў раней, там і заставаўся. Не здаваў рубяжоў. Утрымліваўся. Вядома, становішча, суадносіны сіл цяпер іншыя —

войск і тэхнікі ў нас тут столькі не было ніколі, — але памяць пра былыя няўдачы ўсё ж насцярожвала.

У тым, што хвалявала камандуючага, асабліва важным было ўсё, што помнілася з Масквою. Паездка з-пад Тарнопаля, з арміі, размова ў Генеральным штабе з генералам Антонавым, які сказаў, што яго рашылі назначыць на Трэці Беларускі фронт, камандуючым. Трывожна-радаснае пачуццё, якое ўзнікла тады і з якім ён ехаў потым на фронт, прыціхла з часам, але зусім не знікала ніколі. Цяпер яно зноў нібы памацнела, як бы ажыло нанава, праўда, толькі адной сваёй якасцю. Трывожнасцю, разуменнем адказнасці.

Трывожнасць і адчуванне адказнасці яднали гэтае пачуццё з тым, якое засталося ад 22 і 23 мая, ад нарады ў Стаўцы. Увесь час помніўся пільны, пранізлівы позірк Сталіна, калі ён, камандуючы фронту, дакладваў пра справы на Трэцім Беларускім і калі выказваў свае заўвагі пра «План Баграціён». Сталін глядзеў і слухаў так, нібы хацеў праверыць, ці не памыліліся, даверыўшы яму фронт, ці — здолее?..

У тым неспакоі, які поўніў Чарняхоўскага, калі ён глядзеў праз амбразуру ў маўклівае, загадкавае поле, вастрэй, як калі-небудзь іншымі днямі, вярэдзілі яго думкі пра саму вялікую падзею, што вось-вось павінна будзе пачацца. Ён мімаволі нецярпліва заглядваў наперад — як пойдуць справы заўтра, паслязаўтра? Многае будзе залежаць ад таго, наколькі нечаканым для ворага акажацца наступленне. Ці не выведалі або ці не здагадваюцца немцы, калі мы рашылі пачаць? Цяжка скрытна правесці такую агромністую падрыхтоўку!.. У тысячны раз турбавала яго, ці ўсё ўлічыў ён, што неабходна, ці не прагледзеў чаго-небудзь важнага? Стараўся загадзя прадугадаць: дзе, мяркуючы па вестках разведкі і па сваім прадчуванні, будзе асабліва цяжка, а дзе хутчэй можна чакаць поспеху?

Даўнія гэтыя загадкі сёння хвалявалі асабліва таму, што на другі дзень, 22 чэрвеня, павінна была пачацца першая праверка ўсяго, што ён рыхтаваў увесь час. 22 чэрвеня, за дзень да наступлення, фронт на некалькіх участках павінен быў правесці разведку боем. Моцную і шырокую разведку ўсцяж усяго пярэдняга краю...

Разведку боем загадала зрабіць Стаўка. Разведка, якую належала правесці фронту, далёка не абмяжоўвалася ім. Разам з Трэцім Беларускім разведку мусілі правесці адначасова іншыя блізкія і далёкія франты, у тым ліку і тыя, што ў наступленні не павінны былі ўдзельнічаць.

Разведка боем павінна была распыліць увагу немцаў, адцягнуць яе ад войск, падрыхтаваных да наступлення. Разам з тым яна мела на мэце памагчы франтам, якім належала пачаць наступленне, лепш выявіць становішча праціўніка, намацаць слабейшыя месцы ў яго абароне...

Хутка вечарэла. Назіраць за полем стала цяжка: сонца свяціла з захаду.

Ён вярнуўся ў рабочы пакой.

2

Вакол было ціха. Але па ўсім адчувалася, што з дня на дзень павінна пачацца.

Уночы ўсё прыбывалі ды прыбывалі войскі. Без шуму — толькі зрэдку бразне дзе-небудзь зброя ці кацялок — праходзіла наперад пяхота. Уперамежку з пехацінцамі цягнуліся грузавікі, гарматы, мінамёты. Цемру тады поўніў асцярожны гул машын, чуліся прыцішаныя галасы артылерыстаў, фырканне коней.

Усё рушыла без агнёў. Не толькі фары, але і цыгаркі не блішчалі. Не чулася і моцных камандных выкрыкаў, яны таксама маглі парушыць маскіроўку.

З кожнай гадзінай прыфрантавая зямля ўсё больш напаўнялася войскам. Яго было так многа, што Аляксей толькі дзівіўся, дзе гэта ўсё падзяецца. Але салдаты, гарматы, павозкі ішлі ды ішлі.

Цемра, як бяздонне, праглынала ўсё.

Уранку поле цішэла. Паспешна канчалі капаць акопы, маскіравалі знакі начной работы. Калі ўздымалася сонца, поле здавалася ціхім і мірным.

Гарматы цяпер стаялі ўсюды ўсцяж пярэдняга краю, у некалькі эшалонаў. Накрытыя маскіроўкай, яны зліваліся з зямлёй, некаторыя нават зблізку былі амаль непрыкметныя.

На другі дзень Бяссонаў рашыў пазнаёміцца з абстаноўкаю на ўчастку, які займае стралковая дывізія Шчарбацюка. Палкоўнік узяў з сабою некалькі афіцэраў.

Генерал быў на КП. Танкістаў правёў туды маёр са штаба дывізіі.

Камандзір дывізіі, залажыўшы назад пухлыя рукі, расставіўшы ногі, сагнуўшыся, каб не перашкаджаў жывот, стаяў каля стэрэатрубы. Ён павярнуўся насустрач танкістам, павольны, спакойны, з маладжавым ружаватым тварам.

— Што, Бяссонаў, дарогу хочаш сабе выгледзець?

— З вашай дапамогай, генерал.

— Магу паказаць. Толькі паабяцай спачатку дапамагчы расчысціць.

— Добраму суседу, генерал, я заўсёды гатоў дапамагчы...

— Дапаможаш?! Ведаю я цябе — будзеш чакаць, пакуль расцярэбяць шлях і запросяць: калі ласка...

— Калі гэта мы чакалі, генерал? — Бяссонаў гатовы быў вось-вось кінуцца ў контратаку.

— Ну-ну, не будзем спрачацца,— прымірэнча сказаў Шчарбацюк.— Прашу адчуваць сябе чаканымі гасцямі ў прыветлівага гаспадара... Прашу пазнаёміцца з маім гняздом,— ён абвёў рукамі перад сабой.

— Вы тут абжыліся за месяц,— агледзеўся вакол Бяссонаў.

— Э, гэта што! Мы што, мы, можна сказаць, яшчэ новыя. Вось тут каля нас пушкары, тыя абжыліся. Кожны прышч на балоце ведаюць, не тое што бліндажы.

Ён выняў з кішэні кісет, скруціў цыгарку. Бяссонаў працягнуў каробку «Казбека», але генерал пакруціў галавой.

— Мы, пяхота, любім, каб у горле драла...— Лагодны, душэўны генерал меў завядзёнку, размаўляючы з роўнымі сабе, ужываць моцныя выразы, выстаўляць грубыя звычкі салдата.

Бяссонаў не любіў Шчарбацюка за мяккацеласць, за марудлівасць, але ў душы зайздросціў яму, якому невядома чаму так шанцуе ў жыцці — Герой і генерал! — і якога ўсе лічаць за вельмі адукаванага чалавека. Бяссонаў вучыўся толькі на курсах, ды і то без асаблівага поспеху. Ён лічыў сябе практыкам у процівагу Шчарбацюку і ганарыўся гэтым.

Усё ж генерал і Бяссонаў неўзабаве перайшлі на той клопатны лад, што звычайна ўстанаўліваецца між камандзірамі, у якіх адна агульная, блізкая справа.

Генерал загадаў пяхотнаму маёру падаць карту і, разлажыўшы яе, сам стаў знаёміць з абстаноўкай, паказваючы Бяссонаву асобныя аб'екты і арыенціры ў стэрэатрубу.

З каманднага пункта Бяссонаў уважліва разглядваў поле будучай бойкі.

Перад КП угіналася нешырокая балотная лагчына, а за ёй пачынаўся нізкі, ледзь прыкметны лапік сушы, на якім некалі была вёска. На месцы вёскі валялася цяпер толькі бітае каменне ды дзе-нідзе тырчалі абсмаленыя, пасечаныя камлі дрэваў. Зямля ўся была перарыта варонкамі; на ёй не толькі не было відаць людзей, але непрыкметна было наогул ніякіх знакаў жыцця. Нават трава не расла.

Абапал сушы і за ёй было балота — разлеглая раўніна, парослая высокай травою і хмызняком, што рос усюды купамі. Увесь бачны прасцяг, колькі можна было ахапіць позіркам, здаваўся пустым.

Не толькі Шчарбацюк, але і Бяссонаў ведалі, што там усё было перакапана і густа заселена немцамі. Ведалі: там, на гэтай зманліва спакойнай раўніне наперадзе, шырокімі паласамі цягнуцца нябачныя мінныя палі, насцярожана тояцца, чакаюць рускіх салдат незлічоныя кулямёты і гарматы.

Дзе-нідзе на балоце ўскідваліся ўгару чорныя стаўбуры торфу, потым даходзіў запознены глухі гук выбуху. Вяла пераклікаліся кулямёты. І Шчарбацюк і Бяссонаў ведалі, што хаваецца за гэтым спакоем і млявасцю.

Бяссонаў азіраў балота, як гаспадар, як чалавек, якому трэба выбраць месца для работы. Ссунуўшы фуражку з патыліцы на лоб, на самыя вочы, што ён рабіў, калі быў заклапочаны, палкоўнік з-пад казырка дапытліва аглядваў незнаёмы прастор.

Справа, сярод балота, ледзь прыкметна значылася паўзарослая, з жоўтымі гліняными плямамі палоска. Бяссонаў зацікавіўся ёю.

— Чыгунка была,— растлумачыў, зацягнуўшыся самакруткаю, генерал,— вузкакалейка. Разабралі немцы...

— Які там грунт?

— Цвёрды. Звычайны насып, праўда, невысокі.

Справа і злева ад чыгункі, у глыбіні зеленаватага прасцягу, добра акрэсліваліся чорныя, роўнымі лінія-

мі, тарфянікі; наперадзе, кіламетры праз тры, млела ў плыўкай блакітнай смузе даволі шырокая выспа.

На ёй гарбаціўся разбураны цагляны будынак. Бяссонаву трэба будзе прабівацца з машынамі туды. Як прайсці з танкамі праз гэты вялізны, зыбкі тарфяны абшар? Канечне, толькі па насыпу, іншага выбару няма. Пакласці ад узгорка да насыпу грэбельку — тут, мусіць, будзе з паўкіламетра,— а далей, па той простай вузенькай дарожцы, да дальняй выспы.

Што ж за выспаю? Карта паказвала: таксама балота, яшчэ большае, на ім толькі дзе-нідзе абнадзейваюць вузкія насыпы, што цягнуцца на захад. Трывалы грунт, жаданы шырокі прастор, дзе можна разгарнуцца, далёка.

Генерал расказаў, што ў балотах перад імі выяўлена некалькі паралельных абарончых ліній, уся шырыня якіх перавышае два дзесяткі кіламетраў. На выспе — вялікі ўмацаваны вузел, з якога немцы падтрымліваюць свае часці навокал. Гэты нешырокі «пятачок» увесь шчэрыцца гарматамі.

— Арэшак, што і казаць, моцны! — сказаў Бяссонаў, калі камандзір дывізіі разгарнуў поўную карціну абароны праціўніка.

— Сем месяцаў яны тут усё капалі, будавалі, мініравалі,— адгукнуўся Шчарбацюк.

Ён зняў фуражку і выцер запацелы цыратавы абадок унутры.

У яго была шырокая ружовая лысіна, якую аздаблялі толькі некалькі бялявых валасоў, зачасаных назад,— без фуражкі, з-за лысіны, генерал здаваўся старэйшым за свае сорак чатыры гады. Твар жа ў яго быў свежы, амаль без маршчын, поўны, з мяккімі рысамі і дабрадушнымі таўставатымі губамі.

— Ну, я думаю, у вас для гэтага будзе добры малаток. Вас не пакрыўдзяць. І птушак, і запалак, не інакш, падкінуць. Багацеем становіцеся, генерал,— гаспадарка, што ў арміі.

— Клопату прыбаўляецца. Адна галава — на ўсё!..— няшчыра паскардзіўся на лёс Шчарбацюк. Адчувалася, што ён задаволены гэтым.

Маёр-пехацінец прамовіў:

— Хоць бы тут зямля як зямля была, а то ж дрыгва адна! Грузнеш на кожным кроку. Бывае — патануць нядоўга.

— Зямля добрая. Наша, савецкая! — запярэчыў спакойна генерал-маёр.

З нямецкага боку правылі некалькі мін, шмякнуліся поблізу КП. Маёр занепакоіўся, ці не засеклі іх немцы. Сонца хілілася да захаду, і на тым баку маглі заўважыць бляск шкельца стэрэатрубы. Але наступныя міны ўпалі далей.

Бяссонаў сабраўся ісці назад.

— Дзякую, генерал. Праяснілі вы нам вочы...

— Для тваёй і сваёй карысці стараюся! Спадзяюся на вас!.. Будзьце асцярожны,— папярэдзіў генерал, паціснуўшы танкістам рукі.— Недзе злева снайпер сядзіць, уранку сержанта ў мяне зрэзаў. Уцэліў, паганец, проста ў скроню.

На адным павароце вузенькага ходу старшына-праваднік даў знак прыгнуцца да зямлі. Дзесяткі два метраў усе паўзлі. Калі выйшлі на спакойнае месца, старшына, атрасаючы з каленяў ліпкія камячкі гліны, сказаў:

— Чорт! Колькі я зямлі прапоўз за вайну, палічыць бы цікава. Мусіць, не адну сотню кіламетраў. Штаноў адных дзесяткі тры вышмаргаў. Больш за ўсё, праўду кажучы, на каленях і прадзіраліся. І штаны, здаецца, нічога, жыць ім яшчэ, жыць, а на каленях свецяцца!

## 3

Ноч. Грымне, пракоціцца блізка ці далёка гарматны выбух, рассыплецца частая, заядлая кулямётная чарга, і наступіць на нейкі час цішыня.

І чуваць тады: мірна, лагодна шэпчуцца, пакалыхваюць свае пругкія галіны пад нязлым чэрвеньскім ветрам шэрыя ў цемры бярозы. Дробна, несціхана трапечуць лісточкі асін. Недзе сонна запырхала крыламі птушка.

Колькі разоў быў у баі, прывыкнуць, здаецца, пара б, дык не ж,— перад кожным насцярожваешся, падбіраешся, непакоішся! Вось і зноў, ведаеш, што хутка бой, небяспека, і бярэ ўсё тое ж, незвычайнае, перадбаявое, трывожнае...

Аляксей праходзіў паволі па роце. Усюды каля цёмных маўклівых машын, што ледзь віднеліся між дрэваў, спалі, адпачывалі танкісты.

Каля адной «трыццацьчацвёркі» старшы лейтэнант убачыў нерухомую постаць — нехта стаяў, абапершыся аб гусеніцу. Аляксей падышоў бліжэй, запытаў:

— Хто?

Гэта быў Колышаў.

— Не трэба,— сказаў Аляксей, заўважыўшы, як лейтэнант выпрастаўся.— Што, Колышаў, не спіцца?

— Ды так...

— А ўсё ж? Клопат які-небудзь?

Колышаў маўчаў, вагаўся. Нарэшце сказаў, ніякавата, ціха:

— Лезе ўсякае ў галаву...

— Думкі?

— Успамінаецца ўсякае...

— Маці адна засталася?

— Адна... Бацька ў арміі. На Далёкім Усходзе... Таксама лейтэнант, у артылерыі.

— І ў мяне маці дома. Там, па той бок... Чакае, старая, мусіць, не дачакаецца...— уздыхнуў Аляксей. Ён памаўчаў болесна. Потым закурыў асцярожна, хаваючы агеньчык, зацягнуўся, запытаў глуха:

— Дзяўчыну, мусіць, успомніў? Ні разу і не пахваліўся, якая яна ў цябе... Скрытны, мусіць?..

— Ды не... Проста не было выпадку...

— Хто яна? Як завуць?

— Рая.

— Рая...

— Мы з ёй разам вучыліся ў школе...

— Там засталася?.. У Горкім?

— Там. Цяпер у інстытуце... Урачом будзе. Там жа, у Горкім, і вучыцца...

— Добрая дзяўчына?

— Добрая! Прыгожая!.. Разумная!.. Мы з ёю, ведаеце, хоць і вучыліся разам, разам былі мала. Жылі, ведаеце, побач, кожны дзень сустракаліся, а амаль і не гаварылі... адно з адным... Толькі так усё... вачыма хіба!..

— Гэта бывае...

— Так і ў нас выйшла. Я ўсё зразумеў, калі яна прыйшла на вакзал, развітацца. Дзіўна, праўда? Яна, ведаеце, што сказала: «Помні, кажа, дзе б ты ні быў, як бы цяжка табе ні было — я пра цябе буду думаць!» Тады мы першы раз пацалаваліся... Проста, ведаеце, на людзях, пры маёй маці... Цяпер яна, Рая, часта

прыходзіць да нас. Ну, адным словам, стала як сястра ці хто... І для мяне яна... як бы іншая...

— Што, даўно не бачыліся?

— Даўно. Хутка год. Мы цяпер ехалі, ведаеце, з эшалонам праз Горкі... былі амаль каля самага дома. Наша вуліца тут жа, побач з чыгункаю. Хацелася страшна пабачыцца! Ды не давялося. Амаль не стаялі ў горадзе!..

— Та-ак... крыўдна... — паспачуваў Аляксей.

— Амаль побач былі...

Зноў доўга маўчалі. Маўчалі, адчуваючы блізкасць, дзіўную чуласць між сабою. Нібы чулі патайныя думкі, рух душы кожнага.

— Тужыш? — запытаўся Аляксей, ціха спачуваючы.

Тое чулае, што было між іх, сказала Колышаву: гэта ўжо не пра Раю, пра іншае. Нядобрае, цяжкае.

— Тужу,— нялёгка прызнаўся Колышаў.

І зноў было маўчанне. У цемры зырчэла Аляксеева цыгарка.

— Лезе ў галаву...— цяжка, вінавата загаварыў Колышаў. Аляксей пачуў у яго голасе нават нібы адчай: — Лезе, ну: раптам заўтра мяне тут... Недалёка ад гэтага лесу... Разумееце?.. А я ж нічога не бачыў, здаецца... Вось толькі пачынаю па-сапраўднаму жыць. А мяне... Разумееце, такія думкі!.. Перад боем...

Вінаватасць і адчай усё мацней чуліся ў голасе Колышава. Аляксею захацелася суцешыць яго.

— У кожнага, відаць, бываюць такія думкі. Ці падобныя... Жыць усім хочацца...

— Значыць, гэта не... баязлівасць? Камбрыг мяне запытаў, ці не трус я, а я і не ведаю. Ну, адкуль мне ведаць, калі я яшчэ не быў там? Я толькі ад другіх чуў, як яны ішлі ў першы раз, яны расказваюць усе па-рознаму.

— Тут, мне здаецца, галоўнае, Колышаў, не паддацца! Калі трэба, умець забыць, перамагчы ўсё, што замінае. І адчуваць толькі адно — тое, што трэба. Абавязак. Усяго сябе, усе свае думкі аддаць абавязку. І яшчэ, па-мойму, трэба думаць, што тое месца, на якім ты аказаўся,— вельмі важнае. Што ад цябе залежыць лёс іншых, усіх. Усёй роты, усёй брыгады. Увогуле — факт: кожнаму дорага сваё жыццё. І калі рызыкуеш

ім, то трэба ведаць, што — не попусту. А ў імя мэты. Я так лічу...

— Гэта правільна,— задуменна прамовіў Колышаў.

Аляксей адчуў, што Колышаву хочацца яшчэ нешта сказаць, але ён вагаецца. Старшы лейтэнант знарок маўчаў, чакаў. Ён не памыліўся.

Колышаў раптам запытаў:

— А вы таксама, таварыш гвардыі старшы лейтэнант... не спалі спачатку?

— Не спаў.— Аляксей паглядзеў у неба, у глыбокай чарнаце якога цьмяна бялеў Млечны Шлях, сказаў шчыра: — У першыя ночы не спаў... І ўспамінаў многа. У баі — як бы не горш за іншых. А як ноч настане, усе храпуць, а я — варочаюся з боку на бок! Не засну — дый годзе! Як закляты! Малюнкі мне дзённыя чаўпуцца. Усё, што пабачыў за дзень, зноў паўтараецца. І страшнавата робіцца, як успомню... Але ў баі не дрэйфіў, трымаўся... Потым паспакайнеў, паступова абвыкся. Спаў тады седзячы і стоячы. Хоць з гарматы бі, не дабудзішся.

Нібы спрачаючыся з сабою ці раздумваючы, прызнаўся:

— Я, брат, таксама не ведаю — смелы я ці не? Адвагі ў мяне мала, адчуваю...

— Што вы, таварыш гвардыі старшы лейтэнант!

— А так, брат,— страшна мне часам бывае. Нават вельмі. Асабліва бамбёжак праклятых не люблю... Душу пераварочваюць мне яны. Толькі я стрымліваю сябе. Трымаюся, словам!.. Але гэта няхай будзе так, між нас, а?

— Не турбуйцеся, не скажу.

— Я, брат, у маленстве амаль ніколі не лез у бойку. Так хіба часам, калі вельмі дадзенуць. А наогул стараўся быць далей ад гэтага. Ціхі быў!..

Узлессе раптам пачало хутка напаўняцца магутным гулам, ад якога дрыжала зямля. Аляксей і Колышаў змоўклі і глядзелі адно ў неба. Там ішлі на захад самалёты.

— У вас душа, напэўна, у Мінску? — загаварыў першы Колышаў.— Ніну бачыце ўсё, не дачакаецеся...

— Бачу, часта бачу...— прызнаўся Аляксей нявесела, і Колышаў пашкадаваў, што крануў гэта балючае для камандзіра роты. Колышаў папракнуў сябе за няўдаласць.

Здавалася, знікла нядаўняя добрая блізкасць. Недалікатнае пытанне Колышава нібы аддаліла іх.

— А цябе,— спытаў дзіўна, дапытліва старшы лейтэнант,— не вядзе туды душа?.. Табе ўсё роўна?

І ў тоне гаворкі, і ў самім пытанні штосьці нібы таілася. Колышаў не зразумеў — што. Але сэнс пытання быў ясны. Праўда, Колышаў не чакаў яго.

— Чаму ж! — адразу запярэчыў лейтэнант.

— А чаго ж ты, скажам, туды імкнешся? — дзіўна дапытваўся камандзір роты.— У цябе ж там няма нікога. Маці ў Горкім. Рая таксама далёка ў тыле. У цябе ж у Беларусі нават знаёмых няма. Няма нікога, адным словам, да каго б ляцела душа...

І зноў Колышаў чуў у словах ротнага стоенае: раўнівае і націятае. Нібы недавер нейкі ці крыўду. Ён сказаў з няёмкасцю:

— Як нікога, таварыш гвардыі старшы лейтэнант? А людзі?..

Старшы лейтэнант моўчкі курыў. Думаў пра нешта.

— Людзі... Нашы людзі, пакутнікі... Народ...— У глухаватым, раздумлівым голасе Аляксея чуліся ўжо болеснасць і сум.— Змагаюцца там і гаруюць... І чакаюць нас, не могуць дачакацца... І ўсе мы ім — як сыны. Як надзея...

За ўсім, што гаварыў Аляксей, як і раней, адчувалася яшчэ нешта, сваё, асаблівае, нявыказанае.

Зноў, напаўняючы гулам неба і лес, прайшла на захад эскадрылля. Калі гул пачаў сціхаць, старшы лейтэнант зірнуў на ручны гадзіннік, на якім свяціліся лічбы і стрэлка, схамянуўся: трэба адпачыць!

— Ну, бывай, Колышаў. Лажыся, прыкархні. Ужо небагата засталося. Абавязкова прыкархні, чуеш, брат! Пойдзем у бой — там невядома, калі ўдасца падрамаць...

## РАЗДЗЕЛ XI

### 1

У гэтую ноч абстаноўка на камандна-назіральным пункце фронту і на некалькіх участках пярэдняга краю нагадвала тую, што бывае пры наступленні,

У данясеннях, што прыходзілі на КНП, паведамлялася, як часці, вылучаныя для разведкі, выходзяць да рубяжоў, рыхтуюцца да блізкай ужо атакі. У цемры чэрвеньскай ночы ціха займала акопы і траншэі пярэдняга краю пяхота, размяшчаліся на падрыхтаваных пазіцыях мінамётчыкі і артылерыйскія батарэі, падцягваліся танкі. У прамежкі між успышкамі белых нямецкіх ракет сапёры размініравалі праходы для пяхоты, для танкаў...

Чарняхоўскі з увагаю сачыў за падрыхтоўкай да разведкі. Яна была толькі часткай яго клопату: як і раней, ён трымаў у сабе адчуванне агромністага жыцця фронту, што набліжаўся да вялікай падзеі,— але сярод усіх іншых турбот ні на момант не забывалася яму гэтае — разведка.

Акрамя важнага практычнага значэння разведка боем, што мела вось-вось пачацца, мела і інакшае, чалавечае: яна быццам заканчвала тое даўняе, напружанае, чаканне, якое станавілася ўсё больш цяжкім, мучыла сваёй нерухомасцю. Яна быццам пачынала новую, жаданую змену ў жыцці — час дзейнасці.

З гэтымі адчуваннямі выйшаў Чарняхоўскі раніцай 22 чэрвеня на назіральны пункт, перад тым момантам, калі павінна была загаварыць артылерыя. Як ні поўнілі яго турботы пра тое вялікае, што належала пачаць праз дзень, ён з нецярплівасцю, узрушана чакаў, калі пачнецца сённяшняе.

Калі ён выйшаў у бліндаж НП, поле, шасэ, неба яшчэ бераглі цішыню раніцы. Пасля ночы ў падзямеллі ён асабліва востра адчуў халаднаватую ранішнюю свежасць, жывое святло за амбразурай, і — неба, шырыня якога ўгадвалася нават у гэтай вузкай прорэзі бліндажа. Гэта было ўсяго момант і было не галоўным: па-ранейшаму ціснуў яго клопат, які ён прынёс з рабочага бліндажа, хвалявала чаканне блізкай артпадрыхтоўкі і ўсяго таго, што за ёй павінна было прыйсці.

Адразу, як загрымела, ён схіліўся да акуляра стэрэатрубы, спрактыкаваным вокам стаў сачыць, як на тым, на нямецкім, баку расце, клубіцца, зліваецца ў адно варухлівы рад выбухаў. Ён на нейкі час адчуў сябе раптам лёгка, вольна: так добра было, што апала важкае чаканне. Недзе ў свядомасці радасна адзначылася: «Вось яно, пачалося!..» Вялікае, заўтрашняе заявіла аб сабе першым громам. Загаварыла, не тоя-

чыся, на поўны голас. Не, не на поўны, але — уголас...

Аднак гэта бруілася там, глыбей, а тут галоўным імкненнем яго была клопатная, пільная ўвага: клубы дыму ў кружку, набліжаныя, ясныя, разрэзаныя выразным скрыжаваннем з дзяленнямі. Выбухі вывараочвалі зямлю, шматавалі хмызняк, бурылі падазроныя ўзгорачкі. У двух-трох месцах выхапіліся мітуслівыя постаці, выгнаныя з укрыццяў неспадзяваным налётам...

Амаль адразу ўслед за тым, як пачалі нашы батарэі, ажыла артылерыя і на тым баку. Мінула вельмі мала часу, як артпадрыхтоўка стала падобнай на артылерыйскую дуэль. Чым далей, нямецкая артылерыя ўсё мацнела: выбухі варожых снарадаў усё часцей чарнілі наш пярэдні край. Яны ўскідваліся на ўсім відным полі, і на пярэдніх рубяжах, і ў глыбіні нашай абароны. Выбухі раз-пораз чуліся і ззаду, за вышынёй, у якой быў КНП фронту. Некалькі разоў бліндаж моцна страсянула ад выбухаў угары: немцы не абыходзілі ўвагай і вышыню. Было відаць, яны імкнуліся біць па ўсёй глыбіні нашых пазіцый. Імкнуліся паралізаваць нашу артылерыю.

Чарняхоўскі заўважыў, што нямецкія снарады нярэдка адразу кладуцца дакладна. Падобна было на тое, што пазіцыі многіх батарэй немцы засеклі загадзя, што цэлі гэтыя падрыхтаваны. Камандуючы гнеўна сціснуў губы, калі ўбачыў, як амаль адразу адну за адной трапныя варожыя ўдары накрылі дзве артылерыйскія батарэі...

Пільнай увагай Чарняхоўскі з насцярожанасцю адзначаў, што супраціўленне артылерыі праціўніка з часам не толькі не слабее, а быццам узмацняецца. Вядома, шырокія і цвёрдыя вывады рабіць было пакуль рана, але пры ўсім тым былі ўжо непрыемныя падставы думаць, што ўдар артылерыі на гэтым напрамку не аказаўся зусім неспадзяваным для немцаў. Былі падставы думаць, што яны невыпадкова так моцна сустрэлі артпадрыхтоўку.

Чарняхоўскі не спяшаўся з вывадамі аб тым, як будзе развівацца бой артылерыі далей. Урэшце, у тым, што немцы супраціўляюцца так упарта, не было нічога дзіўнага. Было б дзіўна, каб яны на першай пары не супраціўляліся як толькі могуць. Невядомым, істотным было тут толькі тое, як доўга здолеюць яны про-

цістаяць нашай артылерыі. Калі ўдасца зламаць іх супраціўленне. Поспех работы артылерыі будзе вызначацца гэтым.

Але чым далей ішло змаганне, тым больш адзначаў з непакоем Чарняхоўскі, што праціўнік мала прыціхае, што падавіць нямецкую артылерыю ўсё не ўдаецца. Як ні прыкра было, прыходзілася рабіць вывад, што артылерыйская падрыхтоўка аказалася малаэфектыўнай. Многія важныя цэлі — нямецкія батарэі — так і не ўдалося накрыць.

Чарняхоўскі адарваўся ад стэрэатрубы, гнеўна захадзіў у вузенькім прамежку між сценамі. Пякло абурэнне: якое нядбальства! Дапусціць, каб так кепска была разведана нямецкая артылерыя! Нямецкія батарэі не выявілі, а свае далі выкрыць!..

Прыкрасць гэта ўвяла неспакой, што, можа, і на іншых участках не ўсё як след разведана. І з маскіроўкай — лад не ўсюды...

Ён зноў прынік да стэрэатрубы, калі артылерыя стала пераносіць агонь у глыбіню нямецкай абароны і туды, да варожых пазіцый, ускідваючы за сабой зямлю, страляючы, рушылі танкі. І нябачная дасюль, паявілася, пайшла ўперад пяхота — нячутныя рухавыя постаці...

Чарняхоўскі з трывогай і надзеяй сачыў, як ідуць танкі і пяхота. Ён бачыў, што яшчэ да таго, як танкі прайшлі нашы перадавыя пазіцыі, перад імі, вакол іх сталі ўскідвацца выбухі. Паветра пракрэслілі трасіруючыя снарады. Агонь нямецкай артылерыі намнога мацнеў, калі танкі рушылі праз праходы ў мінных палях. Перад вачыма камандуючага дзеялася такое, з чым, колькі ні бачыў за вайну, не мог звыкнуцца: то адна, то другая машыны спыняліся, заміралі. У кружку акуляра стэрэатрубы паявілася: з машыны, над якой пачаў цадзіцца дым, хапатліва вывальваюцца чорныя постаці танкістаў.

Там, у лагчыне, у розных месцах над танкамі пухлі воблакі — знаёмыя, паганыя. У кружку акуляра раптам пыхнула, клуб чорнага дыму і зямлі закрыў танк — машына ўзарвалася... Чарняхоўскі павёў кружок па лагчыне: танкі, часта страляючы, упарта рушылі ўперад. Рушылі за імі, дробныя адсюль, постаці пе-

хацінцаў... Усё ж было прыкметна, што націск танкаў і пяхоты проста ўвачавідкі слабеў...

Поступ іх усё запавольваўся, потым яны і зусім спыніліся. Пяхота залегла. У цішыні, што адчувалася ў бліндажы НП, камандуючы адарваў позірк ад акуляра стэрэатрубы, выпрастаўся, ускінуў галаву. Нейкі час стаяў так, нерухома, нібы ганарліва, з заплюшчанымі вачыма. Афіцэры і генерал Макараў, што былі побач, таксама стараліся не варушыцца, быццам асцерагаліся патрывожыць яго. Усе як бы таксама адчувалі сябе вінаватымі за няўдачу.

Калі Чарняхоўскі расплюшчыў вочы, позірк яго ўпаў на шматок шэрага неба ўгары амбразуры, але ён, дзіўна, не ўбачыў нічога. Яго паліла ўбачанае праз амбразуру. З адчуваннем прыніжанасці, якую вяла няўдача, раптам апанавала даўняе, калісьці звычнае: выбрацца б адсюль, з падзямелля, кінуцца б туды! Разабрацца зблізку, памагчы выправіць!

З гэтага стану яго выбіў генерал Макараў. Углядаючыся ў стэрэатрубу, член Ваеннага Савета раптам узрадавана клікнуў: «Пайшлі!» Чарняхоўскі цікаўна зірнуў на яго, схамянуўся і прыпаў зноў да стэрэатрубы. Ён адразу ўхапіў позіркам: два танкі — адзін крыху наперадзе, другі збоку, трохі адстаючы,— рашуча, хутка рушылі ўперад. За імі, быццам павагаўшыся, часта страляючы, крануліся яшчэ тры. Адзін — самы першы — хутка закрыла раптоўная чорная хмара: відаць, падарваўся; а другі — усё ішоў і ішоў. Прабіўся да нямецкіх пазіцый і — прарваўся праз іх. І — застыў нерухома ўжо за імі. З наступных трох — адзін таксама падбілі. А два, адстрэльваючыся, пасунуліся назад...

Нейкі час наперадзе завіхаліся штурмавікі — бамбілі, абстрэльвалі пярэдні край ворага. Яны яшчэ ўціскалі працаўніка ў зямлю, калі пачалася новая атака танкаў і пяхоты, яшчэ больш упартая. Але і гэтая спроба не змяніла нічога. Чарняхоўскі адступіўся ад стэрэатрубы, моўчкі павярнуўся і, пазваўшы з сабой генерала Макарава, хуткім, цвёрдым крокам падаўся ў рабочы бліндаж.

Тут камандуючы адразу выклікаў начальніка аператыўнага ўпраўлення і, ледзь той з'явіўся, папрасіў далажыць, як ідуць баі на іншых кірунках. Генерал Іголкін жвавым, пільным позіркам у момант улавіў неспакой у твары, у постаці камандуючага.

Генерал, што заўсёды вылучаўся вясёласцю, сёння загаварыў з асаблівай радасцю:

— У 5-й і 39-й, таварыш камадуючы, усё ідзе цудоўна! Лепш за ўсякія меркаванні!.. Артылерыю праціўніка падавілі! Уварваліся ў першыя лініі абароны!..

Тады ўжо стаў дакладваць абстаноўку падрабязна.

Усе данясенні ад Люднікава і Крылова радавалі. Падраздзяленні 5-й арміі Крылова з ходу фарсіравалі раку Сухадрэўку, захапілі першую лінію варожай абароны і прарваліся да другой. Бой ішоў на другой лініі. Чарняхоўскі, прадчуваючы, якія гэта можа даць вынікі заўтра, загадаў Крылову будаваць масты для цяжкіх танкаў.

Не менш удала разгортваўся бой і ў 39-й арміі. Можна сказаць, што на гэтых абодвух напрамках баі далі поспехі нават большыя, чым спадзяваліся. Поспехі там давалі падставы строіць самыя добрыя надзеі на гэтыя кірункі на заўтрашні дзень...

Але тут, у паласе магістралі і на поўдзень ад яе, баі ішлі так няўдала, што горшага і быць не магло. Чарняхоўскі, як ні быў заняты падрыхтоўкай да наступлення, яшчэ двойчы выходзіў у бліндаж НП, прынікаў да акуляра стэрэатрубы. Бачыў, як і раней, што гвардзейскі батальён у адчайным сваім штурме б'ецца амаль без поспеху. Кожны раз, калі роты падымаліся ў атаку, рады пехацінцаў увачавідкі радзелі, і жывыя кідаліся на зямлю, прыцiскаліся да яе. Батальён падтрымлівалі танкі, самалёты, гарматы. Варожыя пазіцыі былі агорнуты агнём і дымам, а ўсе атакі пяхоты не давалі нічога. Толькі на зыходзе трэцяй гадзіны незвычайна ўпартага бою батальён змог штурмам уварвацца ў першыя траншэі ворага, захапіць іх. Захапіў, але — якой цаною!

Хоць Чарняхоўскі не спадзяваўся на лёгкую ўдачу тут, у паласе магістралі, ён усё ж не думаў, што бой пойдзе так пагана. Тое, як цяжка ішоў бой, перавышала самыя горшыя меркаванні. У самым горшым выглядзе адкрылася тое, што яго найбольш трывожыла. Якімі ні былі значнымі нашы пралікі і заганы падрыхтоўкі, яны мала мянялі галоўнае, што зноў адчуў Чарняхоўскі: якая моцная тут у праціўніка абарона. Бой, акрамя ўсяго, пацвярджаў, што іменна тут яны найбольш моцныя. Іменна тут цяжэй за ўсё будзе іх зрушыць.

Тое, што бai на іншых кірунках былі ўдалыя і абяцалі добрыя надзеі, радуючы і ўздымаючы, разам з тым дадавала супярэчлівасці ў становішча, у якім трэба было дзейнічаць. Жыццё ўпарта пярэчыла некаторым, і прытым вельмі важным, патрабаванням плана аперацыі, падрыхтаванага так старанна і зацверджанага. Баі яшчэ пацвердзілі, што недарэмныя былі сумненні. Што трэба змяняць некаторыя задачы.

Змяняць найбольш тое, што датычыць магістралі, з захопам якой звязаны ў плане такія разлікі. Разлікі, якія маглі б даць нашым войскам вялікія перавагі, але якія аказаліся і сёння маларэальнымі. Якіх можна дабіцца толькі страшэнна дарагой цаной. Тады, як такіх жа вынікаў на іншых кірунках можна дасягнуць і хутчэй, і з меншымі стратамі...

Зноў ажывала, патрабавала адказу даўняе, неадступнае: дзе ўводзіць 5-ю танкавую армію і 2-гі танкавы корпус?

Гэта супярэчлівасць, што ўломвалася ў спадзяванні перад самым наступленнем, насцярожвала Чарняхоўскага. Яна нібы патрабавала быць вельмі пільным, дзейнічаць хутка. Каб управіцца ўлічыць усё, што адкрылася. Падрыхтавацца найлепш.

Разуменне таго, што часу так мала, а клопату столькі, што ўвесь сэнс жыцця зводзіўся цяпер да аднаго — управіцца б, дарабіць усё,— прыдавала камандуючаму неспакою і энергіі. І рэшту дня, і ноч, усе лічаныя гадзіны і хвіліны, што заставаліся да наступлення, Чарняхоўскі жыў турботна, у вялікім мэтанакіраваным клопаце. Ставіў дадаткова задачы, папярэджваў, папраўляў. Сачыў за тым, як збіраюцца на рубяжах часці.

Увесь час КНП камандуючага трымаў сувязь з арміямі, з усім тым прытоеным вялікім рухам, якім жыў фронт апошнія гадзіны перад наступленнем.

Падрыхтоўка да наступлення заканчвалася.

Уноч на 23 чэрвеня, праз тры гады пасля таго, як першыя гітлераўскія салдаты ўварваліся на зямлю Беларусі, на ўсім фронце ішла напружаная, заключная праца.

За дні падрыхтоўкі былі выяўлены і засечаны тысячы бліндажоў, артылерыйскіх і мінамётных батарэй,

кулямётных гнёздаў, дотаў і дзотаў. Цяпер заносіліся на карты папраўкі, апошнія данясенні разведкі.

У штабах брыгад, карпусоў, армій дапрацоўваліся апошнія дэталі, удакладняліся тэрміны, сувязь пры агульных аперацыях. У апошні раз правяралі гатоўнасць часцей да наступлення афіцэры аператыўнага ўпраўлення штаба фронту. У гэту ноч яны адзін за адным вярталіся ў аперупраўленне, дакладвалі пра вынікі сваёй праверкі.

Да пярэдняга краю падыходзілі і займалі пазіцыі апошнія часці, падрыхтаваныя да наступлення. Акопвалася пяхота, усталёўваліся артылерыйскія батарэі, падвозілі скрыні са снарадамі, з патронамі. Падыходзілі паходныя кухні, павозкі з прадуктамі.

Незвычайнае мноства людзей, разнастайных машын ціснулася ў лясах, палях, балотах усцяж усяго фронту. Асабліва многа людзей і зброі было ў месцах, прызначаных для прарыву варожай абароны. На ўчастках прарыву было размешчана тры чвэрці ўсёй артылерыі — ад 150 до 200 гармат і мінамётаў на адзін кіламетр. У артылерыі было ўдосталь снарадаў: да пяці боекамплектаў,— і палавіну з іх меркавалася выкарыстаць у першы дзень наступлення. Артылерыйская падрыхтоўка планавалася працягласцю ад дзвюх да дзвюх з палова гадзін. Магутная артылерыйская атака павінна была пачаць наступленне!

У бліжніх тылах стаялі вялікія групы танкаў і самалётаў, гатовыя падтрымаць пяхоту і артылерыю, выбіць ворага з умацаваных пазіцый, гнаць яго, калі ён пачне адступаць. У лясах, ва ўкрыццях, чакалі сваёй пары танкісты 2-га гвардзейскага танкавага корпуса генерала Бурдзейнага, магутнай 5-й гвардзейскай танкавай арміі маршала Ротмістрава. На аэрадромах чакалі гарачай працы слаўныя лётчыкі 1-й паветранай арміі.

З кожнай гадзінай пярэдні край усё дужэў. На поўначы, зачапіўшыся за занятыя ўчора пазіцыі, рыхтавалася да атакі 39-я армія генерала Люднікава, якой належала разам з суседняй арміяй Першага Прыбалтыйскага фронту акружыць і знішчыць віцебскую групоўку ворага. Завяршала выхад на зыходныя рубяжы 5-я армія генерала Крылова, што павінна была наступаць на багушэўскім напрамку і выйсці да Бярэзіны. Заканчвалі падрыхтоўку да наступлення 11-я гвардзей-

ская — генерала Галіцкага і 31-я — генерала Глаголева, якім належала разбіць аршанскую групоўку ворага і наступаць усцяж Мінскай магістралі...

Авіяцыя зрабіла моцныя налёты на аэрадромы ворага ў Бабруйску, Мінску, Оршы, Баранавічах, Брэсце.

Доўга чакалі нашы людзі гэтай хвіліны. І вось яна надышла.

Чатыры франты — тры Беларускія і Першы Прыбалтыйскі — гатовы былі вось-вось уступіць у вялікую бітву. Карпусы і арміі, што займалі семсот кіламетраў усцяж пярэдняга краю, застылі насцярожана, чакаючы жаданага слова каманды.

Пачыналася бітва за Беларусь. Над знявечанай зямлёй, над заняволеным народам, што быў на той бок франтавой лініі, вось-вось павінна была заняцца зара вызвалення. Яна займалася на ўсходзе, павінна была зліцца з ранішняй зарой, з усходам сонца.

Не пачало яшчэ святлець неба на ўсходзе, а ўвесь фронт стаў ажываць. У палках, узводах, на пазіцыях, якія яшчэ бераглі цішыню, апошнія яе хвіліны, палітработнікі чыталі зварот Ваеннага Савета фронту.

І заплёскаліся ў ціхіх поцемках, завіравалі, пайшлі па ўсім фронце, па артылерыйскіх пазіцыях, па аэрадромах, па пяхотных бліндажах і акопах, па стаянках замаскіраваных танкаў, па сапёрных батальёнах і аўтаротах, па складах і санбатах, па ляссах, палях, ярах,— то ўголас, то — на самым пярэднім краі — пошапкі, каб не чуў яшчэ вораг,— радасныя, нястрымныя, рознагалосыя каманды, загады — да блізкай бітвы, да вялікага наступлення!

Яшчэ ніхто, акрамя франтавікоў, не ведаў, што надыходзіць вялікая, запаветная хвіліна. Не ведалі гэтага ні Ермакоў, ні Шабуніха, ні Ніна, ні Туравец. Не ведалі мільёны людзей,— не ведалі, але прагна чакалі тры доўгія пакутныя гады.

А артылерысты ўжо скідвалі з халаднаватых выносістых ствалоў і дульных варанёных тормазаў замасленыя чахлы, круцілі ручкі пад'ёмных і паваротных механізмаў, дасылалі снарады ў патроннікі.

Дулы гармат уздымаліся ў неба, у заходні бок.

Пачыналася раніца.

2

Пад раніцу прарваўся моцны дождж. Раніца пачыналася цьмяная, неба было зацягнута нізкімі, шэрымі хмарамі.

Ад таго, што сонца было недзе за хмарамі, світала цяжка, паволі. І ўсё ж світала — навокал усё ясней відненіся кусты, маладыя бярозкі, прытоеныя машыны. На кустах, на бярозках, на ўсім паблісквала вада.

Але нішто не магло адолець таго асаблівага настрою, якім жыла, здавалася, гэтая раніца. Настрою незвычайнай, урачыстай цішыні, якая панавала ў прыродзе.

Дзівосная, незабыўная была цішыня ў гэту шараватую раніцу, цішыня вялікага чакання.

Чаканнем даўно-даўно жаданай хвіліны быў увесь напоўнены Аляксей. Увесь час раз-пораз нецярпліва паглядваў ён на гадзіннік, на наваколле, на машыны, на неспакойныя, напружаныя твары людзей. Мноства людзей, што таксама чакалі.

Раптам наперадзе яго, па ўсім прасторы, відным воку і схаваным за ўзгоркамі і лясамі, забухала, загрукатала.

Праз міг паасобныя выбухі зліліся ў адзін суцэльны магутны гром. Адтуль, дзе Аляксей стаяў, не было відаць, як на нямецкім баку, за ўзгоркам, пачалі ўзлятаць чорныя грывы выбухаў, ускідваючы ўгару абломкі, стаўбуры зямлі. Ён бачыў толькі нашы гарматы з паднятымі ствaламі, над якімі амаль бесперапынна, імкліва ўспыхвалі белыя агні, віўся, уздымаўся сіні дым.

Каля гармат заўзята завіхаліся артылерысты.

Усё навокал грымела. Зямля калацілася, нібы побач праходзіла незлічоная калона танкаў.

Аляксей мімаволі зліўся з гэтым вялікім громам, яго напоўніла ўрачыстае адчуванне сваёй магутнай сілы. Нібы ўсё гэта гаварыла па яго загаду. Ён адчуваў сябе незвычайна, нявідана вялізным і моцным, асілкам, для якога няма нічога, чаго б ён не змог. Адчуваць гэтую сілу і моц было вельмі радасна, так радасна, нібы зведваў іх упершыню, нібы не чуў артпадрыхтовак пад Курскам і Сталінградам.

Аляксей, здавалася, забыўся на ўсё. Напэўна, не магло быць больш жаданай музыкі, чым гэта. «Так іх!

Каб помнілі гэта балота! Каб помнілі гэты дзень!» — шаптаў ён сам сабе.

З дрэваў, заўважыў Аляксей, ад грукату, кружачыся, ападала маладое, яшчэ клейкае лісце.

Поўны вялікіх пачуццяў, Аляксей азірнуўся на Якавенку, што стаяў побач. Нельга было адчуваць такое аднаму. Трымаць у сабе адным.

«Чуеш, а!» — запытаў ён вачыма, у якіх былі гонар, шчасце — такое, пра што не расказаць словамі. Пра што толькі і маглі сказаць вочы. Якавенка чуў усё, разумеў, казаў яго позірк...

Над узгоркам, што гарбаціўся наперадзе, ад выбухаў выплыў і пачаў уздымацца густы, чорны, клубісты вал.

Са старшым лейтэнантам стаяла некалькі афіцэраў. Усе маўчалі, глядзелі і слухалі. Асабліва быў усхваляваны Колышаў, твар яго свяціўся амаль дзіцячым захапленнем.

— Вось такую падрыхтовачку паслухаць бы таму, у каго чэшуцца рукі ваяваць з намі, а? — выкрычаў ён на вуха Аляксею.— Адразу адпала б ахвота лезці да нас!

— На жаль, Колышаў, тыя, хто паслалі сюды з вайной, не чуюць гэтага. Адседжваюцца сабе, гады, недзе ў зацішку.

— Нічога. Я думаю, цяпер многія заракуцца. Вядома, такія, хто яшчэ не страціў зусім розуму...

А вогненны ўраган усё грымеў і грымеў.

Нарэшце агонь перанеслі далей...

На ўзгорак пачалі падымацца цяжкія танкі прарыву. Яны перавалілі цераз грэбень і сталі адзін за адным знікаць. На ўзгорак узыходзілі другія. Нявідная, за ўзгоркам ужо, мусіць, паднялася пяхота...

З-за ляска вырваліся некалькі груп штурмавікоў. Яны пранесліся нізка, з ровам і таксама зніклі за ўзгоркам.

Аляксей чакаў, што зараз дадуць і яго роце каманду — наперад, на зыходную пазіцыю, а там — у бой. Усё яго цела напружылася, сабралася. «Хутчэй бы ўжо!» — прыспешвала яго неспакойнае, нецярплівае сэрца, якое не любіла доўга чакаць. У грудзях было прывычнае перад боем адчуванне нейкай ліхаманкавасці, калі іншыя пачуцці змяняе адно — чаканне блізкай бітвы.

Старшы лейтэнант акінуў позіркам сваю роту, нібы правяраючы, ці гатовая яна. Збоку здавалася, што ўсё было спакойна. Машыны, укрытыя маладым алешнікам і бярозавым галлём, стаялі нерухома. Купкамі ля машын усюды віднеліся танкісты і аўтаматчыкі з дэсанта. Поблізу Аляксей убачыў дужую, упэўненую постаць Быстрова, побач з ім неразлучнага Сонцава і падумаў радасна, што добра мецъ такіх салдат.

Калі гарматы пачалі сціхаць, Аляксей не адразу заўважыў, што наступае цішыня; у галаве яшчэ грукатала.

Потым ён пачуў, што за ўзгоркам, як кіпень у вялізным катле, клякоча бой.

— Вёска, напэўна,— прамовіў старшы лейтэнант,— перастала быць «нічыёй». Праворны са сваімі хлопцамі, мабыць, працуе ўжо недзе там...

— Занялі ўжо, мусіць...

— Е такі вёскі,— адгукнуўся Якавенка,— якім дастаецца асабліва моцна порцыя жалеза і толу. Вернуцца людзі і месца не змогуць пазнаць. Пэракопано ўсё па-новаму — акопы, варонкі.

— Пазнаюць!.. Цікава, што там будзе гадоў праз дзесяць. Цяжка проста ўявіць цяпер. На такім месцы зноў вырастуць хаты, і будзе там... чалавек хадзіць спакойна! Не баючыся, што яго прашые куля ці асколак. Акопы і КП зааруць, засыплюць зямлёю...

— Зааруць. Забудуць, як мы тут стаялі, чакалі...

— Будуць помніць. Усё, што мы цяпер робім, будуць помніць. Кожны лясок, дзе было такое, помніць будуць. Такога нельга забыць!

— А я думаю, забудуць,— заўпарціўся Якавенка.— Людына забувае, калі следу не застаецца.

— А гэта не наш след,— сказаў Аляксей горача.— Бітае каменне і кроў — не наш след. Наш след — тое, што вырасце на каменні, акопах. Пасля нас.

Яны змоўклі. Аляксей сачыў за ўсім, што рабілася навокал, і чакаў, чакаў.

Адтуль, дзе кіпеў бой, пачалі вазіць і весці раненых. Іх было многа. Аднаго раненага танкісты Аляксея затрымалі і акружылі. Шырокая галава яго была перавязана бінтамі, над якімі кустом тырчалі русыя валасы. Правы рукаў зліняла́й гімнасцёркі быў разадраны і падрэзаны, а забінтаваная рука вісела на марлевай касыначцы. На твары цямнелі палосы перамешанага з гразёй поту.

— Ну, што там, зямляк?
— Што? Міны, дрот — кроку не ступіш.
— Ну ўсё-такі, нашы цісnuць?

Пехацінец павярнуў да таго, хто пытаўся, абветраны, з кароткім аблупленым носам твар, сказаў:

— Ціснем. А як жа!

Прайшоўшы крыху наперад, нашы часці прыпыніліся, нібы не маглі прабіцца далей. Немцы, відаць, далі падмацаванне. Потым бой пачаў зноў паволі аддаляцца. Аляксей услухоўваўся ў гукі бітвы, і ў ім усё не спадала чаканне. Ён ведаў, што трэба чакаць сваёй пары, што яна прыйдзе...

— Колькі мы будзем стаяць тут? — запытаўся Колышаў нецярпліва ў Аляксея.

— Відаць, нядоўга ўжо. Скора, мусіць...

Аляксей падумаў, якія вялізныя абсягі наступлення і — колькі тут войск, людзей, што так, як і яны, яго рота, нецярпліва, узрушана чакаюць сваёй пары!..

Артылерысты палявых батарэй пакацілі наперад гарматы. Пасунуліся далей, падскокваючы і пакалыхваючыся, павозкі з боепрыпасамі.

Упершыню Аляксей падумаў, што ісці яны будуць, мабыць, доўга. Пачалі тут, а дзе прыпынак — невядома. Дарогі знікалі недзе ў летняй смузе, недзе вельмі далёка.

Раптам Аляксей убачыў непадалёк земляка, якога было затрымаў. Жывіца, у той жа мятай паддзёвачцы, з мяшком за плячыма, з бярозавым кіем у руцэ, пакульгваючы, ішоў услед за павозкамі.

— Вунь і Жывіца ў наступ пайшоў! — пажартаваў Быстроў і крыкнуў: — Эй, агароднік! Хуткасць павяліч, адстанеш!

Той азірнуўся на голас.

— Ад каго адстану, а ад каго — і не! — адгукнуўся задзірыста ён.— Вас з вашымі машынамі я і з кійком пераганю. Стойце толькі даўжэй тут! — гарэзна пакпіў ён. Зняўшы шапку, дадаў:

— Бывайце здаровы! Бо мне часу няма.

Паправіўшы за наплечную вяровачку мяшок, Жывіца хутка пакульгаў далей.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

«М» — *Адзін з першых чарнавых варыянтаў машынапісу з праўкамі аўтара.*

«П» — *Першая кніга, надрукаваная ў скарочаным выглядзе ў час. «Полымя», 1950 год, №№ 1—3.*

«М. н., 1950» — *Іван Мележ. Мінскі напрамак. Раман. Кніга першая. Мн., Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1950.*

«М. н., 1952» — *Іван Мележ. Мінскі напрамак. Раман. Мн., Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1952.*

«М. н., 1958» — *Іван Мележ. Мінскі напрамак. Раман у двух тамах. Том першы. Кніга першая. Хмары на світанні. Мн., Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1958.*

«М н., 1970» — *Іван Мележ. Збор твораў у шасці тамах. Том II. Мінскі напрамак. Раман у трох кнігах. Кніга першая. Хмары на світанні. Мн., «Беларусь», 1970.*

«М. н., 1974» — *Іван Мележ. Мінскі напрамак. Раман у трох кнігах. Кніга першая. Хмары на світанні. Мн., «Мастацкая літаратура», 1974.*

# МІНСКІ НАПРАМАК

Раман «Мінскі напрамак» — першы буйны эпічны твор І. Мележа пра гераічную барацьбу воінаў Савецкай Арміі і партызан у час вызвалення беларускай зямлі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у красавіку — ліпені 1944 года. Асноўная ідэя твора — услаўленне мужнасці, стойкасці савецкага народа, велічы народнага подзвігу ў бітве за Беларусь, неперамажнасці сацыялістычнага ладу жыцця.

## КНІГА ПЕРШАЯ

*Друкуецца па тэксту «М. н., 1974».*

Упершыню апублікавана ў час. «Полымя», 1950, №№ 1—3.

Урыўкі «Праз тры гады», «Партызанскі заслон», «Загад правадыра» друкаваліся ў час. «Беларусь», 1948, № 12 і ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1949, 20 жніўня і 21 снежня.

Першае асобнае выданне кнігі — у 1950 годзе[1]: Іван Мележ. Мінскі напрамак. Раман. Кніга першая. Мн., Дзяржаўнае выдавецтва БССР.

Разам з другой і трэцяй кнігамі друкаваліся: Іван Мележ. Мінскі напрамак. Раман. Мн., Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1952; Іван Мележ. Мінскі напрамак. Раман у двух тамах. Том першы. Кніга першая. Хмары на світанні. Мн., Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1958; Іван Мележ. Збор твораў у шасці тамах. Том II. Мінскі напрамак. Раман у трох кнігах. Кніга першая. Хмары на світанні. Мн., «Беларусь», 1970; Іван Мележ. Мінскі напрамак. Раман у трох кнігах. Кніга першая. Хмары на світанні. Мн., «Мастацкая літаратура», 1974.

Крыніцамі для вызначэння дакладнага аўтарскага тэксту гэтага тома, апрача тэкстаў названых прыжыццёвых выданняў, з'яўляюцца наступныя матэрыялы, якія захоўваюцца:

а) у Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР (скрынка № 1, папкі № 7 і № 10):

1. Машынапіс з вялікімі шматслаёвымі праўкамі аўтара фіялетавым, сінім чарнілам і простым алоўкам. Усяго 240 старонак. Гэта адзін з першых чарнавых варыянтаў «М. н., 1950». На старонцы пад нумарам «І» аўтарам дапісана: «Па два бакі фронта».

---

[1] Падпісана да друку 25/IX 1950 г.

Так спачатку назваў першую кнігу І. Мележ [1]. На гэтай жа старонцы сінім чарнілам дапісаны радкі з вершаў М. Танка і П. Панчанкі [2]:

«Мы пазналі за гэты час многа:
поле бітвы, паўночную сцюжу,
цяпло братняй спагады і дружбы
і цяжкія шляхі перамогі.
Памужнелі і мы, і напевы.
У шынелях, прапахлых ад дыму,
з сэрцам, поўным любові і гневу,
зноў стаім на парозе радзімы.

*М. Танк* [3]

Краіна мая, радасць мая,
Песня мая маладая!
Па нівах тваіх, па тваіх гаях
Сынава сэрца рыдае.

*П. Панчанка* [4]

2. Карэктура кнігі «М.н., 1958» з аўтарскімі праўкамі фіялетавым, сінім чарнілам і простым алоўкам. Праўкі, зробленыя аўтарам на тэксце карэктуры, у асноўным стылявога характару. Напрыклад:

| *Тэкст карэктуры* | *Выпраўлены тэкст* |
|---|---|
| Аляксей вельмі трывожыўся таксама за Ніну. Ад яе не было ніякіх вестак. Мінск застаўся далёка злева на поўначы. Ці ўдалося ёй выехаць? Ці, можа, прыйшлося застацца ў Мінску. Як ёй, цяжарнай, адной ісці? | Усе дні жыла ў Аляксея трывога пра Ніну. За чуткамі пра бамбёжкі роднага горада прайшла жахлівая вестка, што ў Мінску гітлераўцы. Управілася ці не ўправілася яна выехаць? Ці, можа, давялося ісці, адной, цяжарнай? |

Аўтарам унесена ў карэктуру каля дзвюхсот правак, звязаных з сінтаксісам і пунктуацыяй,— некаторыя простыя сказы былі аб'яднаны ў складана-залежныя або складана-злучаныя, а шмат якія складаныяператвораны ў сказы камбінаванай будовы. Усе гэтыя папраўкі носяць глыбока змястоўны характар. Напрыклад:

---

[1] У выданні «М. н., 1950» аўтар даў назву «Па абодва бакі фронта» толькі першай частцы першай кнігі рамана. Другая частка кнігі называецца «Напярэдадні».

Пачынаючы з выдання «М. н., 1952», першая кніга друкуецца пад загалоўкам «Хмары на світанні».

[2] У выданнях «М.н., 1950» і «М.н., 1952» у якасці эпіграфа ўжыты толькі першыя чатыры радкі з верша М. Танка. У выданні «М.н., 1958» эпіграф адсутнічае.

Упершыню празаічны эпіграф аўтар увёў у беларускае выданне «М. н., 1970». З невялікімі зменамі ён друкуецца ў кнізе «М. н., 1974».

[3] З верша «Чуўся гром кананады...» (1942).

[4] З верша «Краіна мая» (1942).

| *Тэкст карэктуры* | *Выпраўлены тэкст* |
|---|---|
| З нашага боку ішла напружаная падрыхтоўка да наступлення. У ёй удзельнічала не толькі армія, але і ўся краіна. | З нашага боку ішла напружаная падрыхтоўка да наступлення, у якой удзельнічала не толькі армія, але і ўся краіна. |

Невядома па якой прычыне шмат аўтарскіх правак, зробленых на тэксце карэктуры, не былі ўлічаны пры выданні «М.н., 1958». Толькі больш за 80 правак сінтаксічнага і пунктуацыйнага характару не ўвайшлі ў кнігу.

У тэксце карэктуры аўтарам зроблена паслядоўная замена слоў: почак//пупышак, поруч//побач, дзень//час, быстра//хутка, гады//часы, цяжкасці//нягоды, крэпка//моцна, засіяла//заззяла.

б) у архіве сям'і І. Мележа:

1. Тэкст кнігі «М. н. 1952» з аўтарскімі праўкамі для выдання «М. н. 1958». Спосаб праўкі разнастайны:

праўкі, зробленыя рукой аўтара фіялетавым чарнілам на тэксце кнігі;

машынапісныя ўстаўкі новага тэксту, уклееныя паміж радкамі або паміж старонкамі кнігі.

Каля трыццаці старонак кніжнага тэксту маюць машынапісныя ўстаўкі. Усяго чатырнаццаць уклееных старонак машынапіснага тэксту.

На старонках 137, 142, 201 маюцца аўтарскія паметкі: «Раздзел перапісан, папраўлен», «Перанесці на 201—204», «Раздзел дапоўнен, папраўлен».

2. Кніга «М. н., 1952», расклееная на лістах для выдавецтва пры падрыхтоўцы да друку з праўкамі аўтара для выдання «М. н., 1958».

На першай старонцы гэтай кнігі надрукавана на машынцы: «Выданне папраўленае і дапоўненае».

Аналіз усіх правак, зробленых І. Мележам для выдання «М. н., 1958», дазваляе гаварыць пра іх значнасць, вельмі вялікі аб'ём і разнастайнасць.

Аўтар дабавіў шэсцьдзесят шэсць машынапісных старонак новага тэксту, якія затым выправіў сінім і фіялетавым чарнілам. Дапісаў ад рукі чатыры старонкі: пра нараду ў штабе злучэння (на адвароце старонкі 210) і пра жыццё Тураўца да вайны (аўтар закрэсліў гэты тэкст у першым раздзеле першай часткі і перапісаў яго для трэцяга раздзела другой часткі кнігі з невялікімі праўкамі). Акрамя гэтага, маецца больш за пяцьдзесят невялікіх машынапісных уставак новага тэксту.

3. Кніга «М. н., 1958» з праўкамі аўтара для выдання «М. н., 1970» сінім, фіялетавым чарнілам і простым алоўкам.

На тытульнай старонцы напісана рукой аўтара: «Праўкі — І. Мележ». Замест «у двух тамах» пісьменнікам пастаўлена «у трох кнігах».

На адвароце тытульнай старонкі быў напісаны тэкст:

«У гэтым выданні я зрабіў папраўкі, дапоўніў раман. Папраўкі зроблены найбольш па стылю твора, выкраслена лішняе, дапісана тое, што трэба было развіць. Раман дапоўнен новымі фактамі, якія сталі вядомы цяпер, дзякуючы таму, што апублікаваны матэрыялы, да якіх раней не было доступу. У гэтым выданні

ўсе рэальныя асобы названы сваімі сапраўднымі прозвішчамі».

І. Мележ пазней закрэсліў гэты тэкст і ніжэй напісаў наступнае:

«Хачу споўніць даўняе жаданне — падзякаваць усім, хто ў свой час дапамог мне ў працы над кнігай. Асабліва дзякую генералам Р. І. Арыка, В. Е. Макараву, М. І. Аляксееву, П. І. Іголкіну, падпалкоўніку А. І. Камарову, былым танкістам І. П. Антонаву і А. І. Сідарэнку. Шчыра дзякую за ўвагу і дапамогу А. І. Чарняхоўскай.

Не магу не сказаць удзячных слоў таварышам па працы, пісьменнікам, якія памагалі і цёплымі словамі і парадамі,— Л. Нікуліну, С. С. Смірнову, Ю. Лукіну, К. Сіманаву, Ф. Куляшову, І. Навуменку. Яшчэ раз нізка схіляю галаву перад светлай памяццю А. Фадзеева».

Гэты тэкст таксама не ўвайшоў ні ў адно з выданняў рамана.

4. Другая карэктура першай кнігі выдання «М. н., 1970» з праўкамі аўтара фіялетавым і чырвоным чарнілам. Работа над тэкстам карэктуры вялася І. Мележам у наступных напрамках:

1) Паглыбленне псіхалогіі дзеючых асоб рамана:

| *Тэкст карэктуры* | *Выпраўлены тэкст* |
|---|---|
| І Туравец стараўся трымаць сябе з такім спакоем і дзелавітасцю, нібы ён пэўна ведаў, што ўсё, нарэшце, будзе добра і на яго можна спадзявацца. Ён гаварыў, што партызаны іх абароняць, што ў брыгадзе багата сілы для гэтага, што ніхто не збіраецца іх адных тут пакідаць. | Але чым ён мог адказаць на гэту надзею. Нядобра было ў яго на душы: рэдка калі ён так мала мог зрабіць для іх. Як ні цяжка было, ён не абяцаў нічога добрага. Ён гаварыў, што будзе бой, і бой нялёгкі, трэба быць гатовымі да ўсяго. Быць дысцыплінаванымі, захоўваць маскіроўку. Выконваць загад камандавання. |

2) Узбагачэнне партрэтных характарыстык Чарняхоўскага, Тураўца, Праворнага, Марыі Андрэеўны, Ніны, Клямта.

3) Удасканаленне моўна-стылявой фактуры твора. Дзеля гэтага аўтар не толькі замяняе асобныя словы, спалучэнні слоў, сказы, але і перапрацоўвае многія абзацы тэксту.

| *Тэкст карэктуры* | *Выпраўлены тэкст* |
|---|---|
| Хоць яна ў гэтыя дні і думала багата пра Мінск, гэты знаёмы малюнак моцна ўзрушыў. | Знаёмы, дарагі да драбніц, даўно-даўно да болю жаданы малюнак гэты моцна ўзрушыў. |

5. Расклееныя на лістах для выдавецтва пры падрыхтоўцы да друку 194 старонкі кнігі «М. н., 1970» і выпраўленыя для выдання «М. н., 1974» фіялетавым чарнілам.

Аўтарам зроблена шмат правак у такіх сцэнах, як аперацыя ў Сялюцічах, праведзеная партызанамі па разгрому нямецкага гарнізона, расправа немцаў з жыхарамі вёскі Паплавы. Больш паглыблена сюжэтная лінія ўзаемаадносін Валі і Ермакова, Валі і Васі. Расшыраны і канкрэтызаваны эпізоды, звязаныя

з вобразам Чарняхоўскага і работай штаба Трэцяга Беларускага фронту, з вобразамі Шашуры, немцаў Клямта і Келера.

Аўтарам дапісана трынаццаць старонак новага тэксту.

6. Машынапісныя лісты III—XI раздзелаў другой часткі першай кнігі да выдання «М. н., 1970» са значнымі аўтарскімі праўкамі для выдання «М. н., 1974». Праўкі зроблены фіялетавым чарнілам. Усяго 203 старонкі.

Вельмі спярэшчаны праўкамі наступныя сцэны, эпізоды, фрагменты: прыём Васі Крайко ў партыю; дапамога партызан у сяўбе жыхарам вёскі Паплавы; размова Шашуры і Аксінні пра жыццё, іх мары пра будучае; біяграфія-характарыстыка Чарняхоўскага, сустрэча камандуючага войск Трэцяга Беларускага фронту з танкістамі брыгады Бяссонава; Ніна Лагуновіч у фашысцкай турме; падрыхтоўка партызан да аперацыі па ўзрыву чыгункі; сустрэча штурмбанфюрэра Рэйзе, супрацоўніцы гестапа Ані [1] і маёра Вольфа ў рэстаране; размова спецыяльнага ўпаўнаважанага фюрэра генерал-лейтэнанта Баумволя з генеральным камісарам Готбергам пра мерапрыемствы па актывізацыі акцый супраць партызан і пра ўмацаванне абароны подступаў да Мінска.

На адваротным баку машынапісных лістоў рукой аўтара дапісаны шэсць старонак тэксту: апавяданне камандзіра партызанскага злучэння Рогава пра Маскву; абмеркаванне Ермаковым і Тураўцом плана прарыву блакады; эпізод пра адносіны паміж Ані і Вольфам.

Задума напісаць вялікі твор аб вайне з'явілася ў І. Мележа «з самага лета сорак чацвёртага года» [2]. Але толькі праз тры гады пасля роздуму, сумненняў аўтар пачаў працаваць над вялікай тэмай, якая «даўно хвалявала, трывожыла» [3] яго.

Не толькі складанасць тэмы ды адсутнасць неабходнага гістарычна-дакладнага, дакументальнага матэрыялу стрымлівала пісьменніка ў рабоце над ваенным раманам, але і тое, што ён яшчэ да вайны пачаў пісаць аповесць пра Палессе і цяпер не ведаў, «якой з дзвюх задум аддаць перавагу» [4].

Пісьменнік прыгадваў [5], што пачаў працаваць над «Мінскім напрамкам» увосень 1947 года, адразу пасля заканчэння нарыса «Заўсёды наперадзе».

Работа над кнігай працягвалася амаль два гады. У газеце «Літаратура і мастацтва» [6] паведамлялася, што «Іван Мележ закончыў першую кнігу рамана «Мінскі напрамак» аб барацьбе беларускага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў часе Вялікай Айчыннай вайны».

---

[1] У выд. «М. н., 1974» Ані — супрацоўніца мясцовай нямецкай газеты.

[2] Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты. Мн., «Маст. літ.», 1975, стар. 397.

[3] Там жа, стар. 562.

[4] Там жа, стар. 404.

[5] У прадмове да кн.: Іван Мележ. Што ён за чалавек. Мн., ДВБ, 1961, стар. 4.

[6] Слова ад рэдакцыі да ўрыўка «Партызанскі заслон», газ. «Літаратура і мастацтва», 1949, 20 жніўня.

Цяжка працавалася І. Мележу над першым вялікім творам. Шмат сілы аддаў ён «Мінскаму напрамку». Але пісьменнік з прыемнасцю гаворыць пра той час: «Я жыў сваёй кнігай днём і ноччу. Пазней, здаецца, нічога падобнага не было. Можа, усё было так таму, што гэта была першая мая, як мне здавалася, сапраўдная рэч. Першая вялікая любоў, першая надзея» [1].

Праз усё жыццё пранёс пісьменнік гэту вялікую любоў да свайго першага буйнога твора.

Яна выяўлялася перш за ўсё ў тым, што аўтар неаднаразова вяртаўся да рамана, карпатліва і настойліва выпраўляў недахопы, прычыны якіх ён вытлумачвае так: «Адны ішлі ад складанасці задачы, якую прыходзілася вырашаць. Вельмі ўжо многа часу і сіл ішло на падрыхтоўку да работы, на вывучэнне таго, пра што трэба было пісаць. Гэтыя нябачныя нікому клопаты забралі нямала сіл, якія патрэбны былі на тое, каб пісаць. У мяне часам проста не хапала дастатковай фізічнай вытрымкі... не хапала цярпення, каб апрацоўваць, я дапускаў неахайнасці ў мове. Некаторыя недахопы кнігі ішлі ад маёй творчай маладосці: нярэдка адольвала нясмеласць — галоўным чынам, відаць, ад таго, што гэта была першая мая вялікая рэч...» [2].

Адной з галоўных прычын таго, што І. Мележ вяртаўся да рамана, было таксама жаданне пісьменніка давесці свой твор да мастацкага ўзроўню ваеннай прозы апошніх гадоў і свайго ўжо больш сталага таленту, творчага вопыту: «Я адчуў, што цяпер магу лепш зрабіць тое, што зрабіў раней» [3].

І. Мележ лічыў, што «...перад кожным перавыданнем твор, калі ён у чым-небудзь не задавальняе, пісьменнік абавязаны правіць» [4].

Некаторыя крытыкі і пісьменнікі раілі аўтару «Мінскага напрамку» вярнуцца да рамана і дапрацаваць яго [5]. Так, Фадзееў пісаў: «Папрацуйце ж яшчэ над сваім раманам, каб яго мог чытаць і любіць шматмільённы чытач, а не дзесяткі тысяч. Раман гэтага заслугоўвае» [6].

---

[1] Жыццёвыя клопаты, стар. 401.

[2] Жыццёвыя клопаты, стар. 401.

[3] З гутаркі спецыяльнага карэспандэнта штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Пятра Шаўцова з Іванам Мележам. («Літаратура і мастацтва», 1976, 2 красавіка).

[4] Жыццёвыя клопаты, стар. 522.

[5] І. Навуменка. «Мінскі напрамак». «Чырвоная змена», 1953, 9 ліпеня; М. Паслядовіч. Аб правамерным і выпадковым. «Літаратура і мастацтва», 1953, 21 лютага; М. Цікоцкі. Раман аб подзвігу народа. «Калгасная праўда», 1953, 10 ліпеня; В. М. Ажаеў. Заключнае слова на абмеркаванні твораў беларускіх празаікаў, паэтаў, крытыкаў у Саюзе пісьменнікаў СССР у час Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве. У кн.: «Декада белорусского искусства и литературы в Москве». Мн., 1955, стар. 337.

[6] Пісьмо напісана простым алоўкам на кнізе: «Иван Мележ. Минское направление. М., 1954», на якой А. Фадзееў зрабіў свае заўвагі і прыслаў Івану Мележу. Пісьмо датуецца 18 лютым 1955 г. Захоўваецца ў архіве сям'і Івана Мележа.

Аналізуючы дапрацаваныя выданні рамана, шмат хто з крытыкаў [1] ухвалялі праўкі, зробленыя пісьменнікам.

Працуючы над другой і трэцяй кнігамі «Мінскага напрамку» на працягу 1949—1952 гг., І. Мележ ужо некалькі разоў вяртаўся да першай кнігі рамана. Пра гэта сведчыць параўнальны аналіз тэкстаў «М», «П», і «М. н., 1950».

Тэкст «М» нагадвае разгорнутую інфармацыю пра гістарычныя падзеі ў красавіку — чэрвені 1944 года на акупіраванай Беларусі, дзе многія сцэны, эпізоды, героі пададзены толькі штрыхамі. Перапрацаваўшы твор, І. Мележ зрабіў яго больш выразным у мастацкіх адносінах, напоўніў канкрэтным зместам тое, пра што было толькі бегла сказана.

Нават знешняе параўнанне аб'ёмаў аднаго з першых машынапісных варыянтаў першай кнігі (18 раздзелаў, 40 падраздзелаў) [2] з апошняй яе рэдакцыяй, г. зн. з выданнем «М. н., 1974» (20 раздзелаў, 87 падраздзелаў), сведчыць пра тое, што аўтарам быў уведзены багаты матэрыял. У «М» маюцца такія сцэны, эпізоды, якія не ўвайшлі ні ў адно з выданняў твора. Гэта — план прарыву блакады; занепакоенасць і роздум Тураўца пра вынікі прарыву блакады; эпізод, у якім начштаба Каваленка закапвае скрынку з брыгаднымі дакументамі для «гісторыі». Параўноўваючы тэксты «М» [3] і «П», заўважаем, што пісьменнік, рыхтуючы тэкст да першадруку, звяртаў у асноўным увагу на паглыбленне ўнутрана-псіхалагічнага стану герояў. З гэтай мэтай аўтар уводзіць у «П» біяграфію-характарыстыку Тураўца [4]; новую сюжэтную лінію, звязаную з узаемаадносінамі Валі Залескай і Васі Крайко; сцэну партыйнага сходу батальёна, на якім ішла размова пра арганізацыю палітычнай і культурна-масавай работы сярод танкістаў у час перафарміравання танкавай брыгады Бяссонава [5]; сцэну выдумкі Шашуры з бомбай — цікавую, удалую і патрэбную для характарыстыкі героя як смелага, кемлівага, знаходлівага падрыўніка-партызана.

[1] Ф. Куляшоў. Патрабавальнасць мастака. «Полымя», 1955, № 5; И. Карабутенко. О творчестве Ивана Мележа. У кн.: Иван Мележ. Минское направление. М.— Л., 1961, стар. 711—715; П. Дзюбайла. Беларускі раман аб Вялікай Айчыннай вайне. Мн., 1964; Э. С. Гурэвіч. Раман і аповесць перыяду Вялікай Айчыннай вайны і пасляваеннага часу. У кн.: Беларуская савецкая проза. Раман і аповесць. Мн., 1971; Ф. Куляшоў. Іван Мележ. Мн., 1968; Дз. Бугаёў. Вернасць прызванню. Мн., 1977.

[2] Аўтар не нумараваў падраздзелы, а рабіў паміж імі разрыў.

[3] Тэкст «М» папярэднічае тэксту кнігі, надрукаванаму ў «Полымі». З'яўляецца адным з чарнавых аўтографаў «М. н., 1950».

[4] У «П», «М. н., 1950» і «М. н., 1952» аўтар знаёміць чытача з біяграфіяй-характарыстыкай Тураўца. Пачынаючы з «М. н., 1958», Туравец апавядае сам пра сябе Марыі Андрэеўне ў час сумеснай паездкі ў вёску Паплавы.

[5] Пачынаючы з выдання «М. н., 1958», І. Мележ замяняе сцэну батальённага партыйнага сходу на сцэну партыйнага сходу брыгады. З дакладам выступае камандзір танкавай брыгады Бяссонаў пра становішча брыгады і пра задачу з'яднання папаўнення.

У трэці падраздзел адзінаццатага раздзела другой часткі кнігі ўведзена размова танкістаў пра адкрыццё другога фронту. Новая сцэна дала магчымасць убачыць Сонцава і Быстрова з іншага боку, як людзей, схільных да роздуму і разваг. Уведзены матэрыял дазваляе яшчэ раз пераканацца ў тым, што Быстроў — гэта чалавек з дасціпным, тонкім гумарам, знаходлівы ў размове. Ён здольны глыбока аналізаваць розныя акалічнасці і абставіны, у якія трапляе.

Параўнальны аналіз аднаго з першых чарнавых варыянтаў машынапісу і «П» сведчыць пра вялікую працу пісьменніка над пошукамі больш дакладных, своеасаблівых партрэтных характарыстык герояў.

| *Тэкст машынапісу (ніжні слой)* | *Тэкст «П»* |
|---|---|
| На машыне з выпісанаю белаю фарбаю лічбаю «27» сядзелі лейтэнант Якавенка, поўны, з дабрадушным тварам, палтаўчанін і сержант Быстроў, стралок-радыст. У адкрытым люку вадзіцеля была відаць галава трэцяга чалавека з экіпажа, Сонцава. | На машыне з выпісанаю белаю фарбаю лічбаю «27» сядзелі лейтэнант Якавенка, поўны, смуглы, з чарнявым дабрадушным тварам, палтаўчанін і камлюкаваты, пануры сержант Быстроў, стралок-радыст. У адкрытым люку вадзіцеля віднелася галава трэцяга чалавека з экіпажа, Сонцава; круглы, шырокі твар яго быў засеяны рабаціннем, і светла-карыя вочы здаваліся двума вялікімі кружочкамі-вяснянкамі. |

Упершыню І. Мележ уводзіць у «П» маналагічныя развažанні герояў пра Мінск, Мінскую магістраль — «шлях вялікай дружбы, непарыўнай сувязі народа Беларусі з Масквою, з савецкай Расіяй» [1]. Гэта дало магчымасць глыбей раскрыць адносіны героя да гістарычных падзей, праўдзіва перадаць яго ўнутраныя перажыванні ў часы найцяжэйшых выпрабаванняў для савецкіх людзей.

Першая кніга «Мінскага напрамку» надрукавана ў «Полымі» ў скарочаным выглядзе. Пры скарачэнні былі апушчаны такія эпізоды, як аперацыя партызан па разгрому паліцэйскага гарнізона ў Сялюцічах, успаміны Лагуновіча пра першыя дні вайны, пачуцці, хваляванні яго перад першым боем, сустрэча Лагуновіча з маці. Вельмі бегла было сказана пра здрадніцтва Грэчкі, у той час, як у «М» гэта сюжэтная лінія пададзена разгорнута. Названыя эпізоды потым, аднак, былі ўведзены поўнасцю ва ўсе выданні кнігі.

Пры друкаванні твора ў скарочаным выглядзе не абышлося без страт і выдаткаў. Так, напрыклад, вельмі няўдала была скарочана адна з дзвюх сцэн сустрэчы Лагуновіча з Праворным, які выратаваў ад смерці параненага Аляксея ў баі на Куршчыне.

[1] Іван Мележ. Мінскі напрамак. «Полымя», 1950, № 2, стар. 35.

У «П» сцэна іх першай сустрэчы здымаецца, а сцэна другой сустрэчы застаецца неперапрацаванай. З тэксту «П» бачым, што Лагуновіч і Праворны сустракаюцца быццам упершыню, а гаворка паміж імі ідзе пра сустрэчу ў час пераправы праз мост, пра што чытачу «Полымя» нічога невядома.

Рыхтуючы кнігу да выдання «М. н., 1950», І. Мележ працягвае працу над творам, дабіваючыся больш выразнай, больш эмацыянальнай і глыбокай характарыстыкі вобразаў, бо ў тэкстах «М» і «П» псіхалагічны стан, пачуцці, інтарэсы герояў нярэдка аказваліся на заднім плане, паколькі аўтара ў першую чаргу цікавіла сама гістарычная падзея. У выніку дапрацоўкі твора да выдання «М. н., 1950» героі набывалі партрэтную і псіхалагічную адметнасць, больш яркую індывідуальнасць. Вяртанне аўтара да вобразаў Аляксея Лагуновіча, Шашуры, Аксінні, Ермакова нагадвае рух па спіралі. Да выдання «М. н., 1950» пісьменнік пераглядае сцэны, якія датычаць паўнамоцтваў Лагуновіча. Атрымала далейшае развіццё лінія ўзаемаадносін Шашуры і Аксінні. Паяўляецца новы падраздзел біяграфіі-характарыстыкі Ермакова — камандзіра партызанскай брыгады[1]. Уведзена сцэна сустрэчы ў лесе Надзі Мазальковай і Аляксея Лагуновіча[2]. У сувязі з паглыбленнем ідэйнай задумы твора аўтар уключае ў выданне «М. н., 1950» адзінаццаць новых падраздзелаў. Большая палова ўведзенага тэксту прыпадае на гістарычна-дакументальны матэрыял, звязаны з работай штаба Трэцяга Беларускага фронту пад камандаваннем І. Д. Чарняхоўскага.

Асноўная ўвага пісьменніка пры падрыхтоўцы першай кнігі да выданняў «М. н., 1950» — «М. н., 1974» была звернута на тое, каб як мага паўней раскрыць вобраз камандуючага войск Трэцяга Беларускага фронту. Паказаць Чарняхоўскага як таленавітага палкаводца, па-мастацку асэнсаваць псіхалогію яго думак, пачуццяў, разважанняў.

Вобраз І. Д. Чарняхоўскага ўпершыню з'явіўся ў выданні «М. н., 1950».

Асоба генерала яшчэ да пачатку працы над раманам прываблівала І. Мележа, аб чым сведчаць словы пісьменніка, сказаныя ў час размовы з А. Ф. Лысенка: «...яшчэ да работы над раманам «Мінскі напрамак» быў захоплены абаяннем асобы генерала Чарняхоўскага, аднаго з галоўных арганізатараў і кіраўнікоў пераможнага наступлення Савецкай Арміі на тэрыторыі Беларусі»[3].

Але ж І. Мележ паводле першапачатковай задумы твора, відаць, не меў намеру ўводзіць у кнігу вобраз Чарняхоўскага: «Ужо быў напісаны амаль увесь раман, калі я адчуў, што атрымаецца ці не атрымаецца, а ўводзіць Чарняхоўскага ў раман прыйдзецца,

---

[1] У выданнях «М. н., 1950» і «М. н., 1952» пісьменнік знаёміў нас з біяграфіяй-характарыстыкай Ермакова. Пачынаючы з выдання «М. н., 1958», Ермакоў апавядае пра сябе сам на брыгадным партыйным сходзе, калі абмяркоўваецца пытанне аб прыёме яго ў партыю.

[2] Гл. гэта выданне — трэці падраздзел першага раздзела ў другой частцы кнігі.

[3] А. Ф. Лысенко. Путь ратной доблести. «Неман», 1975, № 5, стар. 176.

без яго не хапала ў творы вельмі важнай дзеючай асобы, якая вызначала рух многіх падзей»[1].

Адлюстраванне вядомай гістарычнай асобы ў мастацкім творы, наогул адказная і складаная задача для любога пісьменніка. І гэта звязана перш за ўсё з дакладным, умелым, асцярожным спалучэннем біяграфічнага, дакументальнага факта з аўтарскай выдумкай.

Работа пісьменніка над вобразам камандуючага фронту ўскладнялася яшчэ і тым, што І. Мележ «ніколі не бачыў Чарняхоўскага, не даводзілася ніколі быць... у штабах франтоў, не было пра Чарняхоўскага і надзейных матэрыялаў...»[2].

Партрэт, рысы характару, звычкі, унутрана-псіхалагічны бок жыцця камандуючага фронту былі, па магчымасці, узноўлены пісьменнікам у «Мінскім напрамку» паводле ўспамінаў родных і блізкіх І. Д. Чарняхоўскага, а таксама людзей, якія сутыкаліся з ім непасрэдна ў рабоце на фронце.

Паралельны аналіз тэкстаў усіх выданняў першай кнігі «Мінскага напрамку» сведчыць пра значную эвалюцыю вобраза Чарняхоўскага.

У выданні «М. н., 1950» вобраз Чарняхоўскага пададзены нясмелымі штрыхамі — падобны на тыя ледзь бачныя контуры, якія мастак наносіць на палатно, каб вызначыць перспектыву сваёй будучай карціны. Герой не «працуе», бо аўтар увесь час умешваецца ў яго самастойнае жыццё, стрымлівае яго ў дзеяннях, паводзінах, размовах, разважаннях. Бачым не жывога, паўнакроўнага чалавека, а фотакарткі нейкіх асобных момантаў з жыцця камандуючага. Адсюль і героі, якія ў кнізе звязаны непасрэдна з Чарняхоўскім, таксама не атрымалі належнага развіцця.

У працэсе падрыхтоўкі кнігі да выдання «М. н., 1952» І. Мележ апускае тэкст, які з'яўляўся своеасаблівым каментарыем аўтара да некаторых сцэн, звязаных з вобразам Чарняхоўскага. Такі аўтарскі каментарый толькі абцяжарваў твор, запавольваў рух усяго дзеяння ў ім, а галоўнае, што чытач, замест таго, каб рабіць свае вывады з прачытанага, павінен быў успрымаць тую думку аб героі, якую навязваў яму аўтар.

Напрыклад:

Камандуючы фронту наведаў дывізію Шчарбацюка, каб асабіста пазнаёміцца з абставінамі на пярэднім краі. Сабраліся афіцэры, салдаты для размовы з камандуючым фронту пра вынікі бою, які толькі што скончыўся. Чарняхоўскі павітаўся з кожным за руку і амаль з усімі пазнаёміўся, падрабязна распытаў у Праворнага, дзе ён служыў, у якіх баях удзельнічаў, дзе быў паранены, як трапіў у дывізію Шчарбацюка. Доўга і шчыра гутарылі пра бой, недахопы, пралікі, вынікі бою. Камандуючы цікавіўся, як працуе пошта, пра што пішуць з дому[3].

З гэтай сцэны паўстае камандуючы як чалавек смелы, шчыры, просты, уважлівы да людзей, паважаны і любімы франтавікамі.

Але пісьменнік у каментарыі да гэтай сцэны яшчэ раз падкрэслівае, называе тыя рысы, якія чытач ужо сам заўважыў:

---

[1] Жыццёвыя клопаты, стар. 400.

[2] Там жа.

[3] Гл. у тэксце гэтага выдання — пяты падраздзел першага раздзела другой часткі кнігі.

«Чарняхоўскі, які ў свой час быў і байцом і камандзірам узвода, умеў зблiжацца з простымі людзьмі. Тысячы салдат і афіцэраў ведалі яго асабіста, паважалі і любілі».

Некаторыя з такіх каментарыяў аўтар уводзіць у новы падраздзел [1] біяграфіі-характарыстыкі І. Д. Чарняхоўскага ў «М. н., 1952».

Цікавую і неабходную работу для паглыблення і раскрыцця характару камандуючага робіць аўтар у выданні «М. н., 1958», замяняючы аўтарскі пераказ сакавітым, жывым дыялогам — размова з камандзірам дывізіі Шчарбацюком, гутарка з паранеными салдатамі-аўтаматчыкамі з палка Сібірака і іншыя.

У «М. н., 1958» [2] Івану Мележу ўдаецца паўней паказаць унутраны бок жыцця камандуючага, дзякуючы ўведзенаму апавяданню пра пісьмо з дзіцячага дома ад Колі і Сярожы Крушыны, Шуркі Хмялеўскага і Лёні Зелянкова да Чарняхоўскага. Хваляванні, роздум, засмучанасць, жаданне дапамагчы дзецям у цяжкі для краіны час дакладна падае аўтар праз дэталі, рухі, жэсты героя: «задуменна ўзняў вочы: па яго твары як бы прабег цень»; «узяў аловак і непаспешліва, паглыблены ў свае думкі, падкрэсліў словы: «далёка дровы насіць з лесу і ваду з рэчкі, бо няма на чым вазіць... не акрэплі пасля лагера». «Ён так націснуў аловак, што графіт зламаўся»; «узяўшы ручку, ён хуткім энергічным почыркам стаў пісаць» ліст у дзіцячы дом. Усё гэта гаворыць пра вялікае сэрца камандуючага, пра тонкую адчувальнасць натуры чалавека, бязмежную дабрату і любоў да дзяцей.

У выданні «М. н., 1958» І. Мележ шырока ўжывае такі кампазіцыйны прыём, як прасвечванне некаторых рыс характару аднаго героя праз ацэначную прызму іншага героя, у асноўным, у форме няўласна-простай мовы. Напрыклад, камандуючы арміі пра Чарняхоўскага: «Але ў яго ёсць нейкая дзіўная сіла, уменне падначальваць... І колькі энергіі!..» — Праездзіўшы суткі з ім, камандарм адчуваў сябе змораным ушчэнт.— «А яму — хоць бы што!..» [3]

Рыхтуючы выданне «М. н., 1958», аўтар значна дапрацоўвае вялікую сцэну размовы Чарняхоўскага з начальнікам разведаддзела арміі і начальнікам штаба арміі. Гэты тэкст паглыбляецца ў «М. н., 1970». Больш рэзкім і суровым, нават жорсткім бачым

---

[1] Гл. гэта выданне — першы падраздзел чацвёртага раздзела ў другой частцы кнігі.

[2] Перад намі стаяла задача пры дапамозе параўнальнага аналізу ўсіх рэдакцый першай кнігі беларускага выдання і толькі на беларускай мове паказаць работу пісьменніка па ўдасканаленню ідэйна-мастацкай задумы твора.

Праўда, пэўныя праўкі былі зроблены і для выданняў на рускай мове. Але ў асноўным яны былі затым перанесены ў кнігу пры падрыхтоўцы твора да выданняў на беларускай мове.

Так, напрыклад, аўтар значна паправіў тэкст кнігі да рускага выдання 1954 года (Иван Мележ. Минское направление. М., «Советский писатель») і затым гэтыя праўкі перанёс (часцей за ўсё з невялікімі стылявымі папраўкамі) у беларускае выданне кнігі «М. н., 1958».

Раман «Мінскі напрамак» выходзіў на рускай мове сем разоў (1954, 1956 — двойчы, 1961, 1963, 1973, 1976 гг.).

[3] Гл. у гэтым выданні стар. 167.

камандуючага, калі размова заходзіць пра непарадкі, недакопы, пралікі ў падрыхтоўцы да наступлення. Чарняхоўскі настойліва даводзіць членам штаба фронту, што не існуе дробязей і другараднага ў ваеннай справе. Ён патрабуе як мага больш настойлівасці, энергіі, сіл аддаваць падрыхтоўцы войск да вялікай бітвы.

Да выдання «М. н., 1970» І. Мележам была праароблена значная праца па ўдакладненню, пашырэнню фактычнага, дакументальнага матэрыялу, звязанага з работай штаба Трэцяга Беларускага фронту, над больш дэталёвай характарыстыкай Чарняхоўскага-палкаводца. Уведзены новы гістарычны матэрыял пра работу штаба фронту напярэдадні наступлення Савецкай Арміі, а таксама тэкст, у якім шматгранна раскрываецца псіхалагічны настрой Чарняхоўскага, яго хваляванні і заклапочанасць, развагі і роздум перад рашаючым боем [1]. Дадзены дакладны падрабязны план наступлення не толькі армій, але і асобных дывізій. Тэкст новых падраздзелаў насычаны прозвішчамі камандуючых армій, прадстаўнікоў штаба фронту і армій, тапанімічнымі назвамі, датамі, лічбамі. На фоне дакументальнага матэрыялу вобраз Чарняхоўскага атрымаў больш праўдзівае гістарычнае асвятленне — гэта вялікая ўдача пісьменніка.

У час падрыхтоўкі твора да выдання «М. н., 1970» аўтар сутыкнуўся з вялікімі цяжкасцямі, звязанымі з пошукам і асваеннем дакладнага гістарычнага матэрыялу пра работу камандуючага і штаба фронту напярэдадні аперацыі «Баграціён»: «Я нанава напісаў пра Чарняхоўскага некалькі раздзелаў. Матэрыял, на аснове якога яны напісаны, дакументальны, прытым — незвычайнай складанасці. Я адношу гэтыя раздзелы да ліку найбольш складаных задач, якія я калі-небудзь вырашаў» [2].

---

[1] Стар. 235, радок 14 — стар. 241, радок 8.

Ужо больш за дзесяць дзён Чарняхоўскі дакладна ведаў план будучай аперацыі і тое, што належыць зрабіць у ёй яго фронту, самому яму. ∽ Зрабіць усё, каб як найхутчэй увесці ў прарыў танкавы корпус Бурдзейнага і армію Ротмістрава...

Стар. 246, радок 36 — стар. 249, радок 11.

— Ведаеце,— прамовіў член Ваеннага Савета,— я, слухаючы Рогава, адчуў сябе раптам вінаватым. Без віны вінаватым... ∽ Калі пілі чай, усё яшчэ рады тым важным рашэннем, якое толькі што прыйшло, папрасіў прабачэння, што патурбаваў так позна.

Стар. 371, радок 21— стар. 372, радок 9.

У тым неспакоі, які поўніў Чарняхоўскага, калі ён глядзеў праз амбразуру ў маўклівае загадкавае поле, вастрэй, як калі-небудзь іншымі днямі, вярэдзілі яго думкі пра саму вялікую падзею, што вось-вось павінна будзе пачацца. ∽ Разам з тым яна мела на мэце памагчы франтам, якім належала пачаць наступленне, лепш выявіць становішча праціўніка, намацаць слабейшыя месцы ў яго абароне...

Стар. 380, радок 37 — стар. 386, радок 33.

У гэтую ноч абстаноўка на каманднa-назіральным пункце фронту і на некалькіх участках пярэдняга краю нагадвала тую, што бывае пры наступленні. ∽ Увесь час КНП камандуючага трымаў сувязь з арміямі, з усім тым прытоеным вялікім рухам, якім жыў фронт апошнія гадзіны перад наступленнем.

[2] Жыццёвыя клопаты, стар. 524.

У рабоце над вобразам Чарняхоўскага да выдання «М. н., 1974» І. Мележ абмежаваўся, у асноўным, невялікімі праўкамі, звязанымі з больш дакладнай, тыповай абмалёўкай некаторых прывычак, рыс характару камандуючага фронту.

Аналіз усіх выданняў паказаў, што найбольш дапрацоўваўся ў творы вобраз камандуючага фронту. У канчатковым варыянце — выданне «М. н., 1974» — бачым Чарняхоўскага як выдатнага палкаводца, стратэга і тактыка, надзеленага незвычайным талентам і інтэлектам военачальніка, чалавека патрабавальнага і добрага, смелага і заўсёды стрыманага, сціплага і простага, які ўвабраў у сябе лепшыя якасці савецкага чалавека і палкаводца.

Яшчэ больш складанай для І. Мележа з'яўлялася работа над сюжэтна-кампазіцыйнай будовай рамана — паколькі гэта была першая спроба пісьменніка ў вялікім жанры.

У першым варыянце кнігі форма падачы, размяшчэння раздзелаў, падраздзелаў, сцэн, эпізодаў не зусім адпавядала кампазіцыі эпічнага рамана. Недасканаласць сюжэтна-кампазіцыйнай будовы твора адмоўна ўплывала на яго ідэйны змест. І на гэта ўказвала крытыка. У прыватнасці, А. Фадзееў зазначаў: «Імкніцеся... таксама да таго, каб на больш ці менш працяглых адрэзках рамана дзеянне канцэнтравалася вакол тых ці іншых галоўных герояў. Гэта лёгка дабіцца шляхам ссоўвання разам раздзелаў і падраздзелаў, звязаных з дадзеным канкрэтным героем. Калі Вы адну лінію развіцця занадта часта перамяжоўваеце ■ іншымі эпізодамі, атрымоўваецца тое мільгаценне, мітусня, пры якой нікога добра не ўдаецца разгледзець, нікога не паспяваеш палюбіць...»[1]

А. Фадзееў зрабіў адзінаццаць заўваг, парад толькі наконт кампазіцыйнай перабудовы твора на палях выпраўленых старонак кнігі[2]. Вось, напрыклад, адна ■ заўваг, якая была ўлічана І. Мележам пры наступным выданні рамана:

«Больш правільна было б расказаць спачатку, што робіцца ў «вярхах», а потым, што робіцца ў «нізах» у перыяд падрыхтоўкі наступлення. Потым патрэбна даць пачатак наступлення (пакуль што артылерыйскае, агнявое) і як адчуваюць сябе пры гэтым немцы. Але канчаць патрэбна нашымі «нізамі»[3]. (Глядзі дзесяты раздзел другой часткі кнігі гэтага выдання.)

Па прапанове А. Фадзеева І. Мележ, рыхтуючы да друку выданне «М. н., 1958», аб'яднаў у адным раздзеле тры падраздзелы пра паход Ніны Лагуновіч на сустрэчу ■ мінскімі падпольшчыкамі. У «М. н., 1952» цэласнасць гэтага падраздзела парушаў устаўлены без усякай матывіроўкі падраздзел пра ўзаемаадносіны Аксінні Палянічкі і Шашуры. Падраздзел жа пра знаходжанне Ніны на кватэры падпольшчыка Сяргея, вяртанне яе ў брыгаду быў размешчаны ў іншым раздзеле, значна пазней.

Адчувалася ненатуральнасць пераходу ад адной сюжэтнай лініі да другой. Чытачу цяжка было засяродзіцца на адной якой-небудзь лініі, звязанай з тым ці іншым вобразам, глыбей пранікнуць у псіхалогію героя.

Удасканальваючы кампазіцыю твора, аўтар звяртае ўвагу на больш складанае развіццё сюжэтных ліній. Напрыклад, з увя-

---

[1] З пісьма А. Фадзеева да І. Мележа ад 18 лютага 1955 года.

[2] Иван Мележ. Минское направление. М., 1954.

[3] Там жа, стар. 299.

дзеннем у «М. н., 1958» новага эпізода, дзе аўтар раскрывае іншыя адносіны камбрыга Ермакова да Валі Залескай, змянілася ўся сюжэтная лінія, звязаная з гэтымі вобразамі. Такая змена матывіруецца прычынна-лагічнай сувяззю, якая існуе паміж героямі рамана.

Сюжэтная лінія, звязаная з вобразамі немцаў, іх паводзінамі на акупіраванай Беларусі, адносінамі да савецкіх людзей і паміж сабой была значна пашырана і паглыблена, дзякуючы ўвядзенню пяці новых падраздзелаў у «М. н., 1958» [1].

Архітэктоніка рамана значна выйграла, калі аўтар перагледзеў унутраную будову некаторых раздзелаў, падраздзелаў, эпізодаў і сцэн. Для прыкладу параўнаем паслядоўнасць кампаноўкі тэксту чацвёртага раздзела, чацвёртага і пятага падраздзелаў у выданні «М. н., 1952» і адпаведнага па зместу трэцяга раздзела, чацвёртага і пятага падраздзелаў у выданні «М. н., 1958».

Тэкст «М. н., 1952».

Чацвёрты падраздзел:

«На другі ж дзень на «адпачынку» сабраўся ў батальёне партыйны сход» [2]. На павестцы дня пытанне пра задачы партыйнай арганізацыі ў час перафарміравання танкавай брыгады. Сход вядзе старшы лейтэнант Лагуновіч. Выступае начальнік палітаддзела Сяміжон. Ён гаворыць пра наладжванне палітработы і арганізацыю самадзейнасці ў батальёне (аўтар дае падрабязную партрэтную яго характарыстыку). Гогабярыдзе прапануе арганізаваць футбольную каманду. Выступае Быстроў: «Мы пакажам, што ўмеем не толькі біцца па-гвардзейску, але і вучыцца па-гвардзейску» [3].

Пяты падраздзел:

Абсталявалі зямлянкі. Заняткі страявой падрыхтоўкай, якімі кіруе лейтэнант Гогабярыдзе. Даецца фрагмент з біяграфіі Гогабярыдзе пра здольнасці і поспехі яго ў страявой падрыхтоўцы. Далей ідзе аўтарскае адступленне пра нязвыкласць для салдат ваеннага часу да цішыні мірнага жыцця. Аляксей Лагуновіч і яго пакуты ад бяссоння. Характарыстыка ўнутрана-псіхалагічнага стану старшага лейтэнанта.

Тэкст «М. н., 1958».

Чацвёрты падраздзел:

Падрабязна пра ўладкоўванне быту танкістаў у час перафарміравання брыгады. Заняткі страявой падрыхтоўкай, якімі кіруе лейтэнант Гогабярыдзе. Кароткая характарыстыка лейтэнанта. Аўтарскае адступленне пра нязвыкласць мірнага жыцця для танкістаў. Аргументацыя песімістычнага настрою і абыякавасці да ротнай справы Аляксея Лагуновіча. «У канцы першага тыдня сабраўся партыйны сход» [4]. Палкоўнік Бяссонаў, камандзір танкавай брыгады, робіць даклад пра становішча брыгады, крытыкуе камандзіраў роты, якія без належнай адказнасці адносіліся да задач, што былі пастаўлены перад ротамі ў час перафарміравання. Бяссонаў рэзка крытыкуе работу Лагуновіча як камандзі-

---

[1] У тэксце гэтага выдання — падраздзелы першы — чацвёрты восьмага раздзела ў другой частцы кнігі.

[2] «М. н., 1952», стар. 71.

[3] «М. н., 1952», стар. 72.

[4] «М. н., 1958», стар. 61.

ра роты. Якавенка і Лагуновіч абменьваюцца ўражаннямі пасля сходу.

Пяты падраздзел.

«Аляксей, хоць вельмі стамляўся за дзень, уночы часта пакутваў ад бяссоння» [1]. Падрабязная характарыстыка ўнутрана-псіхалагічнага стану Лагуновіча. Успаміны, разважанні старшага лейтэнанта пра сказанае ў яго адрас на партыйным сходзе.

Асноўная работа па ўдасканаленню сюжэтна-кампазіцыйнай будовы кнігі была зроблена пісьменнікам у час падрыхтоўкі твора да выдання «М. н., 1958», пасля чаго сюжэтныя лініі, сцэны, эпізоды набылі адносную стройнасць, кампактнасць і закончанасць.

Схема перамяшчэння некаторых раздзелаў і падраздзелаў у выданнях «М.н., 1950», «М.н., 1952», «М.н., 1958».

Умоўна абазначым:
частка першая — Ч.І; частка другая — Ч.ІІ; раздзел — Р; падраздзел — п.

| «М.н., 1950» | «М.н., 1952» | «М.н., 1958» | Адпаведныя раздзелы і падраздзелы ў асноўным тэксце |
|---|---|---|---|
| Ч.І Р1 п5 | як у «М.н., 1950» | Ч.ІІ Р3 п5 | як у «М.н., 1958» |
| Ч.І Р2 п1, 2, 3 | як у «М.н., 1950» | Ч.І Р7 п1, 2, 3 | як у «М.н., 1958» |
| {Ч.ІІ Р9 п1, 3, 4<br>{Ч.ІІ Р10 п3 | {Ч.ІІ Р5 п1, 2, 4, 5<br>{Ч.ІІ Р6 п3 | Ч.ІІ Р5 п1, 2, 3,4,5 | як у «М.н., 1958» |
| Ч.ІІ Р9 п2 | Ч.ІІ Р5 п3 | Ч.ІІ Р6 п3 | Ч.ІІ Р6 п1 |
| Ч.ІІ Р1 п1 | Ч.ІІ Р6 п4 | як у «М.н., 1952» | Ч.І Р6 п1 |
| {Ч.І Р7 п3<br>{Ч.ІІ Р5 п1 | {Ч.І Р7 п3<br>{Ч.ІІ Р3 п1 | Ч.ІІ Р3 п1 | як у «М.н., 1958 |
| адсутн. | адсутн. | Ч.ІІ Р8 п1, 2, 3,4,5 | Ч.ІІ Р8 п1, 2,3,4 |

Перамяшчэнне раздзелаў і падраздзелаў у другой частцы кнігі, тэкст якіх звязаны з работай штаба Трэцяга Беларускага фронту і вобразам камандуючага фронту.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Р1 п2, 3 | {Р1 п1<br>{Р4 п2 | Р1 п5 | як у «М.н., 1958» |
| Р7 п1 | Р1 п2 | Р4 п2 | » |
| Р7 п2, 3 | Р4 п3 | як у «М.н., 1952» | » |
| Р14 п1 | Р8 п1 | Р9 п1 | » |
| Р14 п2 | Р8 п2 | Р9 п2 | » |

Работа І. Мележа над удасканаленнем моўна-стылявой фактуры твора была, бадай, самай аб'ёмнай, самай карпатлівай і плённай з усяго таго, што было зроблена пісьменнікам у выніку франтальнай і працяглай дапрацоўкі рамана.

Тэксталагічны аналіз усіх выданняў твора сведчыць пра настойлівыя пошукі аўтара дакладнага, патрэбнага слова для кожнай фразы, кожнага сказа, у выніку чаго пісьменніку ўдалося

[1] «М. н., 1958», стар. 62.

жыва, ярка, эмацыянальна намаляваць многія сцэны, эпізоды, а галоўнае, больш глыбока і поўна выявіць унутраны бок жыцця некаторых герояў, раскрыць псіхалогію іх паводзін.

Так, напрыклад, каб праўдзіва паказаць, якой страшнай неспадзяванасцю для Шабуніхі была нечакана ўзнікшая карціна разбуранай ці размытай дажджамі грэбелькі, аўтар спрабуе па адпаведнасць кантэксту — «Грэбелька раптам... [1], далей была твань.» — тры дзеясловы аднаго семантычнага раду: «перарывалася», «перапынялася», «абрывалася».

Іменна толькі дзеяслоў «абрывалася», ужыты ў кантэксце названага сказа, змог найбольш перадаць крайняе напружанне ўнутрана-псіхалагічнага стану жанчыны, з'явіўся своеасаблівым камертонам, дзякуючы якому адчуваем чысціню гучання сказа.

Для аргументацыі правільнага рашэння аўтара ў выбары дзеяслова «абрывалася» для дадзенага кантэксту нагадаем карціну, на фоне якой адбываецца дзеянне.

Шабуніха з дзецьмі схавалася ў лесе ад немцаў, якія ў гэты час гаспадарылі ў вёсцы. Жанчына разумела, што чым хутчэй і далей яны змогуць прабрацца ў глыб партызанскай зоны, тым большая верагоднасць для іх застацца жывымі. Ім пашчасціла — на шляху па дрыгве была грэбелька, на якую вельмі разлічвалі яны ў сваім ратунку. І вось — неспадзяванае — «грэбелька раптам абрывалася». Гэта было для Шабуніхі страшнай нечаканасцю, і амаль фізічна мы адчуваем яе нервовыя рухі, жэсты, празмернае напружанне ўсёй яе істоты і адначасова — разгубленасць.

Унутраны сэнс слова «абрывацца» выражае нейкую непрыемную нечаканасць, і вось тут якраз гэта слова вельмі да месца.

У тэксце «М» сказ гучаў так: «Грэбелька раптам перарывалася, далей была твань». У сказе не адчуваецца патрэбнага па зместу напружання, бо па сэнсу дзеяслоў «перарывацца» патрабуе працягу папярэдняга дзеяння, у дадзеным выпадку — працягу грэбелькі, няхай праз некалькі метраў пасля таго, як яна «перарывалася». Але такое ўяўленне супярэчыць далейшаму зместу кнігі, бо ўдалечыні Шабуніха бачыць сухі беражок, куды трэба было дабрацца, а не працяг грэбелькі.

У тэксце «П» пісьменнік замяніў дзеяслоў «перарывалася» на «перапынялася». Але ад гэтага сказ не атрымаў патрэбнага напаўнення і напружання. А толькі яшчэ ўзнікла пытанне — кім або чым перапынялася грэбелька?

У выданнях «М. н., 1950» — «М. н., 1970» зноў паяўляецца дзеяслоў «перарывалася» і толькі ў «М. н., 1974» аўтар уводзіць дзеяслоў «абрывалася», які ўдала адцяняе напружанасць абставін.

Шмат зроблена пісьменнікам і ў напрамку актывізацыі эмацыянальнага пачатку ў творы. Удалося гэта аўтару, у асноўным, за кошт увядзення ў тэкст разгорнутых параўнанняў, а таксама эмацыянальна-ацэначных эпітэтаў. Напрыклад: «Танк стаяў, як укапаны, нахіліўшыся на адзін бок... ён нагадваў параненага звера, які не можа ўжо кінуцца наперад, але яшчэ мае сілы агрызацца»; «такія цвярозыя, надзейныя развагі»; «Ніна... заўсёды ласкавая і добрая».

Параўнанне адпаведных па сэнсу ўрыўкаў з тэкстаў розных

---

[1] На месцы шматкроп'я павінен быць ужыты адзін з ніжэй названых дзеясловаў.

рэдакцый — першадруку («П») і апошняга прыжыццёвага выдання («М. н., 1974») — паказвае, наколькі вырасла майстэрства слова пісьменніка, форма і манера падачы яго.

Тэкст «П»:

— Таварышы,— пачаў ён, выдзяляючы кожны склад.— Наша рота сёння павялічылася. Прыйшлі да нас у нашу сям'ю новыя таварышы. Радасна, што нашы рады зноў запоўнены. Я вітаю вас, таварышы навічкі, і хачу, каб вы былі варты тых, каго прыйшлі замяніць. Не забывайце, для чаго вас паслала Радзіма сюды. Неўзабаве мы пойдзем на фронт, каб гнаць ворага з нашай зямлі. Мы павінны, не шкадуючы сілы, рыхтавацца да тых вялікіх дзён. Патрабую самай строгай дысцыпліны і парадку. Званне гвардзейца не толькі гонар, але і абавязак. Трэба, каб абавязак гэты выконвалі па-гвардзейску і тут, і там, на перадавой — усюды!

Тэкст «М. н., 1974»:

— Таварышы,— пачаў ён, чуючы сябе ніякавата перад позіркамі, хаваючы ніякаватасць.— Наша рота сёння павялічылася. Прыйшлі да нас новыя людзі... Як камандзір ад душы вітаю вас, таварышы навічкі... вітаю... і хачу, каб вы былі на ўзроўні тых, каго прыйшлі замяніць. Каб вы ніколі не забывалі, для чаго вас паслалі сюды... Скора мы — вядома — пойдзем на фронт. Пойдзем у бой. Гнаць ворага далей з нашай зямлі... У любую хвіліну нас могуць падняць «па трывозе». Трэба, не трацячы часу, рыхтавацца. Рыхтавацца і рыхтавацца! Не шкадуючы сілы...

У першым варыянце ўрыўка ненатуральна гучаць словы, сказаныя Лагуновічам перад навічкамі. Інтанацыя прамовы хутчэй нагадвае выступленне на ўрачыстых сходах, а не шчырую размову з танкістамі-навічкамі. Зусім па-іншаму ўспрымаецца выступленне старшага лейтэнанта, змешчанае ў выданні «М. н., 1974». У кароткай шчырай прамове камандзіра была пастаўлена перад салдатамі задача: «Трэба, не трацячы часу, рыхтавацца. Рыхтавацца і рыхтавацца! Не шкадуючы сілы...» Аўтар, дзякуючы частай змене рытму ў сказах, вельмі добра перадае ўнутрана-псіхалагічны стан прамоўцы. Тэкст выступлення просты, шчыры, але ў той жа час па інтанацыі Лагуновіча навічкі адчулі, што ім прыйдзецца «працаваць» у незвычайна напружаных абставінах.

І. Мележ з вялікай адказнасцю паставіўся да заўваг крытыкаў[1] наконт недасканаласці мовы твора і выправіў многія хібы, пралікі, на якія было ўказана. У выніку працы над удасканаленнем моўна-стылявой фактуры кнігі мележаўскае мастацкае слова, уплеценае ў канву сказа жывой інтанацыяй, загучала жыва, чыста, эмацыянальна насычана.

Цікава, што ад выдання да выдання рамана І. Мележ рабіў паслядоўную замену прозвішчаў, імёнаў, імёнаў па-бацьку сваіх герояў, назваў атрадаў, тапанімічных назваў.

У ніжэй прыведзеных прыкладах для большай зручнасці ўмоўна абазначаным выданні «М. н., 1950», «М. н., 1952», «М. н., 1958», «М. н., 1970» лічбамі адпаведна: 1, 2, 3, 4.

---

[1] І. Навуменка. Мінскі напрамак. «Бальшавік Палесся», 1950, 4 кастрычніка; Е. Войніч. «Мінскі напрамак». «Літаратура і мастацтва», 1951, 13 студзеня; Ф. Куляшоў. Твор аб вызваленні Мінска. «Полымя», 1953, № 5; А. Адамовіч. Заметки о качестве. «Советская Отчизна», 1954, № 6.

Дрозд [1]//Сільчанка («М», 1, 2); Габдулін//Каваленка («М»); Ермакоў // Лізюк («М», 1, 2) //Васільеў [2]; Гарбуз // Садковіч («М», 1,2); Крывец // Кравец («М») // Рылько («П»); Баравік // Рубежны («М», 1,2); Ляхора // Кубелік («М», 1, 2); Каган («М», «П») // Навіцкі (1) // Кавалерчык (2); Нічыпар Паўлавіч Туравец //Нічыпар Пятровіч Лобан («М») [3]; Васіль Емяльянавіч Макараў // Васіль Макаравіч Емяльянаў (3); Уладзімір Іванавіч Рогаў // Іван Іванавіч Малінін (2, 3, 4) // Іван Іванавіч Калінін («М», «П», 1); Надзя // Аксіння («М», «П»); Іван // Федзя (1, 2); Вера // Насця («М», «П», 1); Курт // Карл («М», 1, 2, 3, 4); Юрый //Іван («М») // Сяргей (1); Рая // Валя («М»); атрад за «Радзіму» // атрад Зайцава (1, 2); атрад імя Кутузава // атрад Кавалевіча («М», 1, 2); Пухавічы//Лепель («М», 1, 2); Каржоўка// Карчыкі («М»); пад Брэстам // пад Старушкамі («М», 1, 2, 3, 4); пад Барком // пад Віцебскам («М», «П», 1, 2, 3).

Часта аўтар дзеянні, развагі, размовы аднаго героя ў адной з рэдакцый рамана перадае іншаму герою ў наступнай рэдакцыі:

Стар. 25. Туравец//Сільчанка («М»)

Стар. 30 Васіль // Ніна («М»)

Стар. 32. Ніна // Туравец («М»)

Стар. 52. Бяссонаў // Маскаленка («М», 1, 2)

Стар. 53. Быстроў // Сонцаў (1, 3)

Стар. 61. Лагуновіч і Сонцаў // Маскаленка і Лагуновіч («М», 1, 2)

Стар. 122. Дрозд // Кавалевіч і Сільчанка («М», «П», 1, 2)

Стар. 140. Гогабярыдзе//Якавенка («М, 1, 2)

Стар. 349. Колышаў // Сонцаў («М», 1, 2, 3)

Стар. 366. Рыбакоў //Быстроў («М», «П», 1)

Стар. 374. Бяссонаў //Лагуновіч («М»)

І. Мележ, у выніку значнай і настойлівай дапрацоўкі рамана, больш выразна акрэсліў мастацкія вобразы, удасканаліў сюжэтна-кампазіцыйную будову твора, узмацніў драматычнасць апавядання. Раман стаў больш глыбокім у ідэйна-мастацкіх адносінах: «Спадзяюся, што працаваў я недарэмна. Раман як бы нанава пераплаўлены. Думаю, што сплаў гэты моцны» [4].

Недарэмна было аддадзена «Мінскаму напрамку» столькі часу і сілы: «Неаднаразовыя перапрацоўкі, зразумела, пайшлі на карысць раману, многа ў ім даведзена да самай высокай кандыцыі» [5].

*Л. М. МАЗАНІК*

---

[1] Прозвішчы, імёны, назвы, якія размешчаны да дзвюх рысачак, калі няма ніякіх памет, адносяцца да выдання «М, н., 1974».

[2] Ва ўрыўку «Праз тры гады», час. «Беларусь», 1948, № 12.

[3] Там жа.

[4] Жыццёвыя клопаты, стар. 525.

[5] Дз. Бугаёў. Вернасць прызванню. Мн., 1977, стар. 86.

ЗМЕСТ

Мележ І.
М47 Збор твораў. У 10-ці т. Т. 3. Мінскі напрамак: Раман у трох кнігах; Кніга першая: Хмары на світанні.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 416 с., 4 л. іл.
У пер.: 1 р. 70 к.

У трэці том уваходзіць першая кніга рамана «Мінскі напрамак» — «Хмары на світанні».

М $\frac{70303-135}{М 302(05)-80}$ падпісное

ББК 84 Бел 7
Бел 2

Иван Павлович Мележ
Собрание сочинений
в десяти томах
ТОМ 3
Минское направление
*Роман в трех книгах*
Книга первая
Тучи на рассвете
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар П. З. Шаўцоў. Мастак Н. У. Сустава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктары Л. Т. Калюжная, В. В. Шарамета.

IB № 544

Здадзена ў набор 16.10.79. Падп. да друку 17.06.80. АТ 16795. Фармат 84×108$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 21,84+0,42 укл. Ул.-выд. арк. 23,01. Тыраж 52 000 экз. Зак. 2685. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.